ББК 84Бел7
А90

Пазаштатны рэдактар А. А. Сляпцова

Новый роман Алеся Осипенки — биография поколения, прошедшего тернистый путь от времен нэпа до Чернобыльской трагедии под гнетом затоенного страха.

Главные герои произведения: известный писатель и общественный деятель Серафим Недосейко, его отчим Марк Удоев, человек, готовый во имя идеи переступить через людей и законы, выдающийся атомщик, сын раскулаченного родственника Недосейки Олег Максимов, генерал внутренних войск Глеб Кротов, юрист и дипломат Игорь Набоков и другие. Персонажи романа, каждый по-своему, воспринимают сложные процессы, проходившие в стране за годы советской власти.

А $\frac{4702120201-113}{М\ 302(03)-92}$ 2—92

ISBN 5-340-00672-7

Па незалежных ад мяне абставінах
прозвішчы дзейных асоб рамана
зменены да непазнавальнасці.
Я таксама наўмысна здэфармаваў час,
каб заблытаць намеры нядобразычліўцаў.
Што датычыць месца дзеяння,
дык яно ўзята адвольна.
З такім жа поспехам
я мог бы развіваць падзеі
ў Кіеве, Бранску, Гомелі або Пухавічах.

*Аўтар*

# Частка першая:

## знаёмства ў канцы доўгай дарогі

Да пачатку трэцяга тысячагоддзя заставалася трынаццаць гадоў, восем месяцаў і пяць дзён, да Новага года — восем месяцаў і пяць дзён, да Першамая — пяць дзён — ракавыя лічбы, фатальнае імгненне на доўгай дарозе чалавецтва, якое магло ператварыцца ў нябыт-вечнасць, як патухлая зорка дзенебудзь на ўскраіне Сусвету. Варта таму спяшацца ачысціць памяць і душы ад цяжару мінулых гадоў.

### 1

Апошняя дэкада красавіка выдалася наўздзіў цёплай, на павароце поўні, у ноч з дваццатага на дваццаць першае, як сякерай, адсекла волкі холад, што з упартай настойлівасцю гнала на Беларусь няветлівая Атлантыка,— адразу павеяла паўднёвым цяплом, густа прапахлым узараным чарназёмам і духмянай квеценню ўкраінскіх садоў. І нашы ўчарнелыя за зіму сады набрынялі сокам, гатовыя вось-вось засалютаваць сонцу яркай зялянінай лістоты. Вясна, па ўсім, абяцала быць шчодрай і на жыватворную цеплыню, і на спорныя дажджы, і на мяккую прыпарку.

Серафім Іванавіч Недасейка прачнуўся на гарадской кватэры ў новым доме, куды ён не так даўно пераехаў і які дасціпныя гараджане называлі доларам не толькі з-за формы дома, але і з-за зместу: тут пераважна жыло багатае людства, якое мела і добрыя пасады і добрыя зарплаты з таямнічымі размеркавальнікамі і дачамі, пра існаванне якіх звычайныя людзі амаль нічога не ведалі.

Было яшчэ вельмі рана, сонца толькі пачынала выходзіць з-за гмахаў, што стаялі па праспекце і за ім

па ўсходніх пагорках. У доме, як і звычайна ў такія часы, панавала глухая цішыня. Серафім Іванавіч адчыніў акно, і ў ягоны пакой уварвалася гарадское шумлівае жыццё: грымелі грузавыя аўтамашыны на скразной гарадской магістралі, што праходзіла хоць і не блізка ад дома, але давала шмат грукату, шаркалі шынамі легкавушкі, бразгацелі вокнамі тралейбусы, а каля калгаснага рынку ўжо гаманілі людзі, разгружаючы нейкія скрыні, кашы, кошыкі, мяхі з невядома якім таварам.

Серафім Іванавіч любіў гэты гарадскі тлум, асабліва калі меўся для таго і адпаведны настрой. Сёння такі настрой быў: Серафім Іванавіч адчуваў бадзёрасць і дужасць ва ўсім немаладым ужо целе, аж хацелася заспяваць ці прайсціся ўпрысядку. Не далей як учора яго паклікаў Мікіта Леанідавіч і ў вельмі цёплай размове без лішніх зацяжак паведаміў, што яго, Серафіма Іванавіча, будуць рэкамендаваць на пасаду старшыні Саюза пісьменнікаў і спадзяюцца, што ён апраўдае давер партыі, пацікавіўся, як працуецца Серафіму Іванавічу, выказаў пажаданне, каб пісьменнікі больш пісалі пра выдатных людзей нашай грандыёзнай па задумах эпохі. І хоць Серафім Іванавіч добра ведаў, што Мікіта Леанідавіч зацята не любіць творчую інтэлігенцыю, пагарджае ёю, абзываючы нядобрымі словамі, што ён амаль нічога не чытаў, у тым ліку і творы Серафіма Іванавіча, якія ён, калі і ведаў, дык толькі па падрыхтаваных памочнікамі даведках, у якіх пераказваўся змест і даваліся рэкамендацыі, на што трэба звярнуць увагу — пахваліць ці, наадварот, пакрытыкаваць нейкія мясціны,— каб у аўтара склалася патрэбнае ўяўленне, што Мікіта Леанідавіч чытаў ягоны твор. Але нягледзячы на ўсё гэта, Серафіму Іванавічу было прыемна, што яго пакідаюць на пасадзе, якая дае яму самыя розныя перавагі: дэпутатства ў Вярхоўным Савеце СССР, членства ў ЦК, удзел у розных прэстыжных камітэтах і камісіях, а ўсё разам узятае дае і бытавыя выгоды: пуцёўкі ў спецыяльныя санаторыі, лячэнне ў першай паліклініцы Чацвёртага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя Беларусі, палату-люкс у бальніцы таго ж упраўлення, а калі спатрэбіцца і лячэнне ў «крамлёўцы» — бальніцы таго ж упраўлення, але ўжо на саюзным узроўні. А прадуктовыя размеркавальнікі,

а дэпутацкія пакоі на вакзалах, а бясплатныя праезды ў спальных вагонах!

Прыемна было яшчэ і таму, што прыблізна за месяц да пісьменніцкага з'езда раптам загуляла чутка, што Серафіма Іванавіча больш не будуць рэкамендаваць на пасаду старшыні праўлення, што ягоная песенька спета, і адразу ажылі, заварушыліся тыя нядобразычліўцы, што спадцішка капалі для яго я́му, перацягнулі на свой бок частку маладых пісьменнікаў з экстрэмісцкімі замашкамі, якія гатовы ў любы час выступаць супраць кіраўнікоў, абы з'явілася для гэтага нейкая прычына. Яны заручыліся і тайнай падтрымкай некаторых старэйшых пісьменнікаў, нават былых ягоных сяброў, якія абяцалі не заступацца за Серафіма Іванавіча, трымаць так званы нейтралітэт. На бок гэтай даволі моцнай апазіцыі чамусьці стаў і загадчык аддзела Кузьма Кузьміч. Серафім Іванавіч адчуў гэта з тыдзень назад, калі зайшоў да Кузьмы Кузьміча параіцца па некаторых пытаннях ягонага даклада на з'ездзе. Загадчык аддзела сустрэў яго не тое што варожа, але дужа падкрэслена, гаварыў з ім такім афіцыйным тонам, нібы Серафім Іванавіч ніколі не піў з ім чарку, прыйшоў да яго як надакучлівы прасіцель.

За доўгія гады свайго дачынення да розных пластоў мясцовай чыноўнай эліты Серафім Іванавіч добра вывучыў яе спецыфічную мову, якая складаецца не са слоў, а з тону, якім гавораць з табой. Словы могуць быць самыя добрыя, а тон вопытнаму ў закулісных справах падкажа: табе прыйшоў канец! Кузьма Кузьміч гаварыў пра вялікія заслугі Серафіма Іванавіча перад беларускай літаратурай, пра яго неацэнны ўклад у грамадскае жыццё рэспублікі, але тон яго сведчыў пра нешта іншае: над ім, Серафімам Іванавічам, навісла небяспека. І самае страшнае, што нікому і не паскардзішся. Той жа Кузьма Кузьміч толькі пацісне плячыма: маўляў, у шаноўнага Серафіма Іванавіча няма ніякіх падстаў для хвалявання...

Вяртаючыся з кабінета Мікіты Леанідавіча, Серафім Іванавіч сустрэў Кузьму Кузьміча і адразу зразумеў, што сустрэў невыпадкова. Кузьма Кузьміч хацеў загладзіць тую сваю халодную, непачцівую з ім гаворку. І ён не памыліўся. Кузьма Кузьміч заўсміхаўся, схапіў руку Серафіма Іванавіча і моцна

паціснуў, зазіраючы Серафіму Іванавічу ў вочы: а ці не трымае Серафім Іванавіч на яго злосць. Цяпер у яго быў іншы, падлізлівы тон, і Серафім Іванавіч падумаў, а ці не Кузьма Кузьміч і павёў супраць яго гэтую подлую гульню. Ну, і чорт з ім! Дробная сошка, хоць і загадчык аддзела! Серафім Іванавіч таксама заўсміхаўся, зрабіў выгляд, што ў той раз нічога абразлівага для сябе не заўважыў.

Ужо дома Серафім Іванавіч падумаў, што варта памяняць некаторыя акцэнты даклада, улічваючы ўказанні Мікіты Леанідавіча, і працаваў над праўкамі даклада гадзін пяць, але не замарыўся, наадварот, адчуў прыліў новых сіл і незвычайную працаздольнасць. Паспаўшы ўсяго шэсць гадзін, Серафім Іванавіч прачнуўся жыццярадасным і здаровым. Думаючы над учарашняй размовай з Мікітам Леанідавічам, Серафім Іванавіч прыйшоў да высновы, што ўсё ж з ім было не так проста расправіцца нейкаму Кузьме з пісьменніцкімі зайздроснікамі і нядобразычліўцамі: ён, што ні кажы, не проста Серафім Іванавіч Недасейка, а пісьменнік з імем, якому невыпадкова прысвоілі званне народнага, узнагародзілі дзесяткам ордэнаў, прызналі лаўрэатам самых прэстыжных прэмій. Амаль пяцьдзесят гадоў пісьменніцкай працы! Гэта ж не жартачкі! Абывацелю здаецца, што пісьменніцкая праца як прагулка на катэры. А гэта ж катаржная праца з дня ў дзень, сушэнне мазгоў, вымотванне нерваў — праца на знос, на свядомае мардаванне ўласнага арганізма. Пісьменнікі самі сябе з'ядаюць, а ім яшчэ зайздросцяць! З такім вялікім багажом здабыткаў за спіной, які меўся ў Серафіма Іванавіча, можна было не звяртаць увагі на нейкіх там кузьмоў кузьмічоў, нават на Мікіту Леанідавіча. Яны павінны быць удзячны, што праца Серафіма Іванавіча стварае аўтарытэт і таму ж Мікіце Леанідавічу.

Але, падумаўшы так, Серафім Іванавіч па звычцы і асцярогся: канешне, кіраўнік — каліф на гадзіну, але за адну гадзіну ён можа нарабіць табе такіх непрыемнасцей, што рады не будзеш сваёй смеласці. Маўчанне — золата. А наша пакаленне дужа напужанае. Дык і было ж чаго пужацца!

Нагадак пра былое не парушыў, аднак, добрага настрою. Паснедаўшы, ён пазваніў адказнаму сакра-

тару праўлення, даведаўся, ці не забыліся паслаць па яго машыну. Сакратар сказаў, што машына будзе а палове дзесятай, гэта значыць за паўгадзіны да пачатку з'езда, і тут жа паабяцаў яшчэ раз праверыць, ці гатова машына.

— Бадай, можна і адзявацца,— сказаў Серафім Іванавіч жонцы Клаўдзі Маркаўне.

Жонка прынесла з гардэроба гарнітур з лаўрэацкімі значкамі на правай палавіне пінжака і дэпутацкімі значкамі на левай: Серафім Іванавіч быў адначасова дэпутатам рэспубліканскага і саюзнага Вярхоўных Саветаў. Ордэнаў ён не насіў, марыў пра той час, калі яму дадуць Зорку Героя. Насіць яе — ганарова, а ордэны... іх цяпер у кожнага па дзесятку.

За доўгае сваё жыццё, якое навучыла яго шмат чаму (абавязковаму і неабавязковаму), Серафім Іванавіч так і не навучыўся завязваць гальштук. Гэта рабіла Клаўдзя Маркаўна. Яна і цяпер выбрала на свой густ гальштук, завязала яго модным вузлом. Серафім Іванавіч паглядзеў у люстэрка і застаўся задаволены сваім знешнім выглядам. Што ні кажы, а калі на з'ездзе будзеш выглядаць кепска, дык ці адзін пісьменнік можа сказаць: чаго ён пнецца ў начальства, калі адным вокам глядзіць у магілу. Серафім Іванавіч хацеў памерці пры пасадзе і за творчым сталом — ганаровая смерць!

Перагарнуўшы даклад, каб, крый божа, не былі пераблытаны старонкі, Серафім Іванавіч падышоў да акна, убачыў, як да пад'езда падрульвае саюзаўская «Волга», і заспяшаўся — Серафім Іванавіч не любіў, калі яго чакаў шафёр.

Машына, як і заўсёды, была падагнана пад самы пад'езд. Шафёр, перагнуўшыся на правы бок, спрытна адчыніў дзверцы, павітаўся:

— Добры дзень, Серафім Іванавіч,— а калі яны выехалі на праспект, дадаў: — А вам прывітанне ад бацькі і вельмі настойлівая просьба прыехаць на ягоны юбілей.

— Чакай, чакай,— здзівіўся Серафім Іванавіч,— дык няўжо яму семдзесят пяць? Во, бяжыць час!..

— Напісаў, калі вы не прыедзеце, дык ляжа ў труну і памрэ. Дужа хоча вас бачыць. Ён апошнім часам сам не свой ходзіць. Усё хоча ведаць, куды і па што мы ідзём.

Прапусціўшы апошнія словы шафёра міма вушэй, Серафім Іванавіч разважліва запярэчыў:

— Дык жа з'езд, а там, можа, паклічуць у ЦК. Хоць і не пабачыцца нельга... Гады! Гады!.. Мы з тваім бацькам разам кароў пасвілі, па садах лазілі. Цудоўная была пара — дзяцінства! Шкада, няма ёй звароту! Абяцаць, Прохар, не абяцаю, але падумаць — падумаю...

— Але ж, Серафім Іванавіч, калі вы не паедзеце, дык не змагу паехаць і я. А я ж сяго-таго назапасіў. Трэба было б падкінуць старому. Там у іх ні халеры ж няма. Адно што са сваёй гаспадаркі. Гарэлкі і той па цяперашнім законе не купіш. А самагонку гнаць небяспечна.

Серафім Іванавіч шчыра разрагатаўся: дык вось якая яна простая справа! Прохару патрэбны транспарт, каб адвезці на бацькавы імяніны прадукты, дык і надумалі запрасіць яго, Серафіма Іванавіча. Паедуць на службовай машыне ў госці. А трасцу табе, пляменнічак! Але тут Серафіму Іванавічу прыгадалася, што паехаць у той край, дзе жыў бацька Прохара, усё адно давядзецца. Серафім Іванавіч балаціраваўся па акрузе, дзе жыў ягоны дваюрадны брат, бацька Прохара, Сцяпан Анічэйка. З тыдзень назад Серафіму Іванавічу пазванілі з абкома, прасілі шаноўнага дэпутата прыехаць у акругу, каб вырашыць нейкую неадкладную справу. Серафім Іванавіч тады адгаварыўся, што наперадзе ў яго з'езд, але як толькі пасля з'езда надарыцца вольная хвілінка, дык ён адразу і прыедзе. А што, калі спалучыць карыснае з прыемным? Ды не шкодзіла б і развеяцца ад з'ездаўскай мітусні.

— А што,— сказаў Серафім Іванавіч,— паедзем. Мне трэба пабываць у вас па дэпутацкіх справах.

— Стары вельмі ўзрадуецца...

— І я не менш,— адгукнуўся Серафім Іванавіч.

Машына якраз падкаціла да пад'езда Дома літаратара, каля якога ўжо праходжваліся пісьменнікі.

Не паспеў Серафім Іванавіч падняцца ў свой вялізны кабінет, дзе звычайна збіраецца начальства, каб дружна выйсці ў прэзідыум або ў залу, як пад'ехала машына самога Мікіты Леанідавіча, аб чым тут жа паведаміў адказны сакратар праўлення. Серафім Іванавіч разам з сакратарамі Саюза выйшлі

сустракаць яго. За ім прыехала і ўся світа, тая, якой належыць сядзець у прэзідыуме з'езда або знаходзіцца пад рукой у начальства.

Усё ішло належным парадкам. Даклад Серафіма Іванавіча не ўразіў літаратараў. Ды Серафім Іванавіч і не збіраўся рабіць з яго нейкую сенсацыю: было ў меру пахвалы пісьменнікам, якіх заўсёды хвалілі на з'ездах і пленумах, было ў меру і крытыкі ў адрас тых пісьменнікаў, якіх найчасцей крытыкуюць у друку. Згодна з часам, што патрабаваў канструктыўных прапаноў у адрас вышэйшых органаў, Серафім Іванавіч узняў дзве ці тры праблемы, якія ўчора былі ўзгоднены з тым жа Мікітам Леанідавічам. Зараней быў падрыхтаваны і спіс тых, хто будзе выступаць. Меркавалася, што некаторыя літаратары, якія яшчэ з пачатку года пачалі дацінаць саюзаўскае начальства сваімі патрабаваннямі запісаць іх для спрэчак на з'ездзе, напэўна, выступяць з вострай крытыкай, няйначай, будуць вешаць на Серафіма Іванавіча дохлых сабак,— гэта лічылася паўбядой,— горш, што, па некаторых звестках, настырныя выступальшчыкі збіраліся закрануць такія праблемы, якія могуць раззлаваць высокае начальства.

Аднак пасля нядаўняга партыйнага з'езда, які ўзяў курс на галоснасць і перабудову, такія выступленні цяпер не выглядалі ўжо крамолай, і ў кіраўніцтве Саюза пісьменнікаў панылы настрой змяніўся на аптымістычны. З'езд, на яго думку, пройдзе на належным узроўні, што па даўняй традыцыі лічылася справай ганаровай і пачэснай.

Усё так і збылося, як меркавалася. Серафіму Іванавічу добра такі падсыпалі галасоў супраць, але зноў жа не так многа, каб ён не прайшоў у праўленне. Ну, а выбары старшыні на пасяджэнні праўлення — гэта ўжо справа чыста фармальная. Канешне, яшчэ мог хто-небудзь сказаць нейкую непрыемнасць, але толькі з тых, чыя думка не магла прымацца ўсур'ёз. Сталыя пісьменнікі ўжо з першага дня ведалі аб прыёме Серафіма Іванавіча Мікітам Леанідавічам, і ў такой сітуацыі яны нават не заікнуцца выступіць супраць Серафіма Іванавіча: гэта азначала б выступіць супраць самога Мікіты Леанідавіча, а той падобных выпадаў не цярпеў. Нарэшце прайшоў і пленум, дзе Серафіма Іванавіча выбралі старшынёй

адзінагалосна і пад апладысменты як сяброў, так і нядобразычліўцаў.

Назаўтра адбылася гаворка ў ЦК, дзе перад новым кіраўніцтвам Саюза — яно фактычна засталося ў ранейшым складзе, за выключэннем аднаго сакратара,— былі пастаўлены задачы, якія вынікалі з рашэнняў партыйнага з'езда.

Вяртаючыся з ЦК, Серафім Іванавіч захацеў прайсціся да дому пеша, бо, што ні кажы, а адседзець два дні на з'ездзе, а потым яшчэ паўдня ў ЦК — справа не такая простая, як можа падацца недасведчанаму люду.

Ідучы цераз парк імя Горкага, Серафім Іванавіч сустрэў на цэнтральнай алеі акадэміка Алега Раманавіча Максімава, з якім пазнаёміўся леташнім годам, калі пісаў новы раман пра атамнікаў. Серафіму Іванавічу параілі звярнуцца да Алега Раманавіча, як да выдатнага знаўцы праблем атамнай энергетыкі, з намёкам на тое, што акадэмік Максімаў нібы нават удзельнічаў у выпрабаваннях атамных бомбаў. Для Серафіма Іванавіча, аднак, засталося тайнай, як такі славуты вучоны ды раптам аказаўся ў Мінску? Было тут нешта незразумелае, нейкі сакрэт, пра які ніхто, бадай, не ведаў. Алег Раманавіч даў вельмі грунтоўную кансультацыю, хоць Серафім Іванавіч і заўважыў, што акадэмік гаворыць з ім, як з першакласнікам, які яшчэ і чытаць не ўмее — тлумачыць дужа папулярна, можа, нават спрошчана. Але Серафіму Іванавічу большага і не патрабавалася: атамная энергетыка ішла ў ягоным рамане фонам, проста патрэбны былі нейкія штрыхі ў часе размоў герояў.

Алег Раманавіч жыў у доме насупраць Саюза пісьменнікаў, на чацвёртым паверсе з вялікім балконам. І яны цяпер часта сустракаліся і віталіся як старыя знаёмыя. Здаецца, Алег Раманавіч быў адзінокі і таму шукаў сустрэч, якія не абцяжарылі б яго, а памаглі развеяцца. Так, прынамсі, думалася Серафіму Іванавічу.

— Рад вас бачыць,— яшчэ здалёк гукнуў Серафім Іванавіч Алегу Раманавічу. Ім усё яшчэ валодаў добры настрой, і хацелася з кім-небудзь — не з пісьменніцкіх колаў — падзяліцца сваёй радасцю існавання.

— Вы чымсьці ўзрушаны? — спытаўся акадэ-

мік.— Такое ўражанне, нібы выйгралі па мастацкай латарэі карціну пяць на дзесяць метраў і не ведаеце, што з ёю рабіць.

— Гэта ўсё астаткавая рэакцыя на з'езд,— прызнаўся Серафім Іванавіч.— Разумееш заканамернасць працэсаў, а сам усё роўна хвалюешся, перажываеш, нібы цябе выбіраюць на пасаду першы раз.

— А пасада — хіба так важна? — Нечакана ашаламіў Серафіма Іванавіча Алег Раманавіч.— У вас усё ёсць: талент, славутасць, незалежнасць. Ну, і тварыце сабе на здароўе і на радасць нам, чытачам.

Серафім Іванавіч хацеў пакрыўдзіцца, бо ў пытанні пачуўся яму намёк на тое, што ён, Серафім Іванавіч, кар'ерыст, але добры настрой не даў яму гэта зрабіць.

— Уявіце — важна. Пісьменнік не толькі мастак, а яшчэ грамадскі дзеяч, які сваёй грамадскай працай на карысць народу памагае ўдасканаленню нашага грамадства.

— І я так думаў...

— Цяпер не думаеце?

— Як вам сказаць?.. У кожнага чалавека бываюць хвіліны прасвятлення.

— У вас іншая справа. Вы — вучоны, ды яшчэ ў такой галіне, як атамная энергетыка...

— Мне часам так хочацца ўцячы ад атамных праблем хоць на два-тры дні куды-небудзь на Палессе, у глухую вёсачку, дзе цябе ніхто не ведае, і забыцца на ўсё, што бачыў, ведаў, што бачу і ведаю...

У Серафіма Іванавіча мімавольна ўзнікла, аформілася, саспела нават для яго нечаканая ідэя:

— Алег Раманавіч, дык паехалі са мной у самую глухамань, да якой тры гады скачы — не даскачаш, як пісаў Гогаль. У мяне там дваюрадны брат, а ў яго — дзень нараджэння, семдзесят пяць гадкоў бурнага жыцця. Удвух будзе весялей.

— Заманліва, але ці ёмка будзе нечакана заявіцца на юбілей чалавека, якога не ведаеш? — згаджаючыся, спытаў Алег Раманавіч.

— Вельмі нават ёмка. Адным словам, чакайце мяне гадзінкі праз дзве. Мы сёння павінны быць на месцы.

— Мне будзе прыемна,— толькі і сказаў акадэмік.

## 2

Славуты сярод калег, але зусім невядомы шырокім колам, акадэмік Максімаў меў, як ён называў гэта ў думках, трывалае хобі — занятак, на ягонае разуменне, бессэнсоўны, але якога ён не мог, не хацеў пазбавіцца. Алег Раманавіч Максімаў даўно і рэгулярна, выкройваючы рэдкія для гэтага вольныя часіны, пісаў мастацкую прозу.

Алег Раманавіч не лічыў сябе пісьменнікам у тым сэнсе, што не быў членам Саюза, а таму не меў на гэты конт і адпаведнага пасведчання, не выдаваўся і таму, натуральна, не меў друкаваных кніг, а без кніг, як вядома, у Саюз не прымаюць.

Алег Максімаў свядома пісаў у стол.

З'ява гэтая — пісанне ў стол — не такая ўжо і рэдкая, як можа ўявіцца недасведчанаму чытачу, але і не такая частая, каб магла зацікавіць афіцыйныя колы літаратуразнаўцаў. Зрэшты, і літаратуразнаўцы таксама часам пішуць у стол.

Што датычыць Алега Раманавіча, дык ён пісаў у стол па дзвюх прычынах: па-першае, прытрымліваўся таго погляду, што творчасць павінна быць вольнай, як птушка ў небе, і абсалютна незалежнай, у тым ліку і ад матэрыяльных даброт, а паколькі такіх умоў пакуль не існуе, дык спрабаваць друкавацца немагчыма; па-другое, ён загадзя ведаў, што ягоныя творы ніхто не надрукуе. Ягоная ўпэўненасць грунтавалася не на пяску, а на граніце, якім для Алега Раманавіча была парада аднаго вельмі славутага пісьменніка, да якога ён звярнуўся па кансультацыю: Серафіма Іванавіча Недасейкі. Факт гэтай сустрэчы быў наглуха забыты Серафімам Іванавічам, але да смерці застаўся ў памяці Алега Раманавіча Максімава.

Яшчэ на самым пачатку сваёй вучонай кар'еры, калі ў Алега Раманавіча завяліся грошы, ён адправіўся ў Мінск, прыхапіўшы з сабой першы свой раман — хутчэй аповесць,— каб паказаць яго каму з вядомых пісьменнікаў. Такім вядомым і аказаўся Серафім Іванавіч, які міласціва пагадзіўся пачытаць раман невядомага маладога чалавека.

Серафім Іванавіч прыняў яго ў службовым кабінеце за агромністым сталом, на якім важка стаяў

чарнільны прыбор з дзвюма фігуркамі — салдата з вінтоўкай і рабочага з молатам. Запрасіўшы Алега Раманавіча сесці ў мяккае крэсла, Серафім Іванавіч прымасціўся насупраць, паклаў сваю цяжкую руку на Алегава калена, нібы хацеў стрымаць яго, каб не трымцела.

Алег Раманавіч адчуваў сябе горш як на дзяржаўным экзамене: баяўся не тое што паварушыцца, але дыхаць. Яго бянтэжыў сурова-пільны позірк жывога класіка, як пісала часам пра Недасейку крытыка. Які будзе прысуд першаму ягонаму дзеціішчу?

Трымаючы Максімава на прыцэле, Серафім Іванавіч адкінуўся на спінку крэсла.

— Напісана выдатна,— нарэшце сказаў ён, выклікаўшы парыўнае біццё сэрца ў грудзях Алега Раманавіча. Затым памаўчаў, як бы даючы пачынаючаму пісьменніку прывыкнуць да пахвалы. Тым больш нечаканай прагучала ягоная парада: — Але нікому не паказвайце. Лепей — спаліце!..

Сказана было рашуча. І ўсё ж Максімаў адважыўся спытаць:

— Але чаму, Серафім Іванавіч?..

Недасейка марудна ўзняўся з крэсла, перасеў у тое, што за сталом. Цяпер ён узвышаўся над Максімавым, і той адчуў гэта.

— У вас класічнае скажэнне савецкай рэчаіснасці,— адказаў ён, і Максімаў адразу ўспомніў пра сваё сацыяльнае паходжанне.

На ягонае сацыяльнае паходжанне ўжо не звярталі ўвагі з той пары, як вельмі вядомы вучоны ў галіне навукі аб атамнай энергіі, які рабіў у дужа сакрэтнай сферы прымянення той энергіі на практыцы, недзе камусьці даказаў, што без Алега Раманавіча ім не абысціся, каб паспяхова выканаць урадавае заданне, і кадравікі адразу заплюшчылі вочы на сацыяльнае паходжанне Максімава. Не ведаючы таго, Серафім Іванавіч нагадаў Максімаву, хто ён, і Алегу Раманавічу стала не па сабе. Ён падумаў, што не варта соваццца ў сферу культуры, дзе табе не закрытыя распрацоўкі, а вельмі канкрэтнае дачыненне да шырокіх мас.

Справа ў тым, што бацькі Алега Раманавіча ў свой час былі раскулачаны, апынуліся аж у Азіі, на бясконцай раўніне, дзе зімой гулялі лютыя маразы, а ўлетку бязлітасна дапякалі гарачыня і сухія вятры.

Алег Раманавіч памятае сябе ўжо старажылам тамтэйшых краёў: яго туды прывезлі зусім маленькім, але ён неяк выжыў, а палова вялікай мнагадзетнай сям'і не вытрымала суровага клімату, вымерла. Нябожчыкаў хавалі ў стэпе, і нават крыжа не было тады з чаго паставіць.

Алег Раманавіч не стаў паліць рукапіс, толькі больш надзейна прыхаваў яго, як прыхоўваў і пазнейшыя творы. Часы хоць і мяняліся, хоць і абнадзейвалі, але вытыркацца са сваімі творамі было рана.

Максімаў і цяпер працаваў над галоўным сваім раманам, як ён называў новы твор пра навукоўцаў, што працуюць у закрытых інстытутах і канструктарскіх бюро. Ён добра ведаў вучоных гэтага напрамку, найчасцей звязаных з ваенным комплексам, абасобленых, завезеных куды-небудзь за трыдзевяць зямель. Некалі ён і сам працаваў у такой закрытай установе, дзе ўсё сакрэт і тайна: нават не ведаеш, а што робіцца ў суседнім будынку, і не маеш права спытаць, што там робіцца, ды ніхто і не адкажа на тваё пытанне.

Максімаву, звыкламу да жыцця ў стэпе, дзе таксама не было вялікіх зносін, нічога не абыходзіла праца ў далечыні ад культурных цэнтраў, але яго цікавіла, як жылі, што адчувалі вучоныя, якія нарадзіліся і выраслі ў Маскве і якіх толькі прыналежнасць да сакрэтнага ведамства загнала ў сучасную Тмутаракань. Вось пра гэту атмасферу замураваных у тайне людзей і пісаў Алег Раманавіч Максімаў. Цяпер у яго было шмат часу. Летась ён пасварыўся з вельмі важным, дзяржаўнага маштабу чынам, які і кінуў яму абразлівую рэпліку: без вас абыдземся.

Часы ўжо былі іншыя, але чыноўнікі заставаліся ранейшыя, і яны мералі людзей і іх справы былымі меркамі, гэта значыць — не лічыліся з імі і з колішняй рашучасцю дзейнічалі так, як, бывала, у сталінскія гады. Алег Раманавіч адказаў: ну, і абыходзьцеся, заявіўся ў акадэмію і запатрабаваў адпачынак на тры гады. Прасілі не браць адпачынак, але Алег Раманавіч быў непахісны. Ён быў упэўнены, што пройдзе не шмат часу і яго абавязкова паклічуць і ён вернецца, але цяпер гонар вучонага і чалавека не дазваляў яму замоўчыць чыноўнае хамства.

Праца над раманам адцягвала ягоную ўвагу ад

прыкрага інцыдэнту. Але час ад часу на Алега Раманавіча накочвалася такая настальгія па родным занятку, што ён гатовы быў пеша ісці ў любімы свой інстытут, садзіцца ў любімае крэсла і пачынаць думаць над праблемамі, вартымі ягоных ведаў і таленту.

Пагадзіўшыся з нечуванай лёгкасцю ехаць на чыесьці імяніны, Алег Раманавіч неўзабаве раскаяўся, нават пазваніў Серафіму Іванавічу, але ні дома, ні на дачы ніхто не адказваў, і Алег Раманавіч засеў за раман, аддаўся ва ўладу канфліктаў і створаных ягоным уяўленнем вобразаў з іх неардынарнымі характарамі.

Папрацаваўшы гадзіны тры, Алег Раманавіч даў сабе магчымасць адпачыць, уключыў тэлевізар, забыўшыся ўжо на згоду паехаць з Недасейкам на юбілей ягонага дваюраднага брата. На блакітным экране ішла дыскусія аб лёсе зямлі, нашпігаванай выбуховымі рэчывамі, якія здольны разнесці яе ўшчэнт. Адзін з удзельнікаў дыскусіі быў асабіста яму знаёмы, і Алег Раманавіч захацеў паслухаць, што скажа гэты вучоны флюгер.

Дыскусія не вызначалася глыбокім веданнем сутнасці справы, пра якую гаварылі дыспутанты. І не толькі таму, што некаторыя з удзельнікаў былі маладасведчаныя ў галіне атамнага ўзбраення, у тым ліку і вучоны флюгер, справа заключалася ў тым, што дыспутанты чамусьці зварочвалі ў бок ад магістральнай тэмы, хадзілі па абочынах і аперыравалі больш эмоцыямі, чым фактамі. Дыскусія на тэлеэкране, аднак, чымсьці і захапляла Алега Раманавіча, можа, гэтым уменнем гаварыць, што ўздумаецца і як ўздумаецца. Алег Раманавіч заўважыў сабе, што за доўгія гады абсалютнай неінфармаванасці людзі навучыліся гаварыць з такой неверагоднай агульнасцю, што часам нават цяжка ўявіць, пра што яны гавораць. Нікчэмная, без сэнсу і розуму гаварыльня!

Алегу Раманавічу думалася як ніколі злосна, бо на экране вось і ішла такая нікчэмная гаварыльня, у якой кожны спрабаваў так адшліфаваць свае довады, што ад іх заставаўся хіба што адпаліраваны да бляску шарык.

У калідоры настойліва і рэзка нехта зазваніў. Алег Раманавіч уголас падумаў:

«Каго там яшчэ чорт прынёс? — і раптам успомніў пра Серафіма Іванавіча.— Не паеду, і ўсё».— вырашыў ён і найперш прыбраў са стала рукапіс.

Званок не пераставаў званіць. Максімаў адчыніў дзверы. У калідоры з даўно перагарэлай лямпачкай пад высокай столлю ўласнай персонай стаяў Серафім Іванавіч.

— Прашу дараваць — затрымаўся. Справы, справы! А вы гатовы?..

— Я... перадумаў,— пачаў далікатна адмаўляцца Алег Раманавіч.— Не хочацца абцяжарваць вас...

— Які цяжар?! Пра што вы кажаце? Я толькі буду ўдзячны, што вы раздзеліце са мной не дужа прыемнае падарожжа.

— Тады я зараз,— раптам пагадзіўся Максімаў.

## 3

«Волга» стаяла на двары, пад навіссю тапаліных галін, якія на прыгрэве ўжо добра распусціліся. За рулём сядзеў строгі мужчына ў чорных акулярах — шафёр. Ён быў падобны на таямнічага джэнтльмена з нейкага зарубежнага фільма. На прывітанне Максімава ён троху прыгнуў галаву і адчыніў дзверцы.

Серафім Іванавіч прымасціўся поруч з шафёрам, прывязаўся аварыйным рэменем. Максімаў сеў на задняе сядзенне, дзе ляжаў яшчэ імпартны чамадан.

— Задача ў нас, Прохар Сцяпанавіч, такая,— звярнуўся Серафім Іванавіч да шафёра, які слухаў яго пачціва, нават троху дагодліва,— за чатыры гадзіны быць на месцы.

— Баюся, што за чатыры не здолею,— адказаў шафёр.— Пакуль з горада выберамся, пакуль тое ды сёе...

— Чатыры з паловай і не будзем спрачацца,— перапыніў яго Серафім Іванавіч.

— Пяць, Серафім Іванавіч,— не пагадзіўся шафёр.— А прыедзем за чатыры з паловай...

— Ну, во, гэта ўжо мужчынская размова,— адобрыў шафёравы словы Серафім Іванавіч.

Прохар Сцяпанавіч уключыў запальванне — машына завуркатала і незаўважна скранулася з месца. Цераз Вайсковы завулак яны выехалі на Даўга-

бродскую, уліліся ў бясконцую плынь машын, якія вельмі часта прытармажвалі, спыняліся на скрыжаваннях перад светлафорамі і на прыпынках трамваяў, дзе не было пасадачных пляцовак. Бадай, хвілін дваццаць прайшло, пакуль яны мінулі аўтазавод, выбраліся на прасторы Магілёўскай шашы. Прастор і на ёй спачатку быў даволі абмежаваны, але пасля развілкі, калі яны звярнулі на Бабруйскую шашу, там было не многа машын і можна было паказаць хуткасць. Цераз плячо шафёра Алег Максімаў бачыў, як стрэлка спідометра памалу папаўзла да рыскі з лічбай сто, перасягнула яе і замерла недзе на ста трыццаці.

Але ў салоне хуткасці не адчувалася. Толькі Алегу Раманавічу чамусьці калола ў ступні. Мабыць, ногі, прывыклыя да маруднай хады, чулі шалёную хуткасць і па-свойму рэагавалі на яе.

У спіну ім свяціла сонца, вельмі ўжо нізкае, нібы яно ўкленчыла на каленцы, каб заглянуць у салон. Часам ім насустрач са свістам праносіліся машыны, часам яны абганялі грузавікі і марудныя ад шафёрскай нясмеласці «Масквічы» і «Жыгулі». Так і ехалі, пакуль недзе за Пухавічамі шафёр не звярнуў машыну ў лес. Максімаў думаў, што ён спыніўся, каб пасажыры маглі размяцца, аж не. Серафім Іванавіч дастаў з чамадана гарнітур, стаў пераапранацца, быццам не мог зрабіць гэта дома.

Алег Раманавіч прайшоўся па сухім шорсткім моху, паслухаў, як недзе непадалёк лудзіць горла галасісты салавей.

У Бабруйску сур'ёзны, як бог, старшы лейтэнант ДАІ паказаў ім з'ехаць на абочыну, але як толькі ўбачыў дэпутацкі значок на грудзях Серафіма Іванавіча, казырнуў і паказаў, каб ехалі далей.

Алега Раманавіча ўсё непакоіла, куды яны едуць? У Бабруйск? Але ж вось ужо і яго мінулі. У Светлагорск? Дык і ён застаўся за імі. У Калінкавічы? Мазыр?.. Куды ж у рэшце рэшт?

Пытацца ў Серафіма Іванавіча яму не хацелася. Ды і хто ён такі, каб дапытвацца? Вязуць, і маўчы, май цярплівасць. Маўчаць Алег Раманавіч навучыўся. Так што гэта было і не вельмі цяжка.

Тым часам пасля Калінкавіч услед за сінімі прыцемкамі настала прывідная цемра, якую мякка

разганяла поўня, яшчэ не тая, што нагадвае толькі што адліты, дасканалы па форме сярэбраны медаль, а на апошнім сваім акругленні, на апошнім часе сваёй дасканаласці, пасля якой яна пачне шчарбаціцца і бранзавець. Любавацца наваколлем, аднак, замінալі фары, якія былі ярчэй і мацней за срэбранае святло месяца. Цяпер шафёр не гнаў так хутка машыну, як раней,— хоць і дагледжаны, але прасёлак заставаўся прасёлкам.

Куды ж яны едуць? Недзе ўбаку губляліся ў цемры і Хойнікі і Брагін. Наперадзе — Украіна і тупік між дзвюх рэк і Кіеўскім вадасховішчам, або морам. Далей дарогі як бы не было. Але яны ехалі.

— Дык куды мы едзем? — нецярпліва спытаўся Алег Раманавіч, здрадзіўшы сваёй звычцы не задаваць пытанні.

— А ўжо і прыехалі,— замест Серафіма Іванавіча азваўся Прохар Сцяпанавіч.

Сапраўды наперадзе выбліснулі агеньчыкі, фары высвецілі прысады, а на павароце і стужку вады, якая злівалася з небам. За паваротам машына спынілася перад ярка асветленай хатай з верандай гарадскога тыпу.

— Чатыры гадзіны семнаццаць мінут,— урачыста абвясціў шафёр, як бы чакаючы ад Серафіма Іванавіча заслужанай пахвалы.

Ён выключыў фары. Серафім Іванавіч памалу вылазіў з машыны. А з дому насустрач ужо спяшаліся двое мужчын, мабыць, бацька і сын, вельмі падобныя адзін на аднаго. Яны па чарзе віталіся з Серафімам Іванавічам за руку, потым гэтаксама і з Алегам Раманавічам і з шафёрам. Толькі цяпер Алег Раманавіч зразумеў, што яны прыехалі да бацькі шафёра; Прохар Сцяпанавіч таксама быў падобны на бацьку, Сцяпана Мікалаевіча.

Прохар Сцяпанавіч адкрыў багажнік, дастаў адтуль скрыню, запоўненую бутэлькамі з каньяком і гарэлкай, і другую — з нарзанам.

У так званай святліцы ўжо стаялі сталы, а ў пярэдняй і на верандзе сядзела некалькі гасцей. Сцяпан Мікалаевіч пазнаёміў іх з прыезджымі. Госці, па ўсім, добра ведалі Серафіма Іванавіча і троху зацікаўлена, някідка паглядалі на Алега Раманавіча: а ён таксама пісьменнік ці яшчэ нейкая важная асоба.

— Таксама пісьменнік? — спытаўся каржакаваты, з рассечаным брывом чалавек, калі Алег Раманавіч паціскаў яму руку на знаёмства.

Алег Раманавіч разгубіўся, але на выручку прыйшоў Серафім Іванавіч, сказаўшы, ці то жартам, ці то ўсур'ёз:

— Не прызнаецца, але, думаю, піша, хоць чалавек ён з тэхнічнай сферы, ды цяпер тэхнары большыя творцы, чым мы, грэшныя.

У чалавека — ды і астатніх — адразу прапала цікаўнасць да Алега Раманавіча, і ён аж узрадаваўся такой акалічнасці — не трэба будзе адказваць на нейкія пытанні, што могуць узнікнуць у людзей.

Серафім Іванавіч, як выявілася, усё прадугледзеў: ён падараваў юбіляру электронны гадзіннік з бранзалетам пад золата і бляшанку з нейкімі замежнымі блешнямі, сказаўшы, што гэта на памяць ад іх двух з Алегам Раманавічам. Таму аж зрабілася няёмка.

Гаспадыня, нашмат маладзейшая, другая жонка Сцяпана Мікалаевіча, пачала запрашаць за стол, і ўсе, ужо добра прагаладаўшыся, пасунуліся ў святліцу без лішняй прынукі.

За сталом сядзелі гадзіны тры: гаварыліся прамовы, тосты. Госці ўмелі і маглі выпіць, не зважаючы на партыйны заклік да безалкагольных юбілеяў, вечарынак і проста пасядзелак. Як пажартаваў Сцяпан Мікалаевіч: «Не вып'ем тут, дык на тым свеце не дадут».

Было троху за поўнач, калі госці вылезлі з-за стала, каб размяць адзеравянелыя ад доўгай застолліцы косці, выйшлі на веранду і ў кветнік пад акном веранды, каб пакурыць. Жанчыны тым часам сталі прыбіраць са стала, каб заставіць яго закускамі на другі заход — гуляць збіраліся да раніцы.

Месяц ужо мінуў зеніт, але стаяў яшчэ высока, амаль над галавою, і ўсё навокал зіхацела ад мройнага сіняватага святла. Сцяпан Мікалаевіч прапанаваў Серафіму Іванавічу і Алегу Раманавічу схадзіць да вадасховішча, як ён называў мора, якое было непадалёк, можа, метраў за дзвесце, адразу за агародам і поплавам. Абодва здагадаліся, што Сцяпан Мікалаевіч не так сабе зводзіць іх ад кампаніі. Але да іх далучыўся старшыня сельсавета, пляменнік юбіляра па жонцы Кастусь Камеш, так што намерам

Сцяпана Мікалаевіча хоць і наканавана было збыцца, але толькі напалову.

Яны ішлі моўчкі па вузкай баразне-сцежцы, пракладзенай ад хаты да лазні. Але, як толькі выйшлі на поплаў, Сцяпан Мікалаевіч прыстроіўся да Серафіма Іванавіча, загаварыў да яго, не звяртаючы ніякай увагі на астатніх двух — Максімава і Кастуся Камеша.

— Як жа яно будзе, Сіма? Ты ж там бліжэй да вярхоў. Што там думаюць, пра што дбаюць? Прасвяці мяне, лапавухага.

— Не прыбядняйся,— адказаў яму Серафім Іванавіч.— Ты ў палітыцы сабаку з'еў.

— Сабаку з'еў, а дурнем застаўся. Ні чорта не разумею,— Сцяпан Мікалаевіч загаварыў з непадробным болем.— Жылі-жылі, змагаліся-змагаліся, здаецца, перамагалі і нават з поспехам, як пісалася ў рапартах і гаварылася з высокіх трыбун, а цяпер выходзіць: нібы мы не ў той бок ішлі і не тое, што трэба, будавалі. Не светлыя палацы сацыялізму, а трысняговы хлеў для быдла. Во і памяркуй, як быць мне, камуністу, які ў партыі сорак пяць гадоў без вымоў і іншых спагнанняў? Я рашэнні партыі заўсёды без аглядкі выконваў, бо верыў у партыю і яе справу, і не было для мяне закону вышэйшага, як закон партыі. А як жа інакш? Мы ж аднадумцы і барацьбіты за камунізм. Без веры ў партыю, у яе правату ніколі б мы ні рэвалюцыі не здзейснілі б, ні грамадзянскай вайны не выйгралі б, ні чэсць і сумленне сваё ў барацьбе з фашызмам не адстаялі б. А цяпер прачытаў матэрыялы з'езда, і ў пот ад страшнай думкі кінула: дык гэта ж сапраўдная апазіцыя ўсяму нашаму мінуламу, усёй лініі партыі, якая вяла нас да перамогі камунізму. А як жа мне быць — радавому члену партыі, старому камуністу? Не падтрымаць рашэнні з'езда я не магу, не прывучаны да гэтага, а падтрымліваць, дык во тут нешта муляе,— Сцяпан Мікалаевіч прыклаў правую руку да сэрца.

Неўпапад з трывожным тонам братавай гаворкі Серафіму раптам прыгадалася, як у дзяцінстве гэты самы Сцёпка падбіў яго спаліць дзедавы карчы, у поце назапашаныя тым за вясну і лета, а потым шантажыраваў Серафіма, прымушаў рабіць за яго ўсё, што ні загадае. Даўно няма дзеда з бабуляю, двух дзядзькоў

з іх сем'ямі, якіх выслалі ў халодную Сібір, даўно няма і Сцёпкавага бацькі, Міклы Анічэйкі, колішняга актывіста, які ствараў і даводзіў да ручкі калгасы.

Серафіму Іванавічу не хацелася пярэчыць дваюраднаму брату. Папраўдзе, дык і ў яго часам з'яўляліся гарачыя да прыпёку і зусім не бяскрыўдныя пытанні. А калі нават і запярэчыш Сцёпку? Хіба ён пагодзіцца з табой. Сцёпка Анічэйка, як і бацька, упарты, натурлівы, калі ўжо і сказаў што, дык яго не пераканаеш у адваротным.

Ды тут не стрымаўся Кастусь Камеш, папёр з ходу на Сцяпана Мікалаевіча:

— Ну, што табе, дзядзька, незразумела? У дакладзе ясна сказана: трэба вяртацца да ленінскага стылю кіраўніцтва, бо наша эканоміка апынулася ў застоі, і выводзіць яе трэба на прасторы краіны праз кааперацыю. Гэта ж, дзядзька, аксіёма. Як і тое, што трэба да канца развянчаць культ і перайначыць усе парадкі, народжаныя ім. Я са сваёй званіцы скажу: неабходна вярнуць Саветам іхнюю ролю. Што такое Саветы? Аснова ўлады працоўных — во што такое Саветы. А на практыцы мы нуль без палачкі. Улада ж у нас савецкая, а не партыйная...

— Бачыў тэарэтыка? — нецярпліва абарваў яго Сцяпан Мікалаевіч.— Ты што ж, партыю ад савецкай улады аддзяліць хочаш? Дык было такое: дзялілі партыю на сельскую і прамысловую.

— Не партыю, а партыйныя органы,— паправіў яго Камеш.

— Не перапыняй. Я тваю балбатню слухаў, хоць яна мне супраціўна. За такія размовы раней бы цябе па галоўцы не пагладзілі б. Дзьмухнулі — і памінай як звалі...

— Дадзьмухаліся. Заехалі ў застой. А застой — гэта калі стаў, рот разявіў і стой, ні слова не кажучы.

— Ну, во, і стой, калі ў мазгах застой,— стараючыся стрымаць абурэнне, якое клекатала ў ім, адпарыраваў Сцяпан Мікалаевіч.— Ты вось наконт Саветаў без партыі нешта вярзеш. Дык і такое было: Саветы без камуністаў. І лозунг гэты варожыя сілы прыдумалі, а ты яго паўтараеш. Уясніў? Ну, дык і дай мне з разумным, не нам з табою раўня, чалавекам пагаварыць, які на з'ездзе быў, сваімі вушамі ўсё

чыста чуў, на свае вочы ўсё бачыў. Можа, у ґазетах не пра ўсё пісалася...

Максімаў не ведаў, што Серафім Іванавіч быў дэлегатам з'езда, таму толькі цяпер уцяміў, што Серафім Іванавіч не проста дэлегат з'езда, але і славуты пісьменнік, які, напэўна, глядзеў на падзеі не так, як астатнія людзі.

— Што я магу сказаць,— непрывычна расцягваючы словы, неяк неахвотна пачаў Серафім Іванавіч.— Шчыра прызнацца, я знаёміўся з дакументамі з'езда гэткім жа чынам, як і вы — па газетах ды па тэлевізары. Само сабой асноўныя дакументы з'езда нам раздалі яшчэ ў часе рэгістрацыі, але так здарылася, што мне дасталося месца на балконе, ды і то не ў першых радах. Я бачыў толькі краёчак сцэны. Нават хто выступае і то не было відаць. А калі і было б відаць? Вы ўяўляеце адлегласць ад балкона да прэзідыума? Гэта ж далей як да вашай хаты! А зрок у мяне слабы. Ну, а што датычыць галоснасці, дык, мусіць, без яе не абысціся... не, не абысціся! Мы ж усё засакрэцілі. Што трэба і што не трэба. Здарыцца якая бяда, авіякатастрофа там ці аварыя на заводзе — увесь свет пра іх ведае, а нашы савецкія людзі нават і не здагадваюцца...

— А навошта людзям ведаць пра аварыі? — здзівіўся Сцяпан Мікалаевіч.— Што ім ад таго жыць весялей стане? Навошта ж людзей засмучаць, пазбаўляць іх жыццярадаснага аптымізму, а варожым галасам даваць карты ў рукі для подлай антысавецкай прапаганды? Нешта не разумею я цябе, Сіма. Можа, тады ты мне скажаш: чаму мы самі сябе дзёгцем пэцкаем, як, бывала, пэцкалі вароты гуляшчым дзеўкам? Сталін — садыст, Хрушчоў — валютарыст, Брэжнеў — застойны гуляка, Чарненка — неўздаляка. А хто ж тады сацыялізм будаваў? Хто краіну ад перамогі да перамогі вёў? Можа, скажаш, не было перамог. Дык былі ж, былі! Пасляваенную разруху зліквідавалі, заводаў, фабрык набудавалі. Ці, можа, у нас адны памылкі былі?

І зноў Серафіма Іванавіча апярэдзіў Кастусь Камеш.

— Народ сацыялізм будаваў,— горача запярэчыў ён.— Народ, а не Сталін і ўжо вядома не Чарненка. Хворага чалавека, як на смех, такой дзяржавай

кіраваць паставілі. Ды нашу дзяржаву і на тры дні нельга без догляду пакідаць. А тут непаразуменне нейкае. Непрыгожа пра памёршага так гаварыць, але ж з песні слоў не выкінеш...

— Памаўчаў бы! — Сцяпан Мікалаевіч у злосці аж тупнуў нагой.— Плявузгаеш, а таго не цяміш, што ў нас калектыўнае кіраўніцтва, і дзяржава таму заўсёды ў надзейных руках. І пра народ ты без аніякага сэнсу гаворыш. На-а-род! Вучэнне пра сацыялізм і камунізм не народ, а Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс прыдумалі — найвялікшыя розумы ўсяго чалавецтва. А ты — народ! Народ без правадыра, без партыі — статак авечак, якіх ваўкі імперыялізму за адным заходам сажралі б. Гісторыя чаму вучыць? Каб не геній Леніна, дык хіба ў нас з'явілася б такая партыя, як партыя бальшавікоў, якая павяла народ на штурм царызму, здзейсніла Кастрычніцкую рэвалюцыю? А ты абвяргаеш кіруючую ролю партыі і яе правадыроў. Ты пра Сталіна як думаеш? Прама скажу, па-абывацельску, а таму зусім несправядліва. Без генія Сталіна мы не пабудавалі б індустрыяльную базу сацыялізму, бо тойсёй скіроўваў народ на бакавую дарогу, якая завяла б краіну ў нетры спажывання і ўсеагульнага амяшчаньвання. Ды каб не вайна, не праклятушчы Гітлер з ягоным вар'яцкім планам знішчыць першую ў свеце краіну сацыялізму, мы сёння жылі б ужо ў камунізме. Няма чаго скептычна ўсміхацца, Фама, які нічаму не верыць. Вось Серафім не дасць мне схлусіць. Дай бог памяць, у трыццаць сёмым годзе, ну так, у трыццаць сёмым, нават дату запомніў — шостага жніўня — газета «Правда» пісала, што ўжо наша пакаленне будзе жыць пры камунізме. «Правда» пісала! А яе вуснамі гаварылі партыя, таварыш Сталін, які слоў на вецер не кідаў, бо ўсё наперад прадбачыў. Прывяду такі прыклад. Памятаеш, Сіма,— зноў звярнуўся ён да Серафіма Іванавіча, шукаючы ў яго падтрымкі,— у трыццаць першым годзе Сталін сказаў: калі мы за дзесяць гадоў не дагонім перадавыя краіны свету, дык мы загінем. А праз дзесяць гадоў і пачалася Вялікая Айчынная. Во яно, сталінскае прадбачанне! Адсюль і стратэгія партыі была вызначана на бліжэйшыя дзесяць гадоў: усе сілы на індустрыялізацыю і калектывізацыю.

Абывацелі-мяшчане тады залямантавалі: спачатку народ адзеньце, абуйце, накарміце, а потым, наеўшыся і апрануўшыся, дружна пойдзем рабіць індустрыялізацыю. Сталін тады сказаў народу: будзе цяжка, вельмі цяжка, многага не будзе хапаць, але інакш нельга, калі мы хочам адстаяць заваёвы Кастрычніка. І народ пайшоў за Сталіным, адкінуўшы прэч з дарогі абывацеляў-мяшчан. Так што народ без партыі, без правадыра — нішто, а лепей сказаць матэрыял для эксперыментаў буржуазнай дэмакратыі...

— Ды ты ж вораг, народа вораг! — раз'юшана крыкнуў Камеш.— Ты ж у народ не верыш! Ён у цябе — вінцікі і шурупчыкі! А камунізм для каго будаваць будзем?..

— Я вораг? — разгублена спытаўся Сцяпан Мікалаевіч.— Ды як ты такое мог сказаць? Ды ў нас народ і партыя — адзіныя. І калі я гавару пра народ, як масу, якую трэба згуртоўваць і накіроўваць, дык гэта не значыць, што я не хачу, каб народ жыў у сацыялізме І я сваімі рукамі будаваў сацыялізм. А такія, як ты, яго бураць...

— Ад вас навучыліся, бо ці мала вы за свой век наразбуралі.— Кастусь Камеш ускочыў з лодкі, на якой яны сядзелі, стаў грудзі ў грудзі перад дзядзькам.— Адчулі, што ўладу сваю губляеце?.. Што перад народам адказваць давядзецца?

— Давай, давай,— хрыпла, бо няйначай перасохла ў горле, з'едліва падахвоціў пляменніка Сцяпан Мікалаевіч.— Мы вам жыццё адстаялі перад варожымі наскокамі, а вы аддзячылі...

Серафім Іванавіч развёў пляменніка і дзядзьку.

— Косця, сядзь і памаўчы,— рашуча сказаў ён.— І ты, Сцяпан, дарэмна разышоўся, як халодны самавар. Сэрца пaбеpaжы. Яно ў цябе адно Скажу шчыра, мяне твае экскурсы ў гісторыю не толькі здзівілі, але і насцярожылі. Мы, дарагі, на сваім няпростым шляху шмат наламалі дроў, і адмаўляць гэта, пра крайняй меры, смешна, а магчыма, і злачынна.

— Гэта ж чаму? — яшчэ не астылы ад спрэчкі, натапырана спытаўся Сцяпан Мікалаевіч.

— А хоць бы ўзяць калектывізацыю на базе ліквідацыі кулацтва як класа. Хіба там не было памылак?..

— Чуў, чуў,— задзірліва сказаў Сцяпан Мікалаевіч.— Прэсу чытаем, кіно часам глядзім. А ты мне скажы: цяпер у нас хіба бяскласавае грамадства?

Ён яўна хітрыў, хацеў злавіць Серафіма Іванавіча на нейкай недакладнасці.

— Класавае,— насцярожана адказаў ён. На ўсякі выпадак дадаў: — Але класы ў нас не антаганістычныя.

— Не, мілы мой,— запярэчыў Сцяпан Мікалаевіч,— калі ёсць класы, дык ёсць і антаганізм. Хоць невялікі, а ёсць, значыць, і раздуць яго ў класавы пажар можна, што і робяць замежныя разведкі і розныя варожыя сацыялізму сілы. Цяпер вось некаторыя пісакі адкрыта ўжо распісваюць, як Сталін сялянства знішчаў. Кулакоў, маўляў, не было, а іх знаходзілі і ў Сібір высылалі. І пляменнік мой,— пазіраючы ўслед старшыні сельсавета, якога Алег Раманавіч адводзіў падалей ад грознага дзядзькі,— гаварыў Сцяпан Мікалаевіч, але ўжо без ранейшых нецярпімых нотак у голасе,— таксама мне папрок кідае: ваша пакаленне садзейнічала ліквідацыі кулацтва. Але давай, Сіма, разбяромся. Па-першае, наша пакаленне не дарасло да таго, каб раскулачваць. Дужа непаўналетняе было. А бацька мой раскулачваў, і я яго за гэта не вінавачу. Чаму? А вось чаму. Па думцы цяперашніх грамацеяў выходзіць, што кулакоў у нас не было, а калі і былі, дык хіба на Доне ды Кубані. Кулакоў Сталін выдумаў. Дапусцім... А хто тады назваў багатых міраедамі і захрыбетнікамі? Сталін? Ды не, народ назваў, і народ патрабаваў, каб іх улады пазбавілі. А іхняя ўлада — зямля. Во і патрэбна было тую зямлю забраць і бяднейшаму сялянству перадаць. Не выслалі б іх, дык яны такога нарабілі б, што і армія салдат іх не адолела б. Сталін толькі падтрымаў спрадвечныя спадзяванні народа, даўшы лозунг: ліквідуем кулацтва як клас. А ліквідоўвалі кулакоў бяднейшыя сяляне. Узяць хоць бы нашага дзеда, якога раскулачылі і ў Сібір выслалі.

— Не аднаго, а разам з жанатымі сынамі і іхнімі сем'ямі,— нагадаў Серафім Іванавіч.

— Ты мне галаву не задурвай. Была адна кулацкая сям'я, якая бязлітасна эксплуатавала, нажывалася на беднасці іншых. Я сам з маленства рабіў, як чорны вол. І маці рабіла. А дзеду ўсё

было мала. Зямлю арандаваў, бедных удоў абіраў.

— Гэтыя бедныя ўдовы таксама былі высланы,— сказаў Серафім Іванавіч.

— Ты на дзеда таксама рабіў. Ён цябе і прывёз з горада, каб тваёй бясплатнай працай карыстацца...

— А вось гэта кінь, Сцёпа,— рашуча запярэчыў Серафім Іванавіч.— Я дзеду па дзень смерці буду ўдзячны за ягоную дабрыню і ласку, чаго не магу сказаць пра іншых. І раскулачылі яго без аніякіх падстаў. Дзед з раніцы да позняй ночы рабіў і дзядзькі таксама. За што ж іх было раскулачваць? Працавітых людзей выслалі, а гультаі іхняе дабро тут жа прапілі. Я аднаго разу пацікавіўся, дзе дзелася дзедава дабро. І высветліў: прагулялі на банкеце ў гонар стварэння ў вёсцы калгаса. Дык хіба гэта па-ленінску рабілася?

— У класавай барацьбе літасці няма,— хмурна сказаў Сцяпан Мікалаевіч.— А калі лес сякуць — трэскі ляцяць.

— Якія трэскі? Людзі! — крыкнуў Серафім Іванавіч.

Сцяпан Мікалаевіч пахітаў галавой: маўляў, слабачок ты, Сіма! Серафім Іванавіч нават залюбаваўся ім, падумаўшы, што з яго можна было б намаляваць выдатны вобраз цвердакаменнага бальшавіка. Колькі экспрэсіі і дэманічнай сілы!.. Такога не пераканаеш... Ды і ці варта такіх пераконваць? Сцяпан Анічэйка нагадваў Серафіму ягонага вотчыма, Марка Удоева — такі ж самы чорт, тая ж няўступчывасць.

— Можа, час вяртацца ў хату? — сказаў Сцяпан Мікалаевіч.— Гаспадыня недзе зачакалася.

Яны ўжо збіраліся скрануцца з месца, як недзе на поўдні, за морам, раптам выбухнуў у неба клуб чорнага дыму, падсвечанага чырвоным полымем, раскрыўся ў вышыні вялізным парасонам. Неўзабаве там пачало набіраць сілу злавеснае зарава.

— Што гэта? — спалохана спытаўся Серафім Іванавіч.

— Мабыць, нафтабаза ў Чарнобылі,— адказаў Сцяпан Мікалаевіч.

— Які табе Чарнобыль, дзядзька,— заспрачаўся Кастусь Камеш, што якраз падышоў да іх з Алегам Раманавічам.— Чарнобыль вунь дзе, а пажар нашмат правей. Далібог, атамная гарыць. Якраз накірунак на атамную...

— Скажаш! Атамная! — не пагадзіўся дзядзька.— На атамнай і гарэць няма чаму. Там жа суцэльны бетон, цэгла ды метал.

— Не скажыце,— падаў голас Алег Раманавіч, выклікаўшы гэтым пярэчаннем рашучую нязгоду Сцяпана Мікалаевіча.

— Ды я на гэты Чарнобыль дваццаць гадоў гляджу,— незадаволена сказаў ён.— А вы спрачаецеся. Ну і моладзь пайшла!

## 4

Спрэчка так бы і закончылася, каб не Кастусь Камеш. Пляменнік па ўпартасці, бадай, пераўзыходзіў дзядзьку.

— А пры чым тут моладзь? — задзірліва заспрачаўся ён.— Стаўлю сто супраць дзесяці, што гарыць атамная. Ну, што, дзядзька, здаешся?

— Гэта я?! — адрэзаў усе шляхі да адступлення Сцяпан Мікалаевіч.

Дзядзьку і пляменніка няйначай падахвочвала на зацятую спрэчку выпітая гарэлка. Але не толькі яна: сышліся два няўступчывыя характары. Алег Раманавіч, які не любіў авантурных, на заклад, спрэчак, паспрабаваў давесці Кастусю, што, па крайняй меры, каб даказаць, што гарыць, трэба пабываць на месцы пажару, і, здаецца, падліў гаручага ў агонь.

— І пабываем,— рашуча заявіў Камеш.— Вось лодка. Хто са мной? Мне патрэбны сведка.

— А я пакуль на свае вочы не пабачу і сведцы не паверу,— заявіў Сцяпан Мікалаевіч.

І яны ўдвух рушылі ў бок самаробнага прычала для лодак.

Ні Серафіму Іванавічу, ні Алегу Раманавічу плысці за няблізкі свет не хацелася, але было няёмка адпускаць двух спрачальнікаў у рызыкоўнае падарожжа. Яны далучыліся да Сцяпана Мікалаевіча і Кастуся. Ішлі моўчкі. Сцяпан Мікалаевіч адвязаў лодку. Камеш адштурхнуў яе вяслом ад прычала. Сцяпан Мікалаевіч ірвануў шнурок матора — вясёлае лапатанне абудзіла наваколле гулкім пошчакам. Лодка апісала дугу, лягла на патрэбны курс.

І Серафім Іванавіч і Алег Раманавіч спадзяваліся,

што яны пракоцяцца крыху і вернуцца назад. Дзе там!.. Ні дзядзька, ні пляменнік і не думалі вяртацца, хоць, мабыць, абодва раскайваліся, што ўтравілі гасцей у непатрэбную прагулку.

Каб не пажар, дык прагулка па начным моры пад поўняй была б шыкоўнай рамантычнай прыгодай. Пажар надаваў ёй дзелавы драматызм. Серафім Іванавіч і Алег Раманавіч, кожны па-свойму ўзбударажаны незвычайным падарожжам, адчувалі трывожны неспакой і кожны па-свойму хаваў яго: Серафім Іванавіч засяроджана маўчаў, Алег Раманавіч напружана думаў пра залеташнюю камандзіроўку, з якой усё і пачалося, у тым ліку і сённяшняя ягоная добраахвотная ссылка ў Мінск.

Камандзіроўка на Чарнобыльскую атамную станцыю была ў складзе камісіі, дзе яму вызначалася нейкая няпэўная роля: ён ехаў не проста членам камісіі, а яе фактычным кіраўніком, хоць старшынёй камісіі афіцыйна з'яўляўся адзін з намеснікаў старшыні Саўміна, які па нейкіх там прычынах не мог выехаць на месца і кіраваў працай камісіі з Масквы. Алегу Раманавічу чуўся за ўсім гэтым нейкі падвох, але ён быў вучоны, верыў у факты, а таму не бачыў для сябе ніякай небяспекі.

Камісія была створана па пісьме, ці, як казалі, па сігнале, з самой атамнай станцыі. Факты, якія ў пісьме прыводзіліся, не маглі не выклікаць занепакоенасці. Яны яе выклікалі. Іначай ніякай камісіі ніхто не стварыў бы.

Камісія грунтоўна вывучыла становішча спраў на атамнай станцыі, знайшла шмат парушэнняў як тэхналогіі, так і звычайнай працоўнай дысцыпліны, а найбольш нейкай абыякавай звычнасці ў рабоце тэхнічнага персаналу станцыі, нібы яны працавалі не на аб'екце павышанай небяспекі, а на звычайным млыне, які стаіць ужо гадоў сто, а можа, і больш. Вось гэтая абыякавая звычнасць у працы Алегу Раманавічу ўявілася службовым злачынствам. Пункт гэты, бадай, самы галоўны козыр камісіі, знайшоў належнае адлюстраванне ў справаздачы і ў вусным дакладзе Максімава высокаму начальству.

Ужо з першых слоў даклада Максімаў адчуў начальніцкую незадаволенасць ягонымі вывадамі, але прадаўжаў дакладваць, а начальства прадаўжала

слухаць. Але як толькі Максімаў закончыў даклад, начальства накінулася на яго з нечуванай лютасцю, на якую і бывае здольна толькі высокае начальства, а старшыня камісіі і не думаў падтрымліваць Максімава, хоць перад гэтым і згаджаўся з яго высновамі.

— Вы дзе бралі такія звесткі і хто вам даў права ганьбіць працу вялікага, перадавога калектыву нашай атамнай энергетыкі? Ды вы хіба не разумееце, што гэта звычайны паклёп, калі не штосьці горшае. Гэта мэтанакіраванае тарпедаванне генеральнага плана развіцця атамнай энергетыкі. Я пытаюся ў вас, хто вам даў права на такія вывады?..

Начальства пыталася пра нешта вельмі ўжо наглядна дурное, але ў яго вуснах і дурасці належала быць разумнай. Падумаўшы так, Максімаў мімаволі ўсміхнуўся і тым выклікаў яшчэ большы гнеў высокага начальніка. Спрачацца тут было бескарысна, але на гэты раз Максімаў здрадзіў сваёй звычцы маўчаць. Ён горача заспрачаўся, што ў сваю чаргу было незвычайнай дзёрзкасцю:

— Я, да вашага ведама, аперырую толькі фактамі, а яны даюць адназначны прагноз: калі-небудзь станцыя можа ўзляцець у паветра...

Наступіла нечаканая паўза. Усе, хто быў у кабінеце, затаілі дыханне: што будзе?

— Вы забыліся пра ваша мінулае,— нават вельмі ціха напомніў высокі начальнік.— Абыдземся і без вас...

Цяпер Максімаву здавалася, што ён тады дарэмна спалохаўся.

Зачараванне прыродай, месячнай ноччу, утульным спакоем мора, сярод якога лапатанне матора здавалася кашчунскім, знікла, як толькі ўначы растаў бераг з вёсачкай на ім. Так знікаюць цені з наступленнем прыцемкаў. Серафім Іванавіч зазвычай злаваўся на Сцяпана Анічэйку і Кастуся, а больш на сябе, што даўся падбухторыцца на рызыкоўнае падарожжа. Ды дзеля чаго? Ад злосці паявіўся і страх — маторка з задраным угору носам выглядала струхлелай шкарлупінай, якую да ўсяго вядзе добра п'яны юбіляр. Сцяпану — што: мора па калена, а на якога ліха рызыкаваць яму? Пацерпім якую аварыю: скажуць — напіліся і загінулі. Яшчэ і не пахаваюць

з пашанай, адвязуць куды-небудзь на Паўночныя могілкі...

Думкі, канешне, абсурдныя, бо маторка была зроблена на славу, ды і вёў яе Сцяпан Мікалаевіч упэўненай рукой. Але ўсё адно было прыкра: хлапчук, блазнюк, дурань: мала таго, што ім не забараніў, дык сам прыняў удзел у авантуры.

Алег Раманавіч не раскайваўся, што пайшоў з п'янымі ў мора. Яго хвалявала неадчэпнае: што там гарыць? Ці сапраўды атамная? Калі сапраўды, тады што за прычына пажару? Вандроўка гэтая наўрад ці прасветліць што-небудзь, але і сядзець за сталом было б не лягчэй.

Перад імі ўсё больш выразна выяўляўся ўначы белаваты слуп ці то дыму, ці то пары, які вянчала шапка, пранізаная дзіўным святлом. Часам святло знікала, часам слуп перарываўся, нібы з яго выпільваў хто кавалкі, але прадаўжаў трымацца ў паветры. Гэта была грозная, але ў нечым і грандыёзная з'ява. Праўда, яна не захапляла, а палохала. Нейкі час яны, чацвёра, глядзелі на слуп, не маючы сілы вымавіць хоць бы слова.

Першы азваўся Кастусь Камеш:

— Ну, што, дзядзька, я ж казаў: атамная гарыць,— як пра нешта вясёлае, радаснае паведаміў Кастусь.

— А во і не! Гэта ў Прыпяці, у іхнім гарадку нешта гарыць,— не здаваўся Сцяпан Мікалаевіч, хоць і разумеў ужо, што прайграў заклад.— Будзем дамоў вяртацца. Мархва перахвалюецца.

— Дык што, прызнавайся пры сведках, што я казаў праўду,— з п'янай настойлівасцю стаяў на сваім Кастусь.

— А я кажу — гарыць у Прыпяці...

— Тады кіруй далей, ды ўправа трымай. У Прыпяці свае прыкметы...

На здзіўленне Серафіма Іванавіча, Сцяпан пагнаў маторку далей, і ўжо кожнаму стала відаць, што сапраўды гарыць атамная.

— А такі атамная,— прызнаўся ў сваім паражэнні Сцяпан Мікалаевіч.— Дык што ж там гарыць?

Ён выключыў матор. Лодка закружыла на месцы. Сцяпан Мікалаевіч узняўся на ногі, быццам хацеў заглянуць як можна далей туды, дзе гарэла станцыя.

— Гарэць ёсць чаму,— азваўся Максімаў.— Напрыклад, графіту...

— Але ж ён у самім рэактары,— выказаў сваю дасведчанасць Кастусь Камеш.

— Нешта неверагоднае,— незадаволена сказаў Серафім Іванавіч.

— Чаму неверагоднае,— не пагадзіўся Максімаў.— На рэактарах таксама бываюць аварыі...

— Гэта — дыверсія,— Сцяпан Мікалаевіч злосна мацюкнуўся.— У нас жа зусім страчана рэвалюцыйная пільнасць. Во яно і адгукаецца. А ўсё талдычым, што ворагаў няма. А яны во станцыю атамную ўзарвалі...

— Хто пра што, а дзядзька пра дыверсіі. Яго як замкнула ў трыццаць сёмым, дык дасюль не адпусціла — усюды дыверсіі ды шкодніцтва бачыць,— заўсміхаўся Камеш.

— Памаўчы, шчанюк! Што ты разумееш у класавай барацьбе,— накінуўся на Кастуся Сцяпан Мікалаевіч.

— А графіт — гэта небяспечна? — тым часам спытаўся ў Максімава Серафім Іванавіч.

— Графіт дае высокія тэмпературы. А потым... потым, справа нават не ў тым, што ў адным блоку закладзена дзве з паловай тысячы тон графіту, а згарае яго за гадзіну максімум тона — уявіце цяпер, колькі часу яму трэба гарэць,— справа ў больш страшным, пра што не хочацца не тое што гаварыць, а думаць...

— А ты не сей панікі,— крыкнуў на Максімава Сцяпан Анічэйка.— Яшчэ нічога невядома, а ён ужо апакаліпсіс малюе. Адкуль ты ведаеш, колькі там закладзена графіту? Атамная станцыя — аб'ект сугуба сакрэтны...

Сказана гэта было з такой выразнай падазронасцю, што ў абарону Максімава мусіў выступіць Серафім Іванавіч.

— Дык жа Алег Раманавіч вучоны-атамшчык...

Настала няёмкая паўза, пасля якой Сцяпан Мікалаевіч буркнуў:

— Усё адно пры незнаёмых людзях не варта разглашаць дзяржаўныя тайны...

Ён моцна рвануў шнурок, матор завёўся з першага рыўка, лодка падскочыла, як натурысты конь, і пабегла насустрач чырвонай на захадзе поўні.

У доме і без юбіляра прадаўжалася застоліца. Бадай, толькі Сцяпанава жонка Марфа Ульянаўна заўважыла, што няма гаспадара. Але яна не затрывожылася: гаспадар умеў вось так нечакана знікаць з дому спачатку па працы, потым па невядомых ёй справах. Яна ніколі і не пыталася, бо было гэта бескарысна ды і нецікава ёй.

— Во юбіляр: гасцей наззываў, а сам знік,— упікнула яна Сцяпана.

— На пажар ездзілі,— як адчэпнага, неахвотна адказаў юбіляр.

— Дык жа відаць — попелам во абсыпала,— Марфа Ульянаўна схапіла прасяную мяцёлачку, атрэсла попел з пінжака ў мужа, а потым і з гарнітура Серафіма Іванавіча.

Алег Раманавіч стаяў агарошаны: попел гэты, абтрэсены на падлогу, нагадаў яму японскіх рыбакоў, накрытых радыеактыўным воблакам. Здалося, два розныя па часе і па зыходных прычынах выпадкі зліліся ў адзін, нібы пацвярджаючы гэтым, што вузка нацыянальных трагедый не бывае. Алег Раманавіч быў у становішчы чалавека, які бачыць, што ягоныя знаёмыя робяць нешта смяртэльна небяспечнае, але маўчыць, анямеўшы ад жуды і немагчымасці папярэдзіць іх.

Па няпісаным законе яму, як вучонаму, належала засцерагчы Марфу Ульянаўну, яе мужа і Серафіма Іванавіча ад магчымага радыеактыўнага абпрамяньвання, параіць ім абабіць гэты чортаў попел падалей ад жылля, неадкладна памыць падлогу, а ім усім прыняць душ або выкупацца ў моры, але ён прадаўжаў маўчаць. У ягоных вушах яшчэ гучаў голас Сцяпана Мікалаевіча, які абвінаваціў яго ў распаўсюджванні панікі і выдаванні дзяржаўнай тайны.

Марфа Ульянаўна абмяла і іхнюю з Кастусём вопратку.

— Што гэта вы: у адной лодцы сядзелі, а попел толькі на двух. Ці з вас ад старасці ўжо попел сыплецца?..

Жарт быў грубаваты. Ён таксама дапамог Алегу Раманавічу прамаўчаць.

Як толькі яны паявіліся ў святліцы, застоліца загула:

— Дэзерціры...
— Штрафную ім, штрафную...
— Куды вас чорт ганяў?..
— Э, не, сваточак, не адхрышчвайся: усё адно піць нада...
— А мы піць будзем і гуляць будзем, а смерць прыйдзець — паміраць будзем...
Застоліца шумна загула.
Сцяпан Мікалаевіч з Кастусём выпілі па штрафной, Серафім Іванавіч з Алегам Раманавічам адгаварыліся. Сцяпан Мікалаевіч пачаў быў апавядаць пра пажар на атамнай, але яго перапыніў чубаты мужчына:
— Не наша страха гарыць, а тую пажарныя патушаць... іграць хачу...
Чубаты мужчына дастаў з-пад стала гармонік, шырока расцягнуў мяхі — гармонік рыкнуў на ўсю моц, захліпнуўся і ўжо з пераборамі сыпануў пад ногі гасцей «Лявоніху».
Госці разыходзіліся пад раніцу. П'яна цікавіліся — дзе там гарыць? — і, не вельмі разумеючы, што і да чаго, адпраўляліся дамоў.
Серафіма Іванавіча з Алегам Раманавічам паклалі спаць у прыбудоўцы на мяккія тапчаны, якія, мабыць, і стаялі тут для гасцей. Серафім Іванавіч адразу заснуў, а Максімаў доўга не спаў. Заснуў ён толькі пасля таго, як рашыў, што заўтра — ды не, сёння ўжо, сёння! — угаворыць Серафіма Іванавіча паехаць дамоў, а па дарозе яны заедуць у райком, каб высветліць, што там адбылося на Чарнобыльскай атамнай станцыі.
У дарогу яны выбраліся пасля запозненага снядання, у самую спёку. Алег Раманавіч яшчэ раз глянуў у бок Чарнобыля: белаваты слуп з ледзь прыкметнай шапкай, якая свяцілася малінавым колерам, здалося, за гэты час стаў вышэйшы і больш злавесны.
Нягледзячы на суботу, райком працаваў. Па шырокіх прыступках яны падняліся на другі паверх, дзе размяшчаўся кабінет першага сакратара райкома партыі Піліпа Аляксандравіча Збройнага. Немаладая сакратарка, убачыўшы Серафіма Іванавіча, пачціва павіталася, папрасіла пачакаць, пакуль яна дакладыць, што прыехаў такі госць — іхні дэпутат у Вяр-

хоўным Савеце. Адразу ж з кабінета выбег невысокі рухавы чалавек, шырока расставіў рукі, нібы хацеў абняць Серафіма Іванавіча, але не абняў, а схапіў яго руку, пацiснуў сваімі абедзвюма.

— А мы вас не чакалі, але рады, вельмі рады...

У кабінеце сядзелі двое: старшыня выканкома Навумец і другі сакратар Амбросенка. Яны таксама падняліся, каб павітаць Серафіма Іванавіча.

— Дык што тут у вас здарылася? — спытаўся Серафім Іванавіч, сядаючы ў крэсла.

— Сеем, бульбу садзім, пленум збіраемся правесці,— адказаў Піліп Аляксандравіч.— Мелі на ўвазе крыху пазней запрасіць вас, каб расказалі пра з'езд партыі, азадачылі нас...

Сакратар гаварыў непрымушана праўдзіва, але Серафім Іванавіч, які добра ведаў вытрымку і прытворную нязмушанасць начальства, калі тое хоча нешта схаваць, разгадаў сакратарскі манеўр:

— Піліп Аляксандравіч, не хітры. Я пра Чарнобыльскую атамную пытаюся. Што вам вядома?..

— Толкам нічога,— адказаў сакратар.— Была аварыя, але нібы ўжо ліквідавана...

І зноў Серафім Іванавіч яму не паверыў.

— Не ўмееш ты хлусіць, Піліп Аляксандравіч,— сказаў ён, збянтэжыўшы сакратара.— Калі пабойваешся Алега Раманавіча, дык, да твайго ведама, ён вучоны, ды яшчэ і атамшчык. І ён непакоіцца, што слуп дыму нясе радыеактыўныя рэчывы, якія могуць быць вельмі небяспечныя для людзей і наогул...

Райкомаўцы з цікавасцю паглядзелі на Максімава, як бы стараючыся ацаніць у ім асобу, якой сапраўды можна давяраць. Максімаў павінен быў даць ім зразумець, што ён сапраўды не з боку прыпёку, а знаўца справы, а таму спытаўся пра тое, што выглядала элементарна і што, на ягоную думку, абавязкова павінна было быць зроблена адразу:

— Ці замералі вы радыяцыйны фон і на колькі ён вышэй нормы?..

Райкомаўцы шматзначна пераглянуліся.

— Градуснікам жа яго не замераеш,— азваўся старшыня выканкома.

— А хіба ў вас няма індывідуальных дазіметраў тээлдэ ці хоць карандашоў?.

— Хто ж пра такую аварыю думаў? — на гэты раз падаў голас другі сакратар.

— Няўжо ж паблізу няма ніякай вайсковай часці ці хоць паста, які меў бы дазіметры? — разгублена спытаўся Максімаў.

Ён сапраўды быў у недаўменні: няўжо мінулыя ўрокі нічаму не навучылі. А што, калі раптам распачнецца вайна, ды не звычайная, а атамная? Як жа не мець дазіметраў?

— Ну, калі вы сапраўды дасведчаны, дык я коратка вас праінфармую, хоць загадзя скажу, што мая інфармацыя вельмі абмежаваная... Аварыя на станцыі яшчэ не ліквідавана. Я званіў у Чарнобыль. Нібы будзе створана ўрадавая камісія. Радыяцыйны фон высокі, асабліва ў Прыпяці, гарадку атамшчыкаў.

— Да-а-а, сітуацыя,— дрыготкім голасам сказаў Серафім Іванавіч.— Сядзім і не бачым, як, можа, нас забіваюць нябачныя промні радыяцыі...

— Ну, Серафім Іванавіч,— паўшчуваў яго Піліп Аляксандравіч,— не так страшны чорт, як яго малююць. Але вам бы раіў неадкладна паехаць у Мінск...

Сваёй парадай сакратар райкома сказаў куды больш, як за паўгадзіны іхняй няшчырай размовы, і гэта неяк па-асабліваму падзейнічала на Серафіма Іванавіча. Бываюць жа словы, якія ракавым чынам дзейнічаюць на людзей, рашуча мяняючы іхняе жыццё.

— Гэта можа быць небяспечна? — спытаўся ён у Максімава, прыпыняючыся ў прасторным вестыбюлі райкома.

— Небяспека можа расцягнуцца на дзесяткі гадоў,— адказаў Алег Раманавіч.

— Але ж чорт іх пабяры, я быў на гэтай станцыі, і мяне запэўнівалі, што яна самая лепшая, самая бяспечная ў свеце. Дык што яны свядома хлусілі?..

— А што ў нас не лепшае? — пажартаваў Алег Раманавіч, і гэты жарт чамусьці абурыў Серафіма Іванавіча.

У яго балюча скрывіўся твар, і ён, не чуючы сябе, накінуўся на Максімава:

— Ну, вы гэта кіньце! Не люблю, калі здзекуюцца са с ятога. А самі вы, атамшчыкі, хоць што зрабілі,

каб не было аварый, чорт бы вас узяў? Дык толькі крытыкуеце! Навучыліся крытыкаваць...

Гэта было так несправядліва, што Максімаў не стаў адказваць. Ён пайшоў на вуліцу, дзе іх чакала машына. Яе, аднак, не было. Следам за ім з райкома выйшаў і Серафім Іванавіч. Быў ён пануры. Вінавата адводзячы вочы, прымірэнча сказаў:

— Даруйце і не зважайце на старога, сарваўся. Але ж і крыўдна, што не зробім, усё горш за прыватніка...

— Серафім Іванавіч,— звярнуўся Максімаў да Недасейкі, як бы не надаўшы ніякай увагі ягонаму прабачэнню,— мне абавязкова трэба трапіць у Гомель. Калі вам нязручна, я не пакрыўджуся. Вунь якраз падышоў гомельскі аўтобус, і я паеду на ім...

— Пра што гаворка! — выгукнуў Серафім Іванавіч.— Мне і самому хочацца пабываць у абкоме. Там больш інфармацыі, і наогул... Але ж дзе машына?

Нібы пачуўшы нецярплівае пытанне гаспадара, машына ўзнікла перад імі, як сіўка-бурка з дзіцячай казкі.

З аўтобуснага прыпынку па гарадку гаманліва разыходзіліся людзі, што прыехалі з абласнога цэнтра на два выхадныя дні. Алег Раманавіч глядзеў на іх з невыказным сумам.

— Божа, якая неабачлівасць! — пра сябе разважаў ён.— Ды гэта ж злачынства! Адсяляць людзей трэба, а яны сюды едуць. Што ж там думаюць? Куды там глядзяць?

Яны абодва селі на задняе сядзенне. Серафім Іванавіч спрабаваў загаварыць з Алегам Раманавічам, але той упарта адмоўчваўся. Серафіма Іванавіча ягоная маўклівасць раздражняла: чорт яго ведае, гэтага славутага вучонага, няўжо ён пакрыўдзіўся? Маўчыць, як сыч! А можа, не хоча гаварыць пры шафёру? Можа, ён ведае нейкую тайну, якую не ведаю я?

Даехаўшы да светлага сасновага лесу, Серафім Іванавіч папрасіў Прохара спыніцца: маўляў, хочацца пахадзіць па лесе. Лес сапраўды быў светлы, але яшчэ без выразных адзнак вясны. Маладзенькая траўка, што дзе-нідзе вытыркалася з-пад леташняй іглiцы, неяк абвяла, панікла. Серафім Іванавіч узяў Максімава пад руку, сказаў з праніклівасцю ў голасе:

— Алег Раманавіч, вы штосьці хаваеце ад мяне, і гэтае штосьці жахлівае. Не магу ж я паверыць, што вы пакрыўдзіліся на мой запальчывы выбрык. На вас гэта не падобна.

— Вы чулі што-небудзь пра аварыю пад Чэлябінскам у верасні пяцьдзесят сёмага? — нечакана для Серафіма Іванавіча запытаўся Максімаў.

— Здаецца, там узарваўся хімічны завод...

## 5

— Там адбылося тое ж, што сёння адбылося на Чарнобыльскай атамнай.

Серафім Іванавіч быў не толькі ўражаны, але крыху здзіўлены: вучоны нешта блытае: хіба ў той час у нас былі атамныя электрастанцыі?

— А што адбылося пад Чэлябінскам? — з наіўнасцю першакласніка спытаўся ён.— Канешне, калі не сакрэт.

— Вядома, найвялікшы сакрэт і найстражэйшая тайна,— з іроніяй, але і сур'ёзна адказаў Максімаў, нібы прымерваўся, варта адкрыць тайну вядомаму пісьменніку і дэпутату Вярхоўнага Савета ці не варта. Вырашыў: варта.— І ў тым, што тая аварыя дасюль застаецца тайнай, можа, і заключана сённяшняя трагедыя, што адбылася ў Чарнобылі. Тайны, пераставўшы быць тайнамі, маглі б памагчы людзям пазбегнуць новых трагедый.

— Паверце, я нічога пакуль не разумею,— прызнаўся Серафім Іванавіч.

— Ахвотна веру,— сказаў Максімаў.— Мы да таго ўсё засакрэцілі, што і звычайная мятла таксама стала сакрэтам.

— А не перабольшваеце?..

— Перабольшваю,— усміхнуўшыся, прызнаўся Максімаў.— Вы што-небудзь чулі пра металургію плутонія? Канешне, не чулі. Дык вось, на рэактары, што быў пабудаваны пад Чэлябінскам яшчэ на прыканцы саракавых, гналі плутоній для атамнага шчыта краіны. Чэлябінск-сорак — гэта радзільны дом атамных бомбаў. Там працавалі такія славутыя вучоныя, як Курчатаў, Харытон, Альтшулер, Бачвар

і тысячы таленавітых людзей краіны. Во чаму гэта найстражэйшая тайна. А здарылася там вось што: радыеактыўныя адыходы вытворчасці хавалі ў спецыяльных «банках», гэткіх бетонных саркафагах з тоўстымі, да паўтара метра, сценкамі і такімі ж покрыўкамі. У саркафаг ставілася пасудзіна з нержавейкі, у якой і трымаліся радыеактыўныя адыходы. Усё гэта аўтаматычна ахалоджвалася пад неаслабным кантролем радыеметрыстаў. А аднаго разу ў адной з «банак» перастала працаваць сістэма ахаладжэння. Гэта і прывяло да выбуху страшнай сілы. Уявіце, покрыўку адкінула, як пушынку, а слуп ад выбуху ўзняўся ўгору аж на кіламетр. Асноўная маса радыеактыўных рэчываў, на шчасце, аблегла на пляцоўцы завода, і толькі дзесяць працэнтаў ірванула ўгору і панесла, праўда, нешырокай паласой, усяго да дзесяці кіламетраў, цераз Чэлябінскую вобласць на Свярдлоўшчыну і далей на Цюменшчыну. З месц паражэння радыеактыўнымі рэчывамі было адселена звыш дзесяці тысяч чалавек. І па сёння там існуе так званы запаведнік, дзе могуць знаходзіцца толькі вучоныя. Уявіце, трыццаць гадоў, а радыеактыўнасць існуе, і гэта пасля самых сур'ёзных і складаных мерапрыемстваў, праведзеных на забруджанай тэрыторыі. Тады, у часе аварыі, нават грошы ў Чэлябінску былі радыеактыўныя. Але людзей папярэдзілі, як трэба сябе паводзіць, каб не схапіць радыяцыю. Напрыклад, не заходзілі ў дом у абутку, была заменена ўся вопратка. А тут на атамнай станцыі адбываецца аварыя, праходзіць больш паўсутак, і ніхто не шманае. У зону, дзе выпаў радыеактыўны попел, едуць на выхадныя, ніхто не думае пра адсяленне людзей, больш таго, ніхто не ведае ўзроўню радыеактыўнасці. У райкоме я ўбачыў разгубленасць і баюся, што з аварыі на Чарнобыльскай атамнай пастараюцца зрабіць яшчэ адну тайну, а гэта ўжо злачынства перад народам і гісторыяй: нельга двойчы рабіць адну і тую ж памылку.

Серафім Іванавіч пачуў, як па спіне папоўз непрыемны халадок — інстынкт самаабароны. Яму захацелася як найхутчэй уцякаць, але куды? І дзе тая бяспечная зона, дзе няма зараз радыяцыі?

— Вы думаеце, што небяспека такая ж вялікая, як і пад Чэлябінскам у пяцьдзесят сёмым?

— Я баюся, што небяспека можа быць яшчэ больш страшнай,— упэўнена адказаў Максімаў.

— Чаму?..

— А хоць бы таму, што выкід радыеактыўных рэчываў пры чэлябінскай аварыі склаў недзе каля двух мільёнаў кюры. А ў Чарнобылі выкід можа быць у дзесяць — дваццаць разоў большы. Гэта калі ўзарваўся адзін рэактар. А калі ўзарваліся два... чатыры?! Тут і атамнай вайны не трэба. Я павінен быць там, у Чарнобылі,— рашуча заявіў Максімаў.— Сядзець і нічога не ведаць, нічога не рабіць — таксама злачынства.

Каля абкома стаяла шмат машын. Шафёр Серафіма Іванавіча, акінуўшы іх спрактыкаваным вокам, сказаў:

— А тут машына Мікіты Леанідавіча.

— Значыць, справа сур'ёзная, калі ён прыехаў сюды,— падхапіў Серафім Іванавіч.

Але ўжо ў знаёмага загадчыка аднаго з аддзелаў абкома Гужавіна Серафім Іванавіч высветліў, што Мікіта Леанідавіч прыехаў яшчэ ўчора на пленум, дзе абмяркоўваліся задачы па ажыццяўленні рашэнняў дваццаць сёмага з'езда. Яму чамусьці зрабілася прыкра: чакаў ад Мікіты Леанідавіча звышаператыўнасці, а ўсё аказалася збегам акалічнасцей.

Павел Уладзіміравіч Гужавін набраў для Максімава нумар тэлефона, напісаны акуратным почыркам на паперцы. Алег Раманавіч узяў трубку, назваў кагосьці па імені і па бацьку і стаў слухаць. Чулася, што на тым канцы проваду ім незадаволены.

— Ды я званю з Гомеля...— сказаў Максімаў.— Сёння буду ў Мінску... Само сабой... Становішча тут архіспакойнае, спакойнае да злачыннасці... Не, мне і самому гэта непажадана. Так, я бачыў выбух... Відовішча жахлівае... Да хуткай сустрэчы...

Ён паклаў трубку і падзякаваў Гужавіну. Серафім Іванавіч і Гужавін, з надзеяй нешта пачуць цікавае, паглядалі на акадэміка.

— Серафім Іванавіч, мне трэба сёння ж быць у Мінску. Ноччу ёсць самалёт на Кіеў.

На выхадзе з абкома ім сустрэўся Мікіта Леанідавіч са світай. Убачыўшы Серафіма Іванавіча, Мікіта Леанідавіч дэманстратыўна пайшоў яму насустрач, моцна пацiснуў руку.

— Адразу пасля з’езда — у працоўныя масы? Пахвальна, вельмі пахвальна,— гаварыў ён.— А я вось вылятаю ў Мінск. Неадкладныя справы.

— Я хацеў бы пагаварыць з вамі,— думаючы пра ўсё пачутае ад Максімава, звярнуўся Серафім Іванавіч да Мікіты Леанідавіча.

— На жаль,— развёў рукі Мікіта Леанідавіч.— Хіба ў аэрапорце? Вы ж едзеце ў аэрапорт?

А што заставалася Серафіму Іванавічу?..

— Безумоўна, еду,— адказаў ён.

Ва ўрадавай пачакальні аэрапорта Мікіта Леанідавіч адразу ж успомніў пра сваё абяцанне выслухаць Недасейку:

— Што вы хацелі сказаць?..

— Мікіта Леанідавіч, аварыя на Чарнобыльскаи атамнай электрастанцыі тоіць у сабе страшныя вынікі. Радыеактыўны попел выпаў на некаторыя вёскі. Я сам бачыў. Але людзі нічога пра небяспеку не ведаюць. Іх трэба было б папярэдзіць, а дзе адсяліць. А тым часам нават радыяцыйны фон няма чым замераць...

Мікіта Леанідавіч раптам скрывіў міну, рашуча і груба абарваў Серафіма Іванавіча на паўслове:

— Займайцеся сваімі справамі,— і, адвярнуўшыся ад Серафіма Іванавіча, з той жа рэзкасцю звярнуўся да сакратара абкома: — Мы вельмі незадаволены тэмпамі сяўбы. І ўлічыце, ніякіх скідак не будзе. Мы чакаем, што да Першамая сяўба каласавых будзе закончана. Іначай зробім строгія вывады.

Сакратар абкома асуджальна глянуў на Серафіма Іванавіча: маўляў, чаго яшчэ ты лез з гэтай аварыяй, тут не да аварыі, калі могуць пагнаць з работы.

Начальнік аэрапорта далажыў аб гатоўнасці самалёта да вылету, і ўсе рушылі на выхад. Самалёт стаяў непадалёк ад будынка аэрапорта, да яго ўжо быў падагнаны трап. Паціснуўшы рукі некаторым з тых, хто яго праводзіў, Мікіта Леанідавіч пайшоў да трапа, узышоў на верхнюю прыступку, памахаў рукой у адказ на развітальныя знакі, зняў туфлі і ў адных шкарпэтках зайшоў у самалёт.

— Зайдзіце ва ўрадавую пачакальню,— шапнуў на вуха Серафіму Іванавічу сакратар абкома па прапагандзе.

— Я не адзін. Са мною Максімаў, вядомы атамшчык, акадэмік...

— Бярыце і яго.

— Слухайце, Вячаслаў Уладзіслававіч, а чаму Мікіта Леанідавіч зняў туфлі? Хіба ў Гомелі такая вялікая радыяцыя?

— Ён жа ездзіў на прыроду ў адно тут няблізкае месцейка,— адказаў Вячаслаў Уладзіслававіч.

У пачакальні ўжо стаялі нізкія столікі з крэсламі, на століках — бутэлькі кабернэ. Нехта ці то жартам, ці то ўсур'ёз сказаў, што кабернэ выводзіць радыяцыю з арганізма, і ўсе пад дружны смех выпілі па бакалу віна.

Настрой у Серафіма Іванавіча быў не тое што кепскі, а агідны, брыдкі, горш не бывае. Ён добра разумеў, што ягоная размова з Мікітам Леанідавічам выйдзе яму бокам. І гэта, як ні дзіўна, адцягвала ягоную ўвагу ад аварыі, радыяцыі — усіх атамных спраў.

— Паехалі, ну іх з іхнім кабернэ. Знойдзем штонебудзь больш прыстойнае,— прапанаваў ён Максімаву.

## 6

Яны спыніліся каля дарожнай забягалаўкі, даволі чыстай, з белымі льнянымі абрусамі на століках, але без прыстойнай закусі. Пад шклом у халадзільнай камеры ляжалі сухія бутэрброды з галандскім сырам, яйкі пад маянэзам, вялікаватыя кавалкі ялавічыны, чамусьці чорнай і жорсткай на выгляд.

З-за парцьеры выглянула жанчына з камлюкаватай постаццю, акруглым тварам і таўставатым кірпатым носам.

— Добры дзень, Кацярына,— павітаўся Серафім Іванавіч.— Можа, чаго згатуеш?..

Кацярына павіталася з той радаснай усмешкай, якая без слоў казала, што яна рада бачыць Серафіма Іванавіча і гатова зрабіць дзеля яго нават немагчымае. І сапраўды неўзабаве на стале паявіліся патэльня з яешняй, смажаная бульба і свае, як прызналася Кацярына, марынаваныя агуркі і грыбы. Знайшлася ў яе і чарка. Серафім Іванавіч запрасіў і яе за стол. Наліў чарку гарэлкі.

— Дык жа п'яная буду,— зухавата сказала Каця-

рына. — А што — і нап'юся, каб мора па калена.

— Яна прыроджаная паэтэса, а во бачыце...— сказаў Серафім Іванавіч, звяртаючыся да Алега Раманавіча.— Вам не зразумець, што такое творчасць, бо вы вучоны. А яна во наступіла на горла ўласнай песні.

— Не трэба, Серафім Іванавіч, бо, далібог, заплачу,— запратэставала Кацярына.— А слёзы не ў пару. Рада, што вас пабачыла.

Штосьці загадкавае, таямнічае ляжала паміж славутым пісьменнікам і паэтэсай, якая чамусьці выраклася паэзіі і цяпер сядзіць у гэтай забытай богам і начальствам забягалаўцы. Распытваць, аднак, было непрыстойна, і Максімаў у думках стараўся сачыніць найбольш верагодную, жыццепадобную гісторыю. Тое, пра што думалася, было надзіва банальна і пошла. А Кацярына і Серафім Іванавіч як назнарок не вярталіся больш да мінулага.

Толькі на развітанне нешта прасвятлілася, калі Серафім Іванавіч абняў Кацярыну за плечы і запытаўся спачувальным голасам:

— А прызнайся, Каця, пішаш жа, пішаш?.. З паэзіяй нельга развітацца назаўжды?

— Можна! — панура не пагадзілася Кацярына.— Пра што пісаць?..

— Скепсіс, Каця, табе не да твару,— паўшчуваў яе Серафім Іванавіч.— Як гэта пра што?

— А так!.. Хлусіць, прытварацца? Вучыць розуму людзей, якія разумнейшыя за цябе?..

— Чулі? — яўна збянтэжана спытаўся ў Алега Раманавіча Серафім Іванавіч. Звярнуўся ізноў да Кацярыны: — Дык, па-твойму, і я хлусіў, прытвараўся?..

— І вы, Серафім Іванавіч, не выключэнне. Але вы ахвяры часу. Вы, Серафім Іванавіч, ашуканае пакаленне. Вы верылі, што пішаце праўду, а пісалі хлусню. Дык вашаму пакаленню па-чалавечы можна паспачуваць і дараваць. А нашаму? Навошта яму хлусіць? Ад таго і крычаць гучна, што хлусяць, разумеюць, што хлусяць, а казаць праўду не ўмеюць. Вы ашуквалі, а мы ваша ашуканства з малаком маці засвоілі. Таму і крычым моцна, каб сумленне заглушыць.

Кацярына як бы засаромелася сваёй высновы

і замоўкла. У яе бездапаможнасці, аднак, Максімаву пачулася дужая сіла ўпэўненасці, аж ён пазайздросціў. «І яна піша ў стол,— падумалася яму,— піша, але не хоча прызнавацца». Ён запаважаў гэтую зусім непрыгожую маладзіцу.

— І доўга ты над гэтым думала? — спытаўся Серафім Іванавіч.

— Доўга,— прызналася Кацярына.— Таму і апынулася тут. Але нікому пра гэта не гаварыла. Во вам першаму сказала.

Серафім Іванавіч задумаўся. Потым неяк яму ўласцівым рухам схамянуўся, калюча паглядзеў на Кацярыну.

— А наконт таго, што мы ашуканае пакаленне, дык гэта няпраўда...

Серафім Іванавіч сеў на задняе сядзенне поруч з Максімавым, растлумачыўшы, што на пярэднім сонца б'е ў вочы, а прыкрывацца зашчытным шчытком ён не любіць.

Прохар узяў быў з ходу высокую хуткасць, але тут жа і збавіў яе,— сустрэчных машын было мнагавата, а дарога не давала магчымасці манеўру.

Серафім Іванавіч, адкінуўшыся на спінку сядзення, здавалася, драмаў. Але на нейкім павароце яго пахіснула, ён расплюшчыў вочы і раптам ашаламіў Максімава нечаканым пытаннем:

— Дакуль жа мы будзем цярпець чыноўнае хамства?

Алег Раманавіч здзіўлена паглядзеў на яго: што пабудзіла скіраваць думкі Серафіма Іванавіча ў такое дзіўнае рэчышча?

— Пра што вы, Серафім Іванавіч?

— Ды ўсё пра тое ж высокадзяржаўнае хамства,— горача загаварыў Серафім Іванавіч, ямчэй усеўшыся на сядзенні.— Калі яму прыйдзе, нарэшце, канец і дзе яго пачатак? У асяродку паноў-прыгоннікаў, якія не адрознівалі чалавека ад быдла; у старой чыноўнай знаці, што спрадвеку пагарджала прасіцелем, як надакучлівай восеньскай мухай; у колах старарэжымнага афіцэрства, якое муштравала салдат, каб ператварыць іх у механічных чалавечкаў, якім вядома толькі каманда, толькі яе выкананне; ці, можа, у асяродку царскага двара, дзе дазвалялася хаміць ніжэйшаму за сябе? Але ж ужо было глыбокаасветнае

дзевятнаццатае стагоддзе, калі культурныя вярхі рускага грамадства зразумелі, што сіла грамадства не ў хамстве, муштры і прыгоне, а ў культуры зносін роўных перад богам і будучыняй людзей. Дык адкуль, з якіх цёмных падзямелляў узнікла, запанавала сучаснае хамства, калі з семнаццатага года мы на ўвесь голас крычым, дэкларуем роўнасць, дружбу, аднадумства, узаемапавагу, культуру ў зносінах? Чаму любы чыноўнік, любога, нават малюсенькага, рангу можа хаміць, абражаць чалавека, які звярнуўся да яго нават не са сваёй асабістай просьбай, а з дзяржаўнай і вельмі важнай?

— А сапраўды, чаму? — спытаўся Максімаў, зразумеўшы, што Серафім Іванавіч не забыўся абразы Мікіты Леанідавіча.

— А я адкажу,— упарта сцвярджаў Серафім Іванавіч.— Мы ўсе жывём пад каўпаком прыгнётлівага страху. А страх выгадны тым малаадукаваным, малаздольным да кіраўніцтва, коснаязыкім дзеячам самых розных рангаў, якім бы пры нармальных умовах не даверылі б бляшанай майстэрні па вырабу вёдраў і рамонце зліўных труб — яны яе разарылі б за адзін год. А ім жа давяраюць сельсаветы, раёны, вобласці, рэспублікі. Вось ім і выгадна наганяць страх. Таму яны і не абыходзяцца без матаў, пагроз, абраз, а яшчэ горш — без хуткіх і жорсткіх расправаў.— Серафім Іванавіч раптам крута памяняў тэму: — Яна гаворыць, што наша пакаленне ашуканае. Якое глупства! Я не лічу сябе ашуканым...

— Вы пра каго?

— Ды пра Кацю Цудню,— на хаду растлумачыў Серафім Іванавіч, каб прадоўжыць думку, што завалодала ім: — Ашуканыя тыя, хто хацеў быць ашуканым. Хацеў! Прагнуў! Яны затыкалі вушы, заплюшчвалі вочы, каб нічога не чуць, нічога не бачыць. А калі ім спрабавалі адкрыць вочы, адаткнуць вушы, тады яны кідаліся ў органы: не дай божа каб іх у чым не западозрылі. І зноў рабілі ўсё, каб нічога не ведаць. А я ведаў. Не ўсё, але ведаў. А чаго не ведаў, здагадваўся, спрабаваў высветліць, як яно на самай справе ёсць, сваім розумам да ўсяго даходзіў. На жаль, нічога не мог змяніць. Некалі Ніцшэ сказаў, што любоў і голад правяць светам. Намі правілі не любоў і голад, а глабальная хлусня

і ваяўнічы, бязлітасны страх. Два страшыдлы не з дзіцячых казак. Дык хіба я мог выносіць на суд чытачоў хоць бы сотую долю праўды, якую ведаў? Мы заблудзіліся ў лабірынце страху і не можам дасюль выбрацца, хоць і робім выгляд, што ўжо выбраліся. Наша пакаленне не ашуканае, яно — запалоханае! Дык што яно павінна было маўчаць, нічога не ствараць? Можа, яму трэба было пісаць у стол, як зараз модна казаць? Але ў стол свядома пішуць толькі графаманы...

— Няпраўда! — запярэчыў Максімаў, балюча закрануты Серафімам Іванавічам.

— А вы ведаеце такога пісьменніка, які пісаў бы ў стол, разумеючы, што ягоныя творы не будуць надрукаваны. Ён жа хоць маленечкую, ды меў надзею. Таму і пісаў...

— Уявіце, я ведаў такога геніяльнага пісьменніка. Хочаце, я раскажу вам ягоную трагічную гісторыю?

— Ну, ну, паслухаем,— з іроніяй падбадзёрыў Максімава Серафім Іванавіч.

— Зімой сорак трэцяга года я жыў у раённым цэнтры, канчаў дзесяцігодку і адначасова вёў чацвёрты клас. Настаўнікаў не хапала, а я вучыўся выдатна, як кажуць, падаваў надзеі. Вось і прапанавалі настаўнічаць, а мне выгада: і грошы і нейкі паёк, хоць тады і на картачкі не было чаго купляць. Тая зіма была ў нас вельмі суровая: мястэчка размяшчалася ў бяскрайнім стэпе, яго прадзімала ўсімі вятрамі Азіі, а ў дадатак яшчэ лютавалі завірухі, зганялі са стэпу снег у забыты богам гарадок. Ён зарос снежнымі гурбамі і пераметамі, стаў падобны на статак вярблюдаў, што збіліся ў гурт перад небяспекай.

Камунальных кватэр у мястэчку не было ці амаль не было — даводзілася жыць на прыватных. Зрэшты, усе жылі на прыватных кватэрах, пра камунальныя марылі, як пра казачныя палацы. Я ўладкаваўся на жыхарства ў латыша Берзеня, хатка якога стаяла за сухой кручай, у пасёлку, які называўся Камінтэрнам, а сярод тамтэйшых жыхароў — Ссылкай.

Справа ў тым, што і гарадок узнік на прыканцы дваццатых, калі сюды выслалі партыю лішэнцаў: былых эсэраў, меншавікоў, анархістаў і асоб духоўнага звання. Раней там стаяла невялікае селішча, якое, натуральна, не магло ўмясціць усіх высланых. Сярод

высланых быў інжынер, па ўсім чалавек рознабакова адукаваны, які за сухой кручай знайшоў паклады гліны, навучыў высланых рабіць з яе глінабітныя хібары. З часам пасёлак разросся. У ім знайшлі прытулак мясцовыя інтэлігенты і служачыя раённых устаноў.

Адступленне гэтае я зрабіў для таго, каб вы ўявілі сабе фон, на якім разгортваліся падзеі.

— А вы як там апынуліся? — спытаўся Серафім Іванавіч.

— Гэта іншая тэма. Скажу толькі, што, вядома ж, не самахоць. Але я хачу расказаць пра іншае.

Дык вось, да Берзеня часам прыходзіў загадкавы і дзіўнаваты чалавек, захутаны ў башлык, якога называлі Прафесарам. Ні імя, ні прозвішча яго ніхто не ведаў і не спрабаваў даведацца. У тых краях людзі не любяць балбатуноў і лішне цікаўных. Хто ведае, дзеля чаго ты цікавішся тым, чым табе не належыць цікавіцца. Звычайна Прафесар садзіўся на варштат і амаль праз увесь вечар маўчаў, што вельмі падабалася гаспадару. Латышы — народ ашчадны на слова. Тут ашчаднасць цанілася ўтрая: лішняе слова магло занесці чалавека яшчэ далей на Поўнач або на Усход.

Я таксама ўмеў гэта цаніць. Маўчанне, ведаў я,— золата. Таму сядзеў у сваёй каморцы, рыхтаваўся да ўрокаў і сваіх і тых, што праводзіў у чацвёртым класе. Таму я аж здрыгануўся, калі аднаго разу загадкавы гаспадароў госць пастукаў у дзверы маёй каморкі, папрасіў дазволу зайсці. Я вызваліў адзінае ў мяне самаробнае крэсла, сам перасеў на ложак, таксама самаробны, з дошкамі замест матраца.

Прафесар без аніякіх прадмоў адразу загаварыў пра справу, з якой і завітаў да мяне.

«Малады чалавек,— сказаў ён з рашучасцю, на якую здольны толькі самагубцы,— я прасіў бы вашай ласкі зайсці да мяне па вельмі важнай справе. Спадзяюся, вы ведаеце, дзе я кватарую?»

Я вельмі разгубіўся ад гэтага незразумелага запрашэння і таму спалохана і лішне паспешліва спытаўся:

«Калі зайсці?»

«Заўтра... Гадзін у адзінаццаць, калі можна...»

Назаўтра быў выхадны. Дачакаўшыся адзінаццаці

гадзін, я пайшоў да Прафесара з настроем, які бывае ў людзей, што ідуць на непрыемнае і непатрэбнае спатканне. Мне ўсё хацелася вярнуцца. Нешта палохала. Але, наперакор сабе, я ішоў аж на той канец Ссылкі, дзе ў адзінокай удавы кватараваў Прафесар.

Ён быў адзін. Гэта мяне яшчэ больш насцярожыла: хоча гаварыць без сведак. Над ссыльнымі, як дамоклаў меч, заўсёды вісела пагроза быць пакараным за лішняе слова, за непатрэбныя кантакты, за пасядзелкі, абы нехта данёс, абы намякнуў на нейкія таямнічыя сустрэчы. Я падумаў тады, што лішне рот адкрываць не буду.

У Прафесара была такая ж, як і ў мяне, каморка, з той розніцай, што на куце вісела паліца, падобная на стараверскую бажніцу, у якой хаваюць святыя кнігі.

Я сеў на тапчан, і мы абодва маўчалі.

«Мне пра вас гаварыла Раіса Сямёнаўна»,— нарэшце сказаў Прафесар.

Раіса Сямёнаўна выкладала ў школе біялогію і хімію. Што яна магла гаварыць пра мяне? Думкі таропка шукалі тую крамолу, на якой і падлавіла мяне Раіса Сямёнаўна. Заўважыўшы маю збянтэжанасць, Прафесар пастараўся супакоіць мяне:

«Не хвалюйцеся, яна гаварыла толькі добрае, толькі самае добрае пра вас. Што вы вельмі сур'ёзны чалавек, што ў вас можа быць вялікая будучыня, што вы пішаце вершы і апавяданні. Вы не збіраецеся прысвяціць сябе літаратурнай працы?»

Гэта праўда, я пісаў і вершы і апавяданні. Хто не спрабуе свае сілы ў літаратуры, маючы няпоўных васемнаццаць год. Але я нікому пра тое сваё захапленне не гаварыў. Адкуль Раіса Сямёнаўна дазналася, што я пішу вершы? І гэта зноў спарадзіла ў маёй галаве рой трывожных думак. Адмаўляць, што я сапраўды пішу апавяданні і вершы, было неразумна. І я прызнаўся: пішу, але для сябе, друкавацца не збіраюся. Яшчэ я балбатаў нешта пра героіку і рамантыку. Адным словам, нёс вымушанае глупства. Прафесар слухаў мяне ўважліва, а калі я выгаварыўся, ухваліў:

«Пісьменнік і павінен тварыць для сябе. Тады будзе шчыра і праўдзіва. Кожны радок, напісаны пісьменнікам, павінен быць ягонай споведдзю. А спо-

ведзь не церпіць хлусні. Літаратура помсціць тым, хто хлусіць, хто піша, азіраючыся на розныя абставіны і на свой дабрабыт. Рана ці позна, але хлуслівыя творы прадстануць перад чытачом, як голы кароль перад дзіцем».

Размова была дзіўнай, не патрэбнай мне і нуднай. Яна прыгнятала. Хутчэй на яе ўплывала мая насцярожанасць. Ведаеце, гэткае азіранне па баках: а ці не трапіў я ў пастку? Ва ўсякім выпадку, мне хацелася як найхутчэй высветліць тую прычыну, з-за якой я і сяджу тут, на другім канцы Ссылкі. Не клікаў жа мяне Прафесар дзеля таго, каб папрактыкавацца ў красамоўстве?

«Даруйце, вы хацелі сказаць мне нешта важнае»,— нагадаў я яму.

Прафесар замітусіўся, збянтэжыўся, пачырванеў.

«Так, так, хацеў... хацеў, малады чалавек, прасіць вас... Але найперш давайце дамовімся, што пры любых абставінах гэтая гаворка застанецца паміж намі. Пры любых абставінах, малады чалавек! Падкрэсліваю з усёй настойлівасцю...»

З аднаго боку, мяне гэта павінна было б задавальняць, а з другога — цюкнула ў галаву, што Прафесар няйначай уцягвае мяне ў нейкую змову. Што ў такім выпадку я павінен рабіць? Усялякі данос быў мне агідны, я не мог цярпець яго. Але калі Прафесар пацягне мяне ў якую контррэвалюцыйную змову? Што тады? Канечне, ужо быў Сталінград, ужо засвяціла перамога, але яшчэ з даваенных часоў жыла ў нас гэткая насцярожанасць наконт дзеянняў ворагаў савецкай улады.

І зноў з-за сваёй разгубленасці я пагадзіўся на Прафесаравы ўмовы. Ён падышоў да бажніцы, адчыніў яе. Там ляжалі стосы агульных і вучнёўскіх сшыткаў, нейкія папкі, разбухлыя ад таго, што ў іх ляжала.

«Бачыце? — звярнуўся Прафесар да мяне.— Гэта маё багацце. Раманы, аповесці,— ён далікатна пагладзіў сшыткі і папкі рукой, нібы песціў малое, ягоны твар разгладзіўся, вочы па-маладому загарэліся.— Не баюся выглядаць нясціплым, але напісанае — высокае мастацтва. Літаратура ў сапраўдным яе званні. Не пустая пісаніна, каб дагадзіць камусьці, а праўда высокай пробы пра нашы трагічныя дні.

Прытым дасканалая форма і глыбокая думка, не знявечаная рабскай прыніжанасцю перад абставінамі або капрызамі тыранаў. Народ наш, малады чалавек, вялікі і, як ні адзін у свеце, заняволены і забабонны. Ён сам сябе не ведае і не разумее, во ў чым ягоная трагедыя. Ён толькі ў часе вялікіх узрушэнняў пачынае разумець, хто ён і дзеля чаго жыве. Як цяпер, у вайну, можа, самую лютую. Кончыцца вайна, і людзі захочуць праўды, не казённай, раўнадушнай, якой іх шпігуюць, а сапраўднай, яны займеюць права на такую праўду, крывёй здабыўшы гэтае права. Уладную хаду часу не спыніць, і праўду нельга хаваць за турэмнымі кратамі і за калючым дротам лагераў».

Можа, ён гаварыў і не зусім такімі словамі, але, памятаю, яны мяне праціналі да самай душы. Мне здавалася часам, што ён трызніць, як ненармальны. Мне хацелася ўцячы, але я сядзеў і слухаў. Прафесар гаварыў доўга, апантана і раптам замаўчаў. Добра памятаю гэтае імгненне: бясконцая плынь слоў і раптам цішыня, мёртвая, акамянелая.

«Даруйце, разгаварыўся,— сказаў вінавата ён.— Трынаццаць гадоў вымушанага маўчання. Гэта не жартачкі для чалавека, які любіў і ўмеў дыспутаваць. Навучаны маўчаць, я думаў, што забудуся гаварыць. Гэта і скіравала мяне пісаць. Каб не забыць чалавечую мову. Мне тут хапае двух дзесяткаў слоў для зносін з людзьмі. Гэта жахліва! Дык пра што я?.. Ага, наконт просьбы. Вазьміце, малады чалавек, мае творы...»

«А навошта яны мне?» — з наіўнай шчырасцю спытаўся я.

Мабыць, Прафесар чакаў такое пытанне. Ён адказаў не марудзячы:

«Вы іх надрукуеце. Не цяпер. Цяпер іх ніхто не надрукуе. Але ж і такое жыццё не можа быць вечным. Пройдзе шмат часу, і ў нас установіцца вольнае жыццё. Тады і надрукуеце,— і, спахапіўшыся, дадаў, каб у мяне не было сумнення: — Можаце пад сваім прозвішчам».

«А чаму не пад вашым?»

«Я — табу. Ведаеце, што такое табу? Гэта забарона. Дрэвы — табу. Камні — табу. Жывёлы — табу. Людзі — табу. Да іх нельга падыходзіць, кранаць рукамі. Іх нельга бачыць. Пра іх нельга ўспамінаць.

Цяжка паверыць, што некалі з майго імя спадзе табу. Канечне, хацелася б, каб мае творы-табу былі прачытаны людзьмі пад маім прозвішчам. Але тады ўжо я ператваруся ў сімвал, міф, нешта неістотнае, што толькі і прыкладаецца да маіх кніг. Я ўсё спадзяваўся, што вось-вось выпусцяць на волю. Але праз кожныя тры гады мне даюць новы тэрмін, і так бясконца. Здурнець можна! Ведаеце, спрацоўвае нейкі механізм, і ўсё пачынаецца спачатку. Да самай смерці. Дзён пяць назад я пачуў, што адыходжу ў нябыт. Мне стала страшна не за сябе — за рукапісы. Яны ж жывыя. Яны сведкі жахлівых трагедый, якіх, напэўна, не чула чалавецтва. Дык хай пачуе! А іх жа могуць спаліць, як спалілі на кастры Яна Гуса. У мяне ніякай надзеі на выратаванне. Рукапісы апішуць, нехта накладзе рэзалюцыю: спаліць! І іх спаляць! Жывых сведак, каб нічога не было вядома пра мінулае, спаляць. Я малю вас: вазьміце мае рукапісы».

Пакуль ён гаварыў, я крыху ачомаўся, і страсны маналог Прафесара ўжо не здаваўся мне ненармальным. Але тым мацней мяне ахапіў страх. Я баяўся нейкай пасткі, разлічанай на мяне, баяўся, што гэта зусім не пастка, а заклік да нейкай барацьбы, якая можа перакроіць усё маё жыццё, асудзіць і мяне на вечнае зняволенне. Мне ўсе прадказвалі выдатную будучыню: я меў выключныя матэматычныя здольнасці, рашаў задачы за інстытуцкі курс, і мне, калі пашанцуе, можна спадзявацца трапіць у нейкую важную навуковую ўстанову, а тут Прафесар з яго шалёнымі выказваннямі, з падбухторваннем на нейкія справы, якія дабром не закончацца...

«Некалі ўсё пераменіцца, і вы самі надрукуеце свае творы»,— сказаў я, бо нешта трэба было сказаць у страху, што апанаваў мяне.

У Прафесара на вачах выбліснулі слёзы. Ён парыўна ўскочыў, абняў мяне.

«Я не памыліўся,— усклікнуў ён.— Вы і сапраўды, як казала мне Раіса Сямёнаўна, вельмі сумленны і чысты юнак. Тады я адважуся папрасіць вас вось аб чым: патрымайце мае рукапісы гадкоў пяць — сем пасля вайны. Я чамусьці думаю, што цяперашні вялікі кат нашага народа, якога называюць бацькам, пакіне гэты свет, і тады, магчыма, настануць змены. Калі ж

пасля ягонай смерці нічога не зменіцца, хавайце іх да канца свайго жыцця і перадайце дзецям. Вось у гэтым сшытачку мая біяграфія. Хто я, адкуль. Сённяшні свет, свет вар'яцкага заблуджэння, усеагульнага самаашуканства і ўсеагульнай нянавісці. Вайна крывёю змые бруд, ды і не народ вінаваты ў сваім шаленстве. Вінаваты ўмовы, у якія яго паставілі тыранства і вывернутая наспод ідэя. Свет кручаны-перакручаны, на крыві замешаны. Хачу верыць, што шаленства, нарэшце, спыніцца. І не веру. Не магу паверыць. Не ў людзях зняверыўся. Вельмі складаная машына запушчана ў ход, і ці ведае хто, як спыніць яе? Цяперашні «прадаўжальнік» падшукае сабе вернага паслядоўніка, а той пабаіцца выпусціць лейцы з рук, хоць, можа, будзе ненавідзець свайго папярэдніка. Усе наступнікі ненавідзяць сваіх папярэднікаў, хоць і паўтараюць іх дзеянні. Мы ўсе, як вавёрка ў коле,— бяжым на адным месцы. Улада — жахлівая справа, палітыка і таго горш — брудная справа. А мы не ўмеем і, баюся, не хутка навучымся кіраваць народам па-чалавечы...»

— І вы ўзялі тыя творы? — нецярпліва спытаўся Серафім Іванавіч.— Яны і цяпер у вас ці, можа, вы спрабавалі і не змаглі іх надрукаваць?

— Слухайце, што было далей.

«А ці маю я надзею прачытаць дэкляраваныя мне для захоўвання рукапісы?» — спытаўся я.

«Не толькі маеце, але і павінны прачытаць»,— адказаў Прафесар.

За зімовыя канікулы я перачытаў усе рукапісы. Я хадзіў як учадзелы. З кожным прачытаным творам мяне ўсё больш ахапліваў жах. Ведаеце, той затоены жах, што сядзіць у нас спрадвеку, каб, крый божа, не тое што сказаць чаго наперакор афіцыйнай думцы, але нават падумаць. Усё было падпарадкавана таму, каб жах не адпускаў чалавека, інакш чалавек мог задумацца, заўважыць неадпаведнасць таго, што праклямавалася, таму, што было на самай справе.

Я і дасюль часам станаўлюся ў тупік перад феноменам нашага часу, сацыялістычнай эпохі, як прывычна пісалася ў газетах і часопісах. Людзі пухнуць з голаду і дружна крычаць, што жыць стала лепш і весялей. Людзей расстрэльваюць, а яны крычаць лозунгі ў гонар таго, хто даў загад на іх

расстрэл. Нейкі абсурд! Нешта неадпаведнае здароваму чалавечаму розуму. Нават тады, калі з неабвержнымі доказамі ў руках гаворыцца пра злачынства былога генія, нават тады дзесяткі тысяч, а можа, і сотні тысяч людзей сцвярджаюць, што нічога не было, што панаваў энтузіязм. Які? Той, калі галодны крычыць, што ён сыты. Калі невінаваты кажа, што ён вораг і шпіён. Што гэта? Недадуманасць ці жывёльная патрэбнасць адным жыць за кошт жыцця другіх?

Даруйце, я вельмі адхіліўся. Нагадак пра мінулае не дае спакою. Дык чаго я спалохаўся? А чаго тады палохаліся ўсе? Асабліва такія, як я. Раманы і аповесці Прафесара апавядалі пра неадольную прагу людзей да сваёй мары. Яго героі былі сапраўдныя рэвалюцыянеры. І вось іх ламалі, трушчылі, здзекаваліся, каб ператварыць у бязмозглых робатаў, якія пры любых умовах жыцця, не задумваючыся, будуць крычаць пра сваё шчасце, пра свой дабрабыт. Прафесар намаляваў цэлую галерэю сумленных людзей, якія прагнулі справядлівасці і шчасця, разам з тым вывеў і такіх, якія самі ператварыліся ў катаў, і такіх, хто зразумеў рэвалюцыю як магчымасць распараджацца людскімі лёсамі. Ён намаляваў эпоху, якую не ведаю, калі і хто яшчэ намалюе ў нашай літаратуры. Даруйце, але вы, сучасныя літаратары, старыя і маладзейшыя, прывыклі азірацца назад, у вас сядзіць унутраны цэнзар, які не дасць вам магчымасці зрабіць у літаратуры тое, што зрабіў Прафесар.

— Ну, мы таксама тое-сёе зрабілі, і наракаць на нас не варта,— не вельмі ўпэўнена сказаў Серафім Іванавіч.— Але ж вы ўзялі тыя сшыткі?

— У тым і трагедыя, што не ўзяў,— асуджана прызнаўся Алег Раманавіч.

Настала доўгае і вельмі няёмкае маўчанне. Серафім Іванавіч думаў над тым, а як бы ён зрабіў сам, адважыўся ці не адважыўся б узяць рукапісы незнаёмага чалавека, за якім, няйначай, існаваў нагляд? Пытанне было зусім не рытарычнае, а этычнае, бо па колішніх уяўленнях браць рукапісы не толькі было небяспечна, але і злачынна. На сённяшні дзень учынак акадэміка Максімава выглядаў не проста абсурдна, але і непрыгожа. Каб не спалохаўся, каб узяў рукапісы, магчыма, сёння свет чытаў бы

найвялікшую літаратуру пра самы складаны час найвялікшай на кантыненце дзяржавы і яе трагічных насельнікаў. Лёс рукапісаў невядомага чалавека чамусьці трывожыў Серафіма Іванавіча іменна трагічнасцю часу, у якім тыя, што не казалі ўсёй праўды, друкаваліся, мелі славу і грошы, другія не маглі друкавацца, бо казалі ўсю праўду, а таму іх творы гінулі ў невядомасці. Які невыносна жорсткі час!

Алег Раманавіч чакаў ад Серафіма Іванавіча прысуду свайму тагачаснаму ўчынку. Яму было зусім не важна, які будзе вынесены прысуд, толькі б быў вынесены і можна было ўздыхнуць. Маўчанне Серафіма Іванавіча бянтэжыла Алега Раманавіча. Ён з дакорам паглядзеў на свайго суддзю і мучыцеля: ну, чаго маўчыш, чытай прысуд!

— А як вы апынуліся ў Сібіры? — раптам спытаўся Серафім Іванавіч? Алег Раманавіч ад гэтага неспадзяванага пытання нібы ачнуўся ад кашмарнага сну.

— Звычайна... Як многія... Маіх бацькоў, дзеда, дзядзьку — увесь максімаўскі корань адным махам раскулачылі, саслалі ў безжыццёвы стэп, кінулі там на здыханне, як кідаюць на здыханне непатрэбных гаспадару сляпых шчанюкоў.

Серафім Іванавіч пачуў, як нейкая цьмяная здагадка кальнула ў сэрца, у глыбінях мозгу выбліснуў кашмарны ўспамін, але не разгарэўся, а патух, хоць невыразны след ад яго прадаўжаў трывожыць.

— А дзе вы жылі да раскулачання?..

Алег Раманавіч скупа ўсміхнуўся.

— Я быў дужа малы, каб помніць. Хоць нешта мроіцца ў памяці. Нейкія вагоны з маленькімі вокнамі без шкла, якія мама затыкала падушкамі, і снег. Шмат снегу. Яшчэ рака, па якой ішла машына, маленькая і зялёная.

— І бацькі нічога не гаварылі?..

— Гаварылі. Бабуля, бывала, гаварыла. Бацька памёр рана, мне і сямі не было. Я яго амаль не памятаю. Дзед таксама неўзабаве памёр. А маме не было калі займацца ўспамінамі.

— І што казала бабуля? Яе выпадкова не Кацярынай звалі?

— Так, Кацярынай, а дзеда Максімам, а бацьку, вядома, Раманам, калі я Раманавіч...

— Стоп! Стоп! — аж не чуючы сябе, закрычаў Серафім Іванавіч. Шафёр падумаў, што загад адносіцца да яго, звярнуў на абочыну, азірнуўся.— Ды я не табе,— абурыўся бесталковасці шафёра Серафім Іванавіч.— А дзядзьку твайго звалі Хведарам, а ягоную жонку Дуняй, а ў вас яшчэ былі Фруза, Піліпок, Зіна, Вася. А тваю маці звалі Васіліса...

— Фруза, Зіна і Вася памёрлі, а Піліпок загінуў на фронце,— як на допыце, адказаў Алег Раманавіч.— Але хто вы?

— Перастань выкацца,— абняўшы Алега Раманавіча за плечы, сказаў Серафім Іванавіч.— Ты мне лепей скажы, а дзядзька Хведар жывы?..

— Не. Яго арыштавалі ў трыццаць чацвёртым, адразу пасля забойства Кірава. Мабыць, расстралялі. Тады многіх расстрэльвалі. Я чаму так думаю, бо ў лагер забралі і цётку Дуню.

— А я цябе во якім ведаў. Саплівым,— Серафім Іванавіч крануўся калена.— І во дзе давялося сустрэцца. Мы ж з табой дваюрадныя, а Сцяпан Мікалаевіч, у якога мы гасцявалі, таксама наш дваюрадны брат, сын Варкі, малодшай дзедавай дачкі.

— Я чуў пра яе, але што — не памятаю,— сказаў Алег Раманавіч, ашаломлены пачутым.— Такое і ў сне не прысніцца.

— Едзем да мяне. Едзем, і ніякіх адгаворак. Пагаварыць трэба. Атамная твая не ўцячэ. Паляціш заўтра.

Алег Раманавіч ніяк не мог ачомацца ад навіны, што народны пісьменнік рэспублікі — ягоны дваюрадны брат. Было гэта ашаламляюча, а таму ён толькі розумам і адчуваў падзею, але пачуцці яго заставаліся соннымі.

Ужо седзячы за сталом на дачы, Алег Раманавіч раптам спытаў пра тое, што спакваля выспявала ў ім:

— А чаму Недасейка? Псеўданім?..

Серафім Іванавіч толькі цяпер скеміў, што яны з дваюрадным братам павінны былі б насіць адно прозвішча: Максімаў.

— Не, не псеўданім,— задумліва сказаў ён.— Прозвішча маці...

— Чаму маці?..

З далёкай далечыні пачуўся матчын голас. Яна спрачалася з Серафімавым вотчымам. Спрэчка тады так і засталася незразумелай Серафіму.

— Бачыш, я і дасюль не разумею адносін маці з бацькам і што тады адбылося. Усё збіраўся зазірнуць у архівы, але каму цікава маё мінулае і мінулае маіх бацькоў?

## Частка другая:

## водгулле далёкага болю

### 1

Калі Серафіму споўнілася чатыры гады, маці надумала выходзіць замуж у другі раз. Яна ўсё часцей пакідала яго на бурклівую цётку Дар'ю, якая была ў іх за домработніцу. Нярэдка, позна прыйшоўшы дамоў, маці будзіла хлопчыка, моцна туліла да цёплых грудзей, ад якіх пахла парфумай і табакай.

Цётка Дар'я злавала і ўсё нечага сварылася на маці; Серафіму гэта не падабалася — маці была самай добрай, ласкавай і прыгожай, лепшай за іншых мам, а таму ніхто не меў права яе крыўдзіць.

Неяк маці прыйшла ў маленькі пакойчык, дзе хлопчык сядзеў на прыгожым белым кані з чорнай грывай, адчайна махаючы перад сабой залатой картоннай шабляй, выцерла яму нос і сілком пацягнула ў гасцінную.

Серафім не цярпеў гвалту, а таму вельмі рашуча запратэставаў, хацеў нават укусіць маміну руку, якая моцна трымала яго і вяла насуперак ягонай волі, але, убачыўшы ў гасцінай чужынца, адразу аціх і зміры ўся. Чалавек быў нечым страшны: даўгатвары, круталобы, з чорнымі вусамі, гарбатым носам, вельмі жорсткімі вачамі і вялізным гарляком на худой шыі. Да ўсяго ён сядзеў, разваліўшыся на канапе, абабітай чорным хромам, на якой Серафіму не дазвалялася сядзець, а тым больш валяцца.

Серафім схаваўся за маміну спадніцу, якая не раз ратавала яго ад нахабных чужакоў. Звычайна мама ў такія хвіліны перапрошвала гасцей:

— Бачыце, які ён дзікунчык? — і, падштурхнуўшы Серафіма ў спіну, казала: — Ну, бяжы, гуляй...

Цяпер маці рашуча паставіла яго перад сабой, моцна трымаючы за плечы. Пальцы ў яе трымцелі.

— Сынок,— сказала яна чужым незнаёмым голасам,— гэта будзе твой тата... Скажы яму: добры дзень, тата.

Серафім зацкавана глядзеў на неспадзяванага тату і ўпарта маўчаў. Ён адчуваў маміну няшчырасць, якую ў думках называў хлуснёй, а таму не ведаў, ці трэба хлусіць і яму?

Цяжкае, няёмкае маўчанне зацягвалася. Вялізны гадзіннік з дзвюма гірамі і пазалочаным маятнікам, падобным на аўсяны блін, хрыплавата лічыў час. Названы тата ерзануў на канапе, паклаў нагу на нагу, выстаўляючы напаказ жоўтыя крагі і чаравікі з бліскучымі засцежкамі.

— Цябе як завуць, хлопчык? — спытаўся ён халодным, злым голасам, які насцярожваў і палохаў.

— Серафім...

— Імя, скажу я табе, падкачала: херувімы, серафімы!.. Зайграванне з божанькам...

Мама пасяшалася на выручку. Гаварыла яна такім тонам, быццам прасіла ў чужога чалавека даравацць ёй за сынава імя:

— Мы яго Сімам завём... Івану хацелася, каб сын насіў самае простае імя...

Будучы тата маміна тлумачэнне прапусціў міма вушэй. Ён прадаўжаў гаварыць да Серафіма:

— Ты будзеш Сеня. Гучыць па-пралетарску. Сеня!.. А што, добра! Я запішу цябе на сваё прозвішча. Сеня, падыдзі да мяне...

Серафім яшчэ мацней прытуліўся да маці.

— Ідзі, Сеня, тата кліча,— падштурхнула яго маці, і ён зразумеў, што з гэтай хвіліны мама адступілася ад яго.— Яму патрэбны час, каб прывыкнуць да цябе. А так ён ласкавы...

— Ласкавасць, Маруся, катэгорыя класавая,— павучальна сказаў будучы тата і выцягнуў з кішэні фрэнча круглы і бліскучы гадзіннік.— Хочаш, патрымай...

«Ашуквае»,— падазрона падумаў Серафім, прыгадваючы, як заўчора суседскі хлапчук Міця, гады на тры старэйшы, папрасіў яго патрымаць катушку ад нітак. Але як толькі Серафім узяўся за яе, штосьці вострае балюча ўпілося яму ў далоні. Ён стаяў у нерашучасці.

— Ты чаго? Баішся? Не давяраеш?.. Правільна,— пахваліў Серафіма будучы тата.— Давяраць, брат, трэба з аглядкай.

Вялікім пальцам правай рукі будучы тата націснуў

на кнопку, гадзіннік раскалоўся напалам, зайграў марш. Уражаны не гадзіннікам, а музыкай, Серафім падышоў да канапы, паспрабаваў разгледзець, хто там іграе.

— Мяне завуць Марк,— сказаў будучы тата.— Можаш так і зваць — Марк.

Асмялеўшы, Серафім узняў вочы. Яго ўразілі вусы госця.

— Яны ў цябе прыклееныя? — спытаўся ён.

Марк зарагатаў, адкінуў галаву на падушку. Вялікі вастраваты гарляк выпіраў з высокага каўняра-стойкі.

— А ён не пазбаўлены назіральнасці,— сказаў Марк.— Для нашай прафесіі якасць надзвычай важная.

Маці сказала Серафіму, як і бывала:

— Ідзі пагуляй. Толькі далёка не адыходзь...

Угнуўшы галаву, Серафім прашмыгнуў міма маці, баючыся, што яна абавязкова пагладзіць яго па галаве. Яму гэта не падабалася.

У сенцах, падобных на прыхожую, стаяла, абапершыся на вушак дзвярэй, цётка Дар'я. Яна загарадзіла Серафіму дарогу на двор.

— Мама дазволіла мне пайсці пагуляць,— сказаў Серафім.

— Эх ты, дзіцятухна,— уздыхнула Дар'я.— Ідзі ўжо...

На двары раскашавала вясна. Два старыя каштаны бялелі квеценню свечак. Зялёныя косы бяроз за царкоўнай агароджай цяжка звешваліся да самай зямлі. Пад імі жаўцелі кветкі дзьмухаўца. Па бруку скакалі вясёлыя вераб'і. У небе цяжка плылі чароды белых воблакаў.

З таго боку вуліцы Серафіма гукнула Насцечка, бяляâенькая, аж уся нейкая празрыстая, дачка краўчыхі Рагацікавай. Паліна Рагацікава жыла ў каменным доме з сутарэннем, таксама заселеным розным людам. Дом гэты належаў каапературыву саматужнікаў і быў напакаваны так шчыльна, што не заставалася ніводнага метра свабоднай плошчы. Таму і на фасадзе яго было цесна ад пярэстых самаробных шыльдаў, якімі жыхары дома вельмі ганарыліся. Сярод іх была і шыльда з белабрысай жанчынай у спадніцы з мноствам складак і двума таямнічымі

словамі: «Плісэ і гафрэ. Белашвейка Рагацікава».

Насцечка дачакалася Серафіма, крутнулася перад ім, аж новенькая ў кветачкі сукенка ўзнялася парасончыкам.

— Сама пашыла,— пахвалілася яна.— Усё рукамі... Кожны шоўчык рукамі. А нібы на машынцы прастрочана... Не верыш?

Серафім старанна надзімаў шчокі, спрабуючы адгадаць, хлусіць Насцечка ці гаворыць праўду. Здаецца, не хлусіць...

— Я думаў, яе твая мама пашыла,— прызнаўся ён.

— У яе часу няма. Дужа адказны заказ. Пападдзя сарафан заказала... З парчы... Хочаш, пойдзем гуляць за царкву?..

Насцечка гады на чатыры старэйшая за Серафіма, але з выгляду ёй не больш пяці гадоў. Насцечцы дазвалялася многае. Серафіму, наадварот, усё забаранялася. Ён саромеўся матчыных наказаў і таму нязменна адгукаўся на Насцеччыны прапановы згодай. Хоць куды пайсці, абы не паказаць, што яму забаронена.

Пабраўшыся за рукі, яны дайшлі да царкоўнай агароджы, пайшлі паўз яе па вузенькай вулачцы, пакуль не выбраліся на царкоўныя задворкі — кавалачак пожні перад Духаўскім ровам.

Калі адважыцца і падысці да самай кручы, дык можна было ўбачыць глыбока ўнізе дно рова, па якім у засені вербалозу бег ручай. Ад глыбіні кружылася галава. Серафім заўсёды адступаў задам, баючыся зваліцца з кручы. Але кожны раз яго зноў цягнула зазірнуць у бездань. Так ён пазнаваў роў-страшыдла, супрацьлеглы бераг якога быў спаласаваны сцежкамі — жаўтаватымі пісягамі на зялёным колеры травы.

Рова Серафім баяўся і па іншай прычыне — недзе там ляжалі нябожчыкі. То была не фантазія — сапраўднасць...

Неяк Серафім падслухаў, як каваль Улас Пажога расказваў Паліне Рагацікавай:

— Ісцінны бог, Паліна Пятроўна, каб мне з гэтага месца не сысці, калі хлушу. Ноч хоць і цёмная была, але я ўсё чысценька бачыў. Стаяць яны шарэнгай над самай кручай, а па іх залпам з вінтовак. Як карова языком злізала. Усіх...

— Можа, хто жывы застаўся? — выказала здагадку белашвейка.

— Што ты, Пятроўна, круча... Там расстраляных і закапалі. Пад гарою...

— А каго пастралялі за царквой над кручай? — аднойчы спытаў ён цётку.

Тая нечага спалохалася і ледзь не шэптам запыталася:

— Ты адкуль ведаеш?..

— Каваль гаварыў...

— Тых і пастралялі, хто з уладай нязгодны. Толькі ты пра гэта каб нікому не расказваў... Чуеш, маўчы, бо і цябе могуць расстраляць...

Серафім уявіў, як ён ляціць у прадонне з кручы, і яго аж страсянула ад жаху.

Каля царкоўнага плота некалі бралі пясок. Утварылася яма. З цягам часу яна зарасла травой, і толькі ранняй вясной у ёй стаяла крыху вады. Паўднёвы бераг ямы нехта прадзіравіў мноствам пячурак-нішаў. Насцечка сяліла ў нішах лялек. Дзе парамі, дзе сем'ямі, а дзе і па адной. Лялькі яна майстравала з абрэзкаў тканіны, што заставаліся ад заказчыц.

Пасяліўшы лялек у пячурках, Насцечка лягла на схіл ямы, заплюшчыла вочы. Так яна ляжала доўга-доўга, аж Серафіму зрабілася страшна.

— Насця, Насця,— пакратаў ён яе за руку.— Чаго ты маўчыш?

— Я мару,— адгукнулася яна.

— Пра што?

— Калі, дасць бог, выжыву, стану краўчыхай. Я дужа люблю шыць прыгожыя сукенкі, халаты, сарафаны, спадніцы — усё, усё. Толькі ці выжыву? Наступнай вясной, бадай, памру.

— Чаму?

— Ад сухотаў жа паміраюць. Дактары іх не лечаць. Калі памру, дык мяне ў белае плацце адзенуць. Каго ў белае плацце адзяваюць, той адразу анёлам становіцца. Бог яго да сябе забірае.

— А паміраць страшна?

— Не, зусім не страшна. Мяне бог на неба забярэ. Там добра, ніхто не сварыцца. Усюды райскія птушкі пяюць. Кветкі цвітуць. А над імі анёлы пырхаюць, бога хваляць.

— А матылькі там лятаюць?..

— Во, дурны! Хто ж туды матылькоў пусціць.

— Без матылькоў сумна,— сказаў Серафім і, памаўчаўшы, папрасіў: — Ты ўжо не памірай, Насцечка. Я цябе любіць буду...

— Во, дурны!.. Я за цябе нашмат старэйшая, а ты яшчэ дужа малы...

Серафім пакрыўдзіўся. Яму хацелася нечым уразіць Насцечку.

— А мама прывяла мне тату,— сказаў ён, чакаючы, што Насцечка здзівіцца.

— Я ведаю,— не здзівілася яна.— Страшны такі...

— У яго гадзіннік з музыкай,— абараніў Марка Серафім.

— У мяне таты не было,— уздыхнула Насцечка.— Я — нагуляная.

— Як нагуляная? — здзівіўся Серафім.

— А во так: гуляе дзеўка ды і прынясе ў прыполе.

— Каго прынясе?..

— Во дурны!.. Дзіця...

— І цябе ў прыполе прынесла?

— Анягож, хоць і кажа, што знайшла ў жыце.

— Хто кажа?

— Ну, мамка, вядома...

— Ты ёй не верыш?..

— Не, бо каваліха казала, што яна мяне нарадзіла.

— Як гэта нарадзіла?

— Многа будзеш ведаць — састарышся,— упікнула Насцечка.

Серафім упершыню задумаўся над тым, адкуль узяўся ён, у чым яго прынесла дамоў мама. Ён хацеў запытаць пра гэта ў маці, але яна была вельмі занятая — рыхтавалася да вяселля. Тады ён спытаў у цёткі Дар'і. Тая дапытліва глянула на яго, хітра ўсміхнулася, але сказала без аніякай насмешкі:

— Дзяцей, дзетка мая, бог дае. Бог усё дае: сонца, дождж, снег, птушак, жывёлу, розную погань...

— А дзе ён іх бярэ?..

Новае пытанне паставіла цётку Дар'ю ў тупік.

— Сам стварае...

— А Насцечка кажа, што дзяцей у прыполе прыносяць...

— Малы ты яшчэ, не ўсё табе дадзена ведаць. Падрасцеш — зведаеш. А пакуль запомні: дзеці ад бога. Ён іх дае людзям на радасць і пакаранне.

Серафім адчуваў, што цётка Дар'я або сама нічога не ведае, або хлусіць. Ён ужо ведаў, што ў такіх выпадках распытваць дарослых бескарысна.

Часам да цёткі Дар'і прыбягала ўнучка Аксінка, дужа важная і непадступная, з закапыленым носам і двума бантамі ў белых растапырках-касічках.

— Добры дзень, хлопчык,— віталася яна з Серафімам завучана і строга.

Серафім не адказваў. Яму здавалася, што Аксінка насміхаецца з яго і гэтым прыніжае.

— Чаму ён не адказвае? — пыталася Аксінка ў бабулі.— Я таксама не хачу вітацца з ім. І ты мяне не прымушай...

— Дык ён жа яшчэ маленькі,— старалася апраўдаць яго цётка Дар'я.— Падрасце — і сам будзе вітацца.

— А я ўсё роўна не хачу з ім вітацца.

— Сірот трэба шкадаваць,— казала бабуля ёй.— У яго во не родны тата, а вотчым...

У голасе цёткі Дар'і чулася спачуванне. Яно кранала Серафіма. Ён пачынаў шкадаваць сам сябе, аж набягалі слёзы. Але станавілася і нашмат лягчэй.

«Хутчэй бы прыходзіла вяселле»,— думаў Серафім.

Яму здавалася, што вяселле нешта зменіць у ягоным жыцці...

Вяселле гулялі на тройцу. Пра гэтае свята згадала цётка Дар'я, якая не адабрала матчынага замуства без вянчання ў царкве, без бацькоўскага благаславення.

— У такое свята ды каб з вянцом — да канца жыцця шчасце гасцявала б у доме. А так адным чарцям пацеха, і чарцінае шчасце чакае іх...

— А чэрці дзе жывуць? — спытаўся Серафім.

— А ўсюды... Дзе грэх, там і яны. Вотчым твой самы што ні на ёсць — чорт рагаты.— Яна нечага спахапілася, разгублена азірнулася: — Ты пра тое, што я вотчыма твайго чортам назвала, нікому не кажы. Нават маці. А я табе жавараначка спяку. Добранька?..

Серафіму вяселле запомнілася нязручным адзеннем: белая кашуля з высокім жорсткім каўняром, фрэнч, падпяразаны рэменем, штаны-брыджы, хромавыя боты, у якіх было горача нагам. Ён сядзеў за сталом поруч з маці — яшчэ адна нязручнасць. Трэба

было трымаць сябе па-сталаму, як вучыла цётка Дар'я. А ў астатнім вяселле нагадвала звычайную застоліцу на святыя дні, калі да мамы прыходзілі госці.

Серафім ледзь дачакаўся канца застоліцы. Раптам усе паўскоквалі з-за сталоў, вынеслі іх у сенцы, аднекуль паявіліся музыканты: скрыпка, гармонік, цымбалы.

Гарманіста з цымбалістам Серафім бачыў упершыню. Затое скрыпача ведаў добра: Натан Ліпкін, або проста Нотка, як яго звала цётка Дар'я.

Нотка жыў на Заручэўі, непадалёк ад Аксінчынай маці Ліды. Часам цётка Дар'я з дазволу мамы брала Серафіма з сабой да сваёй дачкі. Спачатку яны ехалі трамваем, потым ішлі ўгору, зварочвалі на вузкую пакручастую вулачку, і адразу слых лавіў пяшчотныя гукі музыкі.

— Нотка на скрыпцы іграе,— тлумачыла цётка Дар'я.

Нотка стаяў каля расчыненага акна і, схіліўшы галаву набок, паволі вадзіў смычком па струнах. З-пад смычка, трапечучы, выпырхвалі чароўныя гукі і заміралі ў цішыні ўскраіннай вуліцы.

Аднаго разу, калі яны з Насцечкай сядзелі ў яме за царквой, яна па сакрэце сказала, што Нотка ходзіць за мяжу і прыносіць адтуль розныя тавары, якіх у нас днём з агнём не знойдзеш.

— Адкуль ты ведаеш? — спытаўся Серафім.

— А ён і маме прыносіць тавары. Пярсцёнак таксама адтуль прынёс.

— А замяжа тая далёка? — пацікавіўся Серафім.

— На краі свету,— адказала Насцечка.— А калі Нотку зловяць, дык без суда расстраляюць.

— Над кручай?..

— Пра гэта ніхто не ведае.

Серафім хацеў сказаць, што ён ведае, расстрэльваюць тут, але чамусьці змаўчаў.

Нотка быў звычайным чалавекам, і Серафім падумаў, што Насцечка яму нахлусіла.

Музыканты ігралі вальс.

Марк і мама кружыліся ў цэнтры круга, утворанага гасцямі. Адна Маркава рука трымала маму за талію, другая была адтапырана ўбок. Мама свае рукі

трымала на ягоных плячах. У яе быў вельмі шчаслівы выгляд.

Прайшоўшы кругі са тры, Марк сказаў: «Годзе!» і падвёў маму да канапы. Сам сеў поруч. Музыканты нібы чакалі канца іхняга танца, бо зайгралі нешта зазыўное, вясёлае, і адразу на круг выскачыла Аксінчына мама Ліда. Яна прабеглася па крузе, спынілася і заспявала прыпеўку. Слоў Серафім не разабраў, а госці дружна зарагаталі, сталі падахвочваць Ліду на новыя прыпеўкі.

Скокі развесялілі Серафіма. Ён хацеў і сам выскачыць на круг, але да яго падышла цётка Дар'я.

— Сімачка, табе час у пасцельку,— сказала яна.

Ён не стаў капрызіць.

Лежачы ў ложку, Серафім слухаў прыглушаную сценамі гамонку, самотную скаргу скрыпкі, перазвон цымбалаў і аднастайнае тувіканне гармоніка: туві-туві-туві... У акно сеялася сіняе месячнае святло. Лёгкія шызыя цені лянотна варушыліся на падлозе, нібы жывыя зданні, і толькі на сцяне нерухомай была вялізная і таксама сіняватая пляма, а ў ёй матава пабліскваў медальён з маміным партрэтам.

Аднаму нават было лепей — ніхто не перашкаджаў марыць. А мар у Серафіма было шмат. Найпершая — хутчэй стаць дарослым, каб можна было распараджацца сабой, як захочаш, а не як захочацца маме або цётцы Дар'і. Мары былі ціхія. Серафім хутка заснуў, а калі раніцай прачнуўся, падумаў, што вяселле яму прытрызнілася. У доме было ціха-ціха.

Напалоханы цішынёй, ён басанож кінуўся ў маміну спальню, уляцеў туды і закрычаў ад жаху: Марк з усёй сілы душыў маці.

Убачыўшы Серафіма, ён павярнуўся на бок, а мама, яго ласкавая мама, гнеўна спытала:

— Табе што патрэбна?

Марк усміхаўся.

— Перш чым заходзіць у маміну спальню, трэба пастукаць,— павучальна сказаў ён.

Серафім крыху пастаяў у задумлівасці і пайшоў да сябе. Яму зрабілася адзінока і журботна.

## 2

Памяць успыхвала навальнічнымі бліскавіцамі, як і ў тую ноч, калі ён прачнуўся ад гулкіх грымот і глухога, раз'юшанага вуркатання.

Было лета. Спёка трымалася даўно, не саступаючы месца прахалодзе нават у ранішнія гадзіны. За дзень брук так напаляўся, аж не ступіць босымі нагамі. Усё жывое вяла, нікла пад гарачым дыханнем усходняга ветру, хоць і нямоцнага, сухога, але вельмі калючага, як бывае калючым толькі паўночны вецер у піліпаўку.

Цяпер ужо і забылася, у якое лета стаяла тая суша: у тое, калі маці выйшла замуж, ці праз год, а можа, і праз два пасля вяселля. Памяць захавала начную навальніцу і ягоны страх не ў часе, а ў прасторы. Серафім тады ўпершыню выразна адчуў прастору — яе глыбіню і неабсяжнасць. Ён прачнуўся ад задухі і грукату, нібы хто ехаў па чарапічных дахах, і тут жа яго асляпіла сінім пякельным святлом.

Маці дома не было. Яны з Маркам цяпер рэдка бывалі дома, часам не прыходзілі і нанач.

Праца маці і Марка выклікала насцярожаную цікаўнасць, асабліва пасля таго, як Серафім падслухаў іхнюю размову.

То быў рэдкі выпадак, калі Марк з мамай вярнуліся дамоў разам і рана, а вярнуўшыся, адразу заспрачаліся. Серафім сядзеў у сваім пакойчыку. Выкарыстаўшы тое, што цёткі Дар'і не было, ён бесперашкодна падкраўся на дыбачках да дзвярэй залы і слухаў размову маці і Марка, пакуль яму не надакучыла.

— Табе не хапае класавай нянавісці,— адказаў Марк на нейкі матчын папрок, сэнс якога Серафім не зразумеў.

— Затое ў цябе гэтай класавай нянавісці аж лішне...

— Мы па турмах сядзелі і рэвалюцыю рабілі не дзеля таго, каб цярпець побач розную погань.

— Ты, дапусцім, не сядзеў па турмах,— чамусьці сярдзіта перапыніла яго маці.— Ды і не ў гэтым справа.

— А ў чым? — павысіў голас Марк.

— Ты даў слова...

— Слова?.. Ха-ха-ха!.. Слова!..

— Ну, так, так, я і забылася: ты даваў слова і мне, што і валаска з ягонай галавы не ўпадзе...

— А ты што думала, будзем лялькацца з тваім Іванам? Ды я тысячу слоў скажу, абы тактычна раскалоць контру і шлёпнуць яе па ўсіх пралетарскіх законах.

— Цяпер я гэта ведаю...

— Во і добра.

— Але сына я табе не дам. Ён застанецца на маім прозвішчы.

— Прозвішча — прысохлы да чалавека перажытак, я дам яму пралетарскі энтузіязм і марксісцкую загартоўку.

Раптам мама перастала рахавацца з Маркам, і Серафім хуценька шмыгануў у свой пакой. Сутнасць размовы ён не зразумеў, таму і звярнуўся да цёткі Дар'і з пытаннямі, якія чамусьці насмерць перапалохалі яе:

— Засцеражы цябе божа каму-небудзь яшчэ расказваць пра чутае. Маўчы і нікому ні слова.

Серафім моцна-моцна заплюшчыў вочы. Недзе нешталяснула, і пошчак пракаціўся па вуліцы, як рэха ў пустой царкве. Серафім падумаў, што страхоцце мінула, і ён расплюшчыў вочы, стаў глядзець у акно.

Начное сіняватае неба апярэзвалі агніста-чырвоныя і сляпуча-белыя маланкі. Яны выхаплівалі з апраметнай цемры, што панавала на зямлі, чорныя, абвугленыя прысады, дахі дамоў і царкоўны купал з залатым крыжам, адзінай неабвугленай, бліскучай рэччу на ўсю ваколіцу. Серафіма асабліва ўразілі чорныя дрэвы. Яму здалося, што і сам ён падобны на галавешку ў пякельных скоках маланак.

Раптам недзе зусім блізка моцна ўдарыў пярун, аж задрыжалі шыбы, а здаля, нейкім страшным зверам, адгукнуўся яму пагрозлівы рык. Ён даляцеў да Серафімавага пакоя якраз тады, калі зноў грукнуў пярун. Два гэтыя ўдары зусім напалохалі Серафіма, і ён кінуўся да цёткі Дар'і — усё удваіх смялей перацярпець страхоцце.

Цётка Дар'я ляжала ніцма на падлозе, задраўшы зад у ніжняй белай спадніцы-паддзёўцы, молячы багародзіцу на іконе з пазалочаным акладам незразумелымі, страшнымі словамі, якія выклікалі ў Серафі-

ма яшчэ большае, як дасюль, пачуццё страху: «Маці сіпатая, ракам накрытая, а я прад табой на каленях стаю...»

Незразумелыя словы малітвы, голас, якім гаварыліся яны, цётчына пастава ў святле бліскавіц усялялі ў Серафіма яшчэ большую бездапаможнасць перад раз'юшанымі сіламі стыхіі і нечуваны дасюль страх. Гэты страх пасяліўся ў закутках Серафімавай істоты навечна, жыў нават пасля таго, як да яго дайшоў сапраўдны сэнс тых страшных слоў: «Мати вспетая, мраком покрытая, я пред тобой на коленях стою...» На працягу ўсяго жыцця Серафім палохаўся навальніц, яму хацелася зашыцца куды-небудзь у нару, каб вочы не бачылі бліскавіц, а вушы не чулі грымотаў.

...Аднаго дня цётка Дар'я апранула Серафіма ў паліто на ваце, абула ў валёнкі, насунула на галаву шапку, павязала па каўняры шарсцяны шалік. Яго паспешліва выпраўлялі з дому да цёткі Ліды, Аксінчынай маці. Выпраўлялі, зусім не шкадуючы, як таго ката, які надакучыў гаспадарам. Серафім гэта разумеў, але ён нічога не мог супрацьпаставіць магутнасці дарослых.

Ён пакідаў дом з прадчуваннем нейкай бяды, што абрынулася на яго, на іх дом, на маму, якую ён прадаўжаў любіць, нягледзячы на тое, што яна адступілася ад яго дзеля загадкавага, вечна суровага Марка.

Марк быў не на працы, і гэта таксама нямала здзівіла Серафіма. Ён чамусьці хваляваўся, гэты вечна насуплены Марк.

— Мужык, паводзь сябе прыстойна,— наказваў ён Серафіму, на гэты раз не называючы яго ненавісным імем Сеня.

З трамвайнага дэпо на лінію якраз выходзілі пустыя, грукатлівыя трамваі другой змены. Тут яны рэдка калі спыняліся, бадай, толькі тады, калі вагонаважатая або кандуктар заўважалі каго-небудзь са знаёмых. Тады трамвай тармазіў, і знаёмы на прыцішаным хаду ўскокваў у яго.

Трамвай у горадзе хадзіў яшчэ з дарэвалюцыйных часоў. Вагоны таксама былі дарэвалюцыйныя, на свой густ і лад адрамантаваныя мясцовымі майстрамі.

Серафіму з цёткай Дар'яй пашанцавала — на лінію выязджала Ліда. Яна спыніла трамвай пад самым

іхнім носам, яны забраліся ў яго, уселіся на шырокую лаву, пастаўленую ўздоўж сцяны. Да іх падсуседзілася кандуктарка, павязаная ці не трыма хусткамі, апранутая ў кажух, абутая ў валёнкі.

— Куды ты вязеш яго, на ноч гледзячы? — спыталася яна ў цёткі Дар'і.

— Матка рассыпаецца,— напаўшэпт адказала цётка Дар'я.

Дарослыя заўсёды гаварылі нешта незразумелае і дурнаватае. Хіба чалавек можа рассыпацца, як той гарох? Дык і то ён не сам рассыпаецца, а яго рассыпаюць. Серафім паслініў палец, пратаяў ім у наледзі на шкле акенца. Праз яго можна было назіраць за гарадскім мітуслівым жыццём.

Зрэдку па заснежаным тратуары беглі людзі. У двары без варот стаяў дворнік, абапёршыся на мятлу, і некага ўважліва слухаў. З піўной Брусера валіўся на вуліцу п'яны, тыцнуўся носам у гурбу снегу і замёр. Прамільгнуў за агароджай архірэйскі сад, пусты цяпер і няўтульны, занесены снегам, у ім — шэрая аграмадзіна сабора. Трамвай спыніўся. Адсюль ён ішоў на Смаленскі базар, а ім трэба на Заручэўе.

— Ты начаваць застанешся? — спытала Ліда ў цёткі Дар'і.

Яна была дужа важная. Ды і не дзіва — вадзіла трамвай, пакатацца на якім было сапраўдным святам.

— Дзе там. Адразу ж назад. Бо ўжо, мабыць, і акушэрка прыйшла,— адказала цётка Дар'я.

— Вячэра ў пліце,— сказала Ліда.— Хай Ксеня чай згатуе. Дрэль у камандзіроўцы.

— Харчоў я набрала,— адказала цётка Дар'я.

Сям'я Дрэляў — сам Ілья Давыдавіч Дрэль, чэкіст і трыбунальшчык, ягоная жонка Ліда і дачка Аксінка — жыла ў камунальнай кватэры — былым купецкім доме побач з сеннай пляцоўкай і конскім базарам. Дом быў прысадзісты, абчапляны мансардамі і балкончыкамі. Жыў у ім і купец, займаючы два пакоі і кухню ў сутарэнні. Вокны ягонай кватэры знаходзіліся на ўзроўні зямлі і заўсёды былі заляпаны граззю. Серафіма так і цягнула зазірнуць у гэтыя вокны, за якімі было незразумелае яму жыццё. Але, апрача чырвонага агеньчыка лампады ля ікон, ён нічога не мог больш разглядзець.

Купца Серафім пабойваўся, асабліва пасля адной з ім размовы. Уласна, купец задаваў пытанні, Серафім — адказваў.

— Ты чый? — купец тыцнуў пальцам з пярсцёнкамі ў Серафімавы грудзі.

— Нічый...

— Так, паложым, не бывае. Нават бяздомны сабака некалі некаму належаў.

— Я мамін...

— А я гаспадар гэтага дома. Будаваў, сабе ва ўсім адмаўляў, а дом дастаўся чарцям лысым,— у яго раптам балюча перасмыкнуўся твар, купец загаварыў незразумела і страшна: — І тагды ізыдзе сатана із пекла і расселецца па зямлі, несучы людзям смерць ад серы і смуроду, якім дыхае ён, і загіне усё жывое, яко загінула блудніца вавілонская...

Голас у купца перасеў. Ён толькі варушыў пасінелымі губамі. На іх ускіпала ружаватая пена. Серафім кінуўся наўцёкі.

Успамін пра начлег у Лідзіным доме памалу абрастаў падрабязнасцямі, якія былі выпалі з памяці. Прыгадаўся, напрыклад, страхавідны заход сонца. Менавіта ў той вечар па чырвоным небе скочваўся за крыжы на купалах царквы па той бок ракі вышчарблены дыск. Серафім не разумеў, чаму сонца стала вышчарбленым. Яно проста ўразіла яго, запала ў памяць, якая цяпер аднавіла той малюнак.

Тады ягоная ўвага была адцягнута катрыншчыкам, які стаяў на вуліцы і пад гукі катрынкі спяваў не чутую яшчэ Серафімам песню:

На окраине, где-то в городе,
Я в рабочей семье родилась.
Горемычная, лет семнадцати
На кирпичный завод нанялась.

Было трудно мне время первое,
Но потом, проработавши год,
За заводский гул, за кирпичики
Полюбила я этот завод.

На заводе том Сеньку встретила,
Чуть, бывало, заслышу гудок,
Руки вымою и бегу к нему
В мастерскую, накинув платок.

Безработица, как и водится,
По заводам ударила вдруг.

Сенька вылетел, а за ним и я
И еще двести семьдесят штук.

Серафіма здзівіла не песня — яе ён, бадай, не зразумеў,— а тое, як лоўка было ўстаўлена ў яе ягонае імя, дадзенае Маркам. Песня зрабіла новае імя важным, поўным нейкага значэння. Хто ж дрэннае імя ўставіць у песню? Значыць, няма чаго крыўдаваць і на Марка.

На снезе, каля ног катрыншчыка, абутых у старыя рудыя апоркі, стаяла бляшанка з медзякамі — платай катрыншчыку за ягоныя песні. Серафім дастаў партманецік, выцягнуў з яго тры новенькія грашы і адну капейку, сабраныя ім з зайздроснай ашчаднасцю, кінуў у бляшанку. Адзін грош упаў побач з бляшанкай. Серафім нагнуўся, каб падняць яго,— тупы, абадраны да белі насок чаравіка дзеўбануў бляшанку з-пад ягонай рукі, і тая пакацілася, зазвінеўшы медзякамі, рассыпаючы іх па снезе.

Серафім, уражаны такім гвалтам, ускочыў на ногі. Над ім калодзежным вочапам навісаў даўгалыгі чалавек у шэрым шынялі. Ягоны воспаваты твар выпінаўся са шлема, як пераспелы патрэсканы гарбуз. Чалавек крычаў на катрыншчыка і махаў рукамі ў таго пад носам:

— Я табе пакажу безрабоціцу!.. Ціятры уздумаў разводзіць. Анцілігент пракляты, буржуй недарэзаны!.. Я гэтую катрынку тваю на шчэпы пашчапаю... Я табе...

Серафім спалохаўся за катрыншчыка і ад страху схапіў чалавека ў шэрым шынялі за руку, кусануў яе з усёй сілы. У той жа час ён пачуў, як адарваўся ад зямлі, забрыкаў нагамі, не чуючы пад сабой апоры. Чалавек у шынялі трымаў яго за шалік на выцягнутай руцэ.

— Чый гэта? — раз'ятрана закрычаў ён.

— Удоева,— злосна азвалася цётка Дар'я.— Пусці яго, чаўпень...

— Якога Удоева? — яшчэ больш грозна закрычаў той.

— Якога?.. Вашага...

Серафім пачуў, як ягоныя ногі крануліся зямлі, а рука, што трымала за шалік, адпусціла яго. Серафім кінуўся да цёткі Дар'і, ухапіўся за бекешу вышэй каленяў.

— Што ж ты, дурная баба, адразу не сказала? Іць, я мог і пакалечыць мальца... Кусаецца, сцярвец, да галаўнога болю. Але малайчына, яй-богу, малайчына!..

Ён раптам зламаўся напалам, стаў падбіраць бліскучыя медзякі, кідаць іх у бляшанку.

У натоўпе пераглядваліся, пераміргваліся.

Сабраўшы ўсе манеты, міліцыянер падаў бляшанку катрыншчыку.

— Ты да мяне яшчэ трапіш, буржуйская морда,— напаўшэпт, каб не пачулі ў натоўпе, прыгразіў ён старому.

Калі міліцыянер схаваўся з вачэй, натоўп абурана загуў:

— Няма на іх управы...

— Над прыватнымі гандляркамі займелі сілу, па тры разы на дзень бяруць...

— Тыя хай раскашэльваюцца...

— І яны людзі...

Катрыншчык падышоў да Серафіма, уперыў у яго пільны кашачы позірк:

— Дык ты Удоева сынок? — спытаўся ён.

— Пасынак ён ягоны, пасынак,— адказала за Сірафіма цётка Дар'я.

— А я думаў сынок... Хацеў манеткі вярнуць...

Ён падхапіў катрынку пад паху і пайшоў, шоргаючы па снезе апоркамі.

Цётка Дар'я тузанула Серафіма.

— Пайшлі... Няма чаго вушы развешваць...

Серафім зразумеў, што зараз нешта адбылося, але што, не мог здагадацца.

Дом, дзе жыла Ліда, стаяў у завулку за Духоўскай царквой. Перад ім на вяроўках вісела адубелая бялізна; вецер варушыў яе, і бялізна бляшана шамацела.

Калі б ні прыходзіў сюды Серафім, бялізна заўсёды вісела на вяроўках. Здавалася, у доме толькі тое і рабілі, што мылі бялізну. Але чысцінёй дом не вызначаўся: стаяў аблуплены, засмечаны, перакошаны.

Аксінчыны бацькі займалі вялікаватую кухню з рускай печчу і былую купецкую сталовую, перагароджаную для сямейнай утульнасці фанернай перагародкай. У іхнюю палавіну ўваходзілі яшчэ антрэсо-

лі — так называўся пакой з балконам і драўлянай балюстрадай. На антрэсолях жыў Валянцін Віктаравіч Набокаў з сынам Ігарам.

Ігар быў старэй за Серафіма гадоў на шэсць і таму глядзеў на яго зверху ўніз, з пагардай, якая бывае ў хлапчукоў такога ўзросту. Серафім плаціў яму дзіцячай нянавісцю. А што ён мог яшчэ супрацьпаставіць свайму мучыцелю? Толькі пагарду і нянавісць. Ігар да пакутлівага болю даймаў Серафіма непрыстойнымі дурнымі пытаннямі.

Ён і цяпер, як толькі Серафім на секунду затрымаўся ў прыхожай, паявіўся, нечакана зваліўшыся са сваіх антрэсоляў. Уласна, ён не зваліўся, а з'ехаў па выслізганай балясіне вінтавой лесвіцы на задзе, абцягнутым штанамі з чортавай скуры.

— А-а-а, хто да нас завітаў?!. Анёл боскі!.. Херувімчык-Серафімчык!.. Здароў і не кашляй. Што прыкажаш, свой пакажаш ці мой паглядзіш?..

Словы сыпаліся з яго, як з дзіравага меха льняное семя. Звычайна Серафім губляўся ад гэтай безлічы слоў. Ён разумеў усю іх недарэчнасць, яму было сорамна, што Ігар не заўважае ўласнай дурасці, бо яго захліствае пачуццё перавагі над ім, Серафімам, і гэтае дваістае пачуццё пазбаўляла яго магчымасці адказаць Ігару. Але на гэты раз Серафім асмялеў. Можа, яго акрыліла перамога над міліцыянерам?

— Паказвай свой,— сказаў ён.

Ігар вылупіў вочы, нібы бачыў Серафіма першы раз.

— Што я чую, архангел?.. Голас не хлопчыка, а мужа...

Ён дастаў з-за пазухі доўгую чорную трубку, прыцягнуў Серафіму:

— Паглядзі...

Навучаны горкім вопытам, калі старэйшыя хлапчукі каралі яго за лішнюю даверлівасць, Серафім схаваў рукі за спіну.

— Не хачу,— коратка і ясна сказаў ён.

— Дурань, гэта ж падзорная труба... Яна ўсё набліжае ў дванаццаць разоў...

Серафім навёў падзорную трубу на буфет з посудам — той, і праўда, наблізіўся расплылай грамадай.

— А наш дом адсюль можна ўбачыць? — спытаўся ён.

— Пайшлі да мяне.

Ігар паскакаў па вінтавой лесвіцы на антрэсолі. Серафім поўз следам, у адной руцэ трымаючы подзорную трубу, а другой дапамагаючы сабе пераадольваць бясконцыя фарбаваныя прыступкі.

На антрэсолях было два пакойчыкі: адзін Ігараў, другі — бацькаў, а перад пакойчыкамі — пляцоўка з відам на горад, на Серафімава Задунаўе.

Серафімаў дом закрывалі задунаўскія задворкі. Затое Задунаўе — як на далоні: працягні руку і пакратаеш заснежаныя дахі дамоў.

Ягоны дом быў недзе за царквою. У ім цяпер рассыпалася ягоная маці. Яму было шкада яе — рассыплецца і не збяруць... Серафім апусціў падзорную трубу. Пахваліўся:

— А я міліцыянера ўкусіў...

— За зад? — рагатнуў Ігар.

— За руку...

— Брэшаш!.. Пабажыся: каб я апруцянеў, калі хлушу...

Серафім пабажыўся. Ігар завёў яго ў свой пакой з вузкім жалезным ложкам, са сталом і этажэркай, на якой замест кніг валяліся нейкія незразумелыя рэчы. Пад сталом на падстаўцы кругліўся дзіўны шар, размаляваны рознымі фарбамі, найбольш сіняй.

— Што гэта? — пацікавіўся Серафім.

— Глобус... Зямля наша... Разумееш, макет зямлі, паменшаны, можа, у мільён разоў.

Серафім нічога не зразумеў, але запомніў гэтую паменшаную ў мільён разоў зямлю.

— Ты калі ў школу пойдзеш? — спытаўся Ігар.

Серафім сумеўся. Ён падумаў, што калі маці рассыплецца і яе не збяруць, дык у школу ён не пойдзе.

— Можа, і не пайду,— па-даросламу адказаў ён.

— Чаму?..

— Так...

— Пойдзеш,— упэўнена адказаў Ігар.— Цяпер усе павінны вучыцца, бо усенавуч. Зразумеў?..

— А ты ў які клас ходзіш?..

— Чацвёрты канчаю... Мог бы ў пятым вучыцца, ды засыпаўся на пераэкзаменоўцы. Ну, ча́пай да сябе. Мне ўрокі вучыць трэба. Бацька сварыцца.

Серафіма якраз паклікалі, і ён не паспеў пакрыў-

дзіцца на бесцырымоннасць Ігара, які так груба выправіў яго.

Цётка Дар'я адпраўлялася дамоў і на развітанне паківала ў Серафіма перад носам:

— Глядзі ж, слухайся Ксеню. Што загадае, тое і рабі,— яна павярнулася да Аксінкі: — І ты глядзі ў мяне! Кінеш яшчэ ды пабяжыш да сяброўак, а ён адзін застанецца, вісус набокаўскі куды звядзе...

— Не бойся,— адмахнулася ад бабулі Аксінка.

Яна адразу, як толькі цётка Дар'я пайшла, узялася камандаваць Серафімам. Той толькі сапеў носам. Ён не любіў, калі ім камандавалі, але адкрыта выказваць незадаволенасць баяўся.

Паспрабаваўшы ўцягнуць Серафіма ў колькі гульняў, якія Аксінка ведала, і нічога не дамогшыся, яна прапанавала гульню ў тату і маму. Для гэтага Серафім павінен быў апрануцца. Аксінка паставіла яго ў парозе, загадала чакаць яе, а сама пабегла на кухню. Неўзабаве яна выбегла ў прыхожую, пляснула ў далоні:

— Авой, дзе цябе чэрці насілі? — закрычала яна і тут жа чмокнула Серафіма ў шчаку.— Вячэра прастыла.

Серафім маўчаў, і Аксінка раззлавалася ўсур'ёз:

— Трэба адказваць, што ты затрымаўся на сходзе,— параіла яна Серафіму.— Ідзі, будзем вячэраць.

Серафім прагаладаўся, і Аксінчына прапанова яму спадабалася — з гэтага і пачынала б гульню.

Аксінка карміла яго і ўсё дапытвалася, пра што ў іх гаварылі на сходзе, і лаяла некага, хто выдумляе гэтыя сходы. Нарэшце Серафіму надакучыла маўчаць ды слухаць Аксінку. Таму ён пахваліўся ёй:

— А я міліцыянера за руку ўкусіў...

— Якога? Нашага?.. Затачылу?..

— Доўгага, у шынялі,— адказаў Серафім, з радасцю адзначаючы, што выклікаў у дзяўчынкі зацікаўленасць.

— Яго ўсе не любяць,— пахваліла Серафіма Аксінка.— Ён прыватнікаў абірае.

Серафіма аж распірала ад жадання расказаць, як усё было, і ён таропка загаварыў:

— Ён як дасць па бляшанцы нагой, тая як пакоціцца. Грошы пасыпаліся, а катрыншчык як заплача. А доўгі на яго з кулакамі і крычыць: я табе

нос разаб'ю. А я схапіў яго за руку і кусануў. Ён як завые, а потым нагнуўся і стаў падбіраць грошы. Усе сабраў...

Серафім памагаў сабе рукамі і нагамі; яму гаварылася лёгка, з уздымам. Ён бачыў, што Аксінка верыць яму і спачувае. Гэта надавала Серафіму большай ўпэўненасці ў сабе і жадання расказваць штосьці такое, што прымусіла б Аксінку слухаць яго. Але запас слоў і ўражанняў нечакана хутка вычарпаўся, і Серафім адчуў няёмкасць. Ён крыху зманіў і толькі цяпер зразумеў, што зманіў, а Аксінка можа злавіць яго на гэтай міжвольнай хлусні.

— Ты — смелы,— пахваліла яна Серафіма.— Я не адважылася б. Яго і дарослыя баяцца...

— Я нікога не баюся,— пахваліўся ён.

— І Марка? — спыталася Аксінка.

Серафім задумаўся: Марка ён баяўся.

— Ён мой другі тата, а татаў не баяцца,— рэзонна заўважыў ён і пабачыў, што ягоны адказ спадабаўся Аксінцы.

На кухні панавалі прыцемкі, і твар Аксінкі расплываўся ў іх. Серафім баяўся прыцемкаў, але Аксінка не стала запальваць лямпу, сказаўшы, што газы мала, ды і купіць яе нельга, а ў прыватнікаў яна дарагая. Ляжаць жа на печы можна і без лямпы.

Серафім не зразумеў, ці гэта працяг гульні, ці сапраўды газы няма. Гульня, якая зусім не паходзіла на гульню, цяпер зусім станавілася непрывабнай і сумнай. З Насцечкай гуляць нашмат цікавей. У яе многа лялек, з якімі яна размаўляла, як з жывымі, няньчыла іх, пякла для іх пірагі з пяску і гліны, варыла розныя стравы з травы, а ён памагаў ёй. Яны часам так захапляліся гульнёй, што забываліся на ўсё на свеце. Тут гульня не магла захапіць, бо Аксінка ўносіла ў яе нешта дужа будзённае, звычайнае, нецікавае.

— Будзем класціся спаць,— сказала Аксінка і палезла на печы слаць пасцель.

Серафім сядзеў пасярод кухні адзін, і яму было няўтульна і сумна. Зноў прыгадалася мама, якая недзе там рассыпаецца, а Марк і цётка Дар'я збіраюць яе, поўзаючы па падлозе.

— Ну, чаго сядзіш? — падала з печы голас Аксінка.— Залазь... Давай руку, падмагу...

Яна ўсцягнула яго на печ, як аўсяны сноп. На печы было зусім цёмна. Серафім працягнуў руку. Аксінка ляжала на спіне.

— Чаго ты? — спыталася яна.

— Баюся,— прызнаўся ён.

— Каго?

— Чарцей...

— Чарцей няма,— упэўнена адказала Аксінка.— Іх выдумалі, каб палохаць дзяцей.

Яна ўсё ведала, і гэта ставіла яго ў залежнае становішча. А яму хацелася валодаць яе ўвагай. Толькі ён не ведаў, што для гэтага патрэбна.

Наверсе, у Набокавых, адбіваў гадзіны стары пацешны гадзіннік: над круглым цыферблатам стаяў голы каваль і, калі падыходзіў патрэбны час, біў малатком па кавадле — звон выходзіў магутны, аж рэзала ўвушшу.

— Ты не спіш? — спыталася Аксінка.

— Не...

— І я не сплю... Хочаш, я табе казку раскажу?..

Казкі расказваць яна не ўмела. Цягнула словы і часта паўтарала: ну, а далей во што было... Серафіму думалася, што яна магла абыходзіцца і без гэтых слоў.

— А мамка цяпер мерзне ў трамваі,— раптам успомніла яна, перастаўшы расказваць казку.— І страшна бывае. Аднаго разу ў тупіку за Смаленскім базарам на трамвай напалі двое, вырвалі ў кандуктаркі сумку і ўцяклі. Па сённяшні дзень шукаюць.

— Хто напаў? — спытаўся Серафім.

— Дурань, вядома, бандыты. Можа, браты Чыкуновы. Але яны на бедных не нападаюць. Яны багатых рабуюць ды яшчэ міліцыю... Ім патроны патрэбны і зброя...

На печы было цёпла. У непрагляднай цемрачы жывым ручаёчкам цурчэла няспешная гамонка Аксінкі. Яна расказвала пра бандытаў братоў Чыкуновых, пра нейкую Соньку Залатую ручку, якая памагае Чыкуновым і ніхто не можа злавіць яе, пра кандуктарку трамвая Зойку, у якой начуюць блатныя. Расказвала са спачуваннем і да зладзеяў і да тых, хто ад іх пацярпеў. Пра сёе-тое Серафім ужо чуў ад Марка, але той ставіўся да зладзеяў нецярпіма, з адкрытай нянавісцю, а гаворку кожны раз заканчваў пагрозай:

«Яны, паразіты, усё адно нікуды не дзенуцца. Я іх усіх палаўлю і кішкі на тэлефон наматаю».

Ад такой страшнай пагрозы Серафіма аж бралі дрыжыкі. Але ад гэтага Марк станавіўся ў ягоных вачах магутным волатам, які распраўляецца з нейкімі страшнымі паразітамі. Цяпер, слухаючы Аксінку, Серафім не ведаў, каму больш верыць — абаім адначасова не выходзіла. Нехта з іх маніў. Серафіму хацелася верыць Аксінцы. У яе было больш шчырасці. У цемры Аксінка была падобна на ласкавую Насцечку, якая нікога не крыўдзіла і не цярпела, калі каго крыўдзяць. Яму хацелася і самому нешта расказаць. Але нічога талковага ў галаву не прыходзіла. Яны ляжалі і маўчалі.

Раптам яму падумалася, што Аксінка не ведае, чаму яго падкінулі сюды.

— Як ты думаеш, чаму мяне сюды прывезлі? — спытаўся ён і адразу нейкім бездапаможным, дрыготкім голасам сказаў: — Мама мая рассыпаецца, во...

Ён чакаў, што Аксінка здзівіцца, пашкадуе яго, а яна раптам насмешліва пырскнула:

— Я пра гэта ўчора ведала...

— А калі яна рассыплецца, дык ці збяруць яе? — спытаўся ён.

— Ну, і дурны ты, Сімка,— па-даросламу важка сказала яна.— Маці твая раджае.

— Як раджае? — здзівіўся Сірафім, бо чуў ужо такое слова, але не мог зразумець яго сэнс.

Ён увесь наструніўся, чакаючы раскрыцця нейкай вялікай тайны, пра якую дасюль не здагадваўся.

— Можа, думаеш, дзяцей у капусце знаходзяць, бусел іх прыносіць або на базары купляюць? Іх раджаюць! — сказала яна.

Серафім нічога не думаў. Ён прыгадаў, як некалі цётка Дар'я даводзіла яму, што дзяцей дае бог.

— Дзяцей дае бог,— адказаў ён словамі цёткі Дар'і.

— Бога няма,— з дарослай сталасцю запярэчыла Аксінка.— Гэта табе бабуля галаву затлуміла.

Серафім сумеўся: калі бога няма, тады адкуль бяруцца дзеці? Іх паяўленне вельмі добра тлумачылася богам, які дае дзяцей, расліны, жывёл і ўсё-ўсё на свеце.

— Бог у царкве жыве,— паспрабаваў ён адстаяць тварца ўсяго жывога.

— У царкве жыве поп,— рашуча заявіла Аксінка,— а дзяцей раджаюць бабы.

Аксінка гаварыла больш незразумела, як дарослыя, і Серафім усумніўся, што яна ведае нешта звыш таго, што ведаюць дарослыя.

— А вось і дае бог, дае бог,— заспрачаўся ён, дрыгаючы нагамі і размахваючы рукамі.

Так яму было спрытней спрачацца.

Аксінка злавіла ягоную руку, загадала:

— Перастань, размахаўся... Вось памацай,— яна паклала ягоную руку на свае грудзі.

Пад рукой Серафім адчуў крэпенькі бугарок, ад якога па ягоным целе пракацілася млявая хвалька нечуванай насалоды. Такі ж крэпенькі бугарок быў і з другога боку. Ён здагадаўся, што гэта такія ж бугаркі, як у ягонай маці і другіх жанчын, і яму чамусьці зрабілася няёмка.

— А ў цябе такога няма,— як бы адкрываючы вельмі вялікую тайну, напаўшэпт сказала Аксінка і, прадаўжаючы кіраваць ягонай рукой, давяла розніцу паміж ёй і ім, а потым і расказала, адкуль і чаму бяруцца дзеці.

Серафіму было сорамна, ён радаваўся цемры, і аж балюча ад тайны, якая раскрылася перад ім у сваёй аголенай праўдзе.

— А ты адкуль пра гэта зведала? — спытаўся ён, яшчэ думаючы, што Аксінка набрахала.

— Адкуль трэба, адтуль і ведаю— раззлавалася чамусьці Аксінка,— Сабіна расказала, во адкуль.

Сабіну ён ведаў, бачыў адзін раз, але запомніў — прыгожая, з тоўстымі косамі жанчына, пра якую цётка Дар'я неяк сказала:

— Распусніца — ні сораму, ні страху...

— А яна раджала? — запытаўся ён.

— Хто?

— Сабіна...

— Яна ж гуляшчая,— растлумачыла Аксінка.— Рана табе яшчэ ўсё ведаць. Састарышся.

То былі звычайныя адгаворкі старэйшых за яго, і ён не стаў дапытвацца. Ён доўга ляжаў без сну, уражаны пачутым, не вельмі зразумелым, але тым не менш вельмі трывожным іназойлівым.

З таго часу ў яго і паявілася цяжкая неасэнсаваная рэўнасць да Марка і маці. Яна штурхала яго на незразумелыя іншым учынкі

## 3

Здаецца, у тую вясну памерла Насцечка.

Серафім ужо меў уяўленне пра смерць, праўда, невыразнае, са слоў дарослых, якія гаварылі пра яе, не хаваючыся ад яго. Серафіма гэта дзівіла. Чаму пра смерць можна гаварыць не тоячыся, а пра нейкія іншыя падзеі гаварыць забараняецца.

Калі ўсе пайшлі на працу, а ў той дзень Марк і маці чамусьці надоўга затрымліваліся, цётка Дар'я надзела чорную сукенку, павязала галаву чорным карункавым шалікам з доўгімі кутасамі. Чорнае падмаладзіла яе.

— Куды ты пойдзеш? — спытаўся Серафім.

— Насцечка памерла... Хаваюць сёння,— адказала цётка Дар'я і выцерла вочы шалікам.

— І я пайду з табой,— нясмела папрасіўся Серафім.

— Табе не дазволена,— адказала цётка Дар'я.

— Чаму не дазволена?..

— У вотчыма спытайся,— сярдзіта буркнула цётка Дар'я.

Па яе голасе Серафім зразумеў, што яна злуецца не на яго, а на Марка, які не дазволіў Серафіму пайсці разам з ёй. Ён пачаў канькаць, надакучаць цётцы Дар'і, пакуль тая не згадзілася ўзяць яго.

— Толькі ж бацькам не кажы, што хадзіў са мной. Дужа сварыцца будуць,— папярэдзіла яна.

Серафім мацней прыціснуўся да яе ног, выказваючы гэтым сваю ўдзячнасць. Ён ужо ведаў, што не ўсё можна гаварыць нават бацькам.

Маўчаць Серафіма прывучыў страх перад расплатай за нешта не так сказанае, не тое сказанае і наогул невядома яшчэ за што. Ды і самі дарослыя часам прамоўчвалі там, дзе, здавалася, маўчаць было нельга.

У калідоры камуналкі, перад расчыненымі ў пакой дзвярамі і ў пакоі было поўна народу. Перад імі з цёткай Дар'яй натоўп расступіўся. Яны ўвайшлі ў пакой, дзе на куце ў белай, добра пагабляванай

труне ляжала Насцечка, такая ж празрыстая, як і ў жыцці, толькі вельмі строгая і пажаўцелая.

— Сімачка прыйшоў, дружочак Насцеччын,— залямантавала Насцеччына мама Паліна Рагацікава, загаласіла на ўвесь пакой: — А што-о ты-ы яго не сустракаеш, дочачка любая, надзейка мая верная?.. А няма ж нашай Насцечкі, Сімачка, а няма ж нашага жаўрука ранняга, адляцела яе душанька на неба, на неба сіняе ды халоднае...

Серафіму было не пад сілу слухаць, як галосіць Насцеччына маці. Ён стаяў, сціснуўшыся, баючыся яшчэ раз глянуць на Насцечку. У Насцеччынай маўклівасці было нешта страшнае, нават жудаснае. Да ўсяго ён трымаў у руках вяночак, звіты цёткай Дар'яй з белых і сініх пралесак. Цётка доўга вучыла яго, як трэба будзе падысці да Насцечкі і пакласці вяночак на лоб. Цяпер Серафім з жахам думаў пра тое, што не здолее падысці да труны і пакласці вяночак так, як вучыла цётка Дар'я. Яго агарнуў ганебны страх перад смерцю, якая робіць чалавека маўклівым і жоўтым. Яшчэ яго мучыла думка, што калі ён не пакладзе вяночак так, як вучыла цётка Дар'я, дык Насцечка не трапіць да анёлаў, а значыць, і не спраўдзіцца яе мара быць сярод іх.

Якраз у час гэтых пакутлівых роздумаў цётка Дар'я шапнула яму, каб ён падышоў, паклаў вяночак. Серафім чуў яе, але яго скавала нейкая немач, аж нельга зварухнуцца. Выручыла цётка, што стаяла насупраць яго.

— Божачка, дзіця ж яшчэ, а вы ад яго бог ведае чаго хочаце,— яна забрала з ягоных рук вяночак, паклала на Насцеччыну галаву і, адышоўшыся, пагладзіла Серафіма па галоўцы: — Малайчына, дзетка любая, гэта нічога, што не сам паклаў. Насцечка рада будзе, не забыў яе, прыйшоў на развітанне. Во, аж тварык яе прасвятлеў...

Серафім адважыўся, глянуў, і яму падалося, што сапраўды тварык Насцечкі як бы пасвятлеў...

Хавалі Насцечку на старых стараверскіх задунаўскіх могілках, зарослых кашкай і брызгалінай.

Лахматы, шыракатвары стараверскі поп з Задунаўскай стараверскай царквы размашыста хрысціўся двума пальцамі і басавіта цягнуў незразумелымі словамі, ад якіх Серафіма прабіралі дрыжыкі. Потым

двое мужчын, таксама лахматых, у суконных паддзёўках, узяўшыся за канцы вышываных ручнікоў, памалу апусцілі труну ў магілу. Серафім глянуў у яму, убачыў на дне яе побач з труной бурае жабяня і заплакаў, калі людзі паспешліва пачалі закідваць магілу зямлёй.

Цяпер у ім пасяліўся яшчэ страх перад смерцю, перад магілай, якую могуць паспешліва закідаць зямлёй, не падумаўшы, што, можа, ён яшчэ жывы. То быў канкрэтны страх, перад канкрэтнай смерцю.

## 4

Малодшы брат забіраў усю матчыну ўвагу і любоў — Серафіму заставаліся халодныя пацалункі нанач. Спачатку ён раўнаваў брата, а потым змірыўся, адчуваючы сябе зусім няблага на адзіноце. Цяпер, калі яму дазволілі самастойнасць, у яго паявіўся сябар, і не дзяўчынка, а хлапчук, ягоны равеснік з Рускай вуліцы — Ерафей, Ерка, стрыжаны пад гаршчок гарэза, але таксама адзінокі і сірата. Толькі ў яго была мачыха.

Удвух яны аблазілі ўсю ўсходнюю ўскраіну горада, аж да самых Чырвоных казармаў, дзе за цаглянай сцяной служылі чырвонаармейцы. Над казармамі заўсёды паласкаўся чырвоны сцяг; пад ім праз увесь дзень маршыравалі чырвонаармейцы. Як яны маршыруюць, можна было паглядзець з дуба, што рос непадалёк ад сцяны.

Часам іх зганяў адтуль камандзір з чатырма трохкутнікамі ў пятліцах гімнасцёркі. Ерка казаў, што гэта Цвердахлеб, служака са служак, які паўсюды ловіць шпіёнаў, але камандзір ён заслужаны, бо прайшоў з дывізіяй ад Сібіры да Варшавы. Ерка на Цвердахлеба не крыўдаваў. Серафім — тым больш.

Тры разы на тыдзень чырвонаармейцы выязджалі з казармаў секчы лазу на іпадроме за Духаўскім ровам. На вялізным полі іпадрома яны тыркалі лазовыя пруты, а коннікі на поўным скаку павінны былі ссякаць іх шашкамі.

Для Серафіма і Еркі дні рубкі лазы — свята незабыўных уражанняў. На іпадром часам прыязджала камандаванне праслаўленай дывізіі — толькі гля-

дзі ды дзівіся: шпалы і ромбы ў пятліцах, чырвоныя зоркі на рукавах, ордэны Чырвонага Сцяга на грудзях, шпоры на ботах, шашкі з прыгожымі эфесамі на поясе, камандзірскія шапкі на галаве. У такія шчаслівыя хвіліны Серафіму вельмі хацелася быць чырвоным камандзірам. Ерка з дарослай дасведчанасцю тлумачыў яму, што азначаюць кубікі, шпалы і ромбы, вучыў адрозніваць камандны састаў ад палітсаставу, хто і з якімі знакамі адрознення можа займаць вайсковую пасаду. Серафім стараўся запамінаць усё, чаму вучыў Ерка.

Іпадром прыцягваў хлапчукоў той невядомай, неадольнай сілай, якая называецца хлапчукоўскай цягай да гераічнага. Узначальваў іпадром Шубін, каржакаваты, з магутным размахам у плячах, былы партызанскі і чырвоны камандзір з трыма ордэнамі Чырвонага Сцяга. Серафім і Ерка яго пабойваліся. Ён зусім проста мог надзерці вушы або перацягнуць па плячах бізуном. Затое калі наладжваліся скачкі, Шубін дазваляў ім стаяць на самым лепшым месцы, называў іх «нашай юнай зменай», абяцаў, як вырастуць, вывучыць на наезнікаў.

Але хадзілі яны туды не дзеля Шубіна — Шубін начальнік, і ставіліся яны да яго як да начальніка,— у іх на іпадроме быў сапраўдны сябар Віталь Махно, лепшы наезнік, якога не раз пераманьвалі на другія іпадромы. (Пазней Серафім даведаецца, што прозвішча Махно было зусім не прозвішча, а мянушка, якую даў упартаму, непаслухмянаму наезніку Шубін, нагадваючы таму пра лёс анархісцкага важака Несцера Махно, супраць якога Шубін і наезнік ваявалі на Украіне ў гады грамадзянскай.) Сапраўднае ж прозвішча наезніка было Каржоў, і паходзіў ён з цыганоў. Можа, таму Каржоў так шчыра і аддана любіў коней, гатовы быў за іх і ў агонь і ў ваду.

Калі не было блізка Шубіна, Махно браў Ерку за сагнутую ў калене нагу, спрытна падкідваў угору, і той мігам узлятаў на конскую спіну.

Конь скошваў вока, адчуваючы непрывычна лёгкага седака, але, убачыўшы Ерку, ахвотна згаджаўся пакатаць яго каля канюшні. Серафім коней баяўся. Махно супакойваў яго: нічога, яшчэ навучышся джыгітоўцы.

Пра Шубіна і Махно Ерка ведаў ці мала ўражлівых

гісторый, якія здаваліся неверагоднымі, а таму выклікалі ў Серафіма маўклівае захапленне.

Наогул Ерка ведаў усё на свеце, пра што б Серафім ні запытаўся. Аж было дзіўна, дзе ён набраўся такіх ведаў. Серафім зайздросціў яму. Аднаго разу ён надумаўся ўразіць Ерку тым, што ведае нешта, чаго не ведае Ерка: адкуль бяруцца дзеці. Той паспешліва адмахнуўся: «Не забівай галаву глупствам»,— злосна сказаў ён і тым адбіў ахвоту спаборнічаць з ім па ведах.

Была ў іх яшчэ адна забава — стараверская царква.

Кцітар, а калі проста, дык царкоўны стараста, зарослы сівымі валасамі, з якіх вытыркаўся толькі нос ды відаць былі маленькія вочы, дазваляў ім залазіць на званіцу, біць у званы.

Са званіцы адкрываўся горад, зусім невялікі, бачны з канца ў канец. Проста перад імі, унізе, раскінуўшыся між двума равамі, ляжала іхняе Задунаўе. Прамая вуліца рэзалася ўпоперак кароценькімі вулачкамі з цесна злепленымі дахамі. Абрынуўшыся ўніз, горад непрыкметна перамахваў цераз раку, грувасціўся на тым беразе жалезнымі дахамі камяніц, комінамі заводаў, купаламі цэркваў, за чарнатой якіх, на самым даляглядзе, зелянелі парасоны выносістых соснаў. Яшчэ са званіцы быў добра відаць золатагаловы Успенскі сабор з купаламі, якія нават у непагоду блішчэлі пазалотай. Злева, за Духаўскім ровам, чарнеў цыліндр воданапорнай вежы і ржавы дах жаночай турмы. Цэнтра горада, аднак, і са званіцы не было відаць. Ён хаваўся за дамамі Задунаўя ў акружэнні дзвюх рэчак і двух глыбокіх равоў. Затое на далёкай ускраіне шэрхлі яўрэйскія могілкі з помнікамі, якія нагадвалі варон у дажджлівае надвор'е, і драўляная пры могілках сінагога.

Горад са званіцы выглядаў прыгожа і таямніча, не тое што з вышыні чалавечага росту. Але не абшарпанасць і забруджанасць уражвалі Серафіма, калі ён з цёткай Дар'яй ездзіў на Смаленскі або Полацкі базар. Серафіма палохала незразумелая насцярожанасць людзей, быццам тыя чакалі нешта невядомае і страшнае.

Апрача званіцы ўвагу хлапчукоў яшчэ прыцягвала царкоўная бібліятэка, якая размяшчалася ў шафцы

пад хорам. Кнігі, старыя, пачарнелыя ад часу, з драўлянымі вокладкамі, аздобленымі пазалотай, былі недаступны дзіцячаму разуменню, але малюнкі ў іх хлапчукі разглядалі падоўгу і ўважліва. Глядзець кнігі дазвалялася тады, калі поп Харлампій быў у запоі. Звычайна пачыналася гэта пасля тройцы або спаса. Можа, запоі ў айца Харлампія бывалі і ўвосень, і зімой, але тады Серафім з Еркам сядзелі дома.

Сярод кніг увагу хлапчукоў прыцягвала адна з малюнкамі чарцей і анёлаў. Чарцей было шмат: малыя, вялікія, рагатыя, бязрогія, з капытамі, брыдкімі мордамі, маладыя і старыя, якія рабілі сваю чарцінаю справу з яўнай насалодай, што было напісана на іх чарціных мордах. Чэрці былі намаляваны чорнай фарбай, як, напэўна, і належыць чарцям. Затое анёлы блішчэлі залатым і сярэбраным убранствам, аж пярэсціла ўваччу. І чэрці і анёлы выклікалі ў Серафіма жах. Асабліва ён баяўся херувімаў з крыламі і мноствам вачэй. Херувімы, здавалася, бачаць яго наскрозь.

Два разы на тыдзень у горадзе ладзіліся базары. У тыя дні Тулаўская вуліца з самай раніцы абуджалася ад неймавернага грукату. На базар ехалі чароды фурманак з блізкіх і далёкіх вёсак. Акаваныя жалезам колы ляскалі, грукацелі па бруку з такой сілай, што ў вокнах звінелі шыбы, а на вуліцы трэба было крычаць, каб пачуць адно аднаго.

Звычайна яны з Еркам адпраўляліся на староверскія могілкі, каб назіраць за жывой плынню фурманак — быў у гэтым нейкі азарт, як у паляўнічых: хто і што ўпалюе за раніцу.

Кожная фурманка вызначалася сваім выглядам, як чалавек тварам. Дзвюх аднолькавых не бывала. Серафім з Еркам садзіліся на агароджу і цікавалі за імі, за коньмі і збруяй. Якіх толькі фурманак яны не бачылі за раніцу: калёсы з невысокімі градкамі і перадком, даверху забітыя сенам, застаўленыя кошыкамі і кашамі, збанкамі і збаночкамі; такія ж калёсы, але ўжо з сядалам пасярэдзіне, часам гэтае сядала на рысорах, часам проста прымацаванае да градак, на якім сядзелі расфуфыраныя цёткі, ганарліва пазіраючы на гарадскую пешую публіку; шарабаны на рысорах і жалезным ходзе, з фарбаванымі надкрылкамі над коламі, з разнымі перадкамі; лінейкі

з дошкай-перакладзінай, з тонкімі жоўтымі або карычневымі спіцамі ў колах; просценькія бястаркі, у якіх звычайна возяць бульбу з поля; рагазлівыя мары, годныя для возкі снапоў і сена, але ніяк не для паездкі на базар; куртатыя двухколкі — спараджэнне вайны; няўклюдныя раскаты, на якіх зручна вазіць лес і дошкі, і яшчэ бог ведае якіх узораў павозкі.

Уражвала хлапчукоў і збруя. Звычайныя лямцавыя хамуты з вяровачнымі гужамі; хамуты з насечкай і скуранымі супонямі; простыя з маладой вішанькі дугі і адмысловыя, распісаныя ўзорамі, са званочкамі, султанамі або прадзетымі ў кальцо павадамі. А якіх толькі не даводзілася бачыць шлей!

Але асаблівую цікавасць, безумоўна, выклікалі коні. Хлапчукі наперабой называлі іх пароды, хоць якія там маглі быць парадзістыя коні ў звычайных мужыкоў. Праўда, траплялісі і арлоўскія рысакі і данскія інаходцы. Тады Ерка бег да вадакачкі, каб запытацца ў гаспадара арлоўскага рысака, адкуль той прывёў яго.

Вадакачка знаходзілася тут жа, між могілкамі і домам Пігулеўскага. Цагляная, неатынкаваная будыніна стаяла ў баку ад вуліцы. Каля яе адзінага акенца пласталася доўгае карыта, выдзеўбанае з дубовага камля.

Паілі коней не ўсе — вада каштавала грошы. Але ля вадакачкі ў базарныя дні ўсё роўна збіраліся доўгія чэргі. Мужыкі паважна станавіліся ў хвост чаргі, закурвалі, плацілі ў акенца вадзяны збор. Пакуль чарга марудна пасоўвалася, бавілі час у размовах пра машыны з Германіі, якія мужыкі вельмі хвалілі, хоць і скардзіліся, што тыя каштуюць дорага.

Коні пілі доўга, апусціўшы ў карыта пысы. Напіўшыся, падымалі галовы, з іхніх аксамітных пысаў капала на зямлю вада. Вось тут Ерка і высвятляў, якой пароды ў мужыка конь і дзе ён купіў яго. Бывалі непаразуменні, калі на Ерку накідваліся з лаянкай, пагражалі даць пугі. Ерка адразу адступаў, а Серафіму па сакрэце казаў, што конь гэты няйначай крадзены, бо чаго б было лаяцца.

Увечары мужыкі вярталіся з базару. Цікавага ўжо было мала. Адны весела крычалі і гналі коней на злом

галавы, другія ляжалі на калёсах, і цёткі лаялі іх на чым стаіць свет.

Жыццё наезджых на базар дзядзькоў і цётак выклікала ў Серафіма хваравітую цікаўнасць. Ён баяўся мужыкоў, асабліва тых, хто вяртаўся з базару, але яго і цягнула да іх незразумелая сіла.

## 5

Незаўважна для сябе Серафім усё больш сыходзіўся з вотчымам. Дружба гэтая цешыла яго па дзвюх прычынах: Марк аддае больш увагі яму, а не Кліму, у адрозненне ад маці, якая ўсю любоў скіравала на меншага сына; па-другое, Марк гаварыў з ім, як з роўным, а гэта нешта ды значыла ў сірочым Серафімавым жыцці.

Калі Марк быў свабодны, ён браў Серафіма за руку і вёў у горад, па дарозе распытваючы пра ягоную дружбу з Еркам, пра тое, што гаварыла цётка Дар'я, і што ён наогул чуў цікавага і незразумелага. Серафім расказваў праўдзіва — маці вучыла яго не хлусіць.

Часам Марк казаў Серафіму:

— Бачыш вунь тую будыніну — люстэркавую фабрыку. Давай будзем запамінаць, што мы ўбачым, пакуль да яе дойдзем. Выйграе той, хто запомніць больш цікавага і незвычайнага.

Быў пасляабедзенны час, і задунаўскія жыхары, хто працаваў не на дзяржаву, а на сябе, адпачывалі па спальнях і каморках, каб адкрыць прыватныя «прадпрыемствы» тады, як з работы паваліць рабочы і служылы люд. Толькі каля піўнушкі Брусера, на крутым спуску да насыпнога моста праз роў, таўкліся сталыя наведвальнікі.

Серафім без стомы круціў галавой, вылупіўшы вочы, стараючыся ўсё ўбачанае, што сустрэлася на працягу трох невялікіх кварталаў, адкласці ў памяці.

Яны падводзілі вынікі ў архірэйскім садзе на лаўцы пад бэзам. Серафім пералічыў усё, што заўважыў: рудага сабаку з ашыйнікам, які ляжаў каля гадзіннікавай майстэрні Шуба; тоўстую цётку, якая вяла зарумзаную дзяўчынку; рамізніка, што паражняком ехаў пасярод вуліцы; двух хлапчукоў, якія неслі вялізны кош травы; дзядзьку з кавенькай

і мноствам залатых пярсцёнкаў на пальцах; знаёмага ўжо катрыншчыка, за якога ён некалі заступіўся; расхлістаныя дзверы ў цукерню«Мадам Малкіна і сёстры».

— Зусім няблага, Сеня, зусім няблага. Хоць ты і не заўважыў дзве істотныя акалічнасці: за піўной ляжаў чалавек з вывернутымі кішэнямі, катрыншчык павярнуў на Другую Задунаўскую, дзе, па маіх звестках, хаваецца тайнае казіно. Ну, ды гэта пакуль неістотна. Галоўнае, ты ўмееш назіраць, хоць паводзіш сябе пры гэтым зусім ненатуральна. Глядзі, як ты ішоў па вуліцы,— Марк ускочыў з лаўкі, пачаў дзіка круціць галавой, вытрэшчваць вочы, крыўляцца і пацёпваць плячамі, як той прыпадачны. Глядзець на Марка было смешна. Затым ён сеў на лаўку, паклаў цяжкую руку на Серафімавы плечы.— Назіраць, Сеня, трэба непрыкметна, каб на цябе не азіраліся, каб цябе не заўважалі. Але і гэта не ўсё. Трэба ўмець супастаўляць убачанае ўчора, заўчора, месяц назад з тым, што ўбачыў сёння, і рабіць адпаведныя высновы. Вось ты ўбачыў двух хлапчукоў з кашом травы. Ну, і якую ты зрабіў выснову?..

Злоўлены пытаннем знянацку, Серафім апантана шукаў у думках патрэбную выснову і не знаходзіў яе. Ды і якую выснову можна зрабіць з такога мізэрнага назірання?..

— Ніякай,— распісаўся ён у сваёй няўцямнасці.

— А дарэмна, Сеня. Высноў можна зрабіць шмат. Ну, напрыклад, такія. Хлапчукі неслі траву з цэнтра горада. Значыць, траву рвалі не самі. Трава добра прывяленая. Выходзіць, яе рвалі ўчора. Хлапчукі неслі дзяцеліну і крапіву. Звярні ўвагу, крапіву. А крапівой перакладаюць свежую рыбу, каб не псавалася. Дапёр цяпер, што неслі хлапчукі? Рыбу! Куды і каму неслі? На Задунаўі і ў яго ваколіцах ёсць толькі адна прыватная гарбатня Кісялевіча на Задунаўскай пляцоўцы. Туды і неслі хлапчукі рыбу. Вялікі кош рыбы для адной сям'і ды ў такую спёку нікому не патрэбны.

Ашаломлены Маркавай выстовай, Серафім запаважаў вотчыма яшчэ больш.

З Маркам рабілася нешта незразумелае. То ён хадзіў гогалем, то панурыўся, злаваўся, і тады яны сварыліся з маці. Серафіма раздзіралі супярэчнасці:

яму было шкада маці, ён спачуваў і Марку. Спрэчак іхніх Серафім зразумець не мог.

Неяк у часе чарговай спрэчкі Серафім пачуў, як маці ўпікала Марка:

— Ну, што ты за ўсякую работу бярэшся? Не бачыш: як чысценькая ды лёгкая — Іллюшку Дрэлю, а цяжкую ды брудную — табе.

Матчыны словы выклікалі ў Марка ярасную злосць. Ён хадзіў па пакоі, кідаючы ёй незразумелыя Серафіму папрокі:

— Ты, Маруся, Дрэлем мяне не тыкай. Смерць не люблю такіх, што белыя ручкі баяцца запэцкаць у чорнай варожай крыві. Іллюха Дрэль прывык па судах ды трыбуналах засядаць, а хто ягоную працу будзе дарабляць, падумаў? Прысуд вынесці — яшчэ палова справы. Нехта ж павінен ягоныя прысуды на распыл выконваць, іначай карысці ад іх рэвалюцыі нуль цэлых і нуль дзесятых... У мяне, Маруся, жылістая пралетарская нянавісць крывавай стрэмкай сядзіць, і я добранька маларазвітай сваёй свядомасцю ўразумеў: няма ў рэвалюцыі бруднай і чыстай работы. І гэта рэвалюцыйны факт. Таму твае парады, Маруся, нацэлены вастрыём на дэзерцірства, няўгодныя маёй душы і прынцыпам. Ты мяне на адступленне не штурхай. Я кулю ў лоб пушчу, але ад нашай марксісцкай мэты не адступлюся. Я тады супакоюся, калі апошні вораг сусветнай рэвалюцыі будзе загнаны ў труну, а на ягонай магіле вырасце палын. І ты мяне, Маруся, з панталыку не збівай, бабскай цыцкай да ложка не прывязвай. Я да цыцкі не вельмі каб быў падкі. Яна мне для разрадкі вумственных сіл патрэбная, каб нішто галаве не шкодзіла, саабражэнню не замінала выкарчоўваць бандытызм і другія злачынствы...

— Ды глянь на сябе,— у роспачы сказала маці.— Адна скура ды косці... Глядзець балюча...

Марк рагатнуў. Смех у яго ішоў як з жывата — бурклівы, з перакатамі.

— А хоць бы адзін шкілет застаўся, усё адно мяне з пазіцыі не збіць. Я — як скала! А прыкончым зладзейскую контру — за месяц ад'емся. Мы тады, Маруся, у Крым маханём. Я там мястэчка адно запрыкмеціў, як контру прышываў... Адным словам,

мястэчка што нада. Віла там у гарах. У ёй спынімся, на мяккіх пярынах спаць будзем...

— Не хочу я ў тое тваё мястэчка, дзе ты контру...

Марк злосна спытаўся, перапыніўшы яе на паўслове:

— А як жа ты замуж пайшла, калі ведала.

Серафім доўга думаў над тым, што пачуў. У размове вотчыма і маці хавалася нейкая тайна, нейкае супрацьборства дзвюх асоб, у кожнага з якіх была свая праўда. Серафім не ведаў, на чый бок яму стаць. Марк то адштурхоўваў, то прыцягваў яго да сябе незразумелай сілай. Яны як бы ішлі насустрач адзін аднаму: Марк развАжліва, мэтанакіравана, Серафім — па-дзіцячаму наіўна і шчыра.

На пачатку таго лета, у якое Серафім павінен быў ісці ў школу, захварэў на крываўку малодшы брат Клім, і маці надоўга залегла ў бальніцу, што знаходзілася недзе на ўскраіне горада.

Увечары, калі клаліся спаць, Марк прапанаваў Серафіму:

— Лажыся, Сеня, са мной. І табе і мне спакайней будзе...

Серафім аж разгубіўся ад шчасця, забыўся, як вучыла маці, падзякаваць вотчыму за ласку. Што ні кажы, а Марк умее разумець яго без слоў, і гэтае пачуццё ўдзячнасці поўнасцю завалодала Серафімам.

Ён першы забраўся пад коўдру з рознакаляровых абрэзкаў, з цікавасцю назіраў, як разуваецца Марк: спачатку зняў крагі, потым кручком расшнураваў гамашы, зняў іх і шарсцяныя шкарпэткі, аблегчана паварушыў пальцамі ног. Пальцы былі расплюшчаныя і кароткія.

Стоячы ўжо босымі нагамі на фарбаванай падлозе, Марк, усё гэтак жа не спяшаючыся, адшпіліў папругу, выцягнуў з кабуры наган, шурпатай даланёй крутнуў барабан, набіты патронамі, сунуў яго пад падушку, а папругу з кабурой паклаў на столік. Затым ён цераз галаву сцягнуў гімнасцёрку, акуратна павесіў на спінку крэсла. Пад гімнасцёркай на ім аказалася белая сарочка, перапаясаная шырокімі падцяжкамі. Ён спусціў іх з плячэй і сеў на край ложка, сцягнуў вузкія ў калашынах брыджы.

Застаўшыся ў кальсонах і сарочцы, Марк пайшоў на дыбачках да лямпы, прыкрыў даланёй рашотку

і моцна дзьмухнуў на агонь. Той ірвануўся цераз рашотку, наткнуўся на агрубелую далонь Марка і згас. Чорная цемра ахутала ўсё навокал. У ёй прапаў Марк. Потым ён чыркнуў запалкай, прыпаліў папяросу, лёг на ложак тварам угору.

Серафім доўга назіраў за агеньчыкам папяросы, які пры зацяжках асвятляў губы, нос і падбародак Марка. Яму было боязна, што Марк дакурыць папяросу і засне, а Серафіму хацелася шчыра пагаварыць з ім. Другой такой нагоды, можа, ніколі не надарыцца.

— Марк, табе цяжка?.. Ты не можаш злавіць бандытаў Чыкуновых? — спытаўся ён.

Яму здалося, што Марк уздрыгнуў. Можа, пакрыўдзіўся? Але ж Серафім хацеў толькі аднаго, каб Марк не хадзіў такі пахмуры і непадступны.

— І Чыкуновых таксама,— неахвотна адказаў Марк.

— Чаму не можаш?..

— Клёку мала... Ды і памочнікі — зеляпухі...

— А я табе не дапамог бы?..

Марк дакурыў папяросу, патушыў яе аб край попельніцы, што стаяла на століку пры ложку.

— Ты? — спытаўся ён голасам, які нічога не абяцаў.

— Я ўсё, усё зраблю, што ты скажаш,— угаворваў Серафім.

Марк не адгукнуўся. Серафім адчуў сваю сірочую адзінокасць, якая яшчэ нядаўна адступіла ад яго.

— А што!.. Мог бы!.. — вынырнуў з цемры Маркаў голас.— Канешне, мог бы...

— Як? — падхапіўся Серафім.

Абапершыся на локаць, ён спрабаваў разгледзець Маркаў твар, каб па ім угадаць, жартуе той ці кажа праўду. У цемры бачылася белая расплылая пляма. Твару не было відаць.

— Не дзіцячае гэта дзела,— пазяхнуў Марк.

— А кажаш, што я мог бы памагчы,— расчаравана сказаў Серафім.

Мабыць, Марку стала шкада яго. Ён працягнуў руку, пагладзіў Серафіма па галаве, як кацяня.

— Пакрыўдзіўся?..

— Ну, цябе, падманшчык...

— У нас уся работа такая... з падманам.

— Маніць брыдка,— сказаў Серафім.

— І ворагу? — спытаўся Марк.

Серафім задумаўся. Маці і цётка Дар'я, кожная па-свойму, вучылі яго праўдзе і праўдзівасці:

«Сынок, Сіма, запомні на ўсё жыццё: хлусіць, ашукваць — сорамна, брыдка, непрыстойна. Нават калі табе пагражае кара, боль або смерць — не хлусі. Праўда, сынок, заўсёды пераможа, а хлусня зацягне ў багну і загубіць».

Пра ворагаў маці не ўспамінала, як і цётка Дар'я, якая па-іншаму тлумачыла, чаму нельга хлусіць:

«Хлусіць людзям — самы вялікі грэх, дзетка любая. Праўда, Сімачка, ад бога, хлусня — ад д'ябла, не тут будзь сказана. Калі ты хлусіш, чорт так і скача, так і скача ад радасці, што яму патураеш, а таму ў пекла да яго трапіш. А калі праўду гаворыш, богу радасна, анёлы ад шчасця, што ўратавалі цябе ад хлусні, крылцамі трапечуць, богу кажуць: Сімачка праведны, ён праўду гаворыць, і ты, божа, не пакідай яго, беражы ад лукавага».

Маркава пытанне Серафіма паставіла ў тупік. Яму было зразумела: Марк лічыць, што ворагу хлусіць не брыдка, а наадварот. Іначай Марк не паставіў бы так пытанне. Серафіму было выгадна сказаць, што ворагу хлусіць не сорамна. Але на ягоным баку стаялі два аўтарытэты — маці і цётка Дар'я,— таму ён упэўнена адказаў:

— Хлусіць усім брыдка...

— Зеляпуха ты, Сеня, сысунок,— абразліва, наводмаш сцебануў Марк Серафіма і дадаў ужо са спачуваннем: — Замарочылі табе галаву дзярмовым глупствам. Ды любога ворага — святое дзела ашукаць, вакол пальца абвесці, заставіць паверыць табе, нагаварыць яму сто бочак арыштантаў, а потым прыхлопнуць, як муху, каб і мокрага месца не засталося. Іначай ён цябе прыхлопне... Вось так, Сеня, друг ліпавы... Ну, будзем спаць.

Маркавы довады завагалі Серафімаву веру ў непахіснасць праўдзівасці. Праўдзівасць як бы раздвоілася. Паспрабуй разбярыся, калі можна, а калі нельга хлусіць.

— Марк,— звярнуўся ён да вотчыма,— а ты хацеў бы, каб я памог табе злавіць Чыкуновых?.. Як, Марк?..

Мабыць, Марк быў уражаны дзіцячай празорлівасцю. Ён аж папярхнуўся, суха кашлянуў і, дастаўшы з пачка папяросу, закурыў. Агеньчык запалкі на долю мінуты выхапіў з цемры груба выкаваны, як з медзі, твар. На ім блішчэла вока.

— Тут, Сеня, ёсцека і не адна закавыка. Данаецца Дар'я, паляціць да маці. Будзе мне і ў хвост і ў грыву. Гэта раз. Другая закавыка — ты. Дзела не ў гадах, а як хто саабражае. Паложым, саабражэнне ў цябе ёсць. Ды яно не на тых дражджах заквашана. А там нада вушы стырчма трымаць, а язык на прывязі — слухаць ды падтакваць. Іначай — амба!.. Мне зусім не з рукі цябе пад удар ставіць. Але ж на каго мне абаперціся, друг разлюбезны? У мяне клопатаў, як на сучцы блох, а тут яшчэ пра цябе думай-гадай. Не...

Серафім адчуў, што цяпер Марк беспаваротна адмовіць яму, і ад безвыходнасці становішча ён ускочыў, крыж-накрыж ударыў сябе кулачкамі ў худзенькія грудзі, пакляўся чутай ад задунаўскіх хлапчукоў клятвай:

— Каб я сабакам здох...

Марк усміхнуўся аднымі зубамі, у якіх тырчала папяроса.

— А, відаць, угаварыў, сысунок...

## 6

За вечна шумлівым Полацкім базарам з чыгуначнай бальніцай і рэстаранам, адны з дзвярэй якога выходзілі проста на вакзальную платформу, за хітрай пляцёнкай рэек і стрэлак, за прысадзістымі пакгаўзамі і навесамі, за вуліцай са старых вагонаў і хібар, збітых абы з чаго, пачынаўся парк высакаватай градою, якая спадала кручай у гарадскі пасёлак Царскую ветку, колішнюю вёску Елагі з нядобрай славай.

Вёска разраслася яшчэ на прыканцы мінулага стагоддзя, але раздабрэла пазней, калі губерня ледзь не цалкам перасялілася на хутары. Былыя елагаўскія сяляне, закінуўшы ўласную зямлю, пераключыліся на гандаль, заадно крадучы па хутарах коней, не грэбуючы разбоем, абрабленнем таварных вагонаў

і іншымі зладзейскімі ўчынкамі. У Елагах апыняліся заезджыя з Адэсы-мамы і Растова-таты махляры, авантурысты, валютчыкі, кватэрныя і кішэнныя зладзеі, налётчыкі і розныя іншыя прахіндзеі, каб адсядзецца, збыць крадзенае або проста павесяліцца ў вольны ад грэшнай працы час. З іх лёгкай рукі вёсачка Елагі і была перахрышчана ў Царскую ветку.

Елагаўскія зладзеі — няўлоўныя. Хадзілі па народзе чуткі, быццам елагаўцы даўно прадалі чорту душы: і свае, і дзяцей сваіх, і ўнукаў. Таму чэрці і замятаюць сляды зладзеяў. Гналіся аднойчы заронаўскія мужыкі за ўкрадзеным елагаўцамі табуном коней. Вось-вось насцігалі зладзеяў. І насцiглі б! Ды тыя паспелі ўскочыць у Елагі, а там, як макавым зернем, рассыпаліся,— толькі што бачылі табун, і тут жа ён знік.

Нядобрая слава, вядома, датычыла не ўсіх. Але і тыя, хто не быў звязаны са зладзейскай малінай, трымалі рот на замку. Ведалі: вякнеш — апамятаешся госцем на небе. Таму кругавая парука моцна сашчапіла і сумленных і зладзеяў — слова не выцягнеш.

На адной з елагаўскіх вуліц і жыў паравозны машыніст Іван Прохаравіч Чыкуноў, трое сыноў якога і наводзілі жах на далёкія і блізкія ваколіцы акругі. Банда часам замірала, клалася ў ваўчынае логава, не варушылася. Міліцыя радавалася: мабыць, уцякла за мяжу, у Латвію. А чыкуноўцы зноў паяўляліся як снег на галаву.

Пачалося ўсё з таго, што Іван Чыкуноў, рана жаніўшыся, рана заўдавеў, застаўшыся з дзвюма маленькімі дачушкамі — трохгадовай Марусяй і пяцімесячнай Лізай. У Іванавай галаве яшчэ не перабрадзіў малады хмель, а тут падвярнулася бойкая ўдавіца Міхаліна. Людзі казалі пра яе нядобра, ды Іван не хацеў і слухаць — завязалася каханне, што на тройцы не расцягнеш. А прыслухацца, можа, было і варта.

Сам Іван Чыкуноў зроду на чужое не квапіўся: золата пакладзі без нагляду — не возьме. Міхаліна была выпечана з другога цеста: употай прадавала крадзенае, вадзіла дружбу з цёмным людам, а калі са сваім сынам Алёшкам перайшла на сталае жыццё да Чыкунова, уласную хібару пачала здаваць у наём тым самым заезджым, што хаваліся ад паліцыі і закону.

Нарадзіла яна Івану двух сыноў ды і завязала падол, каб зручней было займацца сваімі справамі. Чыкуніха была вядома зладзеям чатырох сталіц, як звалі цёмныя людзі Піцер, Маскву, Адэсу і Растоў.

Беглі гады. Нечакана грымнула вайна, павялічыўшы зладзейскія магчымасці Чыкунiхі. Хто сох ад нястач і голаду — яна багацела. На трэці год вайны забралі ў армію і першынца Чыкуніхі — сына Алёшку; не памаглі і грошы. Месяцы чатыры пекаваўся ён на пазіцыях пад Маладзечна. А калі надакучыла бясплатна карміць акопных вошай, сігануў дамоў. Заявіўся ў Елагі на самыя маразы перад калядамі семнаццатага года. Івана Чыкунова дома не было — у рэйсе. Міхаліна ўзрадавалася і спалохалася: узрадавалася сыну, спалохалася Івана. Той мог і не зразумець пасынкавага ўчынку. Іван быў з вернападданых. Міхаліна сплавіла сына на сякоўшчыну, пад Усвяты, да нейкіх далёкіх сваякоў.

Крыху больш як праз месяц, калі закружыла, загула лютаўская рэвалюцыя, Аляксей паявіўся ў Елагах, ды неўзабаве зразумеў, што ягоны час яшчэ не настаў — зноў вярнуўся на сякоўшчыну, згуртаваў там вакол сябе такіх жа, як і сам, дэзерціраў, звёў іх у непралазныя Шчаўбоўскія лясы, і яны пачалі рабаваць усіх, хто трапляў пад рукі. Пра іх хутка пакаціліся чуткі, як пра банду зялёных.

А тым часам рэвалюцыя разгортвала крылы і, як грыбы ў дажджлівую восень, паўсюдна ўзнікалі з-пад моху жыцця розныя партыі. Было не разабраць, хто і за каго стаіць, хто і чаго дамагаецца. Усе абяцалі залатыя горы і малочныя рэкі з кісельнымі берагамі, усе патроху палохалі: пачакайце, прыйдзем да ўлады, тады спытаем, а за каго вы былі ў цяжкі для радзімы час? Быць ні за кога стала нямодным — нібы і не чалавек, калі не ў партыі, а бервяно-тапелец, што адарвалася ад плыта, якія і ў рэвалюцыю ганялі па Дзвіне. Бярвенне патрэбна было для акопаў.

Не застаўся па-за партыяй і Іван Чыкуноў. Яго прыбралі да рук эсэры. Тая партыя патрэбна была Івану Чыкунову як зайцу стоп-кран,— спакусіў яго паважаны Чыкуновым Альберт Ігнатовіч, доктар з чыгуначнай бальніцы. Напачатку вялікіх клопатаў Іван Чыкуноў з той партыяй не ведаў, але пад восень васемнаццатага яму пачалі даваць розныя дару-

чэнні — уручыць пакет чалавеку, які падыдзе да яго на станцыі, правезці некага на паравозе, пераправіць камусьці скрынку. Сумленны па сваім характары, ён усё рабіў сумленна і спраўна. Разы два давялося Івану быць і на партыйных зборышчах. Пра што гаварылі на іх, Іван не тое што не разумеў, але і не дужа ўнікаў у сутнасць гаворанага.

Зімой дзевятнаццатага Івана Чыкунова ўзялі на паравозе, калі ён вяртаўся з рэйса дамоў. Першы допыт быў праведзены тут жа, у камендацкім пакоі. Камандаваў допытам Ілля Дрэль. Усе чамусьці стаялі. Ілля Дрэль, як той маятнік, матаўся з кута ў кут па дыяганалі. Яму, па ўсім відаць, было няёмка — некалі разам з Іванам Чыкуновым хадзіў старшым кандуктарам, вяртаючыся з рэйса, калі-нікалі сядзелі ў станцыйным буфеце за куфлем піва. Ілля Дрэль усяляк цяпер дэманстраваў сваю жалезную непахіснасць давесці даручаную справу да канца. Толькі дробнае трымценне рук выдавала яго хваляванне, калі ён з драўлянай кабуры даставаў маўзер і клаў на стол. Ілля Дрэль ведаў ужо тое, чаго не ведаў ды і не мог ведаць Іван Чыкуноў.

У часе арышту гарадскога камітэта партыі эсэраў у доктара Ігнатовіча быў выяўлены спіс, у якім Івану Чыкунову пасля захопу ўлады адводзілася месца каменданта чыгуначнага вузла. Доказ па тым часе сур'ёзны. А ягоную віну узмацнялі яшчэ два абрэзы, знойдзеныя ў часе вобыску.

Прыналежнасць да партыі эсэраў Іван Чыкуноў пацвярджаў — астатняе адмаўляў з зайздроснай упартасцю. Ноччу яго расстралялі. Асобым узводам, што вяршыў рэвалюцыйную кару, камандаваў Марк Удоеў.

Расстрэл Івана Чыкунова, якога ведалі як сумленнага і ціхмянага чалавека, узбударажыў усе Елагі. Кожны ведаў, што абрэзы належалі Іванавым сынам, дык за які ж грэх караць бацьку. А тое, што ён быў у партыі эсэраў, толькі прывяло людзей да высновы: рабочаму чалавеку нечага совацца ў якія-небудзь партыі. Елагі сталі на бок «бязвінна пацярпеўшага» Івана Чыкунова, а стаўшы на ягоны бок, усяляк памагалі ягоным сынам, якія па елагаўскіх законах помсцілі за бацьку.

Таму і не мог Марк Удоеў дабрацца да чыку-

ноўскай банды. А начальства прыспешвала, сварылася, пагражала, патрабавала неадкладных мер па знішчэнні бандытызму ў акрузе. Марк рабіў нечаканыя налёты на Елагі. Аднаго разу яму пафарціла — застукалі старэйшага Чыкунова, Алёшку, у самым пасёлку, але не ўзялі. Алёшка заечым скокам дабег да раўчука перад кар'ерамі і тут жа нібы растаў. Міліцыя аблазіла равок і прылеглыя да яго кар'еры, але Алёшку не знайшлі.

Недзе там у кар'ерах былі патайныя сховішчы з хітрымі хадамі-пераходамі. А дзе?

Марк Удоеў даўно рашаў гэтую няпростую задачу — галава кіпела ад думак. Як дабрацца да іх, адрэзаць шляхі адступлення бандытаў? Хто ведае пра гэтыя сховішчы, пра хады-пераходы? Дарослыя? Факт! Але за гады палявання на Чыкуновых Марк прыйшоў да высновы, што шукаць сярод іх сабе памочніка бескарысна. Тады як дабрацца да Чыкуновых, да іх сховішчаў? Хто яшчэ можа ведаць пра іх? Дзеці?.. А што!..

Так і пайшоў Марк на неймаверна адчайны крок. Разумеў, чым рызыкуе, а ішоў. «Ну, што ж, у бескампраміснай барацьбе ўсе сродкі карысныя,— даводзіў ён сабе.— Выбіраць не даводзіцца».

## 7

Пазначаная рахітам, залатушная, вечна саплівая елагаўская дзятва з першых дзён неўзлюбіла сыценькага, чысценькага, дужа далікатнага ў абыходжанні Сеньку Недасейку, які прыехаў з Піцера да цёткі Капіталіны, што зусім нядаўна купіла па Кар'ерным завулку хатку на курыных ножках, на барановых рожках.

Сюды, у Елагі, Серафіма прывёз нелюдзімы, маўклівы рамізнік, гаспадар чорнай лакіраванай брычкі і шэрага ў яблыкі каня. Спыніўшыся перад пахіленым плотам, за якім ваўчынай зяпай шчэрыліся расчыненыя дзверы, рамізнік раптам гукнуў на ўвесь завулак:

— Эй, гаспадыня!.. Гаспадынька! Госця прывёз...

З суседніх двароў і агародаў сачылі за прыезджым цікаўныя вочы — кожны незнаёмы чалавек быў тут

пад наглядам. Суседскі госць — дзіця ў матросцы і кароценькіх штоніках — баязліва азіраўся. Але інтарэс да яго не слабнуў.

— Які яшчэ, ліха матары, госць,— даляцеў з хаты ахрыплы голас, і на парозе з папяросай у зубах узнікла худая, доўгая жанчына ў дыяганалевай спадніцы і вылінялай гімнасцёрцы. Серафіму крыху было дзіўна, навошта рамізнік і жанчына прытвараюцца, быццам не ведаюць адно аднаго.— Я нібы нікога не чакаю...

— А ты глянь, глянь,— весела крычаў рамізнік.

Жанчына, не спяшаючыся, ішла ад хаты па сцежцы, раптам пляснула ў далоні, завыла, як не сваім голасам:

— А бо... А яціт тваю качарыжку!.. Сенька!.. Сенечка!.. Што ж яна, яці яе, аднаго цябе ў дарогу выправіла?..

Яна выхапіла Серафіма з брычкі, прыціснула да жорсткіх грудзей, няўмела тыцнулася ў Серафімавы шчокі — расцалавала. Разлічыўшыся з рамізнікам, трымаючы Серафіма за руку, павяла яго ў хату, несучы ў правай руцэ куфэрачак. А ў хаце ўжо дзелавым тонам загадала:

— Будзеш зваць мяне цётка Капа.

— Я ведаю,— адказаў Серафім, дзівячыся з убоства хаты.

— Спаць будзеш на канапе. Без майго дазволу нікуды не хадзі. Пра кожнае знаёмства будзеш расказваць вечарам. Астатняе пасля, па меры знаёмства з дзецьмі. Звернеш увагу на Вальку. Гэта не дзяўчынка, а хлопец, сынок падазронага тыпа, вагоннага аглядчыка. Пакуль усё. Праз гадзінку, як паабедаеш, можаш прайсціся, але ў знаёмства не лезь. Хіба да цябе палезуць. Адказвай, як цябе вучылі...

Серафім засумаваў: прыгожая забава павярнулася непрыемнай залежнасцю. Але ён памятаў наказ Марка, безагаворачна слухацца цётку Капу...

Цётка Капа рашуча падштурхоўвала Серафіма на дружбу з такімі ж, як і ён, шкетамі, што жылі на суседняй вуліцы: дзюбаносым, каратканогім Валькам Лычам, рабым, як з пакляваным тварам, Дзёмкам Шлыкам і залатушным альбіносам Яшкам Бруем. Яна ўскладала на іх нейкія надзеі, але збліжэнню з імі Серафіму моцна замінала адчуванне брыдкага прыт-

ворства і той паскуднай хлусні, ад якой яго вечна засцерагалі маці і цётка Дар'я.

Серафім нясмела, з дзіцячай сарамлівасцю лез у чужую, непрыемную яму кампанію; яго ў суполку не прымалі, але і не гналі прэч. Ён быў патрэбны як забава: яго крыўдзілі на кожным кроку, часам білі пад выглядам нейкай гульні. Напрыклад, выклікаліся «паказаць» яму Маскву — балюча праводзілі сагнутым насліненым пальцам па валасах супраць «шэрсці», аж у Серафіма ручаём беглі слёзы; вучылі, хоць ён і не хацеў, прыёмам боксу — знячэўку давалі тырчка пад падбародак, аж ляскалі зубы; «загібалі салазкі» — зацiскалі Серафімаву галаву між ног і ўсе, каму была ахвота, лупілі яго далонямі па заду.

Найбольш дапякаў Валька Лыч, які чамусьці неўзлюбіў Серафіма, можа, за ягоную далікатнасць. Серафім цярпеў, бо таго патрабавала цётка Капа. Толькі, застаўшыся адзін, ён даваў волю слязам.

Яго навучылі гуляць у шлёп — гульню, дзе трэба было біць плоскім каменьчыкам па медзяках, каб яны пераварочваліся ўверх «арлом». Цётка давала на гульню грошы. Серафім сумленна прайграваў іх. Але далей гэтага справа не рухалася. Цётка Капа вучыла:

— Ты іх на кар'еры выводзь, на кар'еры. Гуляйце ў хованкі. Калі Чыкуновы маюць там сховы, дык пра іх ведае і пацанва.

Хлапчукі на кар'еры не хадзілі. Больш лазілі па садах ды гарадах або, забраўшыся куды пад страху, гулялі ў ачко на пстрычкі і на грошы. На кар'ерах найбольш аціраліся дзяўчынкі.

— Бесталковы ты нейкі,— сварылася на Серафіма цётка Капа.— Паспрабуй з дзяўчынкамі пасябраваць. Яны і цікаўныя і балбатлівыя.

Дзяўчынак на Елагах чамусьці было шмат. Яны трымаліся асобнай кампаніі, адстойваючы ад хлопчыкаў сваю незалежнасць. Хлапчукоў да сябе не бралі, ды тыя і самі не дужа набіваліся на дружбу.

Не ведаючы, як завязаць знаёмства з дзяўчынкамі, Серафім звычайна спыняўся воддаль, глядзеў, як яны гуляюць у свае незразумелыя яму гульні.

— Эй ты, апоўзлік, чаго вытрашчыўся,— падбягала да яго задзірыстая, ваяўнічая Наталка-Маталка.— Нечага за дзеўкамі падглядваць.

Яна штурхала Серафіма ў грудзі.

— Я хачу з вамі гуляць,— перамагаючы сорам, казаў Серафім, хоць яму анічуць не хацелася гуляць з ненавіснымі дзяўчынкамі.

— Манька, твой ухажор прыйшоў,— крычала Наталка-Маталка рудай сапліўцы-няўдаліцы.

Манька, па-качынаму перавальваючыся з боку на бок, падыходзіла, брала Серафіма за руку, падаросламу казала чутымі недзе словамі:

— Пайшлі, мілёнак, любіць буду...

Серафім вырываў руку. Яму было брыдка ад дотыку гэтай халоднай, як жабяня, рукі. Дзяўчынкі рагаталі. А ён уцякаў куды глядзяць вочы, блукаў па елагаўскіх вулачках і завулках.

Адзінокія блуканні гэтыя неяк прывялі яго ў цесную вулачку, што падбіралася пад самую строму елагаўскай грады. Строма зарасла глогам, крушынай, калючым чартапалохам, а вышэй — ляшчынай і ельнікам. Вулачка выкручвалася, як вужака на агні, паўтараючы ўсе абрысы стромы. Хаты тут стаялі самавіта, агароды мелі дагледжаны выгляд. У адным з іх, пад яблыняй, варушылася нешта страшнае — вострыя маслакі касцей, абцягнутыя скурай. Прыгледзеўшыся, Серафім убачыў хлопца з вялікай галавой і худым, нядужым целам, перакручаным, як вяровачны жгут. Серафім са страхам глядзеў на гэтага вырадка, чамусьці не маючы сіл адарваць свой позірк.

— Хлопчык, цябе як завуць? — пісклявым галасам запыталася пачвара.

— Сеня,— перасмяглымі ад страху губамі сказаў Серафім.

— Бач ты, Сеня! — падзівіўся вырадак.— Сенька Разін!.. Чуў пра такога?..

— Не, не чуў...

— Хадзем, пасядзі са мной,— Серафім завагаўся. Вырадак, відаць, адчуў Серафімаву нерашучасць.— Ты не бойся...

— Я не баюся,— адказаў Серафім і, знайшоўшы дзірку ў плоце, перабраўся на той бок.

На пярыне ў пярэстай насыпцы ляжаў хлопец з вялізнымі лупатымі вачамі, у адных белых споднiках, закасаных вышэй каленяў. Ягоныя тонкія абрысы твару, такія ж завостраныя, як у святых на іконах з Задунаўскай стараверскай царквы, і пачварнае

цела, скручанае нейкай жахлівай хваробай, выклікалі балючы страх. Серафіму не хацелася глядзець на ягоныя вывернутыя ў суставах рукі і ногі, пакручаныя пальцы, выпучаныя, як у пеўня, грудзі, але ён не мог і адарваць вачэй ад такой страшэннай ненармальнасці.

— Ты мяне не палохайся,— сказаў ён, бачачы Серафімаў страх.— Я зроду такі. Мяне мамка-шкуроха такога нягегліка нарадзіла. Цяпер, во ў дзеда з бабаю жыву. Яны, дурныя, думаюць, што мяне сонца вылечыць. Толькі ніхто мяне не вылечыць. Адзін чалавек казаў, што на сінім моры ёсць такія мясціны, дзе граззю лечаць. Глупства, вядома, ды і чалавек той — злодзей. Яму схлусіць — раз плюнуць. Я такім ужо і памру. А жыць хочацца. Жыць прыгожа. Асабліва цяпер, улетку. Зеляніна вакол, потым усё пажаўцее. Зноў прыгожа. Я богу малюся, каб не забіраў мяне да сябе. Навошта я яму — калека? Табе што? Куды захацеў, туды і пайшоў. А мяне на пярыне вынесуць і на пярыне ў хату занясуць. А ўсё роўна добра. Сонейка свеціць, птушкі пяюць. А бегаю і лятаю я ў сне. Адштурхнуся ад зямлі пад самую столь, перабіраю па ёй рукамі і іду ў паветры, толькі за столь трымаюся. Хораша, сэрца замірае. А то ўзлячу на яблыню і сяджу на суку. У бога, можа, і добра, але тут дабрэй...

Ён гаварыў апантана, нібы баяўся, што Серафім не стане яго слухаць, пойдзе, і ён не паспее выгаварыцца.

— А цябе як завуць? — спытаўся Серафім.

— Мечык...

— Няма такога імя,— сказаў Серафім.

— А во і ёсць... У мяне... Мечык — гэта Мечыслаў...

— Дзіўнае імя... У мяне таксама... Я не Сеня, а Серафім,— прызнаўся ён і раптам спалохаўся: напэўна, пра гэта гаварыць Мечыку было няможна, хоць ён і калека.

— А ты дзе жывеш? — пацікавіўся Мечык.— Ты як бы і не туташні. Я сваіх, елагаўскіх, нюхам чую.

— Як гэта?..

— А так, пагляджу на каго і адразу чую, які ен, добры ці благі. Ты — добры і шчыры.

Пахвала спадабалася Серафіму.

— Я з Піцера прыехаў,— завучана сказаў ён.

— З Піцера?.. Шчаслівы ты!.. У Піцеры жывеш. А я ў сваім горадзе і то адзін раз быў, як мяне да доктара рамізнік вазіў. Я ўсё адзін ды адзін. Цяпер яшчэ нішто, не сумна. А ўвосень ды зімой хоць ваўком вый. А ты даўно з Піцера?

— Даўно... Дзён дзесяць...

— І ні з кім не пасябраваў?..

— Не...

— У нас няма з кім,— пагадзіўся Мечык.— Нашы — задзіры... Давай будзем з табой сябраваць...

— Давай,— пагадзіўся Серафім.

У той дзень ён упершыню схлусіў цётцы Капе: не прызнаўся, што быў у Мечыка, а нагаварыў, нібы гуляў з дзяўчынкамі на кар'ерах і Наталка-Маталка недзе так схавалася, што яе ніхто не мог знайсці, а яна потым як з-пад зямлі выскачыла.

Ягоная хлусня парадавала цётку Капу. Яна накупляла цукерак у прыгожых паперках, напакавала імі Серафімаву запазуху, каб было чым частаваць дзяўчатак.

Цукеркі, прызначаныя дзяўчаткам, Серафім з'еў з Мечыкам і тым яшчэ больш замацаваў дружбу.

Мечык быў нашмат старэйшы за Серафіма, але з-за свайго калецтва ўсё яшчэ заставаўся дзіцем з зайздроснай дасведчанасцю. У ягоных расказах дзіўным чынам перапляталіся выдумка і праўда, фантастыка і рэальнасць, вера ў цуды і цудоўнае. Слухаць яго было дужа цікава, часам страшна, але і салодка, аж заходзілася сэрца. Іншым разам Серафім, слухаючы яго, губляў адчуванне рэальнасці, пагружаўся ў казачна дзіўны свет нязнанага і таямнічага жыцця, у якім не было месца прытворству, хлусні і крыўдам — сонечны край чысціні і суладнасці. У такія хвіліны Серафіму хацелася прызнацца Мечыку, хто ён такі і чаму жыве ў Елагах. Але прывід нечага страшнага, увасоблены ў мужчынападобнай цётцы Капе, стрымліваў яго, прыносячы пакуты.

Як ні дзіўна, але вось гэтая вінаватасць перад Мечыкам усё больш прывязвала Серафіма да чыстага ў думках і намерах хлопчыка-калекі. Прывязанасць была платай Мечыку за яго, Серафімаву, хлусню. Серафіму і самому хацелася быць такім жа чыстым і сумленным, як Мечык, не скрываць ніякай тайны.

Але ён не мог стаць такім, як Мечык, бо ў яго была тайна. Яна прыгнятала Серафіма. Таму ён быў нечакана і моцна ўражаны, калі аднаго разу Мечык сказаў яму:

— Хочаш, я табе адну тайну адкрыю, дужа тайную тайну?..

Серафім нават спалохаўся: няўжо і Мечык пакутуе ад тайны і хоча адкрыцца, каб стала лягчэй. Але было і неверагодна, каб у Мечыка была нейкая тайна. На яго, Мечыка, гэта было непадобна.

— Якую тайну?.. Выдуманую?..

— Не, сапраўдную і вельмі тайную.

— Кажы,— папрасіў Серафім, уздрыгнуўшы, як ад холаду.

— Спачатку пакляніся...

— Клянуся,— прамармытаў Серафім.

— Не, не так. Трэба клясціся самым дарагім. Тым, хто радней за ўсіх.

— Мамай?

— Ага, калі яна даражэй...

Серафім завагаўся. А раптам ён не стрымаецца і каму-небудзь раскажа пра Мечыкаву тайну. Тады з мамай можа здарыцца няшчасце. Але ж і вельмі хацелася пачуць гэтую тайну.

— Клянуся сваёй мамай,— сказаў ён.

— Ці чуў ты што пра Соньку Залатую ручку? — спытаўся Мечык.

Серафіму зрабілася смешна: ён спадзяваўся пачуць нейкую страшную тайну, а Мечык пытаецца пра нейкую Соньку Залатую ручку.

— А хто яна?..

— Хто, хто,— абражаны тым, што Серафім не выказаў належнага здзіўлення, перадражніў яго Мечык.— Мамка мая, во хто...

— Ну і што? — расчаравана спытаўся Серафім.

— Дурань ты,— незлаcліва аблаяў яго Мечык.— Яна наводчыца...

— Якая наводчыца?..

— Зусім дурань, нічога не ведаеш,— разважліва сказаў Мечык.— Яна з разбойнікамі знаецца...

Серафіму стала смешна: зараз Мечык яшчэ пачне запэўняць, што ў тых разбойнікаў Сенька Разін за атамана.

— Брэшаш ты,— сказаў ён,— але брашы. Я люблю выдумкі.

Мечык пакрыўдзіўся.

— Не верыш — не трэба,— сказаў ён.

— Веру, веру,— смеючыся, закрычаў Серафім.— Расказвай!..

Крыху памаўчаўшы, Мечык спытаўся:

— Пра братоў Чыкуновых чуў?..

— Пра бандытаў?..

— Яны не бандыты — разбойнікі,— запярэчыў Мечык.— Бандыты — дрэнныя людзі, а разбойнікі за справядлівасць змагаюцца.

— І Чыкуновы?..

— А як жа! Іхняга бацьку нізавошта расстралялі. Яны за бацьку помсцяць. І ты помсціў бы, каб твайго нізашто расстралялі. Святое дзела!.. Іх усе падтрымліваюць. А Лёшка Чыкуноў — мой тата. Во! Пра гэта ведае толькі мама, дзед з бабаю ды я. Больш ніхто. Цяпер во ты.

Серафіма затрэсла, як у ліхаманцы. Яму захацелася дамоў, не да цёткі Капы, а на Задунаўе, да цёткі Дар'і. Мечык, мусіць, заўважыў нешта, бо загаварыў да яго дрыготкім голасам:

— Толькі во што, Сеня, глядзі, каб нікому ні слова. Я з табой, як з братам. Іначай ні табе, ні мне не жыць. Я што — калека. А табе жыць нада. Глядзі, Сеня, ты мамай кляўся. Скажаш каму, мама памрэ. Ты ж не сказаш, не?

— Я не скажу... Нікому...

Дома яго сустрэла вечнай сваёй буркатнёй цётка Капа.

— Швэндаешча, швэндаешча недзе. А толку? Які з цябе толк? Так, пустое месца. Памочнік мне, а Марк злуе. Ну, што, зноў нічога?..

Не прывучаны хлусіць, Серафім лепшага не прыдумаў, як у другі раз паўтарыць сваю выдумку пра Наталку-Маталку, якая недзе так схавалася, што яе шукалі паўдня і не знайшлі. Цётка Капа слухала, ўважліва, а ён хлусіў самааддана, аж сам верыў у тое, пра што гаварыў. Нарэшце ўся ягоная фантазія была вычарпана, і ён замоўк, толькі цяпер адчуўшы няёмкую скаванасць. Яму здалося, што на гэты раз цётка Капа яму не паверыла. Ды так яно і было: цётка

балюча тузанула яго за вуха, аж у Серафіма пасыпаліся слёзы.

— Хлусіць, гадзяня, і не шманае,— злосна сказала яна.— Ты каму хлусіш? Мне?.. Ды я цябе наскрозь бачу. А каб і не бачыла, дык мне Манька-Сапліўка расказала...

Серафім не на жарт спалохаўся, што Манька-Сапліўка расказала Капе і пра Мечыка. Але цётка сама сябе выдала. Яна тут жа спыталася:

— Кажы, дзе бадзяешся? З кім водзішся?..

Серафім узрадаваўся і з усёй сілай нянавісці крыкнуў:

— Не скажу!

— Скажаш, усё скажаш,— прыгразіла цётка Капа.— Нідзе не дзенешся. Табе Марк што загадваў? Пра кожны свой крок мне дакладваць, бо справа, якую мы вядзём, не любіць разгільдзяйства і недысцыплінаванасці. Зараз жа кажы, дзе і з кім быў...

— Не скажу, не скажу,— апантана, праз слёзы закрычаў Серафім.— Табе не скажу, хоць здохну, не скажу...

Цётка Капа схапіла яго за руку, запіхнула ў камору з маленечкім акенцам пад столлю.

— Пасядзі, падумай,— зачыняючы дзверы, сказала яна.

Серафім сеў на стары тапчан. Яго душылі слёзы бездапаможнасці. Ён чуў, як цётка Капа хадзіла па хаце, мабыць, некуды збіралася, бо сапраўды неўзабаве грукнулі дзверы і навокал усталявалася цішыня. Серафіма апанавалі чорныя, як ноч, думкі; зрэдку між імі выблісквалі іскры надзеі. На што? На нейкі цуд? Але яны хоць крыху лячылі спакутаваную душу, змякчалі невымоўна балючыя крыўды.

...Яго разбудзіла рыпенне дзвярэй. Ён ускочыў з тапчана, спрасонку не разумеючы, дзе ён і што з ім. У дзвярах стаяў Марк. Серафім ледзьве пазнаў яго: замест прывычнай вопраткі на Марку быў парусінавы плашч з капюшонам і боты, а на галаве кепка.

— Марк, Марк,— кінуўся Серафім да вотчыма.

Той падхапіў яго на рукі, вынес з каморы, плюхнуўся на самаробнае цяжкае крэсла, пасадзіў Серафіма сабе на калені.

— Прамахнуліся мы з табой,— спачувальна зага-

варыў ён і паскардзіўся Серафіму: — А мне, брат, начальства холку кожны дзень мыліць. Вось так... За цябе мыляць, што ты доўга не можаш разведаць тое, што нам неабходна...

— Марк,— узмаліўся Серафім,— забяры мяне. Я не хочу болей жыць тут, мяне ўсе ненавідзяць: і пацаны, і дарослыя, адзін Мечык добры. Я не хачу жыць у Капы, яна злая. Яна біла мяне...

Серафіму здалося, што Марк задумаўся. Ён доўга маўчаў.

— А ты хацеў, каб цябе ворагі нашы любілі? — спакойна спытаўся ён.— Тут, брат, барацьба не на жыццё, а на смерць. Хто каго?.. Толькі мы ўсё адно пераможам. Вось так. А што наконт Капы, дык яна цябе больш не кране і пальцам. Я ёй ужо наківаў добра. А цяпер скажы мне: хто такі Мечык?..

— Марк, я больш не застануся тут, мы зараз пойдзем дамоў? — з надзеяй спытаўся Серафім.

— Пойдзем,— падумаўшы, пацвердзіў Марк.— Але ты не сказаў мне, хто такі Мечык?..

— Хлопец адзін... Калека...

— А дзе ён жыве?..

Серафім адказаў. Марк задаваў і задаваў пытанні, па нітачцы выцягваючы з Серафіма ўсё, што той ведаў пра Мечыка. Толькі калі ён перастаў задаваць пытанні, Серафім успомніў, што расказаў Марку і аб тым, пра што кляўся маўчаць.

— Марк, толькі, чур, нікому пра гэта не гавары, бо я мамай пакляўся не выдаваць Мечыкавай тайны. Калі я выдам ягоную тайну каму або ты яе выдасі, мама памрэ страшнай смерцю...

Марк выслухаў прызнанне Серафіма з пачцівай уважлівасцю, сказаў:

— Ну, вядома, вядома. І ты больш нікому не гавары пра гэта, нават Капе...

— Але ж мы зараз пойдзем адсюль,— нагадаў Серафім.

Марк на хвілінку як бы разгубіўся.

— Бачыш, Сеня, зараз позна, ноч. Як мы дабярэмся?.. А заўтра я прышлю па цябе рамізніка. Ды і ў мяне адна справа тут намецілася. Так што пераначуй, а заўтра і дамоў. Добра?..

— Ладна,— неахвотна пагадзіўся Серафім.

— Во і малайчына,— пахваліў ён Серафіма і пак-

лікаў Капу, а калі тая зайшла са двара, загадаў: — Галавой за яго адказваеш. Змікіціла? Астатняе, як дамовіліся. Ну, Сеня, да хуткай сустрэчы...

## 8

Раніца выдалася сонечная, росная. На выгане трава здавалася сівой, як валасы старога. Але на сонцы раса іскрылася ўсімі колерамі вясёлкі.

Серафім паснедаў, спытаўся, калі будзе рамізнік, і, пачуўшы, што гадзіны праз дзве, папрасіўся:

— Я прайдуся...

— Не, мне загадана цябе не выпускаць, пакуль не прыедзе рамізнік,— адказала цётка Капа сярдзітым, няўжыўчывым голасам.

— Але мне трэба,— запярэчыў Серафім.

— Ці мала што табе трэба,— абыякава адказала яна.

Серафім сеў каля акна, пачаў глядзець на вуліцу, панылую і пустую. Цётка Капа то выходзіла на двор, то вярталася ў хату. Серафім напружана думаў над тым, як абмануць цётку і збегаць да Мечыка, каб развітацца з ім? Яму б толькі выбрацца з хаты, а там свішчы ветру ў полі. Але як выбрацца?.. Раптам яго азарыла...

Ён пайшоў да дзвярэй; цётка Капа, тут як тут, спыталася:

— Куды?

— У прыбіральню...

— А-а-а...

Серафім пайшоў па сцежцы да прыбіральні ў кутку саду.

— Эй, апоўзлік,— паклікала яго Наталка-Маталка.

Яна стаяла за плотам і смяялася.

Серафім хацеў спытаць, што ёй трэба, але на парозе хаты ўжо ўзнікла Капа.

— Дзяўчынка, табе што трэба? — спыталася яна.

— Мы вашага Сеньку хацелі пазваць гуляць з намі,— адказала Наталка.

Наталка-Маталка чамусьці марудзіла, стаяла і спадылба цікавала за цёткай Капай.

— Табе яшчэ нешта трэба? — дапытвалася Капа.

Серафім бачыў, што цётка занята размовай з Наталкай-Маталкай, і ён, не дайшоўшы да прыбіральні, сігануў у кусты парэчак, выбраўся на чужы агарод, а адтуль на вуліцу.

У канцы яе стаялі Валька Лыч, Дзёмка Шлык, Яшка Бруй і яшчэ нейкі хлопец, Серафіму незнаёмы. Да іх бегла Наталка і крычала:

— Яна яго не пускае...

— Дык вось жа ён, вось,— узрадавана крыкнуў Валька.— А ты кажаш. Эй, Сенька, грабі сюды...

Серафіму не хацелася падыходзіць да іх. Вядома, чаго клічуць — іграць у шлёп ці ў ачко. Але і не падысці было нельга, быццам нечага спалохаўся іх.

— Куды навастрыў лыжы? — спытаўся Валька Лыч.

— Нікуды,— пазіраючы ў зямлю, адказаў Серафім.

— А я ведаю, ведаю,— падскокваючы на адной назе, залапатала Наталка-Маталка.— Ён да Мечыка ідзе, каб мне здохнуць...

Серафім аж перасмыкнуўся: яму здавалася, пра іх дружбу з Мечыкам ніхто не ведае.

— А вось і не да яго,— схлусіў ён, выдаючы сябе з галавой.

— Да яго, да яго,— запляскала ў далоні Наталка.

— Памаўчы ты,— абарваў яе незнаёмы і ўзяў Серафіма за руку вышэй локця.— Пройдземся, міляга, пагутарым...

Страх, як распаленым шылам, кальнуў Серафіма ў грудзі.

— Мне няма калі,— сказаў ён і, упершыся нагамі ў зямлю, прысеў, аж дакрануўся задам травы, паспрабаваў супраціўляцца.

Незнаёмы моцна тузануў яго, крыкнуў Дзёмку:

— Памажы...

Той падхапіў Серафіма пад другую руку. Удвух яны лёгка паставілі яго на ногі, а Валька яшчэ паддаў ззаду босай нагой.

Шлях да старой у руінах цагельні, куды яго прывялі, начыста выпаў з памяці. Хоць не, не зусім начыста. Цьмяна прыгадаўся цікаўны тварык Манькі-Сапліўкі, а з недасягальнай вышыні пачуўся яе голас:

— Куды вы яго?..

Ёй адказала Наталка-Маталка:

— Вешаць вядзём...

Нехта з хлопчыкаў прыгразіў — Серафім так і не зразумеў каму:

— Глядзі, вякнеш — язык адрэжам.

Серафіма прывяло ў прытомнасць рыпенне дзвярэй. З гэтага імгнення памяць зноў захавала ўсё да кожнае драбніцы. Запомнілася, што дзвярыну пагойдваў вецер і яна сіратліва парыпвала — ціха так і баязліва,— яшчэ запаў у памяць парог, высокі, падгнілы, з выедзенай сярэдзінай. За ім, аднекуль зверху, з дзіравага даху, светлым пукам падала святло. На гнілой падлозе жаўцеў ірваны круг сонца. У куце, на кучы друзу, валялася табурэтка з трыма ножкамі. У другім куце расла трава. Са столі звешвалася бэлька, адзін канец яе нейкім цудам трымаўся ў гняздзе сцяны.

Серафіма паставілі пасярод пакоя, якраз у сонечным крузе. Цяпер яму зноў стала страшна. Страх грукатаў у грудзі малаточкам. Ад ягонага грукату агідна нудзіла ў жываце. Страх жыў у ім неяк адвольна, сам па сабе, бо Серафім мітуслівa спадзяваўся на нейкі паратунак, і гэта крыху адцягвала ягоную ўвагу ад брыдкага страху.

— Ну, дык расказвай, міляга, адкуль і чаго прыехаў? — стоячы крокі за два ад яго і крыху над ім, спытаўся незнаёмы.

У ягоным голасе не адчувалася пагрозы, і ў Серафіма бліснула надзея, што ўсё абыдзецца.

— З Піцера,— адказаў ён, але без належнага даверу да сваіх слоў.

— Ах ты, гад лягавы,— Валька з-за спіны незнаёмца выцяў Серафіма босай нагой у жывот.

Серафім скурчыўся, прысеў ад болю.

— Канчай ты,— сказаў Вальку незнаёмы.— Можа, ён і не вінаваты. Праўда ж, ты не вінаваты?..

У ягоным голасе — здзек, але Серафім гэтага не заўважае. Перад ім надзея на выратаванне. Гэта ўсё Валька. Ён заўсёды чапляўся. Яшчэ Наталка-Маталка. Шпана!..

— Я вам нічога не зрабіў...

— Ну, во, ён нам нічога не зрабіў,— сказаў незнаёмы.— Не зрабіў, а мы да яго прысталі,— ён раптам хапіў Серафіма загрудкі, страсянуў, як тую

грушку: — Кінь прыдурвацца, шкет. Кажы, каго табе загадалі высочваць?..

Дзіўна, але цяпер Серафім не вельмі і спалохаўся: падзеі разгортваліся так, як некалі прадбачыў Марк. У такіх выпадках ён раіў цвёрда стаяць на сваім, збіваць з панталыку праціўніка.

— Каб мне скрозь зямлю праваліцца, калі хлушу. Во, крыж святы, што з Піцера прыехаў...

Дзеля большай пераканаўчасці Серафім памахаў перад тварам рукою. Ягоная клятва засталася без увагі.

— Не хочаш уважыць? — спакойна спытаўся незнаёмы.— Зараз мы табе пакажам Піцер...

Валька першы выскачыў з-за спіны незнаёмага, з усяе сілы ўдарыў знізу ўверх пад правую сківіцу, аж у Серафіма ляснулі зубы і пацямнела ў вачах. Ён рухнуў на падлогу, нехта адразу ж выцяў яго нагой пад бок, потым пад другі.

Яго білі з упартай цярплівасцю; Серафім чуў боль толькі на самым пачатку, потым цела здранцвела, а ў галаве загуло, можа, гэты гуд і глушыў боль.

— Хоп!..

Голас незнаёмага спыніў Серафімавых катаў. Яго паставілі на ногі, як ставяць малых,— схапілі ззаду за шкірку, прыўзнялі і адпусцілі. Ён неяк устаяў, хоць галава кружылася, а перад вачамі стаяла смуга.

— Ну, дык пабачыў Піцер? — рагатнуў незнаёмы.— Можа, цяпер загаворыш?..

Серафім маўчаў.

— Во, гад лягавы,— сказаў Яшка-Альбінос.

— Загаворыць,— паабяцаў незнаёмы.— Мы яму зараз яйцы чыкнем.

Серафіма павалілі на падлогу, тварам угору. І хоць ён адбіваўся рукамі і нагамі, сарвалі штонікі. Незнаёмы, як бы назаляючыся, дастаў сцізорык з даўгаватай жалезкай, загадаў Вальку:

— Патрымай яго, брыкаецца...

Валька схапіў Серафімавы ногі, распяў. Серафім адразу заціх. Узіраючыся, ён убачыў над сабой рашучыя і нейкія драпежна-жоўтыя вочы незнаёмага, а за ім другія, аж вырачаныя ад цікаўнасці, Наталкі-Маталкі. У яе нават высунуўся з рота язык — ён ружавеў, заціснуты белымі, як часнок, зубамі.

Серафіму зрабілася сорамна, так сорамна, што ён у роспачы крыкнуў на ўсю моц:

— Не нада!.. Скажу!..

Яму дазволілі падняцца, надзець штонікі. Усе хіхікалі, што зламалі, што зрабілі па-свойму, як ім хацелася.

— Ну, гавары,— загадаў незнаёмы.

— А вы мяне тады адпусціце? — спытаўся Серафім.

— Захацеў... — зарагатаў Яшка.

— Заткніся,— злосна абарваў Яшку незнаёмы.— Адпусцім, мальцы, праўда? — звярнуўся ён да хлопчыкаў.— Канечне, адпусцім...

Нешта ў ягоным голасе насцярожвала, але жаданне, як найхутчэй выбавіцца з іхніх рук, адолела.

— Я хацеў выведаць сховішчы бандытаў Чыкуновых,— па-чужому, стала сказаў ён.

— Выведаў?..

— Не...

— Брэшаш...

— Не...

— А Мечык пра што табе гаварыў?..

Серафім адчуў небяспеку для Мечыка, не стрымаўся, спытаў:

— Што з ім?..

— Яшчэ пытае,— злосна сказаў Валька.

— Чаму яго забралі? — зноў беручы Серафіма загрудкі, спытаўся незнаёмы.— Што ён табе сказаў?..

— Ён сказаў, што нейкая Сонька ягоная мама, а Чыкуноў — тата...

— Яшчэ што?..

— Больш нічога?..

— А ты каму сказаў?..

— Марку...

Вось пра гэта гаварыць было нельга, ні ў якім выпадку нельга, але Серафіму раптам стала ўсё абыякава, ён ужо зусім падсвядома адчуў сваю віну перад Мечыкам. Яго аж скаланула.

— Якому Марку?..

— Тату...

— А ён хто?..

— Чэкіст...

Настала пругкая цішыня.

— Яшка, вяроўку,— загадаў незнаёмы.

Яшка задраў кашулю. Пад ёю — тонкая, як шнур, вяроўка. Яшка адматаў вяроўку, падаў незнаёмаму. Той закінуў адзін яе канец на бэльку.

— Падай табурэтку,— папрасіў Дзёмку.

Стаўшы на яе, незнаёмы пачаў вязаць пятлю.

— Валька, патрымай табурэтку, зараза, куляецца,— прымяраючы да сябе пятлю, сказаў незнаёмы.

Валька прыгнуўся, падставіў калена пад край без ножкі.

Усё нагадвала нейкую пачварную і страшную гульню. Але Серафім страху ўжо не чуў. У яго толькі моцна трымцелі ногі, ды ў грудзях драпала ледзяное дыханне.

— Звяжыце рукі,— распарадзіўся незнаёмы, і паслухмяныя яму Яшка з Дзёмкам звязалі Серафіму раменьчыкам рукі, падвялі яго да табурэткі, абхапіўшы з двух бакоў, прыўзнялі, паставілі побач з незнаёмым.

Валька задраў галаву ўгору, каб не прапусціць галоўнага, і табурэтка кульнулася так, што незнаёмы з Серафімам ледзьве ўстаялі на ёй.

Абхапіўшы адной рукой Серафіма, незнаёмы другой рукой спрабаваў накінуць на ягоную шыю пятлю. Тая крыху не даставала. Незнаёмы распарадзіўся, каб Дзёмка з Яшкам троху прыўзнялі Серафіма. Яны, моцна заціснуўшы калені Серафіма, прыўзнялі яго. Незнаёмы нарэшце закінуў пятлю і саскочыў на падлогу, Серафім спрабаваў дастаць табурэтку нагамі, але яна кудысьці знікла. Пятля балюча рэзала падбародак. У вачах плыў туман, і не хапала паветра. Ад таго дзёрла і пякло грудзі.

Недзе далёка, а можа, і зусім блізка, грымнуў гром. Раз, другі, трэці. Ягонае рэха балюча выцяла па вушах, і адразу настала цемра...

## 9

З чорнага небыцця выплыў, як у тумане, твар цёткі Дар'і. Перад тварам матлялася вяровачная пятля. Серафім сціснуўся ў камячок і ціха заскуголіў, як пакінуты на марозе шчанюк. Яму было балюча глядзець на яркае, рэзкае святло, і ён моцна заплюшчыў вочы. Стала ўтульна і чорна. Потым

чыясьці халодная рука лягла яму на лоб. Серафім мігнуў вейкамі, і перад ягонымі вачамі распахнуўся свет — вялізны сонечны круг, у цэнтры якога сядзеў Марк.

— Марк, гэта ты? — спытаўся Серафім.

— Не, я — Мечык...

Мечык вісеў у паветры выпрастаны, без гарба і скручаных рук. Ён усміхаўся.

— Я раскажу табе пра Сеньку Разіна,— сказаў ён, не раскрываючы вуснаў.

Наўкол стаяла пругкая цішыня. Раптам яна раскалолася мноствам гукаў, якія дасюль былі нібы замарожаныя. Серафіму захацелася схавацца пад коўдру, бо гукі набіваліся ў рот, нос, вушы, ад іх не было ратунку. Нават пад коўдрай. І ён закрычаў, што было моцы.

Недзе затупацелі па падлозе ногі, і на парозе ўзнікла постаць маці, але як бы і не яе, а чужой, высахлай жанчыны. Толькі вочы ды валасы былі яе. Але і не зусім яе: вочы пабольшалі, а валасы пабялелі.

— Мама!.. Мамачка!.. Матуленька!..

Серафім толькі варушыў перасмяглымі вуснамі. Але і гэта было адзнакай жыцця пасля беспрасветнай і пакутлівай чарнаты.

## 10

Працяглая хвароба забіла ў ім дзіцячую жвавасць. Цяпер Серафім падоўгу мог глядзець у акно на панылую, пыльную і пустую вуліцу, быццам бачыў на ёй нешта вельмі цікавае. Маці занепакоена пыталася:

— Ну, што ты ўтаропіўся, Сіма?

Ён пакорліва адводзіў вочы, але ўсё роўна заставаўся недзе там, а не тут, дзе сядзеў. Яму і самому быў незразумелы гэты стан адсутнасці — душа кудысьці адлятала, а ён, ягоная абалонка, нагадвалі аб ім, як кінутая кімсьці апранаха.

Неяк у кватэры на Серафімава здзіўленне паявіўся Ерка, босы, з парэпанымі нагамі, у вылінялай кашулі, падстрыжаны пад гаршчок. Сарамліва азіраючыся, ён стаяў у прыхожай — вялікае люстэрка дакладна адбівала ягоную збянтэжаную постаць.

— Я нешта табе прынёс,— сказаў Ерка, убачыўшы Серафіма, і дастаў з-за пазухі шпака.

Шпак круціў чорна-карычневай галоўкай, стараўся паглыбей зашыцца ў Еркаў кулачок. Серафім ніяк не мог даўмецца, навошта яму шпак. Затое маці радавалася. Серафім адчуваў, што радуецца яна няшчыра.

— Што ж ты, Сіма, падзякуй Ерафею,— паўшчувала яна сына.

— Бяры,— працягнуў руку Ерка.

Шпак спалохаўся яшчэ больш.

— Выпусці яго,— папрасіў Серафім.

— У яго крыльца перабіта,— адказаў Ерка.— Выпусціш — кот з'есць.

Серафім павярнуўся і пайшоў да сябе ў пакой. Ерка і маці хвілін пяць чакалі яго. Потым маці зазірнула ў ягоны пакой. Серафім сядзеў пры акне і плакаў.

Шпака ўсё роўна пакінулі — Кліму,— праз тыдзень птушку задушыў кот.

Марк дома не паяўляўся, і Серафім не пытаўся, дзе ён. Марк заставаўся па нейкі другі бок Серафімавага існавання, нібы іх раздзяляла глыбокая рака. Маці таксама нічога не гаварыла пра Марка. Але ягоныя рэчы траплялiся ў кватэры на кожным кроку. Серафім чамусьці думаў, што Марк знік назаўсёды. Але ён прыйшоў неяк нацямку — у зале гарэла лямпа, і маці з цёткай Дар'яй пілі чай. Марк правай рукой абняў маці, якая паспешліва падхапілася з крэсла, прыціснуў яе да левай рукі, што вісела перад грудзямі на шырокай чорнай перавязі.

Матчына і Маркава парыўнасць цягнулася, можа, якое імгненне — раптам абое адштурхнуліся адно ад аднаго.

— Ты так нечакана,— сказала маці.

— Адляжаўся,— адказаў Марк і падхапіў Кліма на калені.

Серафіма ён як бы і не заўважыў, і Серафім чамусьці саромеўся глянуць на яго — панура маўчаў.

Марк сядзеў на крэсле, трымаючы на каленях Кліма, размешваў лыжачкай чай у шклянцы з залатым абадком. Толькі цяпер ён звярнуў увагу на Серафіма і падміргнуў яму. Серафіму гэтае падмірг-

ванне падалося блазенскім, недастойным мужчыны.

— Цябе раніла? — з дарослай сур'ёзнасцю спытаўся ён.

Марк і маці пераглянуліся. Ад Серафімавай увагі не схавалася іхняя збянтэжанасць.

— Драпнула,— пасля задоўжанай паўзы адказаў Марк.

— Чыкуновы?.. Ты іх злавіў?..

— Усіх,— неахвоча адказаў Марк.

— А дзе Мечык?..

Марк хлебтануў чаю, апёкся.

— Гарачы, каб яго. Нам там халодную бурду давалі — адвык ад гарачага,— сказаў ён, як бы саромеючыся, што апёкся.

— Марк, я пра Мечыка пытаўся, дзе ён?..

— Пра якога Мечыка? — здзівіўся Марк.

— Пра таго, што я тады расказваў, калі ты прыходзіў да цёткі Капы,— нагадаў Серафім.

— Нешта не разумею цябе, Сеня,— хмура ссунуўшы бровы, сказаў Марк.

— Гэта яму прытрызнілася,— падказала маці.— Гарачка ў яго была.

Марк нечаму ўзрадаваўся, загаварыў няскладна, неўпапад, але вельмі ўпэўнена:

— Ага, брат, напалохаў ты маму. Думалі, не вышкрабешся. Абы-што гаварыў. І пра нейкага Мечыка нёс несусвеціцу. Цяпер табе есці трэба паболей. На харчы націскай. У школу трэба ісці. Нічога, што пазней прыйдзеш — нагоніш. Ты, брат, малайчына.

Серафім з неймавернай цяжкасцю ўзважваў пачутае. Шалі няўмольна перацягвалі ў мінулае: стары сад, паласатая пярына, Мечык, цётка Капа, Наталка-Маталка, старая цагельня — ланцужок падзей так выразна бачаных, а не прытрызненых. Ён зразумеў, што Марку патрэбны доказы, бо ён забыўся на ўсё толькі таму, што яго параніла.

— Эх ты, можа, і цётку Капу не памятаеш? — сказаў Серафім, радуючыся, што загнаў Марка ў тупік.

— Якую Капу? — аж сярдзіта спытаўся Марк не ў яго, а ў маці.— Ты што-небудзь разумееш?..

— Сыночак, не трэба,— маці ўзяла яго на калені, як малое.

Ён пастараўся вызваліцца з яе абдымкаў.

Яму хацелася запытаць, можа, і цагельні не было, і таго, як яго вешалі? Але цяперашні пасталелы розум разважліва падказаў, што задаваць пытанні дарма: ні Марк, ні маці нічога яму не скажуць. Хіба цётка Дар'я. Усе лягуць спаць, тады ён прабярэцца ды цёткі Дар'і і спытае, прытрызнілася яму ці не. Але цётка Дар'я раптам засабіралася дамоў. Усё было супраць яго. Як тады, у цагельні...

— Сіма, ідзі спаць,— загадала маці.

Яна ўзяла яго за руку, завяла ў пакой, паклала на ложак і старанна захутала коўдрай. Ён хацеў папрасіць, каб маці пасядзела каля яго, але падумаў, што яе чакае Марк,— ён ужо даўно змірыўся з тым, што маці найперш належыць Марку і Кліму. А потым ужо яму.

Ён ляжаў у цемры і слухаў, як размаўляюць маці і Марк. Іх галасы то заціхалі, то набывалі моц; здавалася, што яны спрачаюцца. Серафіма іхняя гамонка трывожыла.

У калідоры панавалі прыцемкі, ён асвятляўся толькі ад лямпы цераз фрамугу над дзвярамі ў залу. Марк і маці ўсё яшчэ сядзелі там. Падкраўшыся да дзвярэй, Серафім стаіўся, прыслухаўся. Галасы былі чуваць больш выразна.

— Страх, страх, во што павінен адчуваць кожны... Ты мне, Маруся, мінулым не тыкай, каб давялося пачаць усё спачатку, я рабіў бы ўсё так, як было... Людское смецце вымятаць трэба, яно, як зараза, толькі перазаразіць адданых нам... Хопіць размоў аб літасці... Мне напляваць, што некалі скажуць... Пераможцаў не судзяць... І амба...

Маці гаварыла не так рашуча і ўпэўнена. Яе словы цяклі памалу, як расплаўлены воск:

— А сумленне? Яго ты не бярэш у разлік?.. Ты, Марк, блукаеш упоцемках без агню... Чалавек зразумець павінен...Выхавай яго... Рэвалюцыя, Марк, чалавечная, а ты яе ў брудзе хочаш выкачаць... Што пра нас нашчадкі скажуць?..

Серафім наважыўся адкрыць дзверы і нечакана паявіцца перад маці і Маркам. Ён хацеў пабачыць, што будзе, калі ён раптам зойдзе ў залу, але не мог. Было нечага боязна. За дзвярыма стала ціха. Потым Марк сказаў:

— А я цябе голую сніў...

— Можа, не мяне? — засмяялася маці.

— Будзем класціся,— пазяхнуў Марк.

— Чакай ты, нецярплівы,— задыхана сказала маці.— Спачатку гляну на Сіму. Як ён...

— Інцілегентных крывей ён, во што я табе скажу,— незадаволена зазначыў Марк.

Серафім кінуўся ў свой пакой. Прытварыўся, што спіць.

...У горадзе ператрасалі ўстановы, служачых, нэпманаў. Па людзях шасталі розныя чуткі — зыбкая нетрываласць адчувалася ва ўсім, і маці з Маркам па вечарах прападалі недзе на сходах. Прыходзілі выматаныя, знясіленыя, абое злосныя — не падступіся. Нечага тапырылася, злавала і цётка Дар'я. У Серафіма з ёю таксама парвалася колішняя дружба. Здарылася гэта пасля таго, як Серафім падпільнаваў момант, калі яны засталіся з цёткай адны і запытаўся:

— Цётка Дар'я, а што са мной было да хваробы? Чаму я захварэў?

— На ўсё міласць божая,— адказала цётка Дар'я.

— Я Чыкуновых выслежваў,— прызнаўся Серафім.— А мяне шпана павешала...

— Каб павешала, не сядзеў бы тут,— адказала цётка Дар'я.

— Дык што, я, па-твойму, хлушу? — пакрыўдзіўся Серафім.

— Ты пра ўсё забудзь. Забудзь, і канец справе,— параіла цётка Дар'я.— Як бы нічога не было... Трызненне, і не больш. Усё, дзетка,— трызненне, усё жыццё — трызненне...

Серафім адчуваў, што цётка Дар'я нешта хавае, а можа, нечага баіцца. А што, калі ўсе баяцца, кожны чалавек?.. Ён таксама чагосьці баіцца, хоць і не разумее чаго...

У яго прапала ахвота каго-небудзь бачыць і задаваць пытанні. Адзінота не палохала яго, а выклікала спакой і раўнавагу. Таму, калі маці неяк сказала яму, што павядзе ў школу, Серафім спалохаўся — не школы, а вучняў.

Школа, дзе ён павінен быў займацца, знаходзілася на Замкавай вуліцы. Дзень быў сонечны, халодны, з нямоцным усходнім ветрам, які дзьмуў ім у спіну.

Яны ішлі па Задунаўскай вуліцы, па цесным тратуары, выкладзеным дзе пліткай, а дзе чырвонай цэглай і брусчаткай. Па той самай вуліцы, па якой яны ішлі некалі з Маркам і гулялі ў дзіўную гульню: хто больш запомніць, пакуль яны дойдуць да архірэйскага сквера. А можа, і гэта яму прытрызнілася ў гарачцы? Серафім падумаў і адчуў, як у галаве нешта затрывожылася, балюча варухнулася і заціхла. Серафімава свядомасць апошнім часам жыла на двух узроўнях: адзін быў рэальны, другі — прывідны. Але той прывідны ўзровень найбольш і непакоіў яго сваёй балючай рэальнасцю. Прывідны жыў у ім, рэальны абыякава існаваў — не больш.

За ровам, у архірэйскім скверы ішоў хрэсны ход. Людзі неслі харугві, іконы, спявалі, але галасы іх глушыліся вясёлым блямканнем званоў Мікалаеўскага сабора. Было нейкае свята. Чалавек, абганяючы Серафіма і маці, заткнуў рукамі вушы, кінуў на хаду: «Разблямкаліся, паразіты, такую іх маць...»

Маці ўзяла Серафіма за руку і наддала кроку.

Школа займала другі і трэці паверхі над рэстаранам «Аўрора» і мужчынскай цырульняй з мноствам шыльдаў, на якіх былі намаляваны галовы прылізаных мужчын. Па шырокай лесвіцы яны падняліся на другі паверх, дзе ў вялізным светлым пакоі — настаўніцкай — стаяў доўгі стол, заляпаны чарнілам, і яшчэ адзін, пакрыты зялёным сукном, за якім сядзеў пастрыжаны нагала насаты чалавек.

— Што вы хацелі? — не ўзнімаючы галавы ад вялізнага аркуша цвёрдай паперы, расчэрчанай на клеткі, спытаўся ён.

— Я жонка Удоева,— сказала маці.— Ён гаварыў з вамі...

— Ага,— адарваўся ад папер насаты чалавек.— Гэта ён? — паказаўшы на Серафіма, спытаў насаты.

— Ён хварэў, але я рыхтавала яго...

— Два месяцы ўсё ж...

— Нагоніць,— паабяцала маці.— Ён кемлівы...

— Накіруем яго да Зосі Антонаўны,— сказаў насаты.

Клас размяшчаўся тут жа, на другім паверсе. Зося Антонаўна пасадзіла Серафіма трэцім за парту каля віхрастага хлопчыка з рознакаляровымі вачамі, побач з якім сядзеў кругленькі, стрыжаны пад нуль.

— Дзеці,— звярнулася яна да вучняў,— да нас са спазненнем прыйшоў вучыцца новы хлопчык — Серафім, Сіма Недасейка. Не крыўдзіце яго, а сябруйце і памагайце яму...

Прыкаваная гэтым да яго ўвага паставіла Серафіма ў нязручнае становішча. На перапынку дзеці глядзелі на яго, як на дзіва, але маўчалі і не падыходзілі блізка.

Школа, насуперак страху, нічога не памяняла ў Серафімавым жыцці. Ён і на ўроках часта губляў адчуванне ўласнага існавання, перасяляўся ў нейкі нерэальны, але блізкі і зразумелы яму свет, сядзеў, упёршыся вачамі ў адну кропку, нічога не чуючы, нічога не бачачы.

Яго неўзабаве пакінулі ў спакоі; сярод гаманкой дзятвы Серафім адчуваў сябе так, нібы быў адзін у класе.

— Эй, шкет,— запыніў яго аднойчы вучань галавы на дзве вышэйшы за Серафіма,— гэта з тваёй маткай жыве Удоеў?

Пераростак нёс бязглуздзіцу—Марк быў мужам маці. Серафіма гэта зачапіла за жывое.

— А табе што?..

— Я адразу здагадаўся,— сказаў пераростак.— Цябе як зваць? Серафім? А мяне Глеб.

Серафіму размова гэтая не падабалася. Ён не ведаў, як адчапіцца ад гэтага абармота Глеба.

— Ну, і што? — зноў спытаўся Серафім і павярнуўся, каб пайсці.

Глеб затрымаў яго.

— Ты вось што, пра вотчыма нікому не балабонь. Мой бацька таксама ў турме служыць.

Серафім няўцямна глянуў на Глеба.

— Чаму не гаварыць?..

— Дражніць будуць... Тут адны буржуйчыкі вучацца.

Глеб набіваўся ў сябры нахабна, зусім не цікавячыся, падабаецца гэтае сяброўства Серафіму ці не. А яно прыгнятала Серафіма.

Той не па сваіх гадах шмат ведаў і яшчэ больш дахлушваў. На выдумкі ён быў мастак і дужа злаваўся, калі Серафім лавіў яго на хлусні. Часам Глеб здзіўляў Серафіма высновамі над якімі потым даводзілася ламаць галаву.

Аднаго разу ён сказаў Серафіму:

— Людзі дзеляцца на тых, хто сядзіць, і на тых, хто іх вартуе...

Серафім усумніўся ў такой выснове.

— Брэшаш... Вунь колькі людзей ходзіць па горадзе, а не сядзяць і не вартуюць.

Глеб разгубіўся. Ён доўга ўзважваў Серафімаў адказ, але так і не знайшоў, чым пабіць такі відавочны аргумент. Назаўтра ён паклікаў Серафіма на калідор.

— А вось і не брахаў я,— пераможна сказаў ён.— Ну, і што, калі хто яшчэ не сядзіць. Заўтра яго за азадак ды ў кутузку...

— За што? — здзівіўся Серафім.

— Ці мала за што,— упэўнена адказаў Глеб.

Аднаго разу Глеб зацягнуў Серафіма да сябе дамоў. Іхняя кватэра была па Задунаўскай вуліцы, адразу за мостам праз роў, у чырвоным цагляным доме. Глебавы бацькі жылі ў сутарэнні дома. Праз запырсканыя граззю вокны былі відаць толькі ступні ног. Вялізны пакой перагароджвала фанерная сцяна, голая і нефарбаваная. За ёй стаяў ложак — тапчан на яловых кругляках. У пярэднім пакоі стаяў стол, а на сцяне вісела шафка з посудам. Было яшчэ тры самаробныя крэслы, цяжкія і нязручныя.

— А ты дзе спіш? — спытаўся Серафім.

— Я? На печы...

То, уласна кажучы, была не печ, а пліта з дзвюма канфоркамі. Цяпер яе хавала паркалёвая заслона.

Убоства жылля ўразіла Серафіма. Ён стаяў у парозе, чамусьці баючыся прайсці далей. Са спальні вынырнула маленькая, з Серафіма ростам, жанчына, троху ўжо атлусцелая і жаўтаватая пры цьмяным святле.

— А-а-а, Глеб з госцем,— праспявала яна.— Праходзьце частавацьбуду.

Серафім здагадаўся, што гэта маці. Яна ледзьве даставала да сынавага пляча і, мабыць, вельмі гэтым ганарылася.

Тэпаючы кароценькімі нагамі, яна прынесла з пліты чыгунок з бобам, высыпала яго ў міску, паліла алеем.

— Чым багаты... — сказала яна.

Серафім бобу ніколі не еў, і ён здаўся яму вельмі смачным.

Калі яны вылазілі з-за стала, прыйшоў Глебаў бацька — прысадзісты, без шыі чалавек з панурым позіркам маленькіх, як заплылых, вачэй. Убачыўшы незнаёмага хлапчука, хрыпата спытаўся:

— Хто?..

— Я табе казаў: Удоеў.

— А-а-а, ну, гуляйце...

Ён пайшоў у спальню, а Серафім заспяшаўся дамоў. Ужо на вуліцы ён падумаў, што дарэмна пагадзіўся зайсці да Глеба: нічога цікавага, а цяпер, здаецца, трэба яго запрашаць да сябе. А што скажа Марк? Пра тое, што скажа маці, ён не падумаў.

Серафім разлічыў, калі дома будзе толькі цётка Дар'я, і запрасіў да сябе Глеба.

— Па-буржуйску жывяце,— пазайздросціў Глеб, без аніякай сарамлівасці агледзеўшы ўсе пакоі.— Як нэпманы...

Ён паспрабаваў заглянуць у шафы, але сустрэў рашучы адпор з боку цёткі Дар'і.

— Ты куды нос сунеш? — спытала яна.— Іш ты яго, як дома...

Глеб не пакрыўдзіўся. Ён адчуваў сябе вольна і незалежна. Начаставаўшыся, ён заспяшаўся дамой, загадаўшы Серафіму:

— Праводзь...

— Прайдзіся,— дазволіла цётка Дар'я.

На вуліцы Глеб спытаўся ў Серафіма:

— А ты чаму гэтую старую бабу-ягу слухаешся?..

— Так...

— Ну, і дурань...Ты кім станеш, як вырасцеш?

— Не ведаю,— прызнаўся Серафім.

— Пойдзем у турэмныя наглядчыкі. Работа плёвая, а зарплата добрая: паёк, абмундзіраванне, дзве пары парцянак. Жыць можна.

Серафім прыгадаў убоскасць Глебавага жытла і прамаўчаў.

## 11

Школа адцягнула Серафімаву ўвагу ад хатніх спраў. Часам, праўда, яму здавалася, што маці і вотчым жывуць напружана, нібы чакаюць нейкую бяду. Яны гавораць напаўголасу, амаль шэптам,

а калі заходзіць Серафім, замаўкаюць, вінавата пераглядваючыся.

Аднаго дня, вярнуўшыся са школы, Серафім застаў маці і цётку Дар'ю ў слязах. У парозе стаяў цётчын куфэрак з лакіраваным верхам і дзвюма бронзавымі ручкамі. Знутры вечка было абклеена пярэстымі малюнкамі: этыкеткамі ад мыла, пудры і яшчэ нейкіх рэчаў, а таксама велікоднымі паштоўкамі і ілюстрацыямі з часопіса «Ніва»,— цэлая карцінная галерэя, якую Серафіму дазвалялася, колькі захоча, глядзець разы тры-чатыры на год, калі цётка Дар'я выцягвала рэчы сушыць і перасыпала іх нафталінам.

Серафім спыніўся ў нерашучасці. Маці хуценька выцерла мокрыя вочы батыставай хустачкай, сказала дрыготкім голасам:

— Цётка Дар'я пакідае нас...

Серафім прысеў на куфэрак, цяжка ўсведамляючы сэнс матчыных слоў. Цётка Дар'я заўсёды жыла разам, і было не зразумець, чаму раптам яна цураецца іх.

— Назусім? — спытаўся ён.

— Назусім,— адказала маці.

— Чаму?

— Так трэба...

Адказ не мог задаволіць Серафіма, як найчасцей яго не задавальнялі адказы далослых, але ён прывык не задаваць лішніх пытанняў.

У дзверы ўсуналася рудавалосая лахматая галава рамізніка, валасатая шчэць раптам разявілася, і з адтуліны цяжка выпаўзлі сіпатыя гукі:

— Гэты, ці што?

— Асцярожненька толькі, каб не папсаваў лак,— папярэдзіла цётка Дар'я, але рамізнік на яе папярэджанне не адгукнуўся.

Ён спрытна падхапіў куфэрак і папёр яго перад сабой на двор. Цётка Дар'я расцалавалася з маці, потым прытуліла Серафіма да мяккіх грудзей, стала чмокаць у твар, пакідаючы на ім мокрыя сляды.

— Прыязджай, Сімачка, да нас, прыязджай, дзетка,— сказала яна напаследак.

— І ты не забывай, прыходзь,— азвалася маці, зноў выціраючы вочы батыставай хустачкай.

Калі вазок рамізніка схаваўся за краму жалезных вырабаў, Серафім спытаўся ў маці:

— Чаму вы яе прагналі?

Маці спалохана закаціла вочы, умольна склала далоні перад грудзямі:

— Сіма, як ты можаш такое казаць?..

— А вось і магу, магу,— закрычаў Серафім, не чуючы сябе.

— Не смей,— маці схапіла Серафіма за руку, пацягнула ў хату.

У ёй неяк адразу зрабілася пуста і няўтульна. Але беглі дні, і памяць заплывала забыццём, як сажалка ў летнюю пару раскай.

Марознай сонечнай раніцай на пачатку зімы Серафіма адпусцілі наведаць цётку Дар'ю. У кішэні ягонага паліто ляжала жасцянка з-пад манпансье, а ў ёй прыемна дзынкалі грошы: паўкапейкі, капейкі, траякі, пятакі і яшчэ дзве сярэбраныя манеткі — усяго сорак сем з паловай капеек. Незлічонае багацце, якое сабіралася Серафімам усю восень.

На рагу Замкавай і Магілёўскай у прыватнай крамцы, што ўціснулася між букіністычным магазінам і кафэ з цюлевымі гардзінамі, Серафім купіў два вяцкія пернікі — канька-гарбунка і пеўня з залатым грэбнем — і дзве вялікія, у прыгожых паперках з катусамі, цукеркі — вырабы пышнацелай нэпманшы, якая даганддлёўвала свой нядоўгі нэпманаўскі век.

Такім багачом Серафім і заявіўся ў знаёмы купецкі дом, перад якім на вяроўках вісела процьма бялізны. Ён пастукаў у дзверы — ніхто не адказаў. Тады Серафім пацягнуў ручку на сябе — дзверы лёгка адчыніліся. У прыхожай-кухні нікога не было. Затое з пакояў даляталі звон начыння і вясёлыя галасы.

Адтуль на кухню вылецела расчырванелая Ліда, Ксенчына маці. Убачыўшы Серафіма, яна гукнула:

— Мама, глядзі: госць...

— Які яшчэ госць? — незадаволена спытала цётка Дар'я і выглянула з пакоя.— А бо — Сімка!..

Ідучы сюды, Серафім намаляваў для сябе прывабны малюнак сустрэчы: уяўляў, як па-саліднаму зойдзе ў кватэру, дастане спачатку адзін пернік і адну цукерку і аддасць цётцы Дар'і, а потым яшчэ адну цукерку і пернік — Аксінцы. Цяпер, калі ён убачыў

цётку Ліду, яго аж скаланула ад непрыемнай думкі: як раздзяліць два пернікі і дзве цукеркі між трыма жанчынамі. Становішча было складанае, і Серафім, не ведаючы, што рабіць, трымаў мяшэчак аберуч і маўчаў ад няёмкасці.

Цётка Дар'я ўзяла мяшэчак з ягоных рук, зазірнула ў яго і па-добраму ўсміхнулася:

— Гасцінец мне прынёс. Мамка купіла ці сам?..

— Сам,— сказаў ён, але без таго радаснага адчування, якое павінна было быць, каб не давялося ламаць галаву над невырашальнай задачай.

Цётчын тапчан быў за печчу ў закутку, падобным на нару, хоць у ім стаяў знаёмы Серафіму куфэрак. Закутак не меў акна, і ў ім было б цёмна, каб не гарэла лямпадка перад іконай божай маці ў залачонай аправе і пад шклом. Шкло адбівала святло, і яно рассыпалася па закутку рознакаляровымі іскрамі.

— Во тут і жыву,— ці то паскардзілася, ці то проста паведаміла Серафіму цётка Дар'я.— Мне шмат месца не трэба.

Троху пасядзеўшы, яна сказала, што трэба зайсці да Іллі Давыдавіча, Лідзінага мужа, а Аксінчынага бацькі.

— А Аксінка дзе? — спытаўся Серафім.

— Адбілася дзеўка ад рук, во што я табе скажу,— паскардзілася цётка Дар'я.— Рэменя ёй трэба, а не свабоды...

Серафіму не хацелася ісці да гасцей, якія ўсё мацней гаманілі ў так званай залі. Але цётка Дар'я настаяла.

За сталом сядзелі трое вайскоўцаў: Ілля Давыдавіч са шпалай у малінавых пятліцах, другі быў брытагаловы, з мясістым носам, у пятліцах якога чырванелі дзве шпалы, і зусім малады яшчэ, кучаравы і смяшлівы Росцік з адным кубікам.

— Марка Дзям'янавіча пасынак,— трымаючы Серафіма за плечы, сказала цётка Дар'я.— У госці во прыйшоў...

Серафіму было няёмка. Ён ніяк не разумеў, навошта цётка Дар'я знаёміць яго з гэтымі вайскоўцамі.

Брытагаловы з дзвюма шпаламі павярнуўся да Серафіма нягнуткім кароткім целам.

— Дык гэта цябе, маляўка, чыкуноўцы вешалі? —

спытаўся ён.— Аднача ж дохленькі ты. Ці, можа, Удоеў не корміць?

Ён зарагатаў, хоць на Серафімаў погляд смяяцца не было з чаго.

— Я не адабраў і не адабраю,— разважліва адгукнуўся Ілля Давыдавіч.— Мы не маем права распараджацца жыццямі дзяцей...

— А чаму? — сурова спытаўся ашпалены вайсковец.— Для карысці справы... Але ж падстрахаваць трэба... А ён без страхоўкі... У нашай справе дробязяў не бывае. Гарачка чаго загінуў? Бо зноў жа ніхто не падстрахаваў. А Капіталіна — баба наша ў дошку. Я з ёй аперацыю адну правярнуў. Смелая, як чорт. А тут схібіла.

Забытыя было падзеі зноў паўсталі перад Серафімам ва ўсёй жудасці. Але, бадай, не яны найбольш устрывожылі, а тое, што Марк і маці ашуквалі яго.

Страсянуўшы з плячэй цётчыны рукі, Серафім выбег у кухню.

Следам за ім выйшла з пакоя і цётка Дар'я.

— Хадзем, дзетка, я цябе да Ігара завяду, пакуль Аксінка прыйдзе. Яна пакрыўдзіцца, калі ты яе не дачакаешся.

Падымаючыся па вінтавой лесвіцы ў мансарду, Серафім чуў, як Ілля Давыдавіч гаварыў гасцям:

— Дарэмна ты, Берзінь, усчаў гаворку. Малы думае, што ўсё яму прытрызнілася...

— Глупства,— адказаў вайсковец з дзвюма шпаламі.— Яны з яго слюнцяя вылепяць...

Ігар гуляў сам з сабою ў шахматы. На цётчыну просьбу прытуліць Серафіма, пакуль разыдуцца госці, Ігар кіўнуў на вольнае крэсла галавой.

— Сядай,— а калі Серафім сеў, не адрываючы вачэй ад шахматнай дошкі, спытаўся: — Вучышся?

— Вучуся...

— Вучыся,— дазволіў Ігар.— Вывучышся — чалавекам станеш, а не вывучышся — міліцыянерам будзеш.

— А ты кім будзеш? — спытаўся Серафім.

— Суддзёй,— упэўнена адказаў Ігар.— Лепей самому судзіць, чым быць судзімым.

Ягоная выснова, як дзве кроплі вады, была падобна на Глебаву. Ён так і сказаў Ігару:

— Адзін наш вучань, Глеб Кротаў, казаў, што

людзі дзеляцца на тых, хто сядзіць, і тых, хто іх вартуе...

— Глыбока капае гэты твой Кротаў,— сказаў Ігар.— А хто ягоны бацька?..

— Наглядчык у турме... І Глеб будзе наглядчыкам...

— Усё па закону,— важна сказаў Ігар.— Ці ведаеш ты, навошта каню аглоблі?..

Прывыклы да Ігаравых недарэчных жартаў, Серафім, аднак, пастараўся адказаць на пытанне без блазенства.

— Каб цягнуць калёсы...

— Эх ты, жарабя дурное!.. Аглоблі ўказваюць каню дарогу. Каб не яны, конь чорт ведае куды зайшоў бы...

— Ну, і што? — спытаўся Серафім, зразумеўшы, што Ігар зноў яго разыграў.

— А нічога,— адарваўся ад шахматнай дошкі Ігар.— А прызнайся, раб божы, ці многа ты налажыў у штаны, як чыкуноўцы цябе вешалі?..

Найперш Серафім падзівіўся, што нават Ігар ведае пра ягонае павешанне, а яму, Серафіму, дурылі галаву, нібы ён усё прытрызніў. Але следам паявілася злосць на Ігара — той нахабна смяяўся, і ягоны шырокі твар нагадваў велікодны піражок, памазаны яечным жаўтком.

— А ты — Піражок, во! — крыкнуў Серафім і шыбануў па вінтавой лесвіцы ўніз.

На кухні ўжо апранутыя стаялі двое вайскоўцаў і Аксінчын бацька, Ілля Давыдавіч. На іх былі доўгія да пят шынялі, а ў руках будзёнаўкі з вялізнымі чырвонымі зоркамі.

— Ілля, а калі цябе чакаць? — спыталася Ліда.

Замест яго адказаў Берзінь:

— Жонкі чэкістаў павінны на ўсё жыццё запомніць тры правілы: не цікавіцца, не пытацца, не ведаць.

Ліда пачырванела, як маленькая дзяўчынка. Ды яна і была падобна на падростка: дробненькая, невысочанькая, палахлівая, хоць і вадзіла трамваі на зайздрасць многім і больш мажным жанчынам — у горадзе панавала беспрацоўе.

Ілля Давыдавіч, няйначай, каб падбадзёрыць яе, паляпаў па плячы:

— Не сумуй, маці, усе вяртаюцца на кругі свая...

Пратупаўшы трыма парамі ботаў па кухні, вайскоўцы вываліліся за дзверы, і ў кватэры адразу стала ціха і прасторна.

Цётка Дар'я ўсхадзілася частаваць Серафіма, быццам ён быў бог ведае які важны госць. Завіхаючыся каля печы, яна распытвала Серафіма пра школу, пра маму, Кліма, але чамусьці старанна абыходзіла Удоева, і ў Серафіма сама па сабе выспела здагадка, што гэта Марк настаяў, каб цётка Дар'я не жыла ў іх. Выбраўшы момант, калі Ліда выйшла з кухні, Серафім спытаўся:

— Гэта Марк не захацеў, каб ты жыла ў нас?

— Часы цяпер неспакойныя,— загадкава адказала цётка Дар'я.— Паазвярэлі людзі, гатовы адно аднаго ў лыжцы вады ўтапіць...

— Без цябе сумна,— прызнаўся Серафім.

— Сум, як туман, развейваецца, а людская злоба толькі напальваецца.

— Калі вырасту, дык забяру цябе,— паабяцаў Серафім.

Цётка Дар'я расчулілася:

— Ах ты, мой харошы!.. У цяжкую часіну жыць табе давядзецца. Сэрцам чую, а зразумець не магу — чаму?

Яны гаварылі кожны пра сваё, але неяк так выходзіла, што думалі пра адно і тое ж. Іхнюю дзіўную гамонку перапыніла гулкае шморганне носам. Яны абое азірнуліся: у парозе стаяў хлапчук-абадранец у лямцавай шапцы з адным вухам, чорным зашмальцаваным ватніку, у вялізных чаравіках, над якімі гармонікам навісалі штаны-дудачкі ў вялікую клетку.

— Табе што трэба? — спытала цётка Дар'я.

Ні слова не сказаўшы, абадранец выцягнуў з-за пазухі нейкую паперыну, сунуў яе ў рукі цёткі Дар'і.

— Во, табе,— сказа ен.

— Ліда, Ліда, глянь, што гэта? — паклікала цётка Дар'я дачку.

Калі тая выбегла на кухню, абадранца і след прастыў.

Ліда таксама была не бог ведае якой вялікай граматы. Яна чытала паперыну, варушачы губамі,

а цётка Дар'я і Серафім цярпліва чакалі, пакуль яна прачытае напісанае.

Нарэшце Ліда дачытала паперу, яе твар стаў белы-белы, а рукі затрэсліся.

— Хто прынёс? — нема крыкнула Ліда.

— Што там, што? — спалохана спытала цётка Дар'я.

— Ігар, Ігар,— гукнула Ліда і села на ўслон.— Я з яе шкуру спушчу.

— Ды ты можаш сказаць, што здарылася? — абурылася цётка Дар'я.

— Што, што? Са шпаной, гадаўка, збегла,— як бы чужым голасам адказала Ліда.

— А божачка, а літасцівы,— загаласіла цётка Дар'я.

Зверху пачуўся спакойны голас Ігара:

— Клікалі, цётка Ліда?

— Можа, ты ведаеш, што гэта значыць,— Ліда працягнула Ігару паперыну.— З кім яна збегла?..

Ігар стаяў на лесвіцы, глядзеў зверху ўніз абыякавым позіркам. Зірнуўшы ў паперыну, ён упэўнена сказаў:

— Яна з графам збегла...

— Якім графам? — віскліва спытала Ліда.

— Паязднымі злодзей,— растлумачыў Ігар.— Ён на Пескаваціку аціраецца. Аксінка яго прыводзіла, калі памятаеце, тыдні два назад. У бобрыкавым паліто і клятчатай кепцы...

— І ты маўчаў? — абурылася цётка Дар'я.

— Каму ахвота са шпаной справу мець? — сказаў Ігар.

Ліда раптам заўважыла Серафіма, пра якога, відаць, зусім забылася.

— Мама, ды забяры ты Сімку куды...

Серафім зразумеў, што ён тут лішні, і з разважлівасцю дарослага сказаў:

— Мне, бадай, дамоў пара ісці, каб мама не хвалявалася.

Па дарозе ён думаў пра Аксінку, графа і пескавацкую шпану. Думкі былі няўстойлівыя і яшчэ больш неакрэсленыя.

## 12

Свет выглядаў таямніча, і кожны чалавек у ім нёс сваю тайну. Людзі таму гаварылі часцей за ўсё няпраўду. Да такой высновы Серафім прыходзіў спакваля, назапашваючы назіранні.

Як і пераважная большасць дзяцей, ён ведаў больш, чым гэта ўяўлялася дарослым. Ён рана авалодаў дарам запамінаць разрозненыя словы, выпадкі, здарэнні, факты, пра якія старэйшыя гаварылі толькі намёкамі, навучыўся рабіць з іх свае, па-дзіцячы непасрэдныя, высновы. Роздум над бачаным і чутым быў падобны на тую гульню, у якую яму аднойчы прапанаваў згуляць Марк: запомніць, што пабачыць, ідучы па Задунаўскай вуліцы ў цэнтр горада, і прааналізаваць убачанае.

Лежачы ў пасцелі, Серафім параўноўваў тое, што чуў і бачыў учора або пазаўчора, з тым, што гаварыла сёння дапытлівая, шматвухая і шматмоўная вуліца. Яна ведала і бачыла ўсё, але ў такім перакручаным выглядзе, што Серафім часам станавіўся ў тупік.

Яго ўсё больш турбавалі ўзаемаадносіны маці і Марка. Ён адчуваў тут нейкую таямніцу, якую спрабавалі ад яго схаваць. Гэта толькі падахвочвала Серафіма. Нанізваючы на стрыжаць памяці свае назіранні, ён імкнуўся разабрацца ў іх і ўсё больш заблытваўся.

Апошнім часам Марк часта начаваў на мяккай канапе ў зале, а не ў спальні, як было заўсёды. Гэта і радавала Серафіма і засмучала. Радавала таму, што ў яго не было падстаў для той дзіўнай рэўнасці, якая, бывала, авалодвала ім. Серафім ведаў ужо, што дзяцей дае не бог, як казала цётка Дар'я, іх не прыносіць і бусел, іх не купляюць на базары, як сказала яму аднойчы мама, калі ён спытаўся, дзе яна ўзяла яго. Серафім тады чакаў, што мама скажа праўду, а яна схлусіла, сказаўшы, што купіла яго на Полацкім базары. Калі паявіўся Клім, Серафім пачуў, як матчына ўвага скіравалася на брата. Серафіму даставаліся толькі крохі яе ласкі, і гэта выклікала страх: а што будзе, калі ў маці народзіцца яшчэ адзін сын. Тады на яго зусім забудуцца. Серафім узяў за правіла рабіць так, каб не паявілася яшчэ адно дзіця, якое адбярэ матчыну ласку. Ён

5—1564

прасіўся паляжаць разам з мамай і Маркам. Мама злавалася, а Марк казаў: хай пагрэецца і клаў Серафіма паміж мамай і сабой. Назаўтра Серафім прачынаўся ў сваёй пасцелі, так і не зразумеўшы, калі і як перабраўся ў яе. Яшчэ ён, бывала, клікаў маму, казаў, што яму страшна. Мама прыходзіла, пыталася: «Ну, чаго ты. Выдумляеш нейкія страхі». І ішла да Марка.

Цяпер, калі ён выявіў, што Марк начуе ў зале, ягоная рэўнасць прытупілася, хоць не сказаць, каб знікла зусім. Затое яе месца заступілі непакой і жаласць да маці.

Пачалося гэта з таго, што аднойчы Серафім застаў маці ў слязах. Убачыўшы яго, яна нечага засаромелася, выцерла слёзы хустачкай. Серафім спалохаўся. Стаяў зніякавелы і маўклівы. Мама абняла яго моцна, прытуліла да мяккага жывата.

— Не звяртай увагі, сынок,— сказала яна.— На мяне бывае накочвае... Толькі тату не кажы.

Серафім не збіраўся гаварыць Марку пра матчыны слёзы, але папярэджанне падштурхнула яго на размову з вотчымам.

— А чаго на людзей накочвае? — спытаў ён Марка.

Той чытаў газету, не адрываючыся ад яе, сказаў:

— Накочвае на псіхаў...

Серафім не чакаў такога адказу, задумаўся: выходзіць, і мама псіх? Ён хацеў не пагадзіцца з Маркам, але падумаў, што гэта нічога не зменіць — Марка немагчыма пераспрачаць.

Дні праз тры пасля гэтага да маці завітала Паліна Рагацікава: белашвейка плісэ і гафрэ. Пасля смерці Насцечкі яна пачала насіць пенснэ на шнурку і рабіць з валасоў куксу на макушцы. Ад таго, падобная некалі на дзяўчынку, белашвейка стала выглядаць строга, і нават мама цяпер называла яе мадам Рагацікава.

Знімаючы мерку, Паліна не пераставала захапляцца мамінай фігурай.

— Марыя Данілаўна,— гаварыла Паліна нараспеў,— на вашу фігуру шыць адно задавальненне. Каб я не мела патрэбы ў грошах, я шыла б вам бясплатна.

— А што толку з фігуры і дзеля каго яе берагчы,— паскардзілася мама.

Серафім сядзеў у сваім пакоі, але ўсё добра чуў

праз расчыненыя дзверы. Ён аж прыўзняўся з крэсла і на дыбачках падкраўся да дзвярэй — во яна, маміна тайна!..

— Так ужо і няма дзеля каго,— усумнілася белашвейка.— У вас, Марыя Данілаўна, такі файны муж, дай бог кожнай.

— Ах, мадам Рагацікава, які там файны,— запярэчыла маці.— У мяне такое ўражанне, што ў яго нехта ёсць. Толькі ведаючы вашу бязмерную сціпласць і павагу да чужых тайнаў, прызнаюся вам, што мы ўжо з паўгода спім паасобку.

Мадам Рагацікава пляснула ў далоні.

— Даруй і злітуйся, божа! Вы думаеце, Марыя Данілаўна, што ён займеў палюбоўніцу?.. Але ж пры ягонай пасадзе гэта небяспечна, Марыя Данілаўна.

— Тады, мадам Рагацікава, можа, вы растлумачыце мне, чаму ён пазбягае любві?..

— А вы не задумваліся, што пры ягонай нервовай працы магчымы launchратомленасць і слабасць. Ну, вы разумееце, пра што я кажу? Можа, ён — імпатэнт?

— Я пра такое не падумала,— пасля маўчання адказала мама.

— Мне хочацца памагчы вам, Марыя Данілаўна,— адгукнулася мадам Рагацікава.— Мая кліентка, мадам Салава, ведае знахарку на Маркаўшчыне, якая якраз і лечыць мужчынскую слабасць.

Серафім і паловы не зразумеў з таго, што гаварылі белашвейка і маці. У яго так і выспявалі адно за адным пытанні, якія ён не мог задаць маці. Давялося звярнуцца да Глеба. Той ведаў усё.

— А што такое апатэнт? — спытаўся ён на перапынку ў Глеба.

— Апатэнт? — перапытаў Глеб і пачухаў патыліцу.— Ну, гэта, як табе лепей растлумачыць, апатэнт і ёсць. Несвядомы, значыць, алімент. Той, хто узяў патэнт і не плаціць па ім. Усвядоміў?..

Серафім здагадаўся, што Глеб не ведае, што такое «апатэнт», і сачыняе, каб не выглядаць у вачах Серафіма нязнайкай.

Увечары ён спытаўся ў Марка:

— Ты чаму спіш на канапе? Цябе мама прагнала?

Маці і Марк пераглянуліся.

— З чаго ты ўзяў? — спытаўся Марк.

— Ты ж сам казаў, што, калі мама прагоніць,

пяройдзеш спаць на канапу,— нагадаў Серафім.

— Тата жартаваў,— паспяшыла на выручку Марку мама.— Выдумшчык мой, ідзі спаць...

Яго заўсёды, колькі ён памятае сябе, адпраўлялі спаць, калі не ведалі, што адказаць на ягоныя пытанні. Серафім пакорліва пайшоў. Лёгшы ў пасцель, ён стаў прыгадваць усё, што чуў пра маці і Марка.

Пра маці гаварылі з павагай і далікатнасцю. Яе бацька, а Серафімаў дзед, Даніла Львовіч Недасейка, быў славуты на ўсю акругу ўрач па дзіцячых хваробах. Яшчэ ён быў справядлівы чалавек і рэвалюцыянер-бальшавік. Любоў і павага да бацькі пераносілася і на маму. Мама была свая, задунаўская, і яе любілі і шанавалі. Марка баяліся. Ён быў прышлы, і пра яго хадзілі самыя неверагодныя чуткі. Серафім заўважаў, як задунаўцы часам сігаюць у падваротні або пераходзяць на другі бок вуліцы, абы не сустракацца з Маркам. Былі, праўда, і такія, што падлашчваліся да яго, знарок траплялі яму на вочы, каб сказаць: «добры дзень, таварыш Удоеў» або «наша шанаванне, таварыш Удоеў». Пры гэтым яны прыўзнімалі над галавой кепку.

Паблукаўшы ўпоцемках сваіх назіранняў, Серафім прыйшоў да высновы, што Марк не заслужыў, каб да яго ставіліся дрэнна, а ставяцца да яго дрэнна таму, што ён ненавідзіць нэпманаў і буржуяў. З Маркам усё было зразумела, а вось мама паводзіла сябе неяк дзіўна.

З зімы паміж Маркам і мамай усё часцей успыхвалі кароткія, але жорсткія спрэчкі. Яны, гэтыя спрэчкі, здаваліся Серафіму нікчэмнымі, хоць вяліся з нечуванай зацятасцю. Спрэчкі пачыналіся з дробязяў, якія, на Серафімаў розум, не маглі ўплываць на адносіны паміж Маркам і мамай.

Неяк яна вярнулася з горада, так задунаўцы называлі цэнтр з Замкавай і Смаленскай вуліцамі, ушчэнт раздражнёная. Марк майстраваў Кліму каляску на рысорным ходзе і на маміна раздражненне не звярнуў увагі. Яна шпурнула на стол скрутак, сказала коратка і злосна:

— Дажыліся...

Толькі цяпер Марк звярнуў на яе ўвагу.

— Лейчына пад хвост папала ці, можа, на вожыка села?..

— А во, глянь, за пяццю метрамі паркалю чатыры гадзіны прастаяла.

— Табе карысна. На працы адседзішся.

— Ды такія, як ты, гатовы ўсю краіну ў чаргу паставіць, як у грамадзянскую да сцяны ставілі...

Марк перастаў майстраваць каляску. Ён падымаўся з падлогі марудна; на ягоным твары застыла такая варожасць, што нават Серафім спалохаўся. Але Марк надзіва загаварыў спакойна:

— Ты вярзеш меншавіцкую лухту.

— Пры чым тут меншавікі? — адмахнулася маці.— Ваш авантурызм горш меншавізму. Вы знутры падрываеце веру ў савецкую ўладу. Талдычыце: індустрыялізацыя, індустрыялізацыя, а што яна такое — не разумееце.

— У такіх, як ты, вучыцца не станем. Індустрыялізацыя — магутны ўдар па векавой адсталасці Расіі. Толькі яна здольна вывесці нашу краіну з залежнасці ад акул імперыялізму.

— Ды перш чым будаваць, трэба ведаць, адкуль будзеце браць грошы? Абрабуеце сялян. Але ж, мой мілы, Кастрычніцкая рэвалюцыя навучыла іх абараняць сябе. Папомні, такія, як вы, сваімі безразважнымі дзеяннямі выклічаце грамадзянскую вайну. Вам мала было антонаўшчыны і банд зялёных? Дык вы іх будзеце мець.

— А мы ламалі і зломім хрыбет любому контррэвалюцыйнаму ворагу, калі ён замахнецца на савецкую ўладу. Хто не з намі, той загіне, і амба! І перастань дзёргацца. Мужык, як дойная карова: раніцай падоіш, ёй толькі лягчэй па пашы хадзіць. А ў абед зноў даіць можна.

— У каровы таксама ёсць рогі. А ты мне скажы, дзе я табе нацельную бялізну вазьму? Будзем індустрыялізацыю без падштанікаў праводзіць?

— Падштанікі не павінны закрываць светлую дарогу ў камунізм,— адказаў Марк.

Кліму надакучыла слухаць іхнюю сварку, і ён заплакаў. Марк падхапіў яго на рукі, панёс на двор, каб там закончыць каляску.

— Мама,— спытаўся Серафім у маці, калі яны былі адны,— чаму ты вечна спрачаешся з Маркам?

— Ты яшчэ малы, каб зразумець гэта,— адказала маці.

Але тыдні за два да першамайскага свята яна сама пачала тлумачыць яму сутнасць іх разыходжання з Маркам.

Раніцай у выхадны дзень мама сказала Серафіму:

— Пойдзем па цукар. Кажуць, у цыганоў за ракою купіць можна.

Серафіму не хацелася ісці, але, пачуўшы пра цыганоў, ён ахвоча згадзіўся.

На трамваі яны даехалі да вакзала, адтуль, абышоўшы чыгуначную бальніцу, выбраліся на базарчык, за якім, побач з лютаранскай кірхай, стаялі каменныя склады. У іх, аказваецца, і асталяваліся на жыхарства бесарабскія цыганы. Чаму яны прыехалі з далёкай Бесарабіі ці, можа, не з Бесарабіі, ніхто не ведаў, але ўсе казалі, што цыганы бесарабскія, і тым выклікалі ў Серафіма яшчэ большую цікавасць. Сваіх цыганоў ён ведаў. Яны жылі па Старарускай вуліцы, і Ерка сябраваў з некаторымі цыганятамі.

Вясна ў той год выдалася халодная — у сярэдзіне красавіка на вуліцах яшчэ ляжалі гурбы чорнага ад гàры снегу, а праз увесь дзень трымаўся мароз пры калючым паўночна-ўсходнім ветры.

Склады мелі мноства дзвярэй, але ўсе яны, за выключэннем адных, даўно праржавелі да жалезных шулаў. Маці скіравала да тых дзвярэй, што не мелі слядоў іржаўчыны і на якіх была наклеена каляровая карцінка — чорнавалосая жанчына ў квяцістым плацці з гітарай у руках.

З дзвярэй, калі іх адчыніла маці, патыхнула гарачынёй, а памяшканне адразу напоўнілася клубамі пары. Пара пракацілася толькі да паловы вялізнага пакоя, дзе стаяла чыгунная печ з трыма ці чатырма канфоркамі,— паднялася ўгору і растаяла. Печ была напалена да чырвані, такой жа чырвонай была і труба, што спачатку падымалася вертыкальна ўгору, а потым ішла пад столлю аж да закрачанага акна і вытыркалася з яго на вуліцу. За чыгуннай печчу, паўз усю сцяну, супрацьлеглую той, у якой знаходзіліся дзверы, проста на цаглянай падлозе ляжалі навалам пярыны і падушкі ў кумачовых насыпках. На пярынах забаўляліся зусім голыя цыганяты, чорнавалосыя, кучаравыя і карычневыя целам. Паўз другую сцяну, справа, на пярынах ды яшчэ пад пуховымі коўдрамі ляжалі старэйшыя дзеці. Чакалі запознена-

га снядання. Каля чыгуннай печы завіхаліся цыганкі ў доўгіх квяцістых спадніцах. Злева, пад акном, на цаглянай падлозе сядзелі тры старыя цыганы, курылі доўгія люлькі.

Маці спынілася каля парога. Серафім — побач.

— Добры дзень вам,— сказала маці.

Толькі адна з цыганак адказала на яе вітанне.

— Варажыць прыйшла ці па якой другой патрэбе? — спытала цыганка.— Мы не варожым.

— Я па цукар,— сказала маці.

— Колькі табе?.. Здаецца, яшчэ ёсць крыху. Але ж, можа, цэны занадта... дык танней не прадаём. Самім жыць трэба. Выслалі во нас сюды. Добра, хоць цукар дазволілі ўзяць — загінулі б...

Цыганка пайшла ў кут, дзе ляжала вялізная, як гара, падушка, дастала з-пад яе мяшэчак з цукрам. Цукар быў у вялікіх кавалках, здавалася, аж сініх ад цвёрдасці. Зважыўшы дзесяць фунтаў, цыганка астатні цукар занесла пад падушку ў кут, а грошы аддала старому, які ўзяў іх моўчкі, як нешта зусім не вартае ягонага спакою, з якім ён курыў люльку.

Ідучы назад, маці і распачала расказваць Серафіму пра сваю нязгоду з Маркам. Выходзіла ў яе гэта не вельмі даходліва і проста. Такія, як Марк, прывыклі камандаваць і браць усё, што ім патрэбна, у народа. Але такое не можа доўжыцца. Людзі прагнуць устойлівасці і парадку, а такія, як Марк, усё хочуць вяртання да харчразвёрсткі, калі ў людзей забіралі апошнія крохі хлеба, пакідаючы дзяцей на галоднае існаванне. Усё рабілася ў імя рэвалюцыі. А цяпер рэвалюцыя закончылася, а яны ўсё працягваюць экспрапрыіраваць. Тым і кампраметуюць савецкую уладу. Самі ж прасілі людзей: наладжвайце гандаль, займайцеся промыслам, трымайце жывёлу, вырошчвайце хлеб, ад гэтага будзе карысць і вам і дзяржаве. Людзі адгукнуліся на заклік Саветаў і партыі. А цяпер у іх усё адбіраюць ды яшчэ садзяць у гэпэу, дамагаюцца, каб аддавалі грошы і золата. Хто ж потым будзе верыць заклікам партыі? Дзяржава не зможа доўга існаваць у міры і садружнасці народа, калі гэты народ стануць ашукваць на кожным кроку.

Ноччу Серафім доўга разважаў над пачутым. Ён запомніў усё, як добры вучань урок, але паўтарыць не мог.

Назаўтра ён паспрабаваў пераказаць Марку матчыны словы сваімі. Атрымалася каструбавата і, здаецца, недакладна.

— Ты дзе такую лухту чуў? — загрымеў Марк, спапяляючы Серафіма жудаснымі вачамі.— Запомні, Сеня, што развешваць вушы перад змяіным сыканнем контррэвалюцыі злачынна і дыктатурай пралетарыяту катэгарычна забаронена. Таму, дзеля высвятлення абставін і асобы насіцеля варожай агітацыі, адказвай на мае пытанні без затрымкі і кажы толькі чыстую праўду для ўласнага апраўдання: хто забіваў твой несвядомы кумпал смярдзючай атрутай варожых элементаў?

Серафім адразу скеміў, што нельга выдаваць маці. І хоць ён спалохаўся Марка, пастараўся не паказаць выгляду.

— Ніхто,— адказаў ён і тут жа зразумеў, што Марк не паверыць, а таму на хаду пачаў выдумваць, як ён учора пайшоў на задунаўскі базарчык, дзе мужыкі гаварылі і пра камандаванне народам, і пра галодных дзяцей, і пра арышты невінаватых людзей.

Марк дапытліва зірнуў у Серафімавы вочы.

— Дужа лоўка хлусіш, Сеня,— працадзіў ён праз зубы.— А мне дакладна вядома, якая гáдзіна і дзеля якой неабходнасці хацела атруціць твой кволы на пралетарскую ідэю арганізм. А цяпер паслухай маю бальшавіцкую праўду і прасякніся ёю ад самага пупа і да макушкі свайго кумпала. Ненажэрныя акулы імперыялізму і ўнутраныя ворагі савецкага ладу зацята точаць зубы на заваёвы нашай пралетарскай рэвалюцыі. Чэмберлены і пілсудчыкі — гэтыя выкармышы сусветнага капіталу — разам з папай рымскім не раз збіралі крыжовы паход на заваёвы рабочых і сялян. Во чаму мы павінны правесці індустрыялізацыю краіны, тоісь здабыць столькі чыгуну і сталі, каб можна было нарабіць гармат, кулямётаў, вінтовак, клінкоў для слаўнай конніцы таварыша Будзённага ў неабмежаванай колькасці і такім чынам адбіць напад варожай зграі. Уразумеў значэнне курсу на індустрыялізацыю?..

Серафіму прыгадалася, як леташнім годам Марк павёў яго на першамайскую дэманстрацыю. Летась на Першы май было цёпла і сонечна. Па Смаленскай вуліцы, запрудзіўшы яе ад берага да берага, плыла

цераз мост на Пляц Волі рознакаляровая, расквечаная сцягамі чалавечая рака. На ганку швейнай майстэрні, што мясцілася на рагу Смаленскай вуліцы і Падзвіння, людзі ў клятчатых кепках круцілі ручкі вялізных апаратаў на трыногах — здымалі дэманстрацыю. Марк, усадзіўшы Кліма на плечы, трымаючы за руку Серафіма, прабіўся на той ганак, адкуль ішлі здымкі, паставіў Серафіма на парапет, папярэдзіўшы:

— Трымайся за мяне і не зваліся...

Серафім трымаўся і ва ўсе вочы глядзеў на чалавечую раку. Яна раптам выплеснулася на тратуары, на шырокія ганкі царквы і касцёла, што стаялі насупраць адно аднаго, у цяністы скверык насупраць каланчы. Адтуль, з-пад Смаленскай плошчы, паявіліся шасцёркі коней, якія цягнулі цяжкія гарматы. На конях сядзелі ездавыя. Натоўп крычаў «Ура!» і пляскаў у далоні. За артылерыяй праехалі коннікі і кулямётныя тачанкі, а за імі прайшлі чырвонаармейцы з вінтоўкамі наперавес.

Прыгадаўшы той уражлівы малюнак, Серафім запытаўся ў Марка:

— А хіба ў нас мала гармат? Помніш, колькі іх праехала летась на дэманстрацыі?..

Марк пераможна ўсміхнуўся.

— Значыць, уразіла, дайшло да самых пячонак. Толькі, Сеня, запомні, вайна жрэ шмат зброі, таму яе павінна быць так многа, каб хапіла не толькі на дарослага мужчыну, а яшчэ на кожную жанчыну і дзіця. А цяпер, Сеня, яшчэ адзін факт нашай унутранай і знешняй барацьбы. Несвядомыя элементы і скрытыя ворагі савецкай улады хацелі б збіць нас з магістральнага напрамку сусветнай рэвалюцыі і перамогі пралетарыяту ва ўсім свеце. Яны настойліва труцяць народныя мазгі меншавіцкай выдумкай: нібы спачатку трэба пабудаваць лёгкую індустрыю, тоісь навырабляць вопраткі, абутку і прочага адзення, а потым гнаць метал і станкі ўласнага вырабу. У чым сутнасць? Запомні, Сеня, гэтую сутнасць. Калі мы пачнём думаць пра нашы штаны і падштанікі, спадніцы і бабскія ліфчыкі, дык мы ператворымся ў дадатак міжнароднага імперыялізму. Таму мы, бальшавікі, кажам, возьмем хлеб у заможнага мужыка, возьмем грошы ў растлусцелых на нашай беднасці нэпманаў і паразітаў народнай свядомасці — папоў.

Во, брат, якая пятрушка на сённяшні дзень. Іншага выйсця ў нас няма: або загінем, або пабудуем сваю індустрыю і зажывём заможна і прыгожа, як і прадбачылі правадыры сусветнага пралетарыяту Карл Маркс і таварыш Энгельс, а таварыш Ленін ажыццявіў гэта на справе. Вось чаму я загадваю табе, Сеня, давай рашучы адпор падпольным галасам ярых праціўнікаў сацыялізму.

Маркавы словы даходзілі да Серафіма з большай даступнасцю, як матчыны, і запаміналіся, як табліца множання. Але было ў іх нешта такое, што выклікала неўсвядомлены пратэст.

Серафім ніяк не мог уявіць маму несвядомым элементам, а тым больш ворагам савецкай улады. Калі маці і Марк пачыналі спрачацца, Серафім адчуваў, што мама пераспрэчвае Марка, заганяе яго ў кут сваімі довадамі. Тады Марк люцеў, крычаў, а мама адсылала Серафіма спаць або выпраўляла на вуліцу. І ўсё ж Серафім найчасцей станавіўся на бок Марка, бо маці гаварыла хоць і прыгожа, але незразумела, ужывала мноства чужых, пакрытых заслонай тайны слоў. Марк выказваўся будзённа і проста, як і ўсё іхняе Задунаўе. І гэта было зразумела Серафіму.

Так беглі дні за днямі насустрач восені, якая ў той год радавала людзей небывалай цеплынёй без дажджоў і маразоў. Школа перашкаджала Серафіму сачыць за маці і Маркам, і ён адышоў ад гэтага турботнага занятку.

А бяда ўжо стаяла на парозе іхняй кватэры, і разразілася яна тады, калі, здавалася, у доме ўсталявалася мірнае суіснаванне.

Маці і Марк вярнуліся аднекуль як ніколі дружныя, хоць і ўзрушаныя, асабліва маці. Марк умеў захоўваць раўнавагу, праўда, не пры ўсіх абставінах. Часам ён станавіўся няўцямны, і тады ўсе яго баяліся.

Па даўняй завядзёнцы Марк паставіў самавар, маці пачала накрываць на стол, а Серафім пабег у прыватную лавачку Брусера па сушкі. Калі ён вярнуўся, маці і Марк размаўлялі пра тое, што не цікавіла Серафіма. Ён не любіў сумных размоў, ад якіх цягнула на сон.

— Я зусім не адмаўляю, што кожная кухарка

павінна навучыцца кіраваць дзяржавай. Навучыцца, Марк! — павучальна гаварыла маці, нібы чытала Марку ўрок.— Але нельга кіраваць дзяржавай, не спасцігнуўшы азоў палітычнай шматвяковай гісторыі народа, яго псіхалогіі, эканомікі і статыстыкі. Кіраваць дзяржавай — самае высокае мастацтва. А ты прапаведуеш прынцып псеўдастаткавага кіравання. Па-твойму, дзяржавай можа кіраваць чалавек, які нават не ўмее распісацца, затое, як ты кажаш, спасцігнуў азбуку класавай барацьбы. Так можна завесці дзяржаву на край пагібелі.

— Мы гімназій не канчалі,— адказаў Марк.

— Гэтага трэба саромецца, а ты ганарышся,— маці разрэзала шпагат, на які былі нанізаны сушкі, высыпала іх у сухарніцу.

— А мне зусім не сорамна,— адказаў Марк і сеў да самавара, каб наліць сабе кіпеню.— Грамадзянскую вайну, да твайго ведама, выйгралі вось такія, як я, адной пралетарскай свядомасцю багатыя байцы рэвалюцыі, а твае высокапісьменныя белагвардзейцы ўцякалі ад нашых рэвалюцыйных шабляў, аж гублялі штаны і іншую амуніцыю.

— Ты забыўся, што побач з такімі, як ты, стаялі ваенныя спецы, якім неяк удалося ўберагчы вас ад ракавых памылак. Гэта па-першае. А па-другое, вайна — задача з адным невядомым, якую можа рашыць і чалавек з царкоўнапрыходскай адукацыяй. Сацыялізм жа — задача з мноствам невядомых, і рашаць яе з наскоку, без падрыхтоўкі і ведаў, немагчыма, а хто паспрабуе, той непазбежна скоціцца на пазіцыі авантурызму і злачыннай манілаўшчыны, якая ад гогалеўскай будзе адрознівацца непрыкрытым тэрорам.

— Сацыялізм — не задача, а светлае будучае працоўнага народа і пралетарская фармацыя, да твайго ведама. І будаваць яго будзе рабочы клас у змычцы з бяднейшым сялянствам па сваіх законах, якія будуць пісацца ў ходзе самога будаўніцтва. Гэта буржуазія выдумвала розныя законы, каб трымаць народ у цемры і невуцтве. Мы свае задачы будзем рашаць проста: хто не з намі, той наш вораг, і мы вымецем нязгодных з намі пралетарскай мятлой.

— Во-во, вымецеце. Сёння я мела магчымасць пераканацца, як дзейнічае ваша так званая прале-

тарская мятла. А проста кажучы, суб'ектывісцкія, дыктатарскія падыходы. Вы вычысцілі сёння двух выдатных спецыялістаў, знаўцаў сваёй справы — Пашвенчука і Крылова. За што?..

— Сама ведаеш,— адказаў Марк, скрыгатліва адгрызаючы кавалак цукру — чай звычайна пілі ўпрыкуску.— Яны былі ў партыі эсэраў.

— Ну, былі, але ж парвалі з ёю, сталі на бок бальшавікоў, сумленна працавалі з намі, з табой, Марк, а вы іх адмялі, як мякіну.

— Абыдземся і без іх,— адказаў Марк.

Маці як бы не пачула яго, яна прадаўжала разважаць:

— Ды каб хоць былі якія факты. Непісьменная пісаніна турэмнага наглядчыка, з якім давялося жыць абодвум інтэлігентным людзям. Іхняя віна і заключаецца толькі ў тым, што, ці бачыце, яны жывуць у пакоях другога паверха, а ён, Панкрацій Кротаў, у падвале гэтага ж дома, і лічыць гэта несправядлівасцю. Ну, так, магчыма, несправядлівасць. Дапускаю. Але пры чым тут Пашвянчук і Крылоў?.. Ды было б большай несправядлівасцю, каб турэмны наглядчык жыў у пакоях другога паверха, а Пашвянчук або Крылоў у падвале. Чытала я ягоную заяву. Дзве коскі і адна кропка на чатыры старонкі са школьнага сшытка. У кожным слове па чатыры памылкі, і ён яшчэ сігналізуе. Ды каб аб чым важным. «Назтыячым, як ёсь сызнацілнай грамзянін абарачваю ўнімане не кантрвалюсыйны дзеянні Пашвінчака і Крулова, сто яны паклі пірагі, каб справіць рэлегійнае свята і пелі папоўскія песні, буцам усе унемлюць богу, а ў народных масаў наперадзе каменны пуць». Не, ты ўяўляеш, класічны верш Лермантава ператвораны ў папоўскі. Чорт ведае што. І вы прымаеце гэтую лухту і пачынаеце яе разглядаць.

Серафім здагадаўся, што гаворка пайшла пра бацьку Глеба Кротава, і гэта адразу зацікавіла яго. Ён стаў падоўгу дзьмухаць на чай у сподачку, каб паслухаць, што яшчэ будзе гаварыць мама пра бацьку Глеба. Маці, здаецца, не заўважала ягоных хітрыкаў.

— Твая пагарда да простага чалавека — не што іншае, як буржуазная адрыжка,— нечакана злосна сказаў Марк.— Я таксама пішу з памылкамі.

— Няхай адрыжка,— памяркоўна адказала ма-

ці.— Але я пацікавілася мінулым твайго небуржуазнага элемента. Ён былы шавец, п'яніца. Пры Керанскім пайшоў у турэмныя наглядчыкі. Прычасціўся, так сказаць, да рэвалюцыйных падзей пры дапамозе аховы царскіх саноўнікаў. І ты можаш сцвярджаць, што ён пралетарскага паходжання?

Марк нават разгубіўся.

— А якога ж ён паходжання?

— Люмпен-пралетарскага. А люмпен-пралетарыят — дэкласіраваная праслойка грамадства. Але справа не ў Кротаве, а ў вас, членах камісіі. Вы перагнулі палку ад уласнай некампетэнтнасці і бездапаможнасці.

— Памыляцца можа адзін чалавек, камісія, прызначаная зверху, памыляцца не можа. І твой падкоп пад партыю як на далоні.

— Цікава, у чым ты ўгледзеў яго? — засмяялася маці.

— А ў тым, што ты спачатку засумняваешся ў правільнасці калектыўнай думкі камуністаў, а потым і ўсёй партыі.

— Ну, ведаеш,— развяла рукамі маці,— абсурднасць тваіх высноў на мяжы ціхага вар'яцтва. Кожнаму вядомы мае заслугі перад партыяй, і ты не маеш права абражаць маю годнасць як камуніста.

— А партыя абавязана пераступіць цераз кожнага свайго байца, калі ён спатыкнуўся. На месца яго стануць дзесяткі другіх сумленных людзей. Ты забылася: мы толькі курок, які разбівае капсуль патрона. Асобныя члены партыі — смяротныя, партыя — бессмяротная.

— Маці расказвала, як у ссылцы на аднаго з партыйных таварышаў пала падазрэнне, што ён прысвоіў невялікую суму экспрапрыіраваных ім грошай. Яго асудзілі на смерць. А потым высветлілася, што ён быў невінаваты. Дык там жа былі вопытныя рэвалюцыянеры і то памыліліся, а ты кажаш пра звычайных смяротных і зараней апраўдваеш іх памылкі.

— Яны не памыліліся, бо астатнім быў дадзены наглядны ўрок, і ўжо ніхто пасля таго выпадку не пакваліўся на партыйныя грошы. Любое дзеянне партыйнага калектыву апраўдана вялікай мэтай,

і можна толькі ганарыцца, што ты быў прынесены ў ахвяру гэтай вялікай мэце.

Маці пляснула рукамі, нібы спалохалася Маркавых слоў. Серафім зразумеў, што гаворка пра Глебавага бацьку заглыбілася ў нетры гаварыльні, унікнуць у сэнс якой было для яго розуму не па сіле, і ён згубіў да яе цікавасць. Слухаў больш па прывычцы.

— Што ты вярзеш, Марк? Мне страшна цябе слухаць. Якія ахвяры і каму яны патрэбны? Сацыялістычнае грамадства — гэта грамадства сацыяльнай справядлівасці і гуманнасці. Яно ўзводзіцца для людзей, і яму не патрэбны чалавечыя жыцці, як Молаху. І партыя не можа пераступаць цераз чалавека, а тым больш партыйца, як крыважэрная машына. Хто спатыкнуўся, таго трэба падняць, памагчы пайсці ў нагу з масай, а не растоптваць на маршы.

Нейкі час за сталом панавала цішыня. Серафім падумаў, што маці зноў пераспрачала Марка. Той сядзеў згорбіўшыся, ягоная стрыжаная пад бобрык галава была ўцягнута ў плечы. Здавалася, на яго ціснуў неймаверны цяжар, і гэтым цяжарам была ягоная нязгода з маці. Нарэшце ён расправіў плечы, адкінуўся на спінку крэсла.

— Да чаго ж ваш брат, інтэлігент, умее пустым словам шпакляваць шчыліны недамыслія,— важка сказаў ён.— Усё як бы да месца і ўсё на шкоду генеральнай лініі, усё супраць яе. От ты кажаш, што трэба падымаць тых, хто спатыкнуўся, памагаць ім ісці ў камунізм. Добра, падымем, а ён табе нож у спіну, як здаралася не раз на вайне. Помню, узялі мы ў палон добра патрапаны батальён белякоў. Іх бы адразу ўсіх у распыл пусціць. Дык не! Адзін наш вось такой, як і ты, вучонасці камандзір закаціў гарачую прамову пра чалавекалюбства і міласэрнасць, пра заблудных авечак чалавечага статка. Ну, іх і пакінулі выкупляць віну. А ў часе контратакі белякоў яны і адкрылі фронт сваім нядаўнім саслужыўцам. Драпанулі. Ну, мы і падвялі пад трыбунал, і я асабіста прыводзіў той прысуд у выкананне. Бо гэта смецце не павінна існаваць у нашым будучым грамадстве. А ваўка, як ні кармі, а ён у лес глядзіць. Мы робім адну вялікую справу — чысцім чалавецтва ад брыды

праклятай мінуўшчыны. Камусьці трэба чысціць сарціры, і няма чаго затыкаць нос, як гэта рабілі твае эсэраўскія недабіткі Пашвянчук і Крылоў. Яны, як і ты, ненавідзяць такіх, як Кротаў, пастаўленых партыяй сцерагчы за турэмнымі кратамі дзяржаўных злачынцаў. Запомні, пралетарскі прымус ва ўсіх сваіх формах, пачынаючы ад расстрэлаў і канчаючы працоўнай павіннасцю, з'яўляецца метадам выпрацоўкі чалавецтва з чалавечага матэрыялу капіталістычнай эпохі. І гэта кажу не я, а бліжэйшы саратнік таварыша Сталіна, любімец партыі і працоўнага народа таварыш Бухарын.

— Ты звар'яцеў,— гнеўна ўсклікнула маці і раптам заўважыла Серафіма.— Сіма, марш у ложак.

Серафім неахвотна пайшоў. Нырнуўшы пад коўдру, ён прытаіўся, слухаў, як спрачаюцца маці з Маркам, і ягоная душа ныла ад уласнай бездапаможнасці. Ён шкадаваў маці і Марка і не ведаў, што зрабіць, каб яны больш не спрачаліся. Дзіўныя людзі старэйшыя: накідваюцца на дзяцей, калі тыя нешта спытаюць або скажуць, а самі балбочуць абы пра што.

Галасы за сцяной то заціхалі, то зноў набывалі моц. І Серафім то засынаў, то прахопліваўся ад гучна сказаных слоў. Усё было так, як і заўсёды. Маці з Маркам пакуль не наспрачаюцца, не лягуць спаць. У іх спрэчкі як рэпетыцыя перад сном.

Серафім у каторы раз заплюшчыў вочы і як бы патануў у мяккай гамонцы, што закалыхвала яго. «Памірыліся»,— падумаў ён і павярнуўся на левы бок.

— Не вар'яцей, Марк,— пачуўся голас маці.— Ты — ненармальны.

— Не, ты давядзеш мяне,— крыкнуў Марк, і ў яго голасе Серафіму пачулася пагроза.

Ён прыўзняўся на локаць, насцярожана прыслухаўся.

— Ты — кат,— яшчэ мацней за Марка крыкнула маці.

Настала цішыня. За ёй прыглушаны крык, не зразумець — чый, і нешта бахнула там, у зале, са звонам пасыпалася шкло. У цішыні, што затым настала, пачуўся да апантанасці страшны Маркаў голас:

— Стой! Стой!

Цяпер стрэлы гучалі адзін за адным. Серафім ускочыў з ложка. Клім спаў, раскінуўшы рукі, нічога не чуючы. Серафім, як быў у начной кашулі, так і выбег у калідор. З гасцінай туды падала святло ад карасінавай дванаццацілінейнай лямпы. Там жа, у гасцінай, чорным ценем матлянуўся ўскудлачаны, з наганам у руцэ Марк Удоеў. Серафім спыніўся, і Марк убачыў яго. Ягоныя вочы ўпіліся ў Серафіма. Левая шчака торгалася, а рот з носам настырна лезлі да левага вуха.

— Ты чаго? Спаць! — закрычаў Марк.

Серафім, блытаючыся ў доўгім падале кашулі, шмыгнуў у свой ложак. Затаіўся. Слухаў, як Марк круціць ручку тэлефоннага апарата, і той адзываецца на гэты цыркулярнай пілой.

— Алё! Алё! — перапуджаным голасам закрычаў Марк.— Давай крымінальны вышук... Алё! Алё!.. Хто на провадзе?.. Міша? Гэта Удоеў. Ды ты што, маць тваю, дрыхнеш? А на мяне замах... Стралялі. Не, я цэлы... Жонку ўгробілі... Скажы Мулярчыку... Чакаю...

Відаць, Марк даў адбой — тэлефон тройчы дзынкнуў. У цішыні, што настала затым, пачуліся цяжкія крокі. Нехта ішоў марудна і грузна. Серафіма апанаваў неўсвядомлены, інстынктыўны страх. Ён ведаў, што ідзе Марк, але ад гэтага рабілася яшчэ страшней. Серафім баяўся стрэлаў.

Марк узнік на парозе спальні вялізным — пад столь — асілкам. У яго руцэ ўжо не было нагана, і гэта крыху супакоіла Серафіма. Наган быў засунуты ў кабуру.

— Ты хіба не спаў? — спытаўся Марк чужым, ахрыплым голасам.

Серафім хацеў адказаць, што не спаў, але чамусьці прамаўчаў. Яму хацелася як найглыбей зашыцца ў ложак, таму ён сціснуўся ў камячок з касцей і нерваў.

— Ты чаго маўчыш? Спалохаўся? — Марк прысеў на ложак.— Вось такая аказія выйшла...

Серафіму здалося, што Марк у чымсьці абвінавачвае яго, і ён пачаў апраўдвацца:

— Вы так спрачаліся... Я не мог заснуць...

— Хто спрачаўся? — зазлаваў Марк.— Сказануў! Прыснілася табе, дзівак чалавек. Прыснілася! Так

і запомні. Скідай гэтую хламіду. Дзе кальсоны, кашуля? Надзявай кашулю... Штаны. Цяпер слухай мяне. Пачнуць пытацца, адказвай, што ты спаў. Спаў і нічога не чуў. Нічога!.. Спаў і нічога не чуў. Хто б ні пытаўся, адказвай так. Зразумеў? Паўтары...

— Я нічога не чуў,— паслухмяна сказаў Серафім.— Нічога не чуў.

— Вось так і будзеш адказваць — усім, хто спытае. Не важна дзе: дома, на вуліцы ці яшчэ дзе. Нічога не чуў, пакуль я не разбудзіў цябе.

— Я прачнуўся ад стрэлаў,— сказаў Серафім.

— Цябе разбудзіў я. Запомні і кажы толькі так. Я цябе разбудзіў і сказаў, што стралялі ў акно і забілі маму. Давай паўтары адказы на мае пытанні. Што ты чуў?

— Я спаў і нічога не чуў,— адказаў Серафім.

— Можа, чуў стрэлы ці які крык? — дапытваўся Марк.

— Я спаў і нічога не чуў.

— Малайчына. А калі ты прачнуўся?

— Мяне разбудзіў Марк. Ён мне сказаў, што стралялі ў акно і забілі маму.

— Ты хлусіш! Ён не так сказаў.

— Не, так. Ён разбудзіў мяне...

— Разбудзіў ці ты прачнуўся сам?

— Не, ён мяне разбудзіў і сказаў, што стралялі ў акно і забілі маму.

Серафім не разумеў, навошта гэтая хлусня Марку, але не адважваўся спытаць. Ён настойліва думаў над тым, што адбылося. Марк узяў яго за руку, павёў у гасціную.

Маці ляжала на падлозе каля стала, але не там, дзе звычайна сядзела, а з другога боку, якраз насупраць акна. Серафіму здалося, што маці прытвараецца. Думка была недарэчная, дурная, але яна завалодала Серафімам. Ад яе яму стала страшна, і ён пабег у спальню. У калідоры яго апыніў аўтамабільны гудок, падобны на жабіна кваканне: ква-ква-ква... Здалося, клаксан квакае ў ягонай спальні, і ён схаваўся ў нішу, дзе вісела вопратка. Назіраў адтуль, як мыш з-пад веніка.

Першы зайшоў у кватэру здаравяк, з галавы да ног запакаваны ў чорны хром: кепка, тужурка, штаны, боты, пальчаткі з шырачэзным раструбам. За ім

у прыхожую ўваліліся яшчэ двое: адзін у доўгім шынялі і ў будзёнаўцы з вялізнай чырвонай зоркай, другі маларослы ў клятчатай кепцы-шасціклінцы, у зелянковым фрэнчы з накладнымі кішэнямі, у брыджах і такіх, як у Марка, крагах.

— Дзе? — спытаўся запакаваны ў хром.

— Там,— адказаў Марк.

Яны прайшлі паўз Серафіма, не заўважыўшы яго. Запакаваны ў хром спытаўся ў Марка:

— Колькі было стрэлаў?

— Адзін, а можа, два,— адказаў Марк.— Я адразу пачаў адстрэльвацца.

— Дрэнна адстрэльваўся,— сказаў запакаваны ў хром.

Цікаўнасць зрабіла Серафіма смелым. Ён выбраўся з нішы, зазірнуў у гасцінуй.

Маларослы кругамі хадзіў па гасцінай, не спускаючы вачэй з маці, быццам баяўся, што яна можа знікнуць.

— Падобна на почырк Чыкуновых,— сказаў ён, спыняючыся перад Маркам.— Але ж ты дакладваў, што Чыкуновы ліквідаваны.

— Дакладваў,— адказаў Марк.— Выходзіць, памыліўся.

— Як сказаць,— азваўся той, што ў доўгім шынялі.— Бывае, і нябожчыкі ажываюць.

— Панятых трэба, распарадзіся,— звярнуўся да маларослага запакаваны ў хром.— Труп не чапалі?..

— Само сабой,— адказаў Марк.

Серафім пабег у спальню, забраўся пад коўдру і ціха заплакаў.

Злоўлены праз год Чыкуноў прызнаўся, што гэта ён асабіста забіў жонку Удоева. Марк атрымаў суровае спагнанне: рапартаваў, што знішчыў апошняга Чыкунова, а на самай справе схлусіў. Ну і паплаціўся.

# Частка трэцяя:

# захмараныя даляглядЫ

## 1

Серафім прачнуўся ад надакучлівага переразвону царкоўных званоў. Здалося, ён ляжыць у царкве пад самым купалам, адкуль двое ружовенькіх анёлаў пускаюць сонечных зайчыкаў.

На ягонае здзіўленне, пакой быў чужы, аздоблены бярозавымі галінкамі, усланы буйнапасечаным аерам. Праз невялікае акно свяціла яркае сонца, асвятляючы літаграфію «Ленін на суботніку».

«Дзе я?» — разгублена падумаў Серафім і тут жа прыгадаў усё чыста дазвання, што з ім адбылося, як крута змянілася ягонае жыццё.

Учора пад вечар Марк заявіўся з працы як ніколі ўсхваляваны і вясёлы. Паціраючы рукі, ён узрушана хадзіў па залі, а калі, мабыць, замарыўся, спыніўся перад Серафімам, сказаў, як заўсёды, рашуча, без права на пярэчанне.

— Пажывеш пакуль у Дрэляў. У мяне, браце, адказная камандзіроўка. З Іллёй і Дар'яй я перагаварыў. Так што збірай манаткі і гайда на Заручэўе. Мне яшчэ трэба забегчы на працу.

Серафім не пярэчыў. Разумеў: аднаму яму, калі Марк паедзе ў камандзіроўку, не пражыць. Але, насуперак разумнай разважлівасці, яго балюча кранула адчуванне панылай адзіноты. З таго часу, як не стала маці, Серафім усё часцей адчуваў, што ён лішні, што замінае Марку і наогул усім на свеце.

— А ты надоўга паедзеш? — спытаўся ён у вотчыма, хоць ведаў, што пытанне ягонае непатрэбнае, такое ж лішняе, як і ён сам.

— Дзівак, адкуль жа мне ведаць? Чалавек мяркуе, а начальства распараджаецца,— адказаў Марк.

Серафім так і думаў: Марк абыдзецца такім адказам, за якім нічога няма — пустата...

Званы званілі па-святочнаму зазыўна. Серафім

падышоў да акна. За ім па вузкім тратуары і па бруку ўрачыста і спаважна плыў у Духаўскую царкву святочны натоўп.

«Дык сёння ж духаў дзень, храмавое свята»,— успомніў Серафім і выбег на кухню, каб павіншаваць цётку Дар'ю — яна вельмі любіла, калі яе віншавалі са святам.

На кухні за дубовым сталом, які займаў увесь прасценак, сядзеў незнаёмы стары з доўгай белай барадой і лысай галавой, на якой рэдкія валасы трымаліся толькі на патыліцы, ды яшчэ па касмылі было над вушамі.

— Устаў? — апярэджваючы Серафіма, спытала цётка Дар'я, быццам сама не бачыла, што ён устаў, і незадаволена дадала: — Чаму не вітаешся?

— Здрастуйце,— па-гарадскому павітаўся Серафім.

— Здароў, здароў, унучак,— азваўся стары.— А ты мяне, бачу, не прызнаеш? Я твой дзед Максім, калі што якое. Ага, дзед Максім Трахімавіч...

Серафім здзіўлена пазіраў на нечаканага дзеда. Не запыняючыся, у галаве мільгацелі растрэсеныя думкі: «Дзед? Які дзед?..»

— Вы адкуль прыехалі? — з дарослай грунтоўнасцю спытаўся ён, прыгадваючы, што мамін тата жыве недзе за трыдзевяць зямель, у нейкім Пішпеку.

— З вёскі я, з Бабінічаў, калі што якое,— сказаў дзед і, бачачы неўразумелы Серафімаў позірк, растлумачыў: — Я твайго нябожчыка бацькі родны айцец.

Да Серафімавай свядомасці з натугай дайшло, хто сядзіць за сталом. Серафім, калі што-кольвечы і кеміў у сваяцтве, дык толькі дзякуючы цётцы Дар'і. Маці сваяцкіх адносін не прызнавала. Пра Марка і гаварыць не было чаго. Марк прызнаваў класавыя адносіны, і толькі. Астатняе было мяшчанствам, якое ён ненавідзеў усёй душой. Бацьку Серафім не памятаў. Часам яму здавалася, што бацькі ў яго наогул не было.

Серафім разумеў, што яму зараз неабходна нешта сказаць або паказаць нейкія пачуцці: узрадавацца, здзівіцца. Але ад неспадзяванасці ў галаву лезлі адны дурныя думкі. На шчасце, яго выручыла цётка Дар'я.

— Мыйся хутчэй, ды будзем снедаць...

Серафім мыўся не спяшаючыся. Прыслухоўваўся да размовы дзеда з цёткай Дар'яй. Выходзіла так, што дзед і цётка даўно знаёмыя. Гэта інтрыгавала. Серафім любіў такія загадкі, якія цікава разгадваць.

Наверсе, у мансардзе, высвістваў чыжыка-пыжыка Ігар Набокаў. Апошнім часам Ігар заважнічаў. Ён адгадаваў валасы па самыя плечы, пачаў насіць сінюю блузу з вялізнымі кішэнямі і гаварыць з пагардлівай абыякавасцю да таго, хто яго слухаў. Цётка Дар'я абурана паглядзела ў столь: яна жах як не любіла, калі нехта свістаў у доме. Іншым разам яна не стрымалася б, накрычала на Ігара, каб перастаў свістаць. Сёння ж чамусьці толькі абуралася. І гэта таксама было дзіўна.

Яны селі за стол утраіх.

— Можа, Максімка, падымеш кілішак? Настойка ў мяне дабрэнная. Сама ставіла...

— Што ты, што ты,— замахаў рукамі дзед,— перад абедняй... грэх!

— Дык ужо і не крыўдуй. Я ад чыстага сэрца,— пакаялася цётка Дар'я.

— Я не крыўдую.

Паснедаўшы, дзед устаў з услона, тройчы перахрысціўся, гледзячы ў пусты кут, падзякаваў цётцы Дар'і:

— Дзякуй табе за хлеб-соль...

— Пачакай. Сядзь. Пагаворым,— прапанавала цётка Дар'я, а калі дзед, на здзіўленне Серафіма, паслухмяна сеў, звярнулася не да дзеда, а да яго, Серафіма: — Во якія дзялы, Сіма. Меркавалі мы тут і так і гэтак, а лепшага не прыдумалі, як адправіць цябе да дзеда Максіма. Марк табе, лічы, ніхто. А ў мяне, сам бачыш, не раскоша. Ды і Дрэль муляецца. У дзеда табе добра будзе.

— Само сабой, калі што якое,— падтакнуў дзед.— Баба цябе чакае не дачакаецца.

Серафіма агарнулі крыўда і жаль да сябе. Яму не хацелася пагадзіцца з тым, што Марк, якому ён так верыў, подла здрадзіў слову, якое даў пасля пахавання маці: «Мы, Сеня, цяпер неразлучныя з табой, як сіямскія блізняты». А што, калі цётка Дар'я хлусіць?

— А ці згодны Марк? — перамагаючы неўсвядомлены страх, спытаўся ён.

— А што яму рабіць? Вечна ў раз'ездах. Вечна да

позняй ночы на працы. Ды і мужчына ён не стары,— разважліва, як заўсёды, сказала цётка Дар'я, і Серафім пераканаўся, што цётка не хлусіла — Марк ад яго адмовіўся.

— Калі трэба ехаць? — спытаўся ён.

— Дык дзед жа і прыехаў па цябе...

Пякучая крыўда яшчэ раз драпанула горла, засела ў ім даўкім камяком.

— Ты ўжо, унучак, нікуды не адлучайся,— папрасіў дзед.— Абедня скончыцца, і паедзем.

— Ён у Набокавых пасядзіць,— адказала цётка.— Валянціна Віктаравіча няма, Ігар адзін.

Яна прыбрала посуд, заслала стол святочным абрусам. Яшчэ раз наказаўшы Серафіму нікуды не адлучацца, цётка з дзедам пайшлі ў царкву.

Наверсе Ігар перастаў высвістваць чыжыка-пыжыка. У хаце настала цішыня, якую парушала хіба аднастайнае ціканне ходзікаў. Пад гэтае ціканне Серафім стаіўся, сцяўся ў камячок. Невыказнае адчуванне сваёй нікчэмнасці перад няўмольнасцю лёсу сёння выяўлялася асабліва востра. Дзіўна, Серафіма гняло знутры. Менавіта гняло, а не распірала, як належала быць. Серафіму здавалася, што ён усё меншае і меншае, а навакольны свет разрастаецца ў неаглядную прастору, дзе нікога няма, апрача яго, Сімы Недасейкі, сціснутага да памераў пылінкі, якую і разглядзець можна хіба ў Ігараву падзорную трубу.

Адчуванне нікчэмнасці было шчымлівае і вельмі балючае ад зразуметай бездапаможнасці. Гэта быў затоены, без магчымасці выказаць, страх перад будучыняй, а хутчэй за ўсё, перад адсутнасцю будучыні. Яшчэ адзін крок і — бездань, у якую паляціш і разаб'ешся.

Серафіма палохаў негаваркі набожны дзед, вёска, пра якую і маці і Марк гаварылі з насмешкай, як пра нешта пачварнае, лахматае, нячэсанае, заселенае зласлівымі і дурнымі істотамі. Вёска нагадвала страшную казку пра чарцей, што правяць баль над грэшнікамі. І вось цяпер Серафім павінен кідаць зразумелае, асэнсаванае ўжо ім гарадское жыццё, такое ўтульнае і дарагое, каб апынуцца ў царстве пачвараў.

У яго нават выбліснула задума ўцячы з дому, як

некалі збегла з яго Аксінка. Але ён тут жа прыгадаў Аксінчына вяртанне назад. Аксінка была падобна на пабітую сучку, якая неяк дапаўзла да будкі і стараецца залізаць раны.

— Ты з-за графа ўцякла? — спытаўся ён у Аксінкі.

— З-за дурасці,— адказала яна і дадала, крыху памаўчаўшы: — А табе што?

Серафім пастараўся паказаць сваю дасведчанасць ва ўзаемаадносінах мужчын і жанчын.

— Няпраўда, ты была закаханая, а ён цябе кінуў, як тую Марыю,— важка сказаў Серафім і прадэкламаваў радок з папулярнага тады вальса «Залатыя горы»: «Забыў ён клятву ракавую, калі другую палюбіў». Ты яму павінна была б адпомсціць.

— Ну, і дурны ты, Сіма! Божа, які яшчэ дурны,— сказала Аксінка.

Ён не пагадзіўся, нават пакрыўдзіўся: усе лічаць яго разумным, адна Аксінка сцвярджае, што ён дурны. Паабяцаў з зацятасцю чалавека, якому няма чаго губляць:

— Пачакай, вось вырасту, знайду твайго графа і расстраляю яго...

Аксінка аж схапілася за жывот ад смеху. Ён таксама смяяўся, хоць намер застрэліць графа, як шалёнага сабаку, быў самы сур'ёзны.

Прыгадваючы тую размову, Серафім раптам зразумеў, што ўцякаць яму няма куды і няма да каго. Хіба толькі да Глеба Кротава?.. Але ён тут жа і адхіліў гэты варыянт: стары Кротаў абавязкова выдасць яго Марку. Яны — адна шайка-лейка. Гэтая асуджанасць на непазбежнае перапоўніла ягоную кволую істоту такімі пакутамі, ад якіх не было збавення. Ён паклаў галаву на рукі, ягоныя плечы затрэсліся ад нястрымных рыданняў. Серафім плакаў доўга, у асалоду, пакуль не пачуў на сваім плячы маміну руку. Ад дотыку гэтай пяшчотнай рукі яму зрабілася яшчэ больш горка: дзе ж ты была, мама, чаму ў час не прыйшла на дапамогу? Цяпер ужо і зрабіць нічога нельга. Серафім зарыдаў ужо ўголас.

— Ты чаго сырасць разводзіш? — пачуўся насмешлівы і зусім не мамчын голас, ад якога Серафім здрыгануўся, узняў галаву.

Каля яго стаяў Ігар Набокаў. Серафіму зрабілася

сорамна. Цяпер Ігар будзе яшчэ пацвельвацца з ягоных слёз.

— Не твая справа,— злосна адказаў ён.

— Ну, і дурань. Я па-добраму. Мне цябе шкада. Мы безабаронныя, пакуль не самастойныя. А вырасцем і становімся яшчэ больш залежнымі і бяспраўнымі. Чалавек створаны для пакут, але на тое ён і чалавек, каб супрацьстаяць ім. Мабыць, гневаешся на Марка?

— А табе што? — агрызнуўся Серафім, усё яшчэ саромеючыся сваіх слёз.

— Знайшоў па кім плакаць,— тонам старога сказаў Ігар.— Можа, якраз трэба радавацца, бо твой гэты Марк зрабіў бы з цябе вылюдка.

— Няпраўда, няпраўда,— кінуўся на абарону Марка Серафім.— У яго проста безвыходнае становішча. Ён з раніцы да ночы сядзіць на працы, карчуе ў нашым грамадстве гнілыя пні старога свету.

Ігар Набокаў коратка рагатнуў, было такое ўражанне, што нават не рагатнуў, а плюнуў.

— Ды ён жэніцца твой гэты Марк Удоеў. Зразумеў ці ўсё яшчэ верыш у дарослыя казачкі, дзе дабро перамагае зло?

Сказанае Ігарам ашаламіла Серафіма. Свет крутнуўся вакол уласнай восі і стаў дыбам.

— А ты адкуль ведаеш? — спытаўся ён.

— Адкуль, адкуль, з-пад рабых кур, во адкуль. Пайшлі да мяне. Я карціну закончыў...

На антрэсолях у Ігара перад адчыненымі дзвярамі на балкон стаяў груваcткі мальберт. На ім падсыхала не дапісаная алеем карціна: сярод зеляніны садоў чырванелі і жаўцелі чарапічныя і жасцяныя дахі, за якімі ганарліва ўздымаліся ў блакітнае неба дзве макаўкі царквы з залатымі крыжамі. Старасвецкі пейзаж гэты ажыўлялі дзве пачвары, троху падобныя на аэрапланы, з бычачымі галовамі, якія цягнулі за сабой па чырвоным сцягу. За пачварамі, выныраючы з белага воблака, ішлі ў паветры людзі з аднолькавымі тварамі і аднолькава разяўленымі ратамі.

— Сам маляваў? — спытаўся Серафім, уражаны прыгажосцю і дасканаласцю пейзажу і здзіўлены незразумелымі брыдкімі пачварамі на фоне прыгожага неба.

— Вядома, сам,— з гонарам за сябе адказаў Ігар.— Падабаецца?

— Яшчэ як,— троху схлусіўшы, адказаў Серафім. Яму не падабаліся пачвары, што цягнулі за сабой чырвоныя сцягі, як і аднолькавыя з твару людзі, што ішлі за імі.

— Я вучуся ў майстэрні Пэна,— як здалося Серафіму, з важнасцю сказаў Ігар.

— Ты будзеш мастаком? — здагадаўся Серафім.

— Не, я буду дыпламатам.

Прызнанне ўразіла Серафіма. У Марка слова «дыпламат» мела благі сэнс. Яно гучала, як лаянка. Дыпламат — значыць, хлус, ашуканец, чалавек, далёкі ад пралетарскага паходжання, які да ўсяго жыве за мяжой па-буржуйску, паддаецца разбэшчванню буржуазнай культуры.

— І ты не баішся? — спытаўся Серафім.

— Чаго? — здзівіўся Ігар.

— Абуржуазіцца.

— Ад Марка набраўся ці сам прыдумаў?

— Сам,— схлусіў Серафім.

— Дурань. Дыпламат — гэта самы дасведчаны, самы адукаваны, самы культурны чалавек. Гэта мая мара. А ці збудзецца яна?

— Трэба толькі захацець, і збудзецца,— словамі Марка адказаў Серафім.

— Тут малапераадольная закавыка,— не пагадзіўся Ігар.— З маёй біяграфіяй і на педрабфак не прымуць. Мне пралетарскі стаж патрэбны.

— А дзе ты яго возьмеш? — спытаўся Серафім.

Пра стаж і пралетарскае паходжанне Серафім ужо меў сякое-такое ўяўленне. Вучні пралетарскага паходжання бясплатна атрымлівалі ў школе сшыткі з глянцаванай паперай, каляровыя і простыя алоўкі фабрыкі Сака і Ванцэці, асадкі і пёры, чарніліцы-невылівайкі і чарніла. Астатнія пісалі на самаробных сшытках са шпалераў, купленымі на чорным рынку асадкамі, пёрамі і алоўкамі. Серафіму таксама адмовілі ў пралетарскай ільгоце. Ды Марк недзе камусьці даказаў, што Серафім мае права на льготы як сын рэвалюцыйнага байца.

— Пайду на чыгунку,— адказаў Ігар.— Там больш культуры. Табе пасля школы таксама давядзецца зарабляць пралетарскі стаж,— ашаламіў ён Серафіма.

— Чаму? Мне не трэба.

— Яшчэ як трэба. Ты ж пяройдзеш цяпер у сялянскае саслоўе, а дзед твой, як мне вядома, лічыцца заможным. А такія сяляне адносяцца да дробных уласнікаў.

Адкрыццё гэтае напалохала Серафіма. За спіной Марка, што б там ні казалі, Серафім адчуваў сябе надзейна, цяпер жа наперадзе чакала непраглядная, як восеньская ноч, цемра. Ён быў гатовы выконваць любыя даручэнні Марка, абы той не адсылаў яго ў ненавісную вёску, дзе трапляеш у саслоўе, якое не мае ніякіх правоў.

— Я ўвосень дамоў вярнуся,— сказаў Серафім, верачы сабе.— Мы з Маркам пакляліся не разлучацца, і ён свае слова стрымае.

— Дурык, цябе да дзеда на векі вечныя адсылаюць,— бязлітасна сказаў Ігар.

— Няпраўда, Марк мяне сам забярэ. Вось пабачыш,— стаяў на сваім Серафім.

— Твой Марк і прыдумаў адаслаць цябе да дзеда. Вось цётка Дар'я і схадзіла да яго. Яна ж сястра твайму дзеду, дзівак ты неабучаны.

Серафіму здалося, што з-пад ягоных ног выкаўзнуўся ўслончык.

## 2

Прыезд Серафіма да дзеда запомніўся яму дзвюма падзеямі.

Па дарозе, што крокаў праз трыста дзялілася на тры рукавы — кожны хаваўся ў прысадах якоганебудзь хутара,— ішоў, бязлітасна тузаючы гармонік, п'яны дзядзька ў паласатай цяльняшцы, неймаверна шырокіх галіфэ, лакіраваных ботах, у шапцы з высокім верхам і чорным, таксама лакіраваным, брылём. Не цвёрда ступаючы крываватымі нагамі па дарозе, паарослай ніцай травой, дзядзька на ўсё луджанае горла спяваў знаёмую па задунаўскіх завулках песню: «Бывалі дні вясёлыя, гуляў я, маладзец, не знаў таскі-кручынушкі, як вольны удалец». Мабыць, апрача гэтых слоў, дзядзька песню не ведаў, бо, праспяваўшы іх, пачынаў спачатку.

За дзядзькам гналіся дзве проставалосыя дзеўкі.

На Серафімавых вачах дзеўкі дагналі дзядзьку, забеглі яму наперад, кінуліся на калені, імкнучыся ўтрымаць яго, хапаючы за галіфэ. Дзядзька, не перастаючы іграць і спяваць, узняў левую нагу ў лакіраваным боце, штурхнуў адну з дзевак у грудзі, і тая кулем павалілася на зямлю.

У горадзе Серафім бачыў усякае, але з такім пачварствам сустрэўся ўпершыню, і яму адразу прыгадаліся размовы маці з Маркам пра ідыятызм вясковага жыцця, ідыятызм, які быў падкрэслены яшчэ больш старой і старым, што выбеглі з вішнёвых прысадаў з узнятымі ўгору рукамі. Гэтае кашмарнае відовішча, аднак, анічуць не ўзрушыла дзеда Максіма.

— Дзед, што гэта? — перапалоханым голасам спытаўся Серафім.

— Мікла Анічэйка ў малінаўскія прытоны ідзе,— спакойна, як пра нешта вельмі звычнае, сказаў дзед.

Ягоная ўраўнаважанасць удзячна паспрыяла Серафіму.

— А чаго ён туды ідзе?

— Дык жа, вядома, не ў сваты. Няйначай, калі што якое, украў нешта ў бацькі, во і спяшаецца, каб прайграць у карты. У Малінаўку карцёжнікі з'язджаюцца за пяцьдзесят вёрст.

Тым часам Мікла Анічэйка параўняўся з калёсамі, сарваў з галавы шапку, павітаўся з наглай усмешкай на прыгожым твары:

— Маё вам пачцівае, каб не ўбрыкнула цялё шалудзівае...

— Гуляеш? — спытаўся дзед, не зважаючы на задзірыстасць Анічэйкі.

— А нам што? Адзін раз жывём. І піць будзем і гуляць будзем, а смерць прыйдзе — паміраць будзем,— заспяваў ён немым голасам і пайшоў далей.

На ягоным месцы каля калёс узніклі абедзве дзеўкі з заплаканымі тварамі. Перабіваючы адна адну, не перастаючы сёрбаць насамі і галасіць, яны пачалі гаварыць, як дзве трашчоткі.

— Дзядзечка, запыні яго, дзядзечка. Ён цябе паслухае. Хай верне золата. Мы ж недаядалі, недасыпалі. Бубачка да бубачкі збіралі. Запыні яго, дзядзечка...

— Ага, дужа ён мяне паслухае, калі бацьку

роднага не хоча слухаць,— дзед крануў лейцы, конь пацягнуў калёсы, пакідаючы на дарозе абедзвюх дзевак.

Серафіму было шкада іх: яны здаліся яму прыгожымі і вельмі няшчаснымі.

— Дзед, а чаму ты не захацеў паслухаць іх? — спытаўся ён.

— Ага, яго толькі зачапі, таго злыдня, калі што якое, дык чырвонага пеўня падпусціць.

Апошнія словы дзед сказаў напаўголасу, няйначай таму, што калёсы падкочвалі да бацькоў Міклы Анічэйкі. Калі яны параўняліся, стары Анічэйка дужа цяжка, задыхана загаварыў. Серафіма ўразіла, як высока ўзнімаюцца ягоныя грудзі пад зрэбнай кашуляй.

— Выняньчыў, во, басоту,— цераз сілу скардзіўся ён на сына.— А ўсё яна. Бывала, вазьмуся за лейцы, каб павучыць, а яна ў абарону. Засланяе сабой. Дазасланялася.

Старая прайшла паўз калёсы, не прыпыняючыся. Здавалася, яна нічога не бачыць, апрача дарогі, нічога не чуе, апрача сваіх жудасных праклёнаў:

— Божачка, разразі яго! Божачка, каб з яго кроў цякла па кропельцы, як ён па кропельцы адбірае наша жыццё! Божачка, вырві яму вочы, каб ён не бачыў дарогі!..

— Яго не клясці, драць нада, пакуль тры шкуры не спусціш,— сказаў стары Анічэйка і паклыпаў за жонкай.

— Во да чаго даводзіць распуста,— падвёў вынік дзед.

Другая падзея была звязана з маёўкай. У часе вячэры таго ж нядзельнага дня сын дзедавай дачкі Варкі Сцёпка папытаўся ў дзеда:

— Дзед, я зваджу Сімку на маёўку?..

— Звадзі,— пагадзіўся дзед.— Хай паглядзіць, як у нас маёўкі гуляюць.

— Хай бы лепш адпачнуў з дарогі,— падала голас бабуля.

Варка ў размову не ўмешвалася, і гэта вельмі падзівіла Серафіма.

— А я не змарыўся,— сказаў Серафім.

— Тваё дзела — цыц,— абарваў яго дзед.— Вучы-

ся слухаць старэйшых, іначай, калі што якое, вырасцеш вісусам.

Сцёпка з першых хвілін узяў на сябе ролю апекуна і заступніка. Па дарозе на маёўку, якая ладзілася ў суседняй вёсцы Загараны, Сцёпка найперш пазнаёміў Серафіма з жыхарамі дзедавага дома, расказаў, каго трэба баяцца, а на каго не звяртаць увагі, а потым пад сакрэтам падзяліўся тайнай свайго паяўлення на свет божы.

— Я, Сімка, падкрапіўнік, па-нашаму — выблядак.

Бессаромнае слова гэта было сказана з такой непасрэднасцю, што не выклікала ў Серафіма ніякай рэакцыі, апрача здзіўлення.

— Як гэта?

— У мяне бацькі няма.

— Чаму?

— Чаму? Чаму? Бо канчаецца на «у». Мяне матка ў дзеўках нагуляла.

Нагуляная ў дзеўках была і Насцечка Рагацікава. Але Насцечку нарадзіла маці Паліна Рагацікава. Так што абодва гэтыя паняцці — народжаная і нагуляная — набылі для Серафіма адзіны сэнс. Сцёпка ўкладаў у паняцце «нагуляны» нейкі іншы сэнс. Ад Глеба Кротава Серафім чуў, што дзеўкі падкідваюць нагуляных дзяцей у чужыя двары, каб чужыя людзі іх гадавалі. Выходзіла, што Сцёпку нагуляла нейкая невядомая дзеўка і падкінула Варцы, якая і стала Сцёпку мамай.

— А ты адкуль ведаеш, што нагуляны? — спытаўся ён, не без далёкага прыцэлу: атрымаць дакладнае ўяўленне пра падкінутых і нагуляных дзяцей.

— Дык жа ўся вёска ведае,— адказаў Сцёпка, здзіўлены недасведчанасцю Серафіма ў такіх звычайных справах.

— А хто цябе нагуляў? — зноў здзівіў Сцёпку Серафім.

— Ты што, балда? — аж узлаваўся Сцёпка.— Я ж табе казаў, матка мяне нагуляла. І ўсе ведаюць з кім. З Міклам Анічэйкам. Матрос — штанамі патрос, а я з яйца вылупіўся.

— З курынага?

— Ну, і недатумак ты, Сімка. Гэта так гавораць.

А паявіўся я на свет божы ад маткі і Міклы, якога матка вельмі любіла, ды дзед не дазволіў ёй пайсці за яго замуж. Мікла п'яніца і карцёжнік...

Серафім не раз ужо пераконваўся, што незразумелае, нават таямнічае ў вуснах старэйшых з часам становіцца простым і зразумелым, як і цяпер, калі Сцёпка сказаў, што ягоная мамка кахала Міклу. У галаве адразу ўсплылі і словы з песні, надрукаванай на папяроснай паперы: «і плод любві сваёй няшчаснай яна панесла на руках». Плод і ёсць вынік кахання, растлумачыў яму Глеб Кротаў.

— Дык я бачыў гэтага Міклу,— чамусьці баючыся, каб Сцёпка не перапыніў яго, паспешна загаварыў Серафім.— Ён у прытон ішоў. А мы ехалі. А дзеўкі за ім беглі. А ён іх штурхаў нагой. Яны крычалі, што бубачкі збіралі. А дзед не захацеў з ім звязвацца, бо ў яго чырвоны певень.

Серафім адбалабоніў усё на адным дыханні і замоўк, чакаючы, як паставіцца да сказанага Сцёпка.

— Значыць, усё ж дастаў залацішка,— зайздросна выказаўся Сцёпка.— Ён такі, пад зямлёй знойдзе.

Сцёпка сказаў пра Міклу з захапленнем, і Серафіму захацелася папытаць у яго, ці любіць ён Міклу? Яму хацелася пачуць, што любіць, а калі і не любіць, дык ставіцца да яго з павагай і надзеяй, што некалі Мікла ўсё ж забярэ Сцёпку і Варку да сябе. Думаючы так, ён успамінаў Марка. Адвячорак, праведзены на дзедавым хутары, выклікаў у яго нясцерпны сум і роспач перад незваротнасцю падзей. Ён усё яшчэ спадзяваўся, што Марк пад восень прыедзе па яго.

Маёўка ўразіла Серафіма бессэнсоўнай мітуснёй і не менш бессэнсоўнай музыкай. Прысадзістая кучаравая дзеўка, паклаўшы на вялікія грудзі скрыпку і моцна заціснуўшы яе падбародкам, самазабыўна вадзіла смычком па струнах, а насаты, плюгавы дзядок падыгрываў ёй на цымбалах. Перазвон цымбальных струн часам не супадаў з мелодыяй скрыпкі, але на гэта ніхто не звяртаў увагі. Пад камлюкаватай сасной з двума распасцёртымі сукамі, на крузе, абмежаваным лаўкамі, таўкліся не толькі дарослыя, але і падшыванцы гадоў па пятнаццаць.

Сцёпка з Серафімам адразу абраслі такой жа, як і яны, дзятвой. Усю ўвагу вясковых хлапчукоў,

безумоўна, прыцягваў Серафім. Апрануты ў крамны гарнітурчык, пад якім была крамная сацінавая кашуля, абуты ў чаравікі, Серафім выглядаў сярод басаногіх, абы-як адзетых хлапцоў, багацеем, і на яго глядзелі, як на дзіва, што невядома як сюды трапіла.

— Мой дваюрадны брат,— з гонарам пазнаёміў хлапчукоў з Серафімам Сцёпка.— Хто яго кране, будзе мець справу са мной.

Хлапчукі па-даросламу працягвалі рукі, але сябе, як прынята, не называлі. Ды пацісканне рук вельмі хутка закончылася; да іх гурту падбег касавокі хлапчук, зашаптаў, але так, каб было чутна ўсім:

— Зараз пачнуць біцца. Міцька канчанскі задзірацца пайшоў.

Дзятву як ветрам здзьмула.

— Стой тут і нікуды не адыходзь,— паставіўшы Серафіма за спіной цымбаліста, Сцёпка сігануў прэч.

Серафіму была добра відаць пляцоўка, на якой танцавалі, і ён аж дзівіўся з прымітыўнасці танца; такога Серафім ніколі не бачыў у горадзе.

Тым часам да цымбаліста падышоў высокі дзяцюк у суконным пінжаку наапашкі. Ён паклаў абедзве рукі на цымбалы, і тыя заглухлі.

Хлопец, што сядзеў побач з цымбалістам, порстка ўскочыў, задзірыста крыкнуў:

— У чым дзела?

— Кадрылю хачу,— таксама задзірыста адказаў высокі.

— Ты?

— Я.

— Кадрылю?

— Можа, не дазволіш?

— А і не дазволю...

Серафім глядзеў на іхнюю спрэчку, як на вясёлы спектакль. Гарадскія хлопцы падоўгу не нагаворваліся: калі што якое, без лішніх слоў пускалі ў ход кулакі, а то і фінкі.

— Ты не дазволіш?..

— Я не дазволю.

— Міцька, не нада! — нема крыкнула падобная на падлетка дзеўка і павісла на шыі высокага.

Той спрабаваў выбавіцца з яе ўчэпістых рук, але дзеўка моцна трымалася за шыю, і тады Міцька неяк злаўчыўся, штурхануў свайго праціўніка ў грудзі. І на

адным і на другім умомант павіслі дзеўкі, нешта крычалі, а вакол іх ужо грувасціўся клубок з чалавечых цел. Мільгалі ў паветры рукі. Шырока разяўленыя раты выяргалі лаянку і злобнае шыпенне. Чуўся трэск падраных кашуль, лямант дзевак. Разгарачаны бойкай клубок неяк перакаціўся цераз лаўку на прастор поля і ночы. Дзесьці трашчаў плот. Мяккія плескачы-ўдары суправаджаліся аднолькава смачным выгукам: «гэх».

Серафіму зрабілася страшна: раптам і яго агрэюць колам, але, заўважыўшы, што тры дзеўкі ўзабраліся на лаўку, каб лепей разгледзець, як і хто б'ецца, Серафіма адпусціў страх, засталася толькі асцярога: калі што, кінуцца наўцёкі. Ён таксама залез на лаўку, нейкая дзеўка агрэла яго па галаве. «Ты чаго тут? Марш дамоў!» Дзеўка спіхнула яго з лаўкі.

Уначы мільгацелі цені, якія раптам былі запынены дзікім крыкам:

— Міцьку забілі-і-і-!..

Нечалавечы крык гэты разарваў клубок, раскідаў па полі, а на траве засталася ляжаць распасцёртая постаць чалавека ў белай кашулі. Яго стараліся падняць. Ён моцна хлюпаў носам і лаяўся.

Скрыпачка, якая, не зварухнуўшыся, прастаяла на адным месцы, паклала скрыпку на грудзі, узмахнула ў паветры смычком, зайграла знаёмы Серафіму вальс. Ачнуўся ад нематы і цымбаліст. На здзіўленне Серафіма, на крузе адразу ж паявіліся танцоры, закружыліся па ім, нібы нічога не здарылася. З цемры вынік Сцёпка, спытаўся:

— Не спалохаўся?

— Падумаеш,— сказаў Серафім, адчуваючы, як уся ягоная істота трымціць ад хвалявання і страху.

## 3

Вёска аказалася не пачварным страшыдлам, якім уяўлялася Серафіму, а дабрадушным дзівам, троху незразумелым, недарэчным, смешнаватым і грубаватым, але нязменна працавітым. Дарослыя праз увесь дзень нешта рабілі, кудысьці ішлі або ехалі, карацей кажучы, не сядзелі без справы. А была ж якраз тая пара, калі пасля сяўбы перад сенакосам і жнівом

надарылася акенца для адпачынку. Жанчыны палолі грады, адбельвалі натканае за зіму палатно, датыкалі кросны сукна, посцілак і радніны. Дзеці пасвілі жывёлу, сцераглі ад варон і ястрабаў куранят, ірвалі асот, лебяду, крапіву, свірэпу на корм свінням і каровам, марачы пра тое, як бы сарвацца на рэчку, папесціцца на мурожных берагах ціхіх тоняў. Мужчыны чысцілі ад смецця і пацярухі такі і пуні, скарадзілі бульбу, ладзілі косы і граблі, карчавалі на балоце яловыя пні.

Калісьці, на самым пачатку стагоддзя, сяляне трох вёсак, залезшы ў даўгі, выкупілі ў пана дзесяцін трыста няўдобіцы: балота, парослае ельнікам, і тры грады сухадолу, прыдатнага на выпасы. У рэвалюцыю і вайну большая палова лесу была спляжана і прададзена ў горадзе. Рэшту дасякалі пазней; кралі з-пад носа леснікоў і абходчыкаў. Ратунку не было. Вінаватых таксама. Самагонка змывала і больш цяжкія грахі.

Цяпер, як і ў часе пагалоўных высечак, бабінцы рынуліся на балота карчаваць падсохлыя, падгнілыя пні на дровы. Зімой з балота можна было прывезці хіба хвораст. А ім печ не напаліш.

Дзед з двума сынамі, як толькі надаралася вольная часіна, ішоў на балота. Сцёпка казаў, што дзед накарчаваў ужо тры вялізныя кастры смаляных карчоў.

Назіраючы жыццё вёскі зблізку, Серафім непрыкметна ўцягваўся ў яе гадамі ўсталяваны ўклад, хоць яму і здавалася, што ён ніколі не стане вясковым чалавекам. Нярэдка тое, што для другіх дзяцей, ягоных дваюрадных братоў і сясцёр, было прывычным і зразумелым, выклікала ў Серафіма ўпарты пратэст

Па заведзенай звычцы кожную раніцу ўсе насельнікі хутара станавіліся перад абразамі, па малітоўніку дзед уголас чытаў малітвы, а яны павінны былі паўтараць іх пра сябе і хрысціцца тады, калі хрысціўся дзед. Абрад гэты выклікаў у Серафіма атупелы сум. Назіраючы, як абыякава хрысцяцца ягоныя малыя сваякі, Серафім ніяк не мог даўмецца, навошта дзеду прымушаць дзяцей хрысціцца і стаяць на малітве, калі ім гэта зусім нецікава.

Серафім паспрабаваў падзяліцца сваімі назіраннямі і сумненнямі са Сцёпкам. Той ніяк не мог

зразумець, пра што гаворыць Серафім, а калі да яго дайшло, здзіўлена адказаў:

— Паспрабуй толькі не маліцца, дзед цябе папружкай так і пагладзіць.

— Ну, і што? Але ж подла хлусіць і прытварацца,— стаяў на сваім Серафім.

— Во і не хрысціся, калі ты такі разумны,— падбіў яго Сцёпка.

— І не буду,— расхрабрыўся Серафім.

Ранішнюю малітву ён усё ж выстаяў і хрысціўся, як і належала па абрадзе. Сцёпка кідаў на яго насмешлівыя позіркі, але, баючыся дзеда, назаляў не вельмі настойліва. Толькі калі сядзелі за сталом, падбухторыў:

— Ну, што, слабак, здрэйфіў? Каб мяне разразіла, слабо не перахрысціцца.

Серафім прамаўчаў. Але паказаў свой нораў адразу, як закончылі снедаць. Тут быў таксама свой абрад: пакуль дзед не падымецца з-за стала, ніхто не мог пакідаць застоліцу. Серафім жа з выклікам вылез з-за стала першы. Яму хацелася як мага хутчэй сігануць за дзверы, ды яго апыніў дзедаў уладны голас:

— Стой! — а калі Серафім павярнуўся, дзед сурова спытаўся: — Ты чаму не хрысцішся?

— Бога няма, таму і не хрышчуся! — з упэўненасцю сапраўднага атэіста адказаў Серафім.

Ён раптам адчуў сваю глыбокую пераконанасць і не менш глыбокую праваду. Гэта надало яму яшчэ большай смеласці.

За сталом адразу стала ціха. Дзеці, вытрашчыўшы вочы, глядзелі на Серафіма з асуджэннем і адначасова з цікавасцю: што будзе далей?

— Што ты сказаў? — аблізваючы лыжку, спытаўся дзед.

Ён гаварыў вельмі спакойна, і гэта яшчэ больш акрыліла Серафіма. Ён хацеў паўтарыць сказанае, што бога няма, што ён выдумка непісьменных людзей, як не раз казала яму маці, ды не паспеў разявіць рот, як драўляная лыжка з доўгім цаўём апісала дугу, моцна ляснула па лбе. Ляснула не балюча, але вельмі абразліва. Серафіму да слёз стала крыўдна і сорамна. Ён бы, можа, і ўтварыў якую шаляніну, тады ён быў упэўнены, што не пабаяўся б нічога на свеце, ды

Сцёпка раптам усмак зарагатаў і тут жа атрымаў па лбе той жа самай лыжкай. Хоць і слабое, але для Серафіма патрэбнае суцяшэнне. Ён стаяў, апусціўшы рукі, не ведаючы, што яму рабіць далей.

— Бога, кажаш, няма? А гэта хто? — абурана спытаўся дзед, тыцнуўшы лыжкай цераз плячо ўгору, дзе віселі абразы.— Яму вінен прыносіць падзяку, што насыціў нас зямнымі дабротамі. Хрысціся, сукін сын, і выкінь з галавы дурасць, якой нашпігавалі цябе ў горадзе бязбожнікі і д'яблавы слугі. Хрысціся, унучак, бо вунь за тваёй спіной стаіць чорт і весела ўсміхаецца ад твайго нявольнага нявер'я.

Серафім плячамі адчуў той жа страх, што і ў навальнічную ноч, калі ён прачнуўся і ўбачыў, як на падлозе ляжала цётка Дар'я і малілася богу незразумелымі і страшнымі малітвамі. Толькі цяпер страх уяўляўся ў выглядзе чорнага маленькага чорта, які прымасціўся на ягоных плячах, каб загубіць яго.

Узняўшы ўгору заплылыя сорамам вочы, Серафім тройчы перахрысціўся.

— Цяпер можна ісці? — па-вучнёўску дысцыплінавана спытаўся ён.

— Ідзі, унучак, і не гавары дзёрзкасці старэйшым. Паслухмянасць — золата.

У лапухах за токам Серафім выплакаў усю крыўду на дзеда. Тут яго і знайшоў Сцёпка.

— Нас чаму б'юць? Бо ў іх сіла,— Сцёпка гаварыў з нечуванай разважлівасцю.— У свеце ўсё так пастаўлена: моцны слабага крыўдзіць. Асабліва калі няма каму слабага засланіць ад крыўды. Быў бы ў мяне талковы бацька, думаеш, дзед — на кол уздзет — пальцам бы крануў? Выраступ, усім, хто мяне крыўдзіў, адплачу з надбаўкай. І дзеду-людаеду ўсе ягоныя лыжкі прыпомню.

— У цябе маці,— нагадаў Серафім Сцёпку.— У мяне — нікога няма.

— Маці што? Яна сама дзеда баіцца, бо кругом вінаватая. Дужа да мужчын ласая. Табе лягчэй. Ты — круглы сірата. А круглую сірату, як і старцаў, грэх крыўдзіць. Таму цябе і шкадуюць. Баба на дзеда сварылася. Так і казала: грэх табе, дзед, што сірату круглую крыўдзіш. А дзед адказвае: сам ведаю, што грэх, але ж і вучыць камусьці трэба.

Крыху пазней, можа, нават не ў той, а ў другі

дзень, выкупаўшыся ў сажалцы, яны ляжалі на спінах, глядзелі ў сінеч неба, па якім ляніва плылі надзьмутыя паветрам ветразі аблокаў.

— Хочаш, адпомсцім дзеду? — раптам спытаўся Сцёпка.

Ад Сцёпкавай прапановы Серафім уздрыгнуў. У яго прапала ахвота злавацъ на дзеда. Але няёмка было прызнавацца, што ён забыўся на крыўду.

— А як? — шэптам спытаўся ён.

— Спалім дзедавы карчы на балоце. Ты — адзін касцёр, а я — другі.

— Хопіць аднаго,— чамусьці спалохаўшыся, адказаў Серафім.

— Не, брат, слухай старэйшых. Калі кожны з нас спаліць па кастру, дык мы будзем звязаны і не выдадзім адзін аднаго.

— А мы дадзім адзін аднаму чэснае слова,— адказаў Серафім.

— Хэх, чэснае! А з чым яго ядуць? Ну, дык згода?..

Сцёпкава прапанова палохала. У Серафіма не было, абсалютна не было злосці на дзеда, і толькі сорам перад Сцёпкам, што ён, Серафім, здрэйфіў, прымусіў яго пагадзіцца:

— Згода...

У нядзелю якраз была Сцёпкава чарга пасвіць скаціну. Як і дамовіліся звечара, Сцёпка разбудзіў Серафіма яшчэ да ўзыходу сонца. Бабуля ўжо даіла кароў. З хлява далятаў перазвон малочных струменяў у даёнцы. Серафім, пасля ўгрэтай за ноч пасцелі, сядзеў на прызбе, сцяўшыся ў камячок, паляскаваў зубамі ад дрыжыкаў. Бабуля, як толькі ўбачыла яго, залямантавала:

— А божачка, а міласцівы, чаго ты ні свет ні зара ўспёрся?

— Паганю кароў на пашу са Сцёпкам,— растлумачыў Серафім.

Яму вельмі хацелася, каб бабуля забараніла яму гнаць кароў, і такім чынам сама па сабе адпала б неабходнасць паліць дзедаў касцёр. Але ўсё было супраць Серафіма.

— Дык ці не ў святочных сандалях ты думаеш па лесе бегаць? Ад іх жа за паўдня адно ашмоцце

застанецца. Зараз я табе што-небудзь больш зручнае прыдумаю.

Бабуля схадзіла ў свіран, вынесла адтуль падношаныя лапці і пару ануч.

— Знімай сандалі,— загадала яна.

Серафім разуўся. Бабуля памагла яму накруціць анучы, падвязаць аборамі лапці.

— Маладзец,— сказаў дзед, выходзячы з сенцаў.— Прывыкай да мужыцкай долі,— і крыкнуў на Сцёпку: — Чаго стаіш, вісус, выганяй! Людзі вунь ужо дзе з каровамі!

Сапраўды па дарозе на балота двое пастухоў гналі свае нешматлікія статкі. Сцёпка кінуўся да хлява, расчыніў вароты, і каровы сталі выходзіць на двор. За імі выбеглі і авечкі.

Да балота было вярсты паўтары. Каровы прывычна ішлі на пашу. За імі трухалі авечкі з гарбаносым, рагатым бараном.

За грэбляй з чорнай вадой у каляінах дарога крута брала налева, хавалася ў густым ельніку. За ім і пачыналася сухадольная града, падобная на рыбін хрыбет. Перашыек сухадолу напачатку быў заціснуты балотам і меў крокаў сто ўшырыню, але неўзабаве ён пашыраўся, раздаваўся, як бы рассоўваў балота, пераходзячы ў раскошныя паляны з густой травой, выгаркі з чыстай, як крынічнай, вадою, беразнякі, якія межавалі з паплавамі вакол невялічкай рачулкі, што выбягала з аднаго балота і ўпадала ў другое. На сухадоле было шмат крыніц, што білі фантанчыкамі з нетраў зямлі. Сцёпка казаў, што крынічная вада вылечвае ўсе на свеце хваробы.

На перашыйку ўжо сядзелі чацвёра хлапчукоў і дзве дзяўчынкі. Іх абавязкі зводзіліся да таго, каб пільнаваць перашыек і не пускаць жывёлу ўцякаць дамоў, а наградзе яна пасвілася сама і не лезла ў балота.

Пастухі палілі вогнішча. Сушняку навокал — горы. Яго падкладалі патроху, каб не ўспыхваў адразу гарачым полымем. Агонь прагна лізаў сухія яловыя галіны. Яны гарэлі амаль без дыму, таму назалялі камары. Каб адагнаць іх, на касцёр клалі яшчэ сырыя яловыя лапкі — ад іх слаўся над зямлёй белаваты дым.

Сцёпка падвёў Серафіма да пастухоў, тыцкаючы

ў кожнага чорным, не адмытым ад вечнага бруду пальцам, называў імёны:

— Андрэй, Верка, Сеўка, Хімка, Васька, Аўдакім,— кончыўшы пералік, падштурхнуў у плечы Серафіма: — А гэта Сімка, мой брат, па-гарадскому — Серафім. Хімка, пасунься, хай каля цябе сядзе.

— Каля Ваські яму месца, а мне без патрэбы. Усе гарадскія нахабы,— негасцінна адгукнулася Хімка, але пасунулася і ўступіла месца побач з сабой.

Дробненькі рабацiністы Сеўка падштурхнуў локцем Аўдакіма:

— Аўдакім, яй-богу, гарадскі адаб'е Хімку.

Даўгалыгі Аўдакім даў Сеўку плескача па патыліцы, на тым і абышлося.

Жвавая гаворка ў пастуховым гурце была перапынілася, але як толькі Сцёпка з Серафімам уселіся каля вогнішча, забруіла зноў.

— Дык во, што далей было,— пачаў апавядаць Аўдакім такім прыглушаным голасам, якім гавораць пра нешта вельмі страшнае.— Толькі пеўчыя заспявалі «алілуя», як царква здрыганулася і памалу пачала асядаць у зямлю. Кінуліся людзі да дзвярэй — зачынены. Тады яны рынуліся ў захрыстую, а поп з дзякам іх кадзільнікамі па галаве.

— Чаму? — разгневана спытала Хімка.

— Чаму, чаму? Бо ў захрыстую нельга абы-каму заходзіць, ясна табе?

— А што з царквой? — не сунімалася Хімка.

— Што, што? Возера на тым месцы ўтварылася. Кожны год на Івана ў возеры званы звоняць.

— А то во яшчэ было,— падхапіла чырванашчокая, здобная, як вялікодны куліч, Верка,— за Гараваткай, дзе наша Тэкля замужам, гэта па той бок шашы, воблака на зямлю звалілася. Людзі якраз на абедню ішлі. Глядзяць, а на поплаве воблака ляжыць, дрогкае, як кісель. А на ім анёлы сядзяць і плачуць.

— Чаго? — не стрымалася цікаўная Хімка.

— Дык жа ім трэба па небе плысці, а яны на грэшнай зямлі апынуліся. Тут заплачаш...

Серафіму захацелася паказаць свае бясспрэчныя веды і перавагі перад гэтымі забабоннымі падлеткамі.

— Усё гэта выдумка,— сказаў ён.— Забабоны цёмных людзей. Воблака — той жа туман, толькі ўзняты ўгору.

— А во і не выдумка,— заспрачалася Верка.— Наша Тэкля сама тое воблака бачыла і рукамі кратала. Кажа: дрогкае, як аўсяны кісель, і халоднае. А Тэкля наша ніколі не хлусіла.

— Во ты кажаш, воблака той жа туман,— заспрачаўся і Аўдакім. Яму вельмі хацелася пераспрачаць гарадскога мальца, які прысуседзіўся да Хімкі.— Ладна. Але туман сонца растапляе. Бо туман — вада. А вада ў небе доўга трымацца не можа. Яна на зямлю дажджом падае. Але падае з хмар, а не з воблакаў. З воблакаў ніколі дождж не ішоў. Ці, можа, хто бачыў, як з воблакаў ішоў дождж? Ага, ніхто. Значыць, воблака не з вады. І ў царкве вунь бог Саваоф на воблаку намаляваны. А маляры крыху больш цябе ведаюць.

Серафім пачуў, што Аўдакім загнаў яго ў кут — не вывернуцца.

— У бога ўсяго многа,— выручыў яго Васька, хлапчук у насунутай на лоб шапцы з паламаным казырком.— Старая Шабуніха з Аўдзяёнак расказвала маёй матцы. Роўна праз год, як на вечарынцы забілі яе сына Клаўдзія, ляжала яна на печы і не спала. Якраз поўня была, і ўся хата асвятлялася ёю. Дык вось у самую поўнач пачула яна, як нехта ў сенцах шкрабецца. Толькі хацела пайсці паглядзець, хто там шкрабецца, як дзверы адчыніліся і ў хату зайшоў Клаўдзій. Падышоў да сцяны, на якой вісела ягоная скрыпачка, зняў яе, узяў смычок і пачаў іграць. Жаласна так, аж за сэрца бярэ. Доўга іграў, пакуль певень не заспяваў. Тады ён павярнуўся сінім тварам да печы і кажа Шабунісе: «Што ж ты мяне, мамка, не памянула?» — «Як не памянула? — здзівілася Шабуніха.— Я ж Матруну прасіла памянуць і грошай той дала на памін тваёй душы».— «Не, мамка,— адказвае ёй Клаўдзій,— Матруна грошы тыя на сябе патраціла». Назаўтра Шабуніха пабегла да Матруны ды і прыстала да яе з кароткімі гужамі. Ну, Матруне рабіць няма чаго, прызналася, што прысвоіла памінальныя грошы. А ўвечары яе і хапіў карачун. Счарнела ўся і памерла. У труне ляжала, як чыгун, чорная. А ўсё таму, што паквапілася на грошы, якія на памін душы прызначаліся...

— Мёртвыя з магіл не ўстаюць,— важка сказаў Серафім, каб хоць тут рэабілітаваць сябе.— Такія

з'явы, калі людзі бачаць памерлых, называюцца галюцынацыямі.

— Не знаю, як там па-гарадскому, а па-нашаму, дык нябожчыкі вельмі часта да сваякоў прыходзяць, каб папярэдзіць іх аб напасці. А што на могілках дык там яны з магіл выходзяць і сядзяць пад крыжамі да самых пеўняў.

— Глупства,— не пагадзіўся Серафім. Яму чамусьці вельмі хацелася даказаць гэтым вясковым недатумкам сваю праваату.— Ніхто і ніколі на могілках такое не бачыў.

— А ты адкуль ведаеш? — падхапіўся Сеўка.

— Ён усё ведае,— адказаў за Серафіма Сцёпка.— Ён, калі хочаце, ноччу на могілкі хадзіў. Ён і ў бога не верыць.

— Зусім? — спалохана спытала Хімка і перахрысцілася.

— Не, напалову,— засмяяўся Сцёпка.

— Глядзячы на якія могілкі хадзіў,— памяркоўна сказаў Васька, які, мабыць, быў спецыялістам па магільных паданнях.— Ёсць могілкі, на якія і я пайшоў бы і ноч на іх пераначаваў. А ёсць могілкі зачараваныя. На тыя крый божа сунуцца. Чалавек там без следу прападае.

— Давайце лепей у «свінню» гуляць,— прапанавала Верка.— А то нагаворыце страхоцця, ноччу не заснеш.

У размовах і забавах непрыкметна ляцеў час. Сонца ўзнялося высока, і ў паветры запахла сухой хвояй, папаратнікам і ўгрэтай зямлёй. Серафім неяк забыўся, з якой мэтай апынуўся ў лесе, і аж напалохаўся, калі Сцёпка, адвёўшы яго ад пастухоў, нагадаў пра ўмову.

— Сцёпачка, не будзем паліць карчы. Ну іх! — пачаў прасіцца ён.

Сцёпка па-бабску ўпёрся рукамі ў клубы, цвыркнуў слінай праз шчарбіну між зубоў.

— Здрэйфіў?.. Ну, дык я адзін пайду і спалю карчы, а на цябе звалю...

— Як зваліш? — не зразумеў Серафім.

— Скажу дзеду, што гэта ты спаліў іх, каб адпомсціць яму за плескача па лбе.

Серафім аж задыхнуўся ад роспачы і бяссілля. Нечуваная злосць ахапіла ўсю ягоную істоту. У вачах

раптам пацямнела, з крыкам «Гад печаны!» Серафім кінуўся на Сцёпку. Той спрытна перахапіў ягоныя рукі вышэй кісцей, паддаў каленам у пахвіну, аж у Серафіма выступілі слёзы.

— Ах ты, залупа гарадская, яшчэ з кулакамі кідаешся,— у Сцёпкі быў такі звярыны твар, што Серафім спалохаўся — заб'е. Але Сцёпка не стаў забіваць. Ён, як кляшчамі, сціснуў Серафімаву шыю ззаду, стаў прыгінаць уніз, пакуль Серафім не ўпаў на калені, а потым і тварам на зямлю. Пры гэтым Сцёпка шыпеў, як змей: — Будзеш кідацца? Будзеш?..

Не так ад болю, як ад нечаканасці і бездапаможнасці Серафім, не памятаючы сябе, прамармытаў:

— Не буду,— і адчуў жыватворчую свабоду...

— Тады пайшлі,— загадаў Сцёпка.— І не выпендрывайся.

Серафім плёўся следам за Сцёпкам, з нянавісцю гледзячы на ягоную нястрыжаную, чорную шыю, на мокрую між лапатак паркалёвую кашулю. У ягонай галаве мітусіліся дзікія жаданні: хай бы Сцёпка праваліўся ў багну, хай бы ён падохнуў.

Ён і не заўважыў, як дайшлі да шырокай, без адзінага дрэўца паляны, з пажоўклай, прытаптанай травой, скрозь перакапанай, з кастрамі карчоў на сушэйшых мясцінах. Сцёпка ўжо стаяў перад вялікім кастром добра складзеных смалістых карчоў.

— Дзедавы,— сказаў ён і загадаў: — Прынясі сушняку. Вунь яго колькі.

Серафім рабіў усё, як у тумане. Прыцягнуў сушняк, паклаў так, як паказаў Сцёпка. Узяў запалкі, якія той сунуў яму ў рукі.

— Сцёпка, можа, ты падпаліш? Я не змагу,— спрабаваў схітраваць Серафім, каб хоць гэтым не зарабіць грэху.

— Зможаш,— сказаў Сцёпка.

Дрыготкай рукой Серафім выкраснуў агонь, няўмела тыцкаў запалкай у сушняк. Ці не першы раз у жыцці горача звярнуўся да бога: «Божанька, памажы, не запалі агонь». Ды божанька, мабыць, даўно адступіўся ад яго: сушняк, на няшчасце, квола ўспыхнуў, непрыкметны лілова-сіні агеньчык пабег па сухіх галінках, абвугліў іх і раптам выбухнуў яркім полымем.

— Уцякай! — крыкнуў Сцёпка і пабег.

Серафім, баючыся застацца на балоце, з якога ён не ведаў дарогі, кінуўся за ім. Ён бег як апантаны. Бачыў перад сабой толькі Сцёпкаву спіну і нічога больш. Было нават дзіўна пасля, як ён не праваліўся ў багну, не паламаў ногі, пераскокваючы з купіны на купіну. Ачомаўся толькі тады, калі ўбачыў, што Сцёпка стаіць на сухадоле і смяецца: неяк паздадзейску ашчэрвае буйныя зубы, расцягвае і без таго шырокі рот, глядзіць на Серафіма варожымі сінімі вачамі.

— Цяпер ты ў мяне ў руках,— сказаў ён, калі Серафім спыніўся перад ім.— Захачу — з кашай з'ем, захачу — выплюну. Будзеш рабіць тое, што загадаю. Вякнеш — дзеду скажу, як ты ягоныя карчы спаліў, дык ён з цябе сем шкур здзярэ, а восьмую на палосы пакроіць.

Неверагодная, страшная здагадка працяла Серафіма: Сцёпка і не думаў сам паліць карчы, а яго падбіў, каб падначаліць сабе. Во дзе людская подласць у найпрасцейшай яе сутнасці!

Серафім ужо нямала зведаў за жыццё чалавечага вераломства і каварства, але з такім бессэнсоўным і жорсткім сустракаўся ўпершыню. Хіба ён, Серафім, па-добраму не служыў бы Сцёпку, як таварышу і брату? Навошта Сцёпку было прыбягаць да такой падэсці?

— Дык ты знарок казаў, што і сам спаліш касцёр? — дрыготкім голасам запытаўся ён.

Сцёпка гагатнуў.

— З такімі зялепухамі толькі так і робяць. Разумнейшы будзеш.

— Ну, тады во што,— рашуча сказаў Серафім,— я зараз пайду і дзеду прызнаюся, што паліў касцёр...

Сцёпка, здаецца, разгубіўся, але ненадоўга.

— Ідзі, ідзі,— падштурхнуў ён Серафіма ў плечы.— Мне цікава будзе паглядзець, як дзед пакроіць твой гарадскі зад лазою. Ён не табе, а мне паверыць, бо я ў сведкі вазьму каго-небудзь з мальцаў: Ваську або Андрэя. А яны давядуць дзеду, што не я, а яны паказалі табе дзедавы кастры карчоў і самі бачылі, як ты паліў іх. Але гэта не ўсё. Мы завядзём цябе ў лес, прывяжам каля мурашніку. Мурашкі цябе жывога абгрызуць.

Апошняя пагроза напалохала Серафіма да смерці.

Ад Сцёпкі можна чакаць любой подласці. Серафім аж здрыгануўся, уявіўшы, як вялізныя лупатыя мурашкі будуць абгрызаць ягоныя косці.

— Але ж гэта несумленна,— паспрабаваў Серафім паўздзейнічаць на Сцёпку.

Дзе там! Той і вухам не павёў. Можа, нават больш узлаваўся.

— Станавіся на карачкі,— загадаў ён.

— Навошта? — спалохаўся Серафім.

— Свянціць буду.

Серафім стаў на карачкі. Сцёпка абхапіў нагамі Серафімаву шыю. Серафім ніяк не мог зразумець, як Сцёпка будзе свянціць яго? Чакаў, што будзе балюча. Але болю не было. На галаву і за каўнер кашулі палілося нешта смярдзючае і цёплае. Гэта ўжо была ні з чым не параўнаная абраза. Серафім неяк выкаўзнуўся з-пад Сцёпкі, закрычаў апантана, немым голасам:

— Гад, гад, выблядак, паскуда!..

Не памятаючы сябе, ён кінуўся на Сцёпку з кулакамі, малаціў таго па чым папала з нечаканай для самога лютасцю. Разгублены Сцёпка нейкі час адбіваўся, але хутка і сам перайшоў у атаку. Ён паваліў Серафіма, сеў на ягоную спіну верхам, прыціснуў галаву да зямлі, стаў накручваць валасы на палец і скубці іх, быццам Серафім быў не чалавек, а нейкая жывёліна.

— Пусці, гад,— папрасіў Серафім, адчуваючы, што зараз можа загінуць.

На ягонае здзіўленне, Сцёпка адпусціў яго. Ён стаяў, раскірэчыўшы ногі, а з ягонага носа цурочкамі сцякала на падбародак кроў. Можа, гэта і паслужыла Серафіму ратункам. Серафім, аднак, спалохаўся крыві.

— Я не хацеў,— перапрасіў ён Сцёпку.

— Ладна, цяпер мы квіты. Але запомні: ты ў мяне во дзе,— Сцёпка паказаў кулак.— І не рыпайся — я мацнейшы. А хто мацней — у таго і сіла. Давай петушка,— працягнуў ён Серафіму пяцярню.

З гэтай хвіліны Серафімава жыццё ператварылася ў суцэльны кашмар, які з кожным днём станавіўся ўсё больш нясцерпны.

Зрэшты, залежнасць ад Сцёпкі, несумненна, балючая і абразлівая, не выклікала такіх жахлівых пакут

як пакуты ад уласнай сумленнасці за зробленае злачынства. За тыдзень Серафім звыкся са сваім падуладным становішчам: рабіў за Сцёпку, што належала рабіць таму, дагаджаў, рабалепстваваў аж з хваравітай стараннасцю, без прынукі аддаваў яму гасцінцы, якія прывозіў дзед з горада ад цёткі Дар'і. Але ён так і не змог перамагчы няёмкасць перад дзедам. Яму было сорамна глядзець дзеду ў вочы, і ён старанна адводзіў іх, баяўся, што па вачах той здагадаецца: карчы на балоце спаліў ён. Цяпер Серафіма палохаў не страх перад карай. Страх прытупіўся. У ягонай свядомасці пасялілася нешта страшнейшае за страх. Яно прыгнятала Серафіма, праследавала яго паўсюды і ў любы час. Збавення ад яго не было. Яму пачалі сніцца цяжкія, кашмарныя сны, ад якіх прачынаўся ў халодным поце. Часам ён крычаў у сне. Бабуля Кацярына будзіла яго, шаптала ў цемры малітву: «Да ўваскрэсне Бог, і растачацца вразі яго, яко тае воск ад ліца агню, тако да згінуць бесціі ад ліца Бога знаменуюшчага». І гэта яго неяк заспакайвала.

Яна параіла яму вывучыць незразумелую гэту малітву на памяць і чытаць яе кожны раз, калі падступяцца кашмары. Серафім сумленна запомніў малітву і чытаў яе перад сном і ноччу, калі прачынаўся ад кашмараў. Але малітва не памагала. Недараваная віна бязлітасна грызла ягонае сумленне. Аж не хацелася жыць, і ён аднойчы пазайздросціў Насцечцы Рагацікавай, якая спакойна ляжала ў труне з прасветленым тварыкам, а душа яе лунала ў паднябессі, не ведаючы зямных пакут.

Ягоныя пакуты ўзмацняліся яшчэ і дзедавай любоўю. Серафім ніколі не задумваўся над тым, што і любоў можа быць прычынай пакут. Цяпер ён пакутаваў сам. Дзед любіў яго той спакойнай, ураўнаважанай любоўю, якая знешне нічым не выяўляецца, але якую адчуваеш кожную хвіліну. І гэтае адчуванне вялікай любові толькі падкрэслівала ягоную бязмежную подласць.

Серафіму часта думалася, што яму было б куды лягчэй, каб дзед сварыўся на яго, крыўдзіў, нават біў. Часам яму хацелася ўтварыць нешта такое, за што дзед моцна пакараў бы яго. Але пасля зробленага злачынства ён не мог падумаць аб новым без балючых

дрыжыкаў. Дзедава любоў даводзіла яго да роспачы, але яна і ратавала яго.

Дзед усё часцей браў Серафіма з сабой у раз'езды. Ездзіў ён шмат. Вазіў да граеўскага каваля наразаць сярпы і мяняць рысору ў брычцы. Адвозіў на млын у латышскую вёску Кірзіку жыта. Пабываў з Серафімам на кірмашы ў Янавічах. Раз'езды пазбаўлялі Серафіма ад Сцёпкавых дамаганняў і здзекаў, але яны дадавалі пакут.

Божа, як хацелася Серафіму прытуліцца да дзедавых грудзей пад кужэльнай кашуляй, выплакацца прызнаннем сваёй віны! Ды нешта ўсё апыняла яго. Гарачая хваля пракочвалася па целе, ён сціскаўся і тупеў ад уласнай слабасці і нерашучасці.

— Кацярына, чаму гэта Сімка чахне? — неяк пачуў Серафім размову паміж дзедам і бабай.— Ці не захварэў, крый божа. Ты б яму маселка збіла. Ён у горадзе да маселка прывык, а ты яго бульбай морыш. Гарадскія без маселка не снедаюць.

— Нудзіцца ён,— адказала баба Кацярына.— А масла можна збіць. Каровы, дзякуй богу, прыбавілі малака. Заўтра і саб'ю.

— Толькі ты рабі так, каб астатняя плойма не бачыла. На ўсіх масла не набярэшся, а я ўвосень хачу малатарню купіць і веялку. Цапамі, сама знаеш, не намалоцішся.

— Знама, купляць нада,— пагадзілася баба Кацярына. Яна заўсёды пагаджалася з дзедам.— А во як зрабіць, каб астатняя плойма не бачыла, дык не ведаю. Ён жа з гэтым рыштантам Сцёпкам ходзіць, як спрэжаны.

— А ты падумай. Усё табе раскажы, як ды што рабіць.

— Падумаю...

Калі Серафім застаўся адзін, баба Кацярына павяла яго ў свіран. Дастала з паліцы лусту хлеба, гаршэчак з маслам, намазала яго на хлеб, падала Серафіму:

— Еш, зусім зачахнуў...

— Я не хачу. Мяне ад масла нудзіць,— схлусіў Серафім.

— А я толькі старалася,— засмуцілася бабуля.

— Я пазней з'ем,— пашкадаваў яе Серафім.

— Толькі рыштантам гэтым не паказвай,— папрасіла бабуля.

Серафім махануў з лустай хлеба на балота. Падаў Сцёпку. Той здзівіўся:

— Дзе ўзяў?..

— Бабуля дала...

— Дзве?

— Чаго дзве?

— Лусты хлеба з маслам.

— Адну.

— Брэшаш! Каб адну, сам злопаў бы, а мне дулю.

— Каб мне здохнуць, калі хлушу.

— А ты, выходзіць, малец што нада,— сказаў Сцёпка і за чатыры ўкусы з'еў хлеб з маслам.— Я табе за гэта паслабленне зраблю,— паабяцаў ён.

Серафім так і не паспытаў ягонага паслаблення, бо пачаўся сенакос і дзед забараніў яму ганяць жывёлу на пашу разам са Сцёпкам.

— Ні тады, ні пазней, ужо ў дарослыя гады, Серафім не мог зразумець, чым захапіў, уразіў ягонае ўяўленне сенакос.

— Заўтра едзем касіць,— сказаў за вячэрай дзед.

Ніхто не звярнуў на ягоныя словы асаблівай увагі. Спаць клаліся, як і заўсёды, адразу пасля вячэры. Серафім лёг з пакутлівым напамінкам Сцёпкі, што заўтра яму належыць аднаму пасвіць кароў, а Сцёпка пойдзе з астатнімі пастухамі лавіць печкуроў. Серафім не цярпеў адзіноты ў лесе. Сцёпка, як знарок, асуджаў яго не толькі на адзіноту, але і на адказнасць за вялізны статак кароў і авечак. Ён баяўся, што не ўпільнуе жывёлу і тая ўцячэ дамоў. Тады яму не мінуць ліха.

Раніцай Серафім прачнуўся ад гулкага перазвону. Як згаварыўшыся, мужчыны ў кожным двары кляпалі косы. За вёскай слаўся рэдзенькі туман. Дзверы ў хлеў былі расчынены насцеж. Пад паветкай, перад дубовай калодай, пастаўленай стаяком, сядзеў дзед, адбіваў касу на жалезнай бабцы.

Серафім жахнуўся: праспаў, і Сцёпка не даруе. Чаму не пабудзіў? Мусіць, знарок, каб удосталь наздзекавацца, паказаць астатнім пастухам сваю ўладу над гарадскім хлапчуком. Серафім адчуваў, што яго не любяць. І не таму, што ён робіць камусьці зло, а таму, што чужы, што ведае больш за іх і прос-

та з неабходнасці на кімсьці спаганяць свае нягоды.

Не перастаючы кляпаць касу, дзед глянуў на Серафіма з-пад густой навісі броваў, сказаў:

— Мыйся, ды паедзем на паплавы...

— А кароў пасці?..

— Адзін справіцца,— сказаў дзед.

Выезд на сенакос запомніўся Серафіму на ўсё жыццё. Ён стаў камертонам ягоных першых, ды і пазнейшых, твораў лірычнага напрамку, як назавуць пасля крытыкі ягоную партатыўную прозу. Апісаная Серафімам Недасейкам тая раніца не можа быць узноўлена з такім майстэрствам, як гэта зрабіў сам ідавочца Серафім Іванавіч.

Серафім у тую раніцу ўпершыню адкрываў для сябе новы, нязнаны свет дасканалай прыгажосці і суладнасці. Усё было незвычайна і зварушліва, усё ўражвала, здзіўляла, напаўняла сэрца новым зместам. Адкрытая прыгажосць выцясняла з душы прывычную, знаёмую будзённасць горада з яго грукатлівым, неспакойным жыццём, з яго стуленымі, збітымі ў палахлівы гурт дамамі і дварамі, з яго пыльным паветрам і брудам на вуліцах і дварах. Не, горад па-ранейшаму заставаўся мілым прыстанішчам і дзіўным успамінам, які ўвайшоў у яго з першага дня нараджэння. Горад быў відзён яму з акна дзедавай хаты: за частаколам лесу — купалы цэркваў, асабліва Успенскага сабора, новабудоўля з зіхатлівымі вокнамі, асветленымі ўначы. Але ўсё гэта ўжо было недасягнальна. Яно памерла, як памерла Насцечка Рагацікава. Тутэшняя прыгажосць вызначалася найперш чысцінёй і празрыстасцю, гэткім вечна незахмураным небам над галавой.

Найперш яго захапіла дарога, для каго, можа, і звычайная сельская — дзве каляіны сярод мурожнай травы, пакрытай пылам,— а для яго такая мілая і неразгаданая. Яна бегла па грэбені ўзвышша, апаясваючы яго то з аднаго, то з другога боку. Злева ад яе свяціўся ў промнях сонца Завідны бор — магутныя сосны з зялёнымі парасонамі над залацістымі ствaламі. Перад ім цякла нейкая маленечкая рачулка, якая не мела нават назвы — рэчка, і ўсё. Бор не переступаў рэчкі. Ён апыняўся на яе дужа стромкім беразе і з вышыні свайго росту ганарліва глядзеў на маладзенькі беразняк, што падымаўся па гэты бок

ракі. Бярозкі былі выносістыя, з гладкімі, без сукоў, ствaламі, пакрытымі белай бяростай, ад якой пярэсціла ў вачах.

Бор упіраўся ў гару, парослую ляшчынамі, а на яе макушцы красаваўся магутны дуб, добра апалены перунамі. Гара скочвалася ў нізіну — тупаносы клін, што ўтваралі дзве ракі, зліваючыся ў неразлучных абдымках. Нізіна пярэсціла ад кветак.

Але, можа, найбольш прыгожа выглядала дарога, калі апускалася ў нізіну ракі, што выкручвалася па поплаве з такой вынаходлівасцю, з такім майстэрствам, як тая артыстка, якую аднойчы Серафім бачыў у цырку. Дарога не проста збягала да ракі, а паволі апускалася ўздоўж берага, каб выбегчы да дзіўнага мастка з яловых плах і з адной балясінай.

За ракой дарога бегла ўскрай грады лесу да грэблі. Тут, на паляне каля лесу, стаяў ужо з тузін калёсаў з узнятымі ўгору аглоблямі. Коней адводзілі на востраў — грудок зямлі між рэчкай і старыцай. Звязвалі ім ногі путамі і пакідалі пасвіцца.

Серафім быў удзячны дзеду, што ўзяў яго з сабой, хоць і не мог зразумець, а навошта узяў? Ды яго гэта цяпер мала турбавала. Ён радаваўся, што далучаны да нечага важнага, і ўсёй душой адчуваў гэтую сваю далучанасць да чагосьці нязведанага, а можа, нават да свята, якое цяпер будзе цягнуцца бясконца.

Усё было незнаёмае, незвычайнае. Абодва дзядзькі: нежанаты Хведар і жанаты, з куртаценькай бародкай Раман дасталі з калёсаў косы, брускі на шнурках, закінулі косы на плечы, пайшлі за дзедам след у след. І Серафім стараўся ступаць у іхнія сляды, выразна бачныя на роснай траве.

— Ты, бацька, пойдзеш першы? — спытаўся Хведар.

— Я сваё адхадзіў. Хай Раман ідзе, а ты за ім. Я даганяць буду.

— Ад цябе не ўцячэш,— сказаў Раман.

Серафім слухаў іхнія перамовы, і яны таксама кранaлі яго, хоць нічога таямнічага ў іх не было.

Добра адмянціўшы косы, усе трое сталі ў нейкай урачыстай паставе. Быццам чакалі якогасьці загаду зверху.

— Памажы, божа,— перахрысціўся Раман.

— З богам,— адказаў дзед.

І адразу заўжыкалі ў тры галасы косы. Раман ішоў лёгка, як бы гуляў касой. Хведар крыху прысядаў, запускаючы касу ў густую росную траву. Але, як здалося Серафіму, прыгажэй за іх касіў дзед. Ён не гуляў касой, каб паказаць свой спрыт і ўмельства, не прысядаў, каб усе бачылі, што касьба — справа нялёгкая, ён рабіў працу ўсмак, з разуменнем яе карыснасці. Таму кожны ягоны рух быў дасканалы і прыгожы.

Прайшоўшы два пракосы, дзед паказаў Серафіму, як трэба разбіваць іх, каб трава была раскідана роўна і сонца сушыла яе з аднолькавай сілай. У дзедавых руках Серафімавы грабелькі хадзілі гуляючы, раўнамерна растрасаючы пракосы. А ў ягоных граблі капрызнічалі, грабільня застравала ў пракосе, а калі вырывалася з яго, то раскідала траву абы-як.

— Нічога, налаўчышся,— пахваліў дзед, і сапраўды неўзабаве Серафім ужо раскідваў траву анічуць не горш дзеда.

Памагалі Серафіму і старэйшыя. Калі яны вярталіся назад, дык, гуляючы, разбівалі пракосы касаўём.

Пазней паявіліся дзеці Рамана: Піліпок і Фруза. Прынеслі ручэшкі — два спараныя гаршчочкі — з ячнай кашай і камамі — тоўчанай бульбай. Дзед дастаў з кайстры хлеб, сала, накроіў і тое і другое тоўстымі лустамі, паклаў справа ад сябе кепку, размашыста перахрысціўся:

— Госпадзі-божа наш, благадару ця, яко паслаў нам усякія блага, і спасі нас ад праграшэнняў вольных і нявольных, амінь,— яшчэ раз перахрысціўшыся, дзед сказаў: — З богам,— і запусціў лыжку ў гаршчочак з бульбай.

Серафім, здаецца, ніколі не еў такой смачнай бульбы, запраўленай здорам з смажанай цыбуляй. Яго цікавіла таксама дзедава малітва, якая, па яго меркаванні, была прыдумана самім дзедам. Кожны раз, калі Серафім слухаў дзедавы малітвы не па малітоўніку, а па памяці, яго не пакідала вось гэтае адчуванне, што дзед сачыняе малітвы, як Пушкін сачыняў вершы. Ён дзівіўся, што дзед вымаўляе некаторыя словы з асаблівай насалодай і шчырасцю. Як бы радуецца, што прыдумаў іх.

— Дзед, а што такое: благадару ця? — спытаўся ён, калі сняданне было закончана.

— Ха, не знаеш. Цялё, во што,— спахопліва адказаў Піліпок і тут жа атрымаў пстрычку.

— Добра, што цікаўны,— пахваліў дзед Серафіма.— Ця, унучак, гэта бог ісцінны. Яко ўсіх багоў правышай. Сатварыўшы і ўразумеўшы нас.

— Бог ісцінны — Саваоф,— сказаў Серафім, прыгадваючы лекцыю на антырэлігійную тэму ў школе.— А ён паходзіць ад яшчэ больш старажытных багоў.

Дзед быў здзіўлены пазнаннямі Серафіма і запаважаў яго.

— Усё на свеце пасціжыма чалавечаму розуму. Каб толькі розум не быў скіраваны чалавеку на шкоду,— зазначыў дзед і загадаў брацца за косы.

Упоўдзень касьбу спынілі. Варушылі падвялае ўжо сена. Ад яго пахла, як ад моцна заваранага чаю. Здавалася, духмянасцю сена прапахла ўся вопратка.

Гружаны сенам воз выглядаў веліканам. Дзед падхапіў Серафіма, уссадзіў на воз. З яго адкрылася такая панарама, якая не снілася Серафіму. Рака капрызліва скакала па поплаве ў нейкім адмысловым танцы. На адным з паваротаў яна падтачыла бераг, які жаўцеў на сонцы залатым пяском. Над кручай стаяла чорная лазенька. Адзін яе вугал ужо вісеў над безданню. Крыху далей стаяла хата з гарадской зашклёнай верандай. На верандзе стаяла дзяўчынка ў белым плацці, і Серафіму захацелася пабываць там, пазнаёміцца з гэтай, напэўна ж, прыгожай і добрай дзяўчынкай. У думках ён назваў яе феяй.

— А то, унучак, засценак Пунькі,— растлумачыў дзед.— Шляхецкі засценак.

Серафім амаль нічога не зразумеў з тлумачэння дзеда, але вобраз дзяўчынкі ў белым плацці паланіў яго, застаўся жыць з ім да скону дзён.

У свеце наогул шмат нечаканых дзіваў. У шэсцьдзесят восьмым годзе ў Берліне, непадалёк ад Брандэнбургскіх варот, яго паклікала незнаёмая жанчына.

— Даруйце,— папрасіла яна прабачэння,— мне сказалі, што вы з Беларусі.

— Вас правільна праінфармавалі,— суха адказаў ён. (Баяўся нейкай правакацыі. Быў самы пік чэхаславацкіх падзей.) — Слухаю вас...

— Бачыце, я сама з Беларусі, з-пад Віцебска. Цяпер жыву ў Бельгіі.

Серафім Іванавіч пачуў, як пад кашулю забраўся зябкі халадок недаверу. Што ёй трэба, гэтай дзіўнай жанчыне? І ці праўда, што яна з-пад Віцебска? Можа, падаслалі, каб учыніць якую гадасць? Сыграць хочуць на зямляцкіх прыхільнасцях.

— І адкуль вы з-пад Віцебска, калі не сакрэт? — спытаўся ён.

— Была там некалі такая цудоўная вёсачка Пунькі. Шляхецкі засценак. Наша хата на самым беразе Віцьбы стаяла. А лазню, дык не памятаю ўжо ў якім годзе, у часе вясновага разводдзя вадой знесла.

З далёкай далечыні на Серафіма Іванавіча дыхнула памятным сенакосам. Адразу ўзнік вобраз дзяўчынкі ў белым плацці, такі яркі і свежы, быццам усё было ўчора.

— А вы адны былі ў бацькоў? — спытаўся ён, спадзеючыся, што яна скажа зараз: адна, і тады ён праз вечнасць звяжа той вобраз, што насіў з сабой, з гэтай немаладой вабнай жанчынай.

— Не, нас было трое сясцёр,— адказала яна.

Серафіму Іванавічу аж стала горка: той вобраз заставаўся сам па сабе, а гэтая жанчына жыла, існавала сама па сабе.

— Але чаму вы апынуліся ў Бельгіі? — пацікавіўся ён, раптам забыўшыся на ўсе свае страхі трапіць на правакацыю.

— Банальная гісторыя. Увосень трыццаць другога нас раскулачылі, выслалі ў Сібір. Мы неяк выжылі. Я нават скончыла медтэхнікум. У сорак першым па мабілізацыі трапіла на фронт. Удзельнічала ў абароне Севастопаля. Наша часць была адрэзана ад мора і не магла эвакуіравацца. Вось так і трапіла ў палон. Кідаць параненых маракоў на волю лёсу не магла. Нас доўга трымалі пад Еўпаторыяй у стэпе. Потым, хто застаўся жывы, вывезлі ў Германію. Чакала перамогі, як галодны кавалка хлеба. Яна застала мяне ў амерыканскай зоне. Я да таго часу была ўжо вучаная. Ведала, хто папаў у зоны саюзнікаў, трапляюць у Сібір. Сібіры баялася. Хапіла той, што запомніла з дзяцінства. Надарыўся чалавек, бельгіец, дарэчы, антыфашыст. Выйшла замуж. Дачцэ дваццаць адзін год, замужам. Сыну — шаснаццаць. Вучыцца. Прыехала ў Берлін, а тут кажуць, рускія

турысты з Беларусі. Не стрымалася. Думаю, можа, каго ўбачу з Віцебска.

— Вам пашанцавала,— сказаў Серафім Іванавіч.— Я не толькі з-пад Віцебска, але з Бабініч і добра памятаю вашу вёску.

І ён расказаў пра сенакос, дзеда, дзяўчынку ў белай сукенцы.

Сенакос праляцеў белым голубам. Увечары Сцёпка сказаў Серафіму:

— Пойдзем начаваць у пуню.

Серафім зразумеў, што заўтра ўсё пачнецца спачатку, і ў яго балюча заныла сэрца.

## 4

У пастухоўскай кампаніі паявіўся Зенька Агрызак. Зенька нагадваў Серафіму задунаўскую блатву. Таму Серафім з першага позірку ўзненавідзеў Зеньку, а Зенька адпаведна Серафіма.

Горш за ўсё было тое, што Зенька падпарадкаваў сабе Сцёпку, які стараўся ва ўсім пераймаць Зенькавы выхадкі. А ўсё гэта ўрэшце адбівалася на Серафімавай долі.

Пачалося з таго, што Зенька прынёс у поле паўпачка махоркі. Ён па-важнецку згарнуў самакрутку, прыкурыў ад галавешкі. Курыў ён па-сапраўднаму, нават умеў выпускаць дым праз нос. Калі ўсе накурыліся да пазелянення, Зеньку раптам прыйшла ідэя наладзіць пір на ўвесь мір. Для гэтага патрэбны былі сала і яйкі.

Трое хлапчукоў адразу згадзіліся прынесці яйкі з дому. Але сала ні ў кога ў доме ўжо не было. Вось тут Сцёпка і ўтравіў Серафіма.

— Сала за Серафімам,— распарадзіўся ён.

— А дзе я яго вазьму? — здзівіўся Серафім.

Сцёпка ведаў усё: і ў якім кублe сала, і дзе схаваны ключ ад свірна, і колькі трэба прынесці сала, каб хапіла на ўсю іхнюю плойму.

— Ну, бяжы, адна нага тут, другая — там.

Ягоны гэты кагэтарычны загад выклікаў у Серафіма неадольны пратэст.

— Красці не буду,— заявіў ён з рашучасцю, якой спалохаўся і сам.

— А ты не крадзі — вазьмі, каб ніхто не бачыў,— параіў Зенька, вельмі задаволены сваёй вынаходлівасцю.

— Усё роўна не буду,— стаяў на сваім Серафім.

— Во, мазурык,— сказаў Зенька і, па-кашэчаму лёгка падхапіўшыся з зямлі, пайшоў да Серафіма.— Паўтары, што ты сказаў?..

Серафім маўчаў. Зенька падышоў упрытык, нечакана ткнуў Серафіма пад лыжачку, і той асеў, хаўкаючы ротам. Абодва ягоныя мучыцелі стаялі над ім, няйначай чакаючы, калі ён ачомаецца, каб прадаўжаць здзекі.

— Можаце забіваць, гады, сволачы, выблядкі,— закрыўшы галаву рукамі, Серафім лёг тварам уніз, падкурчыў ногі.

— Ну, ты, не прыкідвайся дурнем. Ніхто цябе забіваць не стане. Дужа трэба пэцкаць рукі,— сказаў Зенька і перавярнуў Серафіма на спіну.— Сцёпка, трымай яго.

Сцёпка вельмі лоўка распяў ягоныя рукі, прыціснуў да зямлі каленямі. Зенька тым часам сцягнуў Серафімавы штаны.

Так ужо было ў Елагах, калі шпана прывяла яго ў цагельню. Няўжо жыццё складаецца з паўтарэнняў? Але ж у іх няма ножыка, каб пазбавіць яго мужчынскіх прыкмет. Мокрыя агідныя пальцы схапілі далікатны адростак, пачалі цягнуць з усяе сілы. Серафім віскліва закрычаў.

— Пойдзеш? — спытаўся Зенька, не перастаючы рабіць брыдкую справу.

Не хапала, каб з яго здзекаваліся ў другі раз. Хай яны падавяцца, падушацца тым салам.

— Чорт з вамі, шпана няшчасная! — крыкнуў ён.— Пусціце.

За грэбляй Серафім даў волю слязам. Ён забраўся ў жыта і плакаў, пакуль не пачуў палёгку.

«Прынясу ім сала і ўцяку ў горад,— вырашыў ён.— Марк хоць строгі, ды справядлівы».

Рашэнне было цвёрдае, як крэмень, з якога выкрасаюць агонь. Праўда, было шкада дзеда. З дзедам ён сышоўся, як некалі з Маркам. Але дзед яму не абронца. Спаленыя карчы ляглі паміж імі непераадольнай перашкодай.

Дабрыня, як і злосць, калі залазіць у сэрца, дык грунтоўна.

Серафім паназіраў за хатай з-пад куста парэчак. Гронкі зялёных ягад віселі перад самым тварам. Серафім спадзяваўся паесці парэчак удосталь. Але цяпер яму было не да іх. Ён у апошні раз зойдзе ў сенцы, дзе схаваны ключ ад свірна, затым у свірне адрэжа кавалак сала, занясе ненавісным Сцёпку і Зеньку, а сам наўпрасткі цераз балота махне ў горад. Дарога не сказаць каб прамая, але другой, здаецца, няма. Дойдзе.

Па яго назіраннях выходзіла, што ў хаце нікога няма. Серафім куляй заскочыў у сенцы, падставіў услон да шафкі, дзе павінен вісець ключ, адчыніў дзверцы — ключа на цвічку не было.

Серафім нават узрадаваўся: уважлівая прычына, каб растлумачыць, чаму ён вярнуўся ў лес без сала. Але прыдатнай яна здалася толькі напачатку. На самай справе, хто яму паверыць? І ужо тады яго закатуюць на смерць. Паміраць Серафім не меў ніякага жадання, калі можна ўратавацца ў Марка. Мільганула была думка пайсці ў горад цяпер. Але сумленнасць не дазваляла зрабіць гэта. Ён не мог здрадзіць слову, якое даў, няхай сабе шпане. Так вучыла яго мама, так ён і хацеў, спадзяваўся рабіць усё жыццё.

«А што, калі папрасіць бабулю Кацярыну? Няўжо яна пашкадуе кавалак сала?» — раптам азарыла яго геніяльная і вельмі простая думка.

Ва ўсякім разе, яму трэба было пагаварыць з бабуляй. Ён зазірнуў на адну палову хаты, на другую, дзе жыў Раман. Там у зыбцы, падвешанай да столі, спаў малы Алежак, які нарадзіўся зусім нядаўна. Са старэйшых нікога не было. Дзе ж яны падзяваліся?

Серафім падумаў, што бабуля няйначай на двары, можа, корміць свіней. Ён адчыніў дзверы, што вялі на двор. У вочы кінулася, што свіран адчынены. Адтуль далятаў сварлівы дзедаў голас і чыесьці апраўданні праз слёзы.

— Лажыся, сучка,— сярдзіта крыкнуў дзед, аж Серафіму стала страшна.

— Татачка, мамачка, больш не буду,— Варчыным голасам залямантавала жанчына.

— Каму сказаў, лажыся,— яшчэ больш сярдзіта закрычаў дзед.

Настала зацішша. Серафім з прагнай цікавасцю ўслухоўваўся ў цішыню.

— Максім, можа, не нада,— перапыніў цішыню бабчын голас.

— А я кажу прывязвай яе, сучку гуляшчую,— зноў сярдзіта крыкнуў дзед.

— Татачка, мамачка... Ай-яй-яй-а-а-а! — нема залямантавала Варка.— Ратуйце, людцы, ратуйце!..

— Я з цябе выб'ю дурасць,— у сваю чаргу крычаў дзед.— Мала табе аднаго байструка, дык зноў засвярбела.

Серафім чуў, як нешта шмякае па мяккім, як крычыць Варка, і да яго даходзіў жудасны сэнс таго, што адбываецца ў свірне: цётку Варку б'юць дзед з бабаю. Ёй балюча, і яна крычыць. Серафім не мог не кінуцца на дапамогу. Ён, як апантаны, уляцеў у свіран, аслеп у змроку, але паспеў убачыць белы шырокі зад на лаўцы і дзеда, які з-за вуха хлястаў вяроўкай гэты белы зад. Серафім кінуўся да дзеда з кулакамі і дзікім лямантам:

— Ненавіджу. Усіх ненавіджу. Я спаліў карчы. І хату спалю. Гады, гады!

— Кацярына, забяры гэтае гадзяня,— апошняе, што пачуў Серафім, быў голас дзеда.

Што было потым, Серафім не памятаў. Ачнуўся ён на ложку ў дзедавай хаце. На сцяне адзінока цікалі ходзікі. На падлозе ляжалі карункавыя цені ад яблыні, што расла пад акном. Яны варушыліся, як жывыя. Больш ніякіх адзнак жыцця ў хаце не было.

Серафім спусціў ногі з ложка. На ім былі чужыя споднікі і чужая кашуля. Ногі адчулі цеплыню падлогі, і Серафім невыказна ўзрадаваўся гэтаму. Але калі ён паспрабаваў стаць на іх, яны закалаціліся і не хацелі трымаць нейкае як не ягонае кволае цела. Перамогшы страх, Серафім зрабіў два крокі, трымаючыся за высокае ўзгалоўе ложка. Адарваўся ад яго, пайшоў да дзвярэй.

У сенцах ціўкалі кураняты. Яны сыпануліся яму пад ногі, відаць, чакалі, што ён прынёс ім корм. Распасцёршы крылы і квокчучы, кінулася да яго і квактуха.

Серафім выйшаў на ганак. З агарода на яго

павеяла гарачым сухім паветрам. Ён дыхнуў на ўсе грудзі. Ад пуні спяшалася бабуля Кацярына.

— Авой, Сімка, гляньце, Сімка ўстаў,— бабуля падбегла, абняла яго за плечы, пасадзіла на ганак побач з сабою.— А я во толькі печ выпаліла. Жней на сняданне чакаю, а дзед вазок сена прывёз з балота. Растрэсці нада было. Глянь, вунь і дзед ідзе. Дужа ён з-за цябе пераЖЫЎ. Ну, ды дзякуй богу, выладнеў. Максім, глянь, Сімка сам устаў. Гляджу ад пуні, а ён на ганку стаіць.

— Што ж ты, сукін сын, напалохаў нас,— сказаў дзед і сеў побач.— Збіраўся табе пяцінскую ярмарку паказаць, а ты, калі што якое, занядужаў. Пяцінскі кірмаш, я табе скажу, калі што якое, не раўня янавіцкаму. Ну, ды з'ездзім на тое лета. І пад Пяцінку, і ў Веляшковічы. Ты толькі папраўляйся. Еш паболей. Сняданне гатова? — спытаўся ўжо ў бабулі.

Усе ў хаце глядзелі на яго з нейкім адчайным спачуваннем, як і тады, калі ён хварэў пасля елагаўскай падзеі, калі яго ледзь не задушылі. Але тут не хавалі ад яго сапраўдную прычыну хваробы.

Магчыма, і не ў той вечар, дзед сеў на ягоны ложак, пагладзіў па галаве.

— Дужа ты, Сімка, уражлівы на справядлівасць,— раздумліва сказаў ён.— Цяжка табе будзе. Не дай бог яшчэ мы памром — загінеш ад гэтай справядлівасці. Справядлівым людзям заўсёды цяжэй, чым тым, хто жыве без бога ў сэрцы. А карчы — ліха з імі. Толькі не слухай зладзейскіх падбухторванняў. Сцёпка дабром не кончыць. Шкада яго — бязбацькавіч. Усіх вас, дурняў, шкада. Сэрца крывёй абліваецца. А Сцёпка па бацьку пайшоў. Вядомая парода. Помслівая. Зайздросная. А зайздрасць і помста—найгоршыя ворагі чалавеку. Беражыся іх. Я не помслівы. І нікому не зайздрошчу. Што маё — маё. Хто жыве лепей — радуюся і вучуся, як трэба жыць. Ну, спі, набірайся сіл.

Яшчэ раз пагладзіўшы Серафіма па галаве, дзед пайшоў. Серафім адчуў у душы ачышчэнне ад брыдоты, што аблытвала яе. Яму стала лёгка, і ён заснуў моцна і спакойна, без сноў.

Пазней на двары Серафім сустрэўся са Сцёпкам. Яны, вядома, бачыліся кожны дзень, бо снедалі,

абедалі і вячэралі разам. Але Сцёпка чамусьці кожны раз уцякаў ад яго. Цяпер уцячы не было як.

— Навошта ты дзеду сказаў, што я падвучыў цябе паліць кастры? — спытаўся ён.

— Бо гэта праўда,— адказаў Серафім, анічуць не баючыся Сцёпкі.

— А знаеш, як мне папала? — спытаў Сцёпка.

— Не горш, чым мне ад цябе і Зенькі,— сказаў Серафім.

— Ну, ладна, давай на роўных дружыць,— прапанаваў Сцёпка.— Калі хочаш знаць, дык я выпрабоўваў цябе, каб узяць у сваю кампанію. Мы маглі б усіх мальцаў трымаць у страху.

— Навошта?

Сцёпка здзівіўся.

— Як навошта? Каб баяліся. Калі цябе баяцца, лепей, чым тады, калі баішся сам.

— Чаму лепей?

— Ну, і дурны ты,— выпаліў Сцёпка і пайшоў, кінуўшы напаследак: — Свяценькі дужа.

Аднаго разу, вярнуўшыся з горада, Варка сунула ў Серафімаву руку пернік. Пахваліла:

— Ласкавенькі ты, Сімачка, і спагадлівы, не тое што наша дзеравеншчына. У нашых ніякай сазнацельнасці, адна бязлітасная грубасць,— і з незразумелай Серафіму нечаканасцю зрабіла зусім супрацьлеглую выснову: — Прападзеш ты з такім характарам. Дзеўкі на ласкавенькіх ліпнуць, як мухі на мёд. Толькі муха гіне ад сваёй прагнасці, а бабы такіх мяккацелых, як ты, губяць. Шкада цябе. Сімачка.

Расчулены яе шкадаваннем, Серафім адважыўся спытаць тое, пра што здагадваўся. Яму хацелася ведаць, што ў такіх выпадках гавораць самі людзі.

— За што цябе дзед караў?..

— За любоў, Сімачка, за любоў,— прызнавалася Варка, здзівіўшы Серафіма шчырасцю.— Вырасцеш, зразумееш, што яна такое разняшчасная любоў. Палюбіць бедная дзяўчына мальца ды і загубіць сябе на векі вечныя.

— Чалавеку без любві не пражыць. Усе песні пра любоў,— важна сказаў Серафім, насмяшыўшы Варку.

— Ты во разумееш,— насмяяўшыся, пахваліла яна Серафіма.— Бо ты гарадскі і цілігентны. У цілі-

гентных і абыходжанне далікатнае. А мы цёмныя, непісьменныя. Усё бачу, а сказаць не магу. Настаўнік наш, што летась прыехаў, бывала, пакліча і ўсё гаворыць, гаворыць, а я маўчу ды маўчу. Словы з нутра рвуцца і застраюць у грудзях. Разумею, што ён пра мяне думае, а маўчу. Аж млосна. А што яму рабіць, калі я маўчу? Не гаварыць жа аднаму. А ў любві слоў не трэба. Такая яна любоў аднамінутная. А каб я гаварыць умела... Мы з ім усё жыццё гаварылі б, ды так прыгожа, аж і сказаць нельга. Ты не думай, у мяне ёсць пра што сказаць.

— Я не думаю,— шкадуючы цётку і адчуваючы сваю перавагу над ёю, сказаў Серафім.— Я і сам не ўсё магу выказаць, што думаю.

— Бачыш, а ты ж вучоны, у школу ходзіш, вучышся добра,— і раптам яна крута памяняла гаворку: — Сімачка, што я цябе папрашу: ты ўжо Сцёпку не адштурхоўвай. Ён шкодны, ведаю. Але і яго варта пашкадаваць. Радзіўся ён кволенькі. Хварэў пасля. А дзеці з яго пасміхаліся, крыўдзілі. Абазліўся ён моцна. Злюцеў. Але ён добры. Яму б ласку мужчынскую. Ты ўжо яго не кідай. Прападзе ён.

— Добра,— не хочучы таго, пагадзіўся Серафім.

Дзядзька Раман ніяк не адгукнуўся на Серафімаву хваробу. Быццам так і трэба. Ды яму і не было калі гаварыць з Серафімам. Раман уражваў яго сваёй цягавітасцю. Ніколі ніхто не бачыў, каб Раман сядзеў без працы. Ён раней усіх уставаў, пазней за ўсіх клаўся. Нават дзед гаварыў пра яго:

— А гэты пякельнік, калі што якое, усё яшчэ робіць?..

Пякельнікамі дзед зваў лішне прагных да працы людзей. Што праўда, ён і сам быў пякельнікам.

Да ўсяго Раман вызначаўся маўклівасцю, незласлівасцю; з усімі згаджаўся, хоць, Серафім заўважыў, рабіў усё па-свойму. Да пары яму была і жонка Васіліса, такая ж маўклівая, памяркоўная, дагодлівая. Пазней, калі Серафім успамінаў пра яе, Васіліса ўяўлялася яму з вечна пукатым жыватом. Раджала яна штогод. Цераз аднаго, а то і па двое запар, паміралі. На той час у Васілісы з Раманам дзяцей было чацвёра.

І Раман і Васіліса адносіліся да Серафіма, як да роднага сына. Васіліса мыла ягоную бялізну і верх-

нюю адзежыну, а калі ён прыбягаў на іхнюю палавіну, частавала чым-небудзь смачным.

Адзін Хведар паставіўся да Серафімавага ўчынку з неадабрэннем. І не хаваў гэтага. Наадварот, падкрэсліваў. Везучы з поля ў ток жытнія снапы, Хведар спытаў у Серафіма:

— Ты навошта Сцёпку прыплёў, быццам ён, а не ты карчы паліў? Нарабіў бяды — сам і адказвай.

Яны абодва сядзелі на возе. Конь памалу цягнуў, і Хведар яго не падганяў.

— Але ж ён мяне падбухторыў,— пачаў апраўдвацца Серафім.

Хведар чмыхнуў. Серафім зразумеў, што ягонае апраўданне не прынята пад увагу.

— А ты што, дурань? — спытаўся Хведар.— Ці мала цябе на што стануць падбухторваць. Скажуць: зарэж дзеда. Зарэжаш?.. А кажаш: падбухторваў.

— Дужа ты разумны. Ён не проста падбухторваў, а здзекаваўся з мяне, а потым абдурыў. Сказаў, спалім па адным кастры, а калі я падпаліў, ён свой не стаў паліць.

— Правільна зрабіў. З дурнямі так і нада. А ты чаму не абараняўся? Чаму сілу не паказаў? Смеласць? Даў сябе затуркаць ды яшчэ апраўдваешся. Чаму мне ці дзеду не паскардзіўся?

— Не ведаю,— прызнаўся Серафім.

— А я ведаю,— сказаў Хведар.— У вас у горадзе кожны сам сабе пан. Яму павага. Яго баяцца. І паскардзіцца некаму, бо сваякоў адцураліся, а суседзяў толкам не ведаюць. Пан — пад печ загнан. Сядзіць там і вытыркнуцца баіцца, толькі цяўкае ды за лытку кусае, калі хто побач пройдзе. Смелыя баязліўцы. Як жа — адменныя, незалежныя. А чалавек грамадой моцны. Запомні, без грамады няма чалавека. Калі ён сам па сабе, дык хоць ён адменны, незалежны, але адзінокі і безабаронны. У нас такіх штукароў не любяць. Яны — гніль.

Хведаравы разважанні ўспрымаліся Серафімам як абраза яму і ўсім гарадскім людзям. Прыгадаўшы што-кольвечы з выказванняў Марка пра вёску, Серафім запярэчыў:

— А вось і няпраўда. Гэта ў горадзе грамадой жывуць, калектыўна. Пралетарыят моцны, бо згуртаваны, а вёска адсталая, бо аднаасобная і прыватніц-

кая. Прыватная ўласнасць — гэта... гэта язва, якая не дае вёсцы прастору...

— А гэта хіба не прастор,— Хведар шырока развёў рукі, паказваючы на поле з карагодамі бабак.— Наслухаўся ты гарадскіх разумнікаў. А сэнсу не дабраў. У горадзе крычаць: пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся! Выходзіць, клічуць яднацца. А ты кажаш пралетарыі згуртаваныя. А навошта тады пралетарыям яднацца? Супраць каго? Супраць сялян? Дык вёска горад корміць. Супраць паноў і буржуяў? Але ж іх прагналі, нажытае імі адабралі. А жыць лягчэй не стала. Можа, пад пралетарыямі разумеюць усіх гараджан? Ну, а што можа яднаць іх? Купец дбае, як выгадней прадаць. Кравец або шавец, як паболей узяць заказаў. Рабочы, як болей зарабіць. У кожнага свой інтарэс, і нішто іх не яднае. А мужыка яднае зямля. У нас ва ўсіх адна зямля, адны аб ёй клопаты. Нам не трэба крычаць: яднайцеся. Мы з'яднаны ў грамаду. Зямлёй з'яднаны. Адбяры ў мужыка зямлю — і няма яго. Ён тут жа ў тапаліны пух ператворыцца: вецер падзьмуў, і пакаціўся пух па зямлі, зваляўся ў лямец. А лямец той нікуды не прыгодны.

Серафім адчуваў, што Хведара яму не пераспрачаць. Быў бы на ягоным месцы Марк, той бы не паддаўся Хведару.

Пра Марка думалася з нязменнай тугой, але без пяшчоты. Пяшчота ўсё больш прызначалася дзеду і Хведару. Хведар чымсьці нагадваў Марка, можа, сваёй супрацьлегласцю.

Канец першага лета ў вёсцы калі і запомніўся Серафіму, дык хіба чародкамі шпакоў, што шэрай хмаркай апускаліся на апусцелыя самотныя палі. Бадай, яшчэ ранняй павуцінай на ржышчы. Насупраць сонца павуціна бачылася серабрыстай дарожкай, якая клікала ўдалеч. Але ісці па ёй было нязручна і непрыемна: ржышча калола, а павуціна клеілася да ног, выклікаючы непрыемнае адчуванне.

Усё? Не, бадай, была яшчэ адна помная зарубка на памяці — падарожжа ў маёнтак паноў Занковіч-Ляскіх.

Чаго дзеду спатрэбілася ісці да тых паноў, Серафім так і не запомніў. Як, зрэшты, і дарогу. Дзед

вёў яго напрасцяк па сцежках і межах. Накатанай дарогі ў маёнтак наогул не існавала.

За раўчуком з даўно закінутым калодзежам, ад якога застаўся толькі гнілы зруб з пачарнелых плашак, яны трапілі на поле, засеянае макам. Мак дацвітаў. Некаторыя галоўкі ўжо бурэлі. Дзед сарваў дзве, пачаставаў Серафіма і сам паласаваўся: насыпаў чорныя зярняткі на далонь, потым адным жэстам высыпаў у рот.

Яны ішлі па полі, хоць можна было абысці яго. За полем відзён быў стары сад, які рассякала напалам нешырокая дарога ў прысадах з ліп. Ліпы раслі цесна, адна пры адной, так што галіны іх перапляліся, утварыўшы змрочны калідор. Дарога пад ліпамі была непрыемная, халодная, слізкая, паточаная дажджавымі чарвякамі. На дарозе і па заплылых канавах збоч яе не раслі нават самыя непатрабавальныя да сонца расліны. У канцы калідора бачыўся заліты сонцам лужок. Пасярод лужка, у пустазеллі, стаяла нешта недарэчнае: голы мужчына на адной назе з абабітымі вушамі і носам. На апушчанай да калена руцэ не хапала трох пальцаў. Затое другая, адведзеная за спіну, трымала вышчарблены дыск. За гэтай пакалечанай фігурай узвышаўся не менш пакалечаны дом з драўлянымі точанымі калонамі, на якіх трымаўся паўразбураны балкон з расчыненымі насцеж дзвярамі. Паміж калон унізе былі яшчэ адны дзверы, забітыя крыж-накрыж пачарнелымі ад часу дошкамі.

Было такое ўражанне, што ў гэты дом няма ўваходу. Але дзед павёў Серафіма вакол кветніка, таксама недагледжанага, буйна зарослага быльнягом. За кветнікам, крокаў за трыццаць ад дому, сярод зарасніку лазы, чароту, аеру відаць была вялізная сажалка з маленькім востравам. На востраве стаяла вастраверхая альтанка, абапал якой раслі дзве бярозкі, падобныя на свечкі. Сажалка зарасла раскай, нідзе ні акенца жывой вады. Ад сажалкі к дому вяла выкладзеная плітамі сцежка. Яна падбягала да ганка з добра падгнілых дошак.

Навокал панавалі запусценне і парахня. Аж рабілася вусцішна, і не хацелася верыць, што ў гэтым запусценні жывуць не проста людзі, а паны, якіх рэвалюцыя намервалася знішчыць як клас.

Асцярожна ступаючы па дошках, што рыпелі па-

старэчы прастуджана, дзед з Серафімам увайшлі ў прыхожую, троху асветленую акном, забітым дошкамі. У прыхожай падлогі не было. Ад яе засталіся толькі бэлькі. На бэлькі былі пакладзены дзве філянговыя дзвярыны, па якіх дзед з Серафімам трапілі на кухню з вялікай плітой, мабыць, даўно не паленай.

— Хто там? — пачуўся, як з-пад зямлі, жаночы голас.

— Пані Цыцылія, гэта я, Максім Максімаў,— азваўся дзед.

— Што ж вы стаіцё на кухні? Заходзьце, будзьце ласкавыя,— запрасіў той жа голас, які дзед назваў паняй Цыцыліяй.

У Серафіма аж перахапіла дыханне: зараз ён пабачыць сапраўдных паноў. У горадзе паноў, па меркаваннях Серафіма, ужо даўно не існавала. Іх пазнішчалі такія, як Марк, Ілля Давыдавіч Дрэль і ягоныя сябры, што наведваліся да Дрэляў у доўгіх, па пяты, шынялях або ў скураных чорных рэгланах. І Серафім гэта не выдумаў: так гаварылі старэйшыя. Паны, выходзіць, захаваліся толькі вось у такіх глухіх закутках. Вядома ж, яму цікава было пабачыць контру на свае вочы.

З Маркавых расказаў Серафім ніяк не мог скласці воблік пана. Марк называў паноў паразітамі на здаровым целе пралетарыяту, якія нічога не ўмеюць рабіць, жывуць за кошт народа, смокчуць яго кроў, а самі раз'язджаюць па балях у карэтах. А другім разам Марк маляваў паноў, як каварных ворагаў, якія хадзілі ў псіхічныя атакі, не здаваліся ў палон, і толькі куля магла апыніць іх назаўсёды. Па Марку выходзіла, што паразіты, аказваецца, будавалі палацы, вялі гаспадарку, а да ўсяго былі непакорныя і добра ваявалі. А хто ваяваў, той у вачах Серафіма выглядаў чалавекам вялікай мужнасці, як і камандзіры славутай дывізіі, што стаяла ў горадзе. Серафім ніяк не мог уявіць спешчаных паразітаў, якія хадзілі ў псіхічныя атакі, не здаваліся ў палон і не баяліся расстрэлаў.

Таму з такой нецярплівасцю Серафім хацеў пабачыць паноў. Што праўда, жаночы голас яго крыху збянтэжыў — ён чакаў пабачыць паноў мужчын. Ну, ды і жанчыны — гэта таксама цікава...

У вялізным пакоі абапал расчыненага ў сад акна ў мяккіх крэслах сядзелі дзве жанчыны. Галаву адной з іх вянчаў каптур у аборках і карунках, дужа нізка насунуты на лоб. Другая пані, маладзейшая і прыгажэйшая, сядзела з непакрытай галавой. Яе густыя сівыя валасы былі сколаты вялізным грэбенем, абсыпаным бліскучымі каменьчыкамі.

— Сядайце на канапу, Максім Трафімавіч,— запрасіла дзеда маладзейшая.

— Дзякуй, пані Цыцылія,— сказаў дзед і сеў, паставіўшы Серафіма перад сабой, як межавы знак.

— А то ўнучак? — спытала Цыцылія.

— Івана, сярэдняга, калі што якое, сынок,— растлумачыў дзед.— Матку ягоную бандыты забілі, а Іван, царства яму нябеснае, самі ведаеце, калі што якое, як і чаму загінуў.

— Вучыцца?

— Без вучэння — цемра.

— Вельмі пахвальна. Я рада вас бачыць, Максім Трафімавіч. Да нас ніхто не заходзіць. Жывём, як рабінзоны.

— Народ няпамятлівы. Вы за яго жыццё кладзеце, а ён тут жа і забывае.

— Хто кладзе жыццё на алтар святой справы, не павінен чакаць нейкай для сябе выгады,— чамусьці абурана сказала старэйшая пані.— Трэба зрабіць усё для народнага шчасця і памерці. У гэтым сэнс жыцця.

— Алаіза,— мякка звярнулася да старэйшай пані Цыцылія,— я загаварыла пра адзінокасць зусім не таму, што памяняла свае перакананні. Мне не хапае чалавечых зносін, асабліва ў доўгія вечары восені і зімы. Усяго толькі.

— А вы шчаслівы, Максім? — запыталася ў дзеда пані Алаіза.

— Мужыцкае шчасце, калі што якое, вядомае: уродзіць зямелька, скацінка накормлена — во і шчасце. А тут во, пра камунію гавораць, не перастаюць. Нібы ўсё ж адбяруць зямлю ў мужыкоў, а саміх зробяць камунарамі. Будзем разам есці з адной міскі, спаць на палацях упокат. І нічога ў цябе свайго не будзе. Вам, пані, на гэты конт што-небудзь вядома?

— Глупства,— сказала Цыцылія.

— І зусім не глупства. Проста вы, Максім, прашу прабачыць, прымітыўна ўсё зразумелі,— заспрачала-

ся з сястрой Алаіза.— Камуна — гэта мара перадавых людзей нашага часу — камунізм. Дзеля чаго і рабілі рэвалюцыю. Клалі на ахвярнік свае жыцці рэвалюцыянеры розных пакаленняў.

— Значыць, не выдумка,— самотна сказаў дзед.

Серафім слухаў і не слухаў гэтую гаворку. Ён спачатку сарамліва, а потым усё смялей разглядаў абсталяванне пакоя, якое ўражвала яго. Што праўда, і ў іхняй гарадской кватэры абсталяванне было адмысловае. Спачатку маці, а потым і Марк нацягалі аднекуль рознай мэблі, адабранай у буржуяў горада. Але такой мэблі Серафім яшчэ не бачыў. Найперш за ўсё, яна выглядала вельмі старой. Столікі і падстаўкі з залачонымі ножкамі, разны буфет з пацямнелымі люстэркамі. За шклом буфета — распісныя талеркі, бакалы на тонкіх ножках, сподкі, графіны. Адзін прасценак займала кніжная шафа, застаўленая кнігамі з пераплётамі, цісненымі золатам. На століках стаялі бронзавыя фігуркі незнаёмых людзей. На сценах віселі партрэты вельмі важных паноў у парыках і без парыкоў, але з ордэнамі і стужкамі цераз плячо. Шмат было кругленькіх на эмалі малюнкаў і партрэтаў. Яны віселі паўсюль, дзе хоць крыху мелася месца. Прыцягвала Серафімаву ўвагу і грубка, абкладзеная кафляй з вясёлым людам пад дрэвамі.

Ад сузірання старых пачарнелых партрэтаў, кніг, незразумелых бронзавых кампазіцый Серафіма адарвала яшчэ адно дзіва, на якое яго паклікала паглядзець пані Цыцылія. То быў вялізны футарал, з якога пані Цыцылія дастала аркуш цвёрдай паперы, згорнуты ў трубку, перавязаны муаравай стужкай.

Вызваліўшы стол ад розных рэчаў, што знаходзіліся на ім, пані Цыцылія разгарнула скрутак — на аркушы было намалявана карычневае дрэва з мноствам сукоў і сучкоў, на якіх у кружочках прыгожым почыркам былі напісаны імёны і лічбы.

— Што гэта? — не сцярпеў Серафім.

— Род наш, ад вытокаў да сённяшняга дня,— адказала пані Цыцылія і пачала тлумачыць, што азначаюць кожная галінка, кожны сук і ўсё дрэва цалкам.

Серафім слухаў яе тлумачэнні, як прыгожую казку, і яго ўвесь час не пакідала шчымлівае пачуццё сваёй непаўнацэннасці: ён амаль нічога не ведаў пра

свайго дзеда па матчынай лініі. Хто ён? Чаму заехаў так далёка ад родных мясцін? Як ён выглядае? Гэта так моцна ўразіла яго, што неяк само сабой падумалася: «А што, калі мы ўсе выблядкі?» І яго аж скаланула ад гэтай прыкрай думкі, якая выказалася так груба.

— Хачу запытаць у вас, пані Цыцылія,— раптам перапыніў паню дзед.— Каго толькі ў вашым родзе не было. Вунь, калі што якое, дык князі віцебскія і смаленскія, ваяводы, графы і дваране, генералы і іншыя слынныя людзі, заслужаныя ў польскіх каралёў і рускіх цароў. Ну, як ёсць знаць і багацеі са сваімі маёнткамі, раскіданымі па Расеі і Польшчы, нават у Германіі і Аўстрыі. А дзед ваш, царства яму нябеснае, калі што якое, супраць цара пайшоў. Айцец ваш таксама, нам вядома, з царамі не ладзіў, ну, а вашы браты форменную рэвалюцыю рабілі. Навошта вам была рэвалюцыя? Цяпер во адабралі ў вас усё. Пакінулі старызну ды хлам. А там, глядзіш, і гэта забяруць. Дом вунь развальваецца. Сажалка цінай зарасла. Сад здзічэў. А пра зямлю і казаць не хачу — сірата пры жывых гаспадарах. Хоць і яе колькі там. Слёзы.

Пані Цыцылія надоўга задумалася.

— Я, Максім Трафімавіч, з першых дзён рэвалюцыі расчаравалася,— нарэшце сказала яна.— І дзед, і бацька, і браты нашы не пра такую рэвалюцыю дбалі. Яны шчасця народу хацелі.

— Дык жа няма ў народа шчасця,— аж горача сказаў дзед.— Адны клопаты, пані Цыцылія. У мяне цяпер сем дзесяцін зямлі. Раздзялю паміж двума сынамі — будзе ў іх па тры з паловай дзесяціны. Сябе не пракормяць. А трэба ж дзяржаву трымаць. Якое ж тут шчасце?

— Вот таму і непазбежна камуна, Максім,— падала голас Алаіза.— А ўсе твае разважанні ад цемнаты і непісьменнасці ды яшчэ ад прыватнай уласнасці, да якой вы прыкаваны сталёвымі ланцугамі.

— Не слухайце яе, Максім Трафімавіч,— сказала пані Цыцылія.— Мы тут вось так кожны вечар спрачаемся. Каб не брацікі мае мілыя, дык я цяпер дзе-небудзь у Парыжы па Елісейскіх палях ездзіла б у кадылаку. Яны ды вось яшчэ яна збілі мяне з панталыку. Пакуль Ленін быў жывы, нас, лічы, і не

краналі. А потым адразу ўсё забралі. Добра хоць у доме пакінулі жыць. Але, паверце, Максім Трафімавіч, баюся, што і адсюль папросяць.

— Зноў ты чорны песімізм разводзіш,— сурова сказала Алаіза.— Ніхто нас не закране. Памянеш маё слова. Больш таго, збудуе краіна сацыялізм і нам з табой, як радні рэвалюцыянераў, будуць пашана і павага.

Пані Цыцылія ўказальным пальцам пакруціла каля скроні. Дзед пахітаў галавой.

— Дык ужо, калі што якое,— загаварыў ён,— дык я з вашага дазволу засею зямельку вам належную жытам, як і дамовіліся, напалавіну мне, напалавіну вам. Жыта цяпер у цане. Калі што якое, дык я вам і прадаць памагу, і змалоць на хлеб. Я вам яшчэ і кабанчыка зарэжу.

— Буду вам удзячна,— сказала пані Цыцылія.— Хачу ўнучку вашаму падаруначак зрабіць,— і, звяртаючыся да Серафіма, спыталася: — Чытаць любіш?

Ад дзіўных паняў Серафім вяртаўся з вязанкай кніг, якія і перавярнулі ягоны лёс. Але не адразу — з часам.

## 5

У той год замаразкі пачаліся рана. Хто не паспеў зжаць бульбоўнік на корм жывёле, той цяпер кусаў сабе локці. Бульбоўнік стаяў счарнелы і слізкі. Дзед нібы прадбачыў, што на зямлю падзе мароз,— па яго загадзе бульбоўнік быў зжаты, пастаўлены сушыцца пад паветку на жэрдкі.

У горадзе ўжо вучыліся, а на вёсцы і гаворкі пра школу яшчэ не было. Не прыехалі яшчэ і настаўнікі, якія чамусьці мяняліся ледзь не кожны год.

— Да пакрову ніхто ў школу не пойдзе,— растлумачыў Серафіму Сцёпка, які наадрэз адмовіўся ісці вучыцца, праседзеўшы ў трэцім класе тры гады.— Распісвацца ўмею, лічыць да ста магу, і хопіць,— заявіў ён маці.

Дзед з бабаю і не настайвалі. Дзед усяго і сказаў:

— Лабатрас...

Ды наявіліся і больш важныя справы, чым Сцёпкава вучоба ў школе. Сцёпкава маці Варка загаварыла пра сваё з Міклам вяселле.

Было гэта ў час снядання на першую нядзелю ранняй восені. Як толькі дзед паклаў лыжку, падаючы знак, што сняданне скончана, Варка і заявіла:

— Сенячы Мікла прыйдзе ў сваты...

Дзеці павытрашчылі вочы, бабуля пераглянулася з нявесткай — Раманавай жонкай. Хведар адвярнуўся да акна, лішне пільна пачаў сачыць, як бегаюць па двары ўжо выраслыя кураняты. Адзін Раман ніяк не зрэагаваў на заяву сястры.

— Да каго ж Мікла прыйдзе ў сваты? — расцягваючы словы, спытаў дзед.— Можа, да цёлкі Субохі ці да сучкі Мальвы?

— Бытта не знаеце. Да мяне, во да каго,— дзёрзка заявіла Варка.

— Выганю, як шалудзівага сабаку,— грозна сказаў дзед і раптам закрычаў на дзяцей, якія аж натапырылі вушы, каб пачуць яшчэ што-небудзь цікавае.— Брысь з-за стала!..

На двары дзеці забраліся пад паветку, дзе стаяла рысорная павозка-лінейка,— расселіся на ёй. Сцёпка сказаў з важнасцю прадказальніка:

— Нідзе дзед не дзенецца, хоць у пятлю ўздзенецца.

Так яно і адбылося.

Пад самы вечар, ціхі і цёплы, са слупамі камароў, што таўклі мак, у вёску з Анічэйкавага хутара прыехалі на выязных калёсах трое: жаніх Мікла Анічэйка, сват, ён жа дзядзька жаніха па матчынай лініі, Даніла Кашнікаў, сваццця і хросная жаніха Домна Кашаліха.

Дзеці, апрача Сцёпкі, зараней забраліся на печ, бо потым іх маглі прагнаць на Раманаву палавіну. У хаце стаяла вымарачная цішыня, нібы сюды вось-вось прынясуць нябожчыка. Варка сядзела ў Рамана, каб да часу не трапіць на вочы жаніху. Сцёпка тырчэў на двары, каб падаць сігнал, што сваты едуць.

Час цягнуўся марудна, аж не хапала цярпення. Нарэшце ў хату прыбег Сцёпка, крыкнуў:

— Едуць!

— Хэ, едуць,— забурчэў дзед.— Цар турэцкі ці хто, каб ён спрахнуў.

Не спяшаючыся, дзед залез за стол на покут, паклаў рукі перад сабой на чысты абрус. Бабуля невядома дзеля чаго ўзяла вілкі ў рукі, пачала

корпацца ў печы. Так яны і дачакаліся сватоў.

Першай зайшла ў хату сваццця, стала справа, за ёй сват стаў злева, потым паявіўся жаніх, стаў пасярэдзіне. Сваццця са сватам перахрысціліся на абразы, пад якімі і сядзеў дзед. Мікла чамусьці стаяў разгублены, аж не пазнаць.

— А во, людцы добрыя, ехалі лесам, ехалі полем, шукалі мальцу лепшую долю, пусцілі каня, хай ён, куды бог падкажа, вязе воз, а конь да вас на двор прывёз. У вас тавар, у нас купец. За цаной не пастаім, якую назавеце, такую і дадзім.

— Ладна табе, хросная,— незадаволена сказаў Мікла.

Хросная шмарганула яго за рукаў — не лезь, не твайго розуму справа.

— Да чаго там,— забунтаваў і сват.— Тут і без балабонства дурню ясна: сваты мы.

Сват выцягнуў спачатку з адной кішэні штаноў бутэльку рыкаўкі — казённай гарэлкі, з другой — бутэльку самагонкі, заткнутую сенам.

— Калі што якое, сядайце. У нагах праўды няма,— памякчэў дзед.

У хату, раней чым належыць па абраду зайшла Варка, пераглянулася з Міклам. Той падміргнуў: усё ідзе ладам.

— Сваты во прыехалі,— сказаў, звяртаючыся да Варкі, дзед.— Папраўдзе, дык не ў пару прыехалі. Самы час бульбу капаць.

— Мне чакаць не выпадае,— як адрэзаў жаніх.

— Гэта ж, калі што якое, чаму не можаш пачакаць? — незадаволены, што з ім не пагаджаецца будучы зяць, спытаўся дзед.

— Калі на тое пайшло, дык мне праз два тыдні належыць з'явіцца па месцы службы,— важна адказаў Мікла.

— Ці не ў Піцер у кірасіры паедзеш служыць? — насмешліва спытаў дзед.

— Мы тваім кірасірам зробім харакіры. Чуў?

— І што ж ты там рабіць будзеш? — не сунімаўся дзед.

— Так што залічаны на міліцэйскую службу і маю ўвальненне на прадмет жаніцьбы,— адказаў Мікла, уразіўшы дзеда.— І мне ваша бульба як леташні снег.

— А калі я не дазволю? — стараючыся адступіць з гонарам, спытаўся дзед.

— Тады я пасаджу Варвару на калёсы і будзьце здаровы, не чыхайце. У наступную нядзелю вяселле, і ніякіх гваздоў. Гэта мая вам ультыматума.

Вяселле гулялі з вянцом аж два дні: суботу і нядзелю. Першы дзень у дзедавай хаце адразу пасля вянчання ў гарадской царкве, другі — на хутары ў Анічэйкаў. На Анічэйкаў двор везлі на адной падводзе цяжкую ясеневую шафу са строямі, на другой — куфар з сувоямі палатна, вышыванымі ручнікамі, абрусамі, сурвэткамі і пасцілкамі. Галасістыя шаферкі на пад'ездзе да жаніховай хаты заспявалі на ўвесь голас:

Выхадзі, свякроўка гарбатая,
Сустракай нявестку багатую.
Выхадзі, свякроўка саплівая,
Сустракай нявестку шчаслівую.

Ад хаты не менш галасіста адказалі жаніховы дружкі і сёстры:

У нашага таты
Салодкая хата:
З пірагоў печка збіта,
Пернікамі накрыта,
А ў печкі — гаршчок кашы,
Беражыце кішкі вашы.

Вяселле запомнілася Серафіму пярэстай мітуснёй крыклівых, п'яных людзей. Асабліва старалася жаніхова радня: мужчыны на ўсё горла спрачаліся, і цяжка было зразумець, з якой прычыны спрабавалі ўсчынаць бойкі, але іх тут жа ўціхамірвалі жонкі, якія смела кідаліся на мужчын, хапалі іх за рукі, за валасы, расцягвалі, як шчанюкоў. Бабы размашыста скакалі, пранізліва спявалі сараматныя прыпеўкі і яшчэ больш сараматна звярталіся да маладых з парадамі: «Дару жаніху клубок нітак, каб не блытаўся сярод лытак»,— крычала адна маладзіца. Ёй падтаквала другая: «Дару маладой серабро, каб давала мужу дабро». Застоліца рагатала, Серафім не мог зразумець, як дарослыя людзі могуць гаварыць такія непрыстойнасці? Яму было няёмка. Але і цікава. Прыпеўкі і пагаворкі запаміналіся, як вершы.

Сцёпка хадзіў у плісавай кашулі, падпяразанай вітым шнурком з кутасамі. У яго аж ружавелі чыста

вымытыя вушы. А валасы, што вечна тырчэлі ва ўсе бакі, былі прычэсаны на касы прабор і густа прыпамаджаны сметанковым маслам.

— Цяпер я законны,— разважаў Сцёпка. Яны з Серафімам сядзелі пад лазняй. Сцёпка па-сапраўднаму ўзацяжку курыў папяросу «Дукат», украдзеную ў бацькі.— Цяпер я і ў рыла магу даць, калі хто абзаве выблядкам. Мяне пабаяцца біць. Я сам, каму захачу, так адвешу, што рады не будзе. Папаня кажа, горад не наша занюханая вёска. Там усё па-культурнаму: звініце, пажалуйце і іншая культура.

Сцёпка спрабаваў гаварыць па-гарадскому, але яму гэта не ўдавалася. Так і пёрла з яго вясковая мова.

— Гарадская шпана задзірлівая,— без аніякай паслядоўнасці сказаў Серафім.— Ты з ёю не вадзіся.

— Бацька тое ж казаў. Вы як згаварыліся. А па мне абы верны друг, хоць і шпана. Я пра гарадскую жызню змала думаў,— сказаў ён.

Пераехаць у горад, аднак, не давялося. У горадзе не хапала жылля, а наймаць прыватную кватэру для Міклы было дарагавата. Ды ён і сам не вельмі хацеў цягнуць жонку ў горад. Спакус там хапала, а Мікла быў да іх ласы.

Разы два на месяц Мікла паяўляўся на Анічэйкавым хутары, раздабрэлы і важны. На ім была міліцэйская форма з чырвонымі пятліцамі, а на шырокім рэмені вісела скураная кабура, з якой тырчэла рукаятка нагана. Прыязджаў ён звычайна на рамізніку, а ў горад вяртаўся пехатой. Варка хвалілася, што Мікла пра іх клапоціцца, кожную нядзелю дасылае кім-небудзь з вяскоўцаў цэлы мех гасцінцаў: боханы сітнага хлеба, булкі, абаранкі, куханы, плюшкі, сухары, цукеркі — за тыдзень не паясі, хоць распеража́ся.

Дзед варожа бурчэў:

— Гандлярак, сукін сын, абірае. А з іх і так сем шкур дзяруць, падаткамі душаць.

Бабуля хрысцілася на абразы, прасіла бога:

— Злітайся і памілуй, божа, рабу божую Варвару і ўсё сямейства яе.

— Навошта ты бога непакоіш,— сварыўся дзед,— ад іх, чарцей, бог даўно адступіўся. Таму і робяць зло і паскудства.

— А чаго богу ад Варкі адступацца? — не па гаджалася з дзедам бабуля.— Яна бога не абыходзіла, посныя дні вытрымлівала і на споведзь хадзіла.

## 6

Чутка, што прыехала новая настаўніца, абляцела вёску пад вечар. Прывёз яе з горада Церах Драчук. Настаўніца Раіса Рыгораўна Кумоўская была падобна на цыганку: чарнявая, падхірцістая, гнуткая, з твару смуглая, з нядобрым каршуновым позіркам густа-шэрых вачэй. На выгляд ёй гадоў пад дваццаць пяць. Як па вясковых мерках — перастарка.

Заняткі пачаліся за тыдзень да пакроваў. Быў самы пік бабінага лета, над апусцелымі палямі сінела высокае неба, у ім курлыкалі жураўлі. І пастухі ў полі, задраўшы галовы, весела крычалі: «пуцём-дарожкай, пуцём-дарожкай».

Школа ўразіла Серафіма бязладнасцю і гоманам рознаўзроставай дзятвы. Пад яе быў прыстасаваны маёнтак пана Струмецкага, які Серафіму чымсьці нагадваў дом паноў Занковіч-Ляскіх. Такі ж аднапавярховы, нават без мансарды, з адным вельмі вялікім пакоем і двума маленькімі. У адным з малых пакояў жылі школьны вартаўнік і апальшчык з жонкай, якая служыла пры школе за прыбіральшчыцу. У другім пакоі знаходзілася школьная маёмасць: аблуплены глобус, некалькі геаграфічных і занальных карт, старыя гербарыі, чучала ваўка, падоранае школе адным з настаўнікаў.

Усе чатыры класы вяла адна Раіса Рыгораўна. Пакуль чацвёрты клас рашаў задачы, трэці пісаў сачыненне, другі вучыўся складаць і вылічаць, настаўніца вучыла першакласнікаў азбуцы. Потым заняткі мяняліся: першакласнікі пісалі палачкі і кружочкі, другакласнікі чыталі, трэці клас рашаў задачы, а чацвёрты пісаў сачыненне на зададзеную тэму.

Неўзабаве настаўніца выдзеліла з асяродка вучняў больш здольных, да ліку якіх трапіў і Серафім.

Пачалося з таго, што Серафім незаўважна для сябе напісаў маленечкае апавяданне, якога ён вельмі саромеўся. Аддаваў яго настаўніцы з нялёгкім сэрцам, а яна, можа, з педагагічных меркаванняў,

пахваліла тое апавяданне, у якім расказвалася пра двух хлапчукоў, што ехалі верхам на кані. Уся адметнасць твора была ў тым, што слова «два» абыгрывалася ў ім ва ўсіх склонах: «два хлопчыкі захацелі падарожнічаць, удвух яны селі на каня і паехалі па полі, дваім было нязручна сядзець на кані, а калі конь пабег, двое ўпалі з каня, і абаім было весела».

Раіса Рыгораўна, няйначай з тых жа педагагічных меркаванняў, прапанавала Серафіму прачытаць апавяданне перад усімі вучнямі. Ён збянтэжыўся, пачырванеў ад сораму і радасці, але прачытаў свой твор з нечуванай захопленасцю, ад чаго ён здаўся яму нейкім цудам, што і стварыў, можа, не ён, а нехта іншы. Тады Серафім і зразумеў, што азначае поспех і якую асалоду ён прыносіць чалавеку.

Узнёслы, радасны настрой, аднак, прадаўжаўся нядоўга. Нехта за ягонай спіной, няйначай нейкі чацвёртакласнік з перарosткаў, насмешліва смалянуў па ім гарадскім паходжаннем.

— Яны ў горадзе кожны дзень булкі ядуць,— зняважліва сказаў той вучань.— Накарміце мяне булкамі, дык я трох на каня пасаджу.

Школа грымнула вясёлым смехам, знайшоўшы рэпліку пераростка вельмі дасціпнай. Гэты смех асабліва балюча закрануў Серафіма. Яму хацелася, каб і вучні адчувалі ў душы тое самае свята, якое адчуваў ён. А яны рагаталі, нібы ён зрабіў нешта недарэчнае.

«Ніколі не буду больш пісаць так, як напісаў. Дзеля чаго?»

Настаўніца неяк уціхамірыла вучняў, спытала ў Серафіма:

— Ты вучыўся ў гарадской школе?

— Так,— баючыся абразлівага смеху, нясмела адказаў Серафім.

— У якой школе?

— У восьмай...

— На Замкавай? А хто цябе вучыў?

— Зося Антонаўна,— адказаў Серафім.

— Дык жа і я вучылася ў яе,— прызналася настаўніца і звярнулася да дзяцей: — Бачыце, мы з Серафімам аднашкольнікі.

Гэта зрабіла ўражанне. А Серафіма падтрымала ў ягоных памкненнях.

Ашчаджаючы час, заняты вучобай, Серафім напісаў яшчэ некалькі невялікіх апавяданняў са свайго ж вясковага жыцця. У адным расказвалася пра бойку на маёўцы, у другім, як адзін хлопчык падбіў другога паліць дзедавы карчы, у трэцім пра сенакос — асабліва дарагое яму апавяданне, якое ён любіў перачытваць,— у чацвёртым — пра дзяўчынку ў белым плацці, што стаяла на верандзе ў доме за ракой,— тут было ўсё выдумана, але так праўдзіва, што Серафім і сам паверыў у тое, што сачыніў.

Галоўным героем апавяданняў заўсёды быў ён сам, і гэта бянтэжыла Серафіма. Ён баяўся, што пісаць пра сябе няёмка, сорамна і недазволена. Але, паспрабаваўшы напісаць апавяданне без сябе, Серафім пераканаўся, што ў яго нічога не атрымалася.

Напісанае ён чытаў дзядзьку Хведару, калі дзед з бабаю клаліся спаць. То быў благаслаўлёны час. Серафім чытаў — дзядзька Хведар уважліва слухаў. Ён умеў слухаць. Калі Серафім заканчваў чытаць, дзядзька Хведар нейкі час маўчаў, чухаў за вухам, потым, расцягваючы словы, казаў:

— Ет-та-а, я табе скажу... Быццам і выдумана, але праўда... Здорава, я табе скажу... Усё дужа проста, а як ёсць карціна і хараство... Адным словам, Сімка, быць табе Чэхавым...

З дзядзькам Хведарам Серафім здружыўся яшчэ да школы, адкрыўшы для сябе ў ім нешта суладнае ягонай душы. Аднойчы яны везлі з поля воз аўсяных снапоў. Абодва ляжалі на возе на спінах, глядзелі ў чарнату неба, разатканага яркімі на зыходзе жніўня зоркамі. Конь памалу тупаў знаёмай дарогай. У начной сцішанасці па-хатняму міла парыпвалі колы і застаўкі на калёсах. Перад блізкім адпачынкам весела пафыркваў конь.

— Эх, не ўмею сказаць! А душой чую: кожная зорачка на небе, кожная расінка на зямлі хараством сваім дакранаюцца чалавека, і ён ад таго прыгажэе і дабрэе,— як бы разважаючы ўголас, летуценна загаварыў дзядзька Хведар.— Ды чалавек саромеецца дабрыні. Чаму? Рабіць брыдасць — не сорамна, захапляцца хараством — сорамна. Сляпы — той, вядома, не бачыць хараства. Ладна, гэта ягоная

бяда. А відушчы чаму не хоча бачыць? Яму ж ад гэтага толькі цяжэй на свеце жыць. А вось жа ўсё роўна не пушчае ў сябе хараство і другім замінае.

Серафім, што праўда, не да канца разумеў Хведаравы разважанні, але і ён адчуваў тое ж, пра што так прыгожа гаварыў дзядзька. Хведар гаварыў пра хараство і суладнасць летуценна і ўзвышана. Слухаць яго было вельмі прыемна.

Серафім непрыкметна пазбаўляўся ад Маркавых жорсткіх высноў і рашэнняў. Садзейнічалі гэтаму і кнігі, прывезеныя ад паняў Занковіч-Ляскіх. Па кнігі, за якія дзед заплаціў нейкія невялікія грошы, яны ездзілі нешта тыдні праз два пасля першага наведання паняў, здаецца, у нейкае свята. Пані Занковіч-Ляскія былі апрануты па-святочнаму. Яны чакалі дзеда. На стале пыхкаў парай самавар, вельмі бліскучы і прыгожы.

Пані аддалі разам з кнігамі і дзве тумбачкі для іх. Кніг было шмат: адны ў чорных цісненых золатам вокладках, другія — у каляровых, шэрых кардонных, белых папяровых, з партрэтамі пісьменнікаў, з малюнкамі і без малюнкаў. Былі кнігі паважныя, тоўстыя і вялікія памерам, былі просценькія, непрыкметныя, як сірацінкі, але з віньеткамі і кароценькімі вершамі — адзін на старонку, былі часопісы «Ніва», «Рускае багацце», «Абуджэнне». Дзед, аднак, чытаць кнігі забараніў, сказаўшы: «Кончыш чатыры класы, пачнеш вучыцца ў Бялынавіцкай школе, тады і чытай на здароўе». Затое Хведар чытаў без дазволу ды яшчэ падбухторваў на гэта і Серафіма. Чытаць кнігі крадком, без дазволу, было больш прыемна, чым з дазволам. А потым цікава было дзяліцца прачытаным з дзядзькам Хведарам.

— Бунін, я табе скажу, сілішча! — казаў дзядзька Хведар.— Шкада, не напісана, ці жывы ён. Можа, пра цяперашняе жыццё піша. Тут усё пра царскае. Не можа быць, каб ён пра цяперашняга мужыка не пісаў. Пра панскага дужа верна напісаў. Той мужык зямлі не чуў. Рабіў, абы дзень адбыць. Ну, і пайшла па свеце разруха. Пасля рэвалюцыі ў маёнтках камуны стварылі. Быў я ў такой камуне. Хацелася на свае вочы пабачыць, якое будзе для нас жыццё ў тым камунізме, пра які так многа кажуць. І смех і грэх.

Значыць, найперш у іх там сямігадзінны дзень. Верна. На працы пупа не надарвеш. А толку мала. Ніякага толку. Ну, вось, напрыклад, скасілі поплаў, высушылі сена. Цяпер бы яго ў пуню ўкінуць. Як бы гаспадар зрабіў? А так: да позняй ночы працаваў бы, асабліва калі неба пачало хмурыцца. У іх не паложана. Сем гадзін адрабілі, граблі пакідалі і ў сталоўку — вячэраць. Ноччу дождж. Назаўтра дождж. Сена і пагніло. А чым скацінку карміць. Можа, у горадзе сямігадзінны дзень і падыходзіць, а мужыку ён смерць смертная. Сам бачыў, вёз камунар воз снапоў з поля. Да тока даехаў, а тут звон на вячэру паклікаў. Думаеш, закінуў снапы ў ток? Дзе там! Выпраг каня і паехаў у сталоўку. Распалася тая камуна. Распусцілі яе на аднаасобны шлях. А цяпер зноў пра камуны загаварылі. Мяркую, невыпадкова. Калі зноў камуны пагоняць,— быць вялікай бядзе.

— Дык што, па-твойму, камунізму не будзе? — пытаўся Серафім у Хведара, прыгадваючы Маркавы словы наконт пабудовы камунізму.

— Чаму, можа, і будзе, калі народ дарасце, каб, скажам, рабіў не па прынуцы і не абы-як, а як на сябе робіць. Праўда, і на сябе не кожны як трэба робіць. Вунь сямейка Мікіты Печкура. Тры дзеўкі, малец, сам з жонкаю, а жыта ў снапах прарасло, а ў каровы рогі адгнілі, бо як прывязалі яе на вяроўку вясной, калі на пашу вывезлі, дык так і не агледзелі, што чэрві каля вяроўкі завяліся. З такімі хіба пажывеш у камунізме?

— Пячкур яшчэ не факт,— па-даросламу казаў Серафім.— Яго і ў камунізм не пусцяць.

— Ды ён наперад туды прыбяжыць,— адказваў Хведар.— Такім сама выгадна ў камунізме на печы ляжаць. А то яшчэ і начальствам такога Печкура паставяць. Языком яны менцяць дай божа. А цяпер дужа важна, як ты языком менціш.

Гаворкі на гэтыя тэмы ўсчыналіся часта. Яны раздзіралі Серафімаву душу. Несумненна, дзядзька Хведар казаў праўду, але Серафіму добра памяталіся спрэчкі Марка з маці. Найчасцей у іх перамагаў Марк, і гэта сведчыла, што і камунізм пераможа.

## 7

Кнігі пераносілі Серафіма ў казачна прыгожае жыццё, вельмі далёкае ад таго, якім ён жыў, але ўсё роўна знаёмае і блізкае.

Апавяданні Буніна, што так узрушылі дзядзьку Хведара, здаліся Серафіму сумнымі, нецікавымі, як і тыя людзі, пра якіх Бунін расказваў. Нямоглыя старыя з бедных вёсак, у якіх не было долі, нагадвалі Серафіму Міклавых бацькоў, а іх дзеці самога Міклу. Серафіму ж хацелася чытаць пра людзей незвычайных, прыгожых, добрых душой і сэрцам. І сам пісьменнік не спадабаўся Серафіму. Ён ганарыста глядзеў на яго з тытульнай старонкі. Бунін чымсьці нагадваў Валянціна Віктаравіча Набокава, толькі яшчэ больш непадступнага.

Затое Серафіма паланіў Гарын-Міхайлоўскі і сваімі карэйскімі казкамі, і асабліва раманам пра Цёму Карташова. «Дзяцінства Цёмы» і «Гімназісты» літаральна перавярнулі ягоную душу. Якімі шчырымі гарачымі слязамі плакаў Серафім, чытаючы, як Цёма спускаўся ноччу на вяроўцы ў глыбокі калодзеж, каб выручыць Жучку, укінутую туды нейкім злодзеем. Плакаў не ад страху за Цёму — ад радасці за ягоную дабрыню і смеласць. Як хацелася яму зрабіць нешта падобнае, але для гэтага не было нагоды, і ён пакутаваў ад бяссілля.

«Князь Сярэбраны» Аляксея Талстога не толькі абудзіў у Серафіма цікавасць да гісторыі, якую ён збольшага ведаў па гімназічным падручніку Платонава, але і патрэбнасць у высакародстве.

Тургенеўская «Ася» выклікала ў ім прыемнае пачуццё ўсхваляванасці ад кахання, яшчэ невядомага яму, але пра якое ён ужо чуў у грубым перakaзе старэйшых.

Ды ўсё прачытанае запар не ішло ні ў якое параўнанне з галоўнай кнігай, якую ён прачытаў з такім захапленнем, з такім уяўленнем апісаных у ёй падзей, што цэлыя старонкі, вялікія эпізоды, сюжэтныя лініі на ўсё жыццё засталіся ў ягонай памяці.

Што праўда, напачатку ён паставіўся да кнігі з насцярогаю, нават не збіраўся яе чытаць. Думаў прагледзіць колькі старонак і адкладзе на будучае, а можа, і назусім. Чатыры тамы ў чорных вокладках

мелі яшчэ і някідкую назву: «Вайна і мір». Каб не слова «вайна», дык Серафім, магчыма, не стаў бы і праглядаць яе. Вайна абяцала прыгоды. Аднак, паступова ўчытваючыся ў тэкст, поўны да ўсяго чужаземных слоў, сказаў, цэлых старонак, Серафім усё болей захапляўся адлюстраваным светам і яго насельнікамі, пра якіх так хараша расказваў таямнічы Леў Талстой.

Дзіва дзіўнае, тыя людзі, якіх Марк называў заклятымі ворагамі працоўных і якіх вучыў Серафіма люта ненавідзець — багатыя паны, князі, графы, афіцэры і генералы, царскія саноўнікі, уся гэтая так званая контррэвалюцыя,— не выклікалі ў Серафіма класавай або яшчэ нейкай нянавісці. Наадварот, яны падабаліся Серафіму сваёй душэўнасцю, сваімі пакутамі, сумленнасцю і адданасцю, хоць часам і рабілі нейкія нядобрыя ўчынкі. Але і гэтыя нядобрыя ўчынкі таксама выглядалі прыгожа. Асабліва яму прыйшлася па душы сям'я Растовых: і стары граф з графіняю, чымсьці вельмі падобныя на дзеда з бабай у святочныя дні, калі трэба ставіцца адно да аднаго з павагаю, і іхняя дачка Наташа, і сыны Пеця і Міколенька, і стрыечная сястра Соня. Ён палюбіў і маладога князя Балконскага і плакаў па ім разам з Наташай. І смешны П'ер Бязухаў крануў яго сваёй бездапаможнасцю; Серафім пачуў у ім сябе, таксама няўклюднага, толькі без акуляраў.

Найбольш ягонымі думкамі валодала Наташа. Яму раптам уявілася, што тая дзяўчынка ў белым плацці, якую ён бачыў на верандзе, калі ехаў на возе з сенам, і ёсць Наташа Растова. Два гэтыя вобразы дзіўным чынам зліліся ў адзін, і Серафіму аж не цярпелася пайсці на хутар, дзе стаіць дом з верандай, і запытаць у дзяўчыны, ці не яна Наташа Растова?

Пасля «Вайны і міру» ён з тыдзень не мог узяцца за іншыя кнігі. Гартаў іх і адкладваў убок. Потым зусім нечакана для сябе адкрыў яшчэ адну кнігу з нянаскай назвай: «Рабінзон Круза». На тоўстай вокладцы быў намаляваны чалавек у недарэчным адзенні і з парасонам, падобным на буслянку. Серафім праседзеў за кнігай паўдня, пакуль не прачытаў яе. Яго захаплялі дзіўны чалавечы лёс, цярплівасць чалавека і ягоная вера, што некалі вернецца дамоў. У Серафіма зноў

абудзілася надзея, што і ён некалі вернецца ў горад.

І ўсё ж Рабінзон Круза не мог пахіснуць Серафімавай любві да Наташы Растовай, хоць яна была з варожага стану, а Рабінзон Круза стаяў бліжэй да працоўнага люду.

У школе Серафіма чакалі перамены. У дапамогу Раісе Рыгораўне прыехаў настаўнік Сяргей Паўлавіч Дзераза. Школу падзялілі пароўну: два класы засталіся ў старым памяшканні, два перасялілі ў заарандаванае на Хадорыным хутары, з паўкіламетра ад старой школы. Серафім трапіў на хутар, да Сяргея Паўлавіча.

Новы настаўнік з першых заняткаў паказаў свой круты нораў. Пасля вялікага перапынку, калі вучні расселіся за парты, настаўнік раптам запатрабаваў, каб яны расшпілілі каўняры кашуль, сукенак і кофтачак. Загад быў такі нечаканы і такі бязглузды, што ўсе разгубіліся і паслухаліся, хоць дзяўчаты чацвёртага класа рабілі гэта надзвычай сарамліва. Настаўнік пайшоў па праходзе, і ўсе зразумелі, што ён будзе адбіраць нацельныя крыжыкі, якія насіла ці не палова класа.

Сяргей Паўлавіч сапраўды падыходзіў да вучня ці вучаніцы, загадваў: здымай! Калі вучань не здымаў, Сяргей Паўлавіч браў крыжык у руку, другой падчапляў шнур — суравую нітку — і рваў яе. Сабраўшы крыжыкі, Сяргей Паўлавіч кінуў іх на стол, узяў у руку доўгую лінейку.

— Ты,— тыцнуў ён лінейкай у аднаго з вучняў са старaверскай вёскі Сябячына.— Як тваё прозвішча?

— Ерамей Мінін,— адказаў вучань.

— Хадзі сюды і пакажы, дзе твой крыж?

Ерамей падышоў да стала, паказаў пальцам:

— Етот...

— Запомні раз і назаўсёды, каб я больш ніколі не напамінаў табе: бога няма,— сярдзіта сказаў настаўнік.— Яго выдумалі папы і эксплуататарскія класы. Рэлігія — опіум народа. Запомні і паўтары: рэлігія — опіум народа.

— Рэлігія — опіум народа,— ледзь чутна паўтарыў Ерамей.

— А цяпер вазьмі свой крыж, плюнь на яго і кінь на падлогу,— загадаў настаўнік.

У вучня збялеў васпаваты твар, а вочы зацкавана

зыркнулі на настаўніка, спадзеючыся на літасць. Плюнуць на святы крыж было найвялікшым грэхам.

Сяргей Паўлавіч узяў латунны шасціканцовы крыж, уклаў у руку хлопчыка.

— Я табе што сказаў: плюнь і кінь на падлогу...

Вучань згорбіўся, уцяў галаву ў плечы. Ягоны твар перасмыкнуўся. На вачах навярнуліся слёзы. Ён быў падобны на загнанае параненае птушаня.

— Не буду,— ціха прашаптаў ён.

Але настаўнік пачуў. Ён выцяў Ерамея лінейкай па спіне, злосна крыкнуў:

— Плюй!..

— Не буду,— зацята сказаў Ерамей, і ягоныя плечы закалаціліся. Але вочы засталіся сухія. Нават тыя слёзы, што былі набеглі, высахлі.

— Марш дамоў, папоўскі прыхвасцень, і без бацькі ў школу не прыходзь,— загадаў настаўнік, і Ерамей апантана выскачыў з класа ў сенцы, дзе вісела вучнёўская апранаха.

На чацвёртым ці, можа, на пятым вучні Сяргей Паўлавіч зразумеў, што ягоная барацьба з рэлігіяй пацярпела паражэнне. Замкнуўшы адабраныя крыжыкі ў шафу, настаўнік загадаў усім вучням, у якіх меліся крыжы, адпраўляцца дамоў і без бацькоў не прыходзіць у школу.

Дзён пяць Сяргей Паўлавіч займаўся ў напалову прарэджаным класе. Не вярталіся ў школу вучні, не прыходзілі бацькі. Сяргей Паўлавіч звярнуўся ў сельсавет з просьбай аштрафаваць бацькоў, якія не падпарадкоўваюцца ўсенавучу. Бацькоў аштрафавалі, вучняў у школу вярнулі, але крыжоў больш не адбіралі.

Зіма ў той год была снежная, з устойлівымі маразамі, з лютымі завірухамі. Яны надзімалі за ноч высокія, па самы вільчак хат, сумёты.

Яшчэ перад Міколам дзед прывёз трох майстроў валяць валёнкі: жылістага, падобнага на смарчок, дзядка па імені Сіланцій, па прозвішчу Грубін; камлюкаватага, шыракатварага дзядзьку Карнея і чарнабровую, крамяную маладзіцу Лёсу. Валёнкі валялі ў лазні. Там праз увесь дзень палілася печкаменка, грэлася вада, клубілася белая пара, ад якой на марозе пад страхой выраслі тоўстыя ледзяшы. Сіланцій рабіў за старшага; ягоная праца заключала-

ся ў тым, што ён браў з меха воўну, акуратна раскладаў яе на капылах. У яго былі цяжкія груваскія рукі з кароткімі, але вельмі адчувальнымі пальцамі, якімі ён мацаў пласт воўны, вызначаючы патрэбную раўнамернасць падыспада, наскоў і халяў. Усю цяжкую працу валяння выконвалі дзядзька з маладзіцай. Ад працы і гарачыні яны не паспявалі выціраць пот, і той скочваўся па твары на грудзі.

Серафіму было цікава сачыць за іх працай. Ён садзіўся ў прылазніку, падоўгу назіраючы за ўвішнай працай майстроў, і яму хацелася стаць валюшнікам.

— Ну, што, малец,— сядаючы побач з ім, пытаўся Сіланцій,— вучымся? Вучыцца, знама, надабна.

Серафім не мог зразумець, ухваляе Сіланцій яго вучэнне ці ганіць. Сіланцій здаваўся Серафіму няшчырым, хітрым, але добрым умельцам, чаму можна было пазайздросціць.

Пасля вячэры маладзіца з дзядзькам крыху сядзелі ў хаце, потым бралі падрыхтаваныя бабуляй Кацярынай кажух, армяк, радновую посцілку і вялізную падушку, адпраўляліся на начлег у лазню. Сіланцій звычайна гаварыў, калі яны хаваліся за дзвярамі:

— І-і-іх! Маладосць — дурносць. У яго ж сям'я сем-шэсць, а во звязаўся. Праўда, баба яна рахманая. А мужыку ласка вунь як надабная.

Сіланцій заставаўся ў хаце. Спаў ён на шырокай лаўцы за сталом галавой пад абразы. Але Серафім ніколі не бачыў, каб Сіланцій на сон хрысціўся ці чытаў малітву. Дзед бурчэў: стары, а бога забыўся. Але гаварыў тады, калі Сіланція не было ў хаце.

Седзячы на ўслоне пры печы, Сіланцій курыў самакрутку, нетаропка апавядаў пра розныя здарэнні і гісторыі, якіх ён ведаў безліч. Слухалі яго ўважліва, жанчыны жахаліся, калі Сіланцій апавядаў пра нешта страшнае. Гаварыў ён тады з асаблівай насалодай.

Быў ён родам аднекуль з-пад Таропы, як ён казаў, «цвярскі-піцерскі», з нейкай лясной вёсачкі, да якой і дабрацца было немагчыма: увосень і вясной стаяла непралазная гразь, зімой дарогу замятала так, што праехаць па ёй можна было хіба на лыжах. Зносіны меліся толькі ўлетку, ды і то, калі месяцы два запар стаяла гарачыня. Зямлі вёска амаль не мела, а што адваявала ў лесу — не радзіла. А калі і радзіла, дык

збажыну вечна або прыхоплівалі прымаразкі ў самае красаванне, або збіваў град, або ўсё вымакала, так што людзі жылі рамёствамі: валялі валёнкі, шылі кажухі, армякі і іншую немудрагелістую апранаху, сталярылі, слясарылі, калолі на рэках лёд для скляпоў, займаліся шавецкай і рымарскай справамі. У вайну Сіланцій Грубін пабываў у палоне ў немцаў. Пра палон ён мог гаварыць бясконца доўга і цікава. Хваліў немцаў за іхнюю працавітасць, пра немак адзываўся непрыстойна, але і з удзячнасцю. Асабліва прыгадваў нейкую фраў Лізку, якая яго выручыла з палону.

Бабулю Кацярыну Сіланцій чамусьці называў казяйкай. Серафіму было непрыемна, што Сіланцій назнарок перакручвае рускае слова «хазяйка» на нейкае абразлівае «казяйка». Але як толькі Сіланцій пачынаў апавядаць пра чарговую гісторыю, Серафім забываўся на ўсе крыўды.

Часам Сіланцій пераводзіў гаворку на цярністы шлях цяперашняга жыцця. Падкідваў у касцёр сялянскай незадаволенасці ахапку сухіх дроў. Найчасцей выклікаў на размову дзядзьку Хведара, у якога на ўсе пытанні сялянскага існавання меліся свае погляды.

Звычайна вясёлы, узнёслы, жыццярадасны дзядзька Хведар у размовах пра сялянскае жыццё станавіўся змрочны, прадракаў сялянскаму саслоўю немінучыя беды.

— Не магу пагадзіцца,— казаў Сіланцій.— Урад таксама не дурань, таму і заклікае сумленнае сялянства ўзбагачацца. Іначай хана будзе краіне і немінучы голад.

— А вы наперад гляньце, наперад,— заклікаў Хведар.— Мы куды ідзём? У камунізм. Во ў чым загваздка.

— Многа ты знаеш,— абураўся дзед.— А што такое мужык, не знаеш. А ён, калі што якое, ёсць хвундамент Расіі. На ім усё трымаецца, бо без хлеба і бульбы за стол не сядзеш. Верна чалавек кажа: урад не дурань. Сказаў — трэба весці культурную гаспадарку. Мужык будзе багаты, і Расея не збяднее. А пры тваім камунізме з торбай жабраваць пойдзем.

— Дык а я што кажу — тое ж. Мужыку свабода

нада, а яго збіраюцца загнаць на пралетарскую пераплаўку,— спрачаўся Хведар.

— Гэта ж, напрымерачы, хто загнаць хоча? — пытаўся Сіланцій.— І чаму мужык стане цярпець?

— Не стане,— адказваў Хведар.— Але я цвяроза разважаю. Вы Леніна або Троцкага чыталі? А я чытаў. І іхнюю прамудрасць да донца спазнаў.

— Ну, ну, цікава, у чым яна,— падахвочваў Сіланцій.— Дужа нават анцірэсна ведаць.

— А ў тым, што камунізм, як і вучаць, у нас пабудуюць, хоць вы там распеleast ражыцеся. Чаму? Адкажу. Увесь свет казаў, што бальшавіцкая ўласць доўга не пратрымаецца, а яна не толькі пратрымалася, а замацавалася. Так будзе і з камунізмам: пабудуюць, бо вера і надзея на яго вялікая, як на нябесны рай, а можа, і большая. Сказана: наша пакаленне будзе жыць у камунізме. Што ета такое? А во што. Ніякай табе ўласнасці ні на зямлю, ні на жывёліну, ні на маёмасць — усё агульнае. А каб да гэтага дайсці, трэба мужыка перарабіць у пралетарыя, а карацей — у жабрака. Па-навуковаму: пераварыць селяніна ў пралетарскім катле. І пераварaць, папомніце маё слова.

— А калі я не захачу пераварвацца? — зацята спытаўся Раман.— Што ж у нас і свабоды няма?

— А ў цябе ніхто не спытае,— адказаў Хведар.— Раз патрэбна пабудаваць камунізм, значыць, лічыцца з тваім жаданнем ніхто не стане. Знішчаць цябе як клас. Так, як знішчылі паноў ды капіталістаў.

— Ну, да гэтага не дойдзе,— стаяў на сваім дзед.— Мужыка нельга знішчаць — гарадскія перадохнуць.

— Смешна цябе слухаць, тата,— засмяяўся Хведар.— У Троцкага як сказана? А так. Чалавек — дужа лянівая жывёліна. Яго трэба змушаць рабіць тое, што ад яго ўлада патрабуе. Як у арміі: рабіць і не разважаць. Скажуць табе ў Сібір ехаць — не пярэч. Сабірай манаткі — і ў дарогу. Не паедзеш — значыць, ты дэзерцір. А дэзерціраў без суда расстрэльваюць.

— Выходзіць, мужыку няма выкруткі? — асуджана сказаў Раман.

— Паложым, Троцкага ўжо скалупнулі,— падказаў Сіланцій.— Цяпер усё, што ён пісаў, прыгодна на адно — зад падціраць.

— Верна,— весела сказаў Хведар.— Скалупнулі. А толькі ад ягоных указанняў не адмовяцца. Дужа яны прыдатныя для таго, каб наша пакаленне жыло пры камунізме. Без прымусу нам сто, а можа, і болей гадоў той камунізм чакаць. А яго ж хочуць неадкладна будаваць. Во ў чым сакрэт. Таму і давядзецца трымацца Троцкага.

— Хітра,— сказаў Сіланцій.— Дык што ж, па-твойму, мужыку рабіць?

— Пакуль у мужыка не будзе партыі, якая яго абараняла б, мужык зусім бяспраўны.

— Не дазволяць,— важка сказаў Сіланцій.— Мужыкоў многа. Іхняя партыя можа быць паболей бальшавіцкай.

Валёнак навалялі ўсім. Серафіму таксама. Валюшы адправіліся далей. Наступалі каляды. Адсвяткавалі іх у тым годзе весела, з ёлкай. А назаўтра дзядзьку Хведара выклікалі ў гэпэу, якое па-старому яшчэ называлі чэка.

Калі на трэці дзень Хведар не вярнуўся дамоў, дзед з Раманам адправіліся ў горад. Іх таксама не было дзён тры. Прыехалі яны на самы стары новы год.

Увечары Серафім спытаўся ў дзядзькі Хведара:

— За што цябе арыштоўвалі?

— За язык,— адказаў Хведар.— Стары валюшнік — божы дзядок — накляпаў. Настае пара — нічога не скажы. Ледзь з баразны — адразу табе па лбе — контра!

— Але ж адпусцілі,— нагадаў Серафім, успамінаючы Маркавы рашучыя словы: з контрай можа быць адна гаворка — куля.

— Адпусцілі!.. Каб не Дрэль, цёткі Дар'і зяць, дык карміць бы мне турэмных клапоў. Дзякуй яму, памог. Ды і затое дзякуй, што на нос наківаў: трымай язык на прывязі, бо адкусіць можна. Яно і праўда, язык мой — вораг мой. Мужыку не прывыкаць з завязаным ротам жыць.

Хведар гаварыў з нечуванай зацятасцю, але і са страхам. Аж Серафіму стала боязна: ён зусім не ведаў, пра што можна гаварыць, а пра што нельга. Страшыла — скажаш не тое, і залічаць у контру, а з контрай цацкацца не стануць...

## 8

Арышт дзядзькі Хведара быў першым напамінам пра тое, што над дзедавай хатай — як і над усім сялянскім родам — навісла вялікая і непазбежная бяда. Проста гэтаму не надалі значэння: лёс яшчэ мілаваў, і жыло спадзяванне на шчаснасць і дабрабыт. Так бывае перад скананнем: чалавек раптам пачуе сябе здаровым і моцным, узрадуецца жыццю, а смерць ужо чакае яго ў вобразе чорнага касца.

Спачатку раскашавала дружная вясна: дзён за дзесяць сагнала з палёў снег; канавы, ручаіны, рачулкі і рэкі павыходзілі з берагоў, грымліва неслі на распраўленых плячах вялізныя крыгі, а калі траплялі на шляху якія будыніны, падхоплівалі і іх, неслі ў мора. Казалі, па Дзвіне плыў цэлы хляўчук, на страсе якога кукарэкаў певень. Брахня, вядома, але, што праўда, дык праўда, разводдзе знесла аж два масты праз рэчкі Пітамку і Абалоць.

На вялікдзень зазелянелі сады. Людзі хадзілі ў кашулях, радуючыся ранняй вясне, святу і жыццю, якое набывала такую патрэбную селяніну ўстойлівасць.

І лета выдалася нядрэннае, не з тых, што пасылае мужыку дажджы тады, калі косяць, а не тады, калі просяць. Дажджы ішлі ў пару, гналі ў рост збажыну і бульбу, траву і гародніну. Праходзілі яны і ў сенакос, і ў жніво, але спагадлівыя, ціхія, без граду і ветралому.

Аблашчаная сялянскімі рукамі, зямля плаціла людзям удзячным ураджаем. У той год з асаблівай сілай праявілася патрэба ў святах і зносінах. Ездзілі на кірмашы і абедні ў гонар забытых за гады ліхалецця святых за дваццаць і больш кіламетраў, знаходзілі там таксама забытых сваякоў, ладзілі даўно перапыненыя сувязі, высватвалі ў далёкіх краях дзевак, пышна гулялі вяселлі і нарадзіны. Здавалася, людзі не нацешацца наладжаным жыццём і адпушчанай воляй.

Аднекуль з-за Дзвіны, вёрст за трыццаць, з-пад Езярышча, дзе раз у год у маленькай царкве багародзіцы-заступніцы ўсіх пакутных аж тры дні гудзеў кірмаш і сам архірэй прыязджаў правіць абедню, Хведар прывёз жонку Аўдакею — Дуню.

Вяселле спраўлялі ў кароценькі перапынак між сенакосам і жнівом, за тыдзень да Іллі. Невысочанькая, мілатварая, з тоўстай аўсянай касою Дуня прывезла з сабой дабрэнны, на зайздрасць вяскоўцам, пасаг: карову з цялічкай, куфар з тканым і вязаным, ясеневую шафу з вопраткай.

Дуня аказалася ўвішнай, працавітай і на полі, і па гаспадарцы. Баба Кацярына не магла нарадавацца нявесткай.

У той год Серафім пайшоў вучыцца ў пяты клас Бялынавіцкай сямігодкі. Вераснёвай сонечнай раніцай дзядзька Раман адвёз яго ў інтэрнат пры школе, сам паставіў зроблены ім ложак падалей ад акна, каб Серафім не прастуджваўся, заслаў сяннік пасцілкай у елачку, паставіў пад ложак куфэрак з прадуктамі, чыстай кашуляй і зменай бялізны. Наказаўшы не сумаваць, адправіўся дамоў. Серафім зноў адчуў сябе нікому непатрэбнай сірацінай.

Інтэрнат быў падобны на закінутую, неахайную начлежку з трох пакояў. Вярнуўшыся са школы, вучні самі распальвалі печ, варылі ў чыгунках адзіную гарачую страву — бульбу, якой потым і вячэралі. Рыхтаваць урокі інтэрнацкія хадзілі ў школу, для іх там быў адведзены клас, у якім гарэла пад жасцяным абажурам карасінавая лямпа і дзе дзяжурыў настаўнік. Ён жа дапамагаў вучням рашаць задачы, тлумачыў незасвоеныя правілы і формулы.

Раз на тыдзень інтэрнацкім прывозілі з дому прадукты, змену бялізны. Раз на тыдзень на сельсавецкіх задворках палілася агульная лазня, у якую нехта з настаўнікаў вадзіў вучняў і наглядаў, каб яны добра вымыліся. Раз у месяц інтэрнацкіх адпускалі дамоў. Паяўляючыся ў дзедавай хаце, Серафім адчуваў сябе чужым — за месяц ён адвыкаў ад сям'і, сямейнай утульнасці і пэўнага хатняга распарадку. Чужой здавалася і дзедава хата. Інтэрнат з яго абыякавым побытам усё больш станавіўся Серафіму родным домам.

Ды раптам усё памянялася ў Серафімавым жыцці.

У адзін завірушны дзень, як толькі пачаліся заняткі, настаўнікі старэйшых класаў прапанавалі інтэрнацкім зайсці ў настаўніцкую. Там іх чакаў дырэктар Захар Данілавіч Быська. Ён загадаў ім выстраіцца ў шарэнгу, а калі яны выстраіліся,

прайшоўся паўз строй, пільна заглядаючы вучням у твары. У Серафіма здрыганулася сэрца: учора ягоны сусед па ложку шасцікласнік Ладзік Буевіч, з якім яны сышліся на схільнасці да чытання літаратуры, пад вялікім сакрэтам даў пачытаць Серафіму без пачатку і канца кніжку вершаў.

Не сказаць, каб дасюль Серафім вельмі захапляўся вершамі. Што-кольвечы чытаў. Аляксея Талстога, напрыклад: «Колокольчики мои, цветики степные! Что глядите на меня, темно-голубые?» або «Ты знаешь край, где все обильем дышит, где реки льются чище серебра, где ветерок степной ковыль колышет, в вишневых рощах тонут хутора?» А яшчэ пра ганца князя Курбскага Ваську Шыбанава: «Шибанов молчал. Из пронзенной ноги кровь алым струилася током, и царь на спокойное око слуги взирал испытующим оком».

Спрабаваў Серафім чытаць вершы Буніна. Яны здаліся яму цьмянымі па сэнсе, знарок прыдуманымі: «В блеске огней, за зеркальными стеклами, пышно цветут дорогие цветы». Серафім спрабаваў уявіць сабе бляск агнёў, люстэркавыя шкліны і дарагія кветкі — усё было, здаецца, зямное, знаёмае, але нішто не ўяўлялася. Серафім ніколі не бачыў бляску агнёў. А як можна разгледзець кветкі за вокнамі, якія зашклёны люстэркавымі шклінамі? І ўжо зусім было незразумела, што азначае слова «дарагія кветкі». Па цане? Ці дарагія сэрцу, як, бывала, казала маці?

Сярод кніг, прывезеных ад паняў Занковіч-Ляскіх, быў яшчэ чытальнік-дэкламатар з мноствам звонкіх, але таксама як бы знарок прыдуманых вершаў, якія не закраналі Серафімавых пачуццяў. «На белом небе все тусклей златится черная лампада, и в доцветании аллей дрожат зигзаги листопада»; «Дверь полуоткрыта, веют липы сладко... на столе забыты хлыстик и перчатка»; «В аллее нежной и туманной, шурша осеннею листвой, дитя букет сбирает странный, с улыбкой жизни молодой»; «Твой лоб в кудрях отлива бронзы, как сталь глаза твои остры, тебе задумчивые бонзы в Тибете ставили костры»; «Вечерний вздох, светясь, прошел по хлебу, колючими колосьями шурша».

Вершы з Ладзікавай кнігі надзіва былі суладны настрою Серафіма. Яны кранალі яго сугучнасцю

думак і ўяўленняў — здавалася, іх прыдумаў не нейкі Сяргей Ясенін, пра якога Серафім ніколі не чуў, а ён сам. Нават не прыдумаў — пачуцці самі вылiліся ў вершы. «Не жалею, не зову, не плачу, все пройдет, как с белых яблонь дым. Увяданья золотом охваченный, я не буду больше молодым».

Божа, дык гэта ж пра яго! Не, гэта ён сам пра сябе! Там, у Бабінічах, у чацвёртым класе, засталася ягоная маладосць. Ён стаў дарослы і мудры. Таму яго і адправілі ў інтэрнат: ты дарослы! Дык хіба можна плакаць! Ды і каго можна клікаць? Дарослы павінен спадзявацца толькі на сябе.

Першы верш гэты засеў у горле дзірлівым камяком тугі і смутку: «Не жалею, не зову, не плачу...»

Здавалася, пасля такога верша і не будзе чаго сказаць. Аж не! Наступны верш ашаламіў Серафіма кантраснай несумяшчальнасцю далікатных слоў з пошлай грубасцю другіх, якія было б сорамна вымаўляць пры дарослых. «Полно кротостью мордищ праздниться, любо ль, не любо ль — знай, бери. Хорошо, когда сумерки дразняться и всыпают нам в толстые задницы окровавленный веник зари».

Ружовы конь і акрываўлены венік! Дым белых яблынь, морды і тоўстыя зады! Серафіму было дзіўна і чамусьці радасна, што пяшчотныя словы так проста і даверліва стаялі побач са словамі жорсткімі, грубымі і нават брыдкімі.

«Вот она, суровая жестокость, где весь смысл — страдания людей! Режет серп тяжелые колосья, как под горло режут лебедей».

І зноў тое ж: прыгажосць і побач жорсткасць. Як прыгожа жнеі жалі жыта, дасканалым рухам перахопліваючы сцяблы, спрытна падразаючы іх увішным сярпом, а потым непрыкметным намаганнем узмахвалі жменяй зрэзанага жыта над галавой, каб пакласці ў сноп. Узмах жмені жыта быў падобны на мах птушынага крыла. Сапраўды залюбуешся.

А далей яго яшчэ больш ахапіла здзіўленне. Здавалася, што паэт пабываў у іхніх мясцінах: на Задунаўі, каля піўной Брусера, дзе заўсёды тоўпіўся п'яны народ, у Заручэўі, дзе цыганы гандлявалі коньмі, на Полацкім базары, дзе каля рэстарана з фікусамі, духавым аркестрам і афіцыянтамі ў белых куртках, на газоне з чэзлай травой ляжала гарадская

шпана, што вечна піла, скандаліла, пускала ў ход кастэты і фінкі, слязліва слухала спяванне пад гармонік жабракоў-прайдохаў.

«Снова пьют здесь, дерутся и плачут под гармоника желтую грусть». «Сыпь, гармоника. Скука... Скука... Гармонист пальцы льет волной. Пей со мной, паршивая сука, пей со мной». «И теперь уж я болеть не стану. Прояснилась омуть в сердце мглистом. Оттого прослыл я шарлатаном. Оттого прослыл я скандалистом».

Серафім дзівіўся сам з сябе: вершы запаміналіся з першага прачытання.

— Ладзік,— папрасіў Серафім сябра,— дай мне кнігу яшчэ на дзень, я перапішу вершы ў сшытак.

— З глузду з'ехаў, ці што,— накінуўся на яго Ладзік.— Ды за такое можна запраста са школы паляцець. Вершы гэтыя забароненыя. Глядзі не прагаварыся, што я даваў табе іх чытаць.

Няўжо нехта падслухаў іхнюю з Ладзікам размову? У Серафіма моцна білася сэрца: забароненая кніга ўсё адно што і распушчаны язык. Дырэктар спыніўся перад Ладзікам. Сумнення не было — іх нехта выдаў. Іначай, чаго б яму было спыняцца і перад Серафімам і перад Ладзікам? Цяпер іх, напэўна, арыштуюць, як Хведара. І ўжо ніхто не выручыць, нават Ілля Дрэль, Аксінчын бацька.

Дырэктар дайшоў да канца шарэнгі, вярнуўся на сярэдзіну.

— Я заклікаю вас самім прызнацца ў злачынстве, якое адбылося ў інтэрнаце. Чыстасардэчнае прызнанне будзе ўлічана мною пры назначэнні кары. І так, хто хоча прызнацца ў зробленым злачынстве? — пры гэтым дырэктар пільна паглядзеў на Серафіма.

Серафім пачуў, як ягоны твар заліўся чырванню, а сэрца моцна загрукала ў грудзях. Ён змагаўся з сабой: прызнацца ці не прызнацца? Калі прызнацца, дык само па сабе трэба будзе выдаць Ладзіка. Серафіму гэтага не хацелася, што і стрымлівала яго ад апошняга кроку.

— Значыць, ніхто прызнавацца не хоча? — грозна спытаўся дырэктар.— Думае, што мы нічога не ведаем. А мы не хочам называць прозвішча таго, хто зрабіў злачынства. Мы хочам даць яму магчымасць самому прызнацца ў сваім зладзействе.

— Дык, а што здарылася? — прагучаў адзінокі голас вучня сёмага класа Івана Пракудзенкі, якога звалі Бык.

Хлопец гэты ні з кім не вадзіў дружбы, вучыўся, ледзь-ледзь пералазячы з класа ў клас, але нязменна атрымліваў пахвалу ад настаўніка па політэхнізацыі. Іван на ўроках па сталярнай справе рабіў такія рэчы, якія былі не па сіле і самому настаўніку.

— Законнае пытанне,— падхапіў дырэктар.— А вось што здарылася. Адзін з вас, а я ўжо казаў, чаму не хачу называць ягонае прозвішча, сёння ноччу прабраўся ў пакой, дзе жывуць лепшыя вучні школы, баявыя нашы камсамольцы і, добра ведаючы, што Барыс Вішнякоў, стараста шостага класа, збіраў грошы на набыццё падручнікаў і школьных прылад, украў тыя грошы ў суме семдзесят два рублі. Учынак, безумоўна, агідны, брыдкі, але ён можа быць дараваны, калі вучань сам прызнаецца, аддасць грошы і дасць слова ніколі больш такога не рабіць.

Серафім адчуў, як цяжкая навала звалілася з ягоных плячэй — ён грошай не браў. Але злосны позірк дырэктара чамусьці зноў спыніўся на ім. Прынамсі, так здалося Серафіму. Шарэнга і цяпер не азвалася. Дырэктар яшчэ раз прайшоўся паўз яе, і Серафім адчуў, як ягоны позірк праця́ў яго наскрозь.

— Ну, што ж,— сказаў ён.— Тады будзем весці дазнанне. А пасля паклічам міліцыю. Яшчэ раз пытаюся: хто ўзяў грошы?..

Шарэнга стаяла моўчкі. Праз паўгадзіны пачалося дазнанне. Вучняў па адным выклікалі ў дырэктарскі пакой, дапытвалі па ўсіх правілах следства. Школа паціху гула. І калі каго з інтэрнацкіх выклікалі на допыт, усе глядзелі на яго, як на злачынцу, які не вытрымае допыту і прызнаецца, што ён украў грошы. Усім было цікава ведаць, хто ж акажацца злодзеем?

Настаўнік матэматыкі, кульгавы Андрэй Юр'евіч, абапіраючыся на мыліцу, зайшоў у клас, прыпёрся жыватом да стала, чамусьці пацёр руку аб руку, ухмыльнуўся ў жорсткія вусы.

— Недасейка, к дырэктару...

Пад трыма дзесяткамі пар вачэй Серафім пакінуў клас. Дырэктар чакаў яго. Запрасіў сесці, пакласці рукі на стол. Серафім сеў. Дырэктар стаў ззаду за ім.

— Куды схаваў грошы? — ціха, нібы па сакрэце, спытаў дырэктар.

— Я не хаваў,— таксама ціха адказаў Серафім.

— А дзе паклаў?..

— Я не браў...

Дырэктар правёў вялікім пальцам па валасах ад патыліцы да макаўкі, спытаўся:

— Баліць?..

У Серафіма выступілі на вачах слёзы.

— Я не браў,— зацята сказаў ён.

— Будзе і не так яшчэ балець, калі не прызнаешся,— паабяцаў дырэктар.

— Я не браў,— адказаў Серафім.

Дырэктар схапіў са стала нейкі падручнік, выцяў Серафіма па пальцах, потым яшчэ і па спіне.

— Хто браў? — крыкнуў ён.— Кажы, злодзей, з кім кралі грошы? А не скажаш, душу вытрасу.

Серафім нічога ўжо не адчуваў, нават страху. Ён проста ненавідзеў дырэктара, які прычапіўся да яго, хоць сам жа казаў, што ведае, хто ўкраў грошы.

— Я не браў, не браў, не браў! — што ёсць сілы закрычаў ён.— Хоць забіце, не браў!..

— Так я і паверу,— спакойна сказаў дырэктар.— Ведаю я вас, гарадскую шпану. Марш, зладзюга, дамоў. Хай прыйдуць бацькі і прынясуць грошы.

Дырэктар пляснуў цяжкай далоняй па патыліцы, потым, на развітанне, узяўшы за каўнер, трасянуў яго і выштрухнуў за дзверы. Серафім вярнуўся ў клас, моўчкі ўзяў кнігі, выйшаў з класа. Чуў, як за ягонай спіной матэматык сказаў вучням:

— Зладзеям не месца ў школе.

Асуджэнне, аднак, не кранула яго: вельмі вялікай была крыўда, што ніхто не хоча верыць яго сумленнасці. Апынуўшыся на двары пад халоднымі парывамі завірухі, Серафім спыніўся, не ведаючы, што рабіць далей. Ісці дамоў не хацелася. Што ён скажа дзеду? Ці паверыць дзед у ягоную сумленнасць? Дырэктар жа не паверыў, а ён жа вучыў справядлівасці. Што будзе, калі не павераць і дома?

Свет выглядаў дужа няўтульна. Можа, яшчэ таму, што лютавала завіруха. Ну, проста канец свету, пра які аднаго разу расказваў стары валюшнік, што потым накляпаў на Хведара.

Божа, як ён забыўся на Хведара? Во хто паверыць

яму і паможа выбрацца з бяды. Толькі б застаць Хведара аднаго ў хаце. Нічога, ён падпільнуе яго на двары, калі той выйдзе з хаты па якой-небудзь гаспадарскай справе.

— І цябе падазраюць? — пачуўся знаёмы голас Ладзіка Буевіча.

— Ён прагнаў мяне па бацькоў,— сказаў Серафім.— А бацькоў у мяне няма.

— Глупства,— па-даросламу важка адгукнуўся Ладзік.— Горай другое: Бабарэнь знайшоў забароненую кнігу. Дурань я. Усё пры сабе насіў, а тут кінуў у інтэрнаце, пад матрацам. Абшукваючы інтэрнат, Бабарэнь і знайшоў кнігу. Ты толькі не прызнавайся, што я даваў табе чытаць тыя вершы. Яны ўсё дапытваліся, дзе я ўзяў кнігу і ці даваў каму чытаць. Знайшлі дурня!

— А што ты сказаў? Дзе ўзяў кнігу?

— Схлусіў, што знайшоў у хаце-чытальні. Нехта забыўся на стале.

— Хлусіць брыдка,— зазначыў Серафім.

Ладзік фыркнуў:

— Дзівак, па-твойму трэба было праўду сказаць? А за праўду мяне вон са школы. А так кнігу спалілі, а мяне па бацьку пагналі. Думаюць, я грошы ўзяў.

— А хто ўкраў грошы? — спытаўся Серафім.

— Каб жа я ведаў. Я яму морду распісаў бы. У адным упэўнены: ні я, ні ты грошай не бралі. Можа, іх Барыска на перніках праеў. Ён апошнім часам крамныя пернікі жраў.

Пасля размовы з Ладзікам Серафіму стала лягчэй. Ён нават непрыкметна дайшоў да вёскі, але тут яго зноў ахапілі сумненні. Пастаяўшы на двары і не дачакаўшыся Хведара, Серафім нясмела адчыніў дзверы ў хату.

За сталом сядзелі трое незнаёмых людзей, якія нешта пісалі, а перад сталом стаялі дзед з Раманам.

— А божачка, Сімачка прыйшоў,— пляснула ў далоні баба Кацярына, якая стаяла каля печы.— Ці не захварэў ты, Сімачка?

Дзед з Раманам не звярнулі ніякай увагі не дачаснае з'яўленне Серафіма.

— Распішыцеся,— сказаў дзеду адзін з незнаёмых.

— Хай ён, я непісьменны,— падштурхнуў дзед Рамана.

— А нас во ў камунію перапісваюць,— растлумачыла бабуля прысутнасць чужых людзей у хаце.— Гіганта, кажуць, будзе, а што такое, нікому невядома. Божачка, проста вавілонскае стоўпатварэнне.

Раман, не спяшаючыся, падпісаўся пад паперамі. Незнаёмыя дружна падняліся з-за стала. Маладзейшы член камісіі запіхнуў паперы ў руды партфель, а старшы, у доўгім шынялі і лахматай шапцы, моцна паціснуў рукі Раману і дзеду, загаварыў, нібы на якім важным сходзе:

— Шаноўныя грамадзяне, члены саўгаснай гаспадаркі «Гігант», якая створана па ўказанні партыі на прадмет хутчэйшага ўступлення ў светлае будучае — камунізм, з пралетарскім энтузіязмам віншую вас на сённяшні дзень з адарванай пупавінай прыватнай уласнасці і пераходам на стальныя рэйкі новага жыцця. Хачу, аднак, папярэдзіць, што нічога з перапісанага камісіяй, тоісць намі, вы не маеце права прадаваць, спажываць, перадаваць каму з радні ці прочай іншай грамадскасці, роўна як не маеце права рэзаць жывёлу ці птушку ў выглядзе кароў, цялят, авечак, курэй, гусей, качак, свіней ва ўсіх узростах. Калі ж, а такое можа здарыцца, адбудзецца ў выглядзе натуральнага падзяжу каго з прысутных у хлявах жывёлін, вам неабходна неадкладна, не пазней як праз сорак восем гадзін з часу падзення, паведаміць у дырэкцыю саўгаса, адкуль на ваша імя будзе выслана камісія, якая правядзе экспертызу, тоісць вызначыць шляхам ускрыцця прычыну смерці. Зразумела я папярэдзіў ці ёсць недаўменныя пытанні?..

Дзед з Раманам прамаўчалі. Затое ў бабулі знайшлося «недаўменнае» пытанне:

— Скажыце, людцы добрыя, а ці можна даіць каровак і спажываць малако, хаця б карміць ім дзетак?

Старшы камісіі нахмурыўся: пытанні, мабыць, выклікалі ў яго незадаволенасць.

— Тлумачу яшчэ раз. На тым тыдні ўся дзвіжымасць, як та: каровы, свінні, авечкі, коні, куры і прочая птушка будуць перагнаны ва ўказаныя месцы. Датуль малако і прочы прадукт харчавання можна спажываць як дарослым, так і дзецям. У далейшым ніякіх прадуктаў харчавання, як та:

сала, вяндліну, мяса, крупы, муку ў асабістым карыстанні мець не паложана.

— Божачка, а што ж мы будзем есці? — спалохалася бабуля.

Ад другога пытання старшага аж перакрывіла.

— Растлумачваю папулярна і даходліва,— сказаў ён.— Усё харчаванне членаў саўгаса будзе арганізавана праз сталовыя, згодна з навукова абгрунтаванымі нормамі і з улікам каларыйнасці і вітамінаў.

— Ну во, і дачакаліся камунізму,— сказаў дзед, калі камісія пакінула хату.

— А ўсё свае,— падрахаваў падзеі вечна маўклівы Раман.— Няўжо там, наверсе, не ведаюць, што нашы жыўчыкі вёску гробяць? Гэта ж трэба дадумацца: тры сельсаветы зганяць у адну камуну. І ўправы на іх не знойдзеш...

— Што міру, тое і бабінаму сыну,— адказаў яму дзед і толькі цяпер заўважыў Серафіма, які ўсё яшчэ стаяў у парозе: — Распусцілі вас ці што здарылася?

Серафім блытана, цераз пень-калоду, распавядаў пра ўкрадзеныя грошы, пра тое, што дырэктар загадаў заўтра прыйсці дзеду ці яшчэ каму ў школу і прынесці семдзесят два рублі.

— А божачка, дзе ж цяпер грошы возьмеш, калі нічога не прадасі? — загаласіла бабуля.

— Памаўчы ты,— цыкнуў на яе дзед.— Нешта я не разбяруся: дык узяў ты грошы ці не браў?

— Што ты, стары, кажаш,— накінулася на дзеда бабуля.— Хіба Сімка можа ўзяць грошы? Паклёп на яго ўзвялі. Трэба паехаць і разабрацца.

— Калі што якое, дык, вядома,— згадзіўся дзед.

Страх, які здаваўся такім неадольным, сам сабой развеяўся. Серафіму аж зрабілася няёмка, што ён дрэнна думаў пра дзеда, баяўся ягонай кары.

Позна ўвечары прыехалі з горада Хведар з Дуняю, прывезлі нямецкую малацілку «Ланц» — дзедаву мару. Дзед не пайшоў глядзець на яе — усё роўна забяруць у саўгас.

Назаўтра Хведар павёз Серафіма ў школу. Пасля ўчарашняй завірухі па-вясноваму сінела высокае неба. Звонка рыпеў пад палазамі снег, весела фыркаў конь, але не было разгону саням — уся дарога ў суцэльных сумётах, цераз якія ледзьве пералазіў

конь. Звычайна гаваркі дзядзька Хведар чамусьці зацята маўчаў.

Падагнаўшы сані пад самы ганак, Хведар кінуў Серафіму лейцы, загадаў чакаць. Пайшоў у школу, падмятаючы кажухом снег з прыступак ганка.

Конь адразу занурыўся ў адны яму вядомыя думкі. Ён стаяў як укопаны, прывычны да такіх вось вымушаных адпачынкаў, калі гаспадар не лічыў нават патрэбным кінуць яму ахапак сена. Нешта падобнае адчуваў і Серафім — сваю падпарадкаванасць чужой волі,— і яму хацелася як найхутчэй стаць такім незалежным, як дзядзька Хведар.

Два вераб'і, не зважаючы на Серафіма, адважна зляцелі з-пад даху на сані, спадзеючыся пажывіцца чым-небудзь сытным. Яны не выглядалі знявоненымі. Абое тлустыя, жвавыя і хітравокія. Верабей, няйначай, яшчэ з-пад даху аблюбаваў аўсяную мяцёлку. Ён падхапіў яе, напружыўшы тонкія ногі, выцягнуў з сена, пераможна чырыкнуў і цяжка панёс пад дах, зводзячы з сабой вераб'іху.

У сузіральнай задумлівасці Серафім не заўважыў, як на ганку паявіўся Хведар.

— Ідзі ў клас,— сказаў ён з сумнай бесклапотнасцю.— Пасля ўрокаў я пад'еду да інтэрната. Чакай мяне там.

У школьнай раздзявальні ўладарыў устойлівы дух суконнай вопраткі. За дзвярамі направа ў ягоным класе чуўся голас Захара Данілавіча. Серафім аж разгубіўся. Хай бы хто іншы вёў урок, а не Захар Данілавіч. Серафім нясмела адчыніў дзверы, прасунуў галаву, не рашаючыся зрабіць апошні крок. Захар Данілавіч азірнуўся, строга сказаў:

— Садзіся...

Серафім сеў на сваё месца. Ён усё хацеў злавіць позірк настаўніка, але яму гэта так і не ўдалося.

У часе перапынку Серафім пайшоў у шосты клас да Ладзіка Буевіча. І той сустрэў яго так, нібы нічога не здарылася. Серафім пачаў расказваць Ладзіку, якія ён вынес пакуты, але той перапыніў яго:

— Дык ты хіба нічога не ведаеш? Не трэба было табе дамоў спяшацца. Пасля вялікага перапынку Борка Вішнякоў сам прызнаўся, што грошы прагуляў у карты. Яны ў сваім пакоі ўвесь час у карты дуліся.

Навіна ашаламіла Серафіма.

— І што ім будзе?

— А нічога,— адказаў Ладзік.— Пасварыліся на іх, і ўсё. Шкада, кнігу спалілі. А кніга не мая. Не ведаю, як і на вочы яе гаспадару паказацца.

Ачмурэлы ад пачутага, Серафім паплёўся ў свой клас. Там, як звычайна, шалелі вучні, ладзілі кучу малу. Нехта схапіў Серафіма, паваліў, а тыя, хто выбраўся з яе, з самага падыспаду, наваліліся на яго, таўклі пад бакі, і ён правальваўся ўсё ніжэй, пакуль не апынуўся на падлозе. Серафіма ахапіла невядомая яму дасюль азартная злосць. Ён пачаў выкручвацца, штурхацца, пакуль не выбраўся наверх, і ўжо сам кінуўся на кучу малу, з усяе сілы стаў прыціскаць тых, хто апынуўся пад ім, адчуваючы хваравітую задаволенасць.

## 9

Далей, да нечаканага і страшнага канца, падзеі панесліся галопам. (Зрэшты, так здавалася пазней.) Яны запынялі Серафімаву ўвагу, як бліскавіца запыняе ўначы зрок на высветленых ёю вельмі чорных, нібы абгарэлых, дрэвах у садзе.

Так і не развінуўшы сваю дзейнасць, недзе ў рудым партфелі маладзейшага члена камісіі сканала ідэя стварэння вялікага, на тры сельсаветы, саўгаса «Гігант», якім збіраліся наблізіць камунізм — светлую будучыню, як пра яго пісалі газеты. Заміж саўгаса неўзабаве ўзнікла таварыства, для якога былі прывезены веялкі і трыеры, каб перавеяць насенне для вяскоўцаў, якія цяпер іменаваліся членамі таварыства. Але распалася і яно. Светлая будучыня непрыкметна адсунулася на задні план, злілася са змрокамі аднаасобнага жыцця.

Дзед уздыхаў з палёгкаю і надзеяй, што правіцелі абдумаюцца, дадуць селяніну свабоду, а ўжо ён пастараецца накарміць агаладалую краіну. Па вясне дзед заарандаваў у паняў Занковіч-Ляскіх чатыры дзесяціны ворнай зямлі. Пані захацелі браць арэндную плату не натурай, а грашамі, па-боску невялікімі, што было вельмі выгадна дзеду.

Вёска яшчэ жыла, але смяротная рука ўжо была занесена над ёю, і цень ад яе выклікаў неўсвядомлены

страх. Пад саламяныя стрэхі пакрысе забіралася пакутлівая трывога. Толькі нячулы не ўспрымаў яе.

Перад зімнім Міколам па акрузе прайшлі-пракаціліся сялянскія сходы; нетаропкіх, асцярожных мужыкоў пакуль бралі ласкай, угаворвалі запісвацца ў калгасы. Чым розняцца калгасы ад паслярэвалюцыйных камун, якія непрыкметна сканалі, або ад нядаўніх таварыстваў па супольнай апрацоўцы зямлі, ніхто толкам не ведаў. Сходы таму былі крыклівыя, зацятыя, дзе кожны стараўся даказаць сваю праўту, але на гэта ў яго не хапала ведаў. Няпэўнасць выклікала да жыцця мноства самых неверагодных здагадак і чутак, якія старанна разносілі па хатах вандроўныя калекі, сагнаныя з цвінтароў гарадскіх цэркваў усемагутнай міліцыяй.

Не было спакою і ад шматлікіх упаўнаважаных нейкіх высокіх і важных устаноў. Яны нешта перапісвалі, высвятлялі, шукалі па сялянскіх таках і пунях, нешта патрабавалі, апісвалі маёмасць, а яшчэ ледзь не кожны божы вечар праводзілі сакрэтныя нарады і паседжанні, запрашаючы на іх тую вясковую перакатную галечу, што невядома чаму і як трымалася вёскі.

Спрадвечнай практычнасці і вясковай разважлівасці прыходзіў канец. Нават у дзедавай сям'і, такой спаянай і моцнай адвечным, адным і тым жа клопатам, паявілася трэшчына: Хведар з Раманам раптам пачалі настойваць на раздзеле зямлі і маёмасці. Асабліва дамагаўся Хведар, даказваючы бацьку, што раздзел нічога не зменіць, але іхняя гаспадарка не будзе калоць людзям вочы сваёй заможнасцю. Дзед і слухаць іх не хацеў: маўляў, раздзелімся, дык жабракамі станем. Дзед перамог. Сыны згадзіліся, хоць і прадракалі бацьку незлічоныя беды. Дзед адказваў на ўсё адным і тым жа: бог даў, хай, калі яму заўгодна, і забярэ.

Спрэчкі ўзгараліся не толькі ў дзедавай хаце. Яны адбываліся паўсюль.

Серафім з незразумелай яму цікаўнасцю ўслухоўваўся ў рознагалосы пошум падыходаў, думак, меркаванняў, нечаканых высноў, недарэчных прадраканняў, арыгінальных здагадак і не менш арыгінальных прапаноў. Яго захапляла ўсё на свеце; галоўнае ж заключалася ў тым, што на вёсцы не трэба было

тайком падслухоўваць, як, бывала, пры спрэчках Марка з маці,— тут спрачаліся адкрыта, казалі тое, што думалі, не звярталі ўвагу на дзяцей, якія, седзячы на печы, акуратна ўсё засвойвалі.

У размовах старэйшых усё часцей пaміналася новае для Серафіма слова «апакаліпсіс». Пра канец свету гаварылі без страху, нават узнёсла, як пра нешта даўно вырашанае, якое, аднак, прыйшло толькі цяпер. Чакалі, можа, заўтра ці паслязаўтра сем анёлаў пратрубяць прызначаны богам час, і пачнецца нешта жудаснае, але і не так каб вельмі страшнае, а нешта накшталт самадзейнага спектакля. Спектаклі апошнім часам ставіліся ледзь не ў кожнай вёсцы.

Аднаго выхаднога дня Серафім адважыўся, пайшоў да царкоўнага старасты, каб папрасіць Біблію.

Стараста малоў на жорнах жыта. Выслухаўшы Серафіма, спытаўся:

— Цікавішся? А на прадмет чаго? Каб пазнаць бога ці ямчэй выступіць супраць яго?

Серафім спалохаўся, што стараста можа не даць Бібліі. Схлусіў, праўда, густа пачырванеўшы:

— Пазнаць бога хачу...

— Пахвальна, пахвальна,— адобрыў ягоны намер стараста.— Толькі Святога Пісання трэба кранацца з верай у бога.

Апакаліпсіс зрабіў на Серафіма такое моцнае ўражанне, што ноччу яго праследавалі кашмары. Канец свету з яго анёламі, паваротам рэчак і морам людзей паўставаў перад ім у самых жахлівых варыянтах, якія не сніліся, мабыць, самому святому Іаану, што і стварыў апакаліпсіс.

І дзед і Хведар звычайна ахвотна бралі з сабой Серафіма на сходы, якія ў тую зіму склікаліся кожны тыдзень. Ім, няйначай, было прыемна, што Серафім выгадна вылучаецца сярод вясковай басаты. І Серафім хадзіў на сходы з ахвотай. Па-першае, было цікава слухаць гарадскіх упаўнаважаных пра блізкую будучыню — камунізм. Кожны ўпаўнаважаны ўяўляў яе па меры сваіх здольнасцей да фантазіі. Але як бы яны ні малявалі будучыню, кожны з іх гаварыў з такой шчырай верай у яе, што Серафім не заўважаў ды і не хацеў заўважаць супярэчнасцей і разнабою. Па-другое, яго цешыў давер старэйшых, якія, калі настаўнікі не прысутнічалі на сходах, вылучалі

Серафіма пісаць пратаколы сходаў. Ён пісаў хутка, выразна, без памылак, а галоўнае, умеў дакладна занатоўваць сутнасць выступленняў.

Усё гэта сапраўды выгадна вылучала Серафіма сярод ягоных аднагодкаў і нават старэйшых за яго хлопцаў. Таму ён сам рос у сваіх вачах.

На трэці, а можа, на чацвёрты дзень пасля Міколы ў дзедаву хату завітала старчоўка Проска Бязвуглая. Яна і прынесла непрыемную вестку, што назаўтра прызначана высяленне кірзікскіх латышоў.

— Божачка, а іх за што? — падаючы на стол посную капусту з рыбай, падзівілася баба Кацярына.

Чутка не на жарт перапалохала дзеда, але не тым, што латышоў будуць раскулачваць,— а тыдзень назад дзед завёз на кірзікскі млын два мяшкі з пшаніцаю, каб намалоць да каляд пытляванкі на бліны і святочны пірог.

Дзед засабіраўся ехаць у Кірзіку, нягледзячы на ноч. Яго ледзьве адгаварылі. Затое назаўтра ён успароўся на досвітку і, як толькі крыху развіднела, запрог каня. Ехаць з ім падмеўся і Серафім. У яго якраз быў выхадны дзень, згодна ўведзенай тады пяцідзёнкі — самага кароткага рабочага тыдня ў свеце, што само па сабе сведчыла аб перавазе сацыялістычнага ладу над крыважэрным імперыялізмам.

Усход разгараўся яркім малінавым полымем над самым краем небасхілу. Бялявы месяц у апошняй квадры нястомна бег следам за санямі. Дзьмуў нямоцны, але пякучы вецер, балюча кусаў шчокі, нос, вушы. Мароз нагла забіраўся пад кажух і нават у валёнкі. Дзед зганяў Серафіма з саней, і яны ўдвух беглі за імі, пакуль не саграваліся.

Каля млына стаялі дзве падводы, гружаныя мяшкамі. Два мужыкі: адзін чорнабароды, мажны, у шэрым армяку з башлыком, што захутваў яго твар, другі — кволы, хваравіты, з зямлістым тварам і патухлымі вачамі, не апыняючыся, тупалі на адным месцы — грэліся. На дубовых дзвярах млына вісеў здаравенны замок — не меней як на паўпуда.

— Даўно мерзнеце? — спытаўся дзед.

— А ўжо ж,— адказаў хваравіты.

— Не сказаць, каб даўно, можа, з гадзіну,— паправіў яго чорнабароды.

— Завозна, а Стоніс не спяшаецца,— сказаў дзед.— Ці не здарылася што?

Серафіму было няёмка, што дзед прыкідваецца, быццам нічога не чуў пра высяленне латышоў.

— Латышы — народ акуратны,— азваўся чорнабароды.

— Каб жа ведаць, дзе жыве млынар, можна было б схадзіць,— падаў голас хваравіты.

Але як толькі дзед прызнаўся, што ведае, дзе жыве млынар, хваравіты пачаў наракаць на хворую нагу, на задышку, так што ў вёску давялося ісці дзеду, Серафіму і чорнабародаму, якога звалі Кірыла.

Вёска знаходзілася за лапікам яловага лесу. Ледзь бачны з-пад снежных сумётаў зімнік выкручваўся па полі пачварнай гадзюкай, але, трапіўшы ў лес, выпрастаўся, папрамаваў да вёскі. За лесам вачам адкрылася шырокая вуліца, якая зусім не была падобна на вуліцу і якая дзяліла вёску напалам: направа ад яе стаялі ўроскід такі, пуні, хлявы, паветкі, налева — жыллё: вялікія, пад чарапічнымі дахамі пяцісценкі, каменныя крушні і летнія наводшыбе кухні. Хаты стаялі не па-беларуску свабодна, на добрай адлегласці адна ад адной.

Уся шырокая вуліца цяпер была застаўлена санямі, на якіх грувасціліся хатулі і рэчы, сядзелі дзеці і нямоглыя старыя. Але ашаламіла, запаланіла сэрца жахам не гэта: страшна, з нечалавечым адчаем галасілі і крычалі жанчыны, захлёбваючыся, рыдалі дзеці, брыдка, азвярэла лаяліся мужчыны з чужых, штосьці патрабуючы ад разгубленых латышоў, брахалі і ылі сабакі, рыкалі каровы, вішчэлі свінні, звонка рыпеў пад нагамі снег — усё гэта злівалася ў адзін кашмарны, дзікі лямант, ад якога, здалося, яшчэ мацней стаў мароз.

— Што ж гэта тут дзеецца? — шэптам, перапалохана спытаўся Кірыла.

— Што, што? — чамусьці абурана, злосна сказаў дзед.— Людзей на Салаўкі выпраўляюць, во што! Не давядзі і памілуй, божа.

Яны стаялі перад дарогай, што вяла з вёскі на шлях. Баяліся сунуцца ў вёску, каб, не дай бог, не палічылі іх за латышоў і не пагналі на тыя страшныя Салаўкі, якімі ўжо палохалі дзяцей, калі яны капрызілі або не хацелі класціся спаць. У вёсцы,

перакрываючы лямант, нехта зычна падаў каманду рухацца. Абоз неахвоча, з балючым рыпеннем палазоў памалу выцягваўся ў калону. Паперадзе яе крочылі трое: злева — худы, гарбаносы вайсковец у доўгім, па пяты, шынялі і з карабінам на плячы; пасярэдзіне — чалавек у чорнай хромавай скуранцы, перапаясаны папругамі і з маўзерам на баку, а справа, дробна тэпаючы, усё збіваючыся з нагі, ішоў Мікла Анічэйка. Серафім не мог паверыць сваім вачам: на Мікле новенькі дублёны кажух з апухай, фетравыя валёнкі і футравая шапка з футравым брылём. І казе зразумела, як любіў гаварыць дзядзька Хведар, што Мікла пакарыстаўся ўжо латышскімі набыткамі.

— Хто будзеце? — яшчэ здалёк закрычаў чалавек у скуранцы, намацваючы рукой маўзер.

— Па дзелу мы,— пайшоў да чалавека ў скуранцы дзед.— Прывозілі малоць хлеб... А цяпер во, не ведаем... Нам бы забраць мяшкі...

— Пра тое, што тут бачылі, ані гуку. Зразумела я кажу?..

— Таварыш Яхкінд,— ваўчком завярцеўся перад тым Яхкіндам Мікла,— гэта мой цесць, так сказаць, айцец маёй жонкі. Ягоныя мяшкі з пшаніцай у млыне. А наконт маўчка дык не сумлявайцеся — слова не скажа.

— Ну во, вернуць табе хлеб,— сказаў Яхкінд.— А цяпер марш адсюль і не азірацца. Зразумела я кажу?

Серафім з дзедам павярнуліся тварам да лесу і толькі цяпер заўважылі, што Кірылы і след прастыў: напалохаўся і збег. Серафім з дзедам, як і было загадана, ішлі і не азіраліся. У двух кроках ад лесу іх апыніў грозны вокліч: «Стой! Стой! Страляць буду!» І адразу гучна бабахнуў стрэл.

Забыўшыся на ўсё, Серафім азірнуўся — па полі, таксама ў лес, бег укосікі высокі мужчына ў кароткай тужурцы. Адтуль, з калоны, забабахалі вінтовачныя і пісталетныя стрэлы. Недзе над галавой у Серафіма жыкнула ашалелая куля. Здалося, праляцеў разгневаны чмель.

— Бяжым,— схапіў Серафіма за руку дзед.

Серафім, аднак, не пабег. Ён бачыў, як вайскоўцы, што суправаджалі абоз высяленцаў, залеглі на снезе і смаляць, смаляць па ўцекачу, а ён усё бяжыць

і бяжыць. Серафіму вельмі хацелася, каб уцякач дабег да лесу, ўратаваўся ад узброеных, бязлітасных людзей.

Калі да лесу заставалася, можа, крокаў пяць, уцякач раптам спатыкнуўся, але ўзняўся, і ўжо марудна пайшоў па снезе. Яшчэ адзін стрэл паваліў яго на зямлю. І тады стала вельмі ціха. Цішыня доўжылася, дай бог, каб хвіліны дзве — яе ўспаролі крыкі і галашэнне, але не тое, што было дасюль, а нейкае іншае, больш страшнае.

— Унучак, бяжым,— сказаў дзед, і яны подбегам кінуліся да ратавальнага лесу.

Каля млына стаяў іх конь. Абаіх памольшчыкаў ужо не было. Яны як праз зямлю праваліліся. Дзед адвязаў каня. Серафім сеў у сані і толькі цяпер адчуў, як трымціць кожная клетачка ягонага цела. Ноччу яму сніліся кашмарныя сны: ён ад некага ўцякаў, а па ім стралялі і кулі па-чмялінаму цыўкалі над ягонай галавой. Было страшна чакаць апошняга стрэлу ў спіну; Серафім пачынаў крычаць. Яго будзіла баба Кацярына, раіла:

— Чытай за мной малітву: да ўваскрэсне бог растачацца вразі яго.

Малітва, аднак, не памагала: ён засынаў, і яшчэ больш кашмарны сон непакоіў яго.

Дні праз тры дзядзька Хведар прывёз з горада газету, кінуў на стол, сказаў з насмешкай:

— Не ўсё вы ў Кірзіцы бачылі, як было. Во ў газеце пішуць, што кулацкі сын Айвар Гранціньш з сякерай кінуўся на міліцыянера, скалечыў таго, потым аказаў супраціўленне ўладам і толькі смеласць і знаходлівасць доблеснай міліцыі ўберагла савецкіх актывістаў ад смерці.

Назаўтра дзед прывёз з млына мяшкі з пшаніцаю. На пытанне, што там робіцца ў Кірзіцы, дзед сярдзіта плюнуў:

— Садом і Гамора там, калі што якое, не давядзі бог бачыць. Каровы нядоеныя і някормленыя равуць, верашчаць свінні, а новаяўленыя калгаснічкі нашы чацвёрты дзень гуляюць. Пагалоўна, сабачыя дзеці, п'яныя на радасцях, што ўсіх латышоў вычысцілі. Людзі гадамі набывалі, як праклятыя, працавалі, а гэтыя ахламоны за месяц іхнія набыткі па ветру пусцяць. Кажу прахадзімцу Міклу: «Скацінку хоць

пашкадуйце, яна ж невінаватая». А ён, сукін сын, рагоча: «Не шкадуй, баця, класава ненавіснай жывёлы, мы сваю, савецкую развядзём, якая не будзе раўці. У нас сазнацельная жывёла будзе». Гэта ж нада, п'яніцу і карцёжніка старшынёй калгаса паставілі.

Баба Кацярына асяняла сябе дробнымі крыжамі. На яе вачах блішчэлі слёзы: і па латышах, і па скацінцы, за якіх няма каму заступіцца.

## 10

Закрывалі Бялынавіцкую царкву.

Дзеля масавасці і дапамогі сельсавет запрасіў са школы восем прадстаўнікоў грамадскасці. Дырэктар выдзеліў дзвюх настаўніц малодшых класах і шасцёра вучняў, членаў гуртка ваяўнічых бязбожнікаў. У іх ліку быў і Серафім.

Да царквы ішлі вясёлым гуртам. З засмужанага неба чырвоным вокам глядзела халоднае сонца. Мяло. Па вышкрабеным да каменя тракце перакочваўся дробны, перамешаны з пяском снег. Запоўзшы ў канавы і нізіны, снег аціхаў, трамбаваўся да лядовай цвёрдасці.

Па гэты бок царкоўнай агароджы ў малітоўнай скрусе стаяў натоўп. Найбольш старыя жанчыны. За агароджай, насупраць цвінтара, варушыўся другі натоўп, невялічкі, з прадстаўнікоў грамадскасці і савецкіх улад. Сярод царкоўнага двара гарэў невялічкі касцёр. Два міліцыянеры паходжвалі каля агароджы, пільна назіраючы за людам, што стаяў па той бок агароджы. Вучняў прапусціў за агароджу сельсавецкі вартаўнік Герасім. Ён павучальна сказаў:

— Паводзьце сябе, як сазнацельны алімент і дарослыя грамадзяне. Не бегайце, не размаўляйце, а ў патрэбныя моманты адабрайце сказанае партыяй і ўрадам актыўным плясканнем у далоні.

Заціскаючы раты, вучні дружна пырснулі ад смеху: вартаўнік яўна падладжваўся пад старшыню сельсавета. Але ад брамкі ішлі, як і належыць, з трапяткой дарослацю.

Мітынг пачаўся адразу, калі вучні падышлі да натоўпу, нібы ўлады толькі і чакалі іх. На цвінтар

падняліся пяць чалавек: чатыры мужчыны і адна жанчына, Капіталіна Канавалава, мясцовая актывістка і член сельвыканкома. Старшыня сельсавета доўга гаварыў пра складанае міжнароднае становішча, пра люты крызіс, што паразіў капіталістычныя краіны, абяздоліўшы працоўных людзей, бэсціў папу рымскага, англійскага лорда Чэмберлена, польскага маршала Пілсудскага, заклікаў пралетарыят усяго свету неадкладна распачынаць сацыялістычную рэвалюцыю і разам з Краінай Саветаў дружна, у адной неператожнай калоне шыбаваць у царства справядлівасці і роўнасці — камунізм. Толькі пасля такога ўступу старшыня сельсавета нарэшце перайшоў да характарыстыкі ўнутранага становішча. Выцягнуўшы з кішэні паперыну, ён прачытаў па ёй, колькі ў Савецкім Саюзе здабыта вугалю і жалезнай руды, колькі выраблена пракату, якія ўраджаі атрымала сельская гаспадарка. А высновай да ўсяго сказанага было, што рэлігія — гэта опіум народа, што папы і наогул усе, хто верыць, не могуць быць актыўнымі будаўнікамі сацыялізму, і іх трэба ліквідаваць як ворагаў рэвалюцыі, а царкву належыць закрыць, перадаць моладзі.

Усе пачалі апладзіраваць.

За старшынёй сельсавета выступілі астатнія члены прэзідыума, што сабраліся на цвінтары. Гаварылі яны таксама доўга, але горача, імпэтна, з надрывам і злосцю, быццам царква была іхнім асабістым ворагам. Ад гэтай імпэтнасці, ад пагроз, што раздаваліся ў бок веруючых, жанчыны за агароджай прыціхлі, пераcталі нават плакаць, стаялі з акамянелымі тварамі, па якіх нельга было здагадацца, што яны думаюць.

Серафім разам з усімі захоплена слухаў прамоўцаў, мацней за іншых пляскаў у далоні. Ён быў узрадаваны тым, што не каго-небудзь, а яго вылучылі на гэта гістарычнае мерапрыемства. Яно ўзвышала Серафіма аж да самапаважання. Ён добра ведаў, што і дзед і баба, дазнаўшыся пра ягоны ўдзел у разгроме царквы, не адобраць ягонага ўчынку, будуць гневацца і сварыцца, але гэта нічога не значыла ў параўнанні з актыўным удзелам у падзеі, якая, здавалася яму, перавярнула ягонае жыццё.

У Серафіма не было той усвядомленай веры ў бога,

як, напрыклад, у дзяцей Рамана ды і ў іншых вясковых хлапчукоў і дзяўчынак. Яму проста не хацелася крыўдзіць дзеда,ісці наперакор яму, ды і не магло гэта супраціўленне прынесці карысць. Паступова ён прывык хрысціцца, вылазячы з-за стала, кладучыся спаць, наведваючы царкву. То была даніна дзеду і богу, якому трэба маліцца. Цяпер Серафім пачуў у сабе разняволеную волю. Ён гатовы быў пайсці не толькі закрываць цэрквы, гэтыя прытоны цемрашальства, але і загінуць у барацьбе. Яму хацелася самаахвярнасці, гэткай прыгожай смерці ў імя камунізму.

Большасць грамадскасці пасля мітынгу разышлася па хатах. Засталіся толькі пяцёра прамоўцаў, шасцёра вучняў ды яшчэ чалавек сем-восем дарослых мужчын, якім належала скінуць са званіцы званы, а галоўнае, зваліць з купала залачоны крыж. Старшыня сельсавета запусціў іх у царкву першымі. Мужчыны панеслі туды вяроўкі, сякеры, дзве нажоўкі, лом і звычайную пілу. Неўзабаве яны выглянулі са званіцы, крыкнулі тым, што стаялі ўнізе:

— Паасцеражыся!..

Усе, адышоўшы, сачылі за тым, як спрытна арудуюць на званіцы трое чалавек, спрабуючы адолець самы вялікі звон. Падважыўшы звон ломам, мужчыны пасунулі яго на край званіцы, паднапружыліся, звон перакуліўся цераз бар'ер, бразнуўшы білам, паляцеў дагары пустатой чашы, грукнуўся аб мёрзлую зямлю, раскалоўся на тры часткі. За агароджай загаласілі старыя, пападалі на калені, пачалі хрысціцца на крыж, што залаціўся ў скупых промнях зімовага сонца. Два астатнія званы былі скінуты лёгка, і абодва разбіліся на мноства кавалкаў.

Мужчыны пачалі вылазіць на страху царквы, на зляжалы снег, каб дабрацца да купала, заарканіць крыж, сцягнуць яго з наседжанага месца. Старшыня сельсавета падаваў каманды знізу, але, пабачыўшы, што нічога не выходзіць, распарадзіўся прынесці доўгі шост. Трое вучняў кінуліся да школы, дзе ў майстэрні політэхнізацыі былі доўгія рэйкі. Яны прынеслі іх аж чатыры. Старшыня збіў з іх адзін вельмі доўгі шост, які і быў пададзены мужчынам на дах царквы.

Вяровачная пятля, як удаўка, была накінута на

крыж, сямёра мужчын пачалі разгойдваць яго, а калі ён захістаўся, завагаўся, як пад ветрам, мужчыны скінулі канец вяроўкі на зямлю, за яго схапіліся ўсе, хто стаяў унізе. Крыж доўга не паддаваўся, але і ён знямогся ў барацьбе — упаў на зямлю, спачатку добра грукнуўшыся аб край даху.

Цяпер старшыня сельсавета загадаў ісці ў царкву, каб выкінуць з яе абразы і іншую непатрэбшчыну для працоўнага люду. Серафім забег у царкву першы ці, можа, адзін з першых. Чамусьці яго пацягнула глянуць налева, ён глянуў і адчуў, як здрыгануўся, як балюча кальнула ў галаву, і толькі цяпер зразумеў, што пераацаніў свае магчымасці: на сцяне злева, як і раней, вісела драўлянае, груба вычасанае, без густу пафарбаванае і пакрытае лакам распяцце ў натуральны чалавечы рост, якое наводзіла на Серафіма панічны, неўсвядомлены жах. Серафім не мог даканала растлумачыць, чаму распяцце робіць на яго такое страшнае ўражанне. Можа, якраз вось гэтай знарокавай грубасцю, гэтым аголеным натуралізмам, які рабіў драўляную скульптуру жывым чалавекам.

Серафім бачыў распяцце ўсяго два разы. Яму добра запомнілася першае знаёмства: дзед узяў яго ў царкву, здаецца, на вясновага Міколу. Серафім зайшоў у яе з заўсёднай цікаўнасцю, азірнуўся і ўбачыў распятага на крыжы Хрыста, які, здалося яму, пахітаў галавой, як бы асуджаючы тых, хто аддаў яго на здзек злым людзям. Потым ужо Серафім убачыў кроў, цвікі, якімі Хрыстос быў прыкуты да крыжа, цярновы вянок з калючага дроту — усё, як наяве, быццам ён стаяў не ў царкве, а на Галгофе, дзе і адбывалася пакаранне Хрыста страшнай смерцю. Серафім стараўся тады не глядзець налева, але яго нешта падштурхоўвала, загадвала: паглядзі, і ён, пакуль цягнулася абедня, раз-пораз кідаў на распяцце палахлівыя позіркі. Потым ён не быў у царкве аж да восені і паехаў туды з дзедам, каб праверыць, як падзейнічае на яго распяцце. Яно падзейнічала яшчэ страшней. Серафім баяўся тады, што звар'яцее, і, каб не выпрабоўваць сябе, выйшаў з царквы на цвінтар, сказаўшы дзеду, што яму нечага няможацца.

Цяпер была трэцяя іхняя сустрэча: Серафіма і распяцця.

Дзіўна, Серафім зусім абыякава мог глядзець на

абразы з адлюстраваным на іх распятым Хрыстом. А гэтае драўлянае распяцце чамусьці прыводзіла яго ў стан, блізкі да вар'яцтва. Чаму?

Ужо ў другі раз Серафім заўважыў за сабой дзіўную акалічнасць. Ён адным позіркам схопліваў усе дэталі распяцця: ад галавы да ног. Гэта было неверагодна, але гэта было так. Серафім у адно і тое ж імгненне бачыў, напрыклад, цярновы вянок на галаве Хрыста, пакутлівыя вочы і кроў, што сцякала да пальцаў ног, цвікі з вялікімі шляпкамі, пазногці на правай, ледзь падкурчанай назе. Асабліва Серафіма ўражвалі вочы Хрыста і кроў: тры кропелькі на лбе, пад вянцом, загусцелыя крывавыя падцёкі на руках і нагах, чорная рана пад выпучаным з-пад скуры рабром, з якой цякла рудая кроў і прападала пад набрынялай павязкай на сцёгнах.

Распяцце ў праваслаўных цэрквах — рэдкая з'ява, можа, нават адзінае выключэнне. Бялынавіцкай царкве яно дасталося ў спадчыну. Некалі царква належала уніятам, а яе фундатарам быў пан Цеханавецкі. Калі на самым пачатку трыццатых гадоў мінулага, дзевятнаццатага стагоддзя ў акрузе ўспыхнула халера, пан даў сабе зарок: у выпадку божага збаўлення людзей ад страшнай хваробы ён закажа для царквы распяцце, якое ўславіць бога, царкву і яго, пана. Халера надзіва хутка аціхла, пан стрымаў слова. Неўзабаве ў царкве на жаночай яе палавіне было павешана драўлянае распяцце. А на пачатку саракавых уніяцкую царкву пераасвяцілі на праваслаўную. Распяцце, аднак, не кранулі: баяліся гневу божага і народнага.

Серафім чуў, як яго адразу скаваў, паралізаваў страх. Ён стараўся не глядзець на распяцце, але вочы мімаволі скіроўваліся налева. Тады Серафім адным імгненным позіркам бачыў усяго спакутаванага Хрыста, а Хрыстовы вочы, здавалася, праціналі яго наскрозь.

— Ну, чаго рот разявіў, нясі,— пачуў ён чыйсьці голас. Ачнуўшыся, ён убачыў побач з сабой старшыню сельсавета, які трымаў ахапку абразоў, звычайных, пісаных на дрэве, без рамак і ў рамках, але танных, пафарбаваных, а не пазалочаных.

— Куды? — спытаўся Серафім.

— На касцёр...

Серафім з радасцю схапіў абразы, пабег на двор. Там сельсавецкі вартаўнік шчапаў сякерай скрыню з плашчаніцай.

— Кідай іх сюды. Зараз я карасінчыку плюхну, каб хутчэй загарэліся, а то вунь багамольцы ад праклёнаў замарыліся. Нада іх, бедных, пашкадаваць.

Абразоў набралася шмат. Зваленыя ў кучу разам з царкоўнымі кнігамі, яны наводзілі на непрыемныя думкі. Серафім ніяк не мог зразумець, дзе ж падзяваўся ягоны ўзнёслы настрой, з якім ён слухаў прамоўцаў у часе мітынгу. Нешта як абарвалася.

Паліўшы кучу абразоў і кніг газай, сельсавецкі вартаўнік кінуў на яе пачак запалак, і куча ўспыхнула полымем аж да самай званіцы.

За агароджай дзіка закрычала жанчына, забілася ў канвульсіях. Серафім толькі і разабраў: пакарай іх, божа, пакарай іх! Жанчыну падхапілі пад рукі, пацягнулі ў бок амбулаторыі.

— Чаго стаіш? — накінуўся на Серафіма сельсавецкі вартаўнік.— Нясі яшчэ...

Наперакор сабе, свайму рашэнню больш унутр не заходзіць, каб пазбегнуць непрыемнасці, Серафім паслухмяна пабег у царкву. Вучні стаялі купна, трымалі на руках markdownрознае царкоўнае начынне, асуджанае на касцёр, і глядзелі туды, дзе вісела распяцце. І Серафім мімаволі глянуў туды. Пад распяццем старшыня сельсавета, па-дзіцячы асядлаўшы магутныя плечы крамніка, спрабаваў зняць са сцяны распятага на крыжы Хрыста. Распяцце чамусьці не паддавалася. Серафім зноў убачыў акрываўлены лоб Хрыста, раскінутыя рукі, якія моцна трымалі на крыжы дрэнна выкаваныя цвікі, і яго заліхаманіла. Ён хацеў адвесці вочы, але не ставала волі. Яму раптам здалося, што распяты Хрыстос двойчы міргнуў вачамі, ягоныя губы заварушыліся, твар перасмыкнуўся, а з-пад драўляных павек паказаліся слёзы. Больш таго, Серафім нейкім унутраным слыхам пачуў, як Хрыстос плача, наўзрыд, як плакалі латышскія дзеці, калі іх высылалі.

— Ды ты што, маць тваю перамаць з тваім Хрыстом,— закрычаў крамнік.— Лоб абдзёр, хрэн маржовы...

Серафім ачомаўся ад наслання. Старшыня сельса-

вета трымаў пад пахі распятага Хрыста, а крамнік выціраў далоняй кроў са лба, на якім відаць была добрая драпіна.

— Дык жа я ненаўмысна,— стаў апраўдвацца старшыня сельсавета.— Усё ён...

Старшыня сельсавета ляпнуў рукой па ўпалай грудзіне Хрыста.

— Цяжкі? — пацікавіўся крамнік.

— Ды не. Лёгкі. З ліпы, няйначай...

Старшыня падхапіў Хрыста пад пахі абедзвюма рукамі, прыўзняў перад сабой, закружыўся з ім у вальсе.

Крамнік, трое мужчын з тых, што скідалі званы і сцягвалі крыж з купала, чацвёра вучняў з сёмага класа аж клаліся ад смеху. Але астатнія чамусьці не рэагавалі на смешную выхадку старшыні. Серафім бачыў іх напружаныя твары, збянтэжаныя вочы і разумеў — гэтыя не адабраюць учынку старшыні сельсавета. Дзіўна паводзіла сябе і актывістка Капіталіна Канавалава. У яе быў белы-белы твар, перапалоханыя вочы і перакошаны, як ад нясцерпнага болю, рот.

— Спыні! Зараз жа спыні! — нема закрычала яна.

Старшыня спыніўся. Пайшоў да Капіталіны, цягнучы за сабой Хрыста.

— Што, Капа, кішка тонкая, бога не пераварыла? — насмешліва спытаўся ён.

— А няма чаго ціятры ладзіць,— агрызнулася Капіталіна.— Тут паліціка, а не ціятры.

— Малец, падай-ка мне сякеру,— сказаў старшыня сельсавета Серафіму, які стаяў найбліжэй да астатніх.

Серафім падаў сякеру. Старшыня секануў распяцце па павязцы на сцягне.

— Так і ёсць — ліпа,— сказаў старшыня і раптам шарахнуў сякерай па спакутаванай Хрыстовай галаве, раскалоў яе напалам, кінуў на падлогу. Звяртаючыся да Капіталіны, сказаў: — Дровы! Усяго дровы, а ты істэрыку закаціла.

Палова Хрыстовай галавы ўпала прама да Серафімавых ног. Ён жахнуўся і адскочыў. Хрыстова вока вывалілася з арбіты, пакацілася пад Серафіма. Ён паспрабаваў нагой адкінуць вока, але прамахнуўся, і гэта найбольш напалохала яго.

# Частка чацвёртая:

## непачуты крык душы

### 1

Убясконцым сутонні цьмяна свяцілася жаўтаватае вока. Серафім не мог здагадацца, чыё яно? Нешта невыразнае мроілася ў цяжкай, як цэбар, галаве. Павярнуўшы галаву налева, Серафім убачыў акно, за ім чорнае неба з ражком месяца на самым зыходзе. Месяц быў чырвоны і дужа маленькі, як намаляваны няўмелай рукой. Але ён, несумненна, быў сапраўдны, бо раптам схаваўся за рэдзенькую хмарку. Намаляваныя не могуць хавацца.

З прыцемак памяці паволі выніклі ўрыўкі нейкіх падзей. Яны чаргаваліся ў недаступным асэнсаванню карагодзе, пакуль не запыніліся на пачварным відовішчы: чалавек у рваным кажушку танцаваў польку з распятым на крыжы Хрыстом. Хрысту было балюча вісець на крыжы, кружыцца ў польцы, і ён плакаў.

«Чакай, чакай,— задумаўся Серафім,— чаму полька, калі старшыня сельсавета танцаваў вальс?»

Успомненая дэталь адгукнулася нямоцным, тупым болем, які і дапамог натрапіць на ланцужок падзей, што нядаўна пранесліся перад ягоным зрокам. Яны пачаліся з дырэктарскага загаду пайсці дамоў і прынесці ў школу семдзесят два рублі. Насуперак засмучэнню, якое павінна было вынікаць з нанесенай абразы, Серафім успрыняў усё абыякава, нібы загад аддаваўся не яму, а камусьці іншаму. Затое ў галаве загучалі радкі з верша:

«В аллее нежной и туманной, шурша осеннею листвой, дитя букет сбирает странный с улыбкой жизни молодой».

Серафім прыгадаў, што раней гэты верш яму не падабаўся, а вось жа засеў у галаве. Ён хацеў аднавіць яго ў памяці ўвесь, але, апрача гэтых радкоў, што ўспомніліся самі па сабе, другія забыліся. Затое

ўзніклі іншыя радкі з іншых вершаў, што абуджалі ў сэрцы няпэўныя пачуцці:

«Нікла жыццё ў лесе шумным, агаляўся твар зямлі, і ляцелі з крыкам сумным ў цёплы вырай жураўлі».

«Ахінае вечар тонкія мярэжы, на акне альвасы дагарэлі ў сне, а ў душы кваціcтасць і такая свежасць, і з вачэй усмешкі сыплюцца на снег».

«Каб я быў крылатай птушкай, не ляцеў бы я у гай, пеў бы песні-весялушкі там, дзе слёзы лье ратай».

Прыгаданыя радкі з вершаў улагоджвалі душу, хоць і краналі яе смуткам. Ды гэты смутак быў светлы і гаючы.

Яркі сноп святла раптам балюча сцебануў па вачах. Серафім заплюшчыўся. Хтосьці, мякка ступаючы, падышоў да яго, паклаў ласкавую руку на лоб. Мама!..

Серафім расплюшчыў вочы. Пакой зноў агортваў паўзмрок. Каля ягонага ложка стаяла незнаёмая жанчына ў белым, з добрай усмешкай на твары.

— Ах ты, мой коцік, ачомаўся?! Ну, як ты сябе пачуваеш? Галоўка не баліць? — у жанчыны быў надзіва мілагучны голас.

— Не,— адказаў Серафім, хоць галава на самой справе балела; хацелася сказаць жанчыне штосьці прыемнае.

— Цяпер табе трэба паболей есці. Высах ты, як шчэпка. Адны косці ды скура.

— Ачухаўся малец? Ну, і дзякуй богу,— сказаў нехта ў змроку.

Цяпер Серафім здагадаўся, што ляжыць у бальніцы. Але дзе? І ці ведаюць дома, што ён трапіў у бальніцу? А калі ведаюць, дык як дзед з бабаю паставіліся да ягонага ўдзелу ў закрыцці царквы? А што, калі яны раззлаваліся і не прыйдуць, каб праведаць яго. А яшчэ горай, калі не захочуць забіраць дамоў.

Думка была балючай, аж заныла ў грудзях. Апякла моцная крыўда: хіба ён вінаваты, што пайшоў закрываць царкву. Усё дырэктар школы. Ён загадаў, і не было як адмовіцца. Серафім адчуваў, што хлусіць сабе — мог адмовіцца, як Шунейка з сёмага класа. Дык узрадаваўся! Цяпер куды яму падацца?

Серафіма ахапіла адчуванне безвыходнасці, як і тады, калі па яго прыехаў дзед, каб забраць у вёску.

Тады яго суцешыў Ігар Набокаў. Цяпер няма каму? Чаму? А Хведар? Хведар прыйдзе. Ён яго не кіне. Успомніўшы Хведара, Серафім пачуў, як зрабілася лягчэй.

Ні дзед, ні Хведар тым часам не паяўляліся. І хоць Серафіму прыпісалі ўзмоцненае харчаванне, яды не хапала. Яго шкадавалі хворыя, падкармлівалі. У палаце на траіх ягонымі суседзямі былі немаладых год мужчына з барвовым тварам, рыхлы, з валасатай грудзінай — Дзям'ян Іванавіч і сухенькі, маршчыністы дзядок, дужа рухавы і гаваркі, які кожную раніцу весела абвяшчаў Серафіму і Дзям'яну Іванавічу:

— Ну, што, даражэнькія, прыйшоў дзень, будзем набіваць пярдзень.

Непрыстойны выраз гэты ў дзедавым выкананні быў падобны на ўдзячную малітву. Малітвы пасля кожнай трапезы, як дзед называў сняданне, абед і вячэру, таксама былі адмысловыя, ніколі не чутыя Серафімам:

— Насыціў мя, божа, а голад ўсё адно гложа, або: — Благадару Ісусе-спасе, што патрымаў на папасе.

Але хрысціўся дзед без дзівацтваў, кладучы крыжы размашыста і няспешна.

— Святы крыж,— павучальна казаў ён,— самы надзейны сродак у зносінах з богам. Слова — хлусня, крыж — ісціна душы. Словам чалавек ашуквае, крыжам — ратуецца.

Звалі дзеда Данілам, але ён любіў, каб яго называлі на біблейскі лад — Даніілам.

Неяк ён, лежачы на ложку, сказаў:

— Штосьці цябе забылі, малец.

Серафім не ведаў, што адказаць. Пытанне дзеда Данілы зноў нагадала яму пра незайздросны свой лёс. Замест яго адказаў Дзям'ян Іванавіч:

— Навошта лезеш да чалавека?..

— Не лезу, а спачуваю,— адказаў дзед.

— Спачуваннямі ўслана дарога ў пекла, але грэшнікам ад таго не лягчэй,— сказаў Дзям'ян Іванавіч.

— Верна,— пагадзіўся дзед.

Серафім хіліўся да Дзям'яна Іванавіча. Яму падабалася яго разважлівая грунтоўнасць і спакой-

ная ўраўнаважанасць. Дзед Даніла больш паходзіў на гарадскога вераб'я. Было ў ім нешта зладзеяватае. Так, прынамсі, здавалася Серафіму. Адно мірыла з ім: дзед цэлы дзень недзе брындаў, але заўсёды паяўляўся на абход урачоў і на ўколы. Дзям'ян Іванавіч найбольш ляжаў, чытаў газеты і кнігі. Даваў што-кольвечы чытаць і Серафіму, папярэджваючы:

— Памногу не чытай. Табе забаронена. Хоць не разумею, якую шкоду можа прынесці чытанне. Наадварот, калі ў галаву лезе розная дрэнь, дык кніга адцягвае ўвагу ад благіх думак. Ну, ды з урачамі марная справа спрачацца.

Серафіму нясцерпна хацелася каму-небудзь выспавядацца, расказаць пра ліхія свае прыгоды. Дзям'ян Іванавіч, на думку Серафіма, быў менавіта такім чалавекам.

Аднаго разу, калі дзед Даніла, як звычайна, пайшоў у абход па палатах, Серафім спачатку баязліва, а потым усё смялей і смялей пачаў расказваць пра сябе: як яго вешалі ў елагаўскай цагельні, як застрэлілі маці, як ён трапіў у вёску, яшчэ пра маладога латыша, які ўцякаў ад раскулачання, пра скокі старшыні сельсавета з распятым Хрыстом.

Дзям'ян Іванавіч слухаў уважліва, але, здавалася, абыякава. На ягоным крыху прасвятлелым твары не адбіваліся пачуцці, і ў Серафіма паступова знікала захопленасць расказам, яна саступала месца сухому пераказу падзей.

Ён ужо раскайваўся, што пачаў спавядацца — нікому не цікавы чужыя перажыванні. Паспешліва дажаваўшы апошнія сказы, ён разгублена змоўк. Дзям'ян Іванавіч абняў яго за плечы, прытуліў да грудзей.

— Ёсць такое рускае слова страдацерпец, пакутнік, калі не па-царкоўнаму. Ёмкае слова: цярпець пакуты. Па цяперашнім жыцці ты, Сіма, зусім не прыстасаваны да яго — дужа ў цябе ўражлівая натура. Такія згараюць, як свечкі. Прывыкай, хлопча, да цярплівасці. Але, што б ні здарылася, не губляй таго чалавечага, што ёсць у табе. І яшчэ во што скажу, Сіма, запамінай усё чутае і бачанае, дабро і зло — усё запамінай. Чую ў табе божы дар. Навучыся запісваць бачанае і чутае табой без хлусні, папраўдзе. Павучальная гісторыя можа быць табой напісана. Край

наш багаты на таленты, ды таленты, на жаль, не ў той бок ідуць, не тыя песні спяваюць. Крычаць і з-за свайго ўзнёслага ляманту рыданняў не чуюць, гора не бачаць — хлусяць, а вераць, што кажуць праўду. Не хлусі, Сіма. Талент, Сіма,— праўда. Зло — бяздарнае, але магутнае.

Тады многае са сказанага Дзям'янам Іванавічам было для Серафіма лішне складаным, але галоўную думку ён ухапіў — трэба пісаць.

— Дык я ўжо запісваў тое-сёе,— пахваліўся ён.— Каб прыйшоў дзед або дзядзька Хведар, я папрасіў бы іх прынесці напісанае. Прачытаў бы вам.

— Мяне, Сіма, на гэтым тыдні выпісваюць. Не дачакаюся я дзеда. Але не сумуй, я табе дам адрас, а як выпішашся з бальніцы — міласці прашу, заходзь, паслухаю твае апавяданні.

Ды ўсё нечакана памянялася. Іхняе расстанне з Дзям'янам Іванавічам паклала яшчэ адзін шрам на Серафімавай душы.

Сярод тыдня ўрач аб'явіў Дзям'яну Іванавічу, што сёння ж яго выпісвае. Спытаўся, калі ён збіраецца пайсці дамоў: да абеду ці пасля яго?

— Само сабой — да абеду,— адказаў Дзям'ян Іванавіч,— калі вы аформіце бюлетэнь.

— Тады на гадзіну дня,— чамусьці ўдакладніў урач.

— Ну, і выдатна,— адказаў Дзям'ян Іванавіч.

Праводзіць яго падмеўся Серафім. Дзям'ян Іванавіч не запярэчыў. Яны крочылі па калідоры першага паверха, калі да іх падышлі двое ў вайсковых шынялях.

— Спакойна, грамадзянін Лісянскі,— сказаў адзін з іх.— Пойдзеце з намі. І без шуму.

Хтосьці ўзяў Серафіма за каўнер, як таго збродлівага ката, адцягнуў убок. Серафім бачыў: на калідоры і ў вестыбюлі, звычайна такіх шматлюдных у гэты час, нікога не было. Дзям'ян Іванавіч павярнуў галаву да Серафіма, крыкнуў:

— Бывай, хлопча! Шчасця табе...

Яго штурханулі ў дзверы вестыбюля. Чалавек у скуранцы, які ўсё трымаў Серафіма за каўнер халата, паківаў перад ягоным носам доўгім і вельмі тонкім пальцам:

— Нікому. Ніколі. Ні гуку. Зразумеў? — спы-

таўся ён і, выцягнуўшы з кішэні наган, рушыў у вестыбюль, дзе яго чакалі Дзям'ян Іванавіч і двое канваіраў.

У палаце Серафім паваліўся на ложак і заплакаў, ціха, але шчодра на слёзы. Ноччу ён не вытрымаў, спытаўся ў дзеда Данілы:

— Дзед, ці спіш ты?

— Не,— адразу адгукнуўся дзед.

Серафім перабраўся на ягоны ложак.

— Дзед,— звярнуўся ён да Данілы,— ці ўмееш ты хаваць чужыя тайны?

— Хе-хе,— засмяяўся дзед,— тайны абавязкова трэба хаваць, чые б яны ні былі. А што, і ты займеў тайну?

— Дзе ты думаеш зараз Дзям'ян Іванавіч? — спытаўся Серафім.

— Вядома дзе, дома...

— Яго забралі...

— Цыс-с-с ты, памаўчы,— зашыпеў на яго дзед.— Адкуль ты ведаеш?

— Бо сам бачыў. Двое вайскоўцаў падышлі і сказалі: пойдзеце з намі, а трэці схапіў мяне за шкірку і прыгразіў: калі скажу каму, дык застрэліць.

— Ну во, ён прыгразіў табе, а ты тайну разглашаеш. Нядобра, Серафімка, палучаецца. Ды не бойся, не бойся, я нікому не скажу, але і ты больш нікому не давярайся. Пара цяпер такая: меней ведаеш, даўжэй жыць будзеш.

— А за што яго? — крыху памаўчаўшы, спытаўся Серафім.

— А нізавошта,— сказаў дзед.— Бяруць, каб другія баяліся, каб языкамі не трапалі. Нагнаўшы на людзей страху, начальству лягчэй кіраваць. Ад страху чалавек ого які згаворлівы. Во яго і страшаць — бяруць. А яшчэ каб сіла была бясплатная. Рабочаму хоць троху, а плаціць нада. А арыштаванаму можна і есці не даваць. Памрэ ад голаду — другога на яго месца знойдуць. Мудра ўсё прыдумана, ой, як мудра, а толькі дабром гэта не кончыцца, памянеш маё слова. Ну, ідзі спаць. Ды глядзі, больш нікому не расказвай...

Дзед Даніла перахрысціў Серафіма, падштурхнуў: ідзі.

Але абодва яны яшчэ доўга не спалі.

## 2

Набліжалася выпіска, а ніхто Серафіма не наведваў, і ён моцна зажурыўся. Мімалётнае адчуванне сваёй непатрэбнасці ажыло ў ім балючай стрэмкай.

За бальнічнымі вокнамі ўжо бушавала вясна. Пажылая нянечка Матруна кожны дзень прыносіла неверагодныя звесткі аб небывалай паводцы: выйшла з берагоў Віцьба; па Дзвіне плылі вялізныя крыгі і неслі на сабе хату, з печы якой валіў дым; на Падзвінні затапіла паліклініку і банк, так што хворых і служачых банка падвозяць на лодках.

Дзед Даніла падміргваў Серафіму: маўляў, во майстрыца баяць казкі! А іхні сусед, што лёг на ложак арыштаванага Дзям'яна Іванавіча, да хрыпаты спрачаўся з цёткай Матрунай. Дзед ушчуваў яго: навошта спрачаешся?.. Відаць, так лягчэй жыць чалавеку. Таму і брэша.

Прыглядаючыся да людзей, Серафім заўважаў у іх дзіўную неадпаведнасць знешняга выгляду ўнутранай сутнасці. Да яго раптам дайшло, што ўрач, знешне далікатны і ветлівы, на самай справе бязлітасны і чэрствы. А нянечка Матруна, майстрыца выдумляць розныя небыліцы, сумленны чалавек з добрым сэрцам. І дзед Даніла, гэты трапятун і непаседа, які здаваўся Серафіму чалавекам несур'ёзным, на паверку аказаўся вельмі ўдумлівым і прадбачлівым.

Аднаго разу дзед Даніла прапанаваў Серафіму прайсціся па заасфальтаваным двары бальніцы. Стаяў густы туман, двор быў мокры, і хадзіць па ім у бальнічных тапачках не хацелася, але дзед так настойваў, што Серафім пайшоў.

У двары мелася альтанка. Падлога ў ёй высахла, лаўкі таксама — яны селі. Дзед азірнуўся, пасадзіў Серафіма насупраць сябе, сказаўшы:

— Назірай, Серафімка, калі хто паявіцца, кашляні.

Серафіма заінтрыгавала: значыць, дзед хоча адкрыць яму пейкую тайну, можа, пачуў што пра Дзям'яна Іванавіча.

— Добра,— пагадзіўся ён.

Дзед памаўчаў, як бы не адважваючыся гаварыць аб тым, пра што хацеў сказаць.

— Паслухай мяне, Серафімка, дужа ўважліва

і запомні ўсё, што пачуеш,— сказаў ён.— Тут во што здарылася. Дзеда твайго, пакуль ты хварэў, раскулачылі і ў Сібір выслалі. Ну, гэта так кажуць, што ў Сібір, а ніхто толкам не ведае. Трапіў бы і ты з імі ў тую Сібір, дык пашанцавала — захварэў.

Да Серафіма неверагодна цяжка даходзіў сэнс сказаных дзедам слоў. У ягоным уяўленні паўстаў абоз з раскулачанымі латышамі, але ў ім не было месца дзеду, а тым больш дзядзьку Хведару з Дуняй і іхнім маленькім сынам. Проста не змяшчалася ў галаве: дзядзька Хведар едзе ў абозе раскулачаных. Можа, выслалі аднаго дзеда?

— А дзядзька Хведар не высланы? — з надзеяй спытаўся ён.

— Усіх, Серафімка, выслалі. Усіх чыста.

Толькі цяпер Серафім пачуў пякучы боль і разгубленасць: а што рабіць яму?

— Адкуль, дзед, ты ведаеш пра раскулачанне? — спытаўся Серафім.

— З-пад кур, во адкуль,— скорагаворкай адказаў дзед.— Дзела, Серафімка, не ў тым, хто сказаў ды адкуль я даведаўся. Што табе рабіць? Во ў чым дзела. Сказалі мне верныя людзі, што цябе, Серафімка, на наступным тыдні збіраюцца адправіць у дзіцячы дом. А называецца дом гэты Даўжанскай працоўнай камунай. І трымаюць там адпетую шпану, галаварэзаў з усёй акругі. А начальнік там звер зверам. Прападзеш там, Серафімка, за панюх табакі. Шкада цябе. А што параіць — не ведаю. Можа, у цябе якая радня, апрача дзеда, засталася?

Серафім задумаўся. Праўда, яго не вельмі засмуціла паведамленне дзеда. Камуна дык камуна, шпана дык шпана. Яму было ўсё роўна, што будзе з ім.

— Хіба цётка Дар’я,— пасля доўгага роздуму, сказаў Серафім.— Дзедава сястра.

— А дзе яна, да прыкладу, жыве?

— На Заручэўі...

— Дык жа зусім добра, Серафімка. Лепей быць не можа.

— Але як ёй перадаць, каб прыйшла па мяне,— спытаўся Серафім больш у сябе, чым у дзеда Данілы.— Ды і ці захоча яна забіраць мяне?

— Цяпер не пра тое нада думаць, забярэ яна цябе ці не забярэ, ратавацца ад камуны трэба. Потым па

абставінах будзеш жыць. Уцякаць табе трэба, і неадкладна, бо сам чуў, што па цябе едуць. Можа, ужо чакаюць...

— Як жа я ўцяку, калі вопратка здадзеная. Ды і не ведаю, ці ёсць яна. Мяне ж сюды без памяці прывезлі.

— Наконт вопраткі не турбуйся. Я ўсё разведаў і, калі хочаш, з Матрунай усё абмазгаваў. Толькі тваю згоду і чакаю.

Выбіраць не было з чаго. Серафім свята верыў, што цётка Дар'я не пакіне яго ў бядзе. А ён будзе ёй дагаджаць, абы не выправіла з дому. І Лідзе будзе служыць, і Іллі Дрэлю, а калі на тое пайшло, дык і Аксінцы. Толькі б да іх дабрацца. Не выганяць жа яго, хоць пераначаваць дадуць.

— Я згодны,— сказаў Серафім і пачуў, як здрыганулася ўсё нутро.

За два разы дзед Даніла перанёс пад палою халата ўсю Серафімаву вопратку і абутак — валёнкі. Яны найбольш і збянтэжылі Серафіма. На дварэ макрэдзь, а ён у валёнках — першы міліцыянер запыніць, пацікавіцца, адкуль ён збег. Але дзед Даніла супакоіў. Па-першае, міліцыі можна нахлусіць, што ляжаў у бальніцы і нечакана выпісалі, а ісці яму недалёка. Па-другое, міліцыя не стане запыняць хлапчука — беспрытульнікі і ўлетку ходзяць у валёнках, а зімой у сандалях. Так што баяцца няма чаго. А да Заручэўя — усяго якая вярста з гакам.

Пасля абеду, калі бальніца пагрузілася ў ціхі час, дзед Даніла вывеў Серафіма за бальнічную браму, абняў, выцер рукавом халата вочы, сказаў:

— З богам, Серафімка. У добры час.

Па бруку бег ручай. Над горадам вісеў туман. Валёнкі адразу прамоклі, у іх захлюпала вада. Серафім спачатку спрабаваў выбіраць сушэйшыя мясціны, але неўзабаве пераканаўся, што гэта марна. Пайшоў, не звяртаючы ўвагі на лужы і ручаіны з паводкавай вадой.

З Духаўскай царквы ішлі людзі. Серафім чамусьці палічыў гэта добрым знакам. На былое купецкае дворышча ён заходзіў ужо ў цудоўным настроі. Падумалася: хапіліся ў бальніцы ці не заўважылі, што яго ложак пустуе? Дзед Даніла абяцаў падняць трывогу толькі перад самай вячэрай. Найперш

хацелася скінуць з ног ненавісныя валёнкі. Ды і кажушок быў цяжкаваты.

А вось і знаёмыя дзверы, са знаёмым званком. Серафім тройчы, як бывала, пацягнуў ланцужок, але званка за дзвярамі не пачуў. Тады ён пацягнуў на сябе цяжкую з ільвінай галавой ручку. Дзверы лёгка адчыніліся. У прыхожай нікога не было. Ён зайшоў на кухню. І там нікога. Яно і не дзіва; Ілля Дрэль на працы, цётка Ліда таксама, Аксінка пабегла ў кіно, бо якраз пачынаецца першы сеанс, а цётка Дар'я нешта робіць і не чуе, што заявіўся госць. Ён хацеў гукнуць цётку Дар'ю, але ў гэты час на кухню зайшла незнаёмая жанчына ў доўгім да пят капоце. Яна трымала ў руках шчыпцы. Палавіна яе галавы была завітая, а на другой палавіне валасы звісалі касмамі на лоб. Убачыўшы Серафіма, яна спалохана адступіла, у яе вырачыліся вочы. Не хаваючы страху, яна спытала ненатуральна гучным голасам:

— Што табе трэба?..

— Я прыйшоў да цёткі Ліды,— сказаў Серафім, і жанчына паспакайнела, хоць паглядзела на яго з недаверам.

— Ах, да Лідзіі Канстанцінаўны!.. Але ж табе павінна быць вядома, што яны тут не жывуць.

— А цётка Дар'я?..

— Яны ўсе пераехалі, здаецца, у Мінск, хоць дакладна не магу сказаць.— Паглядзеўшы на Серафімавы ногі, жанчына паморшчылася: — Але ж наслядзіў ты. У такую пару ды ў валёнках.

— Я з вёскі,— незаўважна для сябе пачаў хлусіць Серафім,— ляжаў у бальніцы. Дамоў ісці далёка, думаў пераначаваць...— раптам Серафім успомніў пра Ігара Набокава. Як ён пра яго забыўся? — А Ігар дома? — спытаўся ён.

— Гэта хто ж такі? — пацікавілася жанчына.

— Набокавы. Яны ў мансардзе жылі...

— Яны раней выехалі. Цяпер усю кватэру займаем мы.

Гэта быў крах, страшны, непапраўны крах усяго: спадзяванняў, ратунку, надзей, веры, жыцця. Але бруіла яшчэ ў Серафіму маленечкая крынічка надзеі на Марка: авось ён нікуды не з'ехаў. Тады варта звярнуцца да яго, а там што будзе, тое і будзе.

Праз увесь горад ён адправіўся на Задунаўе.

Старыя дзверы са двара ў прыхожую, якія некалі хацеў адрамантаваць Марк, ды ўсё недабіраў рук, былі заменены на новыя. Значыць, Марк знайшоў час на іх рамонт! Серафіма гэта чамусьці ўзрадавала.

Дзверы, якія звычайна ніколі не зачыняліся, былі зачынены. На вушаку чырванела кнопка званка. Ён націснуў на кнопку — недзе ў глыбіні кватэры зазвінеў званок. Аднак доўга ніхто не ішоў адчыняць. Няйначай Марка няма дома. Серафім пазваніў яшчэ раз — нехта загрымеў запорамі. Дзверы прыадчыніліся на даўжыню тоўстага ланцуга. У шчыліну, шырынёй у далонь, заглянула старэчае вока.

— І што табе нада? — нараспеў спыталася старая.

— Мне патрэбны Марк Удоеў,— сказаў Серафім.

— Гэта ж хто такі будзе? Можа, ранейшы гаспадар?..

— Ну, так, мы тут жылі...

— Але ж ён тут даўно не жыве. Мы прыехалі сюды, калі яго ўжо не было.

— А не ведаеце, дзе ён жыве? — з апошняй надзеяй на ратунак спытаўся Серафім.

— Дзе ён жыве? Зараз я спытаюся. Ізя, ты не ведаеш, дзе жыве былы гаспадар нашай кватэры?

З глыбіні дома даляцеў незадаволены голас:

— Я што, даведачнае бюро?..

— Ну, во, калі ўжо Ізя не ведае, дык магу паручыцца, ніхто не скажа, дзе жыве былы гаспадар гэтага дома,— падрахавала размову старая.

Рушылася і апошняя надзея. Тупік. Круча. Безвыходнасць. Серафіму захацелася вярнуцца ў бальніцу — хай адпраўляюць у камуну, у Сібір да дзеда. Абы што-небудзь пэўнае, а не гэтае нясцерпнае адчуванне сваёй непатрэбнасці.

Ён клыпаў па вуліцы, не задумваючыся, куды ідзе і чаму ідзе. Каля піўной Брусера гамані лі людзі. Яны вярнулі Серафіма да асэнсаванасці дзеяння. Дык вось куды завяла яго безвыходнасць: да сутарэння, у якім жыве Глеб Кротаў. Ну што ж, калі топішся, дык і за брытву ўхопішся.

У кватэры Кротавых гарэла святло. Праз нямытыя, заляпаныя гразёй вокны святло было падобна на размазаны па талерцы журавінавы кісель. Але яно здалося Серафіму такім жаданым, што ён, не

задумваючыся, збег па прыступках уніз, пастукаў у вушак — дзверы былі абабіты лямцам.

Яму адчыніла маці Глеба. Серафіму здалося, што за гэты час яна яшчэ паменшала ростам, але затое раздалася ўшыркі. Яна доўга не пазнавала Серафіма, глядзела на яго здзіўленымі, авечымі вачамі. За сталом з самаварам сядзеў сам Панкрацій Кротаў, піў чай упрыкуску.

— Я — Серафім,— прадставіўся ён.— Мы з вашым Глебам вучыліся ў школе, і я некалі заходзіў да вас.

Серафіму здавалася, што такое тлумачэнне ўзрадуе Кротавых. Маці Глеба адступіла ўбок, як бы запрашаючы гэтым Серафіма зайсці ў кватэру. Бацька, Панкрацій Кротаў, паставіў на стол сподак, з якога сёрбаў чай, утаропіўся на Серафіма белаватымі вачамі.

— Глеба няма,— сказаў ён.

— А ён хутка прыйдзе? — спытаўся Серафім.

— Глебушка паехаў вучыцца,— пахвалілася Глебава маці.

— Навошта ты чорт ведае перад кім спавядаешся,— накінуўся на яе Панкрацій.— А ты што хацеў?

— Я хацеў папрасіцца нанач,— Серафім і сам не ведаў, як адважыўся на просьбу.

— А больш нічога не хацеў? — варожа спытаў Панкрацій Кротаў.— Бачыш ты яго — начлег яму дай.

Серафім, не памятаючы сябе, выскачыў за дзверы. Яго разбірала злосць, мучыў сорам: дурань, на што спадзяваўся?! Ды і сам добранькі! Трэба было спытаць пра Глеба, а як яны сказалі, што яго няма,— не лезці са сваёй бядой. Ах, дурань, дурань!..

Ён ачомаўся толькі на мосце праз Дзвіну. Сыры вецер працінаў кажушок. Па набрынялай рацэ хутка плылі адзінокія крыгі, знікаючы пад мостам. Ад вакзала прагрукацеў па рэйках асветлены трамвай. Там, дзе звычайна стаяў дэбаркадэр, на крутым беразе Дзвіны ішло будаўніцтва: на асветленай электрычнымі лямпачкамі пляцоўцы і ў прыцемках варушыліся людзі. Гарэлі яшчэ агні на фабрыцы імя Клары Цэткін, там працавалі ў дзве змены.

Пранізлівы вецер нагадаў Серафіму, што час

сур'ёзна падумаць пра начлег. Горад вялікі, а пераначаваць няма дзе. А што, калі на вакзале? Думка захапіла Серафіма, і ён пайшоў па Вакзальнай вуліцы да прысадзістага будынка.

У вакзальнай пачакальні цьмяна гарэлі лямпачкі. Злева ў закутку працаваў буфет: апрача сітро і пажоўклага старога сала, у ім нічога не было. Пуставалі і касы. На шырокіх лаўках, што цягнуліся ўздоўж сцен, сядзела з дзесятак пасажыраў-начлежнікаў. Яны ціснуліся адзін да аднаго, мабыць, баючыся вакзальнай шпаны. Серафім забраўся ў далёкі кут, залез пад лаўку і, як толькі паклаў галаву на складзеныя далоні, заснуў моцным сном.

Прачнуўся ён ад таго, што нехта штурхаў яго. Расплюшчыў вочы — вакзальная прыбіральшчыца мыла падлогу, яна і штурхала Серафіма доўгім кіем з накручанай на яго анучай.

— Вылазь. Разаспаўся. Адбою ад вас няма,— бурчэла прыбільшчыца.

Серафім вылез. Мусіць, прыбіральшчыца чакала ўбачыць беспрытульніка-галадранца, бо вельмі здзівілася, пабачыўшы хлапчука ў прыстойным кажушку, зімовай шапцы і валёнках.

— Ты куды едзеш? — спыталася яна.— Няйначай ад бацькоў адстаў.

— Не, я з бальніцы выпісаўся,— прызнаўся Серафім.

— А бацькі не прыехалі? — выказала здагадку прыбіральшчыца.— Што ж яны, маць іхнюю, цябе выпісалі? На білет хоць ёсць грошы?

— Няма...

— А табе куды? — яшчэ раз перапытала прыбіральшчыца.

— Не ведаю...

— Як жа ты не ведаеш? — здзівілася яна.

— Я жыў у дзеда, а дзеда раскулачылі. А цяпер не ведаю, што рабіць.— Серафім і сам не разумеў, чаму кажа праўду гэтай незнаёмай жанчыне.

Дзед Даніла вучыў яго не ўступаць у размовы з незнаёмымі людзьмі, а ён як бы забыўся на ягоныя навучанні. Можа, таму, што гэтая жанчына дужа зацікаўлена паставілася да ягонага лёсу.

— Ну, і дзялы,— развяла рукамі прыбіральшчы-

ца.— Як па правілу, дык я павінна здаць цябе ў міліцыю.

Серафім не на жарт перапалохаўся: цётка здасць яго ў міліцыю, а тая пасадзіць у турму. Турмы Серафім баяўся найбольш.

— Цётачка,— узмаліўся ён,— не здавайце мяне ў міліцыю. Я, можа, каго з радні знайду.

— І даўно ты беспрытульнічаеш? — пацікавілася прыбіральшчыца.

Серафім не ведаў, што будзе лепей: сказаць, што нядаўна, ці, наадварот, што даўно. Сказаў:

— Даўно...

— Галодны?..

— Галодны...

— Ідзі-ка ты ў вакзальны рэстаран. Ён ужо адкрыўся. Папросіш у каго кавалак хлеба, у каго якога супу. Кідаюць недаедзены. Падмацуйся. Ці ведаеш, дзе той рэстаран? Як выйдзеш з дзвярэй, дык налева, за сарцірам.

Пасля вакзальных змрокаў прывакзальная плошча асляпіла Серафіма яркай сонечнай віднатой. Ад учарашняга туману не засталося і следу. Зямля крыху падшэрхла, на лужах іскрыўся тонкі лядок.

У рэстаране ўжо процьма народу. Серафім стаяў у нерашучасці, ніяк не адважваючыся папрасіць, каб далі чаго паесці. З-за стала направа, каля сцяны, двое падняліся з драўляных крэслаў, пакінуўшы на талерках кавалкі хлеба і бульбяной кашы з падлівай. Забыўшыся на перасцярогу, Серафім рынуўся да стала, схапіў кавалкі хлеба ў адну руку, а бульбяную кашу ў другую, выскачыў на двор і вобмігам праглынуў і хлеб і бульбу. Аблізваў ужо далонь, калі да яго падышоў мурзаты, у вялізнай шапцы хлапчук ці не ягоных гадоў.

— Папрашайнічаеш? — спытаўся ён.— Красці трэба...

— Я не ўмею,— сказаў Серафім.

— Навучым...

— Красці брыдка,— сказаў Серафім.

— Дурань, брыдка прасіць. Красці, калі хочаш, майстэрства. Лоўкасць рук і ніякага ашуканства. Крадуць у разявак — вучаць, каб не зявалі, ясна табе?

— Ясна,— сказаў Серафім.

Яму чымсьці падабаўся гэты вастравокі хлапчук, мабыць, гарэза і хват, якіх пашукаць.

— Цябе як завуць? — спытаўся хлапчук.

— Серафім.

— Не сказаць, каб адмыслова. Але перахрысцім. Мяне завуць Чыжык. Ну, гэта мянушка такая блатная. А так я Лёшка. Дык як, пойдзеш да нас?

— Пайду,— не запытаўшы нават, куды ён пойдзе, адказаў Серафім.

Чыжык павёў Серафіма цераз чыгуначныя пуці ў бок паравозных могілак. Яны доўга блукалі паміж старых, паржаўленых паравозаў, вагонаў, платформаў і дрызін, пакуль не прыйшлі да вагона, на борце якога яшчэ захаваўся надпіс: спальны. Лезці ў яго трэба было праз акно, але ўсярэдзіне мелася даволі ўтульная спальня з лавак, засланых старымі матрацамі. Двое хлапчукоў на дварэ гатавалі сняданне: смажылі сала на вялізнай патэльні. Яны паглядзелі на Серафіма, але не сталі пытацца, адкуль ён з'явіўся, а прадаўжалі кухарыць. Дасталі з паліцы яйкі: узбілі іх на патэльню. Калі яешня падсмажылася, адзін з іх паставіў на касцёр чайнік.

— Навічок. Завуць Серафім,— сказаў Чыжык сваім сябрам.— А гэта Прыпай,— паказаў на рабацiністага хлапца і тыцнуў пальцам у другога, таўстамордага: — Баранак.

— Пажуем, пасля пабалакаем,— прапанаваў Баранак.

— Дзялы,— згадзіўся Чыжык.

Серафіму ўручылі лыжку, наказалі: беражы. З'еўшы яешню, пачалі піць чай з белым хлебам. Серафім стараўся. Здавалася, што ён так і не наесца. Але сытасць прыйшла нечакана — раптам аж згідзела яда, і Серафім адчуў такую немагату, што, здавалася, не знойдзе сілы, каб устаць з месца.

— Дык што мы ўмеем рабіць? — спытаўся Баранак.

— Нічога ён не ўмее,— за Серафіма адказаў Чыжык,— але Хан абяцаў мне памочніка.

— Мне што, маё дзела цялячае,— сказаў Баранак.— Хан будзе толькі ўвечары.

— Нам спяшацца няма куды,— згадзіўся Чыжык.— Хай адпачне тут, яму з намі ўсё адно няма чаго рабіць.

Серафім узрадаваўся нагодзе пабыць аднаму. Адпачне, а там будзе відаць. Ды, нібы здагадаўшыся пра ягоныя думкі, Баранак выцягнуў з-пад матраца ножык, паказаў Серафіму.

— Што гэта, субчык?

— Ножык,— адказаў Серафім.

— Ведае,— заўсміхаўся Баранак.— Пяро па-нашаму. Дык вось што, субчык, не ўздумай уцякаць ды яшчэ, не дай бог, трапіўшы ў міліцыю, выдаваць наша сховішча. Пад зямлёю знойдзем і рэзаць будзем.

— Ладна табе,— уступіўся за Серафіма Чыжык.— Ён не з такіх.

Яны пайшлі, а Серафім паваліўся на тапчан і ўмомант заснуў сном праведніка. Яму сніліся прыгожыя сны: касьба на поплаве, жыта ў карагодах, вараны конь, які ляцеў у паветры...

Прачнуўся ён ад чыхсьці крокаў. У сховішча ўлазілі хлапчукі з набыткам. Серафім заўважыў, што Прыпай і Баранак крыху на падпітку. Яны доўга выхваляліся адзін перад адным сваім спрытам, з якім абкралі нейкіх жанчын.

— Піраваць будзем,— сказаў Баранак і дастаў з кішэняў каўбасу, хлеб і чацвярцінку гарэлкі.

— Нам нельга. Мы да Хана ідзём,— сказаў Чыжык, і Серафім прасякнуўся да яго яшчэ большай павагай.

Баранак з Прыпаем не сталі настойваць. Баранак разліў чацвярцінку па жасцяных конаўках, яны чокнуліся і разам выпілі.

— Пайшлі,— сказаў Чыжык.

Серафім устаў і пайшоў за ім, дзівячыся, што праспаў увесь доўгі вясновы дзень.

## 3

Тыя неймаверна доўгія, страшныя, бязглуздыя два гады, што Серафім неаднойчы хацеў вытруціць з памяці, засталіся ў ёй, як кашмарны сон.

Найперш яго вучылі лазіць па чужых кішэнях. Вадзіў Серафіма на заняткі ў царкву Чыжык. Там лазіць па кішэнях было справай бяспечнай. Чалавек, калі і чуў, што нехта лезе да яго, дык не мог крычаць, лаяцца, а тым больш пускаць у ход кулакі; злодзея

звычайна адганялі шэптам: пайшоў прэч, паскуднік. Серафім шыўся ў натоўп, выбіраў чарговую ахвяру, правяраў свой спрыт. Чыжык пільна сачыў за яго працай, паказваў, як трэба залазіць у кішэню, каб чалавек не пачуў.

Чыжык захапляў Серафіма непераймальным спрытам і смеласцю. У Серафіма часам нават стваралася ўражанне, што Чыжык лішне выстаўляе напаказ сваё ўмельства. Серафіму навука давалася цяжка. Можа, таму, што было заўсёды сорамна, калі ён выбіраў чарговую ахвяру і пачынаў памалу падбірацца да яе. Замест таго каб адтапырыць кішэню, Серафім прыціскаў руку да цела, і чалавек, вядома ж, адразу чуў гэта.

Чыжык не толькі вучыў, ён, наглядаючы за Серафімавай працай, ухітраўся сцібрыць хоць што-небудзь у разявак. Аднойчы ён адшпіліў залаты гадзіннік на ланцужку і, хоць Серафім яшчэ не пачынаў «вучобы», загадаў зматвацца з Пакроўскай царквы. Яны перайшлі ў Васкрасенскую.

Нарэшце і Серафім «закончыў» школу; Хан з гэтай нагоды выказаўся так:

— Цяпер ад цябе самога залежыць, колькі будзеш палучаць шышак ад няўдзячных кліентаў. Можа быць і горш: прыдушаць сардэчнага і радная мама не ўзнае, дзе магілка твая.

Серафім гэта разумеў. Ён дзейнічаў асцярожна і неўзабаве абжыўся клічкай Хухцік, якая, паводле Чыжыка, паходзіла ад назвы дужа асцярожнага звярка, якога ніхто ніколі не бачыў.

Серафіму шанцавала. Толькі аднаго разу яго застукалі на Смаленскім базары. Можа, ён і расстаўся б тады з жыццём, каб не шчаслівы выпадак: у той час з дому пасля абеду вяртаўся ў міліцыю, што размяшчалася за вуглом псіхіятрычнай бальніцы, начальнік аддзела па барацьбе з беспрытульнасцю. Ён і вырваў Серафіма з рук азвярэлага натоўпу, завёў у міліцыю, дзе асабіста абмыў кроў са шматлікіх сінякоў і драпін. Калі Серафім ачуняў, начальнік задаволена пацёр рукі, звярнуўся да яго з прамовай, якая назаўжды ўрэзалася ў памяць:

— Ну, малец, прама скажу, нарадзіўся ты ў шчаслівай кашулі, а таму наважаны я прыарганізаваць цябе да працоўнага калектыву Даўжанскай камуны па

перакоўцы дэфармаванай маладой свядомасці на марксісцкі капыл.

У Серафімавай галаве яшчэ гуло і звінела, але два словы «Даўжанская камуна» падзейнічалі на яго мацней за нашатырны спірт, які прымушаў Серафіма нюхаць начальнік аддзела па барацьбе з беспрытульнасцю. Серафім падумаў, што, бадай, ужо не выкруцішся, але пагадзіцца з такой доляй вельмі не хацелася. Прыроджаны розум і ўжо добра натрэніраваны вопыт падказалі яму, што спяшацца з высновамі не варта, але і сядзець склаўшы рукі таксама злачынна. Таму Серафім павёў тонкую ігру на заваяванне начальніцкага даверу. Ён згаджаўся з кожным словам начальніка, называў яго «дзядзя», што асабліва кранала немаладога міліцэйскага служку. Серафім цярпліва чакаў, і калі нядрэмная міліцэйская пільнасць растапілася ад ласкавага цяпла, што выпраменьвала Серафімава абаяльнасць, ён «рвануў кіпці» праз адчыненае акно, прыхапіўшы з сабой адзінае тэхнічнае ўзбраенне аддзела — дзіркакол.

Вобраз лапавухага міліцэйскага начальніка, з якога Серафім удосталь парагатаў з сябрамі, аднак, чамусьці засеў у памяці: раптам рабілася балюча і сорамна, што ён, Серафім, ашукаў чалавека, які выратаваў яму жыццё. На шчасце ці на бяду, сорам развейваўся, як толькі Серафім адпраўляўся на чарговае «дзела». Развейваўся не ад таго, што Серафіма вельмі захапляла блатная праца, а якраз наадварот, ад таго, што трэба было асцерагацца, заўсёды быць напагатове, і ўсялякая там меранхлюдзія, як казаў Хан, магла прывесці да больш сур'ёзных вынікаў.

Кожную раніцу на якой-небудзь чарговай кватэры начлежцы Серафіма ахоплівала брыдкая, ліпучая нудота — зноў адно і тое ж! Шныпаранне па людных мясцінах, віжаванне за спажывай, імгненнае праўдзенне аперацыі, магчымыя ўцёкі. А калі ўцякаць было рызыкоўна, тады даводзілася выслухоўваць лямант, галашэнне, праклёны на зладзейскую галаву. Серафім не баяўся праклёнаў: ці мала чаго нагавораць, але яго пры гэтым моцна цісну ў цяжар віны, аж хацелася падысці, вярнуць грошы або рэчы — гледзячы, што было ўкрадзена.

Ды асабістыя пачуцці трэба было старанна хаваць. З чуллівых смяяліся, з іх здзекаваліся: у асяродку такіх, як ён, зладзеяў цанілася жорсткасць, а не спагадлівасць. Але галоўнае заключалася ў тым, што апетыты Хана ўсё раслі і іх трэба было задавольваць, а прастора для дзеяння з кожным месяцам звужалася.

У іхняй кампаніі верхаводзіў Баранак, якога за вочы звалі Бараном. Ён і праўда нагадваў барана: светлыя валасы віліся колцамі, сінія вочы заўсёды бессэнсоўна глядзелі як бы ў нікуды, а да ўсяго ён быў тупы, але меў сілу і падтрымку Хана. Баран не даваў заседжвацца, патрабаваў поўнай справаздачы ад кожнага памочніка, і гора было таму, хто спрабаваў схаваць дзённую выручку. Яе і не хавалі, аддавалі сумленна, толькі пасля кожны атрымліваў сваю долю. Карысці ад здабычы, лічы, ніколі не было: набытае лёгка, лёгка і спускалася за адзін прысест у якой-небудзь забягалаўцы, дзе можна было аддацца куражу. Гулялі шумна, напаказ. Віно пілі бакаламі, піражнае елі тузінамі, цукеркі — фунтамі. Назаўтра хваліліся болем у галаве, шукалі, дзе можна пахмяліцца. На пахмелку грошай не хапала. Папойкі звычайна наладжвалі, калі ўдавалася злавіць тлустага карася. Але фарціла рэдка. Чым далей, тым усё больш пільным, вучаным станавіўся народ. Ды і паўсюль віселі красамоўныя парады, набраныя друкарскім спосабам на плакатах: «Асцерагайцеся кішэнных зладзеяў», «Будзьце пільныя — злодзей не дрэмле», «Азірніся, ці не стаіць побач злодзей».

На шчасце, міліцыя абмяжоўвалася развешваннем папярэджанняў. З блатным людам у канфлікты не ўступала, спасылаючыся на сваю малалікасць, хоць прычына была ў іншым: не будзе шпаны, не будзе працы і міліцыі. Міліцэйская думка вышэй гэтага сягала рэдка.

Серафім любіў хадзіць на «дзела» з Чыжыкам. Яму ўсё больш падабаўся гэты вясёлы, бесклапотны хлопец, які да таго ж працаваў чыста, з выдумкай.

Аднаго разу яны зрэзалі сідар, прывязаны да задка калёс. Бралі сідар на забаву, не спадзеючыся, што там нешта будзе схавана каштоўнае. Хто ж прывяжа мех з каштоўнасцю да задка калёс? Найхутчэй дзядзька схаваў у мяху нейкі хлам. А ў мяху аказаўся цэлы склад: скуранка, гамашы з крагамі, караку-

левыя шкуркі, афіцэрская бекеша, жаночыя плацці, мяшэчак з упрыгожаннямі і дзвесце семдзесят рублёў грошай. Па тым часе — незлічонае багацце.

Сідар яны зрэзалі за вадакачкай, каля стараверскіх могілак, на выездзе з горада — дарагія Серафіму мясціны па такім недалёкім дзяцінстве, калі ўдвух з Еркам яны бавілі тут час. З вялізным мехам не было чаго і думаць ісці праз увесь горад аж на Пескавацік, дзе ў іх быў прытулак. Серафім прапанаваў Чыжыку перачакаць у стараверскай царкве, пакуль адзін з іх не сходзіць на Пескавацік, не прыгоніць адтуль якога рамізніка. Вядома, не сам, а нехта з гаспадароў прытулку.

— Дык хто пойдзе на Пескавацік? — спытаўся Серафім, калі яны дасканала вывучылі ўсё, што знаходзілася ў сідары.

Серафіму хацелася застацца тут. На яго нахлынула мінулае, якое патрабавала адзіноты. Яшчэ хацелася пасядзець на званіцы, з якой бачна ўсё Задунаўе.

— Куды ты спяшаешся? — асадзіў яго Чыжык.— Усё роўна дзякуй не скажуць. А я жраць хачу. Маем мы права ці не маем з гэтых грошай дазволіць сабе ўзяць крыху на жратву? Маем, Сіма, маем...

Серафім быў нямала здзіўлены, што Чыжык назваў яго не Хухцікам, як паложана было называць у іхняй кампаніі, а Сімам, як некалі называла мама.

— Дык жа во напёр усяго ў сідар, а каб людзям чаго пашамаць, дык не дадумаўся пакласці,— пажартаваў Серафім.

— Я вобмельгам збегаю,— сказаў Чыжык.— Тут у мяне адна знаёмая дама гандлюе. Знойдзе чаго пашамаць двум небаракам.

— Толькі доўга не затрымлівайся,— папярэдзіў яго Серафім.

— Адна нага тут, другая там,— весела адказаў Чыжык.

Застаўшыся адзін, Серафім завалок мех у баковачку, дзе некалі хаваліся царкоўныя прыналежнасці, а сам забраўся на званіцу. З яе адкрываліся знаёмыя пейзажы: дахі, бясконцыя дахі, сярод якіх ляжалі вузкія цясніны вуліц. Пазіраючы на іх з птушынага палёту, Серафім чуў, як падбіраецца к сэрцу неадольная туга. Колькі цудоўных гадзін правялі яны

з Еркам на гэтай званіцы! Дзе цяпер Ерка? Дзе стараверскі поп, які аднаго разу частаваў іх памінальнымі прасвіркамі і віном, што засталося ад прычашчэння? Добра відаць адсюль была і Духаўская царква, каля якой жылі Аксінка, цётка Ліда і Ілля Дрэль, куды пазней перасялілася і цётка Дар'я. Дзе яны цяпер? Можа, успамінаюць яго і таксама думаюць: дзе ён?

Успаміны вярэдзілі Серафімаву душу, аж ява здавалася кашмарным сном, ад якога прачнешся, узрадуешся, што быў сон, і пабяжыш дамоў да мамы і Марка.

Унізе пралягала пустынная, заўсёды пыльная Руская вуліца. Абапал яе нягуста стаялі старыя, урослыя ў зямлю хібары. Па вуліцы важна ішоў Чыжык з пакункамі, якія ён прыціскаў да грудзей абедзвюма рукамі. Дайшоўшы да рога Маскоўскай вуліцы, дзе пачыналася царкоўная агароджа, Чыжык азірнуўся і, пераканаўшыся, што нідзе і нікога няма, сігануў цераз пралом у агароджы.

— А во і я,— сказаў ён, расцягваючы ўсмешкай і без таго шырокі рот.— Будзем піраваць, калі так пафарціла.

У царкве нейкім цудам застаўся сталок, на які звычайна ставілі куццю, клалі на памін мёртвых яйкі, кавалкі пірага, цукеркі. Чыжык вылажыў на стол прынесеную ім яду: кавалак каўбасы, чатыры яйкі, паўфунта масла, хлеб, а на закуску два піражныя і сельтэрскую ваду ў бутэльках з фарфоравымі каўпачкамі.

Абедалі моўчкі — голад дацінаў абодвух: не дзіва, з раніцы ні макавай расінкі ў роце. Потым ляжалі на лаўках кліраса, лянiва размаўлялі.

Пазней Серафім ніяк не мог прыгадаць, з чаго пачалася тая небяспечная гаворка. Але што яе распачаў не ён, Серафім быў абсалютна ўпэўнены. Ён тады жыў пад вечным, неаслабным страхам нешта не так сказаць, не тое зрабіць. Ва ўсякім разе, і гэта Серафім добра запомніў, Чыжык спытаўся, ці адкладае што Серафім на чорны дзень.

Пытанне было зададзена з нейкім вывертам, як бы жартам, але і ўсур'ёз, так што Серафім адчуў навіслую над ім небяспеку. Хаваць грошы ад напарнікаў, а тым больш ад гаспадара, у дадзеным

выпадку ад Хана, лічылася найгоршым злачынствам, якое каралася жорстка і бязлітасна. Серафім заўсёды аддаваў усё да капеечкі. Не дзіўна, што пытанне Чыжыка яго насцярожыла.

— Але ж я аддаю ўсе грошы,— крыху разгублена сказаў ён.

— Ну, і дурань,— заявіў Чыжык.

— А ты хіба адкладваеш?..

— Яшчэ раз дурань,— падсумаваў гаворку Чыжык.

Серафім не пакрыўдзіўся: Чыжык быў старэйшы і падпарадкоўвацца яму было справай абавязковай.

На тым гаворка магла і завяршыцца. Ды раптам Чыжык загаварыў зусім па-іншаму:

— Хочаш, я раскажу, як трапіў у Ханаву хеўру?

— Канешне, хачу,— адказаў Серафім.

— Родам я з Польшчы, з Сувалак. Хоць дакладна не ведаю. Няясна памятаю, як нас пагналі ў адступленне. Ішла германская вайна. Мы ехалі ў доўгім-доўгім абозе на параконцы. Помню гнядога каня і белага. А можа, не белага, спрачацца не стану. Але іх было два. Апынуліся мы ў нейкім лагеры каля Чашнікаў. Выгнаннікаў там набралася — не злічыць. Адтуль іх накіроўвалі ў Расію. Многія знаёмыя, з якімі мы адступалі, паехалі ў Расію, а мы засталіся, бо захварэў бацька. Захварэў і памёр. Я яго зусім не памятаю. Хачу ўспомніць, які ён быў з твару, і не магу. Нават у сне бачу яго, але без твару. А вось маці добра памятаю. Пасля смерці бацькі нас прытуліў нейкі вясковы дзядзька. У яго было трое дзяцей і нас у мамы трое. А потым мама, старэйшы брат і малодшая сястра захварэлі на тыфус, і ўсе памёрлі. А я выжыў. І дзядзькава дачка выжыла. Яна была зусім дарослая і вельмі шкодная. Не любіла мяне. Асабліва як стала за гаспадыню ў хаце. Пасвіў я жывёлу: кароў, авечак, гусей і качак. А яна ўсё абзывала мяне дармаедам. Дзядзька быў добры, але дачкі баяўся. Ён усё казаў, што ўсынавіць мяне. Але дзе там? Не ўсынавіў бы ён мяне — дачка не дазволіла б. А неўзабаве дзядзьку пачалі прыціскаць, што мае наёмную сілу: мяне, значыцца. Нейкая стрыжаная баба ўсё прыходзіла да дзядзькі і пагражала яму судом. Аднойчы дзядзька і кажа мне: паедзем у горад. Я ўзрадаваўся: як жа, ніколі на цягніку не ездзіў.

А калі на станцыі ўбачыў яго, дзела было ноччу, дык ледзь ад страху ў штаны не наклаў. Ну, вось, прывёз мяне дзядзька ў горад, павадзіў па нейкіх установах ды і кажа: «Пастой тут, а я па цябе прыйду». І пайшоў. Стаю, чакаю, а дзядзькі ўсё няма. Сцямнела. А дзядзькі няма. Насупраць сталоўка была. Пайшоў туды, думаў, дзядзька там сядзіць. Няма. І па сённяшні дзень няма. Тут мяне і падабраў Баранак. Чатыры гады мардуюся. Надакучыла.

У Чыжыкавым лёсе Серафіму пачуўся ягоны крыўдны лёс, а сам Чыжык здаўся Серафіму радней роднага брата, які таксама памёр, аддадзены Маркам на выхаванне да ягонай сястры. Серафіму захацелася расказаць пра свае прыгоды, аблегчыць спакутаваную душу шчырай споведдзю. Але шчырасці не хапіла. Ну, як ты раскажаш пра Марка, які толькі тое і рабіў, што змагаўся вось з такімі зладзеямі, якімі сталі яны з Чыжыкам? А як прызнацца Чыжыку, што ён сам удзельнічаў у аперацыі супраць братоў Чыкуновых, якіх, можа, ведае Хан? І ўжо зусім немагчыма ўспомніць, як загінуў калека Мечык і не без яго, Серафімавага, удзелу? Давялося зрабіць выгляд, што ў ягоным жыцці наогул не было гарадскога перыяду, што ён, нарадзіўся і жыў у вёсцы. Першапачатковая біяграфія таму складвалася даволі банальна: бацькі Серафім не памятае, маці выйшла замуж, але хутка памерла ад прастуды. Вотчым, натуральна, ажаніўся, і новая ягоная жонка загадала аддаць Серафіма дзеду. Давялося ўтаіць і дзедава раскулачванне. Серафім ведаў, што блатныя смерць як ненавідзелі вясковых людзей, асабліва калі тыя былі заможныя. Давялося выдумваць дзедаву і бабуліну смерць. Атрымалася даволі чуллівая гісторыя, якая дужа ўзрушыла Чыжыка. Чыжык наогул быў вельмі сентыментальны, што зусім не адпавядала яго занятку.

Любоў і дружба аднолькава пачынаюцца з узаемнай споведзі. Гэта і зблізіла Серафіма з Чыжыкам так цесна, што Чыжык першы загаварыў пра вечную дружбу, якую і вадой не разальеш і агнём не растопіш. Серафім пагадзіўся: яму таксама не хапала вернай дружбы.

— Тады давай паклянёмся,— прапанаваў Чыжык, вымаючы з кішэні свой славуты нож, вузкае лязо

якога хавалася ў калодку і вымалася адтуль адным націскам кнопкі.

— Клянуся,— паспяшаўся Серафім і быў спынены нецярплівым голасам Чыжыка.

— Дадзім клятву на нажы і крыві,— вельмі сур'ёзна прапанаваў Чыжык.

Ён расшпіліў на грудзях кашулю, закасаў рукаў на левай руцэ. Няўлоўным рухам дакрануўся кончыкам нажа да рукі, крыху ніжэй локця — па ёй пацякла цурочкам пунсовая кроў. Чыжык асцярожна сабраў яе на лязо нажа, сказаў Серафіму:

— Давай тваю руку...

Гэтак жа спрытна Чыжык кальнуў Серафімаву руку, змяшаў ягоную кроў са сваёй усё на тым жа вузкім лязе нажа.

— Бачыш, у нас з табой адна кроў,— растлумачыў Чыжык Серафіму.— Бывае, кроў спрагаецца, тады дружба абарочваецца варожасцю. А наша кроў змяшалася, і цяпер мы да магілы дружбакі.

Чыжык загадаў Серафіму макнуць палец у кроў і зрабіць ёю адмеціну на ягонай левай грудзіне, там, дзе б'ецца сэрца. Сам ён зрабіў такую ж метку на грудзіне Серафіма. Яны абняліся і тройчы пацалаваліся. Серафіму падумалася, што абрад гэты ні да чога не абавязвае, ды Чыжык ашаламіў яго страшнай прапановай.

— Давай, Сімка, заначым грошы, што ляжаць у сідары,— як пра нешта дужа звычайнае сказаў ён.

Серафім разгубіўся. Во ўжо чаго ён не чакаў ад Чыжыка, дык гэта спакойнай практычнасці. І не адмовішся: яны пакляліся на вечную дружбу, а гэта абавязвае падтрымліваць адзін аднаго. Раптам Серафіма скалола таксама вельмі практычная думка: а што, калі Чыжык выпрабоўвае яго?

— Здурэў? — абурыўся Серафім.— Дазнаецца Хан — нам канцы.

— Не дазнаецца,— упэўнена запярэчыў Чыжык.— Убачыць сідар з дабром, на ўсё забудзе. Ён і не падумае, што нейкі дзівак разам з такім дабром ды яшчэ паклаў грошы. Ды і ніхто не падумае, не тое што Хан. Яму і грошы без патрэбы, а нам з табой — пазарэз.

— А нам навошта? Каб прагуляць? Знаеш, мне

гэтыя гулянкі поперак горла стаяць. Назаўтра галава трашчыць.

— Думаеш, мне яны ўцеха? Ды і не на пагулянкі мне грошы патрэбны.

— Жаніцца ўздумаў? — пажартаваў Серафім.

— Ты ж не збіраешся ўсё жыццё на Хана ішачыць? І я не збіраюся. Таму і адкладваю грошы на чорны дзень. Ну, дык што? Па руках? Дзелім папалам?

— Бяры ўсе,— сказаў Серафім.

— Так будзе несправядліва.

— Мне грошы не патрэбны. Што я з імі буду рабіць? А даведаецца хто з нашых, сядзець мне на пяры.

— Дык аддаеш?

— Я сказаў...

— Дзякуй, Сіма,— прачула падзякаваў Чыжык.— Думаеш, я — жмінда? У мяне во што на вуме. Хачу мараком стаць. Спачатку, вядома, юнгай. Паеду ў Ленінград. Там ёсць школа юнгаў. Паступлю, на марака вывучуся, капітанам стану. Эх, Сімка, каб ты ведаў, як я па марскім жыцці сохну. Кожную ноч караблі сню. А на мосціку я стаю. Вакол хвалі, вецер свішча, а я плыву, плыву, пакуль не прачнуся, і такая мяне туга ахопіць, што тырчу тут і па кішэнях шастаю.

— Брэшаш ты, Лёшка, як наняты,— сказаў Серафім, крыху пакрыўджаны, што Чыжык мае свае планы, а ў яго іх няма.— І ніякай школы юнгаў няма, і нікуды ты не паедзеш...

— Ах, так! Тады чытай...

Чыжык выцягнуў з кішэні канверт, а з яго казённы бланк з надрукаваным на машынцы тэкстам. На бланку пісалася: так, маўляў, і так, паважаны таварыш Кляўцоў, памкненне ваша вельмі пахвальнае, Чырвоны флот усяляк падтрымлівае памкненне пралетарскай моладзі служыць на флоце, таму звярніцеся ў школу юнгаў, куды мы пераслалі вашу заяву з адпаведнай рэзалюцыяй наркома, таварыша Варашылава. Дасылаем адрас школы юнгаў. Далей быў неразборлівы подпіс, за якім стаяла смешнаватая назва пасады чалавека: замкомпомордел.

Серафім зарагатаў: такой смешнай і неіснуючай здалася яму пасада чалавека, які знарок распісаўся неразборліва, а Чыжык паверыў.

— Эх ты! Тут жа і дурню зразумела, што

розыгрыш. Хіба ж ёсць пасада замком па мордзе? Во табе і далі замком.

Чыжык паківаў галавой.

— Цемната. Нада во як чытаць: заместитель командующего по морским делам.

— Мяне ў тую школу не прымуць,— сказаў Серафім, раптам зразумеўшы, што Чыжык не хлусіць.

## 4

На праваслаўнае свята Пятра і Паўла, якое супадала з рэвалюцыйнай гадавінай вызвалення Беларусі ад белапалякаў, горад гуляў, весяліўся з той бесшабашнай бесклапотнасцю, якая бывае ў людзей, што праз увесь год не бачылі ніякіх радасцей і хацелі цяпер нагнаць упушчанае.

Хто верыў у бога і быў прыхільны да дзядоўскіх звычаяў, адстойвалі паложаны час на малітве, потым разыходзіліся па дамах, а вясковы люд — па дварах ускраін, дзе пакідалі выязныя калёсы і коней, каб адзначыць свята і добрай чаркай, і святочным абедам, хай сабе і прыхопленым з дому. Моладзь і няверуючыя весяліліся на плошчах і ў трох скверах, дзе з самай раніцы грымелі меддзю духавыя аркестры, выступалі прафесійныя і самадзейныя акцёры, пацяшаючы шаноўную публіку паказам абсурднага жыцця гнілога і смярдзючага імперыялізму. Для бязбожнікаў на плошчах і ў скверах былі расстаўлены сталы і палаткі, дзе можна было добра выпіць. П'яных таму было процьма ўжо з самай раніцы і паўсюду.

Масавыя зборышчы давалі неабмежаваныя магчымасці насельнікам злачыннага дна абіраць зявак і выпівох. І хоць занятак гэты быў не бог ведае які складаны, ды ўсякая справа мае свае тонкасці, асабліва калі натоўп, што весела праводзіць свой вольны час, раптам заўважае, што нехта паквапіўся на ягоную ўласнасць. Небяспека ў такіх выпадках станавілася ўтрая большай.

Усе чацвёра былі вучаныя. Прыпай з Баранкам для храбрасці выпілі чацвярцінку на двух. Чыжык з Серафімам хадзілі на дзела цвярозымі, што заўсёды выклікала адабрэнне Хана.

— Як пойдзем? Парамі ці па адным? — найбольш

дзеля куражу спытаўся Баранак, бо думкі Чыжыка і Серафіма не ішлі ў залік.

— Вядома, па адным,— нецярпліва адгукнуўся Прыпай.

Чыжык з Серафімам пераглянуліся: і дурню было зразумела, што ў такі фартовы дзень выгадней ісці на дзела па адным. Па-першае, ёсць шанцы на добрую здабычу, а па-другое, калі ідзеш адзін і табе добра пафарціць, дык частку здабычы можна заначыць ад Хана.

Разыходзіліся ў поўдзень. Не спяшаліся, хай публіка ўцягнецца ў гульбу, страціць пільнасць. Раёны дзеяння былі размеркаваны зараней: губернатарскі, як па-цяперашняму, дык сад імя Леніна, дастаўся Серафіму; Саборная плошча, або Пляц Волі — Баранку, Смаленскі базар — Чыжыку, Васкрасенская царква, касцёл і сад імя Прафінтэрна — Прыпаю.

Горад быў падобны на мурашнік. Серафім прайшоўся па вуліцы Леніна да гадзіннікавай майстэрні Шуба, вярнуўся назад, па Савецкай вуліцы дайшоў да варот губернатарскага саду, адчыненых наросхліст з выпадку рэвалюцыйнага свята.

Народу ў садзе не прадыхнуць. На памосце, спецыяльна падноўленым да свята, выступала нейкая самадзейная трупа: з вялізнымі вусамі маршал Пілсудскі ў канфедэратцы і з кардоннай шашкай на баку танцаваў кракавяк з лордам Чэмберленам у непамерна вялікім фраку і з намаляваным на твары маноклем; тоўсты і вельмі курносы папа рымскі, звар'яцела лямантуючы, размахваў вялізным крыжам — благаслаўляў новы крыжовы паход на Савецкую краіну; за жоўтай трыбунай па-сабачы выў непрыемны тып у камізэльцы і з пенснэ на носе, а ў цэнтры памоста сядзеў на ўслоне поп з чырвоным носам, каля ягоных ног ляжала напаўголая дзеўка, ушчэнт расфарбаваная — перажытак мінулага,— з гітарай у руках. Поп па-заліхвацку іграў на гармоніку, дзяўчына трымкала на гітары і спявала рызыкоўныя для тонкага слыху прыпеўкі:

Эх, вішанька, ды сокам налітая,
Распапала я з папом і стала святая.
Эх, вішанька ды чарэшанька,
Мяне любіць поп, хоць і грэшненька.

Бязбожны натоўп весела ржаў: дасталося кудлатаму!

Летняе сонца ярка асвятляла добра прарэджаны за гады савецкай улады губернатарскі сад з мноствам плакатаў, дыяграм, чырвоных лозунгаў, карыкатур на буржуазных дзеячаў і розных контррэвалюцыйных элементаў. На чыгунных ствалах марцір, што нейкім цудам захаваліся разам з абеліскам у гонар перамогі рускага воінства над Напалеонам, сядзелі дзеці. Па сцежках саду скакалі бесклапотныя вераб'і. У крутых берагах задуменна плыла Дзвіна. Уздоўж берага стракацелі грыбкі, пад якімі стаялі сталы і лазовыя крэслы. За сталамі сядзелі наведвальнікі, не спяшаючыся елі бісквіты і марожанае, пілі сельтэрскую ваду і ліманад, піва і горкую рускую, каньякі і шампанскае. Да моцных напіткаў падавалася адпаведная закусь.

Серафім прайшоўся паўз бераг. Яму пашанцавала з першага заходу. Нейкі, няйначай, заезджы гусь, нібы жадаючы падражніць Серафіма, дастаў з унутранай кішэні пінжака дарагі бумажнік з кракадзілавай скуры, вывудзіў адтуль новенькі чырвонец, падаў афіцыянтцы, што абслугоўвала яго з дамай, як на Серафімава вока, дык яўна мясцовага паходжання. Афіцыянтка хацела даць рэшту, але гусь адхіліў яе руку.

«Багач,— падумаў Серафім.— Зараз я яго паказычу, хай толькі падымецца ды зачэшацца ў натоўп».

Але гусь з дамай не збіраліся ісці да памоста. Відаць, яны зусім не цікавіліся выступленнем самадзейнай трупы. Зрэшты, не толькі яны. Усе больш-менш прыстойна апранутыя аж крывіліся ад задзёрыстых прыпевак напаўголай дзеўкі.

Бумажнік з кракадзілавай скуры, як магнітам, прыцягваў Серафіма. Ён стаяў воддаль, пад ліпай, і з неаслабнай увагай цікаваў за заезджым гусем: скранецца ж ён нарэшце з месца ці так і будзе тырчаць за сталом? Серафіма разбірала злосць: сядзяць жа, гады! Не, каб прайсціся, паглядзець на Пілсудскага, атрымаць благаславенне папы рымскага... Заезджы гусь не спяшаўся.

Тым часам самадзейная трупа кончыла прадстаўленне, і тады на памосце ўзнік ілюзіяніст-фокуснік з памагатай — маладой дзяўчынай. З усяго

саду да памоста паплыў цікаўны народ. Дзякуй богу, і гусева дама захацела паглядзець фокусы — пацягнула да памоста гуся. Серафім пайшоў за імі, не спускаючы вачэй. Яго крыху ліхаманіла, як і звычайна, калі чуўся добры набытак.

Ілюзіяніст-фокуснік вытвараў на памосце цуды. Публіка захоплена апладзіравала. Не стрымаўся і заезджы гусь — запляскаў у далоні і... прапляскаў бумажнік. Спрытней за ілюзіяніста-фокусніка Серафім выпатрашыў бумажнік, адчуў у пальцах ладны стосік грошай, хуценька засунуў іх у падштанікі, дзе мелася спецыяльна прышытая кішэнька, бумажнік кінуў пад ногі, а сам рашуча, не выклікаючы падазронасці, пачаў выбірацца з натоўпу. За ягонай спіной крычаў заезджы гусь, нехта гыркнуў яму:

— Чаго гарлапаніш? Вунь ён, пад нагамі...

Серафім спакойна дайшоў да зараснікаў каля паўднёвай сцяны саду, вылез праз дзірку-выручалачку ў сцяне і апынуўся ў тупічку з адзіным на ім будынкам скурна-венерычнага дыспансера. Адтуль падаўся на вуліцу Крылова, што, віхляючы, збягала да вуліцы Валадарскага, і далей на Падзвінне.

Ва Успенскім саборы якраз закончылася абедня, з яго высыпалі багамольцы. Серафім, пасвістваючы, ішоў паперадзе іх да саду імя Прафінтэрна, каб сесці там на трамвай. На сёння хопіць! Не трэба лішне кваліцца...

Перад Серафімам ляжала пустэльная вуліца. Раптам з-за дома з вялізным балконам пачуўся невыразны гул, і адтуль выбег Прыпай. За ім гнаўся натоўп, крычучы як бы адным раз'ятраным горлам: «Трымай злодзея!..»

Прыпай бег лёгка. Серафім, затаіўшы дыханне, сачыў за ім. Зараз Прыпай нырне ў падваротню, а там шукай-свішчы — не знойдзеш. Серафіму страшэнна хацелася, каб Прыпай як найхутчэй уцёк ад азвярэлага натоўпу. Але той чамусьці прамінуў падваротню, нібы гуляў з натоўпам у даганялкі. Прыпай яўна бег на вуліцу Крылова, каб цераз тупічок дабрацца да губернатарскага саду. Выскачыўшы на вуліцу Крылова, Прыпай азірнуўся — ці далёка ягоныя праследвацелі? — наддаў ходу і толькі тут убачыў людзей, што валам валілі з Успенскага сабора. Ён замітусіўся, як зацкаваны заяц; яго нагнаў проставалосы, магутны

ў плячах хлопец у плісавай кашулі, падпяразанай поясам з кутасамі, з разгону паддаў ботам у паясніцу — Прыпай выгнуўся дугой, узляцеў ластаўкай у паветры і, адляцеўшы крокі на чатыры, паваліўся на брук тварам уніз. Азвярэлы натоўп, што гнаўся за ім, падмяў Прыпая пад сябе.

Серафім як стаяў на тратуары, так і не зрушыў з месца, скуты страхам і бездапаможнасцю. Ён бачыў, як варушыцца клубок чалавечых цел, але нічога не чуў: у вушах стаяў нясцерпны звон, як бывала, калі яны з Еркам сядзелі на званіцы староверскай царквы, а званар трызвоніў на ўсю акругу. Яму раптам здалося, што проставалосы хлопец і ёсць Ерка.

Ачнуўся Серафім ад пранізлівага міліцэйскага свістка. Свісток заўсёды дзейнічаў на яго выцвераджальна. Званілі званы адразу на трох званіцах: Успенскага і Мікалаеўскага сабораў і Васкрасенскай царквы. Ярасна свістаў дзябёлы міліцыянер у белай часучовай форме. Ён стаяў пасярод вуліцы, не падыходзіў да натоўпу, што забіваў Прыпая. Але найбольш асцярожныя ўжо рэагавалі на ягоны свісток — па адным адрываліся ад натоўпу. Міліцыянер без належнай настойлівасці затрымліваў каторых, пытаўся:

— У чым дзела? Хто можа засвідзецельстваваць?..

Ніхто не хацеў мець справу з міліцыяй, а тым больш лезці ў сведкі. Усе адгаворваліся:

— Не ведаю...

— Я сам цікавіўся...

— Я толькі падышоў...

Завязваючы на плісавай кашулі пояс, малады хлопец, падобны на Ерку, на тое ж пытанне міліцыянера адказаў больш падрабязна:

— Злодзея, кажуць, прышылі. Ды ты сам, таварыш міліцыянер, падыдзі ды запытайся. Я канкрэтна нічога сказаць не магу, хоць і рад быў бы памагчы нашай міліцыі...

Натоўп разышоўся, і тады стала відаць, што, прыкрываючы галаву рукамі, на бруку ляжыць чалавек. Міліцыянер падышоў да яго, прысеў на кукішкі. З тратуара за ім баязліва сачылі людзі. Міліцянер перавярнуў Прыпая тварам дагары, па

дабраў Прыпаеву кепку, прыкрыў ёю ягоны твар, прыўзняўся на ўвесь рост, крыкнуў:

— Ра-азайдзіся-я-я!.. Мёртвых не бачылі?..

Сярод помнікаў на яўрэйскіх могілках Серафім праляжаў у здранцвеласці да самага вечара. Яго раздзіралі супярэчлівыя, пакутлівыя думкі. Яму не было шкада Прыпая. Серафім спрабаваў выклікаць у сабе боль ад страты напарніка па зладзейскіх паходах і не мог. Хоць плач — не мог! Нават па блатных уяўленнях аб чалавечай прыстойнасці Прыпай быў дрэнню, якой зазвычай тварыць толькі паскудства. Але ягоная гвалтоўная, дзікая смерць сярод белага дня выклікала ў Серафімавай душы зябкі боль, такі ж, што выклікала некалі смерць маладога латыша, які не хацеў ехаць у Сібір.

Такія розныя людзі і такая аднолькавая смерць! Чаму яна існуе? Хто насылае яе на людзей? Як чалавеку ўратавацца ад гэтай гвалтоўнай, наглай смерці?

Усяго тры пытанні, але якія яны невырашальныя!

Серафім прыгадаў бабуліны малітвы і памаліўся, але не памагло. Наадварот, яму падумалася: а што, калі і бабулю дзе-небудзь на краі зямлі, якой яму ўяўлялася Сібір, нагнала вось такая ж гвалтоўная смерць? І душа заныла, затрапятала яшчэ мацней.

Серафім ляжаў на спіне, глядзеў у бясконцае неба і ўпершыню адчуваў сваю нікчэмнасць перад уладнасцю гвалтоўнай смерці. Задумае хто забіць і заб'е, і няма ніякага ратунку. Як і ўсе маладыя, што не паспыталі яшчэ смаку жыцця, Серафім не адчуваў панічнага страху перад смерцю. Але ён не мог не задумацца над сэнсам жыцця і гвалтоўнай смерці, той, што накіроўваецца рукой чалавека. Хто даў яму права пасылаць смерць, пазбаўляць людзей жыцця?

Раптам ягоная думка нырнула ў нечаканым для яго накірунку: а што адчувае чалавек перад гвалтоўнай смерцю? Што адчуваў латыш, калі ўцякаў ад канвіраў, якія суправаджалі абоз? Чуў жа ён, што па ім страляюць, але не спыняўся, бег. Спадзяваўся ўцячы? Куды? Што ён рабіў бы, каб удалося ўцячы? Ён, бадай, і красці не ўмеў. Можа, навучыўся б?.. А што адчуваў Прыпай, уцякаючы ад азвярэлага натоўпу? Не можа быць, каб нічога не адчуваў. Чалавек жа!..

Серафімава думка дала яшчэ аднаго нырца; ён толькі цяпер успомніў пра ўкрадзеныя грошы і падумаў: ці многа іх?

Добра агледзеўшыся, ці няма паблізу непатрэбнага вока, Серафім дастаў з кішэнькі падштанікаў стосік чырвонцаў. Яны, крыху ўжо скамечаныя, прыемна хрусцелі. Паслініўшы пальцы, Серафім, не спяшаючыся, пералічыў чырвонцы. Іх аказалася трыццаць сем. Цэлае багацце! Не Сімка-беспрытульнік, а буржуй! Трыста на абшчагу, семдзесят на заначку, на чорны дзень, як казаў Чыжык. Ну, яе, гэтую блатную жызню. Пара канчаць! З сямю чырвонцамі? Ну, і дурань! Хопіць Хану і семдзесят...

Сутоньвалася. Высока ў небе мігцелі стрыжы. З цэнтра горада далятаў сюды прыглушаны гул. Здавалася, што горад натруджана, цяжка дыхае, быццам яму не хапае паветра. Трэба было недзе схаваць грошы. Серафім пашкадаваў, што выкінуў бумажнік — цяпер спатрэбіўся б. Бумажнік можна было засунуць між пліт. Але ж нешта трэба рабіць. Серафім зняў кепку, засунуў за падкладку трыста рублёў, знайшоў сховішча, паклаў туды кепку з грашамі, пайшоў на начлег на Ветраную вуліцу, што збягала з семінарскага пагорка да Дзвіны.

У прытулку ўжо былі Баранак і Чыжык. Хан, напэўна, і не прыйдзе, у яго мноства неадкладных спраў. Прыпай таксама не прыйдзе. Баранак спаў. У пакоі смярдзела перагарам. Серафім сказаў Чыжыку:

— Давай выйдзем...

Чыжык узняўся і пайшоў за ім, нават не запытаўшы, куды і чаго яго кліча Серафім. На крутым беразе ракі яны селі пад ліпу. Над губернатарскім садам успыхвалі ракеты.

— Хververк,— важна прамовіў Чыжык.

— Прыпая забілі,— сказаў Серафім.

— Ідзі ты!..

— Насупраць саду «Прафінтэрн»...

— Насмерць?..

— Калі забіваюць, дык насмерць,— павучальна зазначыў Серафім.

Наваколле то асвятлялася святочным феерверкам, то пагружалася ў апраметную цемру.

— Дзялы...— зазначыў Чыжык.

— Я сёння трыста семдзесят тугрыкаў выцягнуў у нейкага фраера,— без усялякай сувязі з размовай пра Прыпая сказаў Серафім.

— Табе пафарціла,— пазайздросціў Чыжык.— А я на дробязі праматаўся ўвесь божы дзень.

— Ты толькі не кажы, я трыста тугрыкаў прыкарманіў...

— Ну, і правільна. Сам не прагаварыся. І яшчэ, Сімка, не гавары пра Прыпая. Хай самі даведаюцца. Але Хану смерць Прыпая да лямпачкі.

Чыжык як у ваду глядзеў: не стала Прыпая, і ніхто пра яго не ўспомніў. Тым больш надышлі іншыя, страшныя часіны. Раптам успыхнула злосная, нястрымная варожасць паміж рознымі зладзейскімі групамі. Распачала блатную вайну шайка растоўскіх жулікаў, што прыехала на гастролі ў горад. Яна і нацкавала сваіх на сваіх, каб самой можна было дзейнічаць бесперашкодна.

У адным з крывавых пабоішчаў спёкся на зладзейскай фінцы Баранак. На Серафімава здзіўленне, у яго меліся бацькі ў падгарадской вёсачцы Малінаўка: бацька займаўся возніцтвам, маці вяла гаспадарку на дзвюх дзесяцінах зямлі, падзарабляла на базарах, перакупляючы ў мужыкоў садавіну і гародніну ўлетку, птушку і парасят — увосень, а ў астатнія поры года — што пашле бог. Было ў іх трое сыноў, і ўсе трое пайшлі па зладзейскай сцежцы. І ўсе трое загінулі гвалтоўнай смерцю.

Хавалі Баранка — па-хрышчонаму Васіля Якаўлевіча Баранава — на малінаўскіх могілках, такіх жа голых, як і ўся вёска, побач з двума шалапутнымі братамі. Паміналі ў старой адрыне — хата была цесная, чатыром чалавекам не разысціся — за спехам збітымі сталамі. Бацька шмат піў і ўсё паўтараў адно і тое ж:

— Што каму дадзена,— кожны раз пры гэтым наліваючы сабе гарэлку ў шклянку з тоўстага шкла.

Было неяк дзіўна, што ніхто па Баранку не плакаў, нават маці. Усё яе рэагаванне на сынаву смерць заключалася ў тым, што на бацькава: «Што каму дадзена» яна адказвала таксама коратка, але асуджальна:

— Ладна табе. Што шукалі, тое і знайшлі...

Памінкі пакінулі ў Серафімавай душы прыкры асадак.

...Над горадам ужо нікла лета: чарнелі і даўжэлі цені ад дамоў і дрэў; сонечныя промні не падалі строма, а адхонна клаліся пад ногі; аблятала з дрэў жоўтае лісце, а на небасхіле гусцелі белыя з чорнымі падпалінамі воблакі.

Серафім з Чыжыкам вярталіся на Пескавацік моўчкі. Усё яшчэ прыгнятала гвалтоўная смерць Баранка.

— Трэба канчаць,— раптам сказаў Чыжык.

Серафім прамаўчаў. Ён адчуваў страшную, нечалавечую зморанасць.

## 5

Жнівень быў сухі і гарачы, а верасень абрынуў на горад холад і дождж. І адразу паменшалі здабыткі. Ды Хан не вельмі патрабаваў. Пасля смерці Баранка Серафім з Чыжыкам адчулі палёгку. Было нават дзіўна: з якой такой радасці падабрэў Хан? Памеркаваўшы, прыйшлі да высновы, што Хан баіцца згубіць і іх.

Крывавыя пабоішчы між зладзейскімі шайкамі не толькі парушылі звычныя сувязі, расхісталі зладзейскія асновы, яны вылучылі на першыя ролі маладых, смелых верхаводаў, якія не жадалі ўжо лічыцца з асновамі зладзейскіх традыцый, што прыйшлі яшчэ з дарэвалюцыйнай пары. Пастаянная залежнасць адных ад волі другіх згубіла былую грунтоўнасць. Галапузая шпана, якую нядаўна трымалі на пабягушках, раптам займела вагу сярод сваіх жа атаманаў, запатрабавала самастойнасці. Не толькі Хану даводзілася з гэтым лічыцца.

— Ну, што, Сімка, я завязваю,— сказаў Чыжык, калі пескавацкая начлежка-прытон для іх закрылася назаўжды; гаспадыню папуталі на гандлі крадзеным, засудзілі з канфіскацыяй маёмасці. Мусіць, старая не толькі гандлявала крадзеным. Серафім з Чыжыкам атабарыліся ў сутарэнні ткацкай фабрыкі імя Клары Цэткін, па якім пралягалі трубы паравога ацяплення ад кацельні.

Жылі там яшчэ трое беспрытульных, якія напачатку рашуча запратэставалі, а потым, пачуўшы ў Чыжыку і Серафіму бывалых сяброў па агульным

лёсе, не толькі пагадзіліся, каб яны начавалі, але ўсяляк аказвалі ім пашану.

— Табе што, паедзеш у школу юнгаў,— сказаў Серафім.

— Ніякіх юнгаў — адны няздзейсненыя мары,— прачула сказаў Чыжык.— І пісьмо тое я спёр. І прозвішча маё, калі хочаш ведаць, не Кляўцоў, а Сядзячыц.

— Куды ж ты пойдзеш?..

— Свет вялікі...— працягваў Чыжык.— Грошай я падзаначыў — на першы час хопіць. Нявучаны я — во бяда. Хаця б класаў чатыры. А ў Піцеры я пабуду, хоць гляну на той будынак, дзе на юнгаў вучацца. А раптам пашанцуе! Дакументы патрэбны, во дзе загваздка. Без дакументаў нідзе няма ходу. Кажуць, калі сам у міліцыю прыйдзеш з павіннай, дык дакументы даюць. Ды я мільтонам не давяраю, і сярод іх жулікаў як на паршывай сучцы блох. Але ж і дзявацца няма куды. Тут або пан, або прапаў...

Серафім пазайздросціў рашучасці Чыжыка. Самога яго хапаў за сэрца страх перад расплатай за ўсё ўчыненае на зладзейскай дарозе, ды сумняваўся, ці даруюць яму ўцёкі з бальніцы і прыналежнасць да кулацкай сям'і. Па шчырасці, пабойваўся і Хана. Прызнанне Чыжыка і ўзрадавала і напалохала яго.

— Ты, Лёша, матай адсюль куды падалей,— параіў ён Чыжыку.

— Чаму?..

— Забыўся, як вы мне пагражалі: калі збягу ад вас, знойдзеце і рэзаць будзеце...

Чыжык зарагатаў.

— Палохалі цябе...

— Хан можа так напалохаць!..

— Пляваў я на Хана. Ён на мокрае дзела не пойдзе...

— Глядзі...

Дзён праз пяць пасля гэтай размовы Чыжык аб'явіў Серафіму:

— Сёння ў мяне сустрэча з Ханам. Хачу пачалавечы развітацца з ім. Усё ж разам не адзін год рука ў руку ішлі па блатных сцежках.

— Дзе сустракаецеся? — пацікавіўся Серафім.

— На Гарадоцкай шашы, каля касцёла...

— Далекавата...

— Не пойдзеш са мной?
— А трэба?
— Хан запрашаў...
— Пайду...
Да вакзала яны даехалі трамваем. Перасеклі пустэльную базарную плошчу, перайшлі Полацкі мост цераз чыгунку, асветлены прывакзальнымі пражэктарамі на высокіх металічных мачтах. Далей панавалі цемра і бездараж. На фоне шэрага захмаранага неба, падфарбаванага заравам гарадскіх агнёў, чарнеў касцёл з двума гатычнымі шпілямі. Не дайшоўшы які квартал да касцёла, Чыжык павярнуў налева, дзе за высокімі платамі ўраскідку стаялі хаты. Вуліцы тут ішлі ўкосікі і вельмі часта заводзілі ў тупік. Павярнуўшы яшчэ раз налева, Чыжык спыніўся перад цяжкай брамай з форткай, праз якую яны і трапілі на прасторны двор. У хаце гарэла няяркае святло. Злосны сабака загрукатаў ланцугом, азвярэла захроп ад ярасці, і адразу пачуўся жаночы голас:
— Хто там?
— Свае,— адказаў Чыжык.
— Носіць вас па начах...
— Запрошаны...
— І колькі вас?
— Двое.
— Чаго стаіцё?.. Ідзіце, сабака не дастае, ланцуг кароткі...
Прыхожая асвятлялася карасінавай лямпай, што вісела на кухні. Гэта яе святло і відаць было з двара.
Адчувалася, што Чыжык тут бываў, бо з дваіх дзвярэй выбраў якраз тыя, што былі патрэбны ім і за якімі іх чакаў Хан. Яркае святло вялікай карасінавай лямпы пад светла-блакітным абажурам секанула па вачах, аж Серафім заплюшчыў іх ад рэзкай віднаты.
— А-а-а, Чыжык, Хухцік, дарагія госці! Зачакаліся вас. Ды вы не саромейцеся,— пачуўся знаёмы Ханаў голас.
За сталом з бутэлькай і закускай сядзелі трое: Хан і двое хлопцаў, непрыкметных з выгляду, якіх Серафім не ведаў. У пакоі было цёпла, Хан сядзеў у адной кашулі, пінжак вісеў на спінцы крэсла. Пільнае, спрактыкаванае Серафімава вока адзначыла,што вокны забраны аканіцамі ды яшчэ завешаны шторамі

— А мы і не саромеемся,— адказаў на запрашэнне Чыжык.— Спачатку на стол паставім. Мы на шармачка не ходзім — сваё носім. Сімка, падай тое, што прынеслі...

З фанернага чамаданчыка саматужнага вырабу, якія тады былі ў модзе, Серафім дастаў гарэлку і закуску.

— Хвалю! Адабраю! — сказаў Хан і звярнуўся да сабутэльнікаў: — Вучыцеся...

— Стараемся,— дружна адказалі тыя.

— Гэта во Певень, а гэты — Зубіла,— пазнаёміў з імі Серафіма Хан.

Серафім зразумеў, што Чыжык іх ведае.

— Пасунься,— загадаў Чыжык Пеўню, а калі той пасунуўся, сеў поруч з Ханам.

Серафім стараўся здагадацца, хто гэтыя двое? Ці не Ханава варта? Падобна, што так і ёсць. Цяпер, калі ішла вайна паміж шайкамі зладзеяў, такія, як Хан, павінны мець варту. На іх палявалі.

За сталом сядзелі паважна, нібы бог ведае якая знаць. Найбольш гаварыў Хан. Скардзіўся, што заробкі апошнім часам знізіліся, а падаткі павялічыліся. Доўга развіваў думку пра неабходнасць змены прафесіі. Раіў Серафіму і Чыжыку моцна трымацца яго, бо хутка можна будзе выйсці на вялікі ўлоў. Гаварыў пра нейкія замежныя камандзіроўкі, якія нібыта абяцаюць на будучае вялікія прыбыткі. Нягледзячы на двухгадовы стаж, Серафім многае не разумеў. Двое ахоўнікаў суладна падтаквалі гаспадару. Чыжык хмура маўчаў.

Гарэлка чамусьці не п'яніла. Гаворка ішла цвяроза і вельмі сур'ёзна. Збоку можна было падумаць, што бяседу вядуць дзелавыя людзі. Ды так яно і было.

Стары, у дарагой апраўе гадзіннік з боем прабіў дванаццаць. Серафім падумаў, што вяртацца ў сутарэнне, бадай, надта позна, хоць туды можна было прыходзіць у любую пару ночы. Проста яму не хацелася пакідаць цёплы ўтульны пакой і плесціся пад даждом амаль два кіламетры. Чыжык нібы забыўся пра свой намер гаварыць з Ханам наконт задумы завязаць з блатным жыццём. Можа, спалохаўся? Калі спалохаўся — зразумела. Калі адцягвае, дык навошта? Адтэрміноўка з размовай — Чыжыкаў пройгрыш.

Серафім чуў, як у яго зліпаюцца павекі. Але ці прыстойна папрасіць, каб яму далі якое месца для сну? Пытанне было з нейкага іншага часу, навеянага чымсьці даўно забытым. І ён падумаў, што проста неабходна зараз устаць з-за стала, пайсці на кухню і спытаць у гаспадыні:

— Дзе мне можна прыкімарнуць?..

І ўся праблема!

Як праз дрымоту ён раптам пачуў Чыжыкаў рашучы голас:

— Хан, мне з табой пагаварыць трэба...

— Усе свае,— сказаў Хан.

— Не ўсе. Мне трэба пагаварыць з табой. Яшчэ пры Серафіму...

— Прыняў. Выйдзіце,— загадаў Хан варце.— Што-небудзь здарылася? — спытаўся Хан, калі Зубіла з Пеўнем выйшлі.

Чыжык скачаў з хлебнага мякішу рагульку на пяць рагоў, з усяе сілы кінуў яе на падлогу — ніводны рог не змяўся. Чыжык падабраў рагульку з падлогі, паклаў на стол.

— Такая справа, Хан, вырашыў я завязаць...

Пругкая цішыня павісла ў пакоі. Толькі паціху цікаў гадзіннік. Хан, апусціўшы вочы, глядзеў пад ногі.

— Усяго? — нарэшце спытаўся Хан.

— Хіба мала?

— Ты — таксама з ім? — звярнуўся Хан да Серафіма.

— Мяне ніхто і нідзе не чакае,— адказаў Серафім.

— Значыць, застаешся?

— Я сказаў...

— Са мной вярняк,— пагадзіўся Хан і зноў пераключыўся на Чыжыка: — І куды ж ты пойдзеш?

— Паступаць у юнгі,— замест Чыжыка адказаў Серафім.

Яму вельмі хацелася падкрэсліць, які зайздросны выбар новай прафесіі зрабіў Чыжык.

— Та-ак,— сказаў Хан.— Значыць, мяняеш вольную шыкоўную жызню на швабру і вечнае зняволенне?

— Значыць, мяняю,— задзірыста адказаў Чыжык.

— Вольнаму — воля, шалёнаму — поле,— падвёў вынікі Хан.

— Яшчэ невядома, хто з нас шалёны,— не пераставаў спрачацца Чыжык.— Я вось што скажу табе, Хан: сыплецца зладзейская маліна. І не цяпер, дык у чацвер давядзецца мяняць наша дзела на нешта іншае.

— А калі я не захачу? — прыжмурыў вочы Хан.

— Тады пабяруць усіх вас на цудоўныя Салаўкі. І стануць перакоўваць пад канвоем. А я не хачу пад канвоем хадзіць. Лепей сам вазьмуся за сваю перакоўку.

— Дык, можа, і мне пайсці юнгай да якога дуралома-боцмана? А яшчэ лепей у міліцыю. Буду стаяць з пустой кабурой на скрыжаванні і мужыкоў штрафаваць, што на кані па асфальце ездзяць.

— Тут я табе не дарадчык,— сказаў Чыжык,— але так думаю, чым раней ты возьмешся за розум, тым табе ж будзе лепей.

Хан зарагатаў, быццам яму расказалі нейкі вельмі смешны анекдот. Але смяяўся ён неяк дзіўна: вочы заставаліся жорсткімі. І сапраўды, як толькі ягоны рот перастаў крывіцца ад смеху, Хан загаварыў з'едліва і злосна:

— Ай-яй-яй, яйкі курыцу вучаць. Ну і ну! А ці падумаў ты, чыжык-пыжык, дзе ты быў і чаго натварыў за сваё нядоўгае жыццё? За такое крыміналка не пахваліць. Яна вучаная — не верыць. Ну, завязаў ты. Я, напрыклад, пярэчыць не стану. Але дакументікі табе спатрэбяцца? Спатрэбяцца. Пойдзеш ты, чыжык-пыжык, у міліцыю, а там адразу і запытаюць: можа, раскажаш нам, дарагі Аляксей, як там цябе па бацьку — не памятаю, з кім дружбу вадзіў, на якія дзялы хадзіў, куды крадзенае дабро збываў і ці не ведаеш ты, чыжык-пыжык, Хана і дзе ён залёг у берлагу? Не скажаш, будзе табе замест палубы карабля неба ў клетку. А скажаш, дык ты ж парадкі нашы ведаеш. Прадасі — на дне акіяна знойдзем.

— Ты мяне ведаеш, Хан,— цвёрда сказаў Чыжык.— Даўно ведаеш. Я сукай не быў і не буду. Лепей загіну, а нікога не выдам. Маё слова, як гэтая хлебная рагулька: мякіш, а паспрабуй зламай рог, з якой бы сілай ты ні біў яе аб падлогу,— і Чыжык зноў прадэманстраваў моц хлебнай рагулькі.

— Ну, і лады, ну, і з богам, як кажуць веруючыя.

Я рад буду пабачыць цябе капітанам карабля. Можа, і нас калі з Хухцікам правязеш па марах і акіянах. Я не супраць. Мне і самому зладзейскае жыццё апрыкла, ды позна. Стары я на перамену. Буду па малінах ды па турмах жыццё дажываць. А цяпер давайце вып'ем за тваю новую жызню ды і на бакавую. Заўтра вам трэба як мага раней адсюль зматацца.

Серафім нават падзівіўся, як усё абышлося добра. І Хан, выходзіць, не такі ўжо закаранелы злодзей. Проста жыццё ягонае недзе перакруцілася, збілася з належнага шляху і пакацілася, як і ягонае, Серафімава.

Ім адвялі месца ў нейкай прыбудоўцы, дзе стаяў шырокі тапчан. Гаспадыня сурова папярэдзіла:

— Не курыць, суслікі...

Было не да курыва. Хацелася спаць.

— Зайздрошчу я табе, Лёша,— сказаў Серафім.

— Месяцы праз два зайдзі на пошту, я табе напішу, калі самому не ўдасца прыехаць. І табе трэба вырывацца з гэтай пагібелі.

Разбудзіла іх усё тая ж гаспадыня. Над дваром нізка плылі бурыя, калматыя хмары, секлі касым дажджом зямлю. Гуляў, сваволіў пранізлівы сыры вецер. Зубіла з Пеўнем за сталом пахмяляліся. Хан сядзеў у скураным крэсле, курыў. На ім быў мяккі, цёплы халат і расшытыя бісерам тапкі. З-пад халата відаць былі белыя падштанікі.

— Не перадумаў? — мякка, са спачуваннем спытаўся Хан у Чыжыка.

— Я не рак. Той задам хадзіць.

— Верна. Малайчына. Ну, што ж, Чыжык, бывай здароў, і дай я цябе абдыму па-брацку і пацалую. Не забывай старых сяброў і не адварочвайся, калі сустрэнеш. У кожнага свая дарога.

— Само сабой,— адказаў Чыжык, і яны абняліся на расстанне.

— З табой, Хухцік, убачымся,— сказаў Серафіму Хан.— Шчаслівай дарогі...

Разам з імі ўвязаліся Зубіла з Пеўнем. Зубіла прапанаваў ісці наўпрасткі; ім трэба было па зладзейскіх справах на вакзал.

Пясчаная сцежка пятляла па пустэчы, на якой утварылася звалка. Валяліся тут нават чыгуначныя платформы, бітая цэгла, старыя станкі і яшчэ чорт

ведае што — непатрэбшчына, ад якой пазбаўляўся горад.

Наперадзе сцежка збягала ў катлаван, невядома для якіх мэт выкапаны на гэтай пустэчы. Пасля сцежка зусім звузілася, і яны пайшлі следам: спачатку Певень, за ім — Чыжык, пасля Зубіла, Серафім апынуўся ў самым хвасце. Яго ўсё мацней забірала туга. Спускаючыся ў катлаван, Серафім пакаўзнуўся, ускочыў, атрос мокры пясок,— астатнія трое якраз былі пасярэдзіне катлавана. І тут адбылося тое, што і праз многа гадоў Серафім ніяк не мог асэнсаваць. Зубіла, які ішоў следам за Чыжыкам, раптам выхапіў нож-фінку і з усёй сілы ўсадзіў яе ў спіну Чыжыку. Той пахіснуўся наперад, але нешта ўтрымала яго ад падзення. Тады Зубіла нагой выцяў яго ў зад. Чыжык адразу паваліўся тварам уніз, а ў руках Зубілы застаўся нож, з якога капала кроў.

Усё было так дзіка і неверагодна, так узрушыла Серафіма, што ён ніяк не мог апамятацца. Ён глядзеў на ўжо мёртвага Чыжыка і не верыў, што гэта ён. Пазней Серафім падзівіўся, чаму спалохаўся не адразу: Зубіла з Пеўнем маглі вось гэтак жа зарэзаць і яго. Але тады ён не падумаў пра гэта. Яшчэ адна гвалтоўная смерць, пабачаная ім, была самай бязглуздай з усіх смерцяў...

Да яго падышоў Певень, як бы жартуючы, штурхануў плячом.

— Пайшлі да гаспадара,— сказаў ён і выскаліў вялікія жаўтаватыя ад доўгага курэння зубы.

— А Чыжык? — па-дурному, без аніякага сэнсу, спытаўся Серафім.

— Гэта ўжо не твой клопат,— замест Пеўня адказаў Зубіла.

Яны вярнуліся ў той жа дом, адкуль некалькі хвілін назад выйшлі. Серафіма ліхаманіла. Ён стараўся сціснуць зубы, а яны, як знарок, выбівалі чачотку.

Іх чакаў Хан. Ён глянуў на Серафіма, падышоў да стала, наліў поўную шклянку гарэлкі, падаў Серафіму.

— Выпі! Каму кажу, выпі!..

Серафім выпіў.

— Пікнеш, скажам, што ты зарэзаў Чыжыка. Нас трое. Нам паверать.

У Серафіма млосна кружылася галава. Ён неяк дайшоў да канапы і паваліўся...

## 6

Серафім усё больш люцеў. Ён і сам адчуваў гэтую перамену да горшага, але не мог апыніць сябе.

Па начах яму не спалася: звечара, што праўда, засынаў моцна, але сярод ночы прачынаўся ад якога-небудзь кашмарнага сну — прадаўжэння дзённых спраў і клопатаў — і ўжо не мог заснуць да раніцы, ляжаў з заплюшчанымі вачамі, слухаў дзіцячае пасопванне трох сваіх беспрытульных кампаньёнаў. Уначы яго трывожылі безвыходныя думкі. Ён спрабаваў уявіць далейшы лёс трох хлапчукоў, з якімі звяло яго сутарэнне ткацкай фабрыкі, і кожны раз перад вачамі паўставаў жудасны малюнак: смерць Прыпая, Баранка і асабліва Чыжыка, аж хацелася па-сабачы выць — цяпер ягоная чарга...

Ён спрабаваў зразумець прычыну сваёй лютасці, з якой ставіўся і да хлапчукоў, якіх уначы шкадаваў да слёз, і да ахвяр, якіх абкрадаў з незразумелай яму насалодай. Адкуль і чаму наявілася гэтая шалёная лютасць? Можа, ад адзіноты? — думалася яму. Але ці былі ў яго сябры? Хіба Чыжык? А што, калі лютасць — звычайная абарончая рэакцыя, што аддзірае яго ад мінулага? Бо калі не аддзярэш сябе ад мінулага і яно будзе вечна перад вачамі, дык тады трэба кідаць зладзейскае рамяство.

Аднойчы Серафіму падумалася, што лютасць — непазбежная і натуральная з'ява любой суполкі, створанай, каб панаваць над слабейшымі і безабароннымі. Думка здалася такой прывабнай, што ён цалкам захапіўся ёю.

«Сапраўды,— разважаў ён,— калі б суполка не прыбягала да жорсткіх мер, дык хіба яна доўга праіснавала б? Нават наша, Ханава, развалілася б праз некалькі тыдняў. Лютасць Хана трымае яе. На месца Прыпая, Баранка, Чыжыка прыходзяць другія, як трое маіх пацаноў, якія з першага імгнення прывыкаюць да лютасці, лічаць яе не толькі нормай —

законам, якому і пакланяюцца. Суполак без лютасці не бывае, суполкі трымаюцца на лютасці».

Прадаўжаючы свае разважанні, Серафім прыходзіў да высновы, што і ён вымушаны будзе яшчэ больш злюцець, канчаткова страціць усё добрае, што жыло ў ім. Дзіўна, але такая выснова анічуць не спалохала яго. Няўжо так глыбока ўкаранілася ў ім тая масавая лютасць, якая перадаецца з пакалення ў пакаленне? Няўжо ягоны лёс павінен быць такі, як лёс Хана,— спатрэбіцца, і ён аддасць загад забіць, а можа, і сам каго заб'е? Гэтага яму не хацелася, але па нейкай іншай прычыне. Раптам ён знайшоў апраўданне сваёй лютасці: ён павінен адпомсціць за смерць Чыжыка.

Атрымаўшы апраўданне сваёй лютасці, ён, аднак, не мог зразумець, а чаму тады ён здзекуецца з Крата, слабенькага хлапчука. Роздум вечна прыводзіў яго да паражэння ўласных высноў. Але і нечакана падмацоўваў іх. Неяк яму прыйшла арыгінальная здагадка: дык жа і Крот, гэты нямоглы неданосак, над якім ён цяпер мае неабмежаваную ўладу, мабыць, таксама марыць пра адплату яму, Серафіму, якога сярод блатвы завуць Хухцікам.

Дык што — няма выйсця? Вечная катарга пад прыгнётам страху і недарэчная смерць ад прысуду якога-небудзь верхавода? Тады дзеля чаго жыць? Хан кажа: дзеля шыкоўнага жыцця. Ён умее распісаць гэтае шыкоўнае блатное жыццё. У дурняў аж цякуць слінкі. Ды яно Серафіма зусім не прыцягвала. Якая радасць абжырацца і напівацца да памутнення розуму, а назаўтра выхваляцца ўчарашнім свінствам і сённяшнім галаўным болем? Адкладваць грошы на чорны дзень, як гэта рабіў Чыжык, таксама не было сэнсу. Чорны дзень — твая смерць!

Усё часцей Серафіма авалодвала думка пра смерць ад уласных рук. Калі і ратавала яго што ад апошняга кроку, дык яркія малюнкі мінулага, што амаль кожны дзень узнікалі перад ім. З іх у Серафімавай галаве складаліся кранальныя гісторыі, якія выклікалі слёзы. Серафім плакаў, як маленькі. Напэўна, ягоныя шкеты нямала падзівіліся б, каб убачылі іхняга гаспадара ў гэты момант.

Звычайна ў такія хвіліны Серафім прыгадваў Дзям'яна Іванавіча і ягоную параду запісваць прыду-

манае і ўбачанае на паперу. Ад такіх успамінаў яму рабілася цяплей і святлей.

«Заўтра пайду і куплю колькі сшыткаў і хімічны аловак. Трэба запісаць прыдуманае ў галаве»,— вырашыў Серафім.

Вось гэтае прадранішняе рашэнне Серафім запомніў на ўсё жыццё: найчасцей ягоныя важныя рашэнні канчаліся катастрофай. Так здарылася і на тым світанні.

Ягоную ўвагу прыцягнулі нейкі глухі шоргат і прыглушаны шэпт. Паслухмяны спрадвечнаму звярынаму інстынкту, не раздумваючы, уцякаць ці не, перш чым мозг вызначыць, памылковая трывога ці сапраўдная, Серафім сігануў з нішы над сеткай адцяпляльных труб і быў асеплены яркім святлом ліхтара.

— А казаў, што ў цябе нікога няма,— пачуўся насмешлівы голас. Гэты голас павярнуў Серафіма назад, углыб сутарэння, дзе меўся вентыляцыйны люк.

— Гарноў, не ўпусці яго,— крыкнуў насмешлівы голас.— Відаць, самы канавод. Глянь, вунь яшчэ трое!

Серафім ускочыў на трубы — вентыляцыйны люк быў задраены.

— Ну, і куды ты пёрся? — спытаўся той самы Гарноў, якому загадалі не ўпусціць Серафіма. Ён стаяў у яркім крузе святла, закрываючы правай рукой вочы.— Зброю: наганы, фінкі, нажы, свінчаткі і іншыя зладзейскія прылады — кідай на падлогу.

Серафім кінуў пад ногі фінку.

— Усё...

— Праверым,— Гарноў падняў фінку, абмацаў Серафіма, крыкнуў свайму начальству: — Ён з фінкай...

— Давай яго сюды,— загадалі Гарнову.

Трое Серафімавых беспрытульнікаў курчыліся ад холаду ці страху, цёрлі сонныя вочы.

— Дзядзечка, мне на двор хочацца,— жаласліва папрасіўся Крот.

— Пацерпіш,— адказалі яму.

Старэйшы, міліцыянер з трыма кубарамі, распараджаўся:

— Гэтых трох — у штаб, а гэтага,— паказаў на Серафіма,— на Суражскую.

Серафім чамусьці з палёгкай уздыхнуў: горай, бадай, не будзе, хоць і шчасця не прадбачыцца.

Ноччу выпаў снег і падмарозіла. Чорны, брудны, пракурадымлены за зіму горад з рэшткамі зляжалага, перамешанага з пяском снегу пасвяжэў, памаладзеў. Нямоглы Крот, як толькі выйшлі на паветра, пачаў распісвацца на снезе пад рогат двух сяброў. З Падзвіння, ад гарадской палікліні́кі, чмыхаючы і грукочучы бартамі, пад'ехала паўтаратонка.

— Колькі? — спыталіся з яе.

— Адзін...

— Ваша шчасце, больш не можам. Давай яго сюды...

Серафіма падхапілі пад рукі, кінулі ў кузаў.

— Садзіся і не балуй,— сказаў вайсковец.

Серафім сеў. Амаль усе — знаёмыя. Зрабілася весялей.

Машына памалу кацілася па соннай, пустэльнай Смаленскай вуліцы. Выбраўшыся на Шасейную, пайшла ўздоўж сцяны, спынілася перад высокімі жалезнымі варотамі. Тыя тут жа расчыніліся: турма прымала папаўненне.

— Налева, у ізалятар,— сказаў вартаўнік.

— Не навічкі,— адказаў шафёр.

Вялікая камера ізалятара была поўна затрыманага люду. З'яўленне новенькіх выклікала ўсеагульнае захапленне і несусветны гоман. Каго толькі тут не было: блатнякі з усіх гарадскіх раёнаў — смаленскія, полацкія, елагаўскія, заручэўскія, магілёўскія, пескавацкія, гутараўскія і ўсіх блатных прафесій і званняў. Перагаворваліся ўголас. Наглядчыкі адкрывалі акенцы, пагражалі. Блатныя агрызаліся, на мінуту замаўкалі, але тут жа абурана гулі — высвятлялі, каго паспелі ўзяць, а хто здолеў змыцца — аперацыя, мабыць, рыхтавалася нядоўга, але дбайна. Калі б рыхтавалася даўно, дык сябрукі з міліцэйскіх аддзяленняў таму-сяму шапнулі б: ірві капцюры!

Да Серафіма праціснуўся Певень. Узрадаваўся — знайшоў свайго, а са сваімі паміраць лягчэй. Паміраць, праўда, ніхто асабліва не збіраўся. На затрыманне глядзелі, як на вясёлую пагулянку, як на зладзейскі з'езд, які сабрала міліцыя.

— Адзін трапіў ці з усімі? — спытаўся Певень.

— З усімі...

— Зубілу прышылі. Дурань, выхапіў наган, а яго і кокнулі.

— А Хан? — спытаўся Серафім.

— Ён залёг у берлагу. Так што нас бралі двух,— Певень памаўчаў, нешта абдумваючы, параіў: — Хухцік, во што я табе скажу: пра Чыжыка маўчы. Гэта работа Зубілы. А яго няма.

— А Хан? — нагадаў Серафім.

Певень замоўк надоўга. Потым прызнаўся:

— Гэта я так, з перасцярогі сказаў пра берлаг, нібы ў ёй залёг Хан. Ён ірвануў на Уладзівасток. Дакументы зрабіў, сам бачыў. Так што пра Чыжыка толькі ты ды я ведаем, а таму нам выгадна рот трымаць на завязцы. А твае шкеты на цябе не навешаюць?..

— У мяне дзве кватэрных і па дробязях,— прызнаўся Серафім.

— Дык слухай, што я табе скажу: адмаўляй, усё адмаўляй. Ні хрэна яны не дакажуць. І мы з табой незнаёмыя. Так, бачыліся разы два, але ні адзін аднаго, ні Хана не ведалі і чуць пра яго не чулі.

— Мне ўсё роўна...

Жалезныя дзверы загрукаталі, як блізкі гром. У камеру дадалі яшчэ чалавек дзесяць. Блатныя адводзілі душу лаянкай. Халодны ізалятар награваўся ад цеснаты чалавечых цел. Не было чым дыхаць. У камеры стаялі смурод і задуха. Серафім пастараўся прабіцца да дзвярэй. Тут усё ж было больш паветра.

Дзверы зноў адчыніліся. Пад лаянку, мацюкі ў камеру ўпіхнулі яшчэ дзесяткі два блатнога люду. Цяпер ужо і павярнуцца не было як. Серафіма прыціснулі да дзвярнога вушака. Упрытык да яго аказаўся малады мужчына з далікатнымі абрысамі твару, праніклівымі шэрымі вачамі і прыгожай ямачкай на падбародку. На ім было адмысловае адзенне: кепі ў клетачку, джэмпер тонкай вязкі, бастонавы пінжак і шыкоўны, на шаўковай падкладцы плашч, а на шыі чырвоны шарф, завязаны вялікім бантам.

Чалавек гэты падміргнуў Серафіму, Серафім — яму. Па камеры ад галавы да галавы зашалясцеў пачцівы шэпт:

— Граф...

— Каб мне здохнуць, ён...

— Графа замялі...

— Не можа быць!..

— Глянь і заткніся...

Да Серафіма спакваля даходзіла, што Граф гэты няйначай той злодзей, за якім збегла з дому Аксінка. Ён ужо больш пільна прыгледзеўся да яго. Сапраўды прыгожы. Адны вусікі чаго вартыя! Ды і ўвесь выгляд Графа сведчыў аб вытанчанасці ягонай натуры.

— Здарова, братаны,— не вельмі моцна крыкнуў Граф, і камера замерла ў пачцівым маўчанні: што скажа Граф? — Чулі, мабыць, пра маю клятву? Хто не чуў — паўтаруся: як толькі мяне замятуць першы раз — я канчаю... Не з нашым шыкоўным жыццём, з сабой, бо не гожа сокалу яснаму сядзець у клетцы. Лепей смерць, чым няволя. І во што, братаны: чую, прыйшоў канец нашаму разгульнаму жыццю. Тры дарогі ляжаць перад намі: кінуць зладзейскае жыццё, заняцца карыснай працай, як патрабуе савецкі ўрад; карміць турэмных вошай па этапах і ссылках, перавыхоўвацца пад канвоем, каб зноў жа вярнуцца да карыснай працы; трэцюю дарогу я выбраў сам. Яна самая пачэсная для гордага валацугі і вольнага ад нараджэння чалавека — смерць. Перадайце Марусі, што Граф пакінуў жыццё, плюючы ў твар нікчэмным баязліўцам! Амінь!

Граф расхінуў крысо плашча, расшпіліў пінжак — у ягонай руцэ быў заціснуты нож з кароценькім дзержаком і доўгім, тонкім, як шыла, лязом. Натоўп нейкім чынам ушчыльніўся. Граф стаяў каля самых дзвярэй тварам да твараў затрыманых зладзеяў. Ён адшукаў пальцамі левай рукі тое месца, дзе павінна быць сэрца, перахапіў у левую руку нож, прыставіў яго да грудзей і, трымаючы чаранок двума пальцамі, правай рукой моцна ўдарыў па дзержаку — лязо па самы канец схавалася ў грудзях. Граф двойчы хапіў ротам паветра, у яго падкасіліся ногі, ён памалу, нібы неахвоча, раскайваючыся за свой недарэчны ўчынак, паваліўся тварам дагары.

Камера знямела, знерухомела. Дзесяткі людзей, якія за свой век усяго набачыліся, чые рукі мелі дачыненне да самых розных зладзействаў, былі ўражаны, ашаломлены смерцю нейкага Графа. Серафіма здзівіла, што ніхто не паспрабаваў спыніць яго,

сказаць хоць бы слова насуперак ягонаму рашэнню. Нават тады, калі Граф упаў, ніхто не кінуўся да яго, каб паглядзець, а раптам ён жывы і яшчэ можна ўратаваць яго ці хоць бы выцягнуць з грудзей нож. Натоўп, што застыў у нерухомай немаце, здаваўся Серафіму імгненна змярцвелым, але нейкім чынам так і ўстаяўшым на нагах. Серафім кінуўся быў да Графа — яго схапілі, заціснулі ў кут, прыгразілі:

— Вякні толькі, сука...

Серафіму здалося, што ён вар'яцее.

Час цягнуўся пакутліва доўга аж датуль, пакуль Графава кроў не выплыла цурочкам з-пад жалезных дзвярэй на турэмны калідор; ахоўнікі заўважылі кроў і кінуліся ў камеру.

— Хто? — раз'юшана крыкнуў начальнік нарада.

Яму, вядома, не адказалі. Каму ўзбрыдзе ў галаву падаваць голас? Аднекуль паявіліся насілкі. Графа ўзвалаклі на іх, вынеслі з камеры.

— Ну, цяпер пачнецца,— сказаў нехта з натоўпу.

— Братаны, ніхто нічога не бачыў і нічога не чуў,— падаў нехта голас.

— Само сабой...

Серафіма пацягнулі на допыт восьмым ці адзінаццатым — сам чорт не разбярэ ў той напружанай атмасферы, бо ніхто ў камеру ўжо не вяртаўся, і ў кагосьці ўзніклі падазрэнні, што і іх знішчаюць, як клас, як нядаўна знішчалі ўсякіх контрыкаў. Толькі іх знішчаць як бы і не было за што. Яны савецкай уладзе не шкодзілі. Здагадка не тое каб дужа напалохала затрыманых, але засмуціла не аднаго. Да Серафіма зноў падышоў Певень.

— Капцы нам...

— Капцы дык капцы,— адказаў Серафім.

— Каб жа ўсім разам, а то па аднаму — страшнавата.

— А пра Чыжыка забыўся?..

— Маўчы,— глуха крыкнуў Певень і зашыўся ў натоўп.

Серафіма схапілі за каўнер ватоўкі, паддалі пад бакі, павялі па калідоры. Ён паспрабаваў зрабіць выгляд, што збіраецца ўцякаць, і адразу атрымаў такога кухталя, што наперад ад жартаў катэгарычна адмовіўся. Яго падвялі да дзвярэй, паставілі тварам да сцяны. Нехта з канвою пайшоў у пакой за высо-

кімі дубовымі дзвярамі, тут жа вярнуўся, сказаў:

— Заходзь,— і на развітанне даў кулаком па карку. Серафім кулем уляцеў у пакой.

У ім за доўгім сталом сядзелі вайскоўцы і цывільныя. Яны здаліся спачатку ўсе на адзін твар. Але паступова з масы пачалі вылучацца асобныя рысы, а твары набываць індывідуальнасць.

— Прозвішча? — запытаўся нехта з тых, хто сядзеў за сталом.

Серафім маўчаў, ды і было ад чаго, у цэнтры стала сядзеў Марк Удоеў, ягоны вотчым.

— Языка няма, ці што? Чаго маўчыш? Прозвішча? Клічка?..

Серафім ва ўсе вочы глядзеў на Марка. Той, нізка сагнуўшы галаву, нешта пісаў. Кончыў пісаць, узняў вочы, утаропіў іх на Серафіма.

— Сенька! Ці ты гэта, сцярвятнік,— усклікнуў Марк, грузна ўстаў з-за стала, на хаду ўжо тлумачыў: — Сын мой... Пасынак... Чорт, але ж і заканспіраваўся ты. Я ж усім сваім ахламонам наказваў шукаць цябе. А яны, маць іх, шляпы турэцкія, кляліся, што цябе сярод блатвы няма.

Праз гадзіну яны крочылі па Смаленскай вуліцы, неяк адразу патрапіўшы нага ў нагу. Сонца растапіла снег, што выпаў за ноч, і горад зноў выглядаў шэрым і брудным. Гаварыў адзін, звычайна маўклівы, Марк:

— Я тады цябе не мог узяць, хоць, на цяперашні розум, узяў бы. Так што спішам на нявопытнасць. Брацюк твой, Глеб, памёр. А ў мяне, здаецца, больш дзяцей не будзе: з'ела мяне праклятушчая праца. Усяго сябе дазвання, да апошняй салодкай крывінкі аддаў, абы народ шчасліва дайшоў да светлай будучыні. Для гэтага і жывём. Дзеля гэтага і рукі чырвоныя ад варожай крыві. А такіх несвядомых, хто не жадае ісці ў камунізм, не меншае. Во, Сеня, які ў нас народ. Яго ў новае жыццё цягнуць, а ён пнецца ў старым застацца. А мы не можам такое дазволіць перад дыханнем сусветнай пралетарскай рэвалюцыі. Што нам нейкі швед скажа, калі мы свайго неабуджанага індывіда не давялі да камунізму. Ганьба ўсёй нашай палітыцы і нам, партыйцам, якія не здолелі таго ўпартага казла зацягнуць у новую жызню. А наконт тваёй перакоўкі, дык тут усё ажур і парадак. Я цябе ў першыя шарэнгі пастаўлю, і павядзеш ты

маладыя парасткі па пралетарскай дарозе на самыя што ні на ёсць вяршыні чалавечай дасканаласці...

Марк стаў выказвацца яшчэ больш незразумела і напышліва, як бывала раней. Але Серафім успрымаў ягоную прамову як неабходную прыналежнасць кожнага міліцыянера, што адданы сваёй справе.

Цяпер Марк жыў на грукатлівай Канатнай вуліцы. У яго было два вялікія пакоі: адзін з акном на вуліцу, дзе вечна грукаталі па бруку калёсы, другі выходзіў двума вокнамі на двор, вельмі брудны і цесны, са старой прыбіральняй з дошак,— і агромністая кухня на дзве сям'і, а таксама ванны пакой, ваду для якога грэлі ў спецыяльным катле між туалетам і ванным пакоем.

Іх сустрэла чорнавалосая, чарнавокая, смуглявая жанчына з незвычайным імем Іраіда. Марк называў яе Райка.

Іраіда аказалася неблагой спявачкай, але нікуды не вартай гаспадыняй. Была яна гадоў на пятнаццаць маладзейшая за Марка. Серафім так ніколі і не зразумеў, што звязвала гэтых, такіх розных людзей.

Што праўда, Марк ніколі не звяртаў увагі на праклятьі побыт: ён прападаў з раніцы да позняй ночы, не паяўляўся дома па некалькі дзён. Серафіму неяк прыйшла здагадка, што Марк і ўзяў яго, каб Іраіда не дазваляла сабе нейкіх свавольстваў. Ды неўзабаве пераканаўся, што ягоныя здагадкі — дурасць.

Іраіда чытала нейкія тоўстыя раманы. Серафім спытаўся ў яе, дзе яна іх бярэ, і пачуў у адказ, што на Замкавай вуліцы ёсць гарадская бібліятэка і там усякіх кніг навалам.

Серафім таксама запісаўся ў бібліятэку і адразу прывалок дамоў аж чатыры кнігі. Гогаль захапіў яго буйнасцю маларoскай прыроды і невычарпальнай фантазіяй маларосаў. Хто такія маларосы, ён не ведаў, але чамусьці і не хацеў ведаць: баяўся, што тады прападзе ўсё зачараванне. Гогаля ён прачытаў поўнасцю па нейкім яшчэ дарэвалюцыйным зборы твораў з мноствам малюнкаў у канцы кнігі. Паланіў яго і Цішка Гартны сваім раманам «Сокі цаліны». Апісанае ім вясковае жыццё скалыхнула ў памяці Серафіма выразны нагадак пра нейкую раніцу, якраз такую, якую апісваў Цішка Гартны, а раманная

Зоська была вельмі падобна на тую дзяўчыну ў белым, што стаяла на верандзе дома за ракою. Захапіў яго і раман нейкага Мікітэнкі пад назвай «Уркаганы». Якраз пра іхняе беспрытульнае жыццё. Праўда, пісьменнік здорава падфарбаваў сваіх уркаганаў, але нешта і кранала ў іх Серафіма.

Унурыўшыся ў кнігі, Серафім не заўважаў, што робіцца вакол яго. А рабілася нешта незвычайнае. Найперш аднаго разу Серафім убачыў, што ў іхняй кватэры паявілася дзяўчынка гадоў сямі на крывенькіх, як абадочкі, ножках.

— Твая сястрычка Клава,— растлумачыла яму Іраіда.

Серафім не мог дабраць розуму, адкуль у яго магла паявіцца сястра. У той дзень Марк якраз прыйшоў дамоў пасля нейкай доўгай камандзіроўкі.

— А што гэта за кадра жаночага роду? — спытаўся ён у жонкі.

— Не кадра, а дачка,— адказала Іраіда.

— Чыя? — спытаўся Марк.

— Мая, вядомая справа. І калі ты свядомы партыец, дык будзе і твая,— сказала Іраіда, смела пазіраючы на Марка.

— Па факту смеласці магу заключыць, што твая прапанова мне падыходзіць, паколькі недалёка той час, калі ўсе мы станем дзецьмі партыі і камунізму. Паесці чаго знойдзецца? Два дні не еў.

Упершыню Серафім пабачыў, як можа перамяніцца жанчына за адно нейкае імгненне. Яна замітусілася, забегала, і не больш як за гадзіну на стале паявілася вячэра з самаварам — тым самым, які памятаў Серафім,— і цукрам упрыкуску.

Дні за два да пачатку заняткаў Марк пасадзіў Серафіма перад сабой, нібы ён быў следчы, а Серафім — злачынца.

— Партыя і савецкі ўрад паставілі перад пралетарыятам мэтавую ўстаноўку на выкараненне непісьменнасці і бескультур'я. А таму я цікаўлюся: кім ты збіраешся быць сярод несвядомай пакуль масы? Адказвай, перамагаючы абывацельскую сарамлівасць за сказаныя словы.

— Пісьменнікам,— нават не падумаўшы, выпаліў Серафім і вельмі ўразіў вотчыма.

Марк доўга пераажоўваў пачутае. На ягоным ілбе

то залягалі глыбокія зморшчыны, то разгладжваліся.

— Ну, што ж, калі напісанае адпавядае арганізаванай карысці навуковага камунізму, дзярзай! Але запішы сабе на чырвоным сцягу свядомасці, што ўсё тваё жыццё, як і ягоны прадукт — пісьменніцкая справа, належаць не табе, а пралетарыям усіх краін, на вызваленне якіх ад рабства і нацэлена наша дзейнасць. Усвядом гэта ўсім нутром і нават глыбей.

— Дык я ўжо тое-сёе напісаў,— пахваліўся Серафім.

— Пачытай для правільнай парады,— дазволіў Марк.

За гэтыя дні бяздзелля Серафім сапраўды напісаў з дзесятак апавяданняў з блатнога жыцця. Да напісання іх Серафіма заахвоціў раман Мікітэнкі «Уркаганы».

Марк слухаў з увагай чалавека, які сумленна хоча і не можа зразумець, што і навошта яму чытаюць? Гэта замінала Серафіму даносіць сэнс апавяданняў. Ён злаваўся на сябе, на Марка з ягонай напружанасцю і ўсё больш адчуваў, што чытае невыразна і сумна. Прачытаўшы тры апавяданні з шасці, Серафім замоўк.

— Усё? — спытаўся Марк.

— Усё,— схлусіў Серафім.

— Пакажы,— працягнуў руку Марк.

Серафім паклаў на ягоную шырокую далонь сшытак з апавяданнямі. Марк, нават не пагартаўшы яго, разарваў напалам, потым яшчэ напалам, скамечыў парванае ў руках, панёс у кацельню — пакойчык паміж туалетам і ванным пакоем. Серафім бачыў, як ён падпаліў сшытак, паназіраў, ці ўсё згарэла дарэшты.

Вярнуўшыся ў пакой, дзе яго чакаў разгублены і збянтэжаны Серафім, Марк загаварыў, як заўсёды, горача. Але Серафім не пачуў ягоных слоў: на вуліцы нешта моцна залязгала, загрукатала. Серафім глянуў у акно — ламавы рамізнік вёз на калёсах палосы жалеза. Яны звешваліся долу, канцы іх падскоквалі на бруку і ашалела лязгацелі.

Калі рамізнік павярнуў за вугал панурага з чырвонай цэглы дома і лязгаценне нарэшце заціхла, Серафім пачуў звернутае да яго пытанне:

— Сам крэмзаў ці хто варожаю рукою штурхануў на злачынны шлях?

— Сам,— пакрыўдзіўся Серафім.— І ты не маеш права паліць чужую працу...

Марк аж радасна заўсміхаўся, быццам злавіў Серафіма на нейкім неадпаведным слове.

— От, уляпіў у сук, дык уляпіў. Верна сказаў — чужая праца. Горш — варожая! І во што я табе скажу, Сеня: рана птушачка заспявала. Пакуль у галаве палітычны сумбур і прочая няспелая неразбярыха, няма ў цябе законнага права разбэшчваць народныя масы, а таму накладаю забаронную рэзалюцыю — не пішы! Ты для каго павінен пісаць? Для рэвалюцыйнага пралетарыяту. Рэ-ва-лю-цый-нага! А прадукт няспелай тваёй галавы пакуль гоніць брак з буржуазным душком. Задумайся, Сеня, на чый млын ты льеш ваду? На млын міжнароднага імперыялізму, які цягне цябе ў багну апалітычнасці і голага апартунізму. Але я вытрасу з цябе дробнабуржуазную стыхію і люмпен-пралетарскі анархізм. Я выкую з цябе чэкіста або, на горшы выпадак, класава карыснага інтэлігента, якім табе хочацца быць.

Серафім з нехаванай цікавасцю глядзеў на Марка: нешта новае, нязнанае чулася ў ягоных выказваннях. Марк нібы пасушэў, завастрыўся, натапырыўся, стаў падкрэслена паказваць сваю вучонасць, ужываючы такія моўныя звароты, якіх Серафім ніколі не сустракаў у літаратуры. Серафім адчуваў да вотчыма дзіўнае пачуццё глухой насцярожанасці і незразумелага захаплення ягонай уладнасцю. Марк з усімі яго дзівацтвамі выглядаў грунтоўна ў кожным жэсце, у кожным слове. Ён заўсёды быў для Серафіма загадкай, якую хацелася не проста рашыць, а спасцігнуць усім нутром.

Серафіму не цярпелася паставіць Марка ў пэўныя рамкі іхніх узаемаадносін: ён дарослы, і няма чаго Марку камандаваць ім, як сынам.

— Марк,— з уяўнай рашучасцю сказаў ён,— ты забываеш, што ў мяне могуць быць свае прынцыпы.

— А мне напляваць на твае прынцыпы. У нас адзін прынцып: класавы падыход да ўсіх з'яў жыцця. Іншыя прынцыпы мы сатром у парашок.

— Навошта ты браў мяне, Марк? — спытаўся

Серафім, спрабуючы да канца высветліць магчымасць сумеснага існавання.

Марк зніякавеў, але зусім ненадоўга. У ягоным голасе неадольнасць праваты:

— З чаго ты вывеў аксіёму, што я не павінен быў браць цябе? Я, можна сказаць, з саплівага ўзросту выняньчыў цябе з інтэлігентнага хлюпіка ў пралетарскага пацана на пераломе свядомасці. І тое, што ты ацалеў у зладзейскай маліне, не чыя-небудзь заслуга, а мая, заслуга партыйнага метаду выхавання. Чалавек сам каваль свайго шчасця і, кроў з носа, павінен каваць яго без аглядкі на мінулае, а скіравана ў будучае. Абставіны перапынілі працэс тваёй перакоўкі, і я не магу кінуць на паўдарозе загартоўку ўжо гатовага да жыцця вырабу. Калі б ты ведаў, як сцякае гарачай крывёй маё сэрца ад любві да такіх вось заблытаных падросткаў, ты ніколі не спытаў бы, навошта я ўзяў цябе. Гэта мой партыйны абавязак, прадаўжэнне справы таварыша Дзяржынскага, які таксама востра хварэў за наша неабуджанае пакаленне. Зразумей мяне, хоць і палітычна няспелым розумам, што я ў лютай нянавісці скрыгачу зубамі, калі бачу сытых, укормленых, недарэзаных класавых тыпаў на фоне беспрытульнасці дзяцей і юнакоў, якіх разбэсцілі сваім багаццем абывацелі. Не, Сеня, душа з мяне вон, а кішкі на тэлефон, калі я адступлюся. Я выкую з цябе сапраўднага будаўніка камунізму.

— Можаш каваць, але запомні, Марк, што і я ўпарты. І калі надумаў стаць пісьменнікам, дык стану. І пісаць буду пра тое, што бачыў і чуў і як яно ёсць на самай справе.

— Дзеля чаго?

— Каб людзі ведалі, як яны жывуць.

— Бедна жывуць, паскудна, але каму гэта патрэбна? Народу патрэбна прыгожае слова аб ім, а не тое, што ён і без цябе бачыць кожны дзень. Дай адпачнуць яму за кнігай.

— Нічога ты, Марк, не петрыш у літаратуры...

— А мне і петрыць няма чаго. Або будзеш пісаць на патрэбу рэвалюцыйных мас, або цябе спасцігне самая суровая кара згодна савецкага крымінальнага кодэкса.

— Не трэба мяне палохаць, Марк.

— А я не палохаю — культурна папярэджваю. Ды

і не будзе ў цябе часу на глупства. Перад табой стаіць задача нумар адзін — закончыць школу і ў інстытут. Краіне патрэбны пралетарскія кадры. Кадры, Сеня, рашаюць усё.

— Я ўсё чыста забыў,— спалохана прызнаўся Серафім.

— Успомніш, а чаго не ўспомніш, вывучыш. Я сам вучуся на вячэрнім рабфаку. Абы галава была і два вухі. Ідзі адразу ў сёмы.

— Дык я шосты не кончыў.

— Кончыш. А на перакоўку пойдзеш у рабочы калектыў, на першынец нашай індустрыі — іголкавы завод. Так я рашыў, так і падпісаў.

## 7

Вячэрняя школа рабочай моладзі знаходзілася ў памяшканні дзённай школы, дзе некалі вучыўся Серафім. Заняткі праводзіліся праз дзень. І вучыцца было зусім не цяжка. Настаўнікі вялі ўрокі абы-як, адзнакі ставілі шчодра, быццам веды вячэрнікам не патрэбны — патрэбны толькі дакументы аб заканчэнні няпоўнай сярэдняй школы.

Назіраючы за вячэрнікамі, Серафім прыходзіў да высновы, што многія з іх і сапраўды вучацца з той жа мэтай: атрымаць дакумент. Адным ён даваў нейкія перавагі на працы, другім трэба было мець абавязковую сямігадовую адукацыю.

Іхні сёмы клас налічваў сорак шэсць вучняў; за партамі сядзелі цесна — не паварушыцца, але месц усё роўна не хапала. Тады з суседніх класаў і з настаўніцкай прыносілі крэслы, хто спазняўся, сядзеў на іх уздоўж сцен, як у клубе. Займаліся чатыры гадзіны з двума перапынкамі. Урокі нагадвалі тыя, што і ў дзённых школах — апытанне, тлумачэнне новага матэрыялу, замацаванне,— з тым хіба адрозненнем, што апытанне займала не больш пяці хвілін, а замацаванне амаль не праводзілася. Не існавала таксама праверкі хатніх заданняў настаўнікамі. Звычайна вучань правяраў вучня. І тым не менш недзе пасля двух тыдняў у класе вылучылася група лідэраў — чалавек восем, не больш. Сярод іх былі Серафім, Лёва Яхкінд — трубач духавога аркестра

і рабочы лямцавай фабрыкі, Люба Таміліна з фабрыкі імя Клары Цэткін, Рыва Шамес, закройшчыца з жаночага атэлье мод, Пракоп Севасцьянавіч Смірноў, самы старэйшы ў класе вучань з трамвайнага дэпо, які, нягледзячы на сваю добрую вучобу і насмешкі вячэрнікаў, упарта заяўляў, што ён з «дэпа», ніяк не разумеючы, чаму слова дэпо не павінна скланяцца.

Серафім неўзабаве сышоўся з Лёвам Яхкіндам — той рашаў яму задачы, а Серафім пераказваў змест твораў, якія Лёва з-за сваёй занятасці не мог чытаць. З Любай Таміліная і Рывай Шамес яны сядзелі за адной партай. Рыва Шамес была старэйшая за іх, як на Серафімава разуменне дык перастарка. Яна модна апраналася, на заляцанні вячэрнікаў адказвала кашачым фырканнем, і кожны тыдзень на вуліцы яе чакаў новы ўхажор. Ад Любы соладка пахла парфумай. Пазіраючы на яе профіль, Серафім лічыў, што яна вельмі падобна на егіпецкую царыцу Неферціці.

У часе перапынкаў Люба заставалася ў класе. Сядзела за партай або, лёгшы грудзямі на падаконнік, задумліва глядзела на ярка асветленую Замкавую вуліцу. Серафім таксама стараўся застацца ў класе — цягнула яго да гэтай прыгожай і вельмі загадкавай дзяўчыны. Але кожны раз, калі надарваўся выпадак загаварыць з Любай, Серафіма ахоплівала нясмеласць. Ён ужо ведаў, што яна жыве недзе на правабярэжжы, як і ён, бачыў, як яна выходзіць са школы, але баяўся падысці, прапанаваць правесці яе дамоў, як гэта рабілі многія вячэрнікі.

Адбылося не па ягоным пачыне: неяк яны выйшлі са школы разам, паціху пайшлі па Замкавай, потым па Пушкінскай вуліцы.

— Ты дзе жывеш? — спыталася Люба.

— Па Канатнай...

— А я па Мікольскім завулку. Гэта за акулярнай фабрыкай.

— Не баішся хадзіць адна?..

— Хочаш праводзіць? — пацікавілася Люба.

Яны пайшлі па ўзбярэжжы. З ракі патыхала вільгаццю. Халодны вецер налятаў аднекуль з-пад Мазурына, аж зацінала дыханне. За ўзвозам, дзе да дэбаркадэра былі прыткнуты два параходы, яны

пайшлі налева ў чорную прорву вуліцы. За Мікольскай царквой Люба павярнула ў завулак, асветлены ліхтаром, што вісеў на фабрычным двары, спынілася ў канцы завулка. Ліхтар асвятляў вялізную хату і двор. Дом ужо спаў. Нідзе ні агеньчыка.

— Зайдзі,— прапанавала Люба.

Серафім крыху разгубіўся: позна, але выпрабоўваць лёс не стаў. Па брукаванай цэглай сцежцы яны дайшлі да сенцаў, адтуль трапілі ў хату. Люба ўпоцемку знайшла запалкі, запаліла настольную са шкляным рэзервуарам лямпу, правяла Серафіма ў залу. Трымаючы лямпу ў левай руцэ, правай рукой Люба ўзяла Серафіма пад руку, падвяла да вялізнага — ад падлогі да столі — трумо, пакланілася збянтэжаным іх адбіткам.

— Добры вечар,— павіталася яна з адбіткамі іх постацей.— А вось і мы! Не чакалі?..

Яе дзіцячая сарамлівасць вызваліла Серафіма ад напружанасці. Ён таксама пакланіўся паліраванай паверхні трумо, сказаў з вясёлай гарэзлівасцю:

— А дзе гэта вы так позна загуляліся? — і паспрабаваў абняць Любу за талію.

— Не дурэй, лямпу разаб'еш,— строга сказала Люба, і Серафім адчуў, што гэта не жарт, а рашучае да яго патрабаванне.— Сядай на канапу, а я чай згатую. Будзем піць чай з вішнёвым варэннем.

Яе строгасць адразу паставіла Серафіма на ролю сябра, і не больш...

Яму падабалася бываць у гэтым утульным і вельмі гасцінным доме, дзе панавалі нязмушаная чысціня і прыстойнасць. З далёкіх закуткаў памяці Серафім чэрпаў нешта падобнае, знаёмае яму, што некалі акружала яго — можа, той шчаслівы час, калі яны з мамай жылі ўдваіх.

Любіна маці, Алімпіяда Фядотаўна, чымсьці нагадвала Серафіму ягоную маму, між імі не было і кроплі знешняга падабенства. Яна ставілася да Серафіма як да сына, і яе ненадакучлівая ўвага кранала Серафіма, які даўно адвык ад матчынай ласкі. Часам Серафіму вельмі хацелася, каб Алімпіяда Фядотаўна пагладзіла яго па галаве сваёй прыгожай, пульхнай рукой з заручальным пярсцёнкам — нязбытная мара, схаваная за сямю замкамі ў адзічэлай Серафімавай душы.

Бацька, Павел Нілавіч, у адрозненне ад жонкі, быў сухаваты, трымаў сябе з годнасцю, якая здавалася непадступнасцю, але паслухаць яго было найвялікшым задавальненнем. Павел Нілавіч быў вельмі адукаваным чалавекам і заўсёды шчодра дзяліўся сваімі ведамі. З яго вуснаў Серафім упершыню пачуў пра крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, якія некалі насялялі Беларусь, былі далёкімі продкамі цяперашніх беларусаў. Ён з захапленнем расказваў пра абрады і традыцыі старажытных народаў, пра іх паганскую веру, якая пакінула свой след на нашчадках. Падоўгу і вельмі вобразна Павел Нілавіч гаварыў пра старажытных пісьменнікаў, дойлідаў і мастакоў. Ад яго Серафім пачуў і праслухаў «Слова аб палку Ігаравым», «Жыціе Ефрасінні Полацкай», «Прамовы Кірыла Тураўскага», «Сказанне аб пакарэнні Разані», старажытныя балады, пачуў, што Беларусь некалі была вялікай дзяржавай і на яе мове нават быў напісаны Статут літоўскі. Для Серафіма ўсё гэта было вялікім адкрыццём.

Аднаго разу Серафім прызнаўся, што піша апавяданні, але баіцца іх каму-небудзь паказаць. Павел Нілавіч папрасіў даць яму пачытаць тыя апавяданні. Ягонага прысуду Серафім чакаў з нецярплівасцю і хваляваннем. Павел Нілавіч не толькі пахваліў апавяданні, ён параіў паслаць іх у якую-небудзь рэдакцыю, напрыклад, ва «Узвышша». Серафім, аднак, пабаяўся.

Дзіўным было тое, што Любін бацька не быў гуманітарыем. Ён працаваў на чыгунцы, па прывычцы насіў форменны гарнітур дарэвалюцыйных часоў, але без знакаў адрознення, проста як даніну сваёй спецыяльнасці чыгуначнага інжынера. Яшчэ ў іх быў дарослы сын Ніл, які таксама працаваў у паравозным дэпо. З працы ён прыходзіў брудны, перапэцканы ў сажу, але заўсёды жыццярадасны. Ён доўга мыўся пад рукамыйнікам, старанна выціраўся чыстым ручніком, пераапранаўся і садзіўся за стол за нейкія чарцяжы. Быў ён маўклівы, засяроджаны, насіў акуляры — пенснэ, якое выклікала ў Серафіма раздражненне,— Ніл у сваім пенснэ быў падобны на меншавіка, якіх тады малявалі на карыкатурах.

На жаль, Серафіму не часта даводзілася гасцяваць у Таміліных. Большую частку дня адбіраў іголкавы

завод, на якім ён працаваў. Завод пабудавалі гады тры назад на паўночна-ўсходняй ускраіне горада, паміж Суражскай шашой і ракою Віцьбай. Серафіму ён здаўся цудам тэхнікі. Машыны цягнулі дрот розных памераў, секлі яго на патрэбную даўжыню, адны канцы заточвалі, на другіх рабілі дзірачкі для нітак, шліфавалі, храміравалі — і ўсё аўтаматычна. Павел Нілавіч казаў, што з часам аўтаматычныя лініі, аўтаматы — механічныя рукі — заменяць чалавека на вытворчасці. Пра аўтаматычныя рукі і нават аўтаматычных людзей ён мог гаварыць бясконца, як і пра беларускую культуру.

Цэхі завода блішчэлі чысцінёй. На вокнах віселі фіранкі, а на падаконніках у спецыяльна зробленых падстаўках стаялі скрыні з кветкамі. Дзесяткі жанчын-прыбіральшчыц праз увесь дзень сноўдалі па цэхах, падмяталі, падшкрабалі, драілі, чысцілі, мылі, выціралі пыл. У сонечныя дні цэхі завода аж зіхацелі начышчанымі станкамі і чыста вымытымі вокнамі.

Серафім працаваў на абрубцы. Тыдні два пры ім стаяла прыдзірлівая шыраказадая і шыракатварая Вікторыя, якая, аднак, калі прыйшоў час ставіць Серафіма аднаго, пахваліла яго начальніку цэха:

— З гэтага толк будзе...

Ці не тады і ўзнік перад Серафімам у канцы змены кудлаты, меднавалосы Натан Баварскі, сакратар заводскай камсамольскай ячэйкі. Быў ён высокі, худы, касавокі. Здавалася, што ён глядзіць на цябе зверху і кудысьці ўбок, нібы саромеецца таго, пра што гаворыць. У яго быў неверагодны акцэнт нават для віцебскага яўрэя.

— А ты запісаўся ў камсамол? — тыцнуўшы ў Серафіма пальцам, спытаўся ён.

— Хіба нада?..

— Вуй, вуй, ві пачуйце, пра што ён пітаецца! Нада! Хто пітае нада? Камсамол — верны сын партыі. А ён кажаць! Каму нада? Камунізму нада. Я сам дам табе рэкамендацыю...

Пасля сходу, на якім на Серафіма ўзваліліся з паўтузіна нагрузак у парадку праверкі, ён здагадаўся, што тут не абышлося без Марка. Ён бы застаўся задаволены сваёй актыўнасцю, каб яна не адбірала апошнія магчымасці бываць у Таміліных. Але кожны раз, калі такая магчымасць надаралася,

Серафім бег на Мікольскі завулак, каб пачуць ад Паўла Нілавіча яшчэ нешта цікавае і карыснае.

— Мне сказалі, што ты часта бываеш у нейкіх Таміліных? — спытаўся Марк.

Серафім пачырванеў і чамусьці спалохаўся, быццам яго злавілі на нейкім злачынстве.

— А ты адкуль ведаеш?

— А нам паложана ўсё ведаць,— адказаў Марк.— Гнілая інтэлігенцыя і варожая нацдэмаўшчына, во што такое твае Таміліны. І ты кінь шуры-муры...

— А ніякіх шураў-мураў няма,— узлаваўся Серафім.— Табе вечна нешта трызніцца. Мне, напрыклад, цікава слухаць Паўла Нілавіча.

— Так, так, і пра што ж расказвае асколак старога свету, твой гэты Павел Нілавіч?

Серафім хацеў сказаць, што Павел Нілавіч расказвае яму пра тое, пра што не пішацца ў падручніках, але нечага прыкусіў язык.

— Пра套 рознае. Напрыклад, пра будучыя заводы з аўтаматычнымі рукамі.

— А-а-а,— расчараваўся Марк.— Але ўсё роўна кінь. Цябе, дзівака, хочуць жаніць на гэтай іхняй барышні, каб схаваць іхняе непралетарскае паходжанне.

— А кажаш, што ўсё ведаеш,— засмяяўся Серафім.— Люба і не збіраецца выходзіць замуж. Ды і ніякай там інтэлігентшчыны і нацдэмаўшчыны я не заўважыў. Культурная сям'я, і толькі...

Марк ускочыў з-за стала, за якім вячэралі, абрынуў на Серафіма бурную паводку слоў:

— Што, сысунок, не перажыў мінімальнага выпрабавання? А ці вядома табе дасканала, што твая гэтая Любоў Таміліна доўгі час кахалася з выхадцам з варожага нам класа, папоўскім сынам? Ты на гэты конт якога разумовага паняцця?

— Ніякага,— адказаў Серафім.— Папоўскі сын— не поп. І мне да таго няма ніякай справы.

— Аднаго поля ягады,— сказаў Марк.— Глядзі, я папярэдзіў, і калі ты ў якую антысавецкую гісторыю ўліпнеш — не стану выручаць...

Серафім неўзабаве забыўся пра тую гаворку з Маркам. Ішла вясна. Яна ў той год выдалася халодная: у маі выпадаў снег. З Украіны на горад насоўваўся страшны голад.

Серафім быў далёкі ад бытавых клопатаў. Марк прыносіў паёк, Іраіда гатавала сняданні, абеды і вячэры, а ён, Серафім, загружаны камсамольскімі даручэннямі і падрыхтоўкай на курсы ў настаўніцкі інстытут, яшчэ неяк знаходзіў час і на каханне. Наперакор усяму, яно захапіла абаіх магутнай сілай зачаравання. Было прыемна прачынацца раніцай і думаць пра Любу Таміліну, выконваць часам самыя бязглуздыя камсамольскія даручэнні і думаць, што выконвае іх для Любы, класціся спаць з думкай пра яе. Ён адчуваў, што і ў Любы змяніліся адносіны да яго. Яна ўсё часцей затрымлівала на ім ласкавы позірк цёплых вачэй, усё часцей згаджалася з ім, усё часцей як бы выпадкова кранались ягонай рукі, а калі яны ішлі поруч, увесь час старалася зазіраць яму ў вочы. Аднак, па ўзаемнай згодзе, яшчэ той, на пачатку іх знаёмства, яны нават не адважваліся гаварыць пра каханне і ўжо, крый божа, пацалавацца або ўзяць адно аднаго пад руку. Хадзіць пад ручку тады лічылася модным.

Серафім стаў няўважлівы, і Іраіда ўсё часцей жартавала з яго, але зусім не абразліва. Марк пазіраў на яго з пачуццём асуджэння. Аднойчы ён сказаў Серафіму з той катэгарычнасцю ў голасе, якая не дае права на адмаўленне:

— Паедзем на пасяўную. Вакол сабатаж і шкодніцтва. Сяўба пад пагрозай зрыву.

— А як жа завод?

— Завод цябе і рэкамендуе. Нада апраўдаць давер'е.

Назаўтра, нават не развітаўшыся з Любай, Серафім ехаў у Бялынавіцкі сельсавет, вяртаўся туды, адкуль яго вырвала цяжкая хвароба.

Хмарная нядзельная раніца сеяла на зямлю дробны золкі дождж напалам са снегам. Тонкія колы брычкі, спаўзаючы з бруку шашы, уразаліся ў расквашаную непагаддзю зямлю. Ехалі ўтраіх: ён з Маркам і загадчыца жансавета Тамара Жывіца. Серафім з прагнай цікавасцю прыглядаўся да наваколля — гэтай шашой ён ехаў упершыню. Марк з Тамарай Жывіцай пацішу перагаворваліся, вызначалі план дзеяння па пераадоленні кулацкага сабатажу. Серафім, правячы канём, слухаў іхнія разважанні, дзівіўся: адкуль жа зноў паявіліся кулакі, калі былі

раскулачаны і высланы ў Сібір? Трывожыла сэрца, а што падумае Люба? Чаму ён не прыйшоў да яе, як дамаўляліся? Уяўленне малявала страшныя падзеі, што могуць настаць пасля ягонага нявольнага ўчынку. Таму гаворка Марка з Тамараю не асядала ў галаве.

У сельсавеце іх чакалі. Седзячы на покуце пад партрэтам Карла Маркса, старшыня асуджальна цадзіў нудныя словы пра кулацкі сабатаж, шкодніцтва і традыцыі старых часоў.

— У мужыка свае прыкметы,— казаў ён.— Мужык во як вызначае, ці пара сеяць, ці яшчэ трэба пачакаць? Зніме штаны, сядзе голым задам на раллю і чытае «Ойча наш». Калі тры разы прачытае, тады можна сеяць. А калі не ўседзіць ад холаду — рана, і ты яму хоць кол на галаве чашы...

У Марка шарэў ад злосці твар. Балюча крывіліся тонкія губы.

— Я іх, каторыя несвядомыя, на гарачую патэльню пасаджу, тады пабяжыць сеяць.

Старшыня згаджаўся з кожным словам грознага ўпаўнаважанага. Дзень хіліўся к вечару, і думаць пра выезд у які-небудзь калгас не прыходзілася. Трэба было начаваць у Бялынавічах.

Выклікаўшы старшыню мясцовага калгаса, старшыня сельсавета загадаў таму выдзеліць з калгаснага фонду цялічку на харчаванне ўпаўнаважаных, муку, малако і бульбу. На начлег усіх траіх паставілі да мясцовай актывісткі, спрактыкаванай на абслугоўванні высокіх пастаяльцаў. Вячэралі рана. І спаць леглі адпаведна: Марка і Тамару Жывіцу актывістка паклала ў спальні — невялікім і доўгім, як пенал, пакоі, дзе ўзгалоўямі адзін да аднаго стаялі два ложкі. Серафім спаў на печы, на якую залазілі з той жа спальні. А сама актывістка заначавала на кухні, лёгшы на шырокую лаўку.

З печы Серафіму бачны быў шэры прамавугольнік акна і два сілуэты ложкаў. Серафіму не спалася. Апанавалі ўспаміны і сярод іх самы страшны, які і давёў яго да хваробы: старшыня сельсавета скача з распятым Хрыстом у царкве. На кухні нясмела храпла гаспадыня. Яе гэтае асцярожнае храпенне наводзіла на Серафіма сум.

У начной абрыдлай цішыні ціха зарыпеў ложак, а затым пачуўся Маркаў нецярплівы шэпт.

— Дык што, па-твойму, партыец манах. Такія твае думкі не толькі няправільныя, але і шкодныя. Ад іх патыхае мяшчанскай дабрачыннасцю. Я не ад разбэшчанасці прашу, а выключна з пункту гледжання здароўя і аптымістычнага настрою.

— Ды я ўсё разумею, таварыш Удоеў,— аж горача адказала Тамара Жывіца,— але што вы пра мяне падумаеце? Смяяцца будзеце.

— Я табе басяк які? — абурыўся Марк.— Акрамя таварыскай удзячнасці, ніякіх іншых смехаў.

— Ой, ды пачакайце вы, таварыш Удоеў, я сама зніму...

Серафім чамусьці падумаў:

«Маці ён таксама здраджваў. Для яго гэта, як шклянка віна».

За ноч дождж аціх, але на зямлі дзе-нідзе ляжалі белыя лапікі снегу. Марк пакінуў Жывіцу ў мясцовым калгасе, а сам з Серафімам паехаў у Бабінічы. Серафім усё гадаў: сказаць Марку ці змоўчаць, што ў гэтай вёсцы жыў ягоны дзед, што тут яго, мабыць, ведае кожны сабака — не забыўся за тры гады. Рашыў — памаўчу. Авось на яго забыліся.

Было даволі позна, але ў вёсцы ніякага руху.

— Спяць, гады,— сказаў Марк, і па ягоным голасе Серафім здагадаўся пра лютую злосць, што затаілася ў Марку.

Марк нагой адчыніў дзверы ў калгасную кантору — яны моцна грукнулі аб сцяну. У канторы — ні душы. Марк выбег у сенцы. З дзвярэй насупраць канторскіх высунуўся лысы чалавек у акулярах. З-за ягонай спіны выглядаў напалоханы, у рудых плямах твар жанчыны.

— Што вы хацелі, таварышы? — спытаўся чалавек.

— Адпачываеце, гады! На полі ні душы. Па хатах, сабатажнікі, пахаваліся. Старшыня дзе? — накінуўся на яго Марк і толькі пасля запытаўся: — А ты хто?

— Рахункавод, Старыковіч...

— Дык якога ж ты хрэна за бабскую спадніцу хаваешся, калі павінен паміраць на працоўным фронце барацьбы за будучы ўраджай?

— Але ж я рахункавод,— нагадаў Старыковіч.

— Пляваць я хацеў на тваё рахункаводства, калі сяўба не закончана. Зводкі дзе?

— У канторы...

— Ану, пакаж сюды...

У канторы Марк павёў самы сапраўдны допыт рахункавода. Той адказваў не спяшаючыся, і гэта раздражняла Марка. Ён усё больш распаляўся. У куточках рота выкрасалася пена.

Серафім удзелу ў размове не прымаў. Сядзеў каля акна, глядзеў на шэрую, асклізлую ад дажджу і снегу такую знаёмую і такую ўжо чужую вёску. Яна нагадвала падстрэленую варону з бездапаможна распрасцёртымі крыламі. Яго ўсё мацней ахоплівала туга. Прыслухоўваючыся да недаступна суровага голасу Марка і вінаватага рахункавода, які нёс нейкую несусветную лухту наконт сабатажу і варожых вылазак, Серафім усё больш губляў адчуванне рэчаіснасці: і вёска, і нізкія хмары, і мокрае поле, і галасы — усё ператваралася ў нешта вельмі нерэальнае, бессэнсоўнае, абсурднае. З гэтага недарэчнага стану Серафіма вывеў знаёмы голас Міклы Анічэйкі:

— Бальшавіцкае вітанне савецкай уладзе і яе доблеснаму прадстаўніку таварышу Удоеву...

Мабыць, гэтае нечаканае для Марка вітанне збіла яго з панталыку. Замест таго каб абрушыцца на старшыню калгаса ўсёй магутнасцю ўлады, Марк вымушаны быў здзівіцца:

— А ты адкуль ведаеш, хто я такі?..

— Дык я ж працаваў пад вашым мудрым кіраўніцтвам,— выцягваючыся перад Маркам па стойцы «смірна», растлумачыў Мікла,— пакуль не паслалі мяне на фронт калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як класа.

Пачуўшы свайго, Марк змякчыўся, хоць усё яшчэ яго не адпускала лютая злосць.

— Дык што ж ты, чэкіст, маць тваю перамаць, рассучы ты сын, сяўбу зрываеш? — нават вельмі спакойна спытаўся Марк.— У цябе пад самым носам варожыя элементы звілі сабатажнае гняздо, а ты, дышла табе ў рот, вокам не павёў. Чаму нікога няма на полі?

— Адно дзела, што гразна, коні па шчыкалатку ў зямлі грузнуць, а другое — варожая агітацыя, нібы такая ранняя сяўба — шкодніцтва.

— Хто разводзіць варожую агітацыю?

Мікла Анічэйка адчыніў сейф, Серафім угледзеў, што ў ім, апрача тоненькай папачкі, нічога болей не ляжыць. Дастаўшы тую папачку, Мікла разгарнуў яе, выцягнуў аркуш паперы, пасунуў Марку.

— Што гэта? — спытаўся Марк.

— Падкрэсленыя чырвонай рыскай — адкрытыя ворагі ўлады, а сіняй — патрабуюць далейшага нагляду,— адказаў Мікла.

Марк уважліва прагледзеў спіс, пазногцем пазначыў тры прозвішчы.

— Гэтыя на сяўбу выходзілі?

— Каб жа. Гэты во, веруючы. У нядзелю і на щворцы на працу не выцягнеш. А гэты ягоны падпявала і будучы зяць Аўдакім Сахонаў. Гадкоў, праўда, яму малавата.

— Нічога, дададзім,— паабяцаў Марк.

— І во гэтага забярыце ад мяне падалей. Дужа разумны. Яго ніхто не перагаворыць.

— Хто павязе?

— Сынок мой. Ён у мяне сакратар камсамольскай ячэйкі. Узялі б яго да сябе, таварыш Удоеў. Спрытны і аддany справе камунізму хлопец.

— Праявіць на дзеле, вазьму,— паабяцаў Марк.

Гадзіны праз тры Серафім са Сцёпкам везлі ў горад «сабатажнікаў»: даўгалыгага Аўдакіма, з якім некалі разам пасвілі кароў і які тады расказваў пра царкву, што правалілася пад зямлю, Хімчынага бацьку Халімона Праснака і старога дзеда Антона Максімава, дваюраднага брата Серафімавага і Сцёпкавага дзеда.

Праводзіць арыштаваных прыбегла адна Хімка. Кідалася то да Сцёпкі, то да Серафіма, усё спрабавала дазнацца, што будзе з яе Аўдакімам. Больш ніхто не прыйшоў, каб праводзіць арыштаваных. Можа, баяліся, а можа, таму, што Марк з Міклам пагналі ўсіх на поле.

— Во як сустрэліся,— ужо далёка за вёскай сказаў Серафіму Аўдакім.— Ніколі не думаў,— што ты мяне павязеш у турму.

— Памаўчы, контра,— накінуўся на яго Сцёпка.

— І праўда, памаўчы,— параіў Аўдакіму Хімчын бацька.— З імі няма пра што гаварыць. Яны не людзі,

калі і роднага бацьку могуць за панюх табакі прадаць...

Серафім прамаўчаў. Яго сцінаў незразумелы страх перад усёўладнасцю аднаго чалавека, які можа па нагаворы другога вось так проста арыштаваць, напэўна ж, ні ў чым не вінаватых людзей. Так можа здарыцца і з ім: нехта скажа, што ён вораг, а нехта, хто мае ўладу, загадае адвезці яго ў турму.

Серафім прачытаў напісаную Маркам запіску начальніку ГПУ: «Сім суправаджаю арыштаваных мной сабатажнікаў і актыўных ворагаў калгаснага ладу, якія сарвалі ў калгасе «Прамень» веснавую сяўбу, паставіўшы тым самым краіну на мяжу катастрофы». І ўсё. Ніякіх доказаў!

З усёй паездкі на радзіму дзеда і бацькі Серафім запомніў, бадай, толькі адно светлае імгненне: тады, калі Мікла завёў яго дамоў, каб паглядзеў на цётку Варку. Тая доўга дзівілася, мітуслівa сабірала на стол абед, а калі засталася з Серафімам, сказала, пусціўшы скупую слязу:

— Усё думаю пра тату з мамай. Ці жывыя яны? А словам падзяліцца няма з кім. Мікла зусім злюцеў і Сцёпку зводзіць. Перад людзьмі няёмка. Ды і баюся за іх: дужа іх не любяць. Каб не прыбылі дзе ноччу.

Серафіму чамусьці прыгадалася, як дзед з бабаю секлі лейцамі Варку за яе ненасытную любоў да мужчын, як Сцёпка здзекаваўся з яго, і яму страшэнна захацелася ўцячы куды-небудзь падалей ад уласных успамінаў.

Нешта месяцы праз два, а можа, і больш, Серафім спытаўся ў Марка пра тое, што некалі чуў ад каваля Уласа Пажогі:

— Скажы, Марк, а ці праўда, што ты ў грамадзянскую расстрэльваў людзей?

Ён чакаў, што Марк пачне ўхіляцца ад адказу, хлусіць, выкручвацца. А ён сekануў, як сякерай па бярозавым кругляку:

— Не людзей, Сеня, ворагаў савецкай улады і камунізму. І калі зноў паклічуць — пайду без душэўнага перажывання. Я за перамогу рэвалюцыі і сацыялізму гатовы і не на такія дзялы.

Серафіму раптам прыйшла надзіва бязглуздая думка:

— Марк, а мяне ты расстраляў бы?..

— І рука не здрыганулася б,— цвёрда адказаў Марк і дадаў: — Запомні, Сеня, у рэвалюцыі і ў нашай бязлітаснай барацьбе за камунізм няма ні сваякоў, ні блізкіх. І калі ты саступіў з намечанага партыяй шляху і ўпарта ідзеш сваім, грош табе цана і дзевяць грамаў свінцу ў лоб. Вось так, друг мой сардэчны — таракан запечны. І не задавай мне падобных пытанняў. Яны нясуць з сабой сумненне, а сумненне і прыводзіць да дзяржаўных злачынстваў.

На пачатку зімы таго ж года Марк прыбег з працы чымсьці ўстрывожаны.

— Што здарылася, Марк? — бачачы ягоную трывогу, спытаўся Серафім.

Марк доўга хадзіў па вялікім пакоі. У ягоных вачах паблісквалі нядобрыя агеньчыкі. Нарэшце ён спыніўся:

— А тое, што і павінна было здарыцца. Далі волю ўсім гэтым трацкістам, зіноўеўцам, рыкаўцам-брыкаўцам, усёй закансціраванай контры і агентам міжнароднага імперыялізму, во і адрыгнулася: Кірава забілі...

— Хто?..

— Я, здаецца, ясней яснага сказаў...

— Але чаму ты думаеш, што яны?

— А хто ж яшчэ,— упэўнена адказаў Марк.— Ну, ды цяпер яны не здолеюць пазбегнуць суда народа. Дзе Раіса, чорт бы яе пабраў? — спытаўся ён і, не пачуўшы пэўнага адказу ад Серафіма, абурыўся: — Вечна яе няма, калі патрэбна. У Ленінград еду,— і, нечага сумеўшыся, папярэдзіў: — Сеня, зарубі сабе на носе, ніхто не павінен ведаць, што я паеду ў Ленінград. Раіса таксама. І пісьмаў ад мяне не чакайце. Ясненька?

«Відаць, яго зноў паклікалі на справы, што ён вяршыў у грамадзянскую вайну?» — здагадаўся Серафім.

Назаўтра Серафім завітаў да Тамілiных. Уся сям'я сядзела за сталом з патухлым ужо самаварам і з недапітым чаем. Серафіму пачулася, што на сям'ю абрынулася нейкая бяда, якая прыгнятае іх. На запрашэнне раздзяліць чаяванне, Серафім маўкліва сеў на адно з двух вольных крэсел, глянуў на Любу. Па яе позірку зразумеў, што нічога асаблівага не здарылася.

— Што ж гэта будзе, Сіма? — заклапочана спыталася Алімпіяда Фядотаўна, і Серафім здагадаўся, што Таміліны, як і ўсе ў горадзе, заклапочаны забойствам Кірава, нечага баяцца, быццам самі былі саўдзельнікамі зладзейства.

— Вам няма чаго баяцца,— вытрымліваючы саліднасць чалавека, якому даступна будучае, сказаў Серафім.

Павел Нілавіч глянуў на яго з нехаваным шкадаваннем, нават паківаў галавой.

— Ах, малады чалавек, малады чалавек, баяцца нібы і сапраўды няма падстаў. Але чаго я толькі не пабачыў на сваім вяку. У васемнаццатым стралялі ў Леніна. Ці мала ў каго ў Расіі стралялі і кідалі бомбы. Імператара Аляксандра Другога забілі, міністра Сталыпіна. Што рабілі ў такіх выпадках? Лавілі злачынцаў і судзілі іх. А ў васемнаццатым такое пачалося! За адну толькі прыналежнасць да партыі эсэраў хапалі і без суда і следства расстрэльвалі. Але не толькі эсэраў, а ўсіх, каго нехта падазраваў у нязгодзе з новай уладай. Асабліва дасталося нашай інтэлігенцыі. У нас так: што-небудзь здарылася — вінавата інтэлігенцыя! Бі, знішчай яе! Праз тры дамы ад нас жыў славуты на ўсю акругу доктар Мірашнічэнка. Хірург — залатыя рукі. Больш як пяць тысяч аперацый зрабіў у вайну. Колькім людзям жыццё вярнуў. Ён і эсэрам не быў. Купіў нейкую там эсэраўскую газетку і нёс дамоў. Яго спынілі. Ага, эсэраўскія газеты чытаеш? Значыць, эсэр. Схапілі і расстралялі ў Духаўскім рове. Заўважце, малады чалавек, замахі і забойствы найчасцей і скарыстоўваюцца, каб распраўіцца з незгаворлівымі сваімі апанентамі. У славесных бітвах не могуць перамагчы, праваты сваю даказаць, ну і пускаюць у ход зброю. Зброя стала самым любімым аргументам у спрэчках. Дык я пра інтэлігенцыю. За грамадзянскую вайну перабілі яе — не злічыць. Шкоду нанеслі вялікую. Спахапіліся: хто ж будзе аднаўляць гаспадарку — заводы, фабрыкі, усю эканоміку. Вось і паклікалі інтэлігенцыю: памагайце. Наша інтэлігенцыя бяскрыўдная, безадказная. Паклікалі — пайшла, сумленна рабіла. А цяпер, здаецца, стала лішняй. Адчулі, могуць без яе абысціся. Баюся, што забойства Кірава і стане прычынай, каб расквітацца

з няўгоднымі палітычнымі праціўнікамі і каб дазнішчыць інтэлігенцыю старой школы.

Серафім слухаў Паўла Нілавіча з бояззю, цікавасцю і абвостраным пачуццём падсвядомай самаабароны.

— Цяпер іншыя часы, і кадры рашаюць усё,— важна сказаў ён.

— Дай бог, дай бог,— азваўся Павел Нілавіч.— Але вось што я папрашу вас, Сіма. Абяцайце, калі са мной і Нілам здарыцца непапраўнае, не пакідайце Алімпіяду Фядотаўну і Любу...

Серафім горача, узнёсла, з апантанай радасцю ўрачыста сказаў:

— Клянуся ўсім дарагім мне, памяццю маці, што заўсёды стану на абарону Алімпіяды Фядотаўны і Любы...

— Вось і дзякуй. Вось і спакайней стала,— сказаў Павел Нілавіч, узрушаны Серафімавай клятвай.

Незадоўга да новага года па старым календары Паўла Нілавіча з сынам выклікалі ў ГПУ і недзе па вясне судзілі, далі пяць гадоў зняволення з высылкай у паўночныя краі Савецкага Саюза.

# Частка пятая

## чаяванне на прыканцы лета

### 1

Аварыя на Чарнобыльскай атамнай узрушыла і абурыла Серафіма Іванавіча не самім фактам найцяжэйшага здарэння — такое можа адбыцца ў любой краіне, у любым кутку свету,— а дзікай хлуснёй, вар'яцкім памкненнем утаіць вынікі катастрофы і ад свайго народа і ад зарубежжа, безадказнымі, злачыннымі адносінамі да лёсу людзей, неразбярыхай і сумятнёй у выказваннях і дзеяннях — усім тым, што было ўласціва пачатку Айчыннай вайны. Дзве падзеі, раздзеленыя часам у сорак пяць гадоў, і зусім адэкватныя паводзіны кіраўніцтва ў такіх трагічных абставінах. Нічаму не навучыліся? Ці не хацелі вучыцца? Сам па сабе напрошваўся адказ: не хацелі, а таму разгубіліся.

Прыгадваючы сваю размову з Мікітам Леанідавічам, Серафім Іванавіч папракаў сябе за сваю незнаходлівасць; колькі трапных адказаў напрыдумвалася цяпер на прапанову Мікіты Леанідавіча не лезці не ў свае справы, а пісаць мастацкія творы. Тады Серафім Іванавіч разгубіўся, спалохаўся грознага крыку, а падсвядомае пачуццё небяспекі, выпрацаванае за многія гады, прымусіла адступіць. Падумалася, з начальствам спрачацца — усё роўна што пляваць супраць ветру. Ды звычайная чалавечая годнасць не пераставала пратэставаць: было ганебна, прыкра ўсведамляць, што яго, нашмат старэйшага за Мікіту Леанідавіча, знакамітага пісьменніка, грамадскага дзеяча, так абразліва абарваў на паўслове малаадукаваны тып, які і атрымліваў дыпломы аб адукацыі дзякуючы сваім пасадам і бессаромнай нахрапістасці. Серафіма Іванавіча аж калаціла ад успамінаў пра перажытую абразу.

Але гэта быў адзін бок справы. Другі заключаўся ў тым, што Мікіта Леанідавіч не цярпеў, калі яму хто

ўказваў. Больш таго, помсціў. Серафім Іванавіч баяўся, што размова з Мікітам Леанідавічам можа адгукнуцца яму чымсьці горшым, чым абраза. На тое меліся падставы.

У застоліцы, калі Серафім Іванавіч на радасцях запрасіў да сябе на кватэру дваюраднага брата, Алег Максімаў, па-першае, пастараўся давесці, што трывогі Серафіма Іванавіча беспадстаўныя, што ён лішне драматызуе размову з Мікітам Леанідавічам, а па-другое, падбухторыў Серафіма Іванавіча пайсці да Мікіты Леанідавіча, пагаварыць у спакойнай абстаноўцы пра небяспеку, якая затоена ў чарнобыльскай аварыі.

— Мікіта Леанідавіч,— казаў Алег Максімаў,— можа і не ўяўляць усіх вынікаў аварыі. Атамная энергетыка — справа новая, і пабочныя працэсы яе не заўсёды вядомы кіраўнікам рэспубліканскага рангу. Табе вельмі проста патрапіць да Мікіты Леанідавіча на прыём, і твой святы абавязак зрабіць усё, каб давесці кіраўніцтву рэспублікі ўсю небяспеку для здароўя людзей ад выкіду радыеактыўных рэчываў.

Алег Раманавіч гаварыў доўга, пераканаўча, з той жалезнай логікай вучонага, які ведае цану фактам. Серафім Іванавіч даў слова абавязкова патрапіць на прыём да Мікіты Леанідавіча ў самы бліжэйшы час. Што праўда, дабіцца аўдыенцыі яму было зусім не цяжка: званок памочніку, які дalожыць Мікіту Леанідавічу, а той абавязкова выкраіць час на сустрэчу. Варта толькі добра падрыхтавацца; сцісла, доказна, а галоўнае — пераканаўча расказаць пра сапраўдны стан рэчаў. Серафім Іванавіч так і зрабіў: пазваніў памочніку, папрасіўся на прыём і, як належыць, далажыў пра тэму сваёй гаворкі.

— Мікіта Леанідавіч вельмі заняты,— сказаў памочнік і тут жа абнадзеіў,— але вас, Серафім Іванавіч, абавязкова прыме ды яшчэ па такой сур'ёзнай справе. Думаю, прыме заўтра.

Назаўтра, аднак, пазваніў Кузьма Кузьміч, папрасіў зайсці да яго ў любы зручны час. Званок Кузьмы Кузьміча насцярожыў. Серафім Іванавіч звязаўся з памочнікам Мікіты Леанідавіча. Тое, што ён пачуў, ашаламіла Серафіма Іванавіча. Памочнік сказаў, што, на вялікі жаль, Мікіта Леанідавіч не зможа прыняць яго ў бліжэйшы час, аб чым вельмі шкадуе,

прасіў прабачэння ў шаноўнага Серафіма Іванавіча, перадаваў шчырае прывітанне. Усё ў тым жа кірунку высокапастаўленага прытворства і крывадушша.

«Гэта канец,— самотна падумаў Серафім Іванавіч, прыгадваючы, як Алег Максімаў пасміхаўся з яго: маўляў, чаго табе баяцца? Кнігі, славу, званні, узнагароды не адбяруць.— Адбяруць пасаду, а без пасады чалавек нібы ўжо і не чалавек у грамадскім і сацыяльным сэнсе — пенсіянер без правоў і павагі. Ураз усе забудуць, перастануць вітацца. Хоць чорт з іхнімі вітаннямі. Проста брыдка выходзіць у тыраж, калі, здаецца, настала самая спелая пара для асэнсавання жыцця, калі стала пісацца без колішняй аглядкі на галоўліты і іншыя ўстановы, якія маглі табе наківаць, паўшчуваць, забараніць. Прыйшла ўдзячная пара для творчасці. У спалучэнні з пасадай дык і вельмі дабратворны час».

З такімі думкамі Серафім Іванавіч ішоў да Кузьмы Кузьміча, якога не любіў і не паважаў. Зрэшты, Кузьма Кузьміч плаціў яму тым жа.

Кузьма Кузьміч сядзеў у крэсле, нібы пазіраваў перад кінакамерай: бокам, паклаўшы нагу на нагу, левай рукой падпёршы задуменны твар, а правую карцінна паклаўшы на стол, на кнігу, як угледзеў Серафім Іванавіч, дык на ягоную, што нядаўна выйшла ў свет. Не мяняючы гэтай позы, Кузьма Кузьміч кіўком галавы паказаў на крэсла. Серафім Іванавіч сеў. Кузьма Кузьміч адразу памяняў позу, адсунуў ягоную кнігу ўбок, да стоса такіх жа нядаўна выпушчаных.

— Вы хацелі трапіць да Мікіты Леанідавіча? — запытаўся ён так, што адказваць на пытанне не мела сэнсу.— Мікіта Леанідавіч прасіў мяне выслухаць вас, бо сам ён вельмі заняты ў сувязі з вядомай вам падзеяй.

Серафіму Іванавічу не цярпелася спытаць, а чаму Мікіта Леанідавіч даручыў выслухаць яго загадчыку аддзела, а не каму з сакратароў. Але ён добра ведаў, што і на гэты выпадак у Кузьмы Кузьміча падрыхтаваны адказ.

— Я, бадай, напішу Мікіту Леанідавічу,— знайшоўся што сказаць Серафім Іванавіч і, здаецца, трапіў у цэль. Кузьма Кузьміч завібрыраваў: з аднаго боку згаджаўся з Серафімам Іванавічам, а з друго-

га — настойваў, каб той усё ж выклаў яму свае меркаванні па аварыі на Чарнобыльскай атамнай. Серафім Іванавіч быў непахісны. Здавалася, на гэтым і канец аўдыенцыі. Аж не! Кузьма Кузьміч загаварыў пра ягоную апошнюю кнігу, якую трымаў толькі што пад рукой: вядома, пахваліў, але скупа і суха, затое вельмі эмацыянальна, з апантанасцю зануды-стыліста, для якога існуе толькі правіла і ніякіх выключэнняў або пісьменніцкіх адвольнасцей, прыдраўся да нейкай фразы, не вартай увагі і сапраўды няўдачнай.

Серафім Іванавіч не мог пазбавіцца ад уражання, што ўсе гэтыя размовы кругом ды навокал толькі падступ да нейкай больш важкай размовы, якую ў думках ён ахрысціў паскудствам. І сапраўды, Кузьма Кузьміч раптам памяняў паставу, усеўся ў крэсла ямчэй, паклаў рукі на падлакотнікі, нахіліўся наперад, потым адкінуўся на спінку крэсла, уперыў у Серафіма Іванавіча кашачыя драпежныя вочы, спытаўся з ухмылкай на выпешчаным твары:

— А што, Серафім Іванавіч, ці не час саступаць дарогу маладым?

На гэты конт у Серафіма Іванавіча быў у запасе адказ, даволі банальны, зрэшты, як і само пытанне:

— Маладым усюды ў нас дарога, а старым, само сабой,— пашана. Мая пасада больш ганаровая, таму ці падыдзе яна маладым?..

Кузьма Кузьміч дзіўным чынам ухіліўся ад адказу, нібы не пачуў, што сказаў Серафім Іванавіч.

— Я ў тым сэнсе, што сынок ваш замахнуўся на святая святых,— сказаў Кузьма Кузьміч, нібы канкрэтызуючы выказаную ў агульных рысах неакрэсленую думку пра маладых.— Можа, і вы лічыце, што варта саступаць дарогу маладым экстрэмістам, якія прагна рвуцца да ўлады.

Серафім Іванавіч пачуў, як захаладзела ў грудзях, а твар наліўся млоснай гарачынёй.

— Я вас не зусім разумею, Кузьма Кузьміч,— сказаў ён, і сам не пазнаў свайго голасу: куды падзявалася яго грунтоўнасць і незалежнасць?

— Ды вы не хвалюйцеся, Серафім Іванавіч,— кінуўся суцяшаць яго Кузьма Кузьміч.— Мы, вядома, не далі ходу справе. Выклікалі, так сказаць, у мэтах прафілактыкі, пагутарылі, паўшчувалі. Хлопец ён

гарачы, да ўсяго хоча мецъ дачыненне, быццам без яго няма каму рашаць нашы балючыя праблемы. А разважанні дзіцячыя: сацыяльная справядлівасць, неабгрунтаваныя патрабаванні свабоды, быццам у нас яе няма. Але зразумейце і вы наша становішча: справа з вашым сынам ужо выйшла за лакальныя межы. А вы не проста пісьменнік, а пісьменнік з імем, з пасадай, выхавацель маладых. Саюз за апошні час памаладзеў, і прыклад вашага сына можа паўплываць на працэс выхавання маладога пакалення...

Кузьма Кузьміч цадзіў словы з паказной непаспешлівасцю, каб уразіць, збіць з панталыку Серафіма Іванавіча.

— Вы думаеце, у мяне няма маральнага права на кіраўніцтва саюзам? — упалым голасам спытаўся Серафім Іванавіч.

— Я так не думаю, Серафім Іванавіч, але такая думка сапраўды ёсць,— Кузьма Кузьміч шматзначна ўзняў угору ўказальны палец, намякаючы на думку вышэйшага начальства.

— Мне трэба пісаць заяву?..

— Было б найлепш,— спачувальна пазіраючы на Серафіма Іванавіча, адказаў Кузьма Кузьміч.— Матывіроўку ўкажыце хоць бы такую: неабходна працаваць над вялікім творам і немагчыма сумяшчаць гэтую працу з выкананнем абавязкаў кіраўніка саюза.

Серафім Іванавіч зразумеў, што ўсё было загадзя прадугледжана і няма звароту назад. Крыўдна вось так пад чужую дыктоўку пакідаць даўно абжытую пасаду. Але што паробіш?

## 2

Серафім Іванавіч лічыў: на сыноў яму не пашанцавала. Іншая справа дочкі.

Старэйшая ад першай жонкі Любові Паўлаўны, Святлана, к гэтаму часу мела за плячамі амаль паўста гадоў, ступень доктара медыцыны, сваю клініку, лічылася выдатным акулістам, рабіла унікальныя аперацыі, вяртаючы людзям зрок. Што праўда, да бацькавай прафесіі, а найбольш да ягонай пасады ў саюзе, якую яна лічыла абсалютна непатрэбнай, Святлана ставілася з паблажлівай іранічнасцю. Гэта,

аднак, не замінала ёй горача любіць бацьку, ганарыцца ім. Але сустракаліся яны рэдка, найчасцей перагаворваліся па тэлефоне. У Святланы не хапала часу, ды яшчэ здаўна не скламіся адносіны з Клаўдзяй Маркаўнай — мачыхай. Серафім Іванавіч напачатку балюча перажываў разлад паміж дачкой і жонкай, але даволі хутка зміры ўся: разлад не выходзіў за рамкі сямейнай нязгоды. І Клаўдзя Маркаўна і Святлана паводзілі сябе карэктна, як блізкія, але не родныя людзі.

Святлана была вельмі падобна на маці, Любоў Паўлаўну, першае Серафімава каханне, што дадавала цеплыні да ягоных адносін з дачкою.

Муж Святланы, Ігнат Васільевіч, таксама ўрач, але без ступеняў і званняў — звычайны хірург-траўматолаг, таленавіты спецыяліст, які мог бы далёка пайсці, зрабіць кар'еру, каб не славутая чарка, якую ён браў з зайздроснай паслядоўнасцю ў канцы рабочага дня.

Было ў іх двое дзяцей, ужо дарослых, якія таксама пайшлі ў медыцыну і, здаецца, плённа: дачка Тамара працавала ў інстытуце ўдасканалення ўрачоў, а сын Расціслаў працаваў у спецыялізаваным навукова-даследчым інстытуце ў Маскве.

Другая дачка Серафіма Іванавіча, Насця, ад Клаўдзі Маркаўны, падалася ў тэхніку, працавала ў канстуктарскім бюро трактарнага завода. Сухаватастрыманая, уладная, Насця належала да той катэгорыі людзей, якія ўпэўнены ў прыярытэце тэхнікі ў лёсах народаў, што ёй належыць будучыня, усё астатняе недарэчнасць і фантазія, якія заводзяць чалавецтва ў зман, замінаюць яму нармальна жыць. І муж у яе, Мартын Мартынавіч, быў заядлы тэхнар, дырэктар філіяла Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута цяжкага машынабудавання, удзельнічаў у распрацоўцы нейкіх важных заданняў, меў дзве Дзяржаўныя прэміі: адну — саюзную, другую — рэспубліканскую, ступень кандыдата тэхнічных навук і, як казалі дасведчаныя людзі, збіраўся абараняць доктарскую дысертацыю. Знешне спакойны, нават флегматычны, непаспешлівы, грунтоўны, ён, калі справа даходзіла да размовы аб прыярытэтных навуках, станавіўся ўпарты. У адрозненне ад хірурга-траўматолага, якога ўсе звалі Ігнатам, Мартына

Мартынавіча нават Серафім Іванавіч называў толькі па імені і па бацьку.

Мартын Мартынавіч быў сваім чалавекам у доме, вельмі паслужлівым, з павагай ставіўся да цешчы, а таму лічыўся любімчыкам сям'і, без якога не магло быць ніякай застоліцы.

У іх былі дзве дачкі-блізняткі: Люба і Каця, пра якіх і сказаць няма чаго — звычайныя дзяўчынкі нашага часу.

А вось сыны прыносілі Серафіму Іванавічу ці мала клопатаў.

Старэйшы, Лявон, Лёнік, ад Любові Паўлаўны, першынец, на якога Серафім Іванавіч ускладаў свае надзеі і спадзяванні, прапаў без вестак у пяцьдзесят трэцім годзе ў часе пахавання Сталіна.

Лявону ішоў тады шаснаццаты год, але па сталасці разважанняў ён далёка апярэджваў не толькі сваіх аднакласнікаў і аднагодкаў, але і выпускнікоў школы, на два-тры гады старэйшых за яго. Вучыўся ён на адны пяцёркі, шмат чытаў, заглыбляўся ў першакрыніцы, імкнуўся асэнсоўваць прачытанае, выпрацоўваць на кожную з'яву свой пункт гледжання — рыса на той час як бы і крамольная,— даходзіць да ўсяго самому, нішто не браць на веру, усё бачыць сваімі вачамі, каб не памыляцца, не рабіць высноў з чужых меркаванняў. Мабыць, гэтая рыса і падштурхнула Лёніка паехаць на пахаванне Сталіна. Серафім Іванавіч яго рашуча адгаворваў, але Лёнік упарта стаяў на сваім, казаў, што потым сам сабе не даруе, што не паглядзеў, як хаваюць «аднаго з загадкавых геніяў сучасных трагедый».

Серафім Іванавіч пазваніў у Саюз пісьменнікаў, папрасіў, каб памаглі сыну ўладкавацца ў гасцініцу. На ўсякі выпадак дамовіўся яшчэ са сваім перакладчыкам Сямёнам Гдальевічам, каб даў прытулак сыну, калі той па нейкай прычыне не трапіць у гасцініцу.

На трэція суткі пасля пахавання Серафім Іванавіч устрывожыўся не на жарт — ад Лёніка не было ніякіх чутак. Давялося званіць перакладчыку. Той адказаў, што Лёнік да яго не заходзіў і не званіў. Серафім Іванавіч папрасіў Сямёна Гдальевіча навесці даведкі, а сам у той жа дзень выехаў у Маскву.

З вакзала паехаў да перакладчыка.

— Што я мог высветліць,— чамусьці сцішыўшы голас да паўшэпту, загаварыў перакладчык, як толькі яны засталіся ўдвух.— Найперш пазваніў Таццяне Мікалаеўне. Яна сказала, што дала бронь Лёніку ў гасцініцу «Якар». Паехаў туды. Уяўляеш, там мне сказалі, што Лёнік у іх не спыняўся. Мне падумалася, што Таццяна Мікалаеўна нешта наблытала. Але яна сапраўды дала бронь на «Якар». Тады я зноў паехаў у гэты чортаў «Якар» і ўжо настойліва стаў патрабаваць, каб мне дакладна сказалі, ці жыў у іх Лявон Серафімавіч Недасейка? І тут, уяві, да мяне падышоў нейкі тып у цывільным і вельмі нахабна параіў, каб я заткнуўся. Ён так і сказаў: заткніся і матай адсюль, пакуль цэлы. Што я мог рабіць? Павярнуўся і пайшоў.

— Сямён Гдальевіч,— узмаліўся Серафім Іванавіч,— растлумач ты мне, што ўсё гэта азначае?

Цяпер перакладчык наогул пачаў шаптаць так ціха, што Серафім Іванавіч ледзьве разбіраў, што ён кажа:

— Ты, Серафім Іванавіч, і не ўяўляеш, што тут тварылася ў часе пахавання Сталіна. Кашмар. Усюды нарабілі загароды, панастаўлялі грузавікоў з усёй Маскоўскай вобласці, перакрылі вуліцы, завулкі, прахадныя двары і нават пад'езды. А людзей у асобных раёнах сабралася безліч. Там-сям прарывалі першыя лініі загародаў, і тады пачыналася нешта несусветнае. На Трубнай плошчы, кажуць, натоўп па жывых людзях бег. Але пра гэта загадана маўчаць. Расія без Хадынак не можа абыходзіцца... Можа, і яго дзе задушылі...

Пахадзіўшы па розных установах, Серафім Іванавіч пераканаўся: з Лёнікам здарылася нешта жахлівае, зразумеў, што высветліць, бадай, нічога не давядзецца. Напісаўшы заяву ў міліцыю, Серафім Іванавіч вярнуўся дамоў.

Адказу на заяву ён так і не атрымаў. Лёнік прапаў без вестак і не на фронце, а ў мірны час, на пахаванні правадыра ўсіх народаў і генералісімуса.

Другі (ад Клаўдзі Маркаўны) сын Іван пайшоў быў бацькавай дарогай. Яшчэ ў школе пісаў вершы, прымерваўся да прозы, а пасля дзесяцігодкі паступіў на сцэнарнае аддзяленне інстытута кінематаграфіі. Першы курс Іван скончыў з выдатнымі адзнакамі

і прынятым на кінастудыі імя Горкага сцэнарыем мастацкага фільма — выпадак, бадай, фенаменальны.

Правучыўшыся два гады, Іван кінуў інстытут, пайшоў рэдактарам на «Масфільм». Зноў выпадак рэдкі і шматабяцаючы. За два гады працы на «Масфільме» Іван паспеў запусціць у вытворчасць яшчэ адзін сцэнарый, ажаніцца, пасварыцца з начальствам, перавесціся ў Мінск на «Беларусьфільм». Жонка, аднак, у Мінск не паехала — Іван жаніўся другі раз на прыгожанькай, але бяздарнай актрысе няпэўнага амплуа. Серафім пабудаваў ім кааператыўную кватэру. Толькі працуй, толькі пускай карані.

Напачатку нібы ўсё ішло добра. Галоўны рэдактар студыі неяк хваліў Івана за ўдумлівасць і арыгінальнасць мыслення, за высокі прафесіяналізм у сцэнарнай справе. На «Беларусьфільме» Іван напісаў аж два сцэнарыі, адзін з якіх узяўся ставіць папулярны на студыі рэжысёр Кірыла Лыкавязаў. Другі чакаў сваёй чаргі. Як раптам аднае жнівеньскай ночы Іван дзіўным чынам знік: лёг спаць звечара, а раніцай жонка хапілася, што мужа побач няма. Зніклі і ягоныя цёплыя рэчы і восемсот рублёў грошай.

Сямейны савет вырашыў, што Іван паехаў у творчую камандзіроўку. Дзіўна, але і праўдападобна. Калі ж ён не паявіўся і праз два месяцы, Серафім Іванавіч пайшоў да знаёмага палкоўніка крымінальнага вышуку. Той паабяцаў памагчы, супакоіў Серафіма Іванавіча, што ў творчых людзей такія ўчынкі здараюцца ад незадаволенасці сваёй працай.

Месяцы праз тры палкоўнік пазваніў Серафіму Іванавічу. Тое, пра што ён расказаў, канчаткова збянтэжыла Серафіма Іванавіча.

У Мінскім аэрапорце Іван набыў білет да Певека, але туды не прыляцеў. Ягоны след быў выяўлены ў Якуцку, дзе Іван перакампасціраваў білет на Анюйск. Але і туды не даляцеў, а можа, і не вылятаў. Закампасціраваў білет і не паляцеў. Такое, па словах палкоўніка, бывае, калі чалавек хоча заблытаць след. Чаго Іван хацеў заблытаць след, ніхто не ведаў.

Серафім Іванавіч зразумеў, што далейшыя пошукі бескарысныя. І хоць палкоўнік запэўніў, што Іван будзе знойдзены жывы ці мёртвы, Серафім Іванавіч неяк адразу змірыўся, што Івана ён больш не ўбачыць.

А яшчэ раней змірылася з гэтым Іванава жонка,

выйшаўшы замуж за маладога рэжысёра, у фільме якога ўжо іграла ледзь не галоўную ролю. Ды роўна праз год з нейкага Амалона, пра які Серафім Іванавіч нават не чуў, прыйшла тэлеграма, у якой Іван прасіў выслаць яму паўтары тысячы рублёў.

Ад паспешлівых пачуццяў, што ахапілі Серафіма Іванавіча, ён паслаў грошы, толькі потым падумаўшы, што тэлеграму, можа, даў нейкі аферыст, выкарыстаўшы Іванавы дакументы. Аж не! Тыдні праз тры Іван заявіўся ў бацькаву кватэру і не адзін, а з маладзенькай дзяўчынкай, эвенкай па нацыянальнасці, якую ён для зручнасці перахрысціў у чукчу. У дзяўчынкі было зусім наскае імя — Надзя — і прозвішча Талаканкіна.

Нягледзячы на жнівеньскую спякоту, Надзя была запакавана ў вопратку і абутак з аленевых шкур. Мелі яны адзін на дваіх рэчавы мяшок, падобны на рыдыкюль дваццатых гадоў, і гітару, упрыгожаную разьбой па касці, так што Серафіму Іванавічу давялося ці мала выкласці грошай, каб па-еўрапейску адзець і абуць нявестку і сына.

Тыдні праз два, калі надакучыла глядзець, як бяздзельнічае Іван, Серафім Іванавіч паклікаў сына ў кабінет, спытаўся голасам, які не пакідаў ілюзій на марнатраўства:

— Ну, і чым думаеш заняцца?

— У Надзі голас,— адказаў Іван.

— Яна канчала кансерваторыю? — здзекліва спытаўся Серафім Іванавіч.

Іван падкінуў з нагі тапак, злавіў яго, нібы які цыркач.

— Кансерваторыі патрэбны шызікам класічнага рэпертуару, а мы з Надзяй нармальныя людзі. У мяне, баця, нюх...

— І што ты ўнюхаў?

— Пазыч мне тысчонак пяць-шэсць, праз тры гады аддам. Магу напісаць распіску...

— Падвёў цябе нюх.

— Дарэмна. Грошы мне патрэбны для справы.

— Хочаш адкрыць фірму «Недасейка, Талаканкіна і К°»?

— Калі маеш на ўвазе рок-ансамбль, тады о'кэй!

— Што яшчэ за рок?

— Звычайны. Хэві метал. Не чуў? А між тым на

Захадзе ён у модзе. Мне патрэбна ўзмацняльная апаратура.

— Каб лопаліся вушныя перапонкі ў дурняў? — з'іранізаваў Серафім Іванавіч.

— Каб разбураць вашы сталінскія затычкі ў вушах,— адказаў Іван.

Ён ляніва ўстаў з крэсла, пайшоў з кабінета. Серафіму Іванавічу падумалася, што ён робіць нешта не тое: шкада яму шасці тысяч? Дык жа не! А Івану яны, магчыма, патрэбны, як глыток вады ў спякотны дзень.

— Пачакай, хэві метал,— запыніў ён Івана.— Грошы я дам, але не купюрамі, а апаратурай, якая табе патрэбна. Табе больш пяці рублёў давяраць нельга.

— Падыходзіць,— згадзіўся Іван.

...Цяпер Іванаў рок-ансамбль быў у самым зеніце славы: гастраляваў па Саюзе, за мяжой, запісаў некалькі дыскаў у розных краінах. Іван пісаў тэксты і музыку. Выконвалі песні разам з Надзяй Талаканкінай, якая сапраўды стала зоркай рок-музыкі.

Нарэшце быў яшчэ самы малодшы Серафімаў сынок — Цімох, Цімошка, бледнатвары брат наш, як звалі яго Іван і сёстры. Рос Цімошка маўклівым, трапяткім, баязлівым, паслухмяным хлопчыкам. Вучыўся сярэдне. Клаўдзя Маркаўна — маці — асабліва не налягала на Цімошкаву вучобу. Ён часта хварэў, а ў хваробе закопваўся ў кнігі. Што ён чытае, ніхто асабліва не цікавіўся — усім не хапала часу.

Здаецца, калі Цімошка вучыўся ў восьмым класе, Серафіма Іванавіча паклікала класная настаўніца, спытала, ці ведае ён, што Цімошка ходзіць у царкву, пяе на клірасе? Серафім Іванавіч не паверыў вушам, быў разгублены, раструшчаны, але найбольш ашаломлены. Цімошка не стаў хлусіць; ну, так ён, сапраўды ходзіць у царкву, бо адчувае патрэбу ў веры, як чалавек адчувае яе ў чыстым паветры. Ніякія ўгаворы на Цімошку не падзейнічалі. Серафіму Іванавічу давялося ісці на кампраміс — задаволіцца словам, што Цімошка не стане дэманстраваць сваю набожнасць, ва ўсякім разе да заканчэння школы. Серафім Іванавіч разлічыў, што Цімошка перарасце хваробу падлеткавага ўзросту і калісьці сам пасмяецца са сваіх захапленняў.

Ды нішто не праходзіць дарэмна. Пасля дзесяцігодкі Цімошка, на здзіўленне бацькоў, пайшоў рабіць санітарам у інтэрнат для псіхічна хворых. Серафім Іванавіч спадзяваўся, што праз два гады яго забяруць у армію, а там паставяць мазгі на месца, ды медыцынская камісія знайшла ў яго нейкую хваробу, якая і вызваліла Цімошку ад службы ў арміі. Адбылася яшчэ адна бурная размова, пасля якой Цімошка заявіў, што пераходзіць на прыватную кватэру, бо так яму будзе больш зручна хадзіць на працу. Як потым высветлілася, кватэра была не такая ўжо і прыватная, бо неўзабаве Цімошка пайшоў прымаком да гаспадынінай дачкі.

Сямейка гэтая жыла на той мяжы, за якой існаванне грамадства бывае досыць праблематычным. Бацька маладой гадоў дзесяць знаходзіўся на лячэнні ў псіха-неўралагічным дыспансеры, і не было прабліску, што ён адтуль калі-небудзь выберацца. Маці рабіла сястрой у тым жа дыспансеры і чатыры разы на год трапляла ў кароткія, але дужа цяжкія запоі. Дачка Клара працавала ў інтэрнаце для псіхічна хворых сакратаром-машыністкай і медрэгістратарам. Гэта была прыгожанькая, пульхная дзяўчына, падобная на херувіма, у завіточках светлых валасоў, з вялікімі блакітнымі вачамі.

Праз год у іх паявіўся сын Рыгор, названы ў гонар дзеда, што сядзеў у вар'яцкім доме, і Клаўдзя Маркаўна, шкадуючы недарэку сына, знайшла магчымасць высылаць праз сваццю штомесячна сто рублёў на выхаванне ўнука.

Такія вось склаліся абставіны ў сям'і Серафіма Іванавіча: і не пазайздросціш і не паскардзішся. Добра яшчэ, што Клаўдзя Маркаўна многае хавала ад Серафіма Іванавіча — хай спакойна піша, хай кіруе Саюзам. Пэўна, таму Серафім Іванавіч адчуваў разліты вакол яго камфорт.

Калі Кузьма Кузьміч сказаў яму пра экстрэмісцкія схільнасці сына, Серафім Іванавіч адразу вырашыў, што гэта Іванава справа. На жаль, пагаварыць з Іванам было немагчыма, бо ён якраз выехаў на гастролі ў скандынаўскія краіны.

«Я яму, сукіну сыну, наківаю,— злосна думаў Серафім Іванавіч, калі вяртаўся ад Кузьмы Кузьміча.— Я яму, можна сказаць, рабіў толькі добрае, а ён

адплачвае чорнай няўдзячнасцю. Пачакай жа ты ў мяне!»

Пагроза была смешнаватая, але яна супакоіла. Неўзабаве Серафім Іванавіч узяўся за галоўную, як ён лічыў, справу свайго жыцця.

У яго даўно быў задуманы раман пад незвычайнай назвай «Жніво пад чорным сонцам», у якім ён спадзяваўся выспавядацца на прыканцы свайго існавання. Пасада стрымлівала яго, хоць насталі больш дэмакрытычныя часы і многія пісьменнікі ўжо дасталі са сховішчаў творы, за якія зусім нядаўна можна было трапіць у вар'яцкі дом або ў лагер строгага рэжыму. Серафім Іванавіч адчуваў подых новага, але нейкае падсвядомае пачуццё дыктавала яму не спяшацца, бо зусім проста пазбавіцца пасады. Пасадай Серафім Іванавіч даражыў. У яго былі ўсе званні і ўзнагароды, апрача адной: Зоркі Героя Сацыялістычнай Працы.

Выходзіла так, што ўзнагароджанне Зоркай увесь час зрывалася з-за нейкіх інтрыг ці, можа, абставін. Замест Зоркі ўзнагароджвалі чарговым высокім ордэнам або давалі чарговую прэмію ці чарговае званне. А Серафіму Іванавічу вельмі хацелася мець Зорку Героя. І менш таленавітыя маскоўскія літаратары займелі званне Героя сацпрацы, некаторыя ўхітрыліся атрымаць па дзве Залатыя Зоркі, а Серафім Іванавіч хадзіў з адным значком дэпутата Вярхоўнага Савета, які цяпер вельмі проста могуць адабраць пасля выбараў.

Здаўшы справы пасля нечарговага пленума, Серафім Іванавіч перабраўся на сталае жыццё на сваю дачу пад Мінскам, каб занурыцца там у працу над раманам. Як казаў Алег Максімаў, цяпер яму не было што губляць, значыць, можна адпусціць пастромкі, не азіраючыся на розных там кузьмічоў, пісаць твор, як бачылася, як хацелася, не прыхарошваючы жыцця і не пэцкаючы яго чорнай фарбай.

Крыху больш як за два месяцы Серафім Іванавіч нашмат прасунуўся наперад, многія раздзелы яму самому падабаліся, здаваліся смелымі, але часам наяўлялася і сумненне: а ці тая гэта смеласць, якая патрэбна чытачу, ці не лішне ён драматызуе падзеі. Аднекуль, як чорт з-пад печы, наяўляўся страх, не сказаць, каб зусім беспадстаўны: ці раз даводзілася

Серафіму Іванавічу чуць пра розныя там адлігі, пра патрэбных народу Гогаляў і Шчадрыных, але як толькі нейкі маленечкі Гогаль або Шчадрын абзываўся, яго тут жа бязлітасна білі абухом па галаве. А што памянялася цяпер? Тыя ж чыноўнікі, якія ўчора крычалі аб скажэнні рэчаіснасці ў творах, дзе тое скажэнне і днём з агнём не знайшоў бы нармальны чалавек, сёння крычаць пра галоснасць і праўдзівасць, абвінавачваюць тых жа самых пісьменнікаў, нібы яны заводзілі ў зман народ, не раскрываючы перад ім усіх злачынстваў сталінізму. Заўтра гэтыя чыноўнікі могуць зноў залямантаваць, што пісьменнікі скажаюць рэчаіснасць, што ў часы культу былі не толькі рэпрэсіі, але больш за ўсё энтузіязм народа, і трэба гаварыць пра яго, а не пра парушэнні законнасці.

Серафіму Іванавічу вельмі не ставала чытача-прафесіянала, які мог бы параіць, падказаць, дзе трэба абвастрыць падзеі, а дзе і прагладзіць. Так і ўзнікла ў яго ідэя аднавіць чаяванні, якія некалі праводзіліся рэгулярна, кожную перадапошнюю суботу месяца.

## 3

Што і калі сталася з нашай хвалёнай беларускай таварыскасцю? Калі і чаму яна ператварылася ў сваю супрацьлегласць — насцярожаную замкнёнасць? Чаму і куды зніклі славутыя пасядзелкі да трэціх пеўняў, на якіх, бывала, і нагаворацца ўволю, і нап'юцца да хрыпаты, і нарагочуцца да колікаў, і адвядуць душу, пасміхаючыся з фанабэрыстага пана або прыдуркаватага вяльможы, якія невядома чаму кіруюць праваслаўным людам; інтэлігенцкія зборышчы-чаяванні, дзе было раздолле для спрэчак і дыскусій, дзе адточвалася слова і віравала думка, не даючы чалавеку абрасці цвіллю паўсядзённасці; чаму і куды, нарэшце, зніклі маладзёжныя сходкі з вясёлымі гульнямі, чытаннем вершаў, максімалісцкімі закідамі і асуджэннямі няўладжанага быту, які будзе існаваць вечна, пакуль існуюць людзі з трапнымі жартамі, задзірлівымі песнямі і непазбежнай цнатлівай закаханасцю.

Чаму і куды? Калі і як?

Вякамі чалавек цягнуўся да чалавека, ішоў на агеньчык у акне, каб падзяліцца радасцю і горам, выказаць крыўду і пачуць спагаду, пагаварыць усмак або памаўчаць у купе сабе роўных.

Чаму і калі людзі пачалі пазбягаць зборышчаў, пасядзелак, чаяванняў — усяго таго, што звязана з таварыскасцю і калектывізмам?

Калектывізм! Калектывісты! Ну што ж, людзі мелі права на агульныя сходы і мітынгі, на вытворчыя нарады і семінары ў сістэме палітасветы, на калектыўныя прагляды мастацкай прадукцыі і калектыўныя п'янкі таксама, але, як чорт ладана, баяліся збірацца проста так, бо ў пэўных калідорах, на пэўных узроўнях маглі ўзнікнуць пытанні, а чаму там без дай прычыны збіраецца розны люд? Што за зборышчы, калі няма ганаровага і рабочага прэзідыумаў, ніхто не мітынгуе, не выступае па завізіраванай начальствам паперцы, не абмяркоўвае ход выканання плана і не бярэ павышаных абавязацельстваў, не вывучае апошнія прамовы новых і верных паслядоўнікаў Леніна, нават ніхто не п'е гарэлкі? Дык ці не задумвае такі незразумелы люд што-небудзь крамольнае? Ці не збіраецца ён пахіснуць асновы савецкай улады? Ці не так яшчэ з далёкіх даваенных часоў калектывісты памалу разыходзіліся па камунальных кватэрах, цураліся таварыскасці, замыкаліся ў рамках сям'і і бытавых інтарэсаў, адвыкалі ад размоў па шчырасці, прывыкалі да хітрасці і прытворства: казалі адно, думаючы другое. І дзяцей вучылі стрыманасці і прытворству, а больш за ўсё непакоіліся, каб які ўласны Паўлік, паддаўшыся агульнаму недаверу, не накляпаў чаго на сваіх жа бацькоў.

Серафім Іванавіч не быў выключэннем, але недзе ў сярэдзіне пяцідзесятых гадоў узбунтаваўся, пачаў рэгулярна, штомесяц, наладжваць так званыя суботнія чаяванні. Ягоная смеласць, бадай, была звязана з атрыманнем звання народнага пісьменніка, і ён як бы стаў недасягальны афіцыйнай падазронасці. Ды і часы настлі іншыя — дзьмуў свежы вецер, хоць і з добрымі прымаразкамі. Але ўсё ж свежы вецер...

Суботнія чаяванні, калі хочаце, былі своеасаблівым капрызам вядомага пісьменніка, ягонай, так

сказаць, візітнай карткай. Серафім Іванавіч стварыў суботнім чаяванням добрую славу; а чаяванні, у сваю чаргу, стварылі яму вядомасць у асяродку творчай інтэлігенцыі.

Безумоўна, жарт, але ў жарце найчасцей і хаваецца ісціна.

За многія гады ўсталяваўся і пэўны рытуал чаяванняў і непаўторны стыль застольных размоў — вытанчанасць сэнсу і завершанасць формаў. Чыталіся, слухаліся, абмяркоўваліся — і абавязкова — новыя творы, не толькі літаратурныя, а і музычныя, сцэнічныя, кіношныя, жывапісныя творы, для выканання запрашаліся вядомыя артысты, кампазітары, крытыкі, музыказнаўцы. Адным словам, чаяванні бачыліся вольным клубам у зашораным грамадстве.

Госці на чаяваннях адчувалі сябе раскавана, вольна, выказвалі часам рэзкія меркаванні, але пры ўсім тым размовы на агульнапалітычныя тэмы былі на іх не ў пашане, хоць зусім абысціся без палітыкі было немагчыма.

Калі ж яна ўсплывала, дык нехта абавязкова скіроўваў гаворку так, каб нешта горача адобрыць, ухваліць, парадавацца, падтрымаць і гэтак далей і да таго падобнае — гэта пры ўмове, што палітыка датычыла ўнутранай сферы сацыялістычнага лагера. Затое, калі гаворка сягала ў класава антаганістычны свет, які загніваў, смярдзеў, пакутліва і маруднаканаючы ад інфляцыі, беспрацоўя, крызісу і іншых сацыяльных хвароб,— дыягназ, пастаўлены больш за сто гадоў назад,— тады госці абураліся, асуджалі, адмяжоўваліся, праяўлялі класавую нянавісць і нецярпімасць, як бы спаборнічаючы адзін перад адным у вышэйшасці сваёй адданасці вялікай справе. Гэта лічылася добрым тонам і... забяспечвала алібі — на ўсякі выпадак. Што ні кажыце, а пакаленню, да якога належаў і Серафім Іванавіч, давялося нямала зведаць, а таму нікому не хацелася апячыся на звычайнай вадзе з водаправоднага крана. Зрэшты, размовы ў патрэбнай танальнасці былі своеасаблівай недарэчнай гульнёй, дзе ўсё нагадвала не само жыццё, а ягоны адлюстровак у неахайна адпаліраваным люстэрку.

Была і яшчэ адна адметная рыса чаяванняў: на іх ні пад якім выглядам не падавалі спіртное. Гэта быў

няпісаны, але цвёрды закон, які не мог быць парушаны ніякімі абставінамі. Аднаго разу прыезджы госць з Каўказа заявіўся на чаяванне з бочачкай віна і быў пасаромлены, калі на ягоны вокліч: «Адкаркуем сонца Каўказа, каб яно ніколі не пакідала гэты цудоўны дом»,— усе знямелі, чакаючы, што адбудзецца далей: або Серафім Іванавіч парушыць традыцыю, або абразіць шаноўнага госця. А каўказскі госць быў вельмі крыўдлівы, і ўсе гэта ведалі.

Серафім Іванавіч не парушыў традыцыі. Але не пакрыўдзіў і госця, сказаўшы таму:

— Дарагі Давід, у тваім доме я шанаваў твае традыцыі, не абняслаў мяне ў маім доме: у гэты дзень у мяне не п'юць віна.

Каўказец стаў на калені і папрасіў даравадь яму нявольны ўчынак.

Сухі закон, вядома, не распаўсюджваўся на іншыя застоліцы, але яны найчасцей былі выпадковыя. Некаторыя казалі, што сухі закон на чаяваннях таксама быў перасцярогай, якую прадумана ажыццяўляў Серафім Іванавіч. А прычына ўсяму — страх, які не адпускаў Серафіма Іванавіча і ў час чаяванняў: п'яныя маглі нагаварыць чорт ведае чаго. У цвярозых усё ж язык мацней трымаецца за зубамі.

Чаяванні былі спынены самым нечаканым чынам на прыканцы сямідзесятых, пра што ці мала хадзіла здагадак, але ўсе яны не мелі пад сабой ніякага грунту. А здарылася вось што. Аднаго разу Серафім Іванавіч сядзеў у службовым кабінеце з так званым куратарам, які па нейкай нязначнай справе зайшоў да яго, заседзеўся, а ў канцы гаворкі, як бы між іншым, спытаўся:

— Серафім Іванавіч, а навошта вам гэтыя чаяванні?

Серафім Іванавіч разгубіўся: намёк быў вельмі празрысты.

— Ёсць нейкія меркаванні? — спалохана спытаўся ён.

— Ды не, не,— супакоіў яго куратар.— Наадварот, начальства прыхільна ставіцца да вашых цвярозых чаяванняў. Яны прыклад нашай моладзі, як трэба праводзіць сябрыны. Але ці правільна зразумее народ? Гэтая рэгулярнасць. А потым суботы. Чаму

суботы? Традыцыйна збіраліся ў нядзелю. А тут субота. Нешта нянаскае, усходняе...

Серафім Іванавіч намёк куратара зразумеў, як дырэктыву, выказаную з неўласцівым для куратараў тактам. Значыць, недзе нейкія размовы адбыліся. Серафім Іванавіч спыніў чаяванні рашуча і непахісна.

Цяпер ён вырашыў аднавіць іх. І часы іншыя, і баяцца куратараў няма чаго. Але была і глыбока захаваная, вельмі нават практычная думка: чаяванне — добрая праверка на адданасць сяброўству. Хацелася спадзявацца, што ў яго былі верныя сябры, што дружылі з ім не таму, што ён хадзіў у начальстве, што дружба была бескарыслівая і верная.

Чаяванне было прызначана на суботу ў сярэдзіне жніўня. А ў панядзелак адзінаццатага, як снег на галаву, зваліўся Алег Максімаў. За тры з гакам месяцы, што яны не бачыліся, Алег Раманавіч схуднеў, выглядаў не тое што хваравіта, але прыкметна прыгнечана. З ім быў вялікі партфель, аж раздуты ад нейкай паклажы, і пакунак, перавязаны шпагатам.

Яны абняліся. Серафім запрасіў Алега Раманавіча на другі паверх у кабінет з тэрасай, пасадзіў у крэсла, сказаўшы коратка:

— Расказвай...

— Па-першае, хачу цябе папярэдзіць, што ў маім арганізме сядзіць добрая доза радыяцыі, якая можа быць небяспечна для людзей, з якімі я доўга кантактуюся.

— Кінь, не палохай, бо я не баюся,— палічыўшы заяву Максімава за жарт, адмахнуўся Серафім Іванавіч.— Лепей скажы, утаймавалі вы джына ці ён усё яшчэ шкодзіць людзям?

— Як табе сказаць,— задумліва прамовіў Максімаў,— галоўная небяспека як бы і прамінула, але аварыйны блок падобны на вулкан, што час ад часу выкідвае ў паветра смерць.

— Але ж пішуць, што рэактар апусцілі пад зямлю, а над ім яшчэ ўзводзяць саркафаг...

— Пішуць...

— Выходзіць, зноў нельга верыць...

— Серафім, Серафім, а калі і каму можна было верыць? — пахітаў галавой Максімаў.— Мы дзіўная краіна з дзіўнымі парадкамі. За нейкія шэсць-сем дзесяцігоддзяў прывучылі людзей верыць у цуды, якіх

не было. Мы не проста звыкліся з хлуснёй — мы хочам, каб нам хлусілі. І пачалося гэта не сёння. Камунізм будзе пабудаваны камсамольцамі дваццатых — гаварылі ў тыя часы, і камсамольцы дваццатых верылі: так і будзе. Ну, добра, верылі тады: рамантыка, энтузіязм, усеагульная вера ў цуды і ўсенароднае бяздум'е — хоць нейкае, але ж апраўданне. Самае дзіўнае, што вераць і цяпер. А прыгадай кідкі лозунг: кадры рашаюць усё! А лепшыя кадры метадычна, наўмысна знішчаліся — і не год, не два. Або яшчэ адзін заклік ствараць культурныя гаспадаркі ў вёсках і тым наблізіць камунізм. Даверлівы мужык клюнуў і на гэтую хлуслівую прыманку, пачаў ствараць культурныя гаспадаркі, а яго за штаны ды ў Сібір, на згубу. А ўспомні, як у галодныя трыццатыя, калі людзі пухлі ад голаду, мёрлі, як мухі, нас прывучылі верыць, што жыць стала лепей, жыць стала весялей, і мы са слязамі радасці на вачах дзякавалі партыі і таварышу Сталіну за вялікія аб нас клопаты.

— У цябе проста дрэнны настрой,— сказаў Серафім Іванавіч, каб хоць крыху збіць напал гнеўнай філіпікі.

Ён і сам абураўся хлуснёй, але толькі ў думках. Рэзкія выказванні ўголас заўсёды выклікалі ў яго адчуванне нейкага неўсвядомленага страху.

— А ў цябе быў бы настрой, каб пабачыў тое, што бачыў я? — дрогкім голасам спытаўся Максімаў.— Уяві, прыгналі маладзенькіх, леташняга прызыву салдацікаў, паставілі іх без аніякай засцярогі шчыльнай шарэнгай вакол станцыі, дзе радыяцыя перавышала ўсе дапушчальныя ўзроўні ў сотні разоў. Што будзе з гэтымі няцямлівымі юнакамі? Ці змогуць яны прадаўжаць род сваіх бацькоў, а калі змогуць, дык які лёс чакае іхніх дзяцей? У вайну нашы доблесныя генералы, маючы амаль невычарпальныя людскія рэсурсы, без сэнсу і развагі кідалі тысячы салдат на бетонныя доты якой-небудзь безыменнай вышыні, а калі, услаўшы трупамі схілы, салдаты нарэшце бралі тую недаступную вышыню, генералы загадвалі адысці па больш значных стратэгічных задумах. Вайна, перамога ў ёй спісалі генеральскую дурасць. Няўжо будзе спісана і наша чарнобыльская ганьба? Ці не абмяжуюцца судом над стрэлачнікамі, пакінуўшы не кранутымі ні крытыкай, ні пакараннем тыя

эшалоны ўлады, якія найперш за ўсё і прывялі да аварыі на станцыі, а потым да варварскіх адносін да людзей? У нас і па сёння не перавяліся ахвотнікі паразважаць, што людзі — гэта найкаштоўнейшы капітал краіны, а капітал гэты ў вачах такіх гаваруноў не варты і шахматнай пешкі, якую разважлівы шахматыст стараецца захаваць да канца гульні. І вось што самае страшнае: людзям хлусяць не абы-якія чыноўнікі, а высокапастаўленыя, якія ўвасабляюць партыю і ўрад. Адзін з такіх высокіх чыноў Украіны, выступаючы па тэлебачанні, пераконваў народ, што ніякай небяспекі ад аварыі няма, што вучоныя нібы даказалі гэта, хоць сапраўдны вучоны не мог, не меў права такое сцвярджаць. Вучоныя ведаюць, што мясцовасці заражаны радыяцыяй на дзесяткі гадоў, што абсягі паражоных месц будуць пашырацца. Зусім верагодна, што гадоў гэтак праз пяць-сем, калі не будуць прымацца пэўныя меры, і гэтая мясцовасць, дзе мы з табой сядзім, будзе заражоная радыяцыяй.

— А ведаеш, я так і не трапіў да Мікіты Леанідавіча,— уражаны пачутым, паскардзіўся Серафім Іванавіч.— Ён мяне не прыняў.. І справе не дапамог, і сабе нашкодзіў. Вызвалілі ад працы...

Максімаў няўцямна паглядзеў на дваюраднага брата.

— Сіма, пра што ты?

Серафім Іванавіч, мусіць, і сам зразумеў сваю нетактоўнасць.

— Даруй, гэта к слову прыйшлося. Канечне, крыўдна, што не захацеў прыняць, паслухаць...

— Я потым і сам раскайваўся, што падбухторыў цябе пайсці да яго. Ёсць у нас адно незразумелае нармальнаму чалавеку слова: трэба. Спачатку наламаем дроў, а потым кідаем кліч: трэба разбіраць завалы. Каму трэба? Хто наламаў дроў? Гэта нікога не цікавіць. Калі трэба — значыць трэба. Мы з гэтым звыкліся, без гэтага жыць не можам. Трэба нарыхтоўваць корм жывёле, загадваем кандыдатам, дактарам навук ехаць у калгасы секчы маладыя бярозкі. Трэба! Трэба капаць бульбу — і пусцеюць аўдыторыі навучальных устаноў, перастаюць вучыцца вучні ў школах. Каму якая справа, што выпускнікі інстытутаў нешта недавучаць, недавучкамі прыйдуць на працу. Трэба! Трэба ачысціць горад ад

снегу — і выганяюць на ачыстку інжынераў, навуковых супрацоўнікаў, высокакваліфікаваных рабочых. Каму якая справа, што ачышчальныя машыны ржавеюць пад снегам, што галавацяпы не падрыхтавалі іх да зімы. Трэба! А каб гэта трэба гучала пераканаўча, яшчэ прыдуманы два сімвалы: народ і партыя. Партыя сказала — трэба, народ адказаў — зробіць. А хто рабіў глупствы? Партыя? Народ? Не, чыноўнікі, якія дбаюць пра свае даброты, якім не хапае ўмення, розуму, дасціпнасці ды і простага жадання працаваць. Таму і выдумалі гэтыя словы: трэба, партыя, народ. Пачынаюць рабіць якое глупства і крычаць: партыя ўзначаліла, партыя робіць, партыя кіруе. А потым глупства і вылазіць той жа партыі і народу бокам. Таму спасылаюцца на партыю, што за яе спіной зручна хавацца ад адказнасці. Во чаму твой Мікіта Леанідавіч дужа добра ўпісваецца ў тую структуру, што свядома стварылі бюракраты, каб лёгка і безадказна жыць на свеце. Паспрабуй зачапі яго, а ён табе ў адказ: вы не мяне, а партыю ганьбуеце. Пабачыш, твой гэты Мікіта Леанідавіч яшчэ будзе вылучаны на вышэйшую пасаду, бо дужа ён падыходзіць пад масць тым, з кім мне давялося сутыкнуцца на Чарнобыльскай атамнай. Страшныя, я табе скажу, людзі. Для іх, апрача іх саміх, іхняга крэсла і кабінета, нічога не існуе, і да асабістага свайго шчасця яны гатовы ісці па трупах растаптаных імі людзей.

— З табой літаральна немагчыма сёння гаварыць,— сказаў Серафім Іванавіч.— Камуністычныя ідэалы не могуць страціць каштоўнасць ад таго, што існуюць бюракраты, зладзеі і проста карыслівыя людзі. У свеце больш дабра, і яно ў рэшце рэшт перамагае.

Алег Раманавіч усміхнуўся непапраўнасці Серафіма Іванавіча. Тым часам Клаўдзя Маркаўна прынесла на тэрасу закуску і выпіўку.

— Вы зусім адбіліся ад рук,— паўшчувала яна Алега Раманавіча.— Зніклі і не паказваецеся.

— Ён толькі што з Чарнобыля,— падказаў Серафім Іванавіч.

— Там сапраўды так страшна, як гавораць у народзе наперакор афіцыйным заспакаенням? — спыталася Клаўдзя Маркаўна.

— Ён кажа, што і наша дача некалі можа апынуцца на заражонай зямлі,— замест Максімава адказаў Серафім Іванавіч.

— Які жах,— сцепанула плечуком Клаўдзія Маркаўна, хоць ёй, па ўсім было відаць, анічуць не было страшна.— Сядайце падсілкуйцеся. Дарэчы, Сіма, не забудзь запрасіць брата на чаяванне. Ты такі стаў рассеяны.

Расставіўшы ўсё прынесенае на століку, Клаўдзія Маркаўна пайшла па сваіх справах, хоць Серафім Іванавіч і прапаноўваў ёй пасядзець з імі.

— А я і не так сабе завітаў да цябе,— прызнаўся Максімаў пасля таго, як яны выпілі і закусілі.— Толькі, калі ласка, не кажы Клаўдзі Маркаўне. Справа ў тым, Сіма, што мне трэба лячыцца. Я сапраўды схапіў сланоўую дозу радыяцыі ў часе адной аперацыі з датчыкамі. Але сутнасць не ў гэтым. Я, як ты ведаеш, адзінокі. Быў,— паправіўся ён.— Цяпер у мяне ёсць ты. Як я разумею, мая песенька спета. Смерць можа даць кароткую адтэрміноўку, не больш. Дык вось, Сіма, ёсць да цябе дзве просьбы: першая — пахавай мяне на бабініцкіх могілках. Хачу вярнуцца на радзіму хоць мёртвым.

— Ды ну цябе,— стараючыся надаць голасу бесклапотнасць, выгукнуў Серафім Іванавіч.— Паміраць нам ранавата. І мы яшчэ з табой возьмем не адну чарку.

— Чарку можам узяць,— пагадзіўся Максімаў.— Здароўе не пазычыш, а я — рэаліст. Другая мая просьба вельмі нават канфідэнцыяльная. Справа ў тым, Сіма, што я пісаў.

— Што пісаў?..

— Аповесці, раманы... Пісаў, як той Прафесар, пра якога я табе расказваў. Не дай загінуць маім рукапісам, канечне, калі яны варты ўвагі. Выдацца па пратэкцыі нават такога шаноўнага пісьменніка, як ты, я не жадаю. Мне патрэбна твая аб іх думка. Хачу памерці, ведаючы: дарэмна я пісаў ці недарэмна. Зрэшты, гэта не павінна ўплываць на твой водгук. Я чакаю бязлітаснасці, але справядлівасці ў ацэнцы. Ці не праўда, дзіўная просьба? Я хачу табе растлумачыць маю пазіцыю. Я ўсё жыццё дакараў сябе, што адмовіўся тады захаваць рукапісы Прафесара. Стаў іх магільшчыкам. Дужа брыдка адчуваць

сябе магільшчыкам жывога. І каб адпомсціць сабе, я вырашыў пісаць творы ў стол, нікому іх не паказваючы. Ты разумееш, у мяне ці мала было зручных выпадкаў, каб паказаць напісанае знакамітым пісьменнікам, рэдактарам выдавецтваў і часопісаў. Але гэта было б кашчунна ў адносінах да твораў Прафесара, якія я пахаваў спалохаўшыся, што яны могуць мне пашкодзіць. Чорт бы яго пабраў гэты затоены ў нас страх! Колькі шкоды нарабіў ён! Мы, хто перажыў гэты страх, без віны вінаватыя. Але вінаватыя. Будзеш чытаць, прашу, рабі праўкі сваёй рукой. Адчуваю, што мова ў першых творах недасканалая. Ды і адкуль ёй быць дасканалай, калі я не меў магчымасці дакранацца вухам да жывой мовы. Зрэшты, і вы тут, здаецца, ужо колькі гадоў жывяце толькі той мовай, што захавалася яшчэ ў заказніках. Ну, ды гэта ўжо іншая тэма.

Серафім Іванавіч быў страшэнна ўражаны.

— Ведаеш, а я адчуваў, што ты пішаш,— сказаў ён, каб неяк выйсці з таго здзіўлення, якое нагнаў на яго дваюрадны брат.— Я зраблю ўсё, што ты папросіш... Шмат рукапісаў?..

— Ды вось,— ён паказаў на партфель і пакунак.

— Во што, адкладзі сваю паездку ў Маскву на лячэнне. Некалькі дзён, я спадзяюся, не маюць вялікага значэння. Пабудзь у мяне на суботнім чаяванні. А я да суботы прачытаю хоць палову рукапісаў.

Максімаў, не задумваючыся, пагадзіўся.

## 4

Серафім Іванавіч любіў поўню з малых гадоў, з таго незабыўнага часу, калі ён жыў у дзеда.

Калі яе бліскучы дыск паволі выкочваўся з-за лесу, разганяючы цемру, у Серафіма Іванавіча раздавалася ўшыркі душа, каб увабраць у яе ўсю прыгожасць месячнай ночы: яснае аблічча поўні; блакітныя струны, што нацягваліся паміж месяцам і зямлёй і спявалі галасамі конікаў; празрыстыя цені, што памалу варушыліся ў далёкім полі; чарнату ночы, якая схавалася пад шаты лесу; вершаліны бяроз і соснаў, апырсканых месячным малаком, і шырокі полаг неба з мноствам дыяментаў-зорак.

Поўня натхняла на працу. Але не на такую, каб пісаць новае, а каб правіць напісанае. Яшчэ яна натхняла на роздум, спакойны, глыбокі і плённы. Цяпер якраз была поўня. У кустах парэчак няўмоўчна звінелі конікі. Пахла вільготнай — пасля ўчарашняга дажджу — зямлёй і памідорным бацвіннем. Серафіму Іванавічу не працавалася. Тое, што ён прачытаў, ашаламіла, уразіла яго так глыбока, што ён хадзіў як сам не свой.

Найперш яго ўразіла і здзівіла, што Алег Максімаў нейкім незразумелым чынам пісаў якраз пра тое ж, пра што пісаў і сам Серафім Іванавіч. Але трэба было пагадзіцца, хоць зрабіць гэта было зусім нялёгка, дваюрадны брат пісаў падзеі больш рэльефна, абмалёўваў герояў больш выпукла і бачна, ягоная мова, пры ўсёй яе шурпатасці, куды больш адпавядала атмасферы твора, чым тая мова, якой пісаў Серафім Іванавіч. Другое, што ашаламіла яго, была глыбіня адлюстравання жыцця, вельмі шматфарбнага і вельмі яркага, а героі не проста гаварылі дадзеныя ім пісьменнікам ніваліраваныя тэксты, а як бы наперакор усім літаратурным традыцыям размаўлялі натуральнай жывой мовай.

Вытрымаць выпрабаванне чужым талентам, няхай сабе і дваюраднага брата, Серафіму Іванавічу памаглі дзве акалічнасці. Па-першае, ён быў афіцыйна прызнаным народным пісьменнікам, а Алег Максімаў, пры ўсёй ягонай геніяльнасці,— навічком у літаратуры. Па-другое, Серафім Іванавіч цешыў сябе надзеяй, што некалі, можа, нават у бліжэйшы час, яго будуць лічыць — і не беспадстаўна — адкрывальнікам вялікага літаратурнага таленту. Гэта, што ні кажы, азначала многае. Напрыклад, вечнае месца побач: народны пісьменнік Недасейка — геніяльны талент Максімаў.

Аднак жа некранутая геніяльнасць Максімава брала за жывое.

«Яму што,— запальчыва думаў Серафім Іванавіч,— не трэба было баязліва азірацца на галоўліты, на розныя партыйныя інстанцыі і на тых ваўкадаваў-крытыкаў, якія і ў сне снілі, каб як мацней кусануць мяне за якія-небудзь ідэйныя хібы. За майстэрства кусаць не адважваліся, бо ні чорта ў ім не разумелі. А Максімаў пісаў, як яму хацелася. У яго захавалася

дзіцячая шчырасць. А яна заўсёды падкупляе».

Але такое тлумачэнне не задавальняла. Перад Серафімам Іванавічам ляжалі на пісьмовым стале папкі з рукапісамі. Ён браў якую-небудзь з іх, разгортваў на любой старонцы — напісанае брала ў палон з першых машынапісных радкоў. Такое здаралася толькі з кнігамі праслаўленых майстроў слова: «Вайна і мір», «Ганна Карэніна» Талстога, апавяданні Чэхава, «Ціхі Дон» Шолахава. З першых сказаў — палон.

Поўня ўсё вышэй узнімалася ў небе, набывала адценне металічнага люстэрка, на якое падала святло нябачнага свяцільніка. Са спальні, з першага паверха, Клаўдзя Маркаўна двойчы нагадвала, што час класціся спаць: заўтра — чаяванне, трэба добра выспацца. Серафім Іванавіч адказваў; зараз, зараз іду і прадаўжаў сядзець над чужымі рукапісамі.

Раман, які пісаў Серафім Іванавіч з намерам не азірацца па баках, не думаць, што пра яго скажуць у ЦК, што напішуць крытыкі і ці выцягне ён на чарговую рэспубліканскую або саюзную прэмію, дасюль абнадзейваў, даваў падставу лічыць, што вось ужо ў ім не будзе ці амаль не будзе маны. Цяпер, пасля прачытаных твораў Алега Максімава, Серафім Іванавіч засумняваўся: мана ўсё ж была, праўда, добра запакаваная ў бліскучую фольгу, загорнутая ў размаляваную аплатку. Серафім Іванавіч стараўся ўявіць, а як бы напісаў тую ці іншую сцэну з ягонага рамана Алег Максімаў? Здагадка, аднак, не прыходзіла. Гэта чамусьці раздражняла.

Раптам Серафім Іванавіч зусім спантанна падумаў: «А ці не на векі вечныя маё пакаленне скалечана ўсеагульнай хлуснёй, пра якую так абурана гаварыў Алег Максімаў? Скалечана без права вярнуцца да вытокаў свайго жыцця і праўды?» Думка ашаламіла яго. Можа, тады і ўся ягоная творчасць не прыгожае мастацтва, а знявечанае, пачварнае і брыдкае жыццё? Калі так, тады і ён не проста калека, а мярцвяк, што ляжыць на сваіх ужо мёртвых ад нараджэння творах? Не хапае толькі помніка з кранальнай эпітафіяй, таксама хлуснёй?..

Серафіма Іванавіча аж скаланула ад такой нахабнай думкі. Прывярзецца ж нешта дзікае. Што яму яшчэ трэба? Якога ражна? Ягоныя творы не

залежваюцца ў кнігарнях, іх чытаюць у бібліятэках, на іх пішуць рэцэнзіі і літаратураведчыя працы крытыкі і літаратуразнаўцы. Нават напісана ці адна ўжо манаграфія, а бібліяграфія ягоных твораў і прац аб іх займае вялізны том.

Чытаючы рукапісы Максімава, Серафім Іванавіч і па правычцы і па просьбе Алега рабіў некаторыя стылістычныя праўкі, а дзе-нідзе і заўвагі алоўкам: трэба падумаць, варта паправіць, звярнуць увагу — звычайныя заўвагі на палях, якія бываюць у кожнага пісьменніка, які чытае твор свайго сабрата. Серафім Іванавіч заўважыў, што рабіць заўвагі на палях яму чамусьці прыемна. Уяўлялася, як напачатку пахваліць Максімаву ягоныя творы, а тады і тыцне носам у нязграбныя сказы, у недакладна ўжытыя словы. Злараднае пачуццё гэта трымалася нядоўга. Тады рабілася брыдка ад таго, што яно захліснула было яго. Раптам Серафіму Іванавічу падумалася, а чаму ён павінен чытаць свой раман, хай пачытае што са сваіх твораў Алег Максімаў. Ён сам ці мала чытаў на чаяваннях, цяпер настаў час чытаць ягонай змене. Думка здалася не толькі прыдатнай — найлепшай.

— Сіма, ну, колькі можна казаць? Ужо далёка за поўнач,— пачуўся ўзлаваны голас жонкі.

Серафім Іванавіч склаў папкі, пайшоў у спальню.

— Разумееш, ніяк не мог адарвацца ад напісанага Алегам,— захацеў ён падзяліцца сваім адкрыццём з Клаўдзяй Маркаўнай і адначасова растлумачыць ёй, чаго не клаўся спаць.

Клаўдзя Маркаўна не адказала. Яна моцна спала.

Прачнуўся Серафім Іванавіч, калі на бясхмарнае неба ўжо высока выкацілася яркае сонца. Разагрэтае ім, прапахлае садавінай і гароднінай, загараднае паветра абудзіла ў Серафіма Іванавіча задаволенасць сабой. Ён доўга мыўся пад самаробным мыцельнікам у кутку саду, старанна галіўся электрабрытвай, прывезенай ім з Японіі.

Клаўдзя Маркаўна з самай раніцы завіхалася на кухні, пякла торт і свойскае пячэнне, без якіх чаяванне страціла б свой адмысловы сэнс. Адклаўшы сняданне на пазней, Серафім Іванавіч дастаў з гарышча вялізны самавар, у якім гатаваўся чай на вуголлі, а не на электрычнай энергіі, што стала апошнім часам модна. Самавар быў стары, дарэвалю-

цыйны, з медалямі і адбіткамі імператарскіх профіляў. Серафім Іванавіч аднёс яго ў сад, дзе і намерваўся гатаваць чай. За высокім плотам нехта моцна націснуў кнопку званка. Адразу адгукнуўся і сабака: дурнаваты, але прыгожы пудзель.

Серафім Іванавіч адчыніў фортку — за ёй стаялі Сцяпан Анічэйка і Кастусь Камеш.

Сцяпан выглядаў усё гэтак жа здараўчана, як і на сваім юбілеі, а Кастуся Серафім Іванавіч ледзьве пазнаў. За той час, як яны не бачыліся, Кастусь страшэнна змяніўся: ягоныя вочы запалі, пад імі залеглі чорныя цені, на твары выразна выдзяляліся скулы, а каля рота прарэзваліся глыбокія зморшчыны — па дзве з кожнага боку.

— Ну, здароў, брат,— расставіўшы шырока рукі, пайшоў да Серафіма Іванавіча Сцяпан Анічэйка.— Але ж у цябе і палацы!

Яны абняліся, расцалаваліся. Кастусь сціпла стаяў убаку, чакаючы сваёй чаргі павітацца.

Папраўдзе, дык візіт дваюраднага брата і ягонага пляменніка па жонцы не сказаць, каб узрадаваў Серафіма Іванавіча. Адразу наявілася недарэчная, але, што ні кажы, і практычная думка: запрашаць іх на чаяванне ці не запрашаць і як будзе выглядаць чаяванне, калі сваякі згодзяцца застацца? Сцяпан жа не дасць нікому і слова вымавіць, а Кастусь будзе з ім спрачацца — перспектыва не зайздросная.

Серафім Іванавіч павёў гасцей у сталовую, што размяшчалася побач з кухняй. Па дарозе стараўся ўгадаць, што прывяло Сцяпана з Кастусём у такі ранні час?

— Вы калі прыехалі? Цягнік жа, здаецца, прыходзіць увечары?

Сцяпан шумна сеў у плеценае крэсла.

— Які цягнік, Сеня? Нас чарнобыльская аварыя параскідала па свеце. Жывём, як цыганы,— сказаў ён.

Ад Сцяпанавых слоў на Серафіма Іванавіча патыхнула жудасцю і ўласнай вінаватасцю. Ужо даўнавата ў друку прамільгнула між іншым паведамленне аб эвакуацыі людзей з некаторых раёнаў Гомельскай вобласці. Тады гэтая вестка не зачапіла ўвагу Серафіма Іванавіча. Цяпер сэнс яе ён адчуў нутром. І справа была не ў тым, што ён пабачыў рэальных бежанцаў. Серафім Іванавіч спалохаўся

таго, што страціў сам — сваё дэпутатства. Калі выбаршчыкаў параскідала па свеце, дык ён дэпутат ад мёртвай акругі! Пісьменнік мёртвых кніг, дэпутат ад мёртвай акругі. Яго аж скаланула ад такой думкі.

— Хіба раён эвакуіравалі не ў адно месца? — спытаўся ён і адразу зразумеў абсурднасць свайго пытання: дэпутат Вярхоўнага Савета пытаецца ў выбаршчыкаў пра тое, што павінен ведаць сам.

— Эвакуіравалі,— уступіў у гаворку Камеш.— Выслалі, як пры Сталіне высылалі на Салаўкі. Ніяк ад старых прывычак не адмовімся; спачатку чухаемся, а потым робім похапкам. Пасадзілі на машыны і куды каго вывезлі. Ды і ці знайшлося б дзе месца ўсяму раёну? Сельсавет і той параскідалі па свеце...

Сцяпан адразу заспрачаўся з пляменнікам:

— Пры Сталіне парадак быў. Калі і высялялі, дык арганізавана. А тут чорт ведае што рабілася. Во такія, як ён, крыкуны супраць мінулага і распараджаліся. З аднаго боку, загад на эвакуацыю, з другога — ва ўсе званы б'юць, што ніякай небяспекі няма. Людзей вывозяць з зоны, а яны назад бягуць. Ды і не дзіва. Ахову паставілі. Добрых людзей у зону не пушчаюць, а зладзеі на легкавушках па зоне шастаюць, пакінутае рабуюць. Лямантуем: перабудова, перабудова. Дaперабудаваліся. Старое бэсцім, а новыя парадкі хіба лепшыя. Бурыць лёгка, паспрабуй будаваць. Во ў чым дзела...

— Зноў ты, дзядзька, за сваё. Табе што б ні рабілася, усё не так, як пры Сталіне,— запярэчыў Сцяпан Камеш.

Серафім Іванавіч зразумеў, што іхняя спрэчка можа зацягнуцца да вечара, прапанаваў:

— Вы ці снедалі? Зараз я распараджуся,— і, выйшаўшы на кухню, папрасіў Клаўдзю Маркаўну, каб хуценька падала чаго перакусіць і выпіць.

— Сіма,— зашаптала жонка,— толькі, дзеля ўсіх святых, не пакідай іх на чаяванне. Ты ж сам разумееш, у нас кампанія...

Серафім Іванавіч падзівіўся, што жонка неяк угадала ягоны клопат і падтрымала яго.

Калі ён вярнуўся ў сталовую, дзядзька з пляменнікам прадаўжалі спрачацца, але ўраз заціхлі, як толькі Серафім Іванавіч узнік на парозе сталовай. Серафім

Іванавіч загаварыў пра спрыяльнае сёлетняе надвор'е, а тут неўзабаве паявілася і Клаўдзя Маркаўна са сняданнем на падносе.

Дзядзька з пляменнікам дружна выпілі і па адной, і па другой, і па трэцяй чарцы, а выпіўшы, як бы і памякчэлі.

— Напісалі б вы, Серафім Іванавіч, пра нашу сучасную адысею,— летуценна сказаў Кастусь.— Потым усё адглянцуецца, і нікому не будзе вядома, як мы перажылі аварыю.

— А навошта пра гэта пісаць? — адразу азваўся Сцяпан.— Хоць, чаго там, цяпер папрывыкалі ўсё чыста дзёгцем пэцкаць. Дапэцкаліся. Заміж таго, як бывала, каб увесь запал аддаваць працы, усесаюзную гаварыльню адкрылі і языкамі чэшуць. Пры Сталіне за такую, як у Чарнобылі, аварыю вунь колькі адказных галоў паляцела б. А цяпер іх таго і глядзі ордэнамі ўзнагародзяць. Нашкодзяць, сукіны дзеці, а вінаватых няма. А чаму няма вінаватых? Куды глядзеў міністр, а ягоныя намеснікі?.. Узялі б іх за шкірку, дык другія не сядзелі б, як сваццся на вяселлі.

— Падзеі на атамнай станцыі яшчэ трэба як след асэнсаваць,— паспрабаваў замяць спрэчку Серафім Іванавіч.— Мы і так часам лішне паспешліва прыходзім да неабгрунтаваных высноў.

— Ісцінная праўда,— узрадавана падхапіў Сцяпан Анічэйка.— А чаму паспешліва робім высновы, бо страчана адказнасць. Параспушчаліся кадры. Пры Сталіне ўсё рабілася грунтоўна...

— Што праўда, дык праўда,— засмяяўся Камеш,— калі садзілі, дык ужо садзілі і вінаватых і невінаватых, затое грунтоўна.

— Вінаваты былі, дык і садзілі, не глядзелі на пасады. Гэта цяпер павялося: старой бабцы, што спекулюе на базары насеннем гародніны, могуць адмераць на ўсю катушку кодэкса, а хабарніка, які атрымаў хабар у сто тысяч, поўнасцю апраўдаць.

І зноў Серафім Іванавіч адчуў, што пачнецца новы раунд спрэчак і спыніць іх будзе немагчыма.

— А вы ж, мусіць, не так сабе прыехалі? — спытаўся ён з надзеяй, што калі сваякі сапраўды прыехалі па справе, дык яе варта зараз жа вырашыць, а тады і далікатна выправіць іх за дзверы.

— Я, каб пабачыцца, а ён, сапраўды, па справе,—

адказаў Сцяпан, як здалося Серафіму Іванавічу, з гордасцю, што ён, старой загартоўкі чалавек, не апускаецца да надакучлівых просьбаў, як цяперашнія маладыя.

— І якая справа? — звяртаючыся да Кастуся, спытаўся Серафім Іванавіч.

— Пад Мінскам ёсць адна падсобная гаспадарка. Калі б вы закінулі слова, дык мяне ўзялі б туды загадчыкам...

— І каму я павінен закінуць слова? — троху збянтэжана спытаўся Серафім Іванавіч.

Кастусь назваў прозвішча. Чалавек, якому належала пазваніць, быў даўнім знаёмым, нават сябрам Серафіма Іванавіча.

— Усяго? — узрадаваўся ён, што справа аказалася вельмі простай.— У панядзелак пазваню.

— У панядзелак будзе позна,— сказаў Кастусь.— Каб вы пазванілі зараз.

— Але ж сёння выхадны...

— У мяне ёсць яго хатні тэлефон.

Хатні тэлефон меўся і ў Серафіма Іванавіча, але ён трымаўся таго правіла, што непакоіць начальства, нават сяброў, у выхадны дзень няёмка.

— Я таксама маю тэлефон. Я думаю, ці зручна турбаваць людзей па асабістай справе ў выхадны? — троху нават рэзка сказаў Серафім Іванавіч.

— Наадварот,— адказаў Кастусь, і Серафім Іванавіч пайшоў у прыхожую, дзе стаяў апарат, пазваніць таму знаёмаму наконт працы нейкага далёкага сваяка. Чорт бы яго пабраў гэты пратэкцыянізм, але і без яго не абысціся. Знаёмы аказаўся дома, але, як здалося Серафіму Іванавічу, успрыняў ягоную просьбу даволі холадна, і гэта зноў навяло яго на думку, што яму адгукаецца нечаканае звальненне са службы.

— Дык у панядзелак яму прыходзіць ці няма сэнсу? — спытаўся ён, каб высветліць для сябе, ці ўважыў ягоную просьбу знаёмы.

— Ну, калі ты ручаешся, што ён здолее кіраваць нашай гаспадаркай, дык няхай прыходзіць,— сказаў знаёмы, і Серафіму Іванавічу з горыччу падумалася, што дарэмна ён палез у такую справу, што раптам Камеш не справіцца з работай і на ягоную галаву падзе ганьба.

Але, вяртаючыся ў сталовую, ён успомніў, што Камеш адзін з тых, хто пацярпеў ад аварыі, і пачуццё міласэрнасці завалодала ім.

— Дык, здаецца, дамовіўся,— сказаў Серафім Іванавіч Кастусю.

Падзякаваўшы, абодва сваякі пайшлі на электрычку.

Неўзабаве на дачы паявіўся Алег Максімаў. Яны пайшлі ў кабінет на другім паверсе. Максімаў убачыў так і не прыбраныя з учарашняга папкі з рукапісамі, і яму зрабілася няёмка, што задаў брату такую работу.

— Ты, мабыць, учора чытаў іх дапазна,— паспачуваў ён Серафіму Іванавічу.

— Затое з вялікай прыемнасцю,— прызнаўся Серафім Іванавіч і адразу адчуў, што гаворка, пра якую ён так шмат думаў, пойдзе нязмушана і шчыра.

Але ўжо, здаецца, пасля таго, як Серафім Іванавіч асцярожна выказаў заўвагу, якая тычылася палітычнага аспекту адной з ліній ранняй аповесці Максімава, той нечакана для Серафіма Іванавіча рашуча запярэчыў:

— А табе ніколі не даводзілася задумвацца над тым, што мы ўвесь час адольваем вар'яцкі бег з бар'ерамі: то змагаліся з контррэвалюцыяй, якую самі ж і стварылі, то з трацкізмам, то з ваеннай апазіцыяй, то з ворагамі народа, кулакамі, двурушнікамі, шкоднікамі, то з культам Сталіна, то з валюнтарызмам, то з застоем — і ўсё пад дырыжорскую палачку, і ўсё з нязменным прыпевам: цяпер у нас адкрыліся бязмежныя перспектывы. А калі чалавек не хацеў удзельнічаць у гэтым бегу з бар'ерамі? Калі ён проста хацеў жыць, працаваць, займацца навукай, без гэтага даганяння Амерыкі і перадавых краін свету? У каго мы ператварылі яго, гэтага адвечнага ў кожным народзе працаўніка. Часам у мяне такое ўражанне. Што мы ўсе беды ствараем штучна, каб потым усенародным энтузіязмам і гераізмам пераадолець іх, надаваць званняў і ўзнагарод. А таго, хто выпаў з афіцыйнага разумення энтузіяста і актывіста, хто ўпаў у гэтым бегу з бар'ерамі, мы топчам, імкнёмся не заўважаць, і гэта ў лепшым выпадку, а ў горшым пагарджаем ім, бязлітасна судзім. Чаму мы не хочам зірнуць на дно нашага жыцця? А яно

такое шматпавярховае: у яго начлежцы суіснуюць наркаманы, зладзеі, дзялкі, прастытуткі і высокапастаўленыя чыны з куфрамі золата і брыльянтаў. Ці не хопіць тлумачыць іх псіхалогію схільнасцю да нажывы і мяшчанства? Во я і пастараўся зазірнуць у іхнія душы, узброіўшыся новым, неабцяжараным мінулым мысленнем.

Серафім Іванавіч не захацеў лішне ўвязвацца ў спрэчку, хай яна распачнецца пазней. Да таго ж трэба было памагчы Клаўдзі Маркаўне. На ім ляжала ці мала вялікіх і малых абавязкаў.

— Не пакрыўдзішся, калі я паэксплуатую цябе? — запытаўся Серафім Іванавіч і, атрымаўшы згоду, прапанаваў пайсці па сасновыя шышкі для самавара, а потым і па ваду ў нейкую там жыватворную крыніцу кіламетры за два ад дачы.

Алег ахвотна згадзіўся. Яны пайшлі ў сасновы лес, па дарозе прадаўжаючы размову пра творчасць Максімава. Серафім Іванавіч шчыра прызнаўся, як уразілі яго Алегавы творы, прапанаваў яму пачытаць што-небудзь для гасцей. У яго нават меліся меркаванні, што можна было б прачытаць. Ягоная прапанова дзіўным чынам супала з Алегавым жаданнем, калі чытаць, дык менавіта гэтую частку.

— А народу будзе шмат? — пацікавіўся Максімаў.

— Даўно не збіраліся, а так бывала чалавек па дваццаць і больш,— сказаў Серафім Іванавіч.

Яго чамусьці пачало непакоіць, колькі прыйдзе народу на чаяванне. А што, калі не прыйдзе ніхто? Гэтая думка аж угнала Серафіма Іванавіча ў халодны пот.

## 5

У даўнія добрыя часы большая частка гасцей, а то і ўсе адразу, прыязджалі электрычкай у семнаццаць адзінаццаць. Хвілін шаснаццаць — дваццаць забірала дарога, так што заставалася яшчэ з паўгадзіны, каб агледзецца, абмяняцца навінамі, пакурыць на лаўцы пад бярозай, доўгія галіны-косы якой у гэтую пару ўжо былі крануты асенняй пазалотай.

Была яшчэ электрычка ў семнаццаць трыццаць восем, але толькі для тых, хто прывык калі не спа-

зняцца, дык прыходзіць упрытык, на хаду беручы кубак чаю з рук Клаўдзі Маркаўны, ды яшчэ для тых, хто хадзіў шпарка, подбегам, за дзесяць хвілін пакрываючы шлях ад станцыі да дачы.

Пакуль самавар дыміў трубою, Серафім Іванавіч з Алегам Максімавым расставілі на тэрасе сталы і крэслы, занеслі туды з кухні чайны посуд і што-кольвечы з печыва і цукерак. Паміж імі ні на хвіліну не заціхала гамонка, тая гамонка двух літаратараў, якія нарэшце займелі магчымасць паспавядацца адзін аднаму.

— Вось ты гаварыў пра вар'яцкі бег з бар'ерамі,— намацваючы ў мітусні думак галоўную, якую хацелася выказаць, разважаў Серафім Іванавіч.— Не ў тым бяда. Усё чалавецтва, калі пільна прыгледзецца да мінулага, адольвала нейкія бар'еры. Усё, што рабілася і робіцца чалавецтвам, робіцца на бягу. Але дзе тое адзінае месца пісьменніка ў гэтым няўмольным руху, якое дало б яму магчымасць разгледзець не толькі напрамак руху, але і кожнага, хто бяжыць у апантаным натоўпе? Кажуць, трэба бегчы разам з усімі, так сказаць, трымацца самога жыцця, бо толькі так цябе могуць пачуць і зразумець. Астап Бэндэр так і зрабіў. Ён бег у натоўпе студыйцаў з заяўкай на сцэнарый «Шыя» і дамогся авансу. Калі б не бег, дык, вядома, яго ніхто і не заўважыў бы. Ёсць думка, што месца пісьменніка ў баку ад натоўпу, які адольвае бар'еры. Сапраўды, збоку добра відаць, куды бягуць людзі і хто як бяжыць. Але тых, хто выбіраў гэтае месца, не проста жорстка каралі — знішчалі, калі не фізічна, дык маральна і матэрыяльна. Бег разам з усімі, безумоўна, больш выгадны: ён дае грошы, тыражы, прэміі, зборы твораў. Але ён па сваёй сутнасці абсурдны, як быў і абсурдны сцэнарый «Шыя». Іначай і быць не можа: абсурднае жыццё стварае абсурдную літаратуру. Тады, падыходжу да заключэння я, і мае творы — абсурд?

У апошняй фразе Серафім Іванавіч задаў пытанне, якое застала Максімава знянацку.

З таго часу як яны пазнаёміліся, Алег Раманавіч прачытаў усе творы Серафіма Іванавіча і некалькі літаратуразнаўчых прац пра яго творчасць. Яго здзівіла неадпаведнасць таго, што пісаў Серафім Іванавіч, таму, што пісалася пра яго, Серафім

Іванавіч выдумваў жыццё, а літатуразнаўцы — выдумвалі Серафіма Іванавіча. Але ён хлусіў з выдумкай, майстэрствам, таленавіта і ярка, а літаратуразнаўцы — прымітыўна, шэра, без належнай фантазіі. У Серафіма Іванавіча банальная хлусня выглядала праўдай, і толькі пільнае вока магло заўважыць падмену аднаго паняцця другім. Літаратуразнаўцы хлусілі наўмысна і свядома — Серафім Іванавіч быў для іх бясспрэчны, як прарок.

— Але ты пісаў так, як табе падказвала сумленне,— сказаў Максімаў, здаецца, тое адзінае, што можна было сказаць.

— Я напісаў тое, што падказваў страх,— з балючым намаганнем адказаў Серафім Іванавіч і, памаўчаўшы, дадаў: — Затоены страх...

Серафім Іванавіч і сам здзівіўся, як лёгка прызнаўся ў тым, у чым баяўся прызнацца сабе ў думках. Няўжо на яго так падзейнічалі творы Максімава? Выходзіць, падзейнічалі, абудзілі смеласць ці, можа, шчырасць. Адно без другога не бывае. Але яго збянтэжыла не тое, што ён пасняшаўся прызнацца ў сваёй фанатычнай баязлівасці — Серафім Іванавіч прывык да марудлівай абачлівасці, якая засцерагала яго ад памылак,— а зусім нечаканая думка: ён сваім прызнаннем адрокся ад уласных твораў. А ці меў ён права адракацца ад народжаных у пакутах? Ну, вядома, ён вымушаны быў прыхарошваць жыццё (а хто яго не прыхарошваў?), выдумваць прыгажосць там, дзе яе не было і дзе панавала пачварнасць (а хто не выдумваў, не маляваў прыдатныя акварэлькі замест суровых і трагічных карцін рэальнасці?). Дык хіба ён вінаваты, што быў такі час, калі і лютую смерць паказвалі жаданай і прыгожай, як вабную маладую. Але ж гэта і было той пачварнасцю, ад якой цяпер не адмыешся. Зробленага не пераробіш, напісанае — не закрэсліш.

І ўсё ж Серафім Іванавіч быў задаволены, што здолеў прызнацца ў страху, з якім кожны раз сядаў за стол і які найчасцей дыктаваў яму свае правілы працы над творам. Тады Серафім Іванавіч называў свой затоены страх унутраным цэнзарам. Уголас, аднак, пра ўнутранага цэнзара ніхто не любіў гаварыць, усе прытвараліся, што страх імі не валодае. Ды і цяпер

выхваляюцца сваёй сумленнасцю, праўдзівасцю і бязгрэшнасцю.

Алег Максімаў, папраўдзе, зусім не разумеў дваюраднага брата. Чаго і каго той баяўся, калі хадзіў у недасягальных, быў ласкава прыняты і прыгрэты ўсімі ўладамі і сам быў уладай, як па чутках, дык строгай, няўступчывай і непадступнай. Алег Раманавіч не мог зразумець і братава памкненне да пасад і ўлады, якія, на думку, Максімава, толькі адбіралі час, нічога не даючы творчай натуры пісьменніка. Ён так і спытаўся ў Серафіма Іванавіча з наіўнай шчырасцю дзіцяці, якое кажа тое, што думае.

— Табе гэтага не зразумець,— з паблажлівай усмешкай адказаў Серафім Іванавіч.— У нас талент вызначаецца не сапраўднай каштоўнасцю, а прэстыжнай пасадай, вагой у грамадскай дзейнасці і іншымі абставінамі.

У кабінеце настойліва і гучна затрызвоніў тэлефон.

— Дзед, здарова,— пачуўся ў трубцы малады сакавіты голас.

Серафіму Іванавічу здалося, што звоніць кінарэжысёр Кірыла Лыкавязаў, які меўся прыехаць, каб паслухаць раман Серафіма Іванавіча на прадмет яго пастаноўкі ў кіно. У Кірылы Лыкавязава была прывычка ўсіх — маладзейшых і старэйшых за сябе — называць дзядамі. Аж не, званіў Расціслаў, сын старэйшай дачкі Святланы.

— Ты адкуль звоніш? З Масквы? — уражаны ягоным званком, спытаўся Серафім Іванавіч.

— Ад бацькоў званю.

— Надоўга прыехаў?

— Дзён на пяць. У мяне сімпозіум.

— Калі да мяне зазірнеш? Можа, сёння? У мяне чаяванне. Роўна ў шэсць.

На пастаўленыя пытанні Расціслаў адказаў самым нечаканым чынам:

— Дзед, тут з табою хоча пагаварыць адзін чалавек, даўні твой знаёмы...

І адразу ў трубцы пачуўся незнаёмы чужы голас.

— Сіма, рад чуць цябе. Як ты жывеш? Ведаю — на вяршыні славы.

Серафім напружана ўслухоўваўся ў чужы голас. Памяць бязлітасна маўчала.

— Аднак хто гэта? Нешта не пазнаю,— сказаў ён,

чамусьці злуючыся і на сябе, і на таго, хто прымушае яго напружваць такія ўжо непадатлівыя мазгі.

— Ігар я. Ігар,— надтрэснутым ад хвалявання голасам закрычаў незнаёмы.— Набокаў!.. Ігар...

Серафім Іванавіч аж здрыгануўся: голас Ігара Набокава, здалося, далятаў з таго свету. Во ўжо неверагоднасць дык неверагоднасць! Серафім Іванавіч быў абсалютна ўпэўнены, што Ігар Набокаў з ягонага дзяцінства даўно памёр. А ён звоніць! Можа, гэта не ён, а ягоны сын, таксама Ігар? Але сын не назваў бы яго Сімам.

— Вушам сваім не веру,— адгукнуўся Серафім Іванавіч, не ведаючы, як яму паставіцца да такога нечаканага званка.— Няўжо Ігар Набокаў, што жыў на антрэсолях у купца Шубіна?..

— Помніць, халера, помніць,— радасна закрычаў Ігар Набокаў.— Што прыкажаш: свой пакажаш ці мой паглядзіш?

Серафіма Іванавіча непрыемна кальнула дзіцячая непрыстойнасць у вуснах старога чалавека. Яму падумалася, што цяперашні Набокаў няйначай стары пенсіянер, які троху змаразмаціўся ад старасці. Было боязна запрашаць яго на чаяванне, але ж Расціславу ён паспяшаўся сказаць, каб прыязджаў. Можа, Набокаў чуў іхнюю размову. Тады няёмка прамаўчаць.

— Слухай, Ігар, прыязджай да мяне. Бяры таксі і бягом сюды з Расціславам. Ён ведае дарогу...

— А мы і без запрашэння прыехалі б,— сказаў Набокаў, і Серафім Іванавіч падумаў, што Ігар Набокаў, які некалі марыў пра дыпламатычную службу, мусіць, закончыў працоўнае жыццё ў якой-небудзь захудалай канторы, дзе не вельмі дбаюць пра свецкі этыкет.

— Хто званіў? — пацікавіўся Максімаў.

— Так, сябра дзіцячых гадоў,— адмахнуўся Серафім Іванавіч.

Тым часам стрэлкі вялізнага з боем гадзінніка, што стаяў у куце рабочага кабінета, паказвалі палову шостай. Павінны былі б на дарозе са станцыі паявіцца госці. Замест іх з-за павароту вынырнуў Мартын Мартынавіч, заяц. Ён нёс у руках пузаты партфель, ішоў з заклапочаным і як бы незадаволеным выгля-

дам, што яго адрываюць на нейкае глупства, калі трэба ратаваць свет.

У галаве Серафіма Іванавіча завіравалі непрыемныя думкі: значыць, ніхто з былых сяброў-таварышаў не прыедзе. Далоў з пасады — вон з памяці.

Але яшчэ было нейкае спадзяванне на электрычку ў семнаццаць трыццаць восем. Кволае і таму асабліва нецярплівае спадзяванне. Але і на ёй ніхто не прыехаў, апрача Івана з Надзяй Талаканкінай. Калі Серафім Іванавіч з тэрасы ўбачыў сына і нявестку ў неймаверных строях, гітару за спіной у Івана, яму зрабілася дрэнна. А тут яшчэ чорт собіў запрасіць Ігара Набокава. Не хапала, каб староннія людзі пабачылі ягоную, Серафімаву, ганьбу.

Іван да ўсяго іншага быў яшчэ на добрым падпітку і, здаецца, як ніколі агрэсіўны. Мартын Мартынавіч, таксама пабачыўшы Івана з жонкай, пастараўся пазбегнуць сустрэчы: сказаў, што пойдзе памагчы Клаўдзі Маркаўне па гаспадарцы. Серафім Іванавіч адразу разгадаў манеўр зяця: пры маці Іван вёў сябе больш-менш прыстойна, ва ўсякім разе слухаўся яе.

Яму не хацелася, каб Максімаў сам пабачыў, што такое Серафімаў сын. Таму ён загаварыў без аніякай на тое падрыхтоўкі, чым нямала здзівіў Максімава:

— Сыны — мой боль. Старэйшы загінуў на пахаванні Сталіна і дасюль не ведаю, як гэта здарылася. Малодшы, як бы табе сказаць больш даходліва,— блажэнны. А сярэдні — шалапутны. Яго ты зараз і ўбачыш з жонкай, якую прывёз аднекуль з Поўначы. Ці то звенка, ці то чукча. Пяе разам з ім у ансамблі, якіх цяпер распладзілася, як макрыцы ў мокрае лета. Ты ўжо не звяртай на Івана ўвагі. Ён умее зневажаць, асабліва калі п’яны. Цвярозы — нармальны чалавек.

Крокі «нармальнага чалавека» ўжо грымелі па лесвіцы, што вяла на другі паверх. Серафім Іванавіч адчуў, як пачынае закіпаць у ім лютая, нясцерпная злосць: дай волю, і адбудзецца нешта страшнае, нейкая зацятая спрэчка, у якой пераможа не ён, а Іван. Ён пастараўся сабраць усе свае раптам аслабелыя сілы, каб змаўчаць.

Зблізку Іван выглядаў яшчэ больш недарэчна, чым з тэрасы на адлегласці. Пафарбаваныя ў жоўта-малінавы колер валасы былі высока падстрыжаны

над вушамі і выбрыты, а ззаду завяршаліся тоненькай касічкай, якую перахоплівала чырвоная стужка. На Іванавай расхрыстанай грудзіне вісеў крыж на пазалочаным ланцужку, а на запясцях боўталіся бранзалеты. На ім была джынсавая куртка, адзетая на голае цела, і аксамітавыя штаны з лапікамі, вельмі цесныя, аж здавалася, што яны вось-вось лопнуць. Надзя, хоць і была апранута з выклікам модзе, але ўсё ж па-жаноцку элегантна. Хіба толькі штаны былі лішне шырокія. У іх Надзя была падобна на купчыху-ляльку, якімі накрываюць чайнікі.

— Можна? — прасунуўшы галаву ў кабінет, спытаўся Іван.

Па ягоным твары гуляла прытворная вінаватасць. Звычайна за гэтым банальным пытаннем пачыналіся прыдзіркі: не так сустрэлі, не так паглядзелі, не тое сказалі і прывычнае хамства, ад якога можна было звар'яцець.

На гэты раз хамства пачалося не адразу: Іван убачыў незнаёмага, праявіў не ўласцівую яму ветлівасць.

— Нічога, баця, што мы паявіліся без запрашэння? — спытаўся ён.— Вельмі засумаваў па табе на Захадзе. Мне там прапаноўвалі кантракт у тры мільёны, але я сказаў: не трэба мне вашы долары... Надзя, падай сюды...

Серафім Іванавіч толькі цяпер заўважыў на плячы нявесткі рэчавы мяшок. Яна спрытна зняла яго. Мяшок аказаўся на маланцы, якую Надзя адным дасканалым рухам расшпіліла, дастала адтуль нешта загорнутае ў паперу і цэлафан.

Іван забраў пакунак, знарок марудна разгортваў яго — нарэшце на свет божы паявілася штосьці аслінагаловае, пажадліва сплеценае з чалавекагаловым. Праўда, і гэтыя намёкі на аслінагаловасць і чалавекагаловасць можна было разгледзець, валодаючы дужа жывой фантазіяй.

— Што гэта? — спытаўся ўражаны Серафім Іванавіч.

— Апулей, баця, Апулей. Метамарфозы ў выкананні арбацкіх авангардыстаў.

— Але навошта яны мне? — абурыўся Серафім Іванавіч, здагадваючыся, што нейкі бяздарны авангардыст з цынічнай бессаромнасцю бяздарна вылепіў

самую эратычную сцэну з апулееўскіх «Метамарфоз».

— Баця, гэта поставангардызм, а не тваё абывацельскае мастацтва,— задзіраючыся на спрэчку, злосна сказаў Іван.— Я спецыяльна купляў яго, каб далучыць цябе да сучаснай культуры, вырваць з жалезных путаў мяшчанства і сталінізму.

— А калі я не хачу такім чынам вырывацца? — не змаўчаў Серафім Іванавіч.

— Вы чуеце? — звяртаючыся да Максімава, спытаўся Іван.— Мой баця найвялікшы пісьменнік краіны, можна смела сказаць, жывы класік, але кансерватар. Магу паспрачацца, што ён не адрозніць Пінт-Флойд ад Ніццi-Грыццi, а імя Пол Сайлмона блытае з імем Саламона. Хіба, па-вашаму, гэтая арыгінальная скульптура вядомага маскоўскага авангардыста Эжэна Ляпёшкіна не гаворыць вам больш за ўсе скульптурныя кампазіцыі Вуцеціча? Уся справа ў тым, што Вуцеціч варочаў сотнямі тысяч, а Ляпёшкін мусіць за грашы аддаваць свае вечныя тварэнні.

— Ну, во, і забяры, калі ласка, гэтае вечнае тварэнне на вечнае захаванне, бо ў мяне засталося не так шмат часу, каб быць вартаўніком гэтага вечнага твора,— са з'едлівай насмешкай сказаў Серафім Іванавіч.

— А што я табе казала, Ваня,— вінавата азвалася Надзя Талаканкіна.— Я ўгаворвала яго купіць вам пішучую машынку. Дык ён сказаў мне, што, па-першае, нельга пераставіць шрыфт, а па-другое, гэта ўжо будзе не падарунак. Мне скульптура таксама не падабаецца...

Яе гэтае прастадушнае прызнанне аж расчуліла Серафіма Іванавіча.

— Добра, хай пастаіць. Дoранаму каню ў зубы не глядзяць. Пастаў яе ў кут ды прыкрый чым-небудзь.

Інцыдэнт, які пагражаў перарасці ў лаянку, неяк незаўважна атух, тым больш што Алег Максімаў выявіў цікавасць да Іванава рок-ансамбля, а Іван пастараўся расказаць гісторыю авангардысцкай музыкі ад хэві метл да «Ласкавага мая».

Пабачыўшы, што Максімаў забаўляе сына з нявесткай размовамі, Серафім Іванавіч сышоў уніз на кухню, дзе Клаўдзя Маркаўна вяла размову з Марты-

нам Мартынавічам аб набыцці фінскага гасціннага гарнітура.

— Як ён там? — спыталася яна ў Серафіма Іванавіча, і той зразумеў, што жонка пытае пра Івана.

— Дзякуй богу, здаецца, нікога не будзе, апрача даўняга, з дзіцячай пары, сябра Набокава. Я табе расказваў пра яго — сын адваката Набокава. Іван так і правацыраваў сварку. На шчасце, Максімаў неяк адцягнуў ягоную ўвагу ад мяне. А вось, здаецца, і Набокаў са Славам...

Серафім Іванавіч кінуўся з кухні на двор, каб сустрэць госця.

Слава прыехаў не на таксі, а на бацькавых «Жыгулях». Ён выскачыў з машыны, адчыніў заднія дзверцы. З яе выбраліся Цімошка з жонкаю і нейкі барадаты тып. Набокаў выйшаў з машыны спаважна. На ім быў светлы гарнітур-тройка, на галаве модная кепачка-берэт, якая надавала яму легкаважкі выгляд. Але Серафім Іванавіч адразу пачуў пароду — кепачкай яго цяжка было збіць з панталыку. З далёкай далечыні перад вачыма Серафіма Іванавіча ўзнікла постаць Валянціна Віктаравіча, Ігаравага бацькі: тая ж самавітая мажнасць, тая ж панская непадступнасць і абсалютная непрыналежнасць да каго б там ні было — я сам па сабе. Серафіму Іванавічу аж не паверылася, што зусім нядаўна Набокаў мог гаварыць з неўласцівай ягонаму выгляду нетактоўнасцю.

Цімоша з жонкай і барадатым тыпам, збіўшыся ў кучу, пра нешта ажыўлена гаварылі, нібы і не збіраліся падыходзіць да Серафіма Іванавіча, затое Набокаў адразу пасунуўся да яго. Менавіта пасунуўся, не ўзнімаючы ног, неяк нячутна слізгаючы падэшвамі мадэльных імпартных чаравікаў па метлахскай плітцы, якой была выслана сцежка ад брамы да дома.

Серафім Іванавіч чамусьці таксама пайшоў насустрач марудна, хоць яму хацелася ісці хутчэй. Яны сустрэліся якраз пасярод сцежкі. Серафім Іванавіч хацеў абняць Набокава, але той апярэдзіў яго, паклаў руку на плячо і, азіраючыся наўкола, праніклiва сказаў:

— Пастарэў, пастарэў, але салідна, салідна. Так і належыць славутасці. Няма чаго прыбядняцца...

Набокаў гаварыў важка, нетаропка, робячы паўзы

паміж словамі і гэтым падкрэсліваючы іх значэнне, а тым часам Серафім Іванавіч не мог даўмецца, што азначаюць ягоныя слова «салідна»: салідна ён выглядае ці салідна выглядае дача.

— Якая славутасць,— на ўсякі выпадак адмахнуўся ён і сам зразумеў, што выйшла, бадай, па-правінцыяльнаму недарэчна.

Набокаў не запярэчыў, не стаў пераконваць Серафіма Іванавіча ў адваротным.

— У цябе вельмі мілы ўнук,— сказаў ён.

Слава ішоў паперадзе Цімошы з жонкай і барадатага незнаёмца.

— Ну, яшчэ раз, здарова, дзед,— падаў Слава руку Серафіму Іванавічу.— Не супраць, што прывёз дзядзьку...

То ўжо была нетактоўнасць, якой Серафім Іванавіч не чакаў ад унука. Ці мала што можа быць у сям'і, але выстаўляць гэта перад чужымі людзьмі, хай сабе і сябрамі дзяцінства, зусім не варта.

— Наадварот, наадварот,— паспешліва сказаў ён, каб Набокаў не дай бог чаго не заўважыў.— Мы так рэдка збіраемся разам, а тут, лічы, усе ў зборы. Чаму не прыехалі твае маці з бацькам? Іван ужо тут...

Яны гуртам ішлі па даволі вузкай сцежцы. Серафім Іванавіч трымаў пад руку Набокава.

— А што яшчэ за трыдцыйныя чаяванні? — бесцырымонна спытаўся Набокаў.— Мяне Слава папярэдзіў, што на іх у цябе не бывае спіртнога. А мне так хацелася б адзначыць нашу сустрэчу чаркай каньяку, які я, дарэчы, прывёз.

— Не перажывай: вып'ем і закусім.

Серафім Іванавіч павёў гасцей у сталовую, на хвіліну адарваўся ад іх, каб загадаць Клаўдзі Маркаўне падаць чаго з закусак і выпіўкі.

— Мартын Мартынавіч, пакліч, калі ласка, з кабінета Максімава з Іванам. Ды і прынясіце з тэрасы колькі крэслаў.— Выходзячы з кухні, Серафім Іванавіч сустрэўся з Цімошам, запытаўся: — А каго ты прывёз з сабой?

— Тата, ты даруй, але ён вельмі хацеў пабачыць цябе. Ён паэт філасофскага напрамку. Вельмі таленавіты. Але з ім калісьці, а калі, ніхто не ведае, здарылася нейкая хвароба, і ён забыўся на ўсё, што было да гэтага. Памятае толькі тое, што пачынаецца

недзе ў шэсцьдзесят шостым годзе. Ён нават ранейшага свайго імя не ведае.

Серафім Іванавіч здагадаўся, што паэт філасофскага напрамку, відаць, жыхар установы, дзе Цімоша працуе санітарам. Яму захацелася насварыцца на сына, але цяпер гэта было бескарысна.

— А ён не скандаліць? Я маю на ўвазе, не буйны?..

— Ды што ты, тата, ён абсалютна здаровы чалавек. Ён толькі не памятае сваё мінулае...

## 6

— А-а-а, Цімоша-святоша, бледнатвары брат мой, дай абдыму цябе і выплачу слёзы на тваім плячы,— як бы і без крыўляння, але так, што ўспрыняць сур'ёзна было абсалютна немагчыма, прывітаў малодшага брата Іван, сапраўды абняўшы Цімошу і сапраўды пусціўшы скупую слязу.— Ну, як жывуць твае здзяцінелыя маразмацікі і хранічныя шызафрэнікі?..

У Цімошы балюча перасмыкнуўся твар, ён азірнуўся наўкола, шукаючы абароны,— усё рабілі выгляд, што нічога не чулі, ці, можа, на самай справе не чулі або не надалі сказанаму ніякага значэння: бацька знаёміў Набокава з Алегам Максімавым, маці пра штосьці распытвала Клару, а Мартын Мартынавіч гутарыў са Славай. Адзін паэт філасофскага складу абурыўся знявагай, узяў Івана загрудкі, разгневана зашыпеў:

— Паводзь сябе прыстойна, шчанюк,— і моцна штурхануў Івана.

Той, бадай, і не ўстаяў бы на нагах, каб не Серафім Іванавіч, які апынуўся на ягонай дарозе. Здзіўлены моцным кухталём у спіну, Серафім Іванавіч азірнуўся, убачыў разгубленага Івана, нічога не зразумеў і пачаў знаёміць Набокава з сынам:

— Мой сярэдні... Музыкант... Кіраўнік ансамбля «Гіпатэнуза».

Інцыдэнт Івана з Цімошам не выпаў з-пад увагі Набокава; ён імгненна ацаніў сітуацыю, з найгранай лёгкасцю ў абыходжанні загаварыў з Іванам, як з добрым знаёмым.

— Як жа, як жа! Чуў, бачыў. «Гіпатэнуза»! Вельмі нават арыгінальна. Чакайце, дзе я вас бачыў?

У «Музычным рынзе»? Абсалютна дакладна — там. Вы яшчэ тады сказалі: гіпатэнуза — гэта такая лінія, якая перакрэслівае квадрат класічнай музыкі. Вельмі, вельмі дасціпна.

Іван не памятаў, гаварыў ён калі-небудзь нешта падобнае ці не, але адразу паверыў, што гаварыў, і менавіта ў Ленінградзе, на «Музычным рынзе», а таму ўпадабаў Набокава.

— А гэта мая жонка і салістка ансамбля Надзя Талаканкіна — чукчанка, да вашага ведама.

— І зусім не чукчанка, а эвенка,— гарэзліва ўсміхнуўшыся, адказала Надзя, працягнула маленькую зграбную руку Набокаву.

— За стол, за стол,— ужо камандаваў Серафім Іванавіч, і ўсе расселіся так, як стаялі купкамі перад накрытым ужо сталом з вядзёрным старым самаварам з лікамі імператараў.

Агульная размова не выходзіла: кожная купка людзей апынулася ў ізаляцыі, дзе не было агульных інтарэсаў або яны даўно надакучылі. Набокаву агоркла слухаць бязладная, як трызненне, лекцыі па рок-музыцы. Ён спадзяваўся — калі ехаў сюды — пасядзець дзе-небудзь пад яблыняй ці грушай з Серафімам Іванавічам, успомніць былое. Яго ў апошнія гады ўсё мацней цягнула на ўспаміны, і ён чамусьці думаў, што такое здараецца пад канец жыцця. У яго не было сяброў, толькі супрацоўнікі, калегі, падначаленыя і начальнікі, таму Серафім Іванавіч паўставаў ва ўспамінах, як сябар дзіцячых гадоў. Хоць на самай справе сяброўства было ўсяго рамантычным уяўленнем. Зрэшты, у іх было пра што пагаварыць. Не толькі паўспамінаць — паразважаць над пражытым. Чалавек — ёсць чалавек. Пасля мітусні і штодзённых клопатаў, ужо на прыканцы свайго жыцця, ён абавязкова, хоць у думках, звернецца да мінулага, паразважае над ім, можа, і не зусім непрадузята.

Размовы пра рок-музыку, пра рок-ансамблі раздражнялі Набокава. Але ён не падаваў і выгляду, што гаворка яму надакучыла. Наадварот, падтрымліваў яе. Алег Максімаў таксама адчуваў сябе ніякавата. Яму давялося сядзець побач з паэтам філасофскага складу, і гэта чамусьці яго бянтэжыла. Паэт спачатку засяроджана глядзеў у талерку, еў усё, што яму ні падавалі, а потым, наталіўшы голад — Алег Максімаў

уявіў, як там кормяць няшчасных людзей,— раптам звярнуўся да Максімава з пытаннем, якое магло падзівіць самага ўраўнаважанага чалавека:

— Ці заўважаеце вы, што я блазен?

— Не,— няўпэўнена адказаў Максімаў.

— А ўсё заўважаюць, што гэта так. І вы заўважаеце, але не хочаце абражаць мяне. Ну, я не стану пераконваць вас у адваротным: блазен дык блазен. Людзі лепей за ўсё разумеюць благія ўчынкі. Калі чалавек крадзе, дык гэта зразумела ўсім: не ўкрадзеш — не разбагацееш. Бярэ хабар — таксама зразумела: не дасі — не атрымаеш таго, чаго хочаш. Хлусіць — дык і дурню зразумела — без хлусні не пражывеш. Вы сустракалі чалавека, які не хлусіў бы? Свет на хлусні трымаецца. А вось чыстыя ўчынкі і намеры выклікаюць падазронасць. Людзі не здольны зразумець, чаму чалавек робіць нешта бескарысліва. Не за так жа сабе адзін чалавек дапамог другому? Я таму блазен, што бескарысліва раблю дабро. І гэта не можа зразумець наш дырэктар. Каб не Цімоша...

— Не трэба, не трэба,— запратэставаў Цімоша, і паэт філасофскага накірунку замоўк.

Серафім Іванавіч адчуваў няёмкую скаванасць гасцей, недапасаванасць размоў да трыдцыйных чаяванняў, дзе ўсё было падпарадкавана адной тэме — літаратурнай. Яна згуртоўвала і аб'ядноўвала гасцей. Цяпер замест адной плыні цяклі нейкія мутныя ручайкі разрозненай гаворкі. Серафім Іванавіч не ведаў, як скіраваць чаяванне ў патрэбнае рэчышча.

Звычайна было як? Нехта з гасцей, пасля беглага абмену навінамі і думкамі, прапаноўваў:

— А ці не папрасіць нам шаноўнага гаспадара пачытаць што-небудзь з ягоных сховішчаў. Прайшла чутка, што Серафім Іванавіч хавае ад народа новы літаратурны шэдэўр.

Госці дружна падтрымлівалі. Зрабіўшы дзве-тры прэстыжныя спробы адмовіцца, Серафім Іванавіч ішоў насустрач пажаданням гасцей.

Сёння Серафім Іванавіч, па-першае, не збіраўся чытаць свой твор, перадаўшы гэты абавязак Алегу Максімаву, але ў абставінах, што склаліся, ён баяўся прапаноўваць Максімаву нешта чытаць — не тая

публіка! Хто стане слухаць невядомага пісьменніка ды яшчэ вучонага-атамніка? Іван? Дык ён не выцерпіць і пяці хвілін. Цімоша? Слава? Нарэшце Мартын Мартынавіч або Набокаў?

Набокаў чамусьці найбольш за ўсё інтрыгаваў Серафіма Іванавіча. Часам яму здавалася, што Ігар Валянцінавіч — птушка высокага палёту, часам — пасрэдны, абмежаваны чалавек, які няйначай чытае лекцыі па таварыстве «Веды». Серафім Іванавіч дакараў сябе, што не запытаўся, з якой пасады Набокаў пайшоў на пенсію. А што ён на пенсіі, дык у гэтым не было ніякіх сумненняў.

Зрэшты, Серафіму Іванавічу таксама хацелася пагаварыць з Набокавым, але па вельмі нават практычнай прычыне: здабыць нейкія дэталі з тагачаснага жыцця, калі яны былі дзецьмі, каб выкарыстаць іх у рамане. Серафіму Іванавічу думалася, што Набокаў памятае нешта такое, чаго не памятае ды і не мог памятаць ён.

У застоліцы то ўсе гаварылі разам, то засяроджвалі ўвагу на нейкіх лакальных для кожнай купкі гасцей тэмах: напрыклад, аб глейм-року, аб экстрасенсах, аб інтэрв'ю жонкі Бухарына і нават аб павышэнні надояў у зоне радыяцыі. Серафім Іванавіч адчуваў, як балюча пячэ яго няўвага да літаратуры, дзеля якой і ладзіліся гэтыя чаяванні. Усё апошнім часам разбуралася, касавалася, гінула, і ў любімую літаратуру ішлі незразумелыя людзі з вялікімі прэтэнзіямі і патрабаваннямі, хоць і з маленькім талентам. Серафіму Іванавічу падабалася адкрытасць і раскаванасць людзей, але нешта і палохала яго.

Серафіму Іванавічу са светлай выразнасцю падумалася, што ён зараз заплача ад крыўды і абразы. Толькі слёз яму і не хапала! Але што паробіш, калі пад старасць становішся чуллівым — ледзь што і набягаюць слёзы.

Ён паціху ўзняўся, непрыкметна, балазе сядзеў каля дзвярэй, выйшаў на двор. За ягонай спіной Слава расказваў пра філіпінскіх хірургаў, якія робяць аперацыі без нажа і болю.

«Хлусня! Нічога без болю не робіцца,— падумаў Серафім Іванавіч.— Дабро і тое дастаецца з болем».

Яму думалася як ніколі журботна, са шкадаваннем

сябе, але і з задавальненнем ад самамучэння. Чамусьці мільганула шалёна-радасная думка: а што, калі пайсці зараз на станцыю, паехаць у Мінск, а там сесці ў першы цягнік, які будзе адпраўляцца ад перона, назаўжды загубіцца ў людскім моры. Во быў бы перапалох! Колькі імгненняў ён жыў гэтай думкай, пакуль не прыгадаў: каб сесці на цягнік, патрэбны білет, а дзе ты яго купіш у гэтую летнюю пару? Тым больш не ўзяў дэпутацкага пасведчання.

«Ну, да Віцебска, дапусцім, білет можна ўзяць і без пасведчання. Былі б грошы». Ён памацаў кішэню, грошы былі. Але ехаць аднаму расхацелася. Каб з Набокавым. Паглядзець бы з ягонай мансарды ў падзорную трубу на Задунаўе.

Успаміны наплывалі невыразна, ужо сцёртыя часам і ўласнай нядбайнасцю. Толькі адзін прарэзаўся выразна і ярка. Ноч. Два параходы, прыткнутыя да дэбаркадэра. Мікольская царква. Ліхтар. І яны з Любай перад вялізным, да самай столі трумо. Люба глядзела на яго з дакорам. Серафім Іванавіч аж здрыгануўся.

Апошні ліст яе быў поўны граматычных памылак і чужых, неўласцівых нашай мове канструкцый. І ліст пісаўся не яму, а дачцэ Святлане. А тая ўжо дала прачытаць бацьку. У Любы і там, на берагах сівога Альбіёна, як сказаў бы паэт, было двое дзяцей: сын і дачка — люстэркавы адбітак іхняга туташняга жыцця. Толькі ягоны сын аднойчы прапаў, яна свайго зберагла дзеля нейкага брытанскага мільянера.

Серафім Іванавіч паспрабаваў уявіць Любу ў ролі жонкі мільянера, але з ніадкуль выплыў твар дачкі Святланы, вельмі падобнай на маці. Яна, як і заўсёды, абяцала прыехаць пад самы канец чаявання.

Пад старасць ён чамусьці ўсё часцей прыгадваў Любу. Не, з Клаўдзяй Маркаўнай у іх былі і застаюцца самыя добрыя адносіны. Нават каханне. Але Люба не выходзіла з галавы. Можа, таму, што Серафім Іванавіч адчуваў сябе вінаватым двойчы. Спачатку тады, калі, не дачакаўшыся яе, пасадзіў на саўнаркомаўскую машыну дзяцей, выехаў у Віцебск, а потым і ў Лёзна. Спадзяваўся, што Люба здагадаецца прыехаць у Віцебск. Яна не прыехала. Яго мабілізавалі, і ён з цяжкасцю ўладзіў Святлану і Лёніка ў нейкі дзіцячы сад, дзе рабіла былая

белашвейка Паліна Рагацікава. Яна і захавала яму дзяцей. А Люба чакала яго ў Мінску ды так і не паспела адысці.

Пасля, калі ўжо былі знойдзены дзеці і Марк, Серафім даведаўся, што ягоная жонка верна служыць акупантам. Тады ўсіх, хто служыў у акупацыйных установах або проста заставаўся на акупіраванай тэрыторыі, лічылі вернымі służкамі немцаў. Неяк Серафім Іванавіч дазнаўся, што за лінію фронту і якраз праз Міншчыну ідзе разведачная група, кіраўніка якой ён добра ведаў і таму адважыўся праз яго перадаць Любе гнеўнае пісьмо і рашучае патрабаванне кінуць працу ў немцаў, выйсці да партызан, а ўжо ён пастараецца пераправіць яе ў Маскву. Люба на пісьмо не адказала. І, мабыць, добра ведаючы нашы суровыя законы ваеннага часу, паехала на Захад, адкуль і перабралася ў Англію.

Віны Серафіма Іванавіча, паклаўшы руку на сэрца, не было, як, зрэшты, і Любінай — вайна і не тое нарабіла пры такіх спрыяльных для здзекаў законах. Але ён вінаваціў сябе.

«Няхай бы прыехала хутчэй Святлана»,— падумалася яму, і, нібы хто падслухаў ягонае гэтае жаданне, каля варот спынілася машына. Серафім Іванавіч пахлапечы жвава пабег да брамы, адчыніў яе, каб машына заехала на двор, і расчаравана спыніўся: каля «Жыгулёў» стаяў Кірыла Лыкавязаў разам з незнаёмым чалавекам, квадратным, з маленькай галавой-шарам, на якой расла сівая шчотачка валасоў. Нешта вельмі далёкае, толькі ў агульных абрысах, а не ў дэталях прыбліснула перад вачамі Серафіма Іванавіча: сумнення не было — Кротаў. Глеб Кротаў.

Во ўжо каго не чакаў Серафім Іванавіч! І што за дзень? З самай раніцы адны нечаканасці: Сцёпка Анічэйка з пляменнікам, Слаўка, Набокаў, цяпер яшчэ Глеб Кротаў, сын турэмнага наглядчыка і таксама нейкім чынам сябар.

— Глеб, ці ты гэта? — усё яшчэ не верачы сваім вачам, спытаўся Серафім Іванавіч.

Глеб ашчэрыўся ротам, поўным залатых зубоў.

— Так точна, Глеб Кротаў,— паспрабаваў ён прыняць стойку «смірна».— Па неаспрэчным, так сказаць, факце даўняга відажыхарства.

— Адкуль ты, чарціна гэтакая? — чамусьці шчыра радуючыся, спытаўся Серафім Іванавіч.

— З неўсвядомленых прастораў жыцця,— адказаў Глеб Кротаў і, падышоўшы да Серафіма Іванавіча, узяў яго аберуч за шыю, прыгнуў да ўзроўню сваёй галавы, прыклаўся тоўстымі губамі да Серафімавых губ.— Прыцягнуты, так сказаць, па савакупнасці ведаў перадаць факт такавых на службу мастацтва ў выглядзе фільма, які здымае паважаны Кірыла Мацвеевіч.

Мудрагелістасць ягонай мовы прымушала думаць, што Глеб Кротаў або жартуе, або іграе нейкую не ўласцівую яму ролю. Кірыла Лыкавязаў падміргнуў Серафіму Іванавічу, пацвердзіў, што сапраўды Глеб Панкратавіч Кротаў кансультуе ягоны фільм.

Серафім Іванавіч заўважыў, што Глеб Кротаў спадцішка аглядае дачу, сад, усе дачныя пабудовы, нібы прыцэньваецца да іх: ён прыглядаўся дзіўна, схіліўшы галаву на левае плячо, так што ягоныя вочы знаходзіліся ў вертыкальным становішчы і дзялілі куб дачнай прасторы наўкось. Серафіма Іванавіча гэты агляд па вертыкалі чамусьці вельмі бянтэжыў, нібы ён не сам за свае крэўныя пабудаваў сваю дачу, а ўкраў усё ці прысвоіў. Яму прыгадалася, як некалі — даўным-даўно, у дзяцінстве — ён запрасіў Глеба ў госці і той, пахадзіўшы па пакоях з нахіленай галавой і вертыкальна пастаўленымі вачамі, потым зрабіў выснову, што яны жывуць, як нэпманы.

Успамін і гэтае разгляданне спадцішка выклікалі ў Серафіма Іванавіча нясмелы пратэст: было няёмка сказаць што-небудзь калючае чалавеку, які прыйшоў у госці, і немагчыма было стрымацца.

— Жыву, як недарэзаны буржуй,— сказаў ён з выклікам.

Глеб Кротаў двойчы плямкнуў губамі.

— Пісьменнікі для творчай працы павінны мець адпаведныя ўмовы,— з дзяржаўнай важкасцю сказаў ён.— Цяжкое, няўладжанае жыццё прыгнятае, а гэта спараджае прыступы меланхоліі, якія адмоўна дзейнічаюць на творчасць. Адсюль і песімізм і няверʼе ў светлыя ідэалы. Быў бы ў Дастаеўскага дастатак ды не прайграваўся б ён так часта ў карты, дык і ягоныя творы не насілі б адзнакі безвыходнасці.

Кротаў, хоць і прадаўжаў манернічаць, але

гаварыў ужо без нядаўняй мудрагелістасці. Серафім Іванавіч гатовы быў дараваць яму манернічанне, ды кінутая заўвага аб песімізме Дастаеўскага пакрыўдзіла яго.

— Чалавек жыве не хлебам адзіным,— сказаў ён.

— Без духоўнага пажытку грамадства ператварылася б у статак бараноў,— пагадзіўся Кротаў.

Толькі цяпер Серафім Іванавіч здагадаўся запрасіць гасцей у сталовую.

— Кірыла Мацвеевіч, Глеб, хадземце ў дом. У мяне сёння якраз невялічкая застоліца. Так што, як кажуць, з карабля ды на баль.

Застоліца гаманіла на розныя галасы. Серафім Іванавіч пачуў Іванаў абураны голас, спалохаўся, затаіў дыханне, каб разабраць, што гаворыць Іван. У сталовай раптам запляскалі ў далоні, і Серафім Іванавіч з палёгкай уздыхнуў.

Кірылу Лыкавязава ў доме ведалі — ён ставіў фільм па Іванавым сцэнарыі і часта бываў і на гарадской кватэры і на дачы. Да яго адразу кінуўся Іван, падхапіў пад руку, павёў на той край стала, дзе сядзеў; Надзя Талаканкіна пасунулася, даючы славутаму рэжысёру і мастацкаму кіраўніку студыі месца каля Івана. Кротаў, спыніўшыся на парозе сталовай, схіліўшы галаву набок, вертыкальна паставіўшы вочы, адным пільным позіркам акінуў застоліцу. Позірк быў учэпісты, востры і дакладны, як лазерны прамень. Ён адразу выдзеліў Набокава, а не менш учэпістая памяць тут жа падказала, што гэта і ёсць той самы Набокаў, з якім яму даводзілася мець справу яшчэ ў даваенны час, калі спрабавалі падабрацца да самога Вашынскага праз ягоных супрацоўнікаў.

Кротаў, па ўпартай звычцы, толькі на секунду затрымаў позірк на Набокаве, нават не затрымаў, а слізгануў па набокаўскім твары, і паплыў далей без прыпынку. Набокаў, здалося, яго не пазнаў. А хоць бы і пазнаў?..

Серафім Іванавіч спачатку пазнаёміў — адразу абодвух — Максімава і Набокава з Кірылам Лыкавязавым, адрэкамендаваўшы яго як вядомага кінарэжысёра, лаўрэата, народнага артыста і ўладальніка шматлікіх пасад і званняў, затым абняў за плечы Кротава, расчулена сказаў:

— Мой даўні добры сябар і аднакласнік па школе

на Замкавай вуліцы ў Віцебску Глеб Панкратавіч Кротаў.

Кротаў, папраўдзе, ніколі не быў добрым сябрам, але, расчулены сустрэчай, Серафім Іванавіч меў права на перабольшанне.

Пачуўшы такое помнае прозвішча, Ігар Валянцінавіч Набокаў мімаволі ўзняў угору левае брыво, але тут жа напусціў на твар выраз абыякавасці да нецікавага яму чалавека.

Кротава Серафім Іванавіч пасадзіў каля Мартына Мартынавіча, які адразу пацікавіўся:

— А вы маеце дачыненне да тэхнікі? — і, пачуўшы, што Кротаў не мае такога дачынення, сказаў: — Шкада...

Гасцям налілі па штрафной: Кірыла Лыкавязаў, выявілася, не п'е з таго часу, як памёр Лазар Богша; Глеб Кротаў выпіў штрафную зухавата, па-маладзецку крэкнуў і па-пралетарску панюхаў скарынку хлеба. Клаўдзя Маркаўна паклала госцю закуску, сказаўшы некалькі тых банальных слоў, якія павінны дадаваць госцю добрага настрою:

— Дык вы таксама віцебскі? Вельмі прыемна. Віцябляне — цудоўныя людзі.

Паяўленне Лыкавязава і Кротава патушыла застольную гаворку. Усе занурыліся ў талеркі, і было такое ўражанне, што надоўга. Серафім Іванавіч ліхаманкава шукаў тэму, каб ажывіць застоліцу, але ўзрушанасць, што пачалася з сустрэчы з Набокавым і закончылася сустрэчай з Кротавым, не давала яму магчымасці сканцэнтравацца. На шчасце, азваўся Іван.

— Шаноўная грамада! — пастукаў ён канцом нажа па бакале.— Я хачу засяродзіць вашу ўвагу на чалавеку, што сядзіць сярод нас, таленту выключнага і непаўторнага. На Кірылу Мацвеевічу Лыкавязаве. Чаму? Ды таму, што Кірыла Мацвеевіч ніколі не здымаў рукі з пульсу жыцця. Ён і цяпер працуе над фільмам,— Іван знарок зрабіў доўгую акцёрскую паўзу, каб заінтрыгаваць слухачоў, і тут жа звярнуўся да Лыкавязава: — Кірыла Мацвеевіч, народ чакае. Раскрыйце карты. Пра што ваш фільм?

Звыклы прымаць самыя ўзнёслыя пахвалы Кірыла Лыкавязаў адкашляўся, як бы спрабуючы свой голас, ямчэй усеўся на крэсле.

— Мне не зусім сціпла гаварыць пра свой фільм, праца над якім толькі пачынаецца. Пра гэта лепей за мяне мог бы сказаць наш кансультант, генерал Кротаў. Але ў двух словах магу сказаць, што фільм будзе пра забойства Кірава...

Эфект быў належны. Застоліца зрабіла кароткі выдых, замерла. Вось тады ў затоенай цішыні і раздаўся голас Набокава:

— Вельмі пахвальна. Але, даруйце, не разумею, на чый рахунак вы запішаце забойства Кірава?

Цяпер усе звярнулі позіркі на Лыкавязава, бо сапраўды задача здалася невырашальнай: афіцыйнай версіі наконт галоўных натхніцеляў забойства дасюль не было. А хто дазволіць самавольнічаць у такой няпростай сітуацыі?

Кірыла Лыкавязаў скептычна ўсміхнуўся.

— Я мяркую,— яе заўсёды, непаспешліва, але з намёкам на грунтоўнасць, пачаў ён,— што пошукамі натхніцеляў і арганізатараў забойства павінны займацца гісторыкі разам з юрыстамі-крыміналістамі. Шукаць арганізатараў забойстваў не справа кіно. Яно можа даследаваць эпоху, у якую здарылася забойства, дзеянні людзей таго часу, якія стаялі каля руля праўлення, іх узаемаадносіны, філасофскія погляды і іхнюю псіхалогію. Праз характары асобных дзеячаў мне хочацца выявіць намеры палітыкі і крокі палітычных дзеячаў таго часу. Я пачну фільм выступленнем Кірава на семнаццатым з'ездзе.

— Але навошта варушыць мінулае? — спалохана ўсклікнула Клаўдзя Маркаўна.— Мы і так напакуталіся за сваё жыццё. Гэтыя вечныя страхі ад таго, што ведаеш, і ад таго, чаго не ведаеш.

— Дазвольце, Клаўдзя Маркаўна, выказаць сваю з вамі нязгоду,— раптам уступіў у размову Кротаў.— Фільм Кірылы Мацвеевіча вельмі патрэбны, тоісь, пазарэз неабходны на дадзеным этапе ўсеагульных разважанняў, каб з правільных грамадзянскіх пазіцый ацаніць гістарычную панараму жыцця і падзей задоўга да другой сусветнай вайны. Не сакрэт, што многія пакрыўджаныя з затоенай, хоць і зразумелай, злосцю цяпер гатовы павесіць на Сталіна ўсіх сабак. Канечне, Сталін быў палітычным дзеячам жорсткай волі, але ж і вялікага напружання розуму, што на той час, пры наяўнасці апартуністычных ухілаў, платфор-

маў і апазіцый, было марксісцкім фактам адпору ўнутранаму супраціўленню ўладам. Уявіце, просты народ быў нацэлены на хутчэйшую пабудову камунізму, а яго збіваюць з панталыку навязваннем разумовых дыскусій, якія не згуртоўвалі масы, а сеялі разброд і ваганні ў іхніх радах. Цяпер, калі грамадства ўмацавалася, можна дыспутаваць, хоць таксама ў пэўных межах. А тады такая рознагалосіца непазбежна закончылася б анархіяй або контррэвалюцыйным пераваротам. Цяпер спрабуюць ахайваць дзейнасць карных органаў. Але, скажыце мне, якая дзяржава абыходзілася без іх? А яны таму і называюцца карнымі, бо караюць нязгодных з уладамі. Канечне, пры каласальнай маштабнасці і неабдымнасці класавай барацьбы парушэнні законнасці маглі ўсплысці на грэбені ачышчальных вод рэвалюцыйнага працэсу. Што было, тое было. Але, па-першае, рэвалюцыі не робяць у белых пальчатках, як абсалютна справядліва заўважыў таварыш Уладзімір Ільіч Ленін, а па-другое, усе парушэнні законнасці рана ці позна, але абавязкова выкрываліся і рашуча спыняліся пралетарскім мячом закона. Вінаватыя перад законам па законе і караліся. Прыкладам пралетарскай перамогі закону над беззаконнем можа служыць караючая рука, якая спыніла варожую дзейнасць не толькі такіх заўзятых парушальнікаў законнасці, як Ягода, Яжоў, Берыя, але рангам, двума, а то і трыма ніжэй, як Агранаў, Стромін, Дзімітрыеў, Броверман, Абакумаў, Румін і многія іншыя, што ў няспынным памкненні выслужыцца гатовы былі на любыя парушэнні законнасці. Аднак жа ўласна ад сябе хачу выкласці на ваш светлы погляд такую дзіўную пазіцыю сучаснай прэсы разам з радыё і тэлебачаннем: сцвярджаюць, нібы ў нас не было ні антыпартыйнага падполля, ні апазіцыі, ні шкодніцтва і сабатажу, ні класавай барацьбы і класаў наогул. А калі пад градам неабвержаных доказаў хто і пачынае прызнаваць вышэйпералічаныя факты адступлення ад генеральнай лініі партыі, дык чамусьці не называе гэта антыпартыйнай дзейнасцю, а ўсяго наяўнасцю некалькіх думак па адным і тым жа пытанні. І называюць гэта буржуазна-дэмакратычным тэрмінам — плюралізм. Як у рэальнасці, дык гэта заплюшчванне вачэй на жорсткую, бязлітасную

барацьбу ў шчыльных шарэнгах партыі, якую вялі адшчапенцы і ліквідатары здаровага курсу партыі на пабудову камунізму, а вас хочуць пераканаць, наперакор разумнаму сэнсу, што нічога падобнага не было. А рэальнасць заключаецца ў тым, што класы існавалі, і не ў тэорыі, а ў жыццёвай практыцы, і была класавая барацьба, і былі рашучыя спробы запыніць паступальны рух наперад, змяніць курс партыі ў бок буржуазнай дэмакратыі. Вось таварыш спытаўся, хто забіў Кірава? А сапраўды, хто? Прасцей простага сказаць: па загаду Сталіна. Але так скажа той, хто нічога не ведае пра навальнічную атмасферу пярэдадня семнаццатага з'езда вэкапэбэ. Па службовай неабходнасці я цікавіўся тым складаным часам, і не па чутках, а па дакументах, і магу аўтарытэтна засведчыць, што і да з'езда і ў час яго правядзення на шэрагу прыватных кватэр збіраліся змоўшчыкі, каб выпрацаваць праграму замены палітычнага кіраўніцтва цэка. Дык што цэка павінна было чакаць, пакуль яго членаў арыштуюць і пасадзяць на тую ж Лубянку або ў Ляфортаўскую турму? Хацеў бы я ўбачыць, што было б зроблена цяпер, каб стала вядома, што змоўшчыкі збіраюцца скінуць сённяшні ўрад?

Кротаў з нейкім незразумелым для Серафіма Іванавіча адценнем перавагі глянуў на Набокава, але тут жа адвёў вочы.

— Але пры чым тут Кіраў і змоўшчыкі? Ці вы хочаце сказаць, што і Кіраў быў змоўшчыкам? Таму яго і забілі? Абсурд, і ўсе вашы довады таксама абсурд,— рэзка, аж не паверылася Серафіму Іванавічу, сказаў Максімаў.

Кротаў схіліў галаву на левае плячо, паставіў вочы вертыкальна да стала, глянуў на Максімава.

— Не, такога я сказаць не хачу,— спакойна адпарыраваў ён і прадаўжаў гаварыць усё з той жа грунтоўнасцю і перакананасцю ў голасе.— А вы ўявіце сабе такі малюнак: лакаматыў сацыялізму якраз набраў разгон. Яго хутка апыняюць. Што будзе? Аварыя. Вось на гэтую аварыю ў выпадку замены цэка і Сталіна на пасту генсека і разлічвала апазіцыя, якая даўно ўжо выношвала ідэю падпарадкаваць Расію з яе багаццямі сусветнаму капіталу. Бяда ў тым, што ў пякельную пастку варожых сіл патрапіла ці мала сумленных камуністаў, якія і не

здагадваліся, што, выступаючы супраць Сталіна, яны дзейнічаюць у інтарэсах сусветнага капіталу. А контррэвалюцыя далей ужо не магла чакаць, бо бачыла відавочныя поспехі сацыялізму, які наступаў па ўсім фронце. Прыгадайце, была ажыццёўлена індустрыялізацыя. Заўважу, без пазык і кабалы з боку іншаземных банкаў, што вельмі злавала сусветную лігу банкіраў. Мільёны сялянскіх гаспадарак, перад якімі стаяла праблема малазямелля і беднасці, былі аб'яднаны ў калгасы, а калгасы пачалі набіраць сілу. Цэка партыі распрацаваў палітычную задачу канчаткова ліквідаваць эксплуататарскія класы, усталяваць сацыялістычную ўласнасць на сродкі вытворчасці. Было намечана закончыць тэхнічную рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі. Не, ворагі савецкай улады не маглі далей гуляць у хованкі.

— Я яшчэ раз пытаюся: а Кіраў тут пры чым? — з нецярплівай жорсткасцю абурыўся Максімаў.

Серафім Іванавіч аж здрыгануўся: інтуітыўна адчуў небяспеку ад Максімавага пытання — на якое ліха ўмешвацца ў непрыемную гаворку? Усе звар'яцелі на гэтай галоснасці, а не думаюць, што будзе заўтра...

— А вось пры чым,— свідруючы Максімава бураўчыкамі вачэй, спакойна сказаў Кротаў, аж Серафім Іванавіч пазайздросціў ягонай лагоднасці: такая бывае ў людзей, што перакананы ў сваёй праваце.— Сяргея Міронавіча выбралі для ахвяры невыпадкова. Ён быў чалавекам вялікай абаяльнасці. Да яго цягнуліся партыйныя работнікі. Кіраў сапраўды быў дастойны кандыдат у генсекі. Але пры ўмове, калі б не было Сталіна. Кіраў — практык тактычнага таленту. А для кіраўніцтва такой партыяй, такой дзяржавай, як наша, гэтага мала. Неабходна яшчэ стратэгічнае мысленне лідэра. Сталін якраз і быў такім стратэгам. Дамогшыся вызвалення Сталіна, ворагі сацыялізму хутка распраўіліся б і з Кіравым, абвінавацілі б яго ў некампетэнтнасці, у няведанні тэорыі. Як жа! Толькі яны маглі быць тэарэтыкамі марксізму, і ніхто іншы! А калі Кіраў выступіў на з'ездзе і прызнаў ролю Сталіна ў партыі і пабудове сацыялізму, ён зблытаў іхнія карты і падпісаў сабе смяротны прысуд. Яму не маглі дараваць такога кроку. Ды і стаўка міжнародных колаў была дужа вялікая.

Кротаў замоўк, і Серафім Іванавіч падумаў, што кротаўскія высновы да абсурднасці лагічныя, але менавіта таму і абсурдныя. Ён упершыню чуў такую версію забойства Кірава, і яму аж стала не па сабе: трэба ж было прыехаць на літаратурнае чаяванне Лыкавязаву і Кротаву, навязаць палітычныя размовы, якія Серафім Іванавіч заўсёды стараўся знівеліраваць. А што, калі Кротаў паявіўся на ягоным чаяванні не выпадкова? Можа, праверка лаяльнасці? Можа, сачэнне за Набокавым або Максімавым, які яшчэ ўвязаўся ў спрэчку. Выпілі па кропельцы, а гоману на бочку. І я добры — расслабіўся, паддаўся на правакацыю. Але, падумаўшы так, Серафім Іванавіч у душы і рассмяяўся: Кротаў даўно ўжо на пенсіі, ды і не будзе генерал займацца чарнавой работай звычайнага аператыўніка.

Застоліца маўчала. Мабыць, усе былі ўражаны высновамі Кротава.

— Вось вы кажаце, што нейкія апазіцыянеры, агенты сусветнага капіталу рыхтаваліся да захопу ўлады. Наколькі я зразумеў, гэтыя ж агенты доўгі час працавалі сумесна з Леніным, рабілі рэвалюцыю. Нешта не бачу логікі, канцы з канцамі не сыходзяцца,— нечакана для Серафіма Іванавіча звярнуўся да Кротава Цімоша.

Серафім Іванавіч зрабіў спробу перапыніць небяспечную спрэчку — нагавораць, чэрці, чаго трэба і чаго не трэба, а ты потым аддзьмухвайся з-за іх на якім-небудзь недасягальным узроўні,— але Кротаў рашучым узмахам кароткапалай рукі запыніў яго. Кротаву Серафім Іванавіч пярэчыць не стаў: ён, бадай, не скажа небяспечнага глупства.

— Чакай, Сеня, вельмі нават цікавае пытанне. Якраз той аргумент, якім зараз збіваюць з панталыку недасведчаных грамадзян, асабліва моладзь, некаторыя небескарыслівыя элементы: як так, былі разам з Леніным, былі яго вучнямі і паплечнікамі і раптам запісаны ў ворагі? Нешта не так. А калі не так, дык і не могуць быць ворагамі,— Кротаў абвёў застоліцу хітравата прыжмуранымі вачамі, якія на гэты раз не прымалі вертыкальнага становішча, і раптам рашуча ляпнуў даланёй па стале.— Могуць! І таму ёсць неабвержаныя факты.

— І якія ж, напрыклад? — спытаўся Алег Максі-

маў, якому Глеб Кротаў не падабаўся ўсё больш і больш.

— А вы, малады чалавек,— звяртаючыся не да Максімава, а да Цімошы, загаварыў Кротаў,— штонебудзь чулі пра Маліноўскага?

— Пра Маліноўскага? А хто гэта? — здзіўлена спытаўся Цімоша.

— А Маліноўскі, да вашага ведама, у свой час быў не менш вядомы ў партыі і прыбліжаны да Леніна, чым Троцкі, Каменеў, Зіноўеў, Бухарын і многія іншыя паплечнікі Леніна. А тым часам гэта быў і адзін з агентаў царскай ахранкі, як і вядомы Азеф. І што характэрна, Азефа выкрылі самі эсэры, а Маліноўскі, магчыма, так бы і застаўся не выкрыты, каб шэф жандармерыі не сказаў Радзянку, што Маліноўскі іхні агент. Якая ж адсюль выснова? А такая: калі царская ахранка магла заслаць у самае сэрца бальшавіцкай партыі, яе Цэнтральны Камітэт, свайго агента, дык чаму міжнародная жандармерыя ў асобе разведак розных капіталістычных краін не магла засылаць агентаў у бальшавіцкі цэнтр, што знаходзіўся на тэрыторыі то адной, то другой, то трэцяй імперыялістычнай дзяржавы? Майце на ўвазе, малады чалавек,— усё яшчэ звяртаючыся да Цімошы, але маючы на ўвазе ўсю застоліцу, гаварыў Кротаў,— што і даўней і цяпер кожная дзяржава, якая паважае і імкнецца засцерагчы сябе ад небяспекі і розных нечаканасцей, вымушана і робіць гэта, засылае ў рады груповак і партый, якія знайшлі прытулак на яе тэрыторыі, сваіх паведамляльнікаў. А як жа іначай прадухіліць магчымыя акцыі гэтых груповак супраць прадстаўнікоў краін, якія яны пакінулі? Гэта ж элементарна. Вось чаму я не выключаю, што такія агенты-паведамляльнікі нейкіх краін, а магчыма, нейкіх палітычных цэнтраў тыпу масонскіх ложаў, сіянісцкай лігі, ды і іншых партый, былі таксама засланы ў шэрагі бальшавіцкай эміграцыі. Разведчыя органы маюць адну вельмі характэрную асаблівасць: яны кансервуюць агентаў, бывае, не на год і не на два, а на дзесяцігоддзі, а потым робяць імі рашаючы ход. Забойства Кірава і было такім ходам пасля няўдалай спробы глабальна змяніць сацыяльны лад савецкай Расіі легальным чынам.

— Што вы плявузгаеце, чорт бы вас пабраў,—

раптам вызверыўся Алег Максімаў.— Гэтак вы і Леніна ператворыце ў агента сусветнага імперыялізму...

— А чаму не,— падхапіў Набокаў.— Была ж ходкая ў свой час версія, што зарубежнае бальшавіцкае цэка разам з Леніным — нямецкія агенты, якія пераправілі ў Петраград у браніраваным вагоне.

Серафім Іванавіч зноў памкнуўся спыніць спрэчку, якая набывала вельмі нават гарачы напал. Але Кротаў, мабыць, не прывык заставацца пераможаным. Паплямкаўшы даўжэй звычайнага губамі, ён, нібы нічога вартага не было сказана, загаварыў тым жа вязкім, але напорыстым голасам:

— Імя Леніна свяшчэнна і недатыкальна, і такое падазрэнне можа ўзнікнуць толькі ў чалавека з хісткімі ідэйнымі і маральнымі пазіцыямі. Што датычыць браніраванага вагона, дык тут, у мэтах вышэйшай палітыкі, у свой час былі дапушчаны памылкі, што выклікала непатрэбныя размовы. Засакрэціўшы шляхі і падрабязнасці пераезду зарубежнага цэка цераз кайзераўскую Германію ў Расію, арганізатары і выканаўцы акцыі далі ў рукі ворага важкія козыры для подлага паклёпу. Прыёмы пры гэтым ужываліся самыя элементарныя: калі засакрэцілі, значыць, не ўсё чыста; калі кайзераўская Германія прапусціла вагон з бальшавіцкім цэка, значыць, ёй было выгадна пераправіць яго ў Расію; калі было выгадна, значыць, усё цэка нямецкія шпіёны. А шпіёнамі і сапраўды маглі быць два-тры члены цэка.

— Па-вашаму, выходзіць, што нямецкія агенты ўсё ж былі засланы ў бальшавіцкае цэка? — з насмешкай спытаўся Максімаў.

— Усё магчыма, усё магло быць,— не стаў пярэчыць Кротаў.— Ва ўсякім выпадку, пазнейшая палітыка некаторых дзеячаў у адносінах заключэння міру з Германіяй наводзіць на сумны роздум. Кажуць, што гэта розныя звенні розных ланцугоў. А калі звенні аднаго ланцуга? І ці не той ланцуг выцягнулі на божы свет працэсы над апазіцыйнымі блокамі? Што б там ні казалі, а віна ўсіх разам і кожнага паасобку была даказана.

Алег Максімаў аж зніякавеў: разыгравае іх Кротаў ці на самой справе верыць у тое, пра што гаворыць, ці, можа, з нейкай мэтай правакуе на спрэчку? Стараючыся стрымаць раздражненне, якое ўсё мацней

ахоплівала яго, Максімаў па магчымасці спакойна, але з іроніяй, якую ён і не стараўся схаваць, звярнуўся да Кротава:

— Вы што, Глеб Панкратавіч, толькі сёння прачнуліся, праспаўшы трыццаць гадоў, і не ведаеце, што быў дваццаты з'езд партыі, асуджэнне культу асобы Сталіна, рэабілітацыя многіх невінаватых, асуджаных на смерць і доўгія гады зняволення, а сёлета адбыўся дваццаць сёмы з'езд партыі, які ўзяў курс на поўнае сціранне белых плям гісторыі, у тым ліку і вядомых працэсаў, пра якія вы гаворыце з намёкам, нібы яны даказалі віну ўсіх разам і кожнага паасобку. Але ж вядомыя вам працэсы даўно прызнаны міжнароднай грамадскасцю, як поўнасцю фальсіфікаваныя. А цяпер і наша прэса піша пра гэта, як пра факт сталінскага дэспатызму. Перачытайце стэнаграмы працэсаў. Там жа адна недарэчнасць накладаецца на другую, а ўсё разам называецца абвінаваўчым актам. Цкаванне людзей неймавернымі метадамі і сродкамі, забойствы, якіх не было, дыверсіі, якія не існавалі! Што даказана? Ды нічога, апрача дурасці тых, хто гэта даказваў.

— А вось і даказана,— з упартасцю апантанага сказаў Кротаў.— У прынцыповым плане даказана. Змова з імперыялістамі і іх разведкамі. А наконт шурпатасцяў... Што ж, не адмаўляю... Былі накладкі, была і дурасць, а больш дакладна, нясталасць і няўмеласць нашых асобных следчых змагацца з такімі акуламі юрыспрудэнцыі, якімі былі майстры апазіцыйнай дэмагогіі і верныя служкі сваіх гаспадароў. Не выключана і другое. Сярод следчых маглі быць памагатыя здраднікаў, якім было выгадна скампраметаваць працэсы. Яны і падкідвалі нявопытным следчым абсурдныя паказанні. Хто мог паверыць у тое, што Яжова, напрыклад, труцілі ў ягоным кабінеце праз замочную адтуліну? Ніхто. А ў справе такі факт праходзіць. Для чаго? А каб потым спаслацца на яго і паставіць пад сумненне вынікі ўсяго працэсу. Вораг каварны і хітры, забываць пра гэта нельга, во што я вам скажу.

Максімаў развёў рукамі, хацеў запярэчыць, ды Набокаў вельмі ў час прапанаваў перакурыць, і Серафім Іванавіч з удзячнасцю паглядзеў на яго.

## 7

Чай пілі на тэрасе. Сядзелі, вольна, можа, таму і не было палітычных спрэчак. Жартавалі, смяяліся, расказвалі розныя смешныя гісторыі, старанна абыходзячы сур'ёзныя тэмы. Нават пануры Кротаў расшавяліўся, расказаў, у процівагу Мартыну Мартынавічу з ягонай страсцю да тэхнікі, даволі дасціпны анекдот пра заядлага тэхнакрата.

Серафіму Іванавічу так і рупіла прапанаваць гасцям паслухаць Максімава, каб не парушаць традыцыі літаратурных вечароў, але ён чамусьці пабойваўся — той урывак з рамана, які яны адабралі для чытання, здаўся цяпер, пасля такой бурнай спрэчкі, непрыдатным для сённяшняга дня. Ён сам, як мог, падтрымліваў добры настрой у гасцей, каб завяршыць чаяванне на вясёлай, мілай ноце. Пра няўдалую вострую дыскусію ён стараўся не думаць. Але яна чамусьці ўсё мацней авалодвала ягонай увагай.

Нешта вяртала яго назад, у сталовую, можа, трапныя адказы Кротаву, якія ён прыдумаў толькі цяпер, а можа, жаданне яшчэ раз і ўжо спакойна паразважаць над кротаўскімі аргументамі, якія здаліся яму абсурднымі. Цяпер яны палохалі, але не тым, што было сказана Кротавым, а глыбока схаваным падтэкстам, які зараз выразна чуўся Серафіму Іванавічу.

«Чаму мне здалося, што Глеб Кротаў не дужа далёка адышоў ад Марка ў інтэлектуальным развіцці? Таму, што адразу загаварыў на нейкай мудрагелістай, з патугай на вучонасць мове? А калі ён знарок прыкінуўся гэткім прасцячком? Купіў цябе, Серафім Іванавіч, а потым і паказаў сваё сапраўднае нутро. І зусім невыпадкова ён валодае логікай і фактамі. Але ж фактаў ён так і не прывёў. Будаваў разумовыя канструкцыі. Сам? А калі не сам? Недзе ж яны спачатку абгаворваліся...»

Сярод вясёлай гаманы Серафім Іванавіч усё часцей засяроджваўся, як кажуць, выпадаў з кампаніі, і Клаўдзя Маркаўна аж двойчы звярталася да яго:

— Сіма, ачніся, што з табой?

— Нічога,— адказваў ён.

У падтэксце кротаўскіх маналогаў Серафім Іванавіч адчуваў непарушную веру Кротава ў тое, што

было, а тое, што было, рабілася, на ягоны погляд, заканамерна і правільна. Выходзіць, тое, што робіцца цяпер, робіцца няправільна, і Кротаў спадзяецца, што яно, гэтае няправільнае, будзе некалі папраўлена з усёй суровасцю і непазбежнасцю адплаты.

Палохала не тое, што гаварыў Кротаў, а як гаварыў. Яго вяшчанне ў падтэксце мела выразны сэнс: галоснасць, плюралізм, дэмакратыя, перабудова — усяго толькі эпізод гісторыі ў пэўных межах, які, пры тэндэнцыі пераступіць гэтую мяжу, будзе рашуча, бязлітасна спынены і аддадзены забыццю. А тыя, хто вельмі выпінаўся, панясуць заслужаную кару.

Серафіму Іванавічу думалася так зусім не беспадстаўна. Яму раптам выразна ўспомнілася шаснаццацігадовай даўнасці размова ў аздобленай разьбою і чаканкай харчэўні ў самым цэнтры Браціславы, куды ён зазірнуў, каб пакаштаваць забіячкі са ста грамамі баравічкі і куфлем пельзненскага піва.

Іх маленькая, але вельмі паўнамоцная дэлегацыя з чатырох чалавек чамусьці абавязкова павінна была сустрэцца з Андрэем Плаўкам, старшынёй славацкага Саюза пісьменнікаў. Той знаходзіўся недзе на дачы, кіламетраў за сто ад Браціславы, і або не хацеў сустракацца з імі, або на самай справе хварэў, як ім аб'яўлялі кожны дзень з падкрэсленай пунктуальнасцю. А пакуль іх вадзілі па кніжных выстаўках, паказвалі замежныя эратычныя фільмы, забаўлялі рознымі прыёмамі, нават у ЦК, дзе загадчык аддзела культуры паведаміў, што створана спецыяльная камісія, якая ўважліва вывучае ўчынкі кожнага камуніста ў часе падзей шэсцьдзесят восьмага года, і актыўныя ўдзельнікі падзей будуць пакараны.

Гэта было ўспрынята дэлегацыяй як само сабой зразумелае: выступіў за рэстаўрацыю капіталізму — адказвай па ўсёй партыйнай строгасці. Вось пасля гэтай гутаркі тры члены дэлегацыі надумалі прайсціся па магазінах, напакаваных прамтаварамі, а Серафім Іванавіч вырашыў пайсці ў гасцініцу і адпачыць. Але па дарозе, пабачыўшы вось гэтую харчэўню з засыўной шыльдай, не сцярпеў, завярнуў у яе.

У харчэўні нікога не было. Серафіма Іванавіча гэта нават узрадавала. Ён сеў за стол непадалёк ад выхаду. Адразу ўзнік афіцыянт. Серафім Іванавіч папрасіў забіячку, сто грамаў баравічкі і куфаль піва,

папярэдзіўшы афіцыянта, каб баравічку прынёс адразу, а піва пазней. У Славакіі баравічку п'юць пасля добрай закускі, а піва, наадварот, перад тым як пададуць страву. Афіцыянт гэтаму не здзівіўся.

Як толькі ён пайшоў выконваць заказ, у харчэўню зайшоў чалавек, вельмі падобны на беларускага дзядзьку, які служыць у нейкай зусім нязначнай установе, але абавязкова носіць пацёрты партфель. І хоць месц у харчэўні хапала, дзядзька накіраваўся да стала, дзе сядзеў Серафім Іванавіч, спытаўся, ці можна яму сесці побач. Серафім Іванавіч моўчкі кіўнуў галавой, бо не ведаў, як трэба сказаць паславацку «калі ласка». Тым часам афіцыянт ужо нёс баравічку ў пузаценькім графінчыку і марынаваны агурочак на сподачку.

— Дык вы рускі? — здзівіўся чалавек, што падсеў да стала Серафіма Іванавіча.

— З Расіі, але беларус...

Чалавек узрадавана ўскочыў, працягнуў руку на прывітанне і знаёмства, сказаў, што ён дырэктар сельскай школы і яму вельмі прыемна бачыць тут савецкага чалавека.

Серафім Іванавіч наліў яму чарку баравічкі, сказаўшы:

— Давайце вып'ем за знаёмства.

Дырэктар школы з радасцю выпіў, заказаў яшчэ баравічкі і куфаль піва і раптам ашаламіў Серафіма Іванавіча прызнаннем:

— А мяне сёння з партыі выключылі. Уступаў жа я ў партыю пад Банскай Быстрыцай у часе славацкага паўстання супраць немцаў...

У Серафіма Іванавіча так і ёкнула сэрца. У Маскве ім строга загадалі: не ўступаць ні ў якія кантакты з тымі, хто быў на баку Дубчэка. І вось уліп! Трэба была яму тая забіячка! Трапіў у нерат — ні ўзад ні ўперад! Можа, ягоную гаворку з дырэктарам, калі ён сапраўды дырэктар, запісваюць на відэаплёнку, каб потым шантажыраваць яго. Думкі былі недарэчныя — каму ён патрэбны, ды і наогул, Славакія — не Амерыка, але, нягледзячы ні на што, думалася па даўно выпрацаванай схеме інстынктыўнай самааховы вельмі змрочна.

— За што? — таксама інстынктыўна спытаўся ён.

Гісторыя, якую расказаў дырэктар школы, выгля-

дала так недарэчна, што Серафім Іванавіч не паверыў бы, каб не сутыкнуўся з такімі ж гісторыямі ў сваёй краіне.

Напярэдадні ўступлення савецкіх войск у Славакію дырэктару пазванілі з акруговага камітэта партыі, загадалі вывесіць на школе славацкі сцяг. Нават не задумаўшыся, дырэктар той сцяг вывесіў, а назаўтра прыйшлі савецкія войскі, і вось цяпер, праз паўтара года, дырэктара выключылі з партыі.

— Таварыш, што я мог зрабіць? — скардзіўся дырэктар.— Не выканаць загад акругкома партыі? Але я прывык да партыйнай дысцыпліны. Я не мог не выканаць партыйнае ўказанне, а мяне за гэта з партыі. А калі б я не выканаў указанне акругкома, а войскі не увайшлі б у Славакію? Тады мяне выключылі б за невыкананне партыйнага ўказання. Просты чалавек стаў заложнікам нейкай жудаснай сістэмы...

Серафім Іванавіч адчуў, як на лбе выступіў халодны пот. Кротаў нагадаў яму, што ўсе гэтыя радасці з прычыны перабудовы і галоснасці могуць абярнуцца нечаканай бядой. Аднойчы прачнёмся, а ніякай перабудовы няма, і правільны Глеб Кротаў атрымае права строга спытаць у яго, Серафіма Іванавіча, у Максімава, у Набокава і нават у Мартына Мартынавіча, як здарылася, што яны адступілі ад асноў ленінізму? І адпаведнае пакаранне, каб было іншым суровым урокам не адступаць ад выверанага курсу партыі.

Серафіма Іванавіча, нягледзячы на жнівеньскую цеплыню, крыху ліхаманіла. Ён не знаходзіў выйсця са становішча, у якое трапіў па сваёй неабдуманасці і славалюбстве. Навошта яму было гэтае чаяванне? Сядзеў бы сабе ціха. Дык не! Захацеў нагадаць пра сябе. А хіба цябе не вучылі паменей высоўвацца? Нічому не навучылі! А тут яшчэ гэты канфлікт з Мікітам Леанідавічам. Палез указваць, як і што рабіць у сувязі з аварыяй. А ўсё Максімаў. Падбіў... Цяпер гэтае чаяванне. Кротаў нездарма намякнуў, што перад забойствам Кірава, у часе семнаццатага з'езда, некаторыя дэлегаты збіраліся па кватэрах, каб абмеркаваць пытанне, як скінуць Сталіна.

У сэрца балюча кальнула. Серафім Іванавіч чакаў, што боль, як бывала ўжо не раз, адразу і супакоіцца, але ён трымаўся, і ўжо аддавала ў плячо і пад левую

аповесці, апавяданні, але сабралі ўсе выказванні, артыкулы, пісьмы, дзённікі і паштоўкі. Ды тут жа пасля памінак і забудуць на свае словы, намеры і клятвы — асабістае, крэўнае захопіць іх у палон, з якога ім не выбрацца да канца свайго ўладарання.

Раптам Серафіму Іванавічу падумалася, што ён, бадай, памёр даўно; на зямлі існавала ягоная абалонка, магчыма, цень, а сам ён ляжыць недзе на ціхіх могілках, у далечыні ад бытавой мітусні, пад сціплым помнічкам з лапідарнай эпітафіяй. Але калі ён памёр? А хто з памершых памятае дату сваёй смерці?

— Ад чаго цябе адарвалі? — як бы здаля даляцеў голас Святланы, і Серафім Іванавіч вярнуўся з цяжкай задуменнасці ў дачны быт: у сталовай, дзе яны стаялі, яшчэ не прыбралі стол з рэшткамі ежы і выпіўкі.— На якога чорта табе гэтыя прывідныя пасады? Грошай табе не хапае? Славы? Ды яны, гэтыя твае пасады, як і многія ў нас, амаральныя і нават злачынныя. Нізавошта атрымліваць грошы, калі ў людзей цяжкай працы няма за што пракарміцца. Гэта ж павінна быць вельмі сорамна: у цябе тысячы, а ў якой-небудзь бабулькі, што страціла на вайне мужа, няма за што купіць лякарства. Нізавошта атрымліваць грошы ды яшчэ рабіць выгляд, што ты нешта робіш, чымсьці або кімсьці кіруеш! Калі ў цябе захавалася сумленне і хоць кропелька разумнага стаўлення да тваёй пасады, дык ты мусіш бачыць, што нікім і нічым ты не кіраваў, што пісьменнікі і без тваёй пасады пісалі кнігі і, можа, нават лепш, чым пры тваёй пасадзе. Суніміся ты, тата, падумай пра сябе, пра сваю творчасць, ты ж мог напісаць лепей, а ўсё азіраўся, усё баяўся, не дай бог не дагаджу начальству, не дай бог пазбавяць пасады. А гэта быў бы твой ратунак, а не бяда. Божа, да чаго людзі любяць гуляць у грамадскую дзейнасць!..

Серафім Іванавіч быў уражаны: Святлана гаварыла тое ж, пра што апошнім часам думаў ён: і пра пасаду, і пра прытворства, і пра падладжванне пад начальніцкія густы і капрызы. Але калі пра гэта ён думаў сам, яму не было так балюча. Святлана па жывому крамсала сэрца. Во ўжо гэтыя сучасныя ўрачы!..

Серафім Іванавіч узяў са стала распачатую

бутэльку каньяку. Клаўдзя Маркаўна адразу кінулася напярэймы:

— Сіма, не дай бог што здарыцца, скажуць, напіўся...

Серафім Іванавіч бутэльку не аддаў.

— Дык што, табе лепей цвярозы труп, чым жывы пісьменнік? — пажартаваў ён.

— Абсалютна не беражэ сябе,— паскардзілася падчарыцы Клаўдзя Маркаўна.

— Давай, Ігнат, вып'ем,— Серафім Іванавіч разліў каньяк па фужэрах.— Там не дадуць,— паказаў ён на столь, што можна было зразумець, як там, на небе, і як там, на тэрасе.

Выпіты каньяк прагнаў клубок, што падкаціў пад горла. Адразу палепшыўся і настрой.

— Дужа ты разумная,— сказаў ён Святлане.— А мы іначай жыць не ўмелі. Усё верылі, што робім на карысць народа і пасады нашы на карысць народа. Таму і трымаліся іх: не для сябе, для народа!

— Для народа Цімоша робіць,— у піку бацьку сказала Святлана.

— Што ты вярзеш? — абурыўся Серафім Іванавіч.— Для якога народа? Яно, канечне, абмываць паралітыкаў, можа, і міласэрна, але вялікага розуму не трэба.

— Ты, тата, са сваіх вышынь не хочаш апусціцца не грэшную зямлю нават тады, калі гаворыш пра яе боль. А гаворыш пра боль, каб выставіць сябе чулым. А Цімоша не гаворыць — робіць.

— Святлана, перастань,— абурылася Клаўдзя Маркаўна.

— І што ж твой Цімоша робіць? Зады падцірае?

Святлана паківала галавой:

— Ах, тата, тата, ты,мусіць, і не ведаеш, што твой сын прэзідэнт нейкага там саюза, фонду ці нават партыі пэсээм — працы, справядлівасці і міласэрнасці.

Клаўдзя Маркаўна аж пляснула ў далоні: яна пра сынаву дзейнасць чула ўпершыню і вельмі напалохалася: тутэйшыя, талака, цяпер яшчэ нейкая пэсээм, прэзідэнтам якой з'яўляецца Цімоша.

— А яна хоць законная?..

— Каб была законная, дык Цімошу не цягалі б па міліцыях, не рабілі б вобыскі,— адказала Святлана.

Серафім Іванавіч, не кажучы ні слова, пайшоў са сталовай. За ім падаўся зяць, замыкалі шэсце Клаўдзя Маркаўна са Святланай. У цішыні на тэрасе нехта чытаў дзіўны верш: малітву? закліканне? праклён? заклік? Серафіму Іванавічу здалося, што верш чытае Цімоша. Аж не, верш чытаў паэт філасофскага напрамку. Каб не перашкаджаць яму, Серафім Іванавічам з зяцем спыніліся ў кабінеце, падалі знак жанчынам, каб і тыя замаўчалі.

— А вось і мы,— як толькі паэт кончыў чытаць верш, Серафім Іванавіч выйшаў на тэрасу.— Дазвольце пазнаёміць, хто незнаёмы, з маёй старэйшай дачкой Святланай Серафімаўнай і яе мужам Ігнатам Васільевічам Сладкевічам — савецкімі эскулапамі з высокай кваліфікацыяй і з дужа нізкай зарплатай, што ў першым выпадку справядліва, а ў другім сведчыць пра нячулыя адносіны грамадства да спецыялістаў, якія лечаць савецкіх грамадзян гэтага няўдзячнага грамадства...

Серафім Іванавіч адчуў, што яго занесла, што ён гаворыць нейкую абразлівую лухту для дачкі і зяця, а таму азірнуўся, баючыся сустрэць дакорлівы позірк Святланы. Яна ж стаяла ў якойсьці засяроджанай паставе, утаропіўшы вочы ў паэта філасофскага напрамку. Той, мабыць, адчуў яе позірк, замітусіўся вачамі, згорбіўся, прыкрыў верх жывата, зацкавана азірнуўся.

— Лёнік,— вельмі ціха, як бы баючыся каго спалохаць, сказала Святлана і раптам крыкнула грухім, як рыданне, голасам: — Божа мой, Лёнік! Тата, гэта ж Лёнік!..

— Што ты вярзеш? — ашаломлены яе крыкам, таксама закрычаў Серафім Іванавіч.

— Вы памыляецеся. Я не Лёнік,— спалохана адказаў паэт і паглядзеў на Цімошу.

— Ён не Лёнік,— пацвердзіў Цімоша.— Ён Грыша Няпомняшчы...

— Ён Лёнік,— неяк апантана гаварыла Святлана, ідучы да паэта.— Не бойся, я нічога не зраблю благога. Я толькі пакажу радзімы знак на тваёй правай грудзіне, над саском. Такі, як у таты, толькі ў яго ён злева.

Святлана таропка расшпіліла кашулю, агаліла правую грудзіну, і тады ўсе пабачылі: сапраўды над

саском ляпілася карычневая плямка, нібы хто паставіў яе пальцам, намазаным карычневай масцікай.

Серафім Іванавіч пачуў, як балюча кальнула ў сэрца, як карычневая плямка на паэтавых грудзях пачала расплывацца, забірацца на неба, падабралася да сонца і раптам закрыла яго. Настала абсалютная цемра. Нехта недзе роспачна закрычаў.

## Частка шостая:

## вяртанне на кругі свая

### 1

Вынырнуўшы з небыцця, Серафім Іванавіч убачыў зямліста-шэры твар пад белай шапачкай, насунутай на лоб да вузенькіх залацістых броваў. Жанчына моцна сціскала тонкія вусны, аж чорныя, можа, ад той жа сцятасці; здавалася, яна нечага злуецца, таму і сціскае губы, але жоўтыя з іскрынкамі вочы нязлосна глядзелі вышэй ягонай галавы, мабыць, туды, дзе нешта звонка адбівала такт, як некалі адбівалі такт іхнія крокі на пустацелых плітах сабора, калі яны ўтрох ішлі нага ў нагу да царскіх варот. Тады вось так зверху, з-пад купала, даносілася водгулле іхняй хады, а жаўтлявы агонь тоўстых свечак хістаў на сценах іхнія цені. Цяпер ценяў не было...

Сабор і тая ноч прыгадаліся зусім недарэчы: сабор у тую ноч асунуўся, як падстрэлены на полі журавель — назаўсёды загінуў для нашчадкаў,— ноч таксама мінула, як і мноства начэй,— беззваротна. Але ж іхнія цені — сабора і ночы — трывожна прыходзілі ў сне, і Серафім Іванавіч не з чужых расказаў ведаў, якая гэта жуда — *цені былых часоў.* Ад іх няма збаўлення, да іх ніколі не прывыкнеш, і кожны раз, калі яны нагадаюць пра сябе, не зменшыцца страх — *зробленае да скону дзён застанецца з табой.*

Некалі, на схіле жыцця, вотчым сказаў яму: «Ды каб я пабачыў, што зробленае мной — зроблена не на карысць нашай справе, я даўно трапіў бы ў вар'яцкі дом».

Вотчыму можна было паверыць, хоць Серафім Іванавіч ніколі да канца яму не верыў. У таго былі сталёвыя нервы і казліная ўпартасць — нават прыціснуты да сцяны фактамі, ён прадаўжаў сцвярджаць сваё. Некалі гэтыя рысы вотчымавага характару падабаліся, пасля прыводзілі да роспачы. Цень вотчыма, як і цень сабора, выклікалі ў Серафіма Іванавіча падсвядомы страх.

Цяпер думкі надзіва марудна праплывалі ў галаве, не выклікаючы пачуццяў або нейкай узрушанасці. Звычайнае водгулле даўніх часоў, якое невядома чаму наявілася, як толькі ён вынырнуў з небыцця. Так, прынамсі, здавалася самому Серафіму Іванавічу. Ён усё яшчэ знаходзіўся паміж жыццём і небыццём: жанчына з жоўтымі вачамі сведчыла, што ён вярнуўся ў жыццё, а вялыя думкі пра цені мінулага нагадвалі страшны суд на тым свеце. Суд быў не вельмі страшны, можа, таму, што душа Серафіма Іванавіча засталася недзе на зямлі разам з ягонымі грахамі. Сюды ён прынёс толькі цень грахоў, нават не цень, а невыразны ўспамін пра нешта нявартае ўвагі, падслепаваты агеньчык, убачаны ў тумане гадоў.

Няўжо такое можа быць? А хіба чалавек там не раздвойваецца, не растройваецца, не расчацвяраецца? Яшчэ як! Не пазнаць, які ж ён сапраўдны.

У яго балела змучанае цела — гуло, як правады ў непагоду. Боль таксама сведчыў, што ён вярнуўся ў жыццё.

— Як вы сябе адчуваеце? — чорныя сцятыя вусны растуліліся, а вочы, перастаўшы глядзець паўзверх ягонай галавы, мякка слізганулі па ягоным твары.

Сэнс такіх простых слоў, аднак, цяжка даходзіў да свядомасці Серафіма Іванавіча. Нешта перашкаджала ўспрымаць іх. Як ён адчувае сябе? А як можа адчуваць сябе бервяно? Чаму бервяно? Яно таксама цень мінулага? Можа, яно сімвал нечага вечнага? Серафім Іванавіч, як ні напружваўся, не мог успомніць, сімвалам чаго было бервяно. Чалавекам без галавы? Смешны, дзікі сімвал: чалавек без галавы — труп. А ён — не труп. Ён чуе, што ў яго ёсць галава. Яна ляжыць на чымсьці гарачым і мяккім, як прысак, і раздзімаецца, а потым, праткнутая чымсьці тонкім і вострым, становіцца маленькай і лёгкай.

Трэба было адказваць на пытанне — жанчына чакала адказ. Серафім Іванавіч паварушыў губамі — голас засеў у горле ад хвалявання. Затое другі чалавечы голас недзе далёка-далёка ўзрадавана сказаў:

— Можна зварачваць...

Метраном, які дасюль спраўна адбіваў такт, заціх, і па ўсім свеце запанавала гаючая цішыня, а ў вачах Серафіма Іванавіча крыху пасвятлела. Ён скеміў, што

ляжыць у рэанімацыі, убачыў столь, сястру і дзве свечкі ў ягоных нагах з зыркім полымем на канцы кнатоў. Свечкі гарэлі ярка. А яны навошта тут, у рэанімацыі? Ці, можа, гэта зусім не рэанімацыя? Серафім Іванавіч заплюшчыў вочы.

Адразу замест бесклапотнага ўспаміну перад ім узнік з ценю ночы цень асеўшага на зямлю сабора з залатым крыжам на купале. Магутны выбух абрынуў купал на сярэдзіну сабора, патрушчыў сцены, але сам купал уцалеў, збярог на сабе і крыж, які не ўдалося зняць.

Уласна кажучы, сабор і ўзарвалі з-за гэтага крыжа, які быў відаць вёрст за дваццаць і якога ніяк не маглі зламаць, звярнуць, скінуць з недасяжнай вышыні — сабор стаяў на кручы, на самым высокім месцы горада. Крыж як бы пацвельваўся з чалавечай бездапаможнасці: ага, я пастаўлены на вякі і ніхто не можа мяне скінуць, бо я вечны. Таму і ўзарвалі сабор, каб зрынуць крыж на зямлю: не пацвельвайся, мы і не тое зламалі!

І сам Серафім Іванавіч быў зламаны, а можа, наадварот, умацаваны ўдзелам у звяржэнні сабора. Можа, таму цень сабора цяпер не вельмі палохаў. Хоць не, не таму. Той даўні цень перакрыў другі, больш блізкі, густы і страшны. Ён наявіўся зусім нечакана для Серафіма Іванавіча, нібы і тут ён быў удзельнікам, а не звычайным гледачом-сведкам. То быў цень генералісімуса, якога магутныя танкі «КВ», напяўшы сталёвыя тросы, спрабавалі сцягнуць з мармуровага п'едэстала.

Серафім Іванавіч, не запальваючы ў кабінеце люстру, схаваўшыся за аксамітную штору, стаяў перад акном, якое выходзіла на плошчу, на гэты самы манумент. За акном, у святле пражэктара, на апусцелай плошчы, чорнай, абкружанай ці не трыма ланцугамі вайскоўцаў, стаяў генералісімус, аблытаны сталёвымі тросамі, і два танкі, прыплюснутыя да зямлі, чмыхаючы гарам, гатовы былі рвануць за тросы, паваліць на брусчатку бронзавую постаць, якая адкідала на суседні дом чорны, зламаны цень. Серафіма Іванавіча ліхаманіла, як тады, калі яны ўтрох ішлі да царскіх варот, каб падпаліць бікфордавы шнур, а на іх са сцен пазіралі святыя. І тады і цяпер Серафімам Іванавічам валодаў страх: тады перад бо-

гам, цяпер — перад генералісімусам. Мабыць, тады ліхаманіла і Марка Удоева, ягонага вотчыма, які толькі прыкідваўся, што яму нічога не страшна. Таямнічыя сілы заўсёды наганялі страх на чалавека. Генералісімус наганяў страх большы за божы. Бог быў абстракцыяй, а генералісімус — явай, ад якой на зямлі не схаваешся. Бог караў там, у замагільным свеце, якога, можа, і не было, генералісімус караў тут, на зямлі, якая існавала ў жывой рэальнасці. Цяпер генералісімуса не баяліся, а можа, толькі рабілі выгляд, што не баяцца. Саміх жа ліхаманіла.

У цемры на дахах будынкаў, што акружалі плошчу,— як толькі яны туды забраліся? — стаялі чалавечыя постаці — сведкі,— якія, нягледзячы на забарону, хацелі на свае вочы пабачыць, як будуць скідваць правадыра, настаўніка, генералісімуса, мудрэйшага з мудрых, карыфея сусветнай навукі. І гэта выклікала жах. А як жа: застаюцца сведкі!..

Серафім Іванавіч імгненна азірнуў тых, хто забраўся на дахі будынкаў, і тут жа ягоны позірк скіраваўся да манумента. Святло пражэктара ўпіралася ў бронзавую аграмаду; унізе каля яе, дзе гусцела цемра, варушыліся людзі. Серафім Іванавіч глядзеў на іх і думаў, што яны, няйначай, адчуваюць сябе так, як адчуваў сябе ў саборы ён, Серафім Іванавіч Недасейка, хоць гэта не дадзена было нікому ведаць. І думкі гэтых людзей, што зараз кіравалі знясеннем манумента, застануцца навекі тайнай. Дзіўныя ўчынкі людзей! Людзі і самі не ведаюць, што робяць. А можа, ведаюць? Тады што ж, прыкідваюцца? Усё жыццё? Чаму? Магутна зараўлі танкі, выкрасаючы з-пад гусеніц агонь, ірванулі ў разлад, заскрыгаталі аб сухую брусчатку плошчы. З прыцмокваннем, са свістам раптам мільгануў у паветры трос, аж папрысядалі людзі ля пастамента. Танкі адразу спыніліся.

За спіной Серафіма Іванавіча нехта задаволена гыкнуў, нібы нёс непасільны цяжар, данёс, кінуў на зямлю і, вызваліўшыся ад яго, узрадаваўся.

— Ну што, такую іх растакую, не адолелі?! Дык жа мы яго ад пралетарскай душы на вякі адчаканілі, і ніякімі безыдэйнымі тросамі яго з п’едэстала заслуг не скінуць і не сагнуць...

Голас пачуўся аднекуль з глыбіні кватэры, аж Серафім Іванавіч скалануўся: можа, ён сказаў нешта

забароненае і яго падслухалі. Не, у холе, перад кабінетам, стаяў ягоны вотчым Марк Удоеў у белых падштаніках і ў «дынамаўскай» майцы, падоранай яму футбалістам мінскага «Дынама». Ад промня пражэктара, што нечага паласнуў па акне, Маркава вока бліснула сінім фасфарычным святлом.

— Чаго ты ўспёрся?.. Табе ляжаць трэба,— сказаў Серафім Іванавіч.

— Мала ён іх давіў, паразітаў, на целе рэвалюцыі,— не мог супакоіцца Марк.— Двурушнікі і палітычныя гады рабалепствавалі, а самі камень за пазухай насілі. Цяпер яны ўсё на яго зваляць, каб брудам запэцкаць. А хто мясарубку круціў? Яны! Круцілі, каб адзін аднаго зваліць, каб на чужых плячах на самы верх забрацца. Ды я іх усіх, маць іх перамаць...

Марк мацюкнуўся дзесяціпавярховым матам. Мабыць, яму добра прыпякло, калі ён гэтак злосна вылаяўся. Серафім Іванавіч адарваўся ад акна, выйшаў у хол, закурыў.

— Але ж і тое ўлічы, што нямала загінула невінаватых,— сказаў ён.

Марк, як заўсёды, не прымусіў доўга чакаць: у яго на ўсе выпадкі быў падрыхтаваны адказ.

— Ды каб я пабачыў, што зробленае мной — зроблена не на карысць нашай справе, я даўно трапіў бы ў вар'яцкі дом.

Ён сказаў гэта з упэўненасцю чалавека, які заўсёды ведаў, што робіць і што робіць гэта правільна. Серафім Іванавіч запярэчыў, хоць не любіў спрачацца з вотчымам.

— Па-твойму, усе былі вінаватыя і ніякіх памылак не было?..

— Усе,— адрэзаў Марк і, мабыць, спахапіўшыся, што сказаў лішне катэгарычна, пачаў тлумачыць свой пункт погляду, найначай выпрацаваны апошнім часам, як пачалася барацьба з культам асобы: — Ты, Сеня, зразумей: контррэвалюцыя — не міф. Я яе сваімі вачамі бачыў, на свой зуб каштаваў. Яна да нас з усіх шчылін лезла: і справа, і злева, і па цэнтры. Ты яе па кніжках ды фільмах ведаў — гэткія губашлёпы з пенснэ на носе. А контррэвалюцыя — я табе з усёй пралетарскай праматой заяўляю — была грознай сілай на ўсіх гістарычных этапах сацыялістычнай

рэвалюцыі. І хто адмаўляе гэта, той або ні чорта не разумее, або з'яўляецца нашым класавым ворагам. Чакай, чакай, я ведаю, пра што ты скажаш: дзе база для яе росту, тая д'ябальская кухня, на якой контррэвалюцыя выпякалася? Адказваю: прыватная ўласнасць. Многія і цяпер спяць, а свой хутар, задрыпаную майстэрню ў снах бачаць. Мы рэвалюцыйным метадам гэтую д'ябальскую кухню павінны былі з коранем выкарчаваць і выкарчавалі. Не думай, быццам нацыяналізацыя, а потым і калектывізацыя маглі прайсці гладзенька, па бесканфліктнай праграме. Ды ўласнік за сваю ўласнасць горла перагрызе. Вось і даводзілася адступаць і зноў наступаць, але ж мы перамаглі, загнаўшы асінавы кол у горла дробнабуржуазнай псіхалогіі. І таму мяне вельмі здзіўляе, калі цяпер некаторыя пісакі з вашага кола гатовы ліць ваду на варожы млын, спрабуючы прарэвізаваць правільнасць палітыкі партыі па нацыяналізацыі і калектывізацыі краіны. Ды мы ніколі не выстаялі б у барацьбе з фашызмам, каб не правялі індустрыялізацыю і калектывізацыю. І няма чаго плявузгаць, нібы не было ніякай класавай барацьбы, а толькі рэпрэсіі супраць працавітага рамесніка і сялянства. Ды ці толькі гэта сведчыць пра марскісцкую дальнабачнасць у барацьбе з любымі адхіленнямі ад генеральнай лініі партыі? Вялікая Айчынная вайна паказала з відавочнасцю абсалютнай ісціны, каб не было трыццаць сёмага года, дык мы мелі б уласаўскую армію ўдвая большую, і тады яшчэ невядома, што адбылося б. Усякая контра чула сваю пагібель і ў страху перад смерцю агрызалася і кусалася без аніякай літасці. Ты вось засумняваўся, ці былі невінаватыя? З усёй партыйнай адказнасцю сведчу: былі!.. Але ты мне на такое пытанне адкажы: а чаму яны не даказвалі сваю невінаватасць?

— Як жа дакажаш, калі дапытвалі... катавалі... Чорт ведае якія абвінавачанні прад'яўлялі...

Марк з жалем паглядзеў на Серафіма Іванавіча, аж таму зрабілася вусцішна.

— Чуткі пра катаванні не так перабольшаныя, як інспіраваныя тайнымі ворагамі савецкіх органаў бяспекі, гэтага караючага мяча рэвалюцыі. Парушэнні, вядома, былі. Але чаму? Каму яны былі выгадны? А ўсё тым жа нашым ворагам, якія

і ў органы бяспекі заслалі сваіх агентаў, і тыя рабілі ўсё, каб дыскрэдытаваць нашу вялікую справу.

Не, з Маркам абсалютна немагчыма было гаварыць. У яго на кожны выпадак былі свае тлумачэнні, і пераканаць яго ў адваротным было марнай справай.

Марк быў задумаўся, як бы шукаючы зыходны момант той гаворкі, якую вёў з Серафімам Іванавічам. Мабыць, успомніў, бо загаварыў з яшчэ большай упэўненасцю ў сваёй праваце:

— Ага, дык з прычыны вінаватых-невінаватых. На каторага пальцам кіўні, а ён ужо ў штаны наклаў і на каго хочаш, хоць на роднага бацьку, накляпае і не пачухаецца. Дык вось і скажы мне, Серафім, на якога хрэна такія слабакі ў светлым нашым будучым — камунізме — патрэбны? Як гэта там у Пушкіна ці Горкага: у чалавеку ўсё павінна быць прыгожае. А што з такімі псеўдапартыйцамі было б, каб яны да ворага трапілі і іх там дапытваць пачалі? У ворага ж арсенал катаванняў будзь здароў, а камуністы з рэвалюцыйнага падполля ўсе пакуты вытрымлівалі і нікога з таварышаў не выдавалі. Вось так, дружа мой сардэчны, таракан запечаны. Ты, браце, на з'яву звонку глядзіш, а я яе знутры выгледзеў. Народу, Сеня, правадыр патрэбны, народ без правадыра ў трох соснах заблудзіцца, і таму прыклад цяперашняя анархія. Помнік найвялікшаму чалавеку эпохі руйнуюць! Ды кожны народ ганарыўся б такім правадыром, а мы... У цябе знойдзецца чым прамачыць горла? Мутарна!..

Серафім Іванавіч быў рады, што вотчым загаварыў пра выпіўку. З таго часу, як пачалося выкрыццё культу асобы, Марк хадзіў, як чорная хмара над лесам. Быў усё такі ж непрыступны, непрымірымы, але нешта ўжо ў ім абвяла, як вяне расада, перасаджаная пад сонцам на грады. Серафім Іванавіч такога Марка пабойваўся.

Яны пайшлі на кухню. Святла чамусьці не было. Серафім Іванавіч запаліў дзве дэкаратыўныя свечкі — чырвоную і белую,— дастаў з буфета бутэльку «Маскоўскай», чаркі.

— Кінь цыркацца. Давай фужэры,— закамандаваў Марк.

Ён выпіў фужэр залпам, закурыў папяросу «Герца-

гавіна флор». Па кухні паплыў казытлівы водар папяроснага дыму.

— Я во пра што думаю,— пасля нядоўгага маўчання сказаў Марк.— Чаму яны з такой зацятасцю і падазроным аднадушшам наваліліся на яго?.. Розумам не дапяць. Але ж і не так сабе...

У дзверы нехта настойліва грукаў. Да Серафіма Іванавіча доўга не даходзіла, чаму чалавек не звоніць, а грукае ў дзверы. Нарэшце дайшло — няма святла. Узяўшы свечку, Серафім Іванавіч пайшоў адчыняць. На лесвічнай пляцоўцы стаяў п'яненькі Язэп Каня.

— Не зважай,— палез ён цалавацца да Серафіма Іванавіча,— і не падумай, што напіўся з жалобы па бацьку і настаўніку. Ён быў вылюдкам роду чалавечага, дэспатам, якіх не ведаў свет. У мяне выйшла кніга, і я пры грашах. Вазьмі партфель. У ім ёсць што выпіць і чым закусіць...

Язэп Каня пайшоў на агеньчык, што цадзіўся з кухні. За сталом, паклаўшы галаву на складзеныя рукі, ціха рыдаў, уздрыгваючы целам, Марк Удоеў.

— Ты чаго, Марк? — спалохаўся Серафім Іванавіч.

— А ты глянь, глянь! — як апантаны, закрычаў Марк.— Яго ж няма! Скінулі!

Ён крычаў як рэзаны. Серафім Іванавіч пабег у кабінет — сапраўды, манумента ўжо не было, але цень ад яго застаўся. Серафіму Іванавічу аж зрабілася жудасна: генералісімуса няма, а цень застаўся. Толькі супакоіўшыся, ён разгледзеў, што на пастаменце з адбойным малатком стаіць чалавек у касцы, і гэта ягоны цень адбіваецца пражэктарам на фасадзе суседняга дома.

Серафіму Іванавічу было страшна расплюшчыць вочы: трэба ж, каб адразу такое прытрызнілася: сабор, генералісімус, Марк. А іх даўно ўжо няма на свеце.

Можа, не было і свечак, што гарэлі ў ягоных нагах? Што за асацыяцыі, як у тэатры абсурду. Трэба асмеліцца і расплюшчыць вочы.

Ён намогся з усяе сілы — на ягонае здзіўленне, павекі расклеіліся нязмушана і лёгка. Сястра ўсё яшчэ стаяла ў той паставе, у якой была, калі ён спалохаўся дзвюх запаленых у ягоных нагах свечак: імгненне, якое ўвабрала ў сябе цэлую эпоху.

Дзве свечкі, што напалохалі яго, аказаліся звычайнымі кропельніцамі, у шкляных цыліндрах якіх з нейкай вадкасцю адбіваліся сонечныя промні. Ад кропельніц да ягоных рук цягнуліся гумавыя трубкі, а там, дзе іголкі ўпіваліся ў набухлыя вены, трубкі прыціскаліся да рук ліпкім пластырам — крыж-накрыж. За ложкам, у нагах, адна на адной грувасціліся чорныя скрыні. Ад іх цягнуліся рознакаляровыя правады. Толькі цяпер ён заўважыў, што аблытаны правадамі, як быў аблытаны манумент генералісімуса тросамі. Але гэта не ўзрушыла яго. Ён бясстрасна глядзеў на правады, на кропельніцы, на свае раскрыжаваныя рукі, на сястру з зямлістым тварам, на ўсё на свеце, што недзе жыло, рухалася, мітусілася, змагалася і знемагалася.

Яго здзівіла іншае: ён адчуў сябе нейкім інакшым, не такім, якім быў учора, заўчора, месяц, год, дзесяць гадоў назад. Нешта ў ім перайначылася, змянілася, нібы ён зазірнуў у глыб чагосьці і адкрыў там такое, чаго раней не заўважаў. Але што ў ім змянілася, што перайначылася, што і чаму ён стаў бачыць і чуць глыбей і чаму глыбей, на гэта ў яго не было адказу. У ім жыло адчуванне, якое не магло быць выказана словамі, а толькі адчута. Праўда, Серафіму Іванавічу падумалася, што некалі, магчыма, ён напіша пра сваё гэта адчуванне перамены і дойдзе розумам, якая гэта была перамена, але цяпер мозг не хацеў аналізаваць яе з развагай крыміналіста.

І тут яго спасцігла адкрыццё: ён не памятаў, пра што пісаў. Усё ім напісанае забылася. Не, ён памятаў, што пісаў, але пра што? У яго выступіў на лбе халодны пот. Чорт яго ведае, чым бы гэта скончылася, каб у белым прамавугольніку дзвярэй не паявілася манументальная постаць доктара з такім жа, як у сястры, зямлістым тварам.

— Знімайце,— загадаў ён сястры, і Серафім Іванавіч падзівіўся лапідарнасці ягонага распараджэння. Сястра пачала скручваць правады, а доктар паскардзіўся Серафіму Іванавічу: — Ну, і паваждаліся мы з вамі...

Ён пайшоў. Сястра ўжо выцягвала іголкі з вен.

— Калі што спатрэбіцца, націсніце вось гэтую кнопку,— сказала яна.

Немаладая нянечка памагла ёй выкаціць за дзверы

скрыні, вынесці кропельніцы. Серафім Іванавіч адчуваў, як да яго, нібы з далёкага і цяжкага падарожжа, вяртаецца ява: тэлефонны званок на стале дзяжурнай сястры, на які ніхто не спяшаецца адказваць, нечы далёкі смех, анямеласць спіны, рук, ног, белая столь з трэшчынамі над дзвярамі, нікеліраваная спінка ложка, сястра, якая нарэшце падышла да тэлефона, не тая, з зямлістым тварам, а другая, маладая, крамяная, з туга нацягнутым на грудзях халатам.

Цяпер Серафім Іванавіч мог азірнуцца, хоць яму і наказвалі ляжаць ціха, не варушыцца. Ён павярнуўся на правы бок. З ложка насупраць на Серафіма Іванавіча пільна глядзеў шэрымі выцвілымі вачыма незнаёмы чалавек.

## 2

— Я быццам недзе вас бачыў,— без лішніх прадмоў сказаў ён.— Памяць, халера на яе, зусім дзіравая стала. Як ваша прозвішча? Маё — Дзерняковіч Тодар Тодаравіч.

— Недасейка Серафім Іванавіч...

— Ну чуў... Бадай, не сустракаліся,— сказаў Тодар Тодаравіч.— А вы ў якім ведамстве рабілі?

— Як вам сказаць... — збянтэжыўся Серафім Іванавіч.— Я — пісьменнік.

— Як вы назваліся? Недасейка?.. Не, не чуў. Недасейка?.. Недасейка... А вы па прафсаюзнай лініі не праходзілі?..

Серафіму Іванавічу стала непрыемна: яго, вядомага пісьменніка-раманіста, аказваецца, не ведаюць нават у коле наменклатурных работнікаў, прымацаваных да гэтай бальніцы. А можа, гэты і не адзін такі? Бадай, не адзін. Вось табе і слава і вядомасць! Хоць чаго там! Сярод наменклатуры ці мала такіх, што за сваё жыццё не разгортвалі ніводнай кнігі, апрача хіба тэлефоннага даведніка. Ды і той разгортвалі не самі, а сакратаркі. І ўсё адно было крыўдна. Чорт пабяры, яго ж творы вывучаюць у школах не адно дзесяцігоддзе. Дык што там робяць у тых школах, калі нейкі Дзерняковіч нават не чуў ягонага прозвішча? І тое, што Дзерняковіч быў старэйшы за яго, не мела ўжо ніякага значэння. Былі ж у гэтага Дзерняковіча дзеці, унукі, вучыліся ж яны ў школе, і калі яны не ведаюць

яго, Недасейку, дык вінаваты ў першую чаргу ён.

Серафім Іванавіч разумеў, што ягоная крыўда смешнаватая, але ўжо нічога не мог зрабіць з сабой — крыўдаваў па-дзіцячы шчыра.

— Я вас таксама не ведаю,— помсцячы Дзерναковічу, сказаў з выклікам Серафім Іванавіч.

Ён быў абсалютна перакананы, што Дзернаковіч пакрыўдзіцца, бо наменклатуршчыкі таксама не любілі, калі іх не ведалі. Народ павінен ведаць сваіх кіраўнікоў!

Дзернаковіч, аднак, не зрэагаваў, быццам яго гэта і не датычыла. Серафіму Іванавічу здалося, што чалавек гэты як бы несапраўдны.

Ці мала давялося Серафіму Іванавічу сядзець у прэзідыуме ўрачыстых вечароў, пасяджэнняў, сходаў, сесій, высокіх нарад, і таму ён ведаў даволі вялікае наменклатурнае кола, якое патрэбна было ведаць не толькі ў твар, але вітацца і нават называць яго прадстаўнікоў па імені і па бацьку. Дзернаковіча Тодара Тодаравіча ён не памятаў і прозвішча такога не чуў. Але ж Тодар Тодаравіч ляжаў тут, а тут маглі ляжаць людзі толькі пэўнага кола. Значыць, Тодар Тодаравіч не збоку прыпёку да наменклатурнага кола, а паўнапраўны яго член, хоць, напэўна, не з вярхоў, а нізавая кадра з вялікім партыйным стажам, адзін з тых даўніх вылучэнцаў, якія па нейкім закліку паехалі ў глухамань ды і засталіся там на ўсё жыццё, не маючы магчымасці адтуль выкараскацца. У Серафіма Іванавіча адразу прапала ахвота гаварыць з гэтым чалавекам. Ды той сам нагадаў пра сябе і вельмі нават загадкава:

— А нашага брата мала хто і прыкмячае,— сказаў ён і ўздыхнуў.— Мы, як кажуць, людзі без ценю. Ведаеце, чалавек існуе, а цень не адкідвае. А калі ценю няма, дык ці ёсць чалавек?..

Серафіму Іванавічу здалося, што Дзернаковіч напускае туману, а на справе ўсё выйдзе элементарна і проста.

— Ну, а вы па якім ведамстве служылі?— з'іранізаваў Серафім Іванавіч, хоць у рэанімацыі іронія была зусім недарэчы.

— Я быў наркомам легпрома... да вайны,— як пра нешта нявартае ўвагі адказаў Тодар Тодаравіч і, убачыўшы, што Серафім Іванавіч здзівіўся, растлу-

мачыў: — Я ўсяго і пабыў наркомам шэсць месяцаў. У трыццаць сёмым мне далі пяць гадоў...

Серафім Іванавіч добра памятаў той год.

— Мне здавалася,— асцярожна сказаў ён,— што ў трыццаць сёмым судзілі або на смерць, або на вечнае зняволенне, што тады было страшней за смерць.

— Мяне судзілі як патэнцыяльнага ворага,— растлумачыў Тодар Тодаравіч.

— Хіба за гэта таксама судзілі? — спытаўся Серафім Іванавіч, бо ён сапраўды ніколі не чуў пра такое злачынства, якое было падсудна.

— Судзілі. Другога злачынства не знайшлі, а можа, патрэбны былі для паказчыкаў і такія злачынствы. Мяне прызначылі наркомам завочна...

— Як гэта завочна? — не паверыў Серафім Іванавіч.

Сам таго не хочучы, ён уцягваўся ў гаворку на непажаданую тэму, ды яшчэ ў рэанімацыі. Размова з былым наркомам, рэпрэсіраваным у трыццаць сёмым годзе, сама па сабе не магла быць прыемнай, асабліва цяпер, калі зноў усчаліся спрэчкі аб Сталіне; не магла яна быць і карыснай у тым сэнсе, каб пачарпнуць з расказу былога наркома нейкія дэталі для творчасці. Але ж чорт пацягнуў за язык, і даводзілася цяпер расплачвацца, гэта значыць, слухаць тое, што чута-перачута ад сваіх жа калег пісьменнікаў, якія ў свой час не ўбярагліся ад «яжовых рукавіц». Дык пісьменнікі хоць расказвалі вобразна, а гэты шасцімесячны нарком і гаварыць, па ўсім, не ўмеў.

— Уявіце, абсалютна завочна,— узрадавана сказаў нарком, мабыць, адчуўшы зацікаўленасць пісьменніка.— А было так...

Тут нарком звесіў адну нагу з ложка, сеў, падсунуўшы пад паху абедзве падушкі. Серафім Іванавіч заўважыў, што ступня ў яго апухлая, як налітая вадкасцю, а з яе тырчаць пальцы, кароценькія, з жоўтымі пазногцямі.

— Я, ведаеце, патомны рабочы, ткач,— пасля нядоўгай паўзы прадоўжыў нарком.— На прыканцы дваццаць восьмага, а можа, на самым пачатку дваццаць дзевятага — памятаю, у той год стаяла вельмі суровая зіма з моцнымі маразамі і снежнымі бурамі; горад, знаеце, быў занесены снегам — дык

вось, у той год мяне выбралі старшынёй цэхкома. Прафсаюзы тады мелі непараўнальна большае значэнне і быць старшынёй цэхкома было нават аўтарэтэтна. Я, праўда, не вельмі імкнуўся на тую пасаду, ды і бацькі мае былі супраць. А жонцы хацелася, каб хадзіў у начальніках. Во і пайшоў. А праз два гады мяне на фабком вылучылі. Дзела такое, што супраць народа не папрэш, калі за цябе галасуюць. Мне тады ўжо прафсаюзная работа агоркла. Яна, вядома, не пыльная, але дужа звяглівая. Так што я неўзабаве запрасіўся, каб пусцілі назад да станка. Ды дзе там! У нас так, калі не хочаш, дык цябе знарок наперад піхаюць. Так здарылася і са мной. У трыццаць пятым мяне — бац і на гарадскі прафсаюз тэкстыльшчыкаў паставілі. Я думаў, што тут і пагару сінім полымем. Уявіце, не паспеў і двух месяцаў на той пасадзе папрацаваць, як на мяне заява. Суседка па агульнай кухні на камунальнай кватэры напісала. Ні ў жысць не здагадаецеся за што... За тое, што мая жонка зварыла капусту з мясам ды яшчэ смятанай заправіла. Значыць, не па сродках жыву і абуржуазіўся. Смех! Але смех праз слёзы. Усе разумеюць, што глупства, а на сходзе ўшчуваюць. А тут неўзабаве і трыццаць сёмы год падышоў. Кашмар, які і дасюль зразумець не магу. За паўгода ў нас гарадское начальства двойчы садзілі. Чую — і да мяне вось-вось дабяруцца. Цяпер ужо і жонка хацела б, каб за станок стаў. А як? Трапіў у мялку, дык пакуль не перамнуць — не выплюнуць. Жонка плача, баіцца, што і яе заадно са мной пасадзяць, а дзеці з кім застануцца? Я ёй і кажу: давай, Насця, развядзёмся. Ну, і развяліся. Я ў бацькоў часам начаваў, а то на працы. Тапчан там у мяне быў. Коўдру з дому прынёс. Чакаю, значыць, арышту. А мне раптам тэлеграма: так і так, вы прызначаны наркомам легпрома. Ачмурэць можна! Еду ў Мінск і прама ў Саўнарком. Думаю, нагамі і рукамі адбівацца стану. Дзе там! У Саўнаркоме мяне ніхто і не прыняў, апрача нейкага чыноўніка з агульнай канцылярыі. «Вы,— кажа ён,— ідзіце да сябе ў наркамат і бярыцеся за справу. Нечага па калідорах хадзіць». Пакуль я да свайго наркамацкага кабінета дабраўся, ці адзін раз падумаў: кепскія твае справы, нарком. І неяк сам па сабе склаўся ў мяне план. Пытаюся ў сакратаркі: «Ці ёсць на працы намеснікі?»

Яна шэптам адказвае, што першага намесніка пасадзілі, новага ж пакуль не прызначылі, а другі немеснік хворы ляжыць. Загадаў я ёй нікога да мяне не пушчаць, бо я павінен са справамі пазнаёміцца.

Яна была кемлівая. Кажа, не турбуйцеся, усё будзе належным чынам. І праўда, не падвяла. За шэсць месяцаў я толькі два разы па тэлефоне размаўляў ды тройчы да мяне з перыфірыі прарываліся. А так ніякіх кантактаў. Думаю, што на прыём да мяне не вельмі і дамагаліся. Людзі тады не хацелі з начальствам сустракацца: хто яго ведае тое начальства, на якую яно разведку працуе. На работу я хадзіў, як паложана. Садзіўся за вялікі наркомаўскі стол, газеты чытаў, зводкі мне прыносілі, і іх чытаў. А папер ніякіх не падпісваў.

— Зусім не падпісвалі?.. А як жа наркамат працаваў? — здзівіўся Серафім Іванавіч.

— Чорт яго ведае, але ж, мабыць, працаваў, хоць я папер і не падпісваў. Так і служыў. У пяць гадзін ішоў у гасцініцу. Там у мяне асобны наркомаўскі нумар быў. Пазваню, абед прынясуць, вячэру. Любата! Адно, што гадзін да чатырох ночы не спаў: усё чакаў, што прыйдуць па мяне. І аднаго разу дачакаўся. Знаеце, нават лягчэй стала. Чакаць страшна. Гадзіны ў дзве ночы пастукалі. Вобыск, і ўся працэдура з арыштам была завершана за дзве гадзіны. У гасцінічным нумары ў мяне ніводнай паперынкі не было. А наконт таго, што рабілася ў наркамаце, не ведаю. У дзевяць гадзін я ўжо сядзеў на першым допыце. Не, мяне не білі і голадам не марылі. Нават вельмі ветліва абыходзіліся. Следчы Якутаў мне адразу заявіў: «Вялікіх злачынстваў ты не нарабіў, але мог, бо сам падумай, невыпадкова ж цябе наркомам паставілі. Значыць, мелі на цябе нейкія віды і пасля ўцягнулі б у больш небяспечныя справы. Скажы нам дзякуй, што цябе ў час арыштавалі. Ты ў нас праходзіш як патэнцыяльны вораг». Раз так было вырашана, дык чаго бунтаваць, сваю невінаватасць даказваць? Я гэта ўсім нутром адчуў — супраціўляцца бескарысна. Потым ужо, на этапах ды ссылках,даведаўся, што розныя там змовы, дыверсіі, контррэвалюцыйныя групоўкі, шпіянаж распрацоўваліся ў кабінетах, адпаведна вызначалася і хто, які ўдзел у іх браў. Калі на тваю долю выпадала быць

кіраўніком дыверсійнай групы, дык ты ўжо не мог ад гэтага адрачыся. Следчыя з цябе ўсё адно прызнанне выціснуць. Я ўсё пратаколы падпісваў. Засудзілі мяне на пяць гадоў і нават з правам перапіскі. Але я тады пакляўся, што нікому не напішу. Напішаш і ўліпнеш яшчэ.

Серафім Іванавіч адчуў, што вельмі станміўся, пакуль слухаў былога наркома легпрома. У яго спакваля вырастала да наркома незразумелая, але вельмі зацятая нядобразычлівасць.

Нарком, няйначай, зразумеў яго стан, бо спытаўся з трывогай у голасе: «Я вас не замарыў?»

— Я, відаць, яшчэ не зусім гатовы да доўгіх размоў,— адказаў Серафім Іванавіч.— Вы мне потым дакажыце сваю адысею...

— А дасказваць і няма чаго,— азваўся нарком.— У сорак трэцім выпусцілі. Быў у саўпартрэзерве пад Масквой на Сходні. А як вызвалілі Нова-Беліцу і наш урад паехаў туды, мяне назад у лагер вярнулі. Пабаяліся, што з Нова-Беліцы ўцяку да немцаў. Кашмар нейкі! Вось так і дабыў тэрмін, пакуль не амнісціравалі. А тады я сам не захацеў у Беларусь ехаць. Крыўду затаіў. Дурань! Вярнуўся ўжо на пачатку сямідзесятых. Пенсію мне далі. Персанальную. Сто дваццаць рублёў. З жонкай сышліся пад старасць. Яна тады, як развяліся, пайшла ўгору. Майстрам на фабрыцы стала. Герой сацпрацы! Праўда, нядоўга пажылі разам. Захварэла і памерла. Дзеці таксама ў людзі выбіліся. Сын доктарам на палярнай станцыі. Дачка замужам за дырэктарам завода. Сама эканамістам робіць. Так што я, лічыце, не пацярпеў ад культу, але ўсё адно крыўдна: нізавошта трубіў па лагерах ды ссылках. А чалавек жа раз на свеце жыве...

Нарком падчапіў пальцам калашыну падштанікаў, памог назе легчы на ложак пад коўдру. Адкінуўшыся на падушкі, Тодар Тодаравіч склаў рукі на грудзях і адразу стаў падобны на нябожчыка, які толькі што адышоў у нябыт. Так ён ляжаў хвілін пяць, а можа, і больш, аж Серафіму Іванавічу стала не па сабе. Нарком не варушыўся і, здаецца, не дыхаў.

— Во пагаварыў і расхваляваўся,— раптам азваўся Тодар Тодаравіч, гледзячы ў столь.— Дзіва, што расхвалюешся. Мне часам бывае так шкада свайго

разняшчаснага жыцця, што хочацца па-сабачы выць. Чаму вы, пісьменнікі, пра гэта не пішаце? Столькі трагедый — на тысячу Шэкспіраў хапіла б, а вы хіханькі ды хаханькі. А хто ж напіша пра нашу веру распятую? Божа ж мой, як мы некалі са шчырай дзіцячай непасрэднасцю верылі ў праўду і справядлівасць!..

Тодар Тодаравіч гаварыў з такой зацятасцю ў голасе, што Серафіму Іванавічу стала страшна; яму закалола ў патыліцу халоднымі да агіды іголкамі, а ў грудзях нешта балюча пачало драпаць. Серафім Іванавіч спалохана націснуў чорны гузік званка. Адразу ў палату зайшла сястра.

— Хто званіў? — спыталася яна і, убачыўшы кволы рух рукі, падышла да Серафіма Іванавіча: — Вам блага?..

— Цісне,— сказаў Серафім Іванавіч.

Сястра выбегла, каб паклікаць доктара.

— То няйначай я, дурань стары, вас расхваляваў,— павінаваўся нарком.— Вы ўжо даруйце, калі ласка.

У рэанімацыйны пакой увайшоў доктар, нізенькі, рухавы, чымсьці падобны на жука.

— Э-э-э, Серафім Іванавіч, на гэта мы з вамі не дамаўляліся,— весела зашчабятаў ён, беручы Серафіма Іванавіча за руку.— Што ж вы паддаецеся настрою? Усё будзе добра... Укольчык зробім, і вы паспіце. Сон — найлепшы ваш лекар, Серафім Іванавіч...

Сястра несла ўжо шпрыц. Другая, следам за ёю, кропельніцу...

## 3

Бальнічныя будні наогул — гарката. Будні ў рэанімацыі — гарката, замешаная на беспрасветнай тупой адзіноце.

Пасля прыступу ў Серафіма Іванавіча Тодар Тодаравіч Дзернаковіч больш не ўсчынаў гаворку, наадварот, ён усяляк засцерагаў Серафіма Іванавіча ад яе.

Яны абменьваліся нязначнымі словамі, якія толькі падкрэслівалі іхнюю раз'яднанасць. Так у маўклі-

васці прайшлі суткі, а яшчэ праз паўсутак Дзернаковіча перавялі ў аддзяленне: сястра і нянечка прыгналі па яго каталку. Ён неяк перакаціўся на яе — Серафім Іванавіч з жахам заўважыў, што пухліна на ягоных нагах не зменшылася, а, бадай, павялічылася,— шапнуў на развітанне:

— Забудзіцеся на нашу гаворку. Што было — не вернеш...

Нянечка пачала разварочваць каталку, каб вывесці хворага не нагамі, а галавой наперад. Дзернаковіч працягнуў Серафіму Іванавічу руку, і той пацікнуў яе. Рука былога наркома была як нежывая.

«Ён ужо не жыхар на гэтым свеце,— падумаў Серафім Іванавіч, і яму стала маркотна ад такой тут звычнай думкі.— Ды ён ужо даўно не жыхар. Ён, як тое мёртвае дрэва, яшчэ доўга стаіць з сухімі галінамі — адно названне, што дрэва».

Серафіму Іванавічу захацелася спакою: паляжаць бы аднаму ў палаце, адпачыць ад выплескаў жыцця, якія дасягаюць нават у гэты прыстанак чалавечага існавання. Ён ужо і сабраўся начаваць адзін, бо час пераваліў на дванаццатую гадзіну ночы, як на калідоры зашоргала каталка і ў палату ўвезлі чалавека з чорным, нібы абвугленым тварам. Чалавека ліхаманіла. Цела пад прасцінай выпружвалася, білася ў канвульсіях.

Адразу ж набеглі ўрачы. Яны нешта рабілі, а чалавек нема мычэў, і ягоныя ступні зводзілі сутаргі. Серафім Іванавіч адчуў, што зараз страціць прытомнасць. Сабраўшы апошнія сілы, ён паклікаў доктара.

— Усыпіце мяне,— папрасіў ён і сам спахапіўся, што сказаў глупства.

Але доктар зразумеў яго. Ён аддаў загад сястры, і тая зрабіла Серафіму Іванавічу ўкол, ад якога ён тут жа заснуў моцным сном.

Прачнуўся ён а восьмай гадзіне і адразу зірнуў на ложак, дзе ноччу ляжаў, можа, у агоніі счарнелы ад болю чалавек. Тое, што ён пабачыў, уразіла яго.

Звесіўшы касматыя ногі, на ложку сядзеў каржакаваты здаравяк, піў нагбом з літровага слоіка таматны сок. Дабраўшы слоік да донца і ўбачыўшы, што Серафім Іванавіч глядзіць на яго, чалавек

збянтэжыўся і, мабыць, ад збянтэжанасці падміргнуў, важка сказаўшы:

— Добрэ!..

— Што добрэ! — не зразумеў яго Серафім Іванавіч.

— Усё добра было б, каб не гэтая перабудова,— адказаў чалавек і пайшоў да мыцельніка, спаласнуў літровы слоік, акуратна паставіў яго на палічку ў прыложкавым століку.

— Дык што з вамі здарылася? — спачувальна спытаўся Серафім Іванавіч, адклаўшы на далейшае роспыты пра тое, хто і адкуль новы насельнік рэанімацыйнай палаты.

Здаравяк нечага засаромеўся, аж Серафіму Іванавічу падумалася, што ён дарэмна зачапіў яго: каму хочацца гаварыць пра нешта яму непрыемнае.

— Мяне ўчора на пенсію праводзілі... Так сказаць, па ўласным жаданні і ў сувязі з дрэнным здароўем, сволачы...

— Вам хіба шэсцьдзесят? — падзівіўся Серафім Іванавіч.

— Загадаюць, будзе семдзесят.

Ігар Ільіч Выплесня рабіў у аграпроме і, як зразумеў Серафім Іванавіч, важным начальнікам.

— Дык а чаму вас адправілі на пенсію?

— З начальствам заеўся. Ну, самі падумайце, хіба так можна? У Швецыі ніхто не хоча купляць аленіну, бо, разумееце, у ёй ніякія там радыёактыўныя мілі-мілі выяўлены з-за нашай чарнобыльскай аварыі. Дзе тая Швецыя, а бачыце, як рэагуюць! А мы на жратву нашаму працоўнаму народу паражоную ізатопамі свініну і гавядзіну выкідваем на прылаўкі, бо каранцінная служба не пусціла яе за мяжу. А чаму выкідваем? Бо трэба план выконваць. Вось выконваем і перавыконваем. А што людзям шкодна, нікому ніякай справы. Узняў голас у абарону справядлівасці, а мне: цыц, і ніякіх гукаў. Згарбузавалі справу з вяндлярняй. Калі шчыра прызнацца, дык падпольная такая вяндлярня, створаная па ўказанні чыноў, каб было чым гасцей частаваць ды і з сабой даваць. У нас жа вам не Сярэдняя Азія, дзе грошы аберуч грабуць. Мы вяндлінкай частуем. А іначай, хто табе што зробіць?

— І што вы вэндзілі?

— Кумпякі, грудзінкі, каўбасы. Найбольш кумпя-

кі. Закусон, я вам скажу, найвыдатнейшы. Непараўнальны водар. А смак! Вяндліна ў роце тае.

Серафім Іванавіч слухаў Выплесню і, папраўдзе, не мог зразумець, што дрэннага, калі ў падсобнай гаспадарцы пабудавалі вяндлярню і вэндзяць мяса, якое намнога смачнейшае за тое, што вэндзяць дзяржаўныя вяндлярні.

— Дык і што ж тут дрэннага? — спытаўся ён.

Выплесня аж сеў на ложку.

— Дык анічога дрэннага. Але ж прыдрацца да мяне трэба было. Прычапіліся, чаму на ўлік не ўзяў? Ну, мяне — на пенсію, а загадчыкам вяндлярні паставілі нейкага Камеша з чарнобыльскай зоны. А якія мы закусоны рабілі! Бывала, паедзем на рыбалку, ну, само сабой, юшка, але без вяндлінкі не абыходзіліся.

Наогул, пра «закусоны» Выплесня расказваў з натхненнем запраўскага гурмана. Звычайна ён садзіўся на ложку па-турэцку і спярша спакойна, а потым усё больш распаляючыся, вучыў Серафіма Іванавіча, як трэба варыць трайную юшку, смажыць шчупака, тушыць дзікую качку, падаваць на стол смаржкі і шампіньёны, смажыць шашлыкі і гатаваць самы сапраўдны ўзбекскі плоў.

Так яны і суіснавалі — Выплесня гаварыў бесперапынна, а Серафім Іванавіч пакутліва слухаў,— пакуль на трэці дзень іхняга знаходжання ў рэанімацыі ў палату не наявіўся прафесар Шылібін з усёй світаю. Прафесар быў высокі, мажны, з акруглым тварам, на якім ляпіліся дзве барадаўкі і смешнаватая, мефістофельская бародка клінам. Ён адразу рушыў да Серафіма Іванавіча, павітаўся з ім за руку, нібы яны ўсё жыццё былі знаёмыя.

— Ну, як сябе адчуваеце? — спытаўся ён і, не чакаючы адказу, загаварыў далей, нібы чытаў шпаргалку, роўна і без запінкі.— Хвароба ваша працякае нармальна, без якіх-небудзь адхіленняў ад яе класічнай формы. Часам можа падціскаць, але болі найчасцей чуюцца не ад асноўнага ачага хваробы, а ад спадарожных фактараў. Ляжце ў ложак на трое сутак, і вы пачуеце болі ў сэрцы, ва ўсім знямелым целе. Нагадвайце сёстрам, каб абавязкова нанач вам праціралі спіну і праветрывалі палату. Спадзяёмся, што праз шэсць-сем дзён мы перавядзём вас у агуль-

ную палату, бо рэанімацыя не лепшае месца для творчых думак. Раю на час забыць іх. Ведаю я вас, пісьменнікаў: ледзь ачуняеце, як пачынаеце тварыць. А творчасць, дарагі Серафім Іванавіч,— гэта эмоцыі, якія накладаюць шрамы вось тут,— прафесар тыцнуў пальцам у левую грудзіну і адразу павярнуўся да Выплесні, зрабіў тры крокі, што аддзялялі адзін ложак ад другога.

Ён узяў руку Выплесні і доўга слухаў пульс, аднак не пазіраючы на наручны гадзіннік.

— Тэк-с-с,— сказаў прафесар і глянуў на загадчыка рэанімацыйнага аддзялення, немаладую ўжо жанчыну з акруглымі формамі пад моцна накрухмаленым халатам, які толькі падкрэсліваў яе заўчасную паўнату. Тая ўзняла на яго вочы — яна была на дзве галавы ніжэй прафесара.

— Ігар Ільіч быў дастаўлены ў рэанімацыю ў вельмі цяжкім стане...

— Што ж вы, шаноўны,— звярнуўся да Выплесні прафесар,— мужчына ў самай красе, а даводзіце сябе да такіх прыступаў? Нядобра, зусім нядобра. Адразу і сэрца, і пячонка, і ныркі. Алкаголь ужываеце?

Выплесня сударгава падхапіўся на ложку, сеў, але тут жа і лёг, нібы зразумеў сваю асуджанасць.

— Што вы, прафесар? — з горкай крыўдай, ад якой аж дрыжаў ягоны голас, выказаў нязгоду Ігар Ільіч.— Ды я ў рот не бяру спіртнога. Даўно! А вы!.. ды я заўсёды нецярпіма стаўлюся да такіх агідных з'яў нашага грамадства, як калектыўныя і некалектыўныя п'янкі. А калі вы кажаце, што ў мяне хворыя пячонка, сэрца і ныркі, дык то не ад гарэлкі, а сугуба ад апаленага вайной нашага дзяцінства і ад нашай беднасці ў пасляваенны час.

Серафім Іванавіч убачыў, як пераглянуліся сёстры, хоць на іхніх тварах засталася халодная пачцівасць і службовая добрасумленнасць; яму зрабілася так сорамна, што ён павярнуўся да сцяны тварам.

— Усё магчыма. Усё магчыма,— похапкам адгукнуўся прафесар, і не без іроніі ў голасе параіў: — І ўсё ж пабеража́ыце сваю пячонку, бо яна не толькі фільтр...

— Вялікі вам дзякуй, прафесар,— аж прачула сказаў Ігар Ільіч.— А што, уласна кажучы, са мной было?

— Дыспепсія,— неяк весела, з насмешкай адказаў прафесар.— З тыдзень не ешце вяндліны, смажанага, марынаванага, вострага, ну, а наконт выпіўкі не папярэджваю, бо ў гэтым няма патрэбы, калі вы непітушчы.

— Прафесар, я чуў, што пры дыспепсіі рэка мендуюць сухое віно. Як вы глядзіце на гэта, прафесар?

Цяпер ужо яўна іранізаваў Выплесня, і Серафім Іванавіч падумаў, што не такі ён ужо прасцячок.

— Станоўча, Ігар Ільіч, вельмі станоўча,— ужо здзекліва адказаў прафесар,— не толькі можна, але і неабходна. Піце віно тры разы на дзень за паўгадзіны да яды па трыццаць-сорак кропель...

Выплесня ў адказ рагатнуў басавітым смехам: гы-гы-гы! Серафім Іванавіч азірнуўся — прафесарская світа выплывала з палаты на калідор, а Выплесня сядзеў ужо па-турэцку на ложку.

— Аглоблю яму ў рот,— сказаў ён, убачыўшы, што Серафім Іванавіч глядзіць на яго.— Думаў, дні тры адпачну тут. Дык месца яму шкада. Але ж халера на іх: настукалі прафесару, што я ўрэзаў. Прасіў жа, гадаў, памаўчаць. Вяндлінкі абяцаў. Цяпер дулю ім, а не вяндлінкі...

На парозе ўзнікла сястра. Не заходзячы ў палату, яна спытала казённым, драўляным голасам:

— Вы калі дамоў пойдзеце?.. На ваша месца неўзабаве прывязуць хворага.

— Можа, дасце паабедаць? — спытаў Выплесня, але сам жа і адказаў: — Хоць на чорта мне той абед. Зараз пазваню, каб машыну прыслалі.

Пазваніўшы, ён расказаў яшчэ паляўнічую байку і з неахвотай адбыў з рэанімацыі, параіўшы Серафіму Іванавічу:

— Мала вы, пісьменнікі, клапоціцеся пра выхаванне ў сельскай моладзі любві да нашай зямелькі-карміліцы. Няма такога твора, каб малады чалавек прачытаў яго і застаўся ўзнімаць нашу сельскую калектыўную гаспадарку. А зрэшты, мне было прыемна з вамі пазнаёміцца. Жадаю вам як найхутчэй выздаравець і засесці за любімую вамі працу...

Застаўшыся адзін, Серафім Іванавіч адчуў у сабе жыватворную сілу. Ён расслабіўся, лёг на спіну, прымжаў павекі і ўпершыню ў рэанімацыі падумаў,

што даўно не чуў такой міласэрнай цішыні. Яна песціла яго ў ласкавых абдымках, і нейкія нячутныя, а можа, заглушаныя грукатам паўсядзённасці пачуцці ўтаймоўвалі хворае сэрца.

З таго дня справа пайшла на папраўку. Серафім Іванавіч, узяўшыся за спінку ложка, ужо паходжваў каля яго: два крокі направа, два — налева. Гэтыя чатыры крокі здаваліся яму подзвігам і шчаслівай раскошай. Адно напамінала, што ён не проста ў бальніцы, а ў рэанімацыі — да яго нікога не пускалі. Праўда, двойчы ўдалося прарвацца Клаўдзі Маркаўне, ды і то на пяць хвілін. Таму ён вельмі здзівіўся, калі аднаго разу, якраз у час перазменкі сясцёр, у палаце, дзе ён так і ляжаў адзін, паявіўся Цімоша. Баязліва зазірнуўшы, Цімоша ўбачыў бацьку, шырока ўсміхнуўся, на дыбачках падышоў да яго, непрывычна тыцнуўся ў жорсткую шчаціну нябрытага другі дзень падбародка.

— А ў вас тут строга,— сказаў ён, не то з адабрэннем ці, наадварот, з асуджэннем.

— Як вы там? — спытаўся Серафім Іванавіч.— Як сынок?..

Серафіму Іванавічу аж стала нядобра, што ён раптам забыўся, як завуць самага малодшага ўнука.

— Клара перадавала табе прывітанне і вось гэта.— Цімоша сунуў у бацькаву руку кулёк.

— Што гэта?..

— Піражныя,— адказаў Цімоша.— Ад Клары.

Серафім Іванавіч быў і ўзрушаны нявестчынай увагай і раззлаваны: няўжо яна не разумее, што яму гэтыя, па ўсім, нясвежыя піражныя няможна есці?

— Піражныя забяры,— лішне катэгарычна сказаў Серафім Іванавіч і адразу ўспомніў, як завуць унука: — Аддай іх Рыгорку.

— Я і казаў, што табе няможна есці піражнае,— пачаў апраўдвацца Цімоша.

— Не перажывай,— Серафім Іванавіч узяў сынаву руку, і яму раптам да слёз стала шкада яго.— Як там Лёнік?..

Наконт Лёніка Серафім Іванавіч пытаўся і ў жонкі, але тая невыразна мямліла, і яму здалося, што яна не хоча гаварыць пра пасынка.

— А ты хіба не ведаеш? — здзівіўся Цімоша.— Я думаў, табе мама сказала.

— Што з ім? — спалохана спытаўся Серафім Іванавіч, і Цімоша разгублена паглядзеў на яго, здагадаўшыся, што сказаў лішняе, за што атрымае ад маці суровую вымову.

— Ды нічога, тата. Ты не хвалюйся. Дык Лёнік зусім не наш. Святлана правярала і сама пераканалася: Лёнік нават старэйшы за Грышу і родам Грыша з Палесся.

Серафім Іванавіч адчуваў, што Цімоша гаворыць нешта не тое.

— Я спытаўся, як ён жыве? — чамусьці раздражнёна сказаў ён.

— Тата, дык жа Грыша знік. Яго шукаюць, але знайсці не могуць.

— Як гэта знік?..

— А так, пайшоў на прагулку і не вярнуўся.

Цімоша хлусіў нахабна, беспардонна. Серафім бачыў гэта, і яго ўсё мацней ахоплівала нейкая незразумелая злосць. На каго? На што? Цімоша не сам па сабе хлусіць — загадала Клаўдзя Маркаўна. А яна прымушае хлусіць, бо трывожыцца за ягонае здароўе, аберагае ад непрыемных вестак. А таго не можа зразумець, што любая непрыемнасць будзе перанесена ім спакайней за вось такую хлусню. Ён раптам адчуў, што замураваны ў чатырох сценах, як вязень, і нічога не можа зрабіць, каб уведаць праўду. Перад ягонымі вачамі заскакалі, замітусіліся чорныя сняжынкі. Цімоша быў бачны, як праз навісь густой мяцеліцы.

— Хлусіш ты, сынок. Хлусіш. Кажы, што з ім?

Цімоша доўга маўчаў, і Серафім Іванавіч з кожным імгненнем усё больш упэўніваўся, што Святлана тады не памылілася, што ён, Серафім Іванавіч, знайшоў Лёніка, каб зноў яго згубіць, і цяпер гэта яшчэ больш страшна за тую згубу.

— Мама прасіла не гаварыць,— прызнаўся Цімоша.— Лёніка ўсё роўна не вернеш...

— Як, ён загінуў на гэты раз? — чужым голасам спытаўся Серафім Іванавіч.

— Яго забрала міліцыя...

— За што? — перапыніў яго Серафім Іванавіч.

— Ён пратэставаў. Стаяў з плакатам. Яго забралі. А потым сказалі, што ён аказаў супраціўленне, збіў

трох міліцыянераў. Да яго прымянілі сілу. Ну, ён і памёр.

— Дзе пахавалі? — не разумеючы, навошта гэта яму ведаць, спытаў Серафім Іванавіч.

— У інтэрнаце не кажуць...

Серафім Іванавіч пабачыў, як старшыня сельсавета размахнуўся сякерай і раскалоў галаву Хрыста напалам. З-за старшынёвай спіны вынікнуў усмешлівы твар Марка.

— Рад вітаць цябе, Сеня,— падміргнуў Марк Удоеў.

Апошні пробліск свядомасці. Апошняя думка жывога яшчэ чалавека.

## 4

У другі раз Серафім Іванавіч вяртаўся з небыцця на кругі свая. Вяртанне было нялёгкае, як узыходжанне на крутую, усю ў асыпках гару. Цяжкая галава тупела ад глухога болю. Пякло недзе ў патыліцы, а ў вушах размерана і нудна блямкаў звон. Толькі сонечны зайчык на сцяне насупраць вылучаўся сярод шэрасці сваім вясёлым колерам, заклікаючы Серафіма Іванавіча да жыцця.

— Вітаю, Сіма,— аднекуль збоку пачуўся хрыплаваты голас,— з вяртаннем да жыцця. Дужа ты мяне напалохаў, Сіма. Калі цябе прывезлі, ты быў, як нежывы. Цяпер небяспека мінула...

Серафім Іванавіч скасавурыўся: на ложку насупраць — Марк Удоеў, ягоны вотчым. Стрыжаная пад бобрык галава ляжала на падушцы высока, аж здавалася, што Марк Удоеў сядзіць, а не ляжыць. Каб такое здарылася раней, Серафім Іванавіч, напэўна, здрыгануўся б або падумаў, што ён звар'яцеў. Цяпер было падобна, што ён апынуўся на тым свеце і яго сустракае вотчым, ягоны злы і добры геній. Марка Удоева даўно няма на свеце, і сустрэць яго можна было толькі па той бок зямнога існавання. Серафім Іванавіч без асаблівага хвалявання глядзеў на цень свайго вотчыма. Яго нават не цікавіла, адкуль ён тут паявіўся?

— Галава, як у тумане,— адказаў Серафім Іванавіч.

— Дзіва што! Каб ты бачыў, як дактары каля цябе завіхаліся. Пякельная праца, я табе скажу, а заробак у іх, як у прыбіральшчыцы на дзвюх стаўках. Во яшчэ адна несправядлівасць нашай сістэмы: чыноўнік, які выматвае нервы, даводзіць здаровых людзей да інфарктаў і інсультаў, атрымлівае ўдвая, утрая больш за ўрача, які потым лечыць гэтыя інфаркты і інсульты.

Серафім Іванавіч зразумеў, што чалавеку гэтаму не церпіцца расхінуць душу, перапоўненую крыўдаю. Мабыць, яму давялося добра хлебтануць гэтай несправедлівасці. Падумалася, аднак, аддалена і як бы не самім, а кімсьці другім, вельмі абыякавым да пачутага. Думка распаўзалася, нібы цеста, якое лішне перабрадзіла. Неўзабаве ад яе нічога не засталося.

— Даруйце,— цяжка вымаўляючы словы, сказаў ён,— я, мабыць, яшчэ не гатовы ўспрымаць вашы глыбокія высновы...

Серафім Іванавіч з нечалавечым намаганнем успамінаў словы. На ягонае здзіўленне, словы, якія, бывала, вымаўляліся без аніякай прынукі цяпер ўзнікалі імгненна.

Пакутлівае пачуццё! Шукаеш слова, як зерне ў пустых засеках. Ведаеш, што яно недзе ляжыць. Але дзе?..

— Сіма, ты хіба не пазнаеш мяне? — спытаўся сусед па палаце.— Я — Ігар, Ігар Набокаў... Ну, той самы... На чаяванні ў цябе быў, калі ты...

Серафім Іванавіч павярнуў галаву. У ёй, здалося, забулькала вадкасць. Пералілася на правы бок. Боль таксама перакаціўся.

— Даруйце, не пазнаю,— сказаў ён і вярнуў галаву ў ранейшае становішча.

Было такое ўражанне, што ў ягонай галаве нешта балюча скранулася з месца, можа, паўшар'і павярнуліся ў розныя бакі: адно па гадзіннікавай стрэлцы, другое — наадварот. З тупога болю выпаўзала, абрывалася ў бездань нешта некалі чутае: Ігар Набокаў, Ігар Набокаў?.. Хто ён такі? Можна здурнець!..

Прозвішча было дужа знаёмае, але каму яно належала, мозг не хацеў выдаваць інфармацыю, нібы тая сапсаваная ЭВМ — заела, хоць плач!.. Толькі і паўтарае: Ігар Набокаў, Ігар Набокаў. Ніякага водгуку, ніякага намёку на тое, хто ён?..

Можна было спалохацца: без памяці пісьменнік як

бы ўжо і не пісьменнік. Ды і наогул ці чалавек? Можа, неразумная істота... Але нечаканая думка абудзіла ўпэўненасць: свайго вотчыма, Марка Удоева, ён памятае. Значыць, з ягонай памяццю ўсё ў парадку.

Адразу прыгадалася ўразлівая дэталь з жыцця Марка Удоева: ён стаіць сярод пакоя ў сініх падштаніках і майцы-сетачцы па стойцы «смірна» — рукі па швах — і спявае «Інтэрнацыянал». Як малітву пасля сну.

Абсурд? Трызненне? Ды не, рэчаіснасць!

Марк кожную раніцу ў шэсць гадзін спяваў «Інатэрнацыянал» пасля таго, як за развянчаннем культу настала другая пара і зноў — хоць і з агаворкамі — пачалі адзначаць сталінскія юбілеі, а на экранах пад апладысменты паявіўся вялікі правадыр і ягоныя паплечнікі.

Ці мала дзіўнага здаралася ў жыцці? Тады яно выглядала лагічным, неабходным, адзіна правільным. Увесь сакрэт заключаўся ў тым, як і хто глядзеў на падзеі. Дыялектыка!.. Адны бачылі здаровы сэнс там, дзе другія — абсурд. Адны былі шчаслівыя, другія канчалі жыццё ў кар'ерах і безыменных ямах, якія і дасюль ахоўваюцца злымі цэрберамі беззаконня.

Дэфармаваныя атупелай галавой думкі выплёскваліся ўсе разам — не разабраць, што і да чаго.

...Пабарвавелы і ўжо амаль сіні Марк Удоеў сядзеў за сталом перад бутэлькай і скрыгатаў зубамі. «Здраднікі! Прадажнікі!..» І мат-перамат, аж немагчыма слухаць. Але і зразумела: ідзе развянчанне культу, і тыя, хто спяваў славу, цяпер бэсцяць любімага, адзінага, мудрага, непаўторнага... «Пачакайце, гады! Перастраляем, як шалёных сабак. Галовы секчы будзем».

Пагрозы страшныя, але і смешнаватыя, як гром пасля навальніцы: яшчэ страляюць перуны, але здаля, услед за хмарай, што сплывае за далягляд,— ніхто грымот не баіцца.

...Той жа Марк Удоеў у кіцелі зелянковага колеру з бранёю ордэнаў і медалёў на грудзях. З бутэлькай шампанскага і крышталёвым бакалам у руках. На стале газета з артыкулам з нагоды юбілею правадыра. Як і да дваццатага з'езда — партрэт.

«Апамяталіся, гады,— гаворыць Марк Удоеў.— Эт-та ж трэба — на каго замахнуліся! Вып'ем, Сеня,

за вечную памяць правадыра і яго бессмяротнае вучэнне».

Марк залпам выпіў бакал і з усяе сілы кінуў яго на падлогу. Бакал разбіўся на зіхатлівыя кавалачкі.

«Смерць адступнікам і адшчапенцам!»

...Ягоныя словы патанаюць у громе духавога аркестра. Аркестр іграе «Інтэрнацыянал». На грудку зямлі труна з Маркам Удоевым. Марк ляжыць у ёй, не скрыжаваўшы рукі, як ляжаць у труне звычайныя нябожчыкі, а выцягнуўшы іх уздоўж цела, нібы стаіць па стойцы «смірна».

— Хворыя, перастаньце размаўляць. Вам шкодна...

То быў ужо ўладны голас сястры, чырванашчокай, мажнай і вельмі прыгожай нейкай язычаскай прыгажосцю. Яна паявілася ў полі зроку Серафіма Іванавіча, як ваяўніца Афіна, толькі са шпрыцам у руцэ. Падышоўшы да ягонага ложка, яна рашуча адкінула коўдру і гэтак жа рашуча зрабіла ўкол у сцягно.

— Ігар Валянцінавіч, я катэгарычна забараняю вам размаўляць з хворым...

Серафім Іванавіч сумеўся: чаму сястра назвала яго Ігарам Валянцінавічам? А можа, ён сапраўды не Серафім Іванавіч, а Ігар Валянцінавіч? Зрэшты, гэта не мела вялікага значэння. Яго хіліла на сон.

Прачнуўся Серафім Іванавіч з перакананнем: побач з ім у рэанімацыі ляжыць ягоны вотчым Марк Удоеў. Яму было страшна павярнуць галаву, каб на свае вочы пабачыць Марка, і аж прыпякала неадольнае жаданне як найхутчэй упэўніцца, што гэта сапраўды Марк. Серафіма Іванавіча ахапіла жахлівая думка, што тады пахавалі кагосьці іншага, а не Марка Удоева. Такое зусім верагодна. У галаву прыкінуўся нядаўні выпадак, калі з Афганістана прывезлі труну з прахам сына ягоных знаёмых. Было пахаванне, прамовы, аркестр, слёзы. Бацькі паставілі абеліск з партрэтам сына. А неўзабаве вярнуўся іхні сын. Калі ён ішоў па двары, усе шарахаліся ад яго і ён не мог зразумець чаму. Толькі маці кінулася яму насустрач. Яна і расказала сыну, што па ім ужо адзванілі хаўтурныя званы.

Можа, так было і з Маркам?..

Але ж ён сам бачыў Марка ў труне: ляжыць — рукі

па швах, нібы атрымлівае загад на баявое заданне...

Серафім Іванавіч павярнуў галаву набок. Эфект быў ашаламляльны: на ложку насупраць ляжаў абсалютна не падобны на Марка Удоева Ігар Набокаў. Закончаны антыпод. Як ён учора мог падумаць, што побач ляжыць вотчым, Марк Удоеў? Ну ніякага ж падабенства!

Калі Марк Удоеў быў падобны на тапорнай работы скульптуру з кавалка дрэва, да таго ж вычасаную саматужнікам — грубыя абрысы доўгага твару з гарбатым носам; круты лоб, што абапіраўся на масіўныя надброўныя дугі, пад якімі ў дзвюх пячорах гарэлі пякучыя вочы; маленькія вушы, нібы вывернутыя наспод; доўгая шыя з вялізным гарляком; каржакаватая постаць з магутнай грудзінай,— дык Набокаў уяўляў трохі папсаваную часам дасканаласць прапорцый і мяккую акругласць форм — голеная, круглая галава, без адзінай няроўнасці, правільны авал твару, прамы нос з тонкімі закрылкамі.

«Можа, ягонае падабенства да Марка і тлумачыцца вось гэтай непрымірымай супрацьлегласцю»,— падумалася Серафіму Іванавічу, і гэтая парадаксальная думка абудзіла ў ім памкненне да разваг. Думалася, аднак, вельмі неахвотна і цяжка, аж калола ў скроні.

— Які сёння дзень? — спытаўся Серафім Іванавіч у Ігара Набокава.

— Пятніца,— адказаў той.

— Але ж учора быў панядзелак,— спрабуючы аднавіць падзеі мінулага дня, сказаў Серафім Іванавіч.

— Учора быў чацвер,— не пагадзіўся Набокаў.

Глупства, дый годзе!.. Як мог быць чацвер, калі быў панядзелак? Ці, можа, дні пакаціліся назад? Раптам Серафіма Іванавіча працяла адзіна прыгодная думка ў гэтым існаванні:

— Дык што, я быў без памяці? — Серафім Іванавіч задумаўся, бо ніяк не мог падлічыць, колькі дзён прамінула з панядзелка да чацвярга, калі ён ляжаў без прытомнасці. Нарэшце ён знайшоўся: — З панядзелка?..

—Глядзячы з якога панядзелка... Але магу запэўніць, што не з мінулага...

Пакуль Серафім Іванавіч асэнсоўваў сказанае,

гарачая хваля пакацілася па нагах, па ўсім целе, дакацілася да галавы, выступіла на твары халодным потам.

Дык во што здарылася ў рэанімацыі — з далёкага дзяцінства вярнуліся да яго, як абуджанае сумленне, незразумелыя і доўгія прыпадкі бяспамяцтва, першы з якіх здарыўся пасля таго, як яго ледзь не павесілі ў старой цягельні ў Елагах. Нішто, выходзіць, не знікае навечна. Усё вяртаецца на кругі свая, і хто можа сказаць, чым усё гэта скончыцца.

Толькі цяпер ён адчуў, што яго разламала, спіна амярцвела, яму вельмі хочацца павярнуцца на бок, а яшчэ лепей на жывот. Але страх перад чымсьці невытлумачальным засцярог яго ад свавольства. Ён паклікаў сястру. Тая, у сваю чаргу, паклікала ўрача. Урач цярпліва выслухаў Серафіма Іванавіча, можа, нават з цярплівасцю лішне падкрэсленай, але не толькі дазволіў легчы на бок, а і садзіцца на ложку. Сястры ж загадаў, каб працерла спіну камфарным спіртам.

Калі працэдура была закончана, Серафім Іванавіч адчуў такое шчасце, якога не адчуваў ніколі. Яму зручна было ляжаць на баку, глядзець не ў столь, а на Ігара Набокава, які нечага ўсміхаўся, радавацца гэтай усмешцы і самому ўсміхацца без аніякай на тое прычыны. Ён — жыў. У галаве, праўда, яшчэ было мутарна, але ўжо цягнула на разважанні, на аналіз сваіх адчуванняў, на тое капанне ў самім сабе, якое чамусьці лічыцца ганебным. «А што ў ім ганебнага. Чалавек мусіць пазнаваць сябе, аналізуючы ўласныя ўчынкі і погляды. Мы ж не пячэрныя людзі, якім, можа, і не трэба было капацца ў саміх сабе. Ды і тыя, мабыць, капаліся. Шукалі ж яны прычыны свайго засмучэння? Думалі ж аб сваім лёсе? Чаму ж тады інтэлігенцыю бэсцяць за гэтае, ліха на яго, капанне ў сабе? І слова ж знайшлі — капанне! А хто не капае, той коўзаецца па паверхні. Капаючы, да нечага вартага дакапаешся. Каштоўнае ляжыць на глыбіні. Да яго, сапраўды, трэба дакопвацца, бо з гэтага капання-самааналізу выраслі браты Карамазавы і Наташа Растова, Грыгорый Мелехаў і доктар Жывага. Не капаюцца толькі бездары — ведаюць: капайся ці не капайся — нічога не адкапаеш».

— Жыццё няўмольна коціцца да апошняга пры-

пынку,— сказаў ён, збіраючыся адкрыць нешта важнае ў ланцугу гадоў і падзей, пражытых ім,— і ўжо, бадай, позна задавацца пытаннем, а што яно такое і дзеля чаго дастаецца чалавеку. Але хочаш ты ці не хочаш, а мусіш думаць над тым жа да апошняга ўздыху, дзеля чаго жыў? Былі ж дадзены крылы для палёту, якія, праўда, часта падстрыгалі, каб не дужа высока лятаў.

— Чым вышэй я ўзнімаўся ўгору, тым мацней мне хацелася апусціцца ўніз, каб зашыцца, як некалі зрабіў амерыканец Генры Тора, у лясную гушчэчу.

— І што перашкаджала?

— Стаднасць. У статку заўсёды ёсць важак, за якім статак бяжыць і на бойню.

— На цябе не падобна, каб ты безразважна бег за важаком.

— Важакі маюць прываблівыя ідэі, якія авалодваюць статкам. На падставе іх памагатыя важака спрабуюць сканструяваць сваё грамадства з яго інстытутамі ашукання і прымусу. Потым у імклівым бегу і важакі трапляюць у расстаўленыя імі ж лавушкі для абдураных. Але гэта ўжо не мае значэння — гісторыя не ведае ходу назад.

— Па-твойму, ідэі правяць светам?

— Некалі адзін мудрэц сказаў, што светам правяць любоў і голад. Другі мудрэц не пагадзіўся з ім і даказаў на практыцы, што светам можа правіць толькі бязлітасны, усюдыісны страх.

Серафіму Іванавічу здавалася, што ён даўным-даўно, можа, з самага дзяцінства, ляжыць у бальніцы. Праўдападобнасці дадаваў Ігар Набокаў з ягоным паюначы іранічным стаўленнем да ўсяго на свеце. Мінулае праходзіла перад вачамі выразна, выпукла, як агромністы абеліск на фоне сіняга неба. Але нешта і перайначылася ў іхніх колішніх узаемаадносінах. Бадай, тое, што Серафім Іванавіч ужо не ўспрымаў Ігаравы высновы са свяшчэнным трапятаннем, хоць ягоны намёк на Сталіна, які вынайшаў усюдыісны страх, каб паспяхова кіраваць дзяржавай, задзірыста казытаў думку, што нечакана склалася ў галаве: «Плюралізм — гэта калі кожны мае неабмежаванае права маўчаць пра тое, што думае на самой справе».

Думка, хоць і ўзнікла спантанна, мела пад сабой грунт з дужа старажытных народ: па чутках, ды і сам

Ігар Валянцінавіч не адмаўляў гэтага, ён некалі працаваў у генеральнага пракурора Вышынскага, а потым пад яго ж кіраўніцтвам быў дыпламатам.

Праўда, яны найчасцей прыгадвалі горад свайго маленства і юнацтва: старыя Задунаўе і Заручэўе, Полацкі базар і Сенную пляцоўку, дзе яшчэ прадавалі коней і іншую жыўнасць, Дзвіну ў стромых берагах і гістарычны музей, дзе іх уражвалі два экспанаты — мошчы Ефрасінні Полацкай і вялізная карціна, на якой барадаты стары смактаў грудзі маладой дзяўчыны. Абодва экспанаты выклікалі загадкавую цікаўнасць.

Набокаў, несумненна, памятаў больш, але ягоная памяць, у адрозненне ад памяці Серафіма Іванавіча, дзіўным чынам захавала цэлыя блокі палітычных падзей і нечаканых да іх высноў і абагульненняў, якія, хутчэй за ўсё, былі зроблены пазней, але тым не менш выклікалі цікавасць. Магчыма, Набокаў неўсвядомлена падганяў мінулае пад сучасныя павевы галоснасці і плюралізму. Свядомае пагадненне неяк не сумяшчалася з набокаўскай патрабавальнасцю.

Серафіму Іванавічу ўсё рупіла расказаць Набокаву пра забойства маці. Яно з кожным годам усё мацней мучыла яго сваёй загадкавасцю. Ён і сам не разумеў, навошта хоча расказаць Набокаву пра такое даўняе здарэнне. Можа, спадзяваўся знайсці ў старым попеле які незгарэлы доказ.

Тая кашмарная ноч прыгадвалася Серафіму Іванавічу з такімі падрабязнасцямі — нібы ўсё адбылося ўчора.

Набокаў слухаў яго з уважлівасцю вопытнага, досціпнага адваката. Не перапыняў. Не перапытваў. Але, як толькі Серафім Іванавіч расказаў пра тое трагічнае здарэнне, не забыўшыся ніводнай дэталі, што ўрэзаліся ў галаву, Набокаў загаварыў пра нешта вельмі аддаленае ад тэмы Серафімавай гаворкі.

— Расейскі тэрарызм, усе гэтыя бомбакіданні, стрэлы, забойствы з грабяжамі і без оных, падпалы і пагрозы на расправу чамусьці былі прыпісаны той жа рускай інтэлігенцыі, якая найбольш і пацярпела ад тэрору. Што праўда, на словах некаторая частка інтэлігенцыі ўжывала, як бы гэта больш дакладна мовіць, крайнія заклікі. Але далей гэтых заклікаў не ішла ды і не зыходзіла гэта ад такіх сапраўды рускіх

талентаў, як Дастаеўскі, Талстой, Чэхаў, Караленка. Сапраўдныя таленты ўспрымалі ўсякі тэрарызм і гвалт над асобай, як з'яву чужую, дзікую, д'ябальскую. Аднак жа, запаведзь — не забі — за нейкія тры дзесяцігоддзі была адрынута прэч, а рэлігія, якая яе трымалася і асуджала забойствы, высмеяна, кляймо Каіна ператворана ў цярновы вянок пакутніка. Але ж насіць чужы вянок небяспечна. Тэрарызм ніколі не меў падтрымкі ў народзе. Ён быў асуджаны, як ганебная з'ява рускай рэчаіснасці. Таму надоўга стаў дзяржаўнай тайнай і зброяй у барацьбе з іншадумцамі.

— Маці была іншадумкай? — здзівіўся Серафім Іванавіч.— Праўда, яна часта спрачалася з Маркам, але...

— Было б прымітыўна думаць, каб маці забіў Марк,— злавіў Набокаў Серафімаву патайную думку.

— Вядома, бо і Чыкуноў прызнаўся, што забіў маці,— нагадаў Серафім Іванавіч.

— А што ты скажаш, калі я сустракаў таго Чыкунова ў трыццаць сёмым?..

— Не можа быць,— усклікнуў Серафім Іванавіч.

— Чаму? Азефу некалі далі магчымасць удзельнічаць у дыверсіі на чыгунцы, па якой праязджала царская асоба. Абы той мог уцерціся ў давер эсэраў. Свае азефы былі і ў Дзянікіна, і ў Махно, і ў звычайных бандах. Канешне, на кінаэкранах такія азефы выглядаюць прывабна і нават прыгожа.

— Значыць, Марк усё ж ведаў пра забойства маці,— выказаў здагадку Серафім Іванавіч.

— Пра гэта трэба было спытацца ў самога Удоева,— адказаў Набокаў.

Серафім Іванавіч з маланкавай хуткасцю аднавіў у памяці адну размову з вотчымам, калі той быў п'яны.

У паветры ўжо моцна пахла дваццатым з'ездам. Праўда, яшчэ з асцярогай, толькі ў сваім асяроддзі і дужа скупа, людзі дзяліліся пазнаннямі пра «тайны мадрыдскага двара», як называўся для канспірацыі крамлёўскі двор.

Марк тады піў са страшнай сілай. Клаўдзя рашуча настаяла, каб яму далі асобную кватэру, бо ягоныя паводзіны дрэнна ўплывалі на дзяцей. Яно і сапраўды было так, але Серафіму Іванавічу не хацелася

выпраўляць вотчыма з дому. Прападзе на адзіноце. Ды што паробіш, калі праёмная дачка не хоча цярпець у хаце бацьку. Дамагчыся кватэры было не цяжка: два пакоі выдзелілі ў новым доме непадалёк ад праспекта. Вось на той кватэры і адбылася іхняя першая і апошняя размова пра даўнюю трагедыю ў старым доме на Задунаўі.

— Празнайся,— сказаў Серафім Іванавіч,— ты застрэліў маці, як Сталін застрэліў жонку. За што?..

Марк аж працверазеў.

— Пачакай,— папрасіў ён і пайшоў у ванны пакой.

Серафім Іванавіч спалохаўся: яшчэ, чорт яго пабяры, павесіцца, дык не абярэшся непрыемнасцей. Марк стаяў, падставіўшы стрыжаную пад бокс галаву пад струмень халоднай вады. Серафім вярнуўся ў пакой.

— Цяпер пагаворым,— сказаў Марк. Ён быў зусім цвярозы.

— Пагаворым...

— Дык гэта ты, сукін сын, такую тваю разгэтакую, усё жыццё насіў супраць мяне крыўду і маўчаў? Не мог спытаць раней?

— Ага, спытаўся б, а ты мяне засадзіў бы ў каталажку,— парыраваў Серафім Іванавіч.— Знаю я цябе. Сфабрыкаваў бы якую справу, а потым цераз сваіх сябрукоў у якім-небудзь лагеры адкруціў бы мне галаву і сказаў, што мяне і прывезлі туды без галавы.

— Ну, і дурань, так-ператак-перагэтак,— вылаяўся Марк.— Ах, які дурань! Да чаго дадумаўся, маць тваю. А яшчэ інжынер чалавечых душ! Дзярмо ты чорнай каровы.

— Ну, можа, хопіць? — рашуча перапыніў яго Серафім Іванавіч.— Чаму ж ты тады загадаў мне хлусіць следчым, быццам я спаў і нічога не чуў? А я ўсё чуў. Як ты з маці спрачаўся, як яна крыкнула і адразу загрымелі стрэлы.

Серафіму Іванавічу думалася, што ён прыпёр Марка да сцяны. Аж дзе там!

— Яшчэ раз дурань і балда,— ужо без брыдкай лаянкі, спакойна сказаў Марк.— Думаеш, я нейкі лапух, што нічога не петрыць. Ты адным нязначным словам мог падвесці мяне пад трыбунал. Я ведаў, хто прыедзе на расследаванне. Цяпер дык цвёрда ўпэўніўся, што зрабіў тады правільна, і ўсё ж знайшоў

сволач, якая забіла тваю маці. І гэта так жа верна, як і тое, што Сталін не забіваў Алілуеву. Яна пакончыла жыццё самагубствам. Я тваю маці вельмі, зразумей гэта, сысунок, вельмі кахаў.

— Тады забіў з рэўнасці.

— Ды я буржуазны гэты перажытак з маладых гадоў выкінуў на сметнік. Думаеш, я не ведаў, што Раіса мне здраджвае? Ведаў. І пляваць мне было на яе здрады. Усе гэта глупства, каб дзеля яго забываць пра высокія вышыні камунізму.

Серафіму Іванавічу заставалася адступіць: вельмі ўжо ярасна абараняўся Марк. Але ён не хацеў здавацца. Таму і загаварыў пра даўнія чуткі, нібы Марк расстрэльваў людзей. Прызнаецца, тады не ягоная віна ў смерці маці, не прызнаецца, пачне хлусіць — сам сябе выдасць.

Не зводзячы сваіх вачэй з Маркавых, Серафім Іванавіч, раздзельна вымаўляючы кожнае слова, спытаўся ў вотчыма:

— Скажы, Марк, ты расстрэльваў людзей?..

Марк адкінуўся на спінку крэсла. Паклаў сціснутыя кулакі на стол.

— Расстрэльваў,— глуха сказаў ён.— Сам расстрэльваў і кіраваў расстрэламі. Загадаюць — буду расстрэльваць ворагаў і здраднікаў радзімы і агульнай нашай справы. Задаволены?..

— Дзякуй,— сказаў Серафім Іванавіч.— Ты зняў з майго сэрца камень.

Марк наліў у шклянкі гарэлкі.

— Запомні, Сеня, ты прымусіў мяне выдаць дзяржаўную тайну. Я ж даў пажыццёвую падпіску: нікому ні слова. Калі ты каму прагаворышся, я пакончу з сабой. Тваю здраду я не перанясу.

Серафім Іванавіч пакляўся, што не выдасць Маркавай тайны нават пад прымусам.

## 5

Клаўдзя Маркаўна з дакладнасцю электроннага гадзінніка паяўлялася ў палаце, куды Серафім Іванавіча з Набокавым перавялі з рэанімацыі, роўна ў шэсць вечара, каб у сем чмокнуць у шчаку і пайсці дамоў. Але за гэтую гадзіну яна развівала такую

дзейнасць, што соннае датуль аддзяленне — ад санітаркі да дзяжурнага ўрача — пачынала бегаць, мітусіцца, выконваючы загады Клаўдзі Маркаўны. Загады найчасцей былі недарэчныя, часам бязглуздыя, але медыцынскі персанал выконваў іх з дзіўнай старраннасцю. Серафім Іванавіч здагадаўся, што жонка, няйначай, здолела кожнаму ўрачу, сёстрам, нянечкам паднесці нейкія падарункі, ад чаго тыя і адчуваюць сябе абавязанымі. Серафіму Іванавічу здавалася гэта па-за рамкамі нашай маралі, але ўвага медперсанала яму не шкодзіла.

Клаўдзя Маркаўна забараніла наведваць Серафіма Іванавіча нават дзецям, сказаўшы раз і назаўсёды:

— Помачы ад іх ніякай, а шкоды наробяць...

Серафім Іванавіч не пратэставаў супраць жончынай дыктатуры, таму не крыўдаваў на дзяцей, хоць яны на гэты раз маглі і не паслухацца маці. Яго найбольш уражвала і крыўдзіла тое, што ў адведкі не прыходзілі з Саюза: во ўжо каму Клаўдзя Маркаўна не была ўказам. Значыць, забыліся, няма калі падумаць пра чалавека, які больш за чвэрць стагоддзя аддаваў Саюзу ўсе сілы, улазіў у кожную дробязь, стараўся, як найлепш зрабіць, каб пісьменніку не чулася ягоная жабрачая залежнасць ад кожнай блыхі, якая з'есці не з'есць, але надакучыць моцна. Вось і адплата! Не хочуць успамінаць. З вачэй далоў і з сэрца вон. Падыхай у забыцці. А бывала ж, гарнуліся, кляліся ў вернасці, віншавалі з перамогай. Што такое службовая перамога? Гэта адвечнае выбіванне нейкіх даброт братам- пісьменнікам, а яны выкарысталі тыя даброты і атлусцела занурыліся ў свае клопаты. Усё парахня! Пасады, званні, узнагароды, ушанаванні. Усё марнасць і мітусня! Толькі кнігі застаюцца навечна...

Серафім Іванавіч раптам спатыкнуўся на слове: а ці навечна? Можа, і кнігі неўзабаве пахаваюцца на далёкіх паліцах бібліятэк, каб не трапляць чытачу на вочы? Колькі было на свеце славутых пісьменнікаў, а цяпер пра іх і спецыялісты маюць цьмянае ўяўленне. Нішто не вечна пад месяцам. Хто гэта сказаў? Можа, ніхто і не гаварыў.

На гэты раз Клаўдзя Маркаўна прынесла двухлітровы слоік з грэцкімі арэхамі, разынкамі, курагой, лімонамі, перацёртымі на мясарубцы, запраўленымі

мёдам і настойкай залатога кораня. Расказаўшы, як трэба ўжываць гэтае зелле, Клаўдзя Маркаўна ўспомніла:

— Ага, ледзь не забылася. Званіў твой гэты Кротаў. Я забараніла яму прыходзіць да цябе. Не станеш крыўдаваць?..

Серафім Іванавіч прамаўчаў. Яму чамусьці хацелася, каб Кротаў прыйшоў да яго.

Ды Кротаў, мабыць, не вельмі звяртаў увагу на забароны: у нядзелю а дванаццатай гадзіне, якраз пад бой крамлёўскіх курантаў, адчыніліся дзверы, і на парозе палаты ўзнік Глеб Панкратавіч Кротаў у светлым гарнітуры, ружовашчокі, чыста паголены, з пахам парфумы і каньяку, з кулёчкам у руках.

— А-а-а, во дзе ён, сімулянт, адлежваецца. Ну-ну, пакажыся! Ды ты — герой! А то жонка мяне напалохала. «Да яго нельга, ён моцна хворы». Глупства! Дай руку. Сцісні маю. Мацней! Малайчына! Калі сіла ў руцэ, дык здароўе ў целе.

Кротаў сеў на крэсла верхам, паклаў рукі на спінку, ногі заклаў за ножкі. Толькі цяпер ён глянуў на Набокава. Серафім Іванавіч злавіў ягоны позірк.

— Гэта Ігар Валянцінавіч Набокаў. Ды я ж цябе знаёміў, калі ты прыязджаў на чаяванне разам з Лыкавязавым. Таксама наш, віцебскі...

— Вы таксама тут па пісьменніцкай лініі? — спытаўся Кротаў.

Серафім Іванавіч здзівіўся: няўжо Кротаў забыўся, што Набокаў — дыпламат? А што? Мог! Пад старасць памятаеш тое, што было пяцьдзесят гадоў назад, і забываеш, што рабіў учора.

— Не, я па навуковай лініі. Спецыяліст-міжнароднік па Афрыцы.

Адказ Набокава быў не менш дзіўны: навошта яму разыгрываць Кротава. Хіба Ігар Валянцінавіч надумаў пажартаваць з забыўлівага генерала?

— І бывалі ў Афрыцы? — пацікавіўся Кротаў.— Ці, так сказаць, больш па чужых назіраннях пісалі манаграфіі.

Толькі цяпер Серафім Іванавіч зразумеў, што яны абодва пакепліваюць адзін з аднаго — перавага старых людзей?

— Чаму ж па чужых? — спакойна парыраваў

Набокаў.— Бываў у Афрыцы, і не раз, з неабходным забеспячэннем ці іначай — дахам над галавой.

— Ага. Цяпер зразумела, ці, як кажцуць немцы, фарштэйн.— Кротаў неяк адразу згубіў цікавасць да Набокава, загаварыў з Серафімам Іванавічам: — Ну, дык што, Сеня, паміраць нам ранавата? А ты, браце,— у морг... Нядобра! Зусім кепска!

— Да морга не дайшло, а ў вочы кашчавай заглянуў,— сказаў Серафім Іванавіч, крыху перасцепануўшыся ад генеральскага жарту.

— Дайшло, дайшло,— аж узрадавана ўсклікнуў Кротаў.— Сам бачыў пратаколы.

Серафіму Іванавічу здалося, што Кротаў з'ехаў з глузду, хоць яму, напэўна, здаецца, што ён дасціпна жартуе. Во ўжо праўда, засцеражы, божа, ад генеральскіх жартаў!

— І як жа я трапіў у морг? На сваіх дваіх ці на рамізніку?

Кротаў жарт ацаніў.

— Сказануў! На рамізніку! А на звычайнай каталцы не хацеў? Смяхоцце! Паталагаанатам нацэліўся на свежанькага нябожчыка, а на стале — жывенькі пісьменнік Недасейка. Цяпер фарштэйн?

— Цяпер фарштэйн,— адказаў Серафім Іванавіч. Яго зусім не спалохала размова пра морг, дзе ён, відаць, усё ж пабываў. Ва ўсякім разе, паведамленне гэтае нешта нарэшце тлумачыла.

— Доўга жыць будзеш,— паабяцаў Кротаў.

— А што ты ведаеш аб пратаколах? — здагадваючыся пра нешта кепскае для ягонага ўрача, спытаўся Серафім Іванавіч.

— Без пратаколаў у такіх выпадках нельга.

— І могуць засудзіць доктара?..

Кротаў чамусьці прамарудзіў з адказам, і Серафім Іванавіч роспачна падумаў: засудзяць. Думка непрыемна кальнула ў скроні. Ды нібы на вокліч ягонай душы, Кротаў супакоіў:

— Пры цяперашнім разгільдзяйстве і не за такія ўчынкі амнісціруюць... — Ён раптам падхапіўся з крэсла, захадзіў па палаце.— Дэмакратыя!.. Галоснасць!.. Перабудова!..— было такое ўражанне, што ўсе тры словы Кротаў не сказаў, а выплюнуў з трыма выбітымі зубамі.— Сэрца абліваецца свядомай крывёй...

— Дэмакратыя — жыццёвая неабходнасць,— нагадаў Серафім Іванавіч.

Не хочучы таго, ён улазіў у дыскусію, як бывала з Маркам. Цікава, а што сказаў бы Марк пра цяперашнія падзеі? Кротаў перастаў хадзіць, падхапіў крэсла, сеў на падаконнік, паставіў ногі на сядзенне крэсла.

— Рэвалюцыйныя масы ўрачыста верылі ў Марксаву правату, не чытаючы ягонага «Капітала», таму і будавалі сацыялізм, беручы адну недасягальную вышыню за другой. А цяпер дужа многа развялося граматных разумнікаў, якія і «Капітал» чыталі, ды знаходзілі ў ім не напрамак дзейнасці, а закавыркі і славесную неразбярыху.

Набокаў ляжаў, павярнуўшыся тварам да сцяны, але па ўсім не спаў. І гэта па здаўна выпрацаванай прывычцы стрымлівала Серафіма Іванавіча. Чамусьці ў галаву лезла некалі кінутае Маркам папярэджанне: «Улічы, Сеня, размова ўдвух юрыдычна недаказуемая. Калі ж яна вядзецца ўтрох, адзін з іх можа аказацца нашым чалавекам». Колькі мінула часу, колькі ўсяго памянялася, а засцярога засталася, сядзіць у чалавеку, як куля ў мясе.

— Хіба гэта добра?

— А хіба лепей, калі кожны недаростак, не адпаведны класавай свядомасці, імкнецца паваліць чырвоны ўцёс сацыялізму? Не, Серафім Іванавіч, кругаварот няспелых думак не дазволіць з верай глядзець у будучыню. Хоць бы ўстаяць на нагах. Веры, во чаго не хапае народу, а ўраду — цвёрдасці рукі. У пяцьдзесят шостым у народа адабралі пуцяводную зорку марксізму — «Кароткі курс ВКП(б)», — а што далі ўзамен? Таму і палезла на свет розная нечысць, каб павярнуць кола гісторыі назад да капіталізму. Андропаў гераічнымі намаганнямі спрабаваў закрыць шквальныя амбразуры варожых дотаў, а наперакор яму адкрывалі шлюзы зносін і трагічных кантактаў. Чаму садзейнічалі і вашы геніі абстрактнага пяра і палітычныя трупы сучасных баяў і заканспіраваных магнатаў падпольнага бізнесу. Цяпер разводдзе плыняў праходзіць вывучку ў варожых партыях і народных франтах, невядома кім і дзеля чаго створаных, быццам няма камсамола, прафсаюзаў і іншых грамадскіх арганізацый.

— Каб такое сказаў я, дык мяне, напэўна ж, абвінавацілі б у ачарніцельстве,— троху іранічна сказаў Серафім Іванавіч.

Кротаў саскочыў з падаконніка.

— Гэта, Сеня, не ачарніцельства, а крык збалелай душы перад разбурэннем усяго святога. Трэба стаяць на марксісцкіх пазіцыях, як маяк у штармавым моры. Вунь баба і тая крыкнула на ўвесь свет: «Не магу маўчаць!» Ад болю за нашу святую справу, якой бацькі нашы аддалі маладосць і пралетарскую кроў. Я часам думаю: гадкоў бы на пяць, ну, хоць бы на тры вярнуць Іосіфа Вісарыёнавіча.

— Думаеш, дапамагло б? — спытаўся Серафім Іванавіч.

— А ты паглядзеў бы, як хутка навёўся парадак...

Нягледзячы на каструбаватасць мовы, у выказваннях Кротава Серафіму Іванавічу чулася магічная затоеная сіла. Што сапраўды было б, каб вярнуліся назад сталінскія часы?

Серафім Іванавіч здрыгануўся. Напэўна, быў бы трохкратны, дзесяцікратны па маштабах трыццаць сёмы год. Затоены страх кальнуў у скроні, аж пацямнела ў вачах. Дзякуй богу, Кротаў здагадаўся, што трэба заканчваць спатканне.

Калі ён пайшоў, Серафім Іванавіч спытаўся ў Набокава:

— Як табе падабаецца?

Набокаў павярнуўся тварам на палату.

— А мы з Глебам Панкратавічам Кротавым даўно знаёмыя,— нечакана для Серафіма Іванавіча сказаў ён.— Пазнаёміліся пры даволі сумных абставінах: ён — малады следчы, я падследчы. Скажу адразу: ён быў не з горшых, з лепшых следчых. Любіў пафіласофстваваць, памарыць пра будучыню. Аднаго разу ноччу пад добры настрой ён развінуў перада мной даволі стройную тэорыю гэтага ідэальнага грамадства будучага, ад якой мне стала не па сабе. Ну, папершае, абсалютнасць пралетарскага паходжання ад трох да пяці пакаленняў пры найстражэйшай стэрыльнасці думак, а больш дакладна, пры адсутнасці сваіх думак у двух-трох пакаленняў. Думаць дазвалялася толькі правадыру і яго паплечнікам, якіх ён сам сабе і падбіраў па адным яму вядомым прынцыпе. Кротаў быў абсалютна перакананы, што народ без правадыра

не можа існаваць, бо правадыр — мозг народа, а народ, згуртаваны ідэяй правадыра, павінен працаваць, будаваць, развіваць светлае будучае згодна з указаннямі правадыра. Што датычыць інтэлігенцыі, дык у Кротава была на гэты конт свая, не сказаў бы, што арыгінальная, ідэя. Ён не адмаўляў, што інтэлігенцыя патрэбна, але быў упэўнены, што яе лішне шмат, і што яна павінна быць выкарыстана толькі пасля найстражэйшай праверкі, і тварыць яна можа толькі ў спецыяльных установах.

— Дзікасць! — абурыўся Серафім Іванавіч.— Ці, можа, ты ўтрыруеш?

— Не скажы! Калі я праз шмат гадоў дачуўся, як у Кампучыі расправіліся з інтэлігенцыяй, мне здалося, што там дзейнічаў Кротаў. Выходзіць, самыя жахлівыя ідэі могуць паяўляцца ў галовах самых розных людзей на самых аддаленых канцах зямлі, у абсалютна непадобных нацыянальных, сацыяльных рэгіёнах, але з аднолькавым вынікам для лёсу людзей. Вось і думай цяпер, што гэта — закон заканамернасцей ці выпадковасць у недасканалым свеце чалавечых супярэчнасцей? На выпадковасць не вельмі падобна. Заканамернасць? Але як тады чалавецтву, і чалавеку тым больш, устаяць супраць гэтага подлага закону заканамернасцей?

— І ўсё ж ты ўтрыруеш,— сказаў Серафім Іванавіч.

— Магчыма, у маім пераказе кротаўская тэорыя цяпер выглядае фантастычнай, але тады я так не думаў. Ды і Кротаў расказваў з такой перакананасцю, што ўспрымаць ягоную тэорыю, як нешта ненармальнае, было проста немагчыма. Праўда, мне здавалася, што я вар'яцею. Можа, я нават на нейкі час страціў тады розум, бо нармальны чалавек на маім месцы не стаў бы гаварыць Кротаву тое, што сказаў я: «Нічога не выйдзе, грамадзянін следчы. Людзей можна знішчыць, але прымусіць іх жыць па вашых законах немагчыма». Кротаў глянуў на мяне і ўсміхнуўся. Ніколі не забуду тую ўсмешку: гэткая з'едлівая ўсмешка пераможцы. Я думаў, на тым і скончана маё жыццё. Аж не, Кротаў расказаў мне страшную такую казачку, падобную, аднак, на праўду.

Белая сотня з фанатычна апантаных афіцэраў, якія смерць ад рук ворагаў лічылі за гонар, трапіла

ў палон да рэвалюцыйнага атрада, якім камандаваў Рувім Каварскі. Асоба легендарная і амаль неверагодная, але Кротавым успрынятая як зусім рэальная. Хутчэй за ўсё пад гэтым прозвішчам-мянушкай хаваўся нехта з тых шматлікіх экспрапрыятараў і бамбістаў, якія нічога не прызнавалі, апрача смерці. Каварскага даводзілі да істэрыі афіцэрская вытрымка і пагарда смерцю. Памятаеш Сільвія з пушкінскага «Стрэла»? Яго давяло да злобы тое, што афіцэр, з якім яны страляліся на дуэлі, спакойна стаяў пад пісталетам і, выбіраючы з фуражкі чарэшні, еў іх, а костачкі выплёўваў пад ногі Сільвія. І тады ён не стаў страляць, а пакінуў апошняе слова за сабой. Яму хацелася аднаго: прынізіць ворага. Так было і з Каварскім. «А я ўсё ж вас зламаю,— сказаў ён сам сабе.— Хоць трох, чатырох, а прымушу здрыгануцца перад смерцю».

Вывелі афіцэрскую сотню за горад, загадалі капаць яму. У адказ — смех. А палкоўнік гэтак пагардліва глянуў на Каварскага ды і кажа: «Ты, бандыт з вялікай дарогі, не мяркуй пра ўсіх па сваіх падручных. Паглядзі, як рускія афіцэры паміраюць».Яму давялося капаць самім. Назаўтра прывялі афіцэраў да ямы, загадалі пастроіцца ў шарэнгу і разлічыцца па парадку нумароў, а потым кожнаму дзесятаму выйсці са строю. Дзесяць афіцэраў зрабілі пяць крокаў наперад. Каварскі звярнуўся да іх з прамовай: так і так, вы, вядома, белая сволач, ваявалі супраць нас, але даю вам шанец на жыццё. Хто парве з мінулым і пяройдзе на бок працоўнага народа, будзе выконваць любыя нашы загады, таго не расстраляем, а, наадварот, залічым у свой атрад. Хто хоча жыць, станьце налева. У адказ смех і кпіны. Каварскі сам расстраляў іх з маўзера.

Быў у атрадзе Каварскага нейкі знаўца псіхалогіі з тых сельскіх настаўнікаў, што вучылі не словам, а лінейкай ды прутам. Ён і параіў Каварскаму не выклікаць па дзесяць афіцэраў, бо ў масе і смерць не страшная. Выклікаць па два-тры. Так хутчэй нехта здасца. І што ты думаеш? Ягоная праўда. Ужо ў другой тройцы адзін з афіцэраў завагаўся: чорт з вамі, бярыце на службу і ўсё такое іншае. «Ну, вось табе і першае рэвалюцыйнае заданне,— узрадаваўся Каварскі.— Бяры наган і выканай прысуд народа над

сваім былым камандзірам, белым палкоўнікам». Палкоўніка паставілі на край ямы, афіцэру далі наган. Ён прыцэліўся і, раптам развярнуўшыся, стрэліў у Каварскага. Той весела зарагатаў: «Ты што ж думаў, я табе без праверкі зброю дам? Ах ты, гніда белая... У нас во як страляюць...» Ён, не цэлячыся, прыўзняў маўзер, стрэліў, і афіцэр упаў. Але ў наступнай тройцы знайшоўся такі маладзенькі прапаршчык, які так напалохаўся смерці, што згадзіўся на ўсе ўмовы Каварскага. Яму далі наган. У яго трэслася рука. Ён націскаў на спускавы курок, наган страляў, але палкоўнік стаяў над ямай і не падаў. Толькі на сёмы раз на левай грудзіне палкоўніка паявілася ў фрэнчы дзірачка, а сам ён паваліўся ў яму. Фокус заключаўся ў тым, што ў нагане быў толькі адзін сапраўдны патрон, якраз на сёмы стрэл. Прапаршчык гэтага, вядома, не ведаў. Што з ім рабілася, калі ён націскаў на курок; наган страляў, а прапаршчыку здавалася, што ён не трапляе ў цэль.

Калі палкоўнік паваліўся ў яму, прапаршчык няўцямна глянуў на Каварскага, выпусціў з рук наган, ікнуў, і яго пачало ванітаваць адной жоўцю. «Слабец афіцэрык,— сказаў Каварскі,— але перакуём і загартуем».

Во якую жахлівую казачку расказаў мне Глеб Кротаў. Потым у камеры я доўга думаў, а што азначае сія казачка? Што я дарэмна супраціўляюся, што мяне можна было б перакаваць і загартаваць? Дробна нават для Кротава. Ці ён хацеў давесці, што светлая будучыня павінна складацца вось з такіх перакаваных і загартаваных? Але гэта ўжо нешта зусім непраўдападобнае, хоць Кротаў і гаварыў пра такую будучыню. Навошта ж тады ён расказаў мне казачку? І дасюль не магу зразумець.

Пакуль Набокаў пераказваў кротаўскую казачку, Серафіма Іванавіча не пакідала думка: Рувім Каварскі — няйначай Марк Удоеў. А што, зусім верагодна: Рувім Каварскі — гэта партыйная клічка Марка Удоева, а можа, наадварот, Марк Удоеў — партыйная клічка Рувіма Каварскага.

Тым часам Набокаў пасля нядоўгага маўчання прадоўжыў расказ:

— Але цікавая яшчэ адна акалічнасць. Мяне вызвалілі на пачатку трыццаць восьмага, перад

пленумам, на якім быў вырашаны лёс Яжова. І вызваляў не хто іншы, як Кротаў. Во сітуацыя! Такі хэпі энд толькі ў амерыканскім фільмах бывае. Выклікаюць, вядуць. Думаю, на вышку. А насустрач Кротаў з працягнутымі рукамі. «Рад! Шчаслівы! Ад усяго сэрца віншую!» А я стаю і не магу здагадацца, што гэта: розыгрыш, новы прыём у сістэме допыту ці на самай справе вызваленне? Нарэшце, Кротаў здагадваецца паказаць мне пастанову. Просіць распісацца. І тут мной авалодвае смешная, недарэчная думка: як я пайду цераз увесь горад у чаравіках без шнуркоў, у памятых, страпаных штанах, сяк-так завязаных на вузел, і ў замызганым пінжаку без аніводнага гузіка. І я кажу таварышу — ужо таварышу! — Кротаву, што на вуліцы зіма, а я нейкім чынам у турэмным бушлаце. Ён весела смяецца, пытае: за каго я іх прымаю? Яны ўсё прыдугледзелі. І сапраўды, у пакой прыносяць касцюм, кашулю, гальштук (нават гальштук!), чаравікі, паліто, капялюш. А на развітанне таварыш Кротаў яшчэ папрасіў прабачыць іх за тое, што патурбавалі. Неверагодна? Але факт, як кажуць, юрысты.

— І вы адзін аднаго на чаяванні не пазналі ці прытварыліся, што не пазнаеце?

Набокаў засмяяўся.

— Я яго сапраўды не пазнаў. А ён — не ведаю.

## 6

Цяпер яны ўсё часцей звярталіся да размоў на палітычныя тэмы. Серафім Іванавіч здагадваўся, што Набокаву вядомы такія сакрэты колішніх падзей, якія недаступны простаму смяротнаму. Ігар Валянцінавіч не ўхіляўся ад размоў, але ягоныя адказы найчасцей вызначаліся лапідарнасцю і таямнічасцю зместу. Бывала і так, што Набокаў наогул не заўважаў пытання Серафіма Іванавіча, гаварыў пра нешта набалелае яму, але зусім не па тэме. Тады іхняя размова нагадвала размову двух глухіх.

— І ўсё ж я не магу зразумець механікі самазнішчэння,— разважаў Серафім Іванавіч, спадзеючыся, што Набокаў раскрые яму гэтую механіку.— Нават пры самых крывавых дыктатарах, як Гітлер,

у лагерах смерці і газавых камерах не знішчалі аднадумцаў. Навошта ж гэта рабілі ў нас? Мне часам здаецца, што народу адсеклі галаву, пакінуўшы яму страўнік, каб ён еў, але не думаў.

— Французская рэвалюцыя знішчыла Бастылію, мы — помнікі імператарам і векавую культуру,— нібы пра нешта блізкае яму па тэме, сказаў Набокаў.

— Але ж нішто не ўзнікае раптоўна, як Афрадыта з марской пены,— Серафім Іванавіч такім чынам паспрабаваў навесці Набокава на канкрэтны адказ.

Набокаў доўга маўчаў. Серафіму Іванавічу падумалася, што вось зараз ён пачуе нешта адмысловае, нейкае адкрыццё.

— Двухмерныя істоты не здагадваюцца, што ёсць трохмерная прастора. А хоць бы якая і здагадалася, яе спаляць на кастры або расстраляюць у спецпрыёмніку.

— Цяпер іншыя часы,— нагадаў Серафім Іванавіч.

— Часы іншыя, а ланцуг той жа, якім мы прыкуты да агульнай калясніцы. Калі чыноўніка пачнуць выкідваць з калясніцы, дык іменем той жа галоснасці і перабудовы з яе найперш пастараюцца выкінуць простага чалавека. Тады нязгодных пачнуць вучыць палкамі, а можа, і кулямі на гарадскіх плошчах і вуліцах, каб яны не заміналі спакойна ехаць у калясніцы.

— Ну, гэтага не будзе,— рашуча запярэчыў Серафім Іванавіч.— Быў жа дваццаць сёмы з'езд партыі.

— Але быў і дваццаты...

— Ты лічыш, што можа паўтарыцца трыццаць сёмы? — са страхам і недаверам да слоў Набокава спытаўся Серафім Іванавіч.

— Культ носяць у сэрцы, а не выстаўляюць напаказ, як гады тры назад некаторыя шафёры выстаўлялі партрэты Сталіна ў кабінах грузавікоў.

— А культ, культ адкуль паявіўся на нашу галаву? З дзекабрысцкіх часоў вольналюбівая краіна, вольналюбівыя народы і раптам культ,— абурыўся Серафім Іванавіч.

Набокаў іранічна пасміхаўся.

— Так ужо мы выхаваны,— нехаця прамовіў ён.— Дэфармаваны доўгім уціскам, таму і не заўважаем парадоксаў нашага жыцця. Мы жывём, як у за-

люстэркавым фантастычным царстве — усё ў нас наадварот.

Набокаў зноў замоўк надоўга, і гэтае ягонае маўчанне раздражняла Серафіма Іванавіча. Раптам падумалася, што Набокаў нечага асцерагаецца, можа, баіцца яго, Серафіма Іванавіча, не давярае. Набокаў, як і ў гады маленства, зноў дэманстраваў сваю перавагу над Серафімам Іванавічам.

— Паслухай, Ігар Валянцінавіч,— з дабрадушнай насмешкай звярнуўся да Набокава Серафім Іванавіч.— З нас ужо нічога не возьмеш, апрача аналізаў. Што ты ўсё нечага ўтойваеш, недагаворваеш.

Набокаў па-кацінаму фыркнуў.

— Табе здаецца, што я спасціг ісціну ў першай інстанцыі. Ды яе сам Сталін не спасцігнуў. Мы прывыклі шукаць сацыяльныя, нацыянальныя асаблівасці, а ёсць яшчэ мноства псіхалагічных, псіхічных заканамернасцяў. Чаму мы гэта выпускаем з поля зроку? Доктар можа распазнаць псіхічнае захворванне асобы, але хто, скажы мне, распазнае псіхічны стан натоўпу, сацыяльнага асяродка, класа, асобных народаў, групы народаў і хто дасць рэкамендацыі, як лячыць гэтую масавую немач? Мы ўхапіліся за матэрыялізм, як малпа за палку, але не ведаем, як ім карыстацца. Некалі гэтак жа трымаліся ідэалізму. Іншадумцаў адпраўлялі на кастры. Мы іншадумцаў расстрэльвалі. Трэсачка, пакладзеная старой на касцёр, на якім палілі Яна Гуса, была пакладзена з цвёрдай упэўненасцю ў ратаванні свету ад ерытызму: куля, выпушчаная ў патыліцу дзе-небудзь на Лубянцы або ў Курапатах, таксама была выпушчана з перакананнем, што ратуе сацыялізм ад замаху.

— Баюся, што не заўсёды з ідэйнай упэўненасцю. Найчасцей стралялі па прынуцы, па жаданні паказаць сябе і такім чынам вылучыцца,— запярэчыў Серафім Іванавіч.

Набокаў пагадзіўся, але з агаворкай:

— Стралялі і па прынуцы, і па ўпэўненасці ў сваёй праваце, і па жаданні вылучыцца, і за грошы таксама, але ўлічы, што заўсёды стралялі грубыя матэрыялісты. Матэрыялізм, баценька мой, у адрозненне ад ідэалізму, спарадзіў такія з'явы, як цынізм, голы практыцызм, пагарджэнне бацькоўскімі традыцыямі. Ён навучыў людзей практыцы.

— Ну, вось мы і вярнуліся да таго, што ідэі правяць светам. Нелагічна, Ігар Валянцінавіч.

— У абсурдным свеце абсурдна і чалавечае мысленне,— адказаў Набокаў.— Ахвяра бывае катам, кат — ахвярай. Устойлівыя паняцці ператвараюцца ў сваю супрацьлегласць.

— Ахвяра заўсёды ахвяра, а кат і ёсць кат,— не згадзіўся Серафім Іванавіч.

Набокаў чмыхнуў зусім так, як у маленстве. Быццам не было дзесяцігоддзяў найвялікшых падзей, якія ператрэслі свет. Здалося нават, што яны сядзяць у мансардзе купецкага дома на Заручэўі і Ігар паблажліва павучае яго, Серафіма Іванавіча, божай міласцю пісьменніка.

— Здаецца, адразу пасля дваццатага з'езда партыі,— няспешна пачаў апавядаць Набокаў,— я сядзеў на дачы ў аднаго знаёмага — вечнага інструктара, як ён сябе называў. Гэта было пад Масквой. Толькі ў адрозненне ад выпадку з Маякоўскім, заход не палаў у сто сорак сонцаў, бо неба з раніцы заставалася захмураным, і ішоў дождж, дробны і вельмі надакучлівы. Вечныя інструктары, заўважу мімаходзь,— гэта такая катэгорыя службоўцаў любога апарату, якую чамусьці не вылучаюць, не прасоўваюць па службе, але без якой не могуць і абысціся. Непрыкметныя людзі гэтыя, аднак жа вельмі дасведчаныя і прадбачлівыя — дыпламаты вышэйшага рангу. Дык вось Антон Антонавіч тады выказаў адну думку, якая засела ў маёй памяці. Калі б Сталін,— сказаў ён,— не рэпрэсіраваў партыйную эліту, а пазней не павёў знішчальную вайну з касмапалітамі, якія ўяўляліся яму гэткім безразмерным Троцкім, дык дарагому і мудраму правадыру і настаўніку даравалі б і мільёны вынішчаных, забітых голадам сялян, і сотні тысяч прадстаўнікоў духавенства ўсіх рэлігій, і немалую армію старой інтэлігенцыі, ваенных спецаў і рабочай інтэлігенцыі. Не, ты пачакай,— запыніў ён жэстам Серафіма Іванавіча, хоць той і не думаў перапыняць яго.— Славуты матрос Жалязняк некалі абсалютна пераканана заяўляў, што дзеля перамогі сацыялізму можна знішчыць і не адзін мільён чалавек. Ну, то малапісьменны матрос. А вось табе сведчанне іншага плана. Адзін з вартаўнікоў Смольнага ў часе наступлення

Юдзеніча на Петраград выказаў прапанову: узарваць дынамітам горад. Па логіцы нармальныя людзі павінны былі б жахнуцца такой ідэі. Дык жа не! Прапанова ахоўніка выклікала захапленне Троцкага. Ён назваў вар'яцкую задуму сапраўднымі, без сопляў і слюнцяйства адносінамі да культуры. А праз дваццаць пяць гадоў гэтую ж думку паўторыць і найвялікшы стратэг свету таварыш Сталін, прапануючы ўзарваць Ленінград і здаць яго немцам.

— Даруй,— сказаў Серафім Іванавіч, калі Набокаў замоўк, як бы адпачываючы пасля доўгага маналога,— але пры чым тут партыйная эліта, а тым больш касмапалітызм, барацьбу з якім Сталін пачаў на прыканцы свайго жыцця?

— Чаму на прыканцы? — запрэчыў Набокаў.— На прыканцы толькі было знойдзена ідэалагічнае абгрунтаванне рэпрэсій. Пачалося нашмат раней. Іосіф Вісарыёнавіч, жартавалі, усё жыццё быў падпольным антысемітам. Выйшаў з падполля няйначай у сорак чацвёртым, калі даў згоду на разгон рэдакцыі «Известий». Адкуль і пацягнулася нітачка аж да арышту ўрачоў-забойцаў. Можаш уявіць стаўленне да ўсяго гэтага сусветнай грамадскасці. Такое не даруецца нікому. Што датычыць партыйнай эліты... Бачыш, апарат, які існаваў і будзе існаваць у сваім нязменным складзе, пакуль трымаецца на аднапартыйнай сістэме, не можа не адпомсціць таму, хто ўзняў на яго руку. Апарат распраўляецца бязлітасна, хоць часам і сам трапляе ў свае ж пасткі.

— Таму ты і паставіў у адну шарэнгу і ахвяры і катаў? — спытаўся Серафім Іванавіч.— Мне патрэбны факты...

Набокаў засмяяўся тым іранічным мефістофельскім смехам, які быў у яго з дзяцінства.

— Цяпер у друку зашмат і фактаў і факцікаў, толькі спажывай. А ты ўяві сабе нешта неверагоднае — судзяць Сталіна. Натуральна, выклікаюць сведак, і не якіх-небудзь там іванаў, што і распісацца на пратаколах допытаў не ўмелі, а салідных сведак, з той самай партыйнай кіруючай эліты, пра якую я табе казаў, напрыклад, таварыша Зіноўева, які на вядомым табе працэсе праходзіў як завадатар трацкісцка-зіноўеўскага блока. Зіноўеву, безумоўна, ёсць пра што расказаць: ён усе сем кругоў пекла пратупаў.

Ад ягоных паказанняў кроў стыне ў жылах. Перад высокім судом — няшчасная ахвяра вераломнага дэспата, прытворшчыка і ката. Ды і хто не абурыцца, пачуўшы, якія сродкі прымяняў Сталін у адносінах да вядомага тэарэтыка партыі, які не запляміў сябе якімі-небудзь благімі ўчынкамі, што пярэчылі б камуністычнай маралі. А Сталін тым часам, спакойна курыць люльку і нечага пасміхаецца ў вусы. Старшыня суда звяртаецца да яго: ці ёсць у грамадзяніна Сталіна пытанні да сведкі Зіноўева. «Ёсць,— кажа Сталін.— Хачу спытаць Зіноўева, ці не прыгадае ён нашу з ім паездку ў Ленінград. Хачу растлумачыць суду: у Ленінградзе на той час жыло пад тысячу афіцэраў, якія добраахвотна здалі зброю, прайшлі рэгістрацыю — парвалі з былым. Тыя афіцэры паводзілі сябе лаяльна да савецкай улады, але на ўсякі выпадак іх вырашылі ліквідаваць. У нас і была такая місія. Ці не была тая акцыя каварствам з нашага боку? Можа, Зіноўеў прыпомніць нашы размовы ў вагоне, калі мы ехалі расстрэльваць тых афіцэраў. Я тады, магу запэўніць высокі суд, не быў так моцна тэарэтычна падкаваны і нават выказаў, памятаю, думку, што наша акцыя можа нашкодзіць савецкай уладзе і бальшавікам. Ці не прыгадае сведка Зіноўеў, што ён адказваў на мае сумненні? Я быў удзячным слухачом і ў далейшай сваёй дзейнасці не адступаў ад тых тэарэтычных разважанняў сведкі Зіноўева, змагаўся з ворагамі партыі тымі сродкамі, якія тады падказаў мне і тэарэтычна абгрунтаваў стары бальшавік Зіноўеў». Натуральна, пытаюцца ў Зіноўева, ці праўда, што ён, Зіноўеў, каварна ашукаўшы афіцэраў, якія паверылі дадзенаму ўладамі слову і склалі зброю, расстраляў па сутнасці ні ў чым не вінаватых людзей? Зіноўеў пачынае гаварыць пра абарону рэвалюцыі, пра сацыялістычную пільнасць, магчымыя хваляванні афіцэраў, небяспеку контррэвалюцыйнага выступлення. Адным словам, выстаўляе ўсе тыя аргументы, якія потым былі прыведзены на працэсе супраць яго. Дык хто ж ён, стары бальшавік Зіноўеў? Ахвяра? Кат? І што павінен у такім выпадку рабіць высокі суд?.. А згадай героя грамадзянскай вайны маршала Тухачэўскага. Хто ён? Ахвяра? Вядома, ахвяра. Але і кат, які, падаўляючы тамбоўскае паўстанне, не разбіраўся, хто правы, а хто вінаваты,

знішчаў селішчы разам з паўстанцамі, жанчынамі, старымі, малымі і нават груднымі дзецьмі. Ды зразумей, Сіма, што на працягу ўсяго нашага існавання расстрэлы вяршыліся не па законе, а па прыхамаці, напрыклад, Урыцкага або Пятакова. Не ў прозвішчах справа, Чырвоны тэрор быў скіраваны на знішчэнне любой апазіцыі, нават намёку на яе. Іначай савецкай уладзе і сапраўды было б цяжка затрымацца ва ўладзе.

Хоць Серафім Іванавіч і пасмяяўся з Набокава, што, маўляў, з іх узяць няма чаго, апрача аналізаў, яго разбіраў нявольны, дасюль глыбока затоены страх. Было цікава спасцігаць выказаныя Набокавым думкі і здагадкі, але нечага і страшна. За такія размовы не так даўно па галоўцы не пагладзілі б.

У палату ўваліла світа з прафесарам Баранчыкавым, перапыніўшы размову ці не на самым цікавым месцы. Прафесар выглядаў мажна, і голас у яго быў басавіты, густы.

— Ну, што ж вы, Серафім Іванавіч, падводзіце нас. Мы так не дамаўляліся,— сказаў ён і сеў у паслужліва падстаўленае крэсла.

Пакуль прафесар калоў іголкай ногі і рукі, стукаў малаточкам па каленях і запясцях, вадзіў ім перад тварам Серафіма Іванавіча, світа стаяла ў пачцівай маўклівасці.

— Ну, што ж, з майго боку ўсё ідзе па класічнай схеме,— і прафесар дадаў нешта па-латыні.

Світа пераглянулася, відаць, не разумеючы сказанага, толькі адзін са світы, худы і доўгі, як вочап, у вялізных акулярах, адгукнуўся на словы прафесара таксама па-латыні.

Даўгалыгі гэты таксама аказаўся прафесарам-кардыёлагам. Ён сеў на вызваленае прафесарам-неўрапатолагам месца, тыцнуў стэтаскопам у грудзі раз, другі і трэці і тут жа ўзняўся з крэсла.

— Дні праз тры можна ўставаць,— сказаў ён ні да кога не звяртаючыся.

На пярэднім плане адразу ўзнікла Алена Самсонаўна, загадчыца аддзялення.

— Анатоль Яўгенавіч,— звярнулася яна да кардыёлага,— мне ўяўляецца, што трымаць Серафіма Іванавіча ў нашым аддзяленні не мэтазгодна. Але і выпускаць з-пад нашага нагляду нясвоечасова. Таму

я мяркую, яму лепей бы паляжаць у паўлюксе на нашым паверсе, які нейкім чынам аўтаномны.

— Я не пярэчу,— сказаў кардыёлаг.

Світа неяк імгненна ўзнялася і, зашалясцеўшы накрухмаленымі халатамі, выйшла з палаты.

Набокаў незадаволена хмыкнуў.

— Чаго ты? — спытаўся Серафім Іванавіч.

— Цябе ў гэтай прэстыжнай установе яшчэ лічаць чымсьці. Вядома, дэпутат, член цэка. А я ўжо ніхто. Я былы, і гэтым усё сказана. А да былых і адносіны былыя. Таму ў мой бок і не паглядзелі.

Недзе праз паўгадзіны па Серафіма Іванавіча прыкацілі каталку. Серафім Іванавіч рашуча адмовіўся пераязджаць. Дзяжурная сястра разгубілася: у яе быў загад Алены Самсонаўны. А тая пайшла дамоў. Выручыў дзяжурны ўрач: распарадзіўся чакаць да заўтра.

— Мы дзіўная краіна,— сказаў Набокаў, сеўшы на ложку.— Колькі цяжкасцей мы ствараем, каб потым гераічна іх пераадольваць. Разгільдзяйствам давялі атамную станцыю да аварыі, а цяпер аж плачам ад замілаванасці: ах, які гераізм праяўляюць людзі на ліквідацыі аварыі. Развалілі эканоміку краіны, паглядзіш, неўзабаве пачнём крычаць пра гераічны подзвіг народа ў выкананні Харчовай ці яшчэ якой праграмы. Мы ўжо калі і ствараем што, дык глабальнае, маштабнае, будоўлю стагоддзя, калі гаворым пра звычайныя справы, пра звычайную працу, дык абавязкова як пра нешта незвычайнае, гераічнае.

— Ты пра што? — здзівіўся Серафім Іванавіч, не разумеючы матываў гаворкі Набокава.

— Адказваю на тваё пытанне. Мы ж самі выклікалі на сябе агонь, правакавалі, а інакш гэта і не назавеш, контррэвалюцыйныя выступленні.

— Кінь! — няшчыра абурыўся Серафім Іванавіч.

— Зноў патрабуеш факты. Будзь ласкавы. Яшчэ ў студзені васемнаццатага года, праз два месяцы пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, у нас прымаецца закон, ці, як тады казалі, дэкрэт аб адносінах да рэлігійных суполак. Выкананне дэкрэта было ўскладзена... на каго ты думаеш? На камісарыят юстыцыі. Фактычна духавенства: папы, манахі, іерархі царквы былі пастаўлены гэтым дэкрэтам па-за законам.

І пачалося!.. Праз тры тыдні пасля дэкрэта каля Кіева-Пячэрскай лаўры па-зверску забіваюць мітрапаліта Кіеўскага і Галіцкага. Многіх манахаў выганяюць на мароз з манастыроў. А за імі ж стаяла шматмільённая армія сялянства з яе фанатычнай верай у бога. Дык што гэта? Паспешлівасць? Неабдуманасць? Ці свядомая правакацыя, каб выявіць настроі людзей, а потым разлічыцца з імі? А ваенны камунізм! Колькіх людзей ён справакаваў на вайну з савецкай уладай. Не забуду размову тваёй цёткі Дар'і з харчатрадаўцам. Мусіць, Дрэль правёў яго на пастой. Тады да радавых паддобрываліся. Дык вось цётка Дар'я павяла размову пра тое, што баец гэтага харчатрада, напэўна, дужа добра вёў агітацыйную работу, калі здолеў нарыхтаваць так многа збожжа. А той паказаў ён шомпал і кажа: «Во мой агітатар. Не дае мужык збожжа, загадваю: «Станавіся, гад, на карачкі», — і шомпал яму ў зад. Як міленькі прызнаецца, дзе схаваў збожжа». Мужычок, натуральна, хапаўся за зброю, а яго ўціхамірвалі кулямётамі ды шаблямі. Гвалт выклікае гвалт, беззаконне — такое ж беззаконне. Ты чуў штонебудзь пра палонных у грамадзянскую вайну? А былі ж яны, былі! Што з імі сталася? Пускалі ў распыл, як казаў твой вотчым Удоеў. І адны і другія пускалі. Во і запусцілі машыну смерці. А яна такая, што не можа стаяць без справы. Іначай заржавее. Так і дайшло да самазнішчэння.

Як і ў мінулыя гады далёкага дзяцінства, Серафім Іванавіч чуў на сабе ўладную сілу набокаўскай логікі, што захапляла не так аргументамі, як прывідам аргументаў, якія Ігар Валянцінавіч, здавалася, трымае ў запасе. У Серафіма Іванавіча складвалася ўражанне, што Набокаў спрытна вядзе яго да нейкай бездані, зваліўшыся ў якую, ужо не выкарабкаешся. Такая перспектыва чамусьці і палохала і выклікала цікавасць — пісьменніку належыць выпрабаваць усе сем кругоў пекла.

— Але хто запусціў машыну? — спытаўся ён, спадзеючыся, што Набокаў зноў прывядзе прыклад з якім-небудзь ахоўнікам або харчатрадаўцам.

— Меншасць,— не задумваючыся, адказаў Набокаў.

— Якая меншасць? — здзівіўся Серафім Іванавіч.

— Любая, якая захоплівае ўладу,— Набокаў замоўк. Серафіму Іванавічу было няёмка лезці да яго, хоць дзесяткі пытанняў так і саспявалі ў галаве. Ды Набокаў сам пайшоў насустрач Серафіму Іванавічу.— Захапіць уладу можна і трыма-чатырма дзесяткамі ўзброеных людзей, асабліва ў краіне з ліберальнымі настроямі, нетрывалым ладам і ўзбуджаным натоўпам. Галоўнае, як утрымаць уладу — альфа і амега любога перавароту. Узбуджаны натоўп даволі лёгка ўспрымае максімаліσцкія лозунгі меншасці: «Зямлю — сялянам, заводы — рабочым, мір — салдатам!» Натоўп у стыхійным бунце ніколі не падымаўся вышэй просценькай задачы: адабраць і размеркаваць, кінуць зброю, вярнуцца дахаты. А што далей? Добра, калі была панская зямля, а калі яе не было? Пераразмяркоўваць зямлю суседа? І з заводамі няўвязка: ну, узялі іх у свае рукі, а што з імі рабіць? Як наладзіць вытворчасць? Як павесці справу, каб завод не стаў банкрутам? Зноў жа, як быць з мірам для салдат? Не станеш абараняцца, трапіш пад прыгнёт захопніка. І прыходзіць на змену захаплення спачатку нясмелае расчараванне, потым абурэнне, а затым і адкрытая канфрантацыя. У меншасці застаецца адзін паратунак — жорсткасць.

— Правіла без выключэння?

— Выключэнняў не прыгадаю.

Гаворка сама па сабе затухла.

Назаўтра Набокаў прачнуўся ў добрым настроі. Ён усё спрабаваў узнавіць у памяці нейкі невядомы Серафіму Іванавічу марш, мелодыя якога яму чамусьці не давалася, і ён усё спрабаваў яе на язык. На шчасце, яму перашкаджалі то сёстры, то лабаранткі, то доктар, інакш можна было звар'яцець ад ягоных тра-та-там-тара-та-там-там.

— Я па тваёй міласці паўночы не спаў,— сказаў Серафім Іванавіч Набокаву пасля снедання, калі той зноў завёў сваё тра-та-там-тара-та-там-там.

— Даруй, прарвала, як каналізацыйную трубу,— адразу павініўся Набокаў.

— Я не дзеля таго паскардзіўся на бяссонніцу, каб ты здагадаўся папрасіць прабачэння. Мяне ашаламіла тая выснова, да якой ты падвёў учора мяне.

— Я ўсяго толькі разважаў,— сказаў Набокаў.

— Па-твойму, усе раэвалюцыі вялі да тэрору...

— Я казаў пра меншасць, якая захоплівае ўладу.

— Тады, выходзіць, Сталін паявіўся з Леніна? Даруй, але тут я рашуча не магу пагадзіцца з табой,— не зважаючы на рэплікі Набокава, Серафім Іванавіч такі давеў думку да канца.

— І правільна робіш, што не пагаджаешся,— адказаў Набокаў.

Во так ён рабіў і ў дзяцінстве: раптам памяняе свой погляд на сто восемдзесят градусаў.

— Ну, знаеш,— толькі і сказаў Серафім Іванавіч.

— Знаю, знаю,— весела адгукнуўся Набокаў.— Мы прывыклі да думкі, што правадыры самых розных рангаў або нічым не заплямленыя анёлы, або апошнія злыдні. Сіма, палітыка — брудная справа; чысценькіх, накрухмаленых палітыкаў не бывае. І Ленін патрабаваў ад сваіх эмісараў жорсткасці, і не каму, а яму належыць афарызм, што рэвалюцыю не робяць у белых пальчатках. Але, на мой погляд, Ленін з першых дзён грамадзянскай вайны зразумеў, што сацыялізм будзе будавацца не па Энгельсу, а па Дзюрынгу — сацыялізм з грашамі, з рынкамі, з арміяй, паліцыяй, наркаматамі і іншымі дзяржаўнымі ўстановамі, якія наплодзяць процьму бюракратаў, куды страшнейшых за белую армію і тыфозных вошай.

— Доказ! Доказ! — усклікнуў Серафім Іванавіч.

— Доказ? Новая эканамічная палітыка. Ленін думаў над ёю гады. Іначай яна не была б так абгрунтавана і аргументавана. Нэп выклікаў разгубленасць адных, рашучы адпор і абвінавачанне (каго? Па сутнасці, Леніна!) у адступленні ад рэвалюцыйных ідэалаў другіх. Сталін тады зрабіў для сябе выснову: ідэал трэба падтрымліваць любымі сродкамі, нават калі ён завядзе дзяржаву ў тупік. Парадокс? Не! Рэчаіснасць! Ленін у сілу свайго інтэлекту мог адступіць ад ідэалу Энгельса да ідэалу Дзюрынга і вытрымаць наскокі сваіх паплечнікаў. Сталіну такая задача была не па сіле. Яму бліжэй была ідэя Троцкага: казарменны камунізм. Сталін вырастаў з Троцкага, Каменева, Зіноўева. А ўсім ім разам яшчэ з часоў Брэсцкага міру замінаў Ленін. Доказ? А хоць бы заява бальшавіка Ломава пры яўным адабрэнні некаторых дзеячаў са старой гвардыі: «Мы можам абысціся без Леніна!» Во адкуль пачалася актыўная

апазіцыя Леніну — не хочаш згаджацца з намі, абыдземся без цябе. Таму апошнія гады Ленін па сутнасці быў пад хатнім арыштам, а апазіцыя прымяралася да кіравання дзяржавай без Леніна.

— І Сталін стаў на чале апазіцыі? А чаму не Троцкі, Каменеў, Зіноўеў? — спытаўся Серафім Іванавіч.

— Так складаліся тады абставіны. Ленін палохаў цвердакаменных артадоксаў сваімі нечаканымі ідэямі. У іх колах і ўзнікла ў процівагу Леніну, так сказаць, ідэя палітычнага камісара пры самім Леніне — генсека цэка партыі. Уяўлялася, што генсек будзе сачыць за непарушнасцю марксісцкіх ідэй, весці ідэалагічную работу, захоўваць арганізацыйную структуру партыі, а заадно і супрацьстаяць Леніну. Самае дзіўнае, што на пасаду генсека якраз і вылучалася менш за ўсё тэарэтычна адукаваная кандыдатура Сталіна. Апазіцыю, асабліва Каменева і Зіноўева, якраз і задавальняла сталінская тэарэтычная бездапаможнасць. Па старых уяўленнях, такія дзеячы, як Каменеў і Зіноўеў, надавалі тэарэтычным спрэчкам важнае значэнне. У дыскусіях старая гвардыя была непаўторная і неперайамальная. Той жа Луначарскі мог завесці дыскусію на самыя адцягненыя тэмы, але з абавязковай высновай аб перамозе сусветнай рэвалюцыі. Сталін не мог дужацца з імі ў дыскусіях нават на канкрэтныя тэмы. Затое ён валодаў іншымі якасцямі.

Серафім Іванавіч з цяжкасцю сачыў за думкай Набокава, якая, здавалася, не прасоўваецца наперад, а скача на адным месцы. Набокаў нагадваў яму часам Глеба Кротава, а часам самога яго, Недасейку, часам кагосьці трэцяга, якому дазволена гаварыць ад «а» да «н» — не ведаю.

— А табе не здаецца, што твая схема ўступае ў супярэчнасць з рэчаіснасцю,— перапыніў ён Набокава.— Я не бачу сэнсу, дзеля чаго і ў імя чаго дзейнічала апазіцыя. А потым, даруй, ад слова «апазіцыя» патыхае сталінскім нафталінам.

— Слова апазіцыя тады мела першапачатковы сэнс: супраціўленне чым-небудзь поглядам, і нічога крамольнага ў ім не было. Цяпер, у імя чаго дзейнічала апазіцыя? У імя найхутчэйшай пабудовы камунізму. Дык вось у нейкі перыяд Ленін пачаў не

задавальняць цвердакаменнае акружэнне. Дарэчы, такое здараецца даволі часта. Прызнаныя правадыры нацыі, выдатныя палкаводцы пасля атрыманых імі вялікіх перамог раптам становяцца нязручнымі. Дзеянні Леніна, ягоны роздум над далейшымі крокамі рэвалюцыйнага працэсу палохалі нядаўніх паплечнікаў, якія да таго ж лічылі сябе неперадузыдзенымі тэарэтыкамі, больш таго, ахоўнікамі чысціні марксісцкага вучэння. І задаваліся зусім не пустыя пытанні: куды вядзе Ленін? Куды ідзём і куды прыйдзем? Зноў да прыватнай уласнасці? Да рэстаўрацыі капіталізму? І гэта ў той час, як народныя масы чакаюць не дачакаюцца камунізму — таго райскага жыцця, пра якое гаварылі малапісьменныя агітатары і прапагандысты: працуй, калі захочацца, калі праца падабаецца, еш колькі захочаш і чаго захочаш. Што праўда, масы чакалі абутак, адзенне, цвікі, газу, цукар. Ленін разумеў, што мужыку патрэбен трактар, а не прывідны камунізм. Таму і скіраваў краіну ў нэп, які для цвердакаменных уяўляўся тупіком, дзе канае сусветны імперыялізм. А як быць з фундаментальным лозунгам аб прыватнай уласнасці, калі яго здымае першая ў свеце сацыялістычная дзяржава? Што будзе з сусветнай рэвалюцыяй? Канешне, разважала апазіцыя, нэпаўскі тупік яшчэ можна пераадолець: чэка перадушыць нэпманаў, буржуазію, дробных уласнікаў, папоў, гандляроў, кулакоў, старую інтэлігенцыю — вось вам і бяскласавае грамадства. А што рабіць, калі Ленін пачынае разбураць кіраўнічае адзінства, гаварыць пра недахопы ў дзейнасці партыі, пра савецкую бюракратыю. Называе пасквіль Маякоўскага «Прозаседавшиеся» ледзь не дэкрэтам, якога павінны трымацца бальшавікі. А што гэта, як не кампраметацыя савецкай улады? Сказаў бы такое не Ленін! Ды яго сцёрлі б у парашок. І добра, не зварочвай савецкі воз на слізкую дарогу рэстраўрацыі капіталізму! А што рабіць, калі гаворыць сам Ленін? Куды яшчэ можа занесці правадыра? Чуеце, ён ужо заклікае бальшавікоў вучыцца гандляваць! Навошта бальшавікам гандаль, калі гадоў праз дваццаць наступіць камунізм? Во яго і трэба фарсіраваць. А так чорт ведае, што выходзіць. Дэмабілізацыя сіл! Што скажа той жа несвядомы мужык, калі пабачыць, як бальшавікі сталі за прылаўкі магазінаў? А скажа ён:

нешта ў бальшавікоў сарвалася з камунізмам — гандляваць вучацца. Выходзіць, падрыў веры ў камунізм у шматмільённай арміі сялянства. Не хачу варажыць, як бы яно павярнулася, каб не захварэў Ленін.

— Ты думаеш, Леніна маглі звергнуць? — спытаўся Серафім Іванавіч.

— Ну, на гэта яны не пайшлі б, але абмежаваць Леніна партыйнай дысцыплінай і вельмі нават маглі, асабліва маючы за генсека Сталіна. Ну, а калі б у Сталіна нешта не выйшла з абмежаваннем Леніна, дык можна было б паахвяраваць Сталіным. Бяспройгрышная латарэя. Хвароба Леніна толькі паскорыла ягоную ізаляцыю ад партыйных і дзяржаўных спраў. Успомні зняважлівую размову Сталіна з Крупскай. Ленін патрабуе ад Сталіна прасіць прабачэння. Той і не думае. Чаму? Самадурства? Ды не, ён ведае думку большасці цэка. Таму і дзейнічае ўпэўнена, нахрапіста. Члены Палітбюро адыходзяць убок: раптам Ленін выздаравее, тады можна спаслацца на гэтага грубіяна Сталіна. А грузінская справа? Ленін дамагаецца строгага расследавання і пакарання вінаватых, а члены Палітбюро валакіцяць, фактычна здзекуюцца з Леніна. Што гэта, як не апазіцыя, ды яшчэ з вельмі смярдзючым пахам, — апазіцыя супраць ужо хворага правадыра. Во калі кола сацыялізму пачало раскачваць у бакі, і што выразна выявілася ў самай ганебнай справе з артыкулам Леніна «Як нам рэарганізаваць Рабкрын». Ты ж, мабыць, памятаеш? У «Правде» друкуецца адзін з самых і па сёння актуальных артыкулаў. І што ж? Адначасова ў губкомы накіроўваецца пісьмо, падпісанае членамі Палітбюро і аргбюро. А ў пісьме гаворыцца, што Ленін цяжка хворы, што ён не чытае газет, пратаколаў Палітбюро, а таму адарваны ад жыцця краіны і партыі. Што датычыць ягонага артыкула, дык яго трэба ўспрымаць, як прыватныя (звярні ўвагу — прыватныя!) дзённікавыя запісы. Тут ужо не проста апазіцыя — змова! І як бы потым не кляліся высокапастаўленыя аўтары пісьма ў сваёй вернасці Леніну і ленінізму, словы іхнія — мана і ашуканства. У вярхах цэка былі ўсе падставы аб'яднацца супраць Леніна яшчэ і па той прычыне, што ім вядома было пісьмо Леніна з'езду партыі, складзенае ім на самым

прыканцы дваццаць другога года. Сталін адразу даведаўся пра гэта пісьмо. Безумоўна, што тэкст яго стаў вядомы і астатнім пецярым, пра якіх пісаў Ленін. Маю на ўвазе Троцкага, Каменева, Зіноўева, Бухарына і Пятакова. Усе яны зразумелі сэнс пісьма адназначна: Ленін папярэджваў з'езд, што ніводзін з шасці, каго ён называў у пісьме, не мае права на пасаду генсека. З такімі характарыстыкамі, якія даў Ленін шасцярым, сапраўды ніводзін не падыходзіў на пасаду генсека.

— Ды хто ж тады Сталін? Геній? Злодзей? Палітык? — Серафім Іванавіч і сам не разумеў, навошта яму патрэбны адказ на такое лабавое пытанне.

Набокаў адгукнуўся не адразу, а калі пачаў гаварыць, дык неяк цяжка дыхаючы, быццам лез на гару па крутым схіле:

— Справа, Сіма, не ў Сталіне, а ў сталінізме, які пры пэўных абставінах мог называцца і па-іншаму. Сталінізм — гэта філасофская сістэма. А філасофія — рэч жывучая. Сталіна можна развянчаць, зняславіць, выдаць на ганьбу разгневаным масам. Ад гэтага нічога не зменіцца. Важны грунт, падмурак. Бюракратыя таксама мае патрэбу ў філасофіі.

— Але ж была і вера ў Сталіна, у правамернасць яго спраў. Я сам бачыў, як неслі да ягонага манумента кветкі пасля ягонай смерці. Ды і не маглі людзі ведаць, што караюць невінаватых.

— Не маглі ці не хацелі? — перапыніў Серафіма Іванавіча Набокаў.— А потым — гэта ж абсалютнае глупства, нібы цэлае пакаленне людзей можна было ашукаць. Той, хто хацеў, той і быў ашуканы. І калі мне кажуць пра ашуканае пакаленне, я думаю, а навошта мне хочуць убіць у галаву гэтую абразлівую для народаў Расіі думку? Ці не таму, што так званыя ашуканыя былі свядомымі сталіністамі, а цяпер хочуць перанесці сваю ганьбу на ўвесь народ.

— Але ж ты не станеш адмаўляць і страх, які панаваў тады,— згаджаючыся з Набокавым, усё ж запярэчыў Серафім Іванавіч.

— Не стану,— адказаў Набокаў.

«Што, засумняваўся, Сеня? — раптам пачуўся вельмі знаёмы і выразны голас Марка Удоева.— Кішка тонкая, каб пераварыць мора крыві і горы

трупаў, пакладзеныя на алтар рэвалюцыі? Іхняй і нашай крыві. Іхніх і нашых трупаў. А ты як думаў? Рэвалюцыя — прагулачка па асфальце з парадным аркестрам? Не, Сеня, рэвалюцыя — гвалт у імя царства справядлівасці і роўнасці. А ты? Нейкі ўблюдак старога свету пакаркаў над рэвалюцыйным мінулым, а ты і вушы развесіў. Слабец! Думаеш, ваш дэмакратызм давядзе да дабра? Падстаўляй шапку! Пагуляюць у дэмакратыю ды і вернуцца на пракладзеную Сталіным дарогу. Папомні маё слова, Сеня!..»

Серафіму Іванавічу аж стала млосна ад нечаканай думкі-здані.

— Ігар,— паклікаў ён Набокава,— а ці можам мы вярнуцца да сталінскіх часоў?

Набокаў не адказаў. Ён ляжаў на спіне. Правая рука месцілася на грудзях, левая была выцягнута ўздоўж магутнага і ў хваробе цела.

«Спіць»,—падумаў Серафім Іванавіч, але нешта і ўстрывожыла яго.

— Ігар, ты спіш? — паклікаў ён Набокава і пачуў, што ягоны голас трымціць. Набокаў не адказаў.— Ігар! — ужо не чуючы сябе, крыкнуў ён і націснуў гузік званка.

Сястры доўга не было. Ён пазваніў яшчэ раз. Сястра зайшла ў палату, незадаволеным голасам спыталася:

— Што ў вас? Звоніце, як на пажар. А ў мяне працэдуры...

Серафім Іванавіч слаба кіўнуў галавой. Сястра зірнула на Набокава, крута павярнулася і выбегла з палаты.

## 7

Смерць Набокава ўразіла Серафіма Іванавіча непрыкметным пераходам чалавека ад быцця да небыцця: быў чалавек і на вачах перастаў існаваць. Серафім Іванавіч пачаў баяцца ночы — заснеш і не прачнешся. Каб не заснуць, ён стараўся не заплюшчваць вочы. Вядома, гэта было ідыёцкае глупства, якое і сам Серафім Іванавіч усведамляў. Але яно не давала яму спакою. Ды і старанна расплюшчаныя вочы неўзабаве пачынала рэзаць і пячы агнём. Ён

выпіваў мікстуру Маркава, і тая непрыкметна валіла яго ў моцны сон, як бы ён ні супраціўляўся.

«Мусіць, так валіць чалавека і смерць»,— развагаў Серафім Іванавіч раніцай. Яму вельмі хацелася злавіць тую самую апошнюю іскрынку свядомасці перад сном, той самы пераход да неўспрыняцця рэчаіснасці, які, на ягоную думку, увасабляў мяжу паміж жыццём і смерцю. Але яму гэта не ўдавалася: свядомасць правальвалася ў цемру без адбітку ў памяці. Думка на нейкім этапе абрывалася, як нітка на ткацкім станку. Момант абрыву заўсёды заставаўся не зафіксаваны.

Затое памяць усё больш адольвала жаданне спасцігнуць да канца сэнс усіх размоў з Набокавым і зрабіць адпаведныя высновы. Яны палохалі Серафіма Іванавіча. Размовы выглядалі змовай. Здавалася, што іх нехта падслухаў і запісаў на магнітафон.

Гэта таксама было недаравальнае глупства, якое, аднак, выклікала незразумелы страх. Набокаву што? Ён нагаварыў сто бочак арыштантаў і памёр. З яго, што з казла — ні поўсці, ні малака. А яго, Серафіма Іванавіча, могуць узяць за жабры: ідэалагічны работнік, а слухаў чорт ведае каго.

«Я вар'яцею,— думаў Серафім Іванавіч.— Хто будзе мяне падслухоўваць? Дзеля чаго? Выдаткоўваць грошы на такую дарагую апаратуру, калі ў краіне шмат чаго не хапае. Размовы пра падслухоўванне — трызненне і прошукі ворагаў».

Трэба было пагаварыць з доктарам наконт свайго страху, але стрымлівала асцярога: доктару нічога не перашкодзіць засадзіць яго ў псіхіятрычную бальніцу. Люкс, які ў ноч смерці Набокава выглядаў ціхім прыстанішчам, цяпер уяўляўся пасткай.

Усё ж ён набраўся смеласці і прызнаўся доктару ў сваіх страхах. І нічога. Доктар слухаў яго не вельмі нават уважліва, няйначай адразу здагадаўся, што з ягоным пацыентам.

— У сардэчнікаў такое здараецца,— сказаў ён і выпісаў нешта з транквілізатараў.

Страхі сапраўды адступіліся. Серафім Іванавіч, як казаў доктар, пайшоў на папраўку. Яму дазволілі ўставаць з ложка, сядзець у мяккім крэсле. Звыклы да доўгага ляжання, Серафім Іванавіч не адчуваў вялікай асалоды ад таго, што прайшоўся па пакоі. Яго

хістала, і ён змушаны быў шырока стаўляць ногі. Але сядзець у мяккім крэсле пад таршэрам здалося нечуванай раскошай. Такое ж утульнае крэсла стаяла ў ягоным кабінеце ў гарадской кватэры. У ім заўсёды прыемна думалася.

Урачы настойліва раілі не напружваць мазгі, не трывожыць сэрца. Але куды дзенешся ад думак. А калі яны апаноўваюць, прыходзіць і хваляванне. Такі закон чалавечага існавання.

«Колькі таго жыцця, і ўсё трэба асцерагацца,— разважаў Серафім Іванавіч.— Трэба жыць раскавана».

Раскаванасці якраз не хапала. Спакою таксама.

У галаву настырна лезлі самыя неверагодныя думкі пра ўласную творчасць. Прыгадваючы кожны свой твор, кожную кнігу, у тым ліку адзначаныя прэміямі, ён прыходзіў да невясёлай высновы, што яны, мякка кажучы, не адлюстроўвалі сапраўднага жыцця. Ён баяўся назваць сваю творчасць хлуснёю, але слова гэтае — «хлусня» — тачыла мозг. Серафім Іванавіч спрабаваў пераканаць сябе, што іншыя таксама хлусілі, пісалі згодна павеваў часу, і нічога, задаволены сваёй творчасцю. Дык чаго яму разрываць душу сумненнямі? Але аргумент выглядаў несур'ёзна. Сумленне не хацела пагаджацца.

Кнігі здаваліся яму дзецьмі, якія без аніякага сэнсу хлусяць і яму і людзям. Параўнанне кніг з дзецьмі было асабліва балючым. З ім да Серафіма Іванавіча прыходзіла развага пра сыноў. Сыны, як няспраўджаныя надзеі. Здавалася, яго нехта ашукаў, а можа, абакраў — забраў ягоных сыноў, а яму падкінуў чужых ды яшчэ няўдалых.

Думаць так было абразліва — сыны ягоныя, кроў ад крыві, плоць ад плоці. Але ж вось вярзецца нешта несусветнае ў душэўнай імпатэнцыі. Яго мучылі думкі пра кнігі, пра сыноў, але ён са здзіўленнем заўважаў, што пакуты прыносяць задавальненне. Нейкі мазахізм, прыемнае пачуццё ад здзекаў з сябе. Раздзіраючы сваю душу, Серафім Іванавіч меў права шкадаваць сябе — раскоша, не прадугледжаная сацыялістычнай мараллю. Ён сам некалі з насмешкай пісаў пра героя, які хоча, каб яго пашкадавалі. А наша рэчаіснасць не цярпела жаласці, выганяла яе з чалавечага ўжытку. Ну во, і сам дакаціўся да таго,

што чакае, каб яго пашкадавалі. Іронія лёсу ці трагічны канец усіх максімалістаў? Праўда, Серафім Іванавіч не лічыў сябе максімалістам, яму думалася, што ён самы памяркоўны чалавек сярод сваёй пісьменніцкай брацііі. Але цяпер ён сумняваўся і ў сваёй памяркоўнасці, і ў сваім жыцці, і ў сваіх творах. Гэта было нясцерпна балюча.

А тут нечакана наявілася адчуванне, быццам нешта павінна здарыцца. Можа, здарылася, ды ад яго хаваюць? Ён пачаў заглядаць у жончын твар. Твар, як заўсёды, быў непраглядны. Уся ўдоеўская парода заключалася ў гэтай непраглянасці. Ды адчуванне бяды не пакідала яго. Ён чуў яе кожнай клетачкай збалелага сэрца...

Калі ў нясмела адчыненых дзвярах паявіўся Цімошаў дачасна пасечаны зморшчынамі твар, Серафім Іванавіч аж здрыгануўся: Цімоша заўсёды быў вешчуном няшчасця. Якую бяду ён прынёс сёння? Цімоша, аднак, усміхаўся, і гэтая сарамлівая ўсмешка хоць крыху супакоіла Серафіма Іванавіча. Але боязь пачуць нешта жахлівае засталася. І хоць Серафіму Іванавічу так і карцела запытацца, чаму Цімоша паявіўся ў яго раптоўна, ён стрымліваў сябе.

Цімоша, як і мінулы раз у рэанімацыі, тыцнуўся халоднымі вуснамі ў шчаку, сеў на краёчак крэсла. Цяпер, калі з ягонага твару спаўзла ўсмешка, Серафім Іванавіч зноў падумаў, што Цімоша прыйшоў не так сабе, а з нейкай бядою. Каб заглушыць гэтае хваравітае адчуванне, Серафім Іванавіч стаў з усімі падрабязнасцямі расказваць пра смерць Набокава, пра сваю з ім размову напярэдадні. Ён і сам не разумеў навошта, ды яшчэ з такімі падрабязнасцямі, расказвае сыну пра Набокава. Магчыма, яго падбадзёрваў Цімоша, які слухаў з пачцівай зацікаўленасцю — уважліва і асэнсавана.

— Не, ты ўяўляеш, Цімоша,— як бы шукаючы падтрымкі ў сына, гаварыў Серафім Іванавіч,— да якіх высноў падводзіў мяне Набокаў? А сам жа працаваў у таго ж Вышынскага, які падпісваў ордэры на арышт, вёў працэсы супраць нявінных людзей. Як ўсё гэта зразумець?

Серафім Іванавіч пытаўся чыста рытарычна, але Цімоша, відаць, успрыняў бацькава пытанне як запрашэнне да размовы.

— Кроў Авеля не засталася без адплаты, і нікому не дадзена ведаць, які меч будзе скіраваны супраць забойцы,— як пра нешта даўно вядомае, сказаў Цімоша.

Серафім Іванавіч аж сумеўся: адкуль у Цімошы такія погляды? Хоць чаго там! Адчуваецца папоўскі ўплыў.

— Я табе пра Вышынскага, а ты мне пра Авеля,— насмешліва, але і павучальна запярэчыў Серафім Іванавіч.

— Дык і я пра яго,— як роўны роўнаму, адказаў Цімоша.

— Вышынскі — караючы меч? — Серафім Іванавіч скептычна ўсміхнуўся: вечна так бывае, што яйкі вучаць курыцу, як жыць.

— Людская кроў — не вадзічка,— без аніякай збянтэжанасці перад бацькам выказаўся Цімоша.— Караючы меч неабавязкова можа быць архангелам Міхаілам. Але зло абавязкова некалі будзе адпомшчана і найчасцей рукою зла. Дабро не ведае помсты, але не перашкаджае злу знішчаць зло.

«Во табе і блажэнненькі!» — падумалася Серафіму Іванавічу.

— Ты дзе набраўся гэтай мудрасці? — спытаўся ён, з цікавасцю прыглядаючыся да сына.

— Мудрасць заключана ў кожным чалавеку, але не кожнаму дадзена пакідаць яе сляды на паперы.

— Я не пра тое,— нечага ўзлаваўся Серафім Іванавіч.— Каб разжыцца на мудрасць, трэба шмат чаго паспытаць. А што паспытаў ты сярод сваіх падапечных?

— Ваша пакаленне, тата, паспытала шмат, але хадзілі вы з заплюшчанымі вачамі, з заткнутымі вушамі і запламбаваным сэрцам...

— Што? Што? Ды адкуль ты ведаеш пра нашы вочы, вушы, сэрцы? Зашмат на сябе бярэш... Ды каб мы не адстаялі айчыну ў вайне з фашызмам, дык і цябе не было б на свеце...

— Ты блытаеш подзвіг народа з заслугамі ўлады. Па-твойму, народ ва ўлады ў служанках, а не наадварот.

— Чакай, чакай,— запратэставаў Серафім Іванавіч,— а ты хоць збольшага ведаеш нашу айчынную гісторыю? Людзі босыя, голыя, галодныя, не шка-

дуючы сябе, будавалі заводы, фабрыкі, электрастанцыі, без якіх мы не выйгралі б вайну.

Цімоша скупа-скупа ўсміхнуўся:

— А ты і сам сабе не верыш, тата,— разважліва сказаў ён,— ваенная прамысловасць па сутнасці занава была створана ў вайну, а не да яе. Самалёты, танкі, «кацюшы», аўтаматы. Пачыналі ж вы вайну з трохлінейнай вінтоўкай мінулага стагоддзя. І гісторыю, тата, я ведаю, праўда, не тую, якую вывучыў ты па «Кароткім курсе ВКП(б)».

— А па якім жа курсе ты яе вывучаў? — з незразумелай яхіднасцю спытаўся Серафім Іванавіч.

— Доўга расказваць, тата, а ты яшчэ не зусім здаровы. Вось выпішашся, тады і пагаворым. А толькі не думайце, што маё пакаленне вырасла балбесамі, якія, акрамя дыскатэк, язды на матацыклах, нічога не хочуць ведаць. Мы за рашучае абнаўленне ўсяго грамадства.

— Ну-ну,— сказаў Серафім Іванавіч і адчуў, як халадзее ў грудзях ад страху і за Цімошу і за сябе.— Дык якога ж абнаўлення вы прагнеце?

Цімоша нахмурыў лоб, задумаўся.

— Калі коратка, дык наша канцэпцыя (у Серафіма Іванавіча аж падскочылі ад гэтага слова бровы) заключаецца ў двух прынцыпах: поўная дэмакратыя пры найстражэйшай забароне прымянення любой сілы і сілавога ўздзеяння — гаварыць гавары, але рукам волю не давай,— роўнасць усіх перад усімі законамі, з правам усіх мець магчымасць служыць айчыне ў адпаведных погляду суполках.

— І доўга ты над гэтым думаў? — аж спалохана спытаўся Серафім Іванавіч.

— Чаму я?..

Іхнюю такую крутую размову перапыніў Глеб Панкратавіч Кротаў. Ён укаціўся ў палату залатой дзесяцірублёўкай царскай чаканкі. Глеб Панкратавіч быў чыста паголены, прычасаны і адпрасаваны, ад яго пахла парфумай і каньяком.

— Ты што ляжыш? Што ляжыш? — жыццярадасна ўсклікнуў ён, падбягаючы да ложка.— А мне сказалі — ходзіш. Ды ты арол! Арол! Малайчына, выкарабкаўся! А мне пара ў матухну-Маскву. Заседзеўся ў вашых палесцінах.

Кротаў паціснуў руку, прабегся па палаце, сеў на

падаконнік, паставіў мадэльныя чаравікі на сядзенне крэсла. Цімоша няёмка ўзняўся, пераступіў з нагі на нагу:

— Я пайду, тата...

— Ідзі, ідзі,— дазволіў Серафім Іванавіч і толькі тады, як Цімоша схаваўся за дзвярамі, спахапіўся: можа, сын прыходзіў з якой просьбай?

— Сын? — спытаўся Кротаў.

— Што? А-а-а! Так, сын...

— А дзе ж сусед?..

— Як кажуць, царства яму нябеснае,— адказаў Серафім Іванавіч.

Кротаў перасеў на крэсла, дзе толькі што сядзеў Цімоша.

— Штучка твой гэты Набокаў,— сказаў ён.— Мы да яго ключык падбіралі, ды так і не падабралі. З гнільцой чалавек.

Серафіму Іванавічу захацелася запярэчыць, і не таму, што яму рупіла абараніць Набокава,— падштурхнула раздражненне, што ўсё больш авалодвала ім.

— А мне здалося, што ён вельмі прыстойны чалавек.

— Цяпер шмат хто з тваіх прыстойных зняў маску, каб раскачваць савецкую лодку. Ды не выйдзе ў іх. Не выйдзе! Хоць і напладзілі розных нефармалаў, а па сутнасці зародкаў новых партый, але мы гэтых зародкаў прыцiснем. У нас была і будзе адна партыя, і ніякіх гваздзёў! А хто супраць, хай саступіць з дарогі. Нас шмат...

Глеб Кротаў гаварыў з такой перакананасцю, быццам яны жылі недзе годзе ў сорак восьмым, і гэтае дыханне мінуўшчыны Серафім Іванавіч раптам адчуў так выразна, аж закалола ў скроні.

— Ты думаеш, курс дваццаць сёмага застанецца толькі дэкларацыяй? — спытаўся ён.

— Курс — вызначае жыццё, але і жыццё вызначае курс,— адказаў Кротаў.— Ну дык што, ці хутка ты выпішашся?

Хвілін дваццаць пагаварыўшы на адцягненыя тэмы, Кротаў развітаўся, паабяцаўшы запрасіць Серафіма Іванавіча на прагляд фільма, які адбудзецца недзе на пачатку вясны наступнага года. Серафім Іванавіч адчуў, што абодва наведванні яго

знясілілі. У роце было суха і горка. Графін з вадою стаяў на століку каля акна. Серафім Іванавіч устаў з ложка, выпіў вады. Вяртаючыся назад, ён заўважыў на прыложкавай тумбачцы канверт. На ім незнаёмай рукой было напісана ягонае прозвішча. Ні адраса, ні зваротнага адраса, ні прозвішча таго, хто падпісаў канверт не было.

Серафім Іванавіч па прывычцы паглядзеў канверт на святло, акуратна адарваў канцік. Стандартны аркуш паперы быў спісаны крыху больш як напалову. Серафім Іванавіч зірнуў на подпіс: божа, Алег Максімаў!

«Калі ты атрымаеш маё пасланне, мяне ўжо не будзе на нашай грэшнай зямлі», — прачытаў Серафім Іванавіч першы сказ, і адразу заскакалі, замітусіліся на паперы літары. Чаму не будзе? Каго не будзе? У скроні рэдка, але моцна грукала, а ў вушах стаяў звон.

Серафім Іванавіч лёг на спіну, паспрабаваў супакоіцца. Памалу вяртаўся зрок, адкладала вушы. Ён дачытаў пісьмо да канца, здзіўлена задумаўся. Не хацелася верыць, што Алег Максімаў, выпадкова знойдзены дваюрадны брат, пакончыў жыццё самагубствам. Нейкая недарэчнасць!.. Хіба ён адзін праектаваў чарнобыльскі рэактар? Дык чаму адзін адказвае за яго аварыю сваім жыццём. Гэта было незразумела. Ды факт заставаўся фактам — Алег пакончыў з сабой, адчуваючы сваю віну перад народам за тыя беды, якія чакаюць яго ў недалёкім будучым. А што ж астатнія? Якая будучыня чакае людзей?

Серафіму Іванавічу здалося, што з цемры на яго насоўваецца нешта лахматае, страшнае, пачварнае. Але ён перамог свой страх. Адразу прыгадалася іхняе катанне на маторцы па Чарнобыльскім вадасховішчы, ягоная размова з Алегам, дарога назад, прыезд Алега на дачу з партфелем рукапісаў.

Нагадка пра рукапісы вярнула яго да пасмяротнага пісьма. Серафім Іванавіч як бы краем вока выхапіў з яго просьбу наконт рукапісаў. Трэба было перачытаць тое месца, дзе ён піша пра свае рукапісы. Алег прасіў на ўсякі выпадак прыхаваць іх, бо ягоная смерць можа стаць смерцю для рукапісаў.

«Але ж я хворы,— падумаў Серафім Іванавіч.—

Ён хіба не ведае? Дык што рабіць? Трэба пазваніць Клаўдзі. Хай яна схавае рукапісы. Не, ёй нельга давярацца. Трэба пазваніць Святлане. Чакай, чакай, а хто прынёс пісьмо? Кротаў? Цімоша? Мабыць, Кротаў. Тады ўсё прапала. Мне б машыну. Ракапісы на дачы. Шкада, няма гарнітура. Але можна і ў бальнічным. Вельмі нават прыстойны гарнітур».

Серафім Іванавіч пачаў апранацца. За акном гусцеў змрок. Ён не запальваў святла. Выглянуў на калідор. На ім нікога не было. Па неасветленым калідоры ён дайшоў да чорнага хода. Дзверы былі не замкнуты, але ўнізе нехта стаяў. Серафім Іванавіч уздрыгнуў: Ігар Валянцінавіч Набокаў махаў яму рукой.

«Але ж ён памёр,— падумаў Серафім Іванавіч і зноў прыгледзеўся да чалавека, які яго клікаў.— Божа, дык гэта ж Кротаў!»

Мабыць, пачуўшы, што ён пазнаў Кротава, той неяк растаў у паветры, вызваліўшы дарогу Серафіму Іванавічу. Ён рашуча ступіў у ноч.

# ЭПІЛОГ:

## забойства пасля смерці

Блізіліся сарачыны, і няўцешная Недасейкава ўдава Клаўдзя Маркаўна пакрысе збіралася з сіламі, набывала колішнюю ўпэўненасць і той непаўторны смак да жыцця, які быў у яе і якім яна вельмі ганарылася. Пасля такой заўчаснай і загадкавай смерці Серафіма Іванавіча Клаўдзя Маркаўна нейкі час знаходзілася ў незразумелым ёй трансе, тым стане, калі жывеш і не жывеш, дзейнічаеш хутчэй па інерцыі, чым па глыбока асэнсаванай неабходнасці. Яно, што праўда, не знікае з часам, але тупее, як слых у старога чалавека.

На сарачынах настойвалі Святлана з Цімошам. Клаўдзі Маркаўне іх прапанова была не па душы. Не таму, вядома, што сарачыны запатрабуюць грошай і клопатаў: яна была ідэйнай праціўніцай рэлігійнага звычаю. Ад яго, на яе думку, патыхала старасветчынай і папоўшчынай. Да ўсяго сарачыны маглі кінуць цень на незаплямленую рэпутацыю Серафіма Іванавіча, нашкодзіць ушанаванню ягонай памяці — устанаўленню помніка, мемарыяльных дошак, выданню поўнага збору твораў, прысваенню яго імені вуліцам, навучальным установам, прадпрыемствам, а можа, і цэлым селішчам. Ды і час быў няпэўны. Мала што зараз пішуць, мала што даюць папам і манахам выступаць у друку і па тэлебачанні. Пройдзе час, і, як ужо не раз было, настане паварот да мінулага. Тады будзеш кусаць сабе локці.

Настойлівасць Святланы і Цімошы была зразумелая: дачка хацела хоць гэтымі сарачынамі насаліць мачысе, а сын даўно падпаў пад уплыў царкоўнікаў. Але аргументы, што выстаўлялі Святлана з Цімошам, прымушалі задумацца. А што, калі вакханалія з перабудовай, сапраўды, назаўжды. Тады сарачыны могуць паспрыяць папулярнасці Серафіма Іванавіча,

якая апошнім часам моцна пахіснулася. Сарачыны ў такім выпадку далучалі Серафіма Іванавіча да новых павеваў.

Клаўдзя Маркаўна баялася прамахнуцца. Погляды поглядамі, а жыццё жыццём. Яно бязлітаснае да тых, хто дрэнна ў ім арыентуецца.

Тым часам іхняя сям'я дала трэшчыну, якая і паспрыяла хутчэйшаму рашэнню Клаўдзі Маркаўны. Іван з Насцяю раптам павялі гаворку пра бацькаву спадчыну. Бессаромны ўчынак родных дзяцей выклікаў у Клаўдзі Маркаўны страх — што ж тады чакаць ад Святланы і Цімошы? Але якраз яны сталі на яе бок, і яна пагадзілася на сарачыны. Будзь што будзе!

Да сарачын камісія па літаратурнай спадчыне мелася закончыць працу над рукапісным фондам Серафіма Іванавіча. Работы той было не шмат. Клаўдзя Маркаўна ўжо гадоў з дваццаць пяць вяла літаратурную гаспадарку Серафіма Іванавіча і вяла, трэба сказаць, спраўна. Кожны твор — чарнавікі, варыянты, карэктуры, праўкі — стаяў на сваім месцы ў спецыяльна зробленым стэлажы. Пранумараваныя папкі мелі кароткі вопіс іх зместу. Такія ж папкі былі заведзены на перапіску Серафіма Іванавіча з выдавецтвамі, установамі, выбаршчыкамі, чытачамі і пісьменнікамі, найчасцей маладымі. Так што камісіі па спадчыне трэба было толькі зарэгістраваць папкі, вынесці на разгляд прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў свае меркаванні па ўвекавечанні памяці Серафіма Іванавіча.

Узначальваў камісію вядомы акадэмічны крытык і літаратуразнаўца Аркадзь Анатольевіч Буяк. Сакратаром камісіі па традыцыі лічылася сама Клаўдзя Маркаўна. Але з-за стану яе здароўя гэтыя абавязкі выконваў Цімоша.

Архіў Серафіма Іванавіча знаходзіўся на гарадской кватэры, і калі камісія закончыла над ім працу, у некага з яе членаў натуральна ўзнікла пытанне: а ці няма якіх твораў на дачы? Клаўдзя Маркаўна адказала, што на дачы Серафім Іванавіч працаваў над раманам «Жніво пад чорным сонцам», які застаўся незакончаным, хоць і ў незакончаным выглядзе ён складаецца з васьмісот пяцідзесяці старонак, што Серафім Іванавіч надаваў гэтаму

раману важнае значэнне ў сваёй творчасці. Камісія даручыла Аркадзю Анатольевічу пазнаёміцца з раманам, каб вызначыць, наколькі ён гатовы да друку, нават у незаконченым выглядзе. Назва рамана інтрыгавала.

Дні праз тры-чатыры Клаўдзя Маркаўна пазваніла Буяку з дачы, папрасіла неадкладна прыехаць па вельмі важнай справе.

— Толькі нічога не кажыце Цімошу,— папярэдзіла яна Аркадзя Анатольевіча.

Аркадзь Анатольевіч не прымусіў сябе доўга чакаць, у той жа дзень прыехаў на дачу. Клаўдзя Маркаўна сустрэла Буяка на двары, правяла ў сталовую, дзе ўжо была падрыхтавана застоліца на дзве асобы.

— Аркадзь Анатольевіч,—павяла гаворку Клаўдзя Маркаўна пасля выпітай вучоным мужам чаркі каньяку,— вы шмат зрабілі для папулярызацыі Серафіма Іванавіча. Вы ведаеце ягоную творчасць, як яе не ведае ніхто ў рэспубліцы. Ваша манаграфія пра Серафіма Іванавіча — сведчынне вельмі глыбокага пранікнення ў ягоную творчую лабараторыю.

— Шчыра дзякую,— аж разгубіўся Аркадзь Анатольевіч ад такой пахвалы, але тут жа і насцярожыўся: мусіць, Недасейкава жонка не так сабе хваліць яго?

— Я паклікала вас па вельмі далікатнай справе,— не звярнуўшы ўвагі на падзяку, прадаўжала Клаўдзя Маркаўна.— Але прашу вас як прыстойнага чалавека трымаць сказанае мной у тайне і без майго ведама хоць бы словам ці паўсловам не намякаць аб тым, што вы зараз пачуеце.

Аркадзь Анатольевіч урачыста пакляўся.

— Але, Клаўдзя Маркаўна, чаму такая таямнічасць?

Клаўдзя Маркаўна насцярожана паглядзела на Буяка: хітруе ці дурань, калі пытаецца?

— Не спяшайцеся,— папрасіла яна.— Зараз даведаецеся. Справа ў тым, што я знайшла вялізны стос невядомых мне твораў Серафіма Іванавіча...

Аркадзь Анатольевіч нават падскочыў, адразу ўявіўшы, якая гэта будзе сенсацыя.

— Вы ўпэўнены, што гэта творы Серафіма Іванавіча? — нягледзячы на ўзрушанасць, спакойна спытаўся ён.

— Але ж на іх праўкі, зробленыя рукой Серафіма Іванавіча,— адказала Клаўдзя Маркаўна.

— Ды вы разумееце, што азначае гэта для беларускай літаратуры? — аж нецярпліва выгукнуў Буяк.— Вы іх хоць прагледзелі?

Нецярплівасць Буяка не падабалася Клаўдзі Маркаўне: такі можа і здрадзіць дадзенаму слову.

— Я не толькі прагледзела, але і ўважліва іх прачытала. Вось гэта і прымусіла мяне звярнуцца да вас за парадай. Справа ў тым, што творы гэтыя, як бы вам сказаць, канцэптуальна адрозніваюцца ад тых, якія ён дасюль пісаў.

— Але тут нічога дзіўнага няма,— адказаў Буяк.— У пісьменнікаў бываюць розныя перыяды творчасці, калі яны мяняюць свае канцэпцыі. Кансерватар становіцца наватарам, прагрэсіст ператвараецца ў рэакцыянера.

— Бачыце, Аркадзь Анатольевіч,— перапыніла яго Клаўдзя Маркаўна,— наколькі мне вядома, Серафім Іванавіч ніколі не мяняў канцэпцыі, нават у апошнім рамане «Жніво пад чорным сонцам», дзе ён, па яго выразу, паспрабаваў распрыгоніцца. А ў знойдзеных творах Серафім Іванавіч выступае, скажу прама, з антыпартыйных пазіцый.

— Ну, вы перабольшваеце! Так ужо і з антыпартыйных?

— Вядома, цяпер такіх твораў хапае, але мне не хацелася б, каб Серафім Іванавіч выглядаў двурушнікам, гэткім двухаблічным Янусам. Што ні кажыце, а калі чалавек трымаецца цвёрдых поглядаў, дык яго паважаюць. Тых жа, хто кідаецца з крайнасці ў крайнасць, нямінуча чакае ганьба.

Неўтаймоўная цікаўнасць так і падбухторвала Буяка як найхутчэй атрымаць напісанае Серафімам Іванавічам употай нават ад жонкі. У апошні час маскоўскія часопісы надрукавалі ці мала твораў, якія пісаліся ў стол, а цяпер сталі аб'ектам вострых, драматычных дыскусій і дыялогаў. Сярод беларускіх крытыкаў існавала думка, што нашы пісьменнікі не ўмелі прытварацца, пісалі так, як думалі, а таму чакаць ад іх нейкіх сенсацыйных твораў, свядома пісаных у стол, не выпадала. Цяпер, здавалася Буяку, памылковая думка крытыкаў будзе абвергнута, і ён, Аркадзь Анатольевіч, стане першым, хто адкрыў

новыя, пісаныя ў стол творы — ды яшчэ кім! — Серафімам Іванавічам Недасейкам.

Было ад чаго ўсхваляваецца!

— Клаўдзя Маркаўна! — горача звярнуўся ён да Недасейкавай жонкі.— Тое, што вы назвалі антыпартыйнымі творамі, падказвае мне, што яны праўдзівыя, а Серафім Іванавіч быў сумленным чалавекам, і вам няма чаго баяцца, што яны пашкодзяць яго памяці. Наадварот, яны будуць садзейнічаць абсалютна правільнаму разуменню душы вялікага пісьменніка, які быў вымушаны ва ўмовах сталіншчыны і застою гаварыць праўду скрытна, каб хоць пасля ягонай смерці яна дайшла да народа і той змог бы ацаніць Серафіма Іванавіча. Вамі проста кіруе затоены страх, у лабірынтах якога мы ўсё яшчэ знаходзімся, не зважаючы на галоснасць і перабудову. Зрэшты, знойдзеныя вамі творы належаць не так вам, як народу, і вы не маеце права хаваць ад народа тое, што належыць яму.

Вось гэта гаварыць Буяку было рызыкоўна. Ягоныя разважанні выклікалі ў Клаўдзі Маркаўны яшчэ большую насцярожанасць. З размоў з Серафімам Іванавічам яна мела ўяўленні пра крытыкаў, укладальнікаў, інтэрпрэтатараў і іншых аматараў да чужых архіваў.

— Дык вы кажаце, што напісанае Серафімам Іванавічам належыць народу?

— Ну, так, так,— усклікнуў Буяк, абсалютна памылкова думаючы, што пісьменніцкія жонкі — закаранелыя мяшчанкі, якіх цікавяць толькі набыткі ад твораў.

— Я абсалютна згодна з вамі,— пранікліва сказала Клаўдзя Маркаўна.

— Тады давайце дамовімся так. Я забіраю напісанае, чытаю яго, і месяцы праз два-тры мы збярэмся, каб памеркаваць наконт публікацыі пасмяротных твораў Серафіма Іванавіча з маёй прадмовай, якую я напішу за гэты час.

«Дулю табе», — падумала Клаўдзя Маркаўна, а ўголас сказала:

— У такім разе, Аркадзь Анатольевіч, выпіце на здароўе. Я не памылілася, што паклікала вас. Вы вельмі заклапочаны творчасцю Серафіма Іванавіча, і я дзякую вам за гэта.

Буяк быў на сёмым небе. Ён выпіў і раз, і другі, і трэці, пакуль не паказалася сухое донца ў каньячнай бутэльцы. Клаўдзя Маркаўна дастала з бара яшчэ адну бутэльку французскага каньяку. Буяк спрабаваў абараніцца ад яе гасціннасці, але Клаўдзя Маркаўна пажартавала, што каньяк, хоць і безыдэйны, буржуазны, п'ецца, аднак, добра, і не варта ад яго адмаўляцца, тым больш калі аб гэтым просіць жанчына.

Прачнуўся Аркадзь Анатольевіч раніцай без болю ў галаве, але з добрым правалам памяці. Дацяміўшы, што ён ляжыць на дачы Серафіма Іванавіча, Аркадзь Анатольевіч абазваў сябе свіннёй, паспрабаваў прыгадаць, ці не нарабіў ён якога глупства, але памяць адмаўлялася аднаўляць учарашні дзень і сённяшнюю ноч.

Клаўдзя Маркаўна завіхалася на кухні. Па яе выгляду Буяк зразумеў, што нічога благога, мабыць, не зрабіў, хоць яму было сорамна за сваю нястрыманасць да спіртнога. Ён папрасіў прабачэння. Клаўдзя Маркаўна пагразіла пальцам.

— Я не ведала, як мне быць, вы неяк адразу сп'янелі. Але я пазваніла вашай Зіне, каб яна не хвалявалася.

Аркадзь Анатольевіч вельмі ўзрадаваўся. Адмовіўся ад снядання. Папрасіў Клаўдзю Маркаўну прынесці яму творы Серафіма Іванавіча. Клаўдзя Маркаўна неяк здзіўлена паглядзела на яго, быццам Буяк прасіў немаведама што.

— Даруйце, пра якія творы Серафіма Іванавіча вы гаворыце? Калі пра раман «Жніво пад чорным сонцам», дык я павінна прывесці яго да ладу і, як ужо дамовілася з рэдакцыяй часопіса «Полымя», аднясу яго туды.

Цяпер настаў час здзівіцца Аркадзю Анатольевічу:

— Я вас не разумею, Клаўдзя Маркаўна. Вы паклікалі мяне, каб азнаёміць са знойдзенымі творамі Серафіма Іванавіча, як вы казалі, у нейкай ступені крамольнымі, а цяпер пытаецеся... Я вушам сваім не веру.

— І правільна робіце, што не верыце,— адпарыравала Клаўдзя Маркаўна.— Я сапраўды паклікала вас, каб паказаць папачку з нейкімі творамі, магчыма, апавяданнямі, магчыма, нарысамі. Вось яна.

Клаўдзя Маркаўна падала Буяку тоненькую

папачку, у якой ляжалі чатыры надрукаваныя на машынцы апавяданні, добра вядомыя Аркадзю Анатольевічу, бо нядаўна друкаваліся ў розных выданнях і ўяўлялі сабой ці не ўрыўкі з рамана «Жніво пад чорным сонцам». Цяпер Аркадзь Анатольевіч канчаткова пераканаўся, што Клаўдзя Маркаўна чамусьці перамяніла свой намер паказаць яму знойдзеныя ёю рукапісы Серафіма Іванавіча, што ён, Аркадзь Анатольевіч, недзе дапусціў неасцярожнасць, але дзе, не мог здагадацца. Пытацца далей не было сэнсу — Клаўдзя Маркаўна цяпер будзе ўсё адмаўляць.

Па дарозе на станцыю ў галаву Аркадзю Анатольевічу прыйшла надзіва прыдатная думка: звярнуцца з роспытамі і па дапамогу да Цімошы, з якім яны, што праўда, так і не сышліся ў часе працы над архівам, але які, на думку Буяка, мог паспрыяць яму.

Выправіўшы абдуранага госця, Клаўдзя Маркаўна пазваніла зяцю Мартыну Мартынавічу і сыну Івану, каб яны абавязкова прыехалі на дачу па надзвычай важнай справе. Хацела пазваніць і Насці, але стрымалася: Насця не выклікала ў яе даверу, бо была прагная да грошай, а таму не дарадчыца ў той справе, па якой Клаўдзі Маркаўне трэба было параіцца.

Мартын Мартынавіч таксама быў прагны, але ён, здавалася Клаўдзі Маркаўне, не дужа разбіраўся ў фінансавых узаемадачыненнях. Ва ўсякім разе, ён, бадай, не ведаў, што рукапісы пры іх рэалізацыі могуць даць грошы.

Са Святланай раіцца не было карысці. Святлана, безумоўна, стане настойваць, каб усё, што належыць бацьку, было надрукавана. Ну, а Цімошу Клаўдзя Маркаўна не брала ў разлік — блажэнненькі!

Мартын Мартынавіч паявіўся адразу пасля працы, а Іван прыехаў гадзіны праз паўтары і, як заўсёды, пад чаркай. Клаўдзя Маркаўна расказала ім і пра знойдзеныя рукапісы і пра свае сумненні наконт іх.

Не паспела яна закончыць апавядаць, як Іван падхапіўся, прабегся па верандзе, дзе яны размаўлялі, спыніўся перад маці, сказаў як адрэзаў:

— Ды што ты яшчэ пытаешся? К чорту гэтую дзярмовую палітыку. Яна нікому не прыносіла дабра. Бацька хай застаецца такім, якім яго ведаюць і якім яму хацелася быць самому. Фу, чорт, расхваляваўся. Дай чаго выпіць.

— Пачакай,— абрэзала яго маці,— паспееш. Мне хочацца пачуць думку Мартына Мартынавіча.

— Я анічуць не хачу пакрыўдзіць Івана Серафімавіча,— пасля зацяжнога роздуму важка сказаў Мартын Мартынавіч,— але мяркую, што ўся прадукцыя, якую называюць мастацкай, не з'яўляецца прыярытэтнай у нашым навукова-тэхнічным грамадстве. Яна ўсяго пыл, які пускаюць у вочы, каб затуманіць яўную перавагу тэхнічных дасягненняў.

— Ну, папёр ахінею,— азваўся Іван.— Па-твойму, выходзіць нейкая дзярмовая гайка важней за песню. А хрэна!

Мартын Мартынавіч дакорліва паглядзеў на Івана, але прадаўжаў гаварыць тым жа тонам, якім і пачаў:

— Больш таго, я глыбока перакананы, што каб не было літаратуры, мастацтва, а толькі ўладарыла тэхніка, дык народы не ведалі б узрушэнняў, на якія іх штурхаюць бяздумныя вымыслы творцаў розных легенд і міфаў.

— Дык, па-твайму, і песні не патрэбны? — абурана запытаўся Іван.

На гэты раз Мартын Мартынавіч вырашыў уступіць у дыялог:

— Я дапускаю літаратуру, мастацтва, тэатр як асалоду і адпачынак душы, але рашуча выступаю супраць разбэшчвання здаровай народнай маралі. Тым больш я супраць палітыкі ў творчасці. Яна атрута, запакаваная ў прыгожую абгортку. Вось такое маё крэда. Што датычыць твораў Серафіма Іванавіча, дык мне, напрыклад, не хацелася б парушаць закон незалежнасці дзеяння сіл. Зрэшты, рашаць гэта вам і толькі вам, дарагая Клаўдзя Маркаўна. Выбітае з арбіты цела можа легчы на курс, які заводзіць цела ў нішто.

Клаўдзя зразумела зяця так, як хацела зразумець. Яна пачаставала абодвух і далікатна выправіла з дачы. Абышлося, на шчасце, без канфліктаў з боку Івана.

Аркадзь Анатольевіч толькі пасля абеду натрапіў на след Цімошы. Ужо праз гадзіну яны сустрэліся ва універсітэцкім скверыку каля вакзала. Аркадзю Анатольевічу, пакуль ён шукаў Цімошу, раптам надакучыла ўся гэтая загадкавая справа са знойдзенымі рукапісамі: нідзе яны не дзенуцца. Клаўдзя

Маркаўна, няйначай, пабаялася, каб ён, Аркадзь Буяк, не прысвоіў рукапісы, таму і павяла сябе гэтак дзіўна. Канечне, было б добра яшчэ да публікацыі рукапісаў прачытаць іх, скласці сваю канцэпцыю, што-кольвечы напісаць, каб не даць іншым «літаратураедам» прыкласці да вывучэння творчасці Недасейкі свае грашы. Недасейка, лічылася, належаў поўнасцю Буяку. Але такая манаполія не вечная. Знойдзецца нехта, хто пачне лезці ў забаронную вотчыну.

Цімоша, аднак, паставіўся да паведамлення Аркадзя Анатольевіча надзвычай сур'ёзна, нават нечага спалохаўся.

— Я зараз жа еду туды,— загарачыўся ён.— Толькі пазваню Святлане. Удваіх ямчэй.

— Чакайце, можа, і мне з вамі пад'ехаць? — спытаўся Буяк.

— Баюся, што... позна,— адказаў Цімоша.

Ён пазваніў Святлане. Тая, як на грэх, дзяжурыла. Цімоша купіў білет і электрычкай выехаў на бацькаву дачу.

Яшчэ здалёк ён убачыў дымок, што ўзнімаўся над дачным садам, якраз там, дзе спецыяльна для спальвання смецця стаяў у далёкім кутку вялізны кацёл. Святлана некалі назвала яго пякельным катлом, у якім вараць грэшнікаў. Нядобрыя прадчуванні ахапілі Цімошу. Ён ледзь не бегма заляцеў на дачны двор. Маці ў агародзе не было. Па пракладзенай сярод градак сцежцы Цімоша дабег да далёкага кутка, спыніўся перад катлом, у якім дагаралі растрыбушаныя папкі з паперай. Вакол катла ўсё было засыпана папяровым попелам.

Цімоша моўчкі стаяў над катлом, не адчуваючы, што з вачэй на засыпаную попелам зямлю падаюць слёзы.

Ён не ведаў, што аплаквае без віны забітага пісьменніка і ягоную не дайшоўшую да людзей творчасць.

АМІНЬ!

*Верасень 1986 — жнівень 1989*
*Мінск — Лысая гара*

